УДК 811.161.3
ББК 81.2(4 Беи)
Н354

Друкуецца па рашэнні рэдакцыйна-выдавецкага савета БДПУ





Н354 **Нацыянальная** мова і нацыянальная культура: аспекты ўзаемадзеяння : зб. навук. арт. / рэдкал.: В.Д. Старычонак Д.В. Дзятко (адк. рэд.), Н.А. Радзівано́ўская і інш. – Мінск : БДПУ, 2011. – 344 с.
ISBN 978-985-541-037-0.

У зборнік навуковых артыкулаў увайшлі матэрыялы ІІ Міжнароднай навуковай канферэнцыі «Нацыянальная мова і нацыянальная культура: аспекты ўзаемадзеяння», якая праходзіла на базе кафедры беларускага мовазнаўства Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка 17–18 лістапада 2011 г.

Адрасуецца навуковым работнікам, выкладчыкам, аспірантам, студэнтам і ўсім, хто цікавіцца праблемамі беларускай лінгвістыкі.

**УДК 811.161.3**
**ББК 81.2(4 Беи)**

**ISBN 978-985-541-037-0**

*Да 80-годдзя кафедры*
*беларускага моваэнаўства*
*Беларускага дзяржаўнага педагагічнага*
*ўніверсітэта імя Максіма Танка*

***Г.Ф. Андарала*** (Мінск, Беларусь)

## ЛЕКСІЧНЫЯ СРОДКІ СТЫЛІЗАЦЫІ Ў ГІСТАРЫЧНЫХ ТВОРАХ ВОЛЬГІ ІПАТАВАЙ

Інтэрпрэтацыя мастацкага тэксту патрабуе ўвагі да ўсіх яго элементаў. Менавіта ў тэксце мастацкага твора рэалізуецца эстэтычная функцыя слова, а лексічныя адзінкі – гэта той матэрыял, з якога ствараецца палатно славеснай творчасці. Аднак для вырашэння розных творчых задач некаторым словам у пэўным мастацкім тэксце адводзіцца асобая роля. Гэта датычыцца твораў на гістарычную тэму, якія маюць свае выразныя адметнасці і будуюцца па асаблівых законах вобразнай і стылявой сістэм. Працуючы над такім творам, аўтар вырашае праблему архаізацыі мовы, пэўнага адыходу ад сучасных стылёвых законаў. Мадэрнізацыя твора пазбаўляе пісьменніка магчымасці ў поўнай меры перадаць каларыт эпохі. Празмерная архаізацыя мовы ператварае мастацкі твор у дакументальны, пазбаўляючы яго мастацкага вымыслу. Акрамя таго, перанасычанасць твора ўстарэлымі лексічнымі адзінкамі будзе перашкаджаць разуменню мастацкага тэксту, спасціжэнню аўтарскай задумы. Майстэрства пісьменніка заключаецца ў тым, каб захаваць пачуццё суразмернасці – стварыць моўную архаіку і наблізіць да сучаснага чытача архаічную мову мінулых часоў. І гэта дасягаецца В. Іпатавай дзякуючы ўмеламу адбору і выкарыстанню ўстарэлых слоў. Прыдатным матэрыялам для гэтага служаць архаізмы – устарэлыя назвы існуючых цяпер прадметаў, паняццяў. Хоць такія найменні і выйшлі з актыўнага ўжывання, аднак многія з іх вядомыя сучаснаму чытачу і не патрабуюць спецыяльнага тлумачэння. Малазразумелыя і незразумелыя ўстарэлыя лексічныя адзінкі аўтар тлумачыць метадам тэкстуальнага раскрыцця значэння іх ці метадам падрадковага каментарыя, што робіць архаізмы даступнымі для ўспрыняцця.

У гістарычных творах пісьменніцы выкарыстаны лексічныя і семантычныя архаізмы. Сярод лексічных пераважную большасць складаюць уласналексічныя архаізмы – словы, якія поўнасцю ўстарэлі і выцеснены сучаснымі моўнымі адзінкамі з іншым коранем. Спынімся на некаторых з іх. Старадаўнія назвы месяцаў: *серпень* ‘жнівень’: *У канцы серпеня, калі пахла наваколле спелым жытам і калола босыя*

*ногі прахалодная пожня, да берага прыстала вялікая лодка* [5, с. 340]; *просінец* ‘студзень’: *Відаць, і яму [Змітраку] перадалася светлая настраёвасць марознага дня, поўнага свежасці некранутага, – нягледзячы на тое, што ішоў канец просінца, – снегу, маладое бушаванне крыві, даўно задуманая надзея атрымаць жаданую нявесту* [3, с. 244]; *бярозазол* ‘сакавік’: *Караван той павінен адплысці ў месяцы бярозазоле, калі пачнецца на Дняпры ледаход і ў Віцячэве збяруцца з усіх гарадоў, што гандлююць з Візантыяй*…[3, с. 117]; *руен* ‘верасень’: «*Добры руен стаіць сёлета! – думаў Усяслаў, мерна гайдаючыся ў сядле. – Добры ўраджай – значыць купцоў многа наедзе ў Полацак*» [5, с. 233].

Астранамічныя і геаграфічныя найменні: *Утарыд* ‘Меркурый’: *А зоркі сапраўды ўжо ззялі ўверсе, адну з іх ён [Алекса] пазнаў адразу. Гэта была зорка Утарыд, пад якою нараджаліся гандляры і злодзеі* [4, с. 157]; *Кол-зорка* ‘Палярная зорка’: *Прама над галавой Усяслава няярка гарэла Кол-зорка – да яе прымацаваны зоркі, што перамяшчаюцца па небе, толькі яна адна не сыходзіць са свайго месца* [5, с. 233]; *Чагір* ‘Венера’: *Зоры высыпалі на небе, яны былі ясныя, вялікія, а над чырвонай палоскай зары дрыжала, пераліваласся самая большая – зеленаватая Чагір* [4, с. 43]; *Царград* ‘Візантыя’: …*золатам свецяцца зусім новенькія, прывезеныя з Царграда кадзільніцы* …[4, с. 43]; *мора Хвалынскае* ‘Каспійскае мора’; *Чач* ‘Ташкент’: *Караван ішоў на Ургенч, міма Хівы, пакідаў убаку Чач, кіраваўся да вусця Хвалынскага мора, да былой старадаўняй сталіцы хазараў Атэль* [4, с. 224].

Назвы народаў: *ляхі* ‘палякі’: *Цяпер, куды ні кінь, ляхаў панаехала, дык заціснулі так, што і Богу не паскардзішся – цэрквы на касцёлы скрозь мяняюць, а што ў тым касцёле кажуць – хіба разбярэш?* [4, с. 326]; *влохі*_‘італьянцы’: *Гэта быў влох, і ён, пачуўшы гаворку па-латыні, узрадаваўся, як дзіця. Блытаючы русінскую і влошскую мовы, расказаў, што другі год жыве ў весялосці і адкрытасці, як у роднай Італіі* [3, с. 280]; *рамеі* ‘візантыйцы’: *– Можа, пойдзеш адзін? – усё яшчэ падазрона прагаварыў Бібо [да Мікалая]. – Ты рамей. Ці можна вам давяраць?* [4, с. 57]; *германцы* ‘немцы’: *Былі ў мястэчку і тыя, хто памятаў небывалы, жорсткі разгром германцаў пад Навагародкам*…[4, с. 342]; *русіны* ‘беларусы’ (назва ўсходнеславянскага насельніцтва): *Нават палякаў называе яна [каралева Бона] дзікім …народам. Што ўжо казаць пра русінаў* …[3, с. 256].

Назвы прадметаў быту: *святліца* ‘светлы, чысты пакой у хаце, прызначаны звычайна для прыёму гасцей’: *Цэлымі начамі, калі не бываў у святліцы княжыч, хадзіла яна [Святаслава] па святліцы, падлога якой была засцелена звярынымі шкурамі* [5, с. 220]; *трапезная* ‘памяшканне, дзе адбывалася трапеза – прыём яды’: *Вечарам у трапезнай, даядаючы кавалачак смажанага шчупака, княгіня сказала як бы мімаходзь: «Што ж, вернецца – біць яе, баярскую дачку?*» [4, с. 10]; *ложніца* ‘спальня’: *Яна [Бяроза] нешта ўціснула Алексу ў руку: «Падкупі варту… Ідзі прэч з*

*горада… А я …Я зараз вярнуся ў ложніцу. Ён спіць...»* [4, с. 98]; *ложа* ‘ложак, пасцель’: *Яна [зорка] вісела якраз над узгалоўем і нетутэйшаю выглядала маладая постаць Апак, што села на ложа* [4, с. 165].

Некаторыя ўласналексічныя архаізмы, уведзеныя ў кантэкст В. Іпатавай, у сучаснай беларускай літаратурнай мове выкарыстоўваюцца з мэтай надаць выказванню ўрачыстае, высокае гучанне і ў слоўніках адзначаюцца стылістычнымі паметамі ‘ўст., паэт’. У творах пісьменніцы назіраецца нярэдкі адыход ад магчымага выкарыстання іх у сучаснай мове як стылістычных сродкаў. Паказальным у гэтых адносінах з’яўляецца выкарыстанне архаізма *сеча.* Лексема *сеча* ў сучаснай беларускай літаратурнай мове з’яўляецца стылістычным сінонімам да слоў *бой, бітва* і фіксуецца слоўнікамі з паметай ‘уст. і высок.’ [7, V, с. 123]. Названая лексічная адзінка была вядома яшчэ ў мове ўсходнеславянскай пісьменнасці для выражэння паняцця ‘бой, бітва’. Асновай для ўтварэння паслужыў, відаць, дзеяслоў сѣчися, які абазначаў сутыкненне двух варожых лагераў або войскаў, узброеных халодным відам зброі [1, с. 51]. Шырокае ўжыванне агняястрэльнай зброі ў ваенным працэсе прывяло да змен у характары бою і да паступовай архаізацыі слова *сеча.* Характар ужывання слова *сеча* ў мове твораў В. Іпатавай не выходзіць за межы магчымага ў мове той эпохі, пра якую ідзе гаворка ў творы, не супадае з тым, што мы наглядаем у сучаснай мове. У моўнай тканіне пісьменніцы слова *сеча* выступае абсалютным сінонімам да слоў *бітва* і сустракаецца ў аўтарскай мове і мове персанажаў: *Цяпер Алекса, папраўляючы на плячах цёплае касмыллё аўчыны, думаў пра той меч, пра сечу, калі чырвоная кроў шалёна шугае ў галаву і вочы, і нешта клякоча ў грудзях – кіпучае і неўтаймоўнае* …[4, с. 23]. Параўн.: *У апошніх бітвах ужо прыкмецілі яго [Алексу] старыя воі і адабральна глядзелі, калі ішоў па двары, – малады, лёгкі, вясёлы* [4, с. 23].

Імкнучыся да гістарычнай дакладнасці апавядання, пісьменніца ўводзіць у мову твораў і словы, якія захавалі ўстарэлае гукавае афармленне. Гэта лексіка – фанетычныя архаізмы, якія супадаюць па значэнні з адпаведнымі словамі сучаснай беларускай літаратурнай мовы, адрозніваюцца ад іх адной-дзвюма фанемамі. Такія архаізмы з’яўляюцца ідэальным матэрыялам для стылізацыі. З аднаго боку, аднолькавая семантыка лексіка-фанетычных архаізмаў са словамі сучаснай мовы робіць іх зразумелымі, з другога – адрозны гукавы састаў надае ім асаблівую выразнасць на фоне сучасных лексем і стварае магчымасці для гістарычнай стылізацыі: *хвартух* ‘фартух’: *Пахадзілі [пра шляхту], паглядзелі на рабочых у хвартухах, на станкі і набор літар, паслухалі пастара, які доўга і нудна гаварыў пра Рэфармацыю і асвяшчаў першыя друкаваныя лісты, пасля заспяшаліся на вячэру* [3, с. 316]; *Полацак* ‘Полацк’: *Па Полацаку папаўзлі чуткі, што Усяслаў – князь мацнейшы за епіскапа: іменна ён выгнаў быццам бы чорта з унучкі славутага Ірвідуба* [4, с. 18]; *Менеск* ‘Мінск’, *Віцьбеск* ‘Віцебск’: *…паўсюдна ў*

*славянскіх гарадах – Кіеве, Ноўгарадзе, Полацаку, Менеску, Віцьбеску – аберагаюць гасцей заморскіх суровыя законы і дагаворы* [4, с. 42] і інш.

Сродкам гістарычнай стылізацыі ў творах выступаюць і семантычныя архаізмы – словы, што захаваліся да нашага часу, але ўжываюцца ў іншым значэнні. Такім архаізмам у сучаснай мове адпавядаюць актыўныя сінонімы з іншым коранем. Семантычныя архаізмы як словы ў мастацкім тэксце не засяроджваюць увагу чытача сваёй структурай, а несучаснасць іх адчуваецца ў значэнні і выдзяляецца толькі ў кантэксце, неабходным для вызначэння семантыкі слова. І гэтым яны ствараюць выразны, адчувальны архаічны каларыт. Так, напрыклад, сучаснай лексеме *год* у моўнай тканіне твораў адпавядае архаізм *рок*: *Канчалася зіма 1555 року* [3, с. 271]. Слова *рок* уваходзіць у актыўны слоўнік сучаснай беларускай мовы са значэннем 'лёс'. Для абазначэння *года* В. Іпатава выкарыстоўвае таксама слова *зіма*, якое ў старажытнай мове было мнагазначным: 1) 'пара года'; 2) 'год'; 3) 'холад' [2, XII, с. 235]. Пісьменніца ўводзіць гэту лексему ў мову твораў як ва ўстарэлым значэнні 'год', так і ў сучасным 'пара года': *Раз за разам нешта змянялася, і ўсяго чатыры зімы назад сястра колішніх гаспадароў [Барбара Радзівіл] была каралеваю Польшчы* [3, с. 278]; *…калі ішло на зіму, вяртаўся [падарожны] у келлю і пісаў кнігу – летапісам звалі яе* [5, с. 212]. Не адмаўляецца В. Іпатава і ад сучаснага слова *год*: *Страшныя, мёртвыя гады! Нішто не ўспамінаецца з таго часу, апроч нянавісці і страху перад днём, што наступіць заўтра* [5, с. 208].

Снежань у творах названы *зімнікам: У канцы лістапада грымнулі маразы, а ў зімніку ўжо ляжаў глыбокі снег, і Друць, скаваная холадам, ляжала між белых берагоў нерухомаю, толькі дзе-нідзе ў палонках курылася пара* [5, с. 337]. У сучаснай мове слова *зімнік* ужываецца ў гутарковым стылі са значэннем 'дарога, па якой ездзяць толькі зімой' [7, II с. 474].

З устарэлым значэннем ужываюцца таксама актыўныя словы сучаснай мовы *хітрэц* 'архітэктар': *Хітрэц гаворыць, што трэба было б пабудаваць яшчэ адну вежу – там, на ўсходнім пагорку, дзе б'юць крыніцы, каб падчас аблогі не змог вораг пакінуць замак без вады* [3, с. 229]; *жывот* 'жыццё': *Жывот свой і скарб аддаўшы Богу, не магу я сястры сэрцам да яго прывесці… Не зачыняцца ў келлі сваёй я цябе заклікаю, а несці слова да людзей* [6, с. 68] і інш.

Такім чынам, архаізмы ў гістарычных творах В. Іпатавай знайшлі правамернае выкарыстанне, паколькі з'яўляюцца адным са сродкаў стварэння гістарычнага моўнага фону, які дапамагае пісьменніцы рэалістычна ўзнавіць карціны мінулага.

***Літаратура***

1. Баханькоў, А.Я. Гістарычная лексікалогія беларускай мовы / А.Я. Баханькоў і інш. – Мінск: Навука і тэхніка, 1970. – 340 с.

2. Гістарычны слоўнік беларускай мовы: у 18 вып. – Мінск: Навука і тэхніка, 1993. – Вып. 12. – 364 с.

3. Іпатава, В. Альгердава дзіда: раманы / В. Іпатава. – Мінск: «Беллітфонд», 2002. – 608 с.
4. Іпатава, В. За морам Хвалынскім: аповесці і апавяданні / В. Іпатава. – Мінск: Юнацтва, 1996. – 368 с.
5. Іпатава, В. Перакат: апавяданні / В. Іпатава. – Мінск: Мастацкая літаратура, 1984. – 248 с.
6. Іпатава, В. Прадслава: аповесць / В. Іпатава. – Мінск: Сталія, 2002. – 80 с.
7. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы: у 5 т. – Мінск: БелСЭ, 1977–1984 – Т. 1–5.

***Ж.Р. Амирова*** (Алматы, Казахстан)

## МЕЖЪЯЗЫКОВАЯ КОММУНИКАЦИЯ И ЯЗЫКОВЫЕ КОНТАКТЫ В УСЛОВИЯХ ОБУЧЕНИЯ НЕРОДНОМУ ЯЗЫКУ

Межъязыковая коммуникация и языковые контакты устанавливаются в различных ситуациях, одна из таких ситуаций, наиболее типичная – в условиях обучения иностранному языку. В процессе обучения между преподавателем и студентом происходит первичная межъязыковая коммуникация, при этом моделируемые учебные ситуации способствуют раскрытию языковых особенностей контактирующих языков и обнаружению их общих признаков как на уровне грамматики, так и на семантическом уровне.

И.А. Мельчук в «Общей морфологии» подчеркивает важность рассмотрения более глубокой типологии языковых значений, основанной на трех противопоставлениях: лексическое / грамматическое, семантическое / синтаксическое, морфологическое / неморфологическое [1, с. 307]. Анализ субстантивированных слов, точнее субстантиватов, в русском языке подтверждает справедливость данного положения И.А. Мельчука. Образованные путем транспозиции из класса прилагательных в класс существительных, субстантиваты по своему лексическому значению противопоставлены своему формально-грамматическому («прилагательному») значению, например: ***Доверительный*** *пел про туманы…* (Ю. Арабов. «Биг-бит»). Новая семантика – наименование предмета по признаку – субстантиватов формирует изменение их синтаксического значения: они становятся обозначениями подлежащего и дополнения в предложении, в синтаксическом контексте, например: *Фет понимал, что* ***доверительный*** *проигрывает по таланту* ***хрипатому*** *и* ***гнусавому*** (Ю. Арабов. «Биг-бит»). Как видно, морфологическое в подобных словах противопоставлено неморфологическому. Следовательно, преподавателю русского языка как неродного необходимо опираться как на знание грамматики русского языка, так и на аналогичные явления в грамматике родного языка обучающихся. Так, при обучении студентов-казахов вполне обоснованно обращение аналогичному грамматическому явлению в их родном языке: *жаман дос «плохой друг» – жаманмен дос болма «не дружи с плохим».*

В преподавании русского языка как иностранного важно учитывать не только указанные типы значений слова, но и культурный компонент значения слова. В результате постижения коммуникантами-инофонами культурного компонента значения,

содержащегося в словесной информации, возникает межкультурная коммуникация. Понятие «межкультурная коммуникация» определяется Е.М. Верещагиным и В.Г. Костомаровым следующим образом: «межкультурная коммуникация – это адекватное взаимопонимание участников коммуникативного акта, принадлежащих к разным национальным культурам» [2].

Прецедентные имена, как и прецедентные тексты, характеризуются широкой употребительностью, воспроизводимостью, семантической значимостью [3]. Прецедентные имена восходят к прецедентным источникам: важным событиям в истории общества, значительным литературным произведениям, фольклору и т. п. Социокультурная ситуация в определенный период развития общества имеет свои определенные черты, которые откладываются в общественной памяти, в когниции социума. В когнитивном пространстве социума сохраняются прецедентные имена различного характера, происхождения. К социопрецедентным именам мы отнесли такие, в которых отражаются приметы социокультурной ситуации.

Социокультурная ситуация до 90-х гг. XX столетия формировалась под влиянием самого значительного государственно-политического устройства – социалистического лагеря. В 60 – 70-х гг. прошлого столетия в главном представителе социалистического лагеря – СССР – наблюдались большие социально-политические изменения. Эти изменения получили название «оттепели» шестидесятых, последовавшие за ними в 70-е годы принесли «похолодание» политической обстановки в СССР, что повлекло за собой изменение и в социокультурной ситуации, отразившейся в русском языке того времени, когда приходилось прибегать к «эзопову языку».

Художественный дискурс, ставя во главу угла эстетическую цель, в то же время не может не отражать объективную действительность, социокультурную ситуацию. Герои художественных произведений «живут» в том или ином временном измерении, принадлежат определенному обществу. Социальные табу на имена «запрещенных» общественных деятелей ставят писателя перед необходимостью скрывать социопрецедентное имя и создавать скрытое имя. Причем такое скрытое, «табуированное» имя должно легко разгадываться и однозначно указывать на истинного носителя. В этом заключается мастерство писателя, использующего различные языковые приемы и способы.

Указанным экстралингвистическим требованиям как нельзя лучше соответствует субстантивация. Она выступает в этом случае как художественный прием, функционально обусловленный жанром речи. Правильно подобранный признак, наиболее точно характеризующий своего носителя, героя произведения, свидетельствует о многих качествах писателя, в том числе – когнитивных.

Иллюстрацией к сказанному могут служить следующие примеры из произведения современного писателя Ю. Арабова «Биг-бит»:

*Он принес домой пленки, с которых под гитару звучало несколько приватно-запрещенных голосов. Один из них, хрипатый, пел какую-то уголовщину… И Фет*

*принял **Хрипатого** как своего. И когда **хрипатый** задохнулся, как рыба, в душный московский вечер, то Фет разделил со всем советским народом горечь утраты.*

*Другой голос на пленке отчима был столь лирически-гнусав, что жить не хотелось…Странность судьбы **гнусавого** заключалась в том, что интеллигенция, к которой он обращался со своими петухами, сначала прибила его к кресту…*

*Впоследствии Фет поражался лишь тому факту, что люди, которые восхищались **гнусавым**, почему-то не зарывали виноградную косточку, не сажали деревьев…*

*Третий голос с пленок отчима был настолько доверительным, что, услышав его, все начинали паковать рюкзаки… **Доверительный** пел про туманы…* (Ю. Арабов Ю. Биг-бит, с. 23–24).

Контекст, созданный писателем, упоминание ключевых слов из творчества «зашифрованных» под субстантивированными словами лиц, однозначно указывает на певцов-бардов: Хрипатый – Владимир Высоцкий, Гнусавый – Булат Окуджава, Доверительный – Юрий Визбор. Но эта культурная информация известна только носителям данного социума. Для инофонов понятным является только один компонент семантики субстантивированных слов – грамматическое значение.

Преподаватель объясняет студентам-инофонам, что собственно эти люди и формировали социокультурную ситуацию в обществе, но из-за политических обстоятельств нельзя было упоминать их имена, поэтому при их обозначении в речи прибегали к приему табуирования. Средством табуирования, скрытия реального имени и выступает субстантивация. Следовательно, в речи возникает целая система компонентов значений слова-субстантивата, которая включает лексическое, грамматическое, культурное значения. В результате межкультурной коммуникации на занятиях по русскому языку студенты-инофоны как носители другой культуры постигают сложную систему значений субстантиватов, выступающих в роли социопрецедентных имен, обогащая тем самым свое знание русского языка и культуры.

***Литература***

1. Мельчук, И.А. Курс общей морфологии / И.А. Мельчук. – Москва – Вена: Языки русской культуры, 1997. – Т. 1. – 401 с.

2. Верещагин, Е.М. Язык и культура. Лингвострановедение в преподавании русского языка как иностранного / Е.М. Верещагин, В.Г. Костомаров. – М.: Русский язык, 1990. – 246 с.

3. Гудков, Д.Б. Прецедентные имена и парадигма социального поведения / Д.Б. Гудков // Лингвостилистические и лингводидактические проблемы коммуникации. – М.: МАЛП, 1996. – С. 58–69.

***В.П. Андрыевіч*** (Мінск, Беларусь)

## СТРУКТУРА, УТВАРЭННЕ І ПАШЫРЭННЕ БЕЛАРУСКІХ АЙКОНІМАЎ, СУАДНОСНЫХ З МУЖЧЫНСКІМІ ІМЁНАМІ

Айконімы, утвораныя ад мужчынскіх уласных імёнаў, значна пераважаюць сярод найменняў, суадносных з уласнымі імёнамі. На тэрыторыі Беларусі зафіксавана 1466 такіх адантрапанімічных утварэнняў, якія з’яўляюцца назвамі 2622 населеных пунктаў.

Сярод іх найбольшай папулярнасцю вылучаюцца найменні, суадносныя з імёнамі *Іван, Міхаіл*, *Пётр і Васіль*.

Даволі шматколькаснай з'яўляецца група айконімаў, суадносных з імем **Іван**. Імя кананічнае праваслаўнае – Иоанн (ст.-яўр. yōhānān) і каталіцкае польскае – Jan. Намі занатавана 90 айконімаў (195 населеных пунктаў). Сярод іх 20 айконімаў (51 населены пункт) маюць у аснове афіцыйную беларускую форму імя **Іван:** *Іванава (*Глыб., Ів., Нясв., Шарк.*), Іваноўшчына* (Дубр., Мал.), *Іванаўка* (Арш., Бабр., Б.-Каш., Бялын., Гарад, Гом., Докш., Карм., Кліч., Крыч., Мядз., Рэч., Сен., Сл., Старадарож., Хойн., Чач.-2), *Іванск* (Чашн.), *Іванаўск* (Бялын., Клім.), *Іванаўскі* (Сл.), *Іванаўская* (Віц.), *Іванавічы* (Бар., Маг.), *Іванішкі* (Валож.), *Іванаўцы* (Гродз.), *Іванскія* (Шарк.), *Іванполле* (Добр.), *Іван-Бор* (Леп.), *Новаіванаўка* (Ветк., Касц.), *Іванаў Бор* (Уздз.), *Іванава Слабада* (Клім., Лельч.) і інш. Размоўна-бытавая форма **Ян** стала ўтваральнай асновай 19 айконімаў (74 населеныя пункты): *Янава* (Астр., Бых., Гарад., Глыб.-2, Дзярж., Кругл., Мсц., Тал., Хоц.), *Янова* (Астр.-2, Ашм.-2, Бар., Барыс., Брасл., Ваўк., Ветк., Воран., Гарад., Докш.-2, Леп., Мёр.-2, Паст., Расон., Сен., Уш., Чашн., Шарк.), *Яноў* (Кругл., Крыч.), *Янаўшчына* (Беш., Валож., Дзятл., Зэльв., Круп., Мал.-2, Пруж., Свісл.), *Яноўшчына* (Сен.), *Янаўка* (Б.-Каш., Карм., Мсц., Раг., Хоц.), *Яноўка* (Асіп., Клім., Краснап., Пух., Рэч.), *Янавіль* (Беш.), *Яневічы* (Мядз., Смарг.), *Янішкі* (Шарк.), *Янаўляны* (Лід.), *Янаўцы* (Пруж.), *Янапаль* (Віц., Воран.), *Янаполь* (Свісл., Сл.) і інш. Ад эмацыянальна-ацэначных формаў **Іванька, Іванка, Івань, Іванішча, Івашка, Іванік, Іваш, Ванька, Янка, Януш, Янча, Янук, Янчык, Яначка, Януйла, Янчук, Януля, Януць, Янушка, Ясь** утвораны адпаведна наступныя найменні: *Іванькава* (Лёзн.), *Іванькова* (Арш., Віц.), *Іванькаў* (Гом., Лоеў.), *Іванкаўшчына* (Ашм., Барыс., Маз.), *Івань* (Сл.), *Іванішча* (Рэч.), *Івашкава* (Арш., Сен.), *Івашкаў* (Б.-Каш.), *Івашкаўцы* (Бераст., Смарг.), *Іванікі* (Пін.), Івашова (Глыб.), *Ванькоўшчына* (Пух., Сл.), *Янкава* (Мёр., Пол., Пух.*), Янкоўшчына (*Мёр.*), Янкі (*Докш.*), Янкішкі (Паст.), Янкоўцы* (Дзярж.), *Янушова* (Докш., Мядз.), *Янушы* (Кам.), *Янчына* (Мёр.), *Янчонкі* (Брасл., Шум.), *Януковічы* (Мядз.), *Янукі* (Докш.), *Янчыкава* (Пол.), *Янчыцы* (Нясв.), *Яначкаў* (Б.-Каш.), *Януйлава* (Гарад.), *Янчукі* (Паст.), *Янулі* (Брасл.), *Януцішкі* (Брасл.), *Янушка* (Смарг.), *Яськава* (Шарк.), *Яськавічы* (Іўеў., Паст.) і інш. Айканімічныя назвы, утвораныя ад імя Іван, бытуюць на ўсёй тэрыторыі Беларусі. Найбольшая іх шчыльнасць зафіксавана ў паўночных раёнах. Некалькі меншая канцэнтрацыя назіраецца ва ўсходніх раёнах краіны. Далей на поўдзень ад лініі Пружаны – Зэльва – Баранавічы – Клецк – Слуцк – Старыя Дарогі – Бабруйск – Рагачоў – Буда-Кашалёва – Рэчыца назвы, утвораныя ад імя Іван, адсутнічаюць ці сустракаюцца спарадычна.

Шырока распаўсюджанымі на Беларусі з'яўляюцца найменні, суадносныя з імем Міхаіл. Імя кананічнае праваслаўнае – Михаил (ст.-яўр. mĭ-kā-'ēl; арабск. mīkāīl(u); грэч. Michaēl). Намі занатавана 70 айконімаў (131 населены пункт). Ад размоўна-бытавых формаў **Міхал, Міхайла** ўтворана 35 айконімаў (85 населеных пунктаў): *Міхалоў* (Браг., Хойн.), *Міхалова* (Барыс., Валож., Дзярж., Лаг., Мал., Мядз., Пух., Чашн.-2, Шум.-2), *Міхалёўка* (Браг., Б.-Каш., Карм., Лоеў.), *Міхалеўшчына* (Дзярж.), *Міхаліно* (Бераст.),

*Міхалішкі* (Астр.-3, Брасл.), *Міхалёўцы* (Кап.), *Міхалі* (Віц., Гарад.-2, Глыб., Мёр., Мядз., Шум.), *Міхалевічы* (Пух.), *Міхалполле* (Сен.), *Міхалёва* I (Бабр.), *Міхалёва* II (Бабр.), *Міхалёва* III (Бабр.), *Міхайлава* (Мсц., Пух.), *Міхайлоў* (Бялын., Кругл., Слаўг.), *Міхайлоўка* (Хоц.), *Міхайлаўшчына* (Бабр., Тал.), *Міхайлаўскае* (Калін.), *Міхайлы* (Свісл.), *Міхайлавічы* (Гор.), *Рэкта-Міхайлаўка* (Слаг.), *Новая Міхайлаўка* (Ветк.) і інш. Эмацыянальна-ацэначныя формы **Міхалка, Міхалька, Міхалушка, Міхан, Міхей, Міхейка, Міхась, Міша, Мішка, Мішук, Мішулька, Мішута, Мішутка** ў аснове 35 айконімаў (46 населеных пунктаў): *Міхалкова* (Віц.), *Міхалкавічы* (Лаг.), *Вялікія Міхалкі* (Свісл.), *Малыя Міхалкі* (Свісл.), *Міхалькі* (Гом.), *Міхалушкі* (Мёр.), *Міхнаўшчына* (Бар., Чашн.), *Міханавічы* (Мін.-2), *Міхееў* (Б.-Каш.), *Міхеевічы* (Бярэз., Крыч.), *Міхейкава* (Кругл.), *Міхейкі* (Сл.), *Міхасёўка* (Бялын.), *Міхасінкі* (Мёр.), *Мішавічы* (Старадарож.), *Мішкаўка* (Маг.), *Мішкі* (Шум.), *Мішуковічы* (Іўеў.), *Мішулькі* (Леп.), *Мішуціна* (Гарад.), *Мішуты* (Віл., Шарк.), *Мішуткі* (Віц.) і інш. Айканімічныя назвы, утвораныя ад імя Міхаіл, бытуюць на ўсёй тэрыторыі Беларусі. Найбольшае іх пашырэнне назіраецца ў паўночнай частцы краіны. У паўднёвай і заходняй частках краіны адзначаныя найменні адсутнічаюць ці сустракаюцца спарадычна.

Аналіз фактычнага матэрыялу паказаў, што 58 айконімаў, якія з'яўляюцца назвамі 106 населеных пунктаў, суадносяцца з імем **Пётр**. Імя кананічнае праваслаўнае – Пётр (грэч. Petros; лац. Petrus). Намі адзначаны 21 айконім (59 населеных пунктаў), якія маюць у аснове афіцыйную беларускую форму імя **Пётр**: *Пятрова* (Валож., Гарад., Мядз., Стаўбц.), *Пятроў* (Гом.), *Пятроўск* (Уздз.-2), *Пятроўка* (Воран., Докш., Клім., Уш., Чэрв.), *Пятрэвічы* (Бар., Зэльв., Навагр.), *Пятрышкі* (Брасл., Мін.), *Петраполь* (Астр.), *Пятрова Паляна* (Жлоб.) і інш. Эмацыянальна-ацэначныя формы **Пецька, Пяцюк, Пяцюня, Пятраш, Пятрашка, Петрашуля, Петрык, Пятрок, Пятрук, Пятруль, Петрачок, Пятруць, Пятрыга, Пятрыла, Пятрэль, Пятрун, Пятрук, Пятроль** сталі ўтваральнымі асновамі наступных найменняў: *Пецькі* (Дубр., Кобр.), *Пецюкі* (Дзятл.), *Пецюны* (Лід.), *Петрашова* (Віл.), *Петрашэвічы* (Дзярж.), *Петрашкі* (Шч.), *Петрашулевічы* (Дзятл.), *Петракова* (Расон.), *Пятрыкі* (Дубр.), *Петрукова* (Мёр.), *Пятруліна* (Бераст.), *Петрычкі* (Смал.), *Пятруці* (Паст.), *Пятрыгі* (Мсц.), *Пятрылава* (Віл., Кап.), *Пятрэлева* (Мёр.), *Петрунова* (Глыб., Шарк.), *Петрусоўшчына* (Валож.-2), *Пятроліна* (Лаг.) і інш. Як сведчыць фактычны матэрыял, арэал пашырэння назваў населеных пунктаў, утвораных ад імя Пётр, ахоплівае амаль усю тэрыторыю Беларусі, за выключэннем асобных раёнаў на поўдні рэспублікі. Найбольшая шчыльнасць назваў прыпадае на паўночна-заходнюю, заходнюю часткі Беларусі, перш за ўсё на захад ад лініі Расоны – Шуміліна – Ушачы – Докшыцы – Лагойск – Смалявічы – Чэрвень – Узда – Дзятлава – Бераставіца. Некалькі меншая канцэнтрацыя назваў адзначаецца ва ўсходніх і паўднёва-ўсходніх раёнах краіны.

Досыць шматлікая на Беларусі група айконімаў, суадносных з імем **Васіль**. Імя кананічнае праваслаўнае – Василий (грэч. Basilios; лац. Basilius). Намі занатавана 44 айконімы, якія з'яўляюцца назвамі 86 населеных пунктаў. Ад афіцыйнай формы імя

**Васіль** утвораны айконімы *Васільеўка* (Бялын., Бярэз., Кругл.), *Васілеўшчына* (Бялын., Бярэз., Верхнядзв., Докш., Дзярж.-2, Кап., Мін., Мядз., Паст., Стаўбц.-2), *Васілеўцы* (Пол.), *Нававасільеўскі* (Хоц.), *Васільполле* (Б.-Каш.), *Старыя Васілішкі* (Шч.). Размоўна-бытавая форма **Вася** ў аснове найменняў *Васеўцы* (Ашм.), *Васявічы* (Дзятл.), *Васевічы* (Паст.). Эмацыянальна-ацэначныя формы **Васька, Васілька, Васюк, Васюлька, Васюта, Базыль, Васільчык** сталі ўтваральнай асновай айконімаў адпаведна: *Васькаўка* (Маз.), *Васькова* (Глыб.), *Васількава* (Мсц.), *Васюкоўшчына* (Мал.), *Васюлькі* (Мядз.), *Васюты* (Віц.), *Базылі* (Воран.), *Васільчыцы* (Кап.). Арэал пашырэння назваў населеных пунктаў, утвораных ад імя Васіль, ахоплівае ўсю тэрыторыю Беларусі, за выключэннем поўдня рэспублікі. Найбольшая шчыльнасць назваў прыпадае на паўночна-заходнія і паўночна-ўсходнія раёны краіны. На астатняй тэрыторыі адзначаныя назвы адсутнічаюць ці сустракаюцца спарадычна.

Такім чынам, аналіз фактычнага матэрыялу паказаў, што для ўтварэння назваў населеных пунктаў даволі шырока выкарыстоўваюцца мужчынскія імёны, якія прыйшлі з грэчаскай мовы праз царкоўнаславянскую, з лацінскай мовы праз польскую, старажытнаславянскія і старажытнаяўрэйскія імёны. Характэрнай адзнакай гэтай групы айконімаў з'яўляецца амаль аднолькавы працэнт выкарыстання ўласных імёнаў у афіцыйнай форме (тыпу *Іван* > *Іванава, Іванаўшчына, Васіль* > *Васілевічы, Васілеўшчына, Пётр* > *Пятрова, Пятроўск*) і ў размоўна-бытавой ці эмацыянальна-ацэначнай форме (*Івашка (Іван)* > *Івашкавічы, Васюк (Васіль)* > *Васюкоўшчына, Пецька (Пётр)* > *Пецькі, Мішулькі (Міхал)* > *Мішулькі*).

***В.В. Арлова*** (Мінск, Беларусь)

## АСНОЎНЫЯ ЖАНРЫ БЕЛАРУСКАМОЎНЫХ МАТЭРЫЯЛАЎ ДЗІЦЯЧАГА ЧАСОПІСА «РЮКЗАЧОК»

*Особое значение чтение имеет в жизни ребенка, когда растущий человек открывает мир и самого себя.*

*И. И. Тихомирова* [1]

«Рюкзачок» – пазнавальна-гульнявы часопіс для дзяцей 7–12 гадоў, які з 2005 года выпускае выдавецтва «Пачатковая школа». Нягледзячы на рускамоўную назву «Рюкзачок», часопіс змяшчае ад 20 да 30 % матэрыялаў на беларускай мове. Унікальнасць выдання ў тым, што адрасаваны ён не толькі дзецям, але і дарослым: у кожным нумары змяшчаецца адзін альбо некалькі артыкулаў, якія прызначаны для бацькоў. Асобныя тэксты на беларускай мове змяшчаюцца на аўдыядыску, які выходзіць разам з часопісам. Часцей за ўсё гэта песні, казкі, часам вершы. Ў дадатку да дыска, тэксты прыводзяцца і на старонках часопіса.

Задача артыкула – асвятліць жанравыя асаблівасці беларускамоўных матэрыялаў часопіса «Рюкзачок» за 2011 год (нумары 1 – 9).

Жанры дзіцячай літаратуры сфарміраваліся ў працэсе яе развіцця і звязаны са спецыфікай успрымання твораў дзецьмі рознага ўзросту. Можна гаварыць пра тое, што

дзіцячая літаратура прадстаўлена практычна ўсімі жанрамі, якія склаліся ў «дарослай» літаратуры. У той жа час ёсць найбольш пераважныя для дзяцей жанры, якія выкарыстоўваюцца часцей за іншыя [2]. Гэта жанр казкі, апавядання ў прозе, верша і песні ў паэзіі. Асобна можна выдзеліць такія дзіцячыя жанры, як загадка, прыказка, прымаўка, дзіцячы анекдот, гумарэска.

Усе беларускамоўныя матэрыялы ў часопісе «Рюкзачок» прадстаўлены ў рубрыках: «Люстэрка маёй гісторыі», «Славутыя імёны Бацькаўшчыны» – матэрыялы на гістарычную тэматыку; «Гісторыі з Рукзачка», «У госці да казкі», «Паэтычная старонка» – творы мастацкай літаратуры; «Гэта цікава» – пазнавальныя матэрыялы па геаграфіі, астраноміі, прыродазнаўстве і інш.; «Галерэя» – артыкулы па выяўленчым мастацтве; «Разумнік», «Каляндар», «Бацькоўскі сход», «Славутыя імёны Бацькаўшчыны» – пазнавальныя артыкулы па беларускай мове і літаратуры, беларускай народнай творчасці; «Майстэрня ў Рукзачку» – заданні для развіцця маторыкі ў дзяцей; «Адпачні», «Усміхніся» – гульнёва-пазнавальныя, гумарыстычныя матэрыялы. Яшчэ адну рубрыку – «Сучасныя дзіцячыя песні» – можна выдзеліць асобна. У яе ўваходзяць песні, якія змяшчаюцца на дыску, аўдыядадатку да часопіса.

Зыходзячы нават з мэтавага прызначэння часопіса (гульнёва-пазнавальны), можна гаварыць, што ўсе матэрыялы гэтых рубрык адносяцца да відаў пазнавальнай і мастацкай літаратуры. Як адзначаюць даследчыкі, мэтавае прызначэнне дзіцячай літаратуры можна разглядаць як рашэнне задачы забеспячэння працэсу перадачы, існавання ў грамадстве комплексу ведаў і ўяўленняў пра навакольную рэчаіснасць, зафіксаваных у моўных, мастацкіх вобразах і навуковых паняццях, якія садзейнічаюць выхаванню, развіццю, навучанню чытачоў і накіраваны на сацыялізацыю дзяцей. Паняцце сацыялізацыі дзяцей характарызуе навыкі ўдзелу ў грамадскім жыцці, уменні арыентавацца ў светапоглядных пытаннях, абгрунтоўваць уласную маральную пазіцыю [2].

Так, у рубрыках «Люстэрка маёй гісторыі», «Славутыя імёны Бацькаўшчыны» змяшчаюцца пераважна тэксты, якія разгортваюцца па кампазіцыйнай схеме апавядання. Гэта часцей за ўсё творы на гістарычную тэматыку, з якіх дзеці малодшага школьнага ўзросту даведваюцца пра мінулае нашай краіны, пра гісторыю Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай, знаёмяцца з такімі гістарычнымі персанажамі, як Альгерд, Кейстут (№ 1/2011), польскі кароль Жыгімонт, Мікалай Руды і Мікалай Чорны Радзівілы, Барбара Радзівіл (№ 2/2011), дазнаюцца пра гісторыю Крэўскага замка і лёс знакамітых князёў Вялікага Княства Літоўскага (№ 5–6/2011), Грунвальдскую бітву (№ 8 – 9/2011).

Мова і стыль гістарычных апавяданняў адаптаваны для малодшых школьнікаў, што робіць гэтыя тэксты зразумелымі. Незнаёмыя словы, гістарычныя тэрміны, устарэлыя словы выносяцца асобна ў так званы паясняльны слоўнічак (*Паходня – пераносная свяцільня-ліхтар на доўгай палцы. Дзіда – старадаўняя колючая зброя ў выглядзе доўгага дрэўка з вострым металічным наканечнікам*) (№ 1/2011).

У рубрыцы «Галерэя» таксама пераважаюць апавяданні: пра выдатных беларускіх мастакоў і іх карціны (Л. Шчамялёў – № 1/2011), сусветныя творы мастацтва (егіпецкія скульптуры № 3/2011). Аўтарамі матэрыялаў па выяўленчым мастацтве часцей за ўсё выступаюць мастацтвазнаўцы, музейныя супрацоўнікі, якія ў даступнай форме, выкарыстоўваючы зразумелую для дзяцей лексіку, дапамагаюць узбагаціць веды, пашырыць кругагляд.

Аснову рубрык «Гісторыі з Рукзачка», «У госці да казкі» складае самы распаўсюджаны жанр дзіцячай літаратуры – казка. І гэта невыпадкова, бо, як адзначаў К.І. Чукоўскі: «Цель сказочников... заключается в том, чтобы какою угодно ценою воспитать в ребенке человечность – эту дивную способность человека волноваться чужими несчастьями, радоваться радостям другого, переживать чужую судьбу как свою» [3].

Мноства казак, якія змешчаны на старонках часопіса, а таксама на аўдыядыску, характарызуецца тэматычнай разнастайнасцю. Гэта народныя казкі (аўдыядадатак да № 3/2011), сучасныя беларускія казкі (№ 2, 4–9 / 2011), у якіх пераважаюць тэмы дабра, справядлівасці, сяброўства, любві да прыроды і жывёльнага свету.

Рубрыкі «Паэтычная старонка» і «Ваша творчасць» прадстаўлены пераважна паэтычнымі жанрамі. Гэта вершы маладых і заслужаных беларускіх аўтараў, а таксама творы, напісаныя самімі чытачамі часопіса «Рюкзачок».

У рубрыках «Гэта цікава», «Каляндар» часцей за ўсё сустракаецца жанр апавядання. Гэта пазнавальныя тэксты, накіраваныя на фарміраванне разнастайных інтарэсаў у малодшых школьнікаў.

Жанравая разнастайнасць прадстаўлена ў рубрыках «Адпачні», «Усміхніся». Тут юныя чытачы могуць сустрэць прымаўкі, прыказкі, загадкі, гумарэскі, анекдоты. У прыказках і прымаўках адлюстроўваюцца народная мудрасць, трапнасць мовы, дакладнасць ў ацэнцы з’яў. Пазнанне дзіцем гэтых твораў звязана з пазнаннем асаблівасцяў адносін чалавека да розных бакоў жыцця, яны вучаць дзяцей думаць абагульнена і бачыць жыццё больш тонка, распазнаваць адценні сітуацый, учынкаў, дзеянняў людзей. Загадкі выклікаюць у дзяцей сапраўдную цікавасць, вучаць думаць, супастаўляць, бачыць асобныя ўласцівасці прадмета або з’явы і па іх канструяваць агульнае, суадносіць часткі з цэлым [2]. Анекдоты, гумарэскі – камічныя аповеды-мініяцюры з нечаканай фіналлю. Гэты жанр з’яўляецца асабліва прывабным для дзяцей, бо забяспечвае добры настрой, спрыяе развіццю кемлівасці, знаёміць з адметнымі беларускімі выразамі і сінтаксічнымі канструкцыямі.

Беларускамоўныя матэрыялы ў часопісе «Рюкзачок» прадстаўлены найбольш значымымі жанрамі дзіцячай літаратуры. Асаблівае месца сярод іх займае апавяданне. Гэта абумоўлена мэтавым прызначэннем часопіса, а таксама спецыфікай жанра, дзе ёсць займальны сюжэт з кульмінацыяй і нечаканай развязкай. Творы ўсіх жанраў у большасці адпавядаюць сваёй чытацкай аўдыторыі, што дае магчымасць

выкарыстоўваць іх і ў вучэбна-выхаваўчым працэсе, пра што неаднаразова паведамлялі настаўнікі.

**_Літаратура_**

1. Тихомирова, И.И. Психология детского чтения от А до Я: методический словарь-справочник для библиотекарей. – М.: Школьная библиотека. 2004. – 248 с.
2. Антонова, С.Г. Редакторская подготовка изданий / С.Г. Антонова [и др.]; под общ. ред. С.Г. Антоновой. – М.: Изд-во МГУП, 2002. – 468 с.
3. Чуковский, К. Собрание сочинений: в 15 т. / К. Чуковский. – М.: Терра, Книжный клуб, 2001. – Т. 2: От двух до пяти.

**_А.М. Астапчук_** (Мінск, Беларусь)

## СЭНСАВЫЯ ТРАНСФАРМАЦЫІ АЎТАРСКАГА ТЭКСТУ Ў РУСКІХ ПЕРАКЛАДАХ ВЕРШАЎ ГЕНАДЗЯ БУРАЎКІНА

Паэзія Г. Бураўкіна вызначаецца глыбокім грамадзянскім і філасофскім зместам і, разам з тым, лірычнасцю, мяккасцю, стрыманай расчуленасцю. Па словах Р. Барадуліна, «пафас у яго заўсёды плоцевы, вобразны, канкрэтна-адрасны, лірыка адкрытая і цнатлівая, задушэўная і мужная» [1, с. 4]. Індывідуальныя асаблівасці вершаў важна захаваць пры перадачы сродкамі іншай мовы, бо «ў мастацкім перакладзе ўзнаўляецца (перакладаецца) не слова само па сабе, а аўтарскае бачанне акаляючага свету, выражанае ў слове» [4, с. 35]. У перакладах твораў Г. Бураўкіна на рускую мову, выкананых І. Бурсавым, Гр. Курэневым, В. Тарасам, І. Шклярэўскім, гэтая ўмова не заўсёды выконваецца.

Так, у кожнай страфе верша «Прыязджайце дадому!» паўтараецца лексема *прыязджайце*: *Ці то раніцай звонкай. / Ці то вечарам ціхім – / Прыязджайце дадому, / Прыязджайце дадому.* У рускім тэксце гэты паўтор губляецца: *Звонким утром погожим / Или вечером сонным* / *Приезжайте домой, / В край, / Где ваше начало*. У наступнай страфе арыгінала адбываецца паўтор радка *Прыязджайце дахаты*, у перакладзе – *В дом родимый спешите*; у трэцяй страфе аўтар дубліруе радок *Прыязджайце да маці..*, перакладчык – *Ждет вас мать не дождется*. У выніку гэтых замен у рускім тэксце дзеяслоў *прыязджайце* губляе функцыю рэфрэна, і сэнсавыя акцэнты аўтарскага тэксту не знаходзяць адлюстравання.

Не перадаюцца належным чынам і некаторыя дэталі быту. Так, радкі ..*Дзе ля ганка / Жаўцее бярэмя свірэпкі / І ад сонца / Хаваюцца ў пыл кураняты* ў рускай версіі гучаць так: .. *Где сурепка, / Как солнечный блик, / У крылечка / И кричит перепелка / Под окнами в жите*. У арыгінале – звычайны вясковы малюнак: ля ганка бегаюць кураняты; у перакладзе ж сімволіка хаты змяняецца за кошт увядзення назвы птушкі, якая хатняй не з’яўляецца: перапёлка – ‘палявая пералётная птушка..’ (Тлумачальны слоўнік беларускай мовы 1977–1984, далей ТСМБ). Семантычныя трансфармацыі відавочныя і ў перакладзе апошняй страфы верша: *Прыязджайце дадому – / Ці то ўвечар, ці ўранку, / Не таміце матулю / Залішнім чаканнем... / Што, як стрэнуць вас / Толькі пустая буслянка Ды над лугам / Старая ахрыплая каня?..* [1, с. 231–232] – *Приезжайте домой – / Уже рощи желтеют… / Торопитесь домой / И с бедой / И с удачей… Скоро осень. /*

*Родимые гнезда пустеют… / Что, как вдруг / Только чибис и встретит вас / Плачем?..* [3, с. 215]. Аўтар папярэджвае: трэба ездзіць дадому часцей, пакуль матуля жывая; перакладчык засяроджаны на тым, што хутка восень і зляцяць птушкі.

Значныя сэнсавыя зрухі назіраюцца і ў перакладзе верша «Халодны сквер дашчэнту апусцеў...». Так, філасофскі роздум паэта пра фатальную непазбежнасць *Прымай дажджы як невясёлы лёс, / Таго не ўнікнуць, што наканавана* ператвараюцца ў павярхоўную фразу *Наверно, у природы есть резон / Чередовать восходы и закаты..*. Падобным чынам трансфармуюцца наступныя радкі: *Вось так задумана жыццё: / Дзе спела ніва, колецца іржышча.* [1, с. 148] – *Не разберешь, где север, а где юг. / Где зрела нива – там ершится ржище.* [3, с. 111]. Сэнсава недарэчнымі выглядаюць словы пра поўдзень і поўнач; неапраўдана і ўвядзенне размоўнай лексемы *ершиться* – 'подниматься вверх торчком (о волосах, шерсти и т. п.); топорщиться, ерошиться' (Словарь русского языка 1981–1984, далей СРЯ). Да таго ж гукавая абалонка спалучэння *ершится ржище* ўтварае дадатковую (не надта мілагучную) алітэрацыю.

Глыбіня аўтарскай думкі не знаходзіць адлюстравання і ў рускім варыянце верша «Я ўваходжу ў лес...». Так, радкі *Тут недзе маці сабірае думы / У кошык, поўны выспелых суніц. / І лес сівым вясковым тугадумам / Над кожнаю сцяжынкаю стаіць* перакладаюцца наступным чынам: *Здесь мама, схоронясь от солнцепека, / Перебирает под зеленый шум / Лукошко земляники. / Недалеко вздыхает дуб, как старый тугодум*. Па-за межамі ўвагі перакладчыка застаюцца думы маці, роздум лесу. Аўтар распавядае пра еднасць чалавека з лесам, пра мудрасць прыроды, яе важнасць, неад'емнасць ад жыцця людзей: *Я перад ім схіляю голаў нізка – / І чую, як у мудрай цішыні / То ліпа раптам зарыпіць калыскай, / То скрыпкаю яліна зазвініць* [1, с. 177]. Перакладчыка больш цікавяць знешнія праявы прыроды: *И тень листвы бежит волною зыбкой, / И тишина на тридевять земель, / Лишь скрипнет липа деревенской зыбкой / И прозвучит певучей скрипкой ель* [3, с. 152].

Падобны да разгледжанага вышэй па настроі, семантыцы верш «Люблю бары, бярэзнікі і пушчы я...», які ў рускім варыянце аўтарскія пачуцці таксама не перадае. Так, радкі *Цярплівыя, / Маўклівыя, / Відушчыя, / Яны мае надзейныя сябры* ў перакладзе гучаць наступным чынам: *И дальше дней, / Что мне судьбой отпущены, / Шумят друзей зеленые вихры*. Аўтар гаворыць аб тым, чым дарагія яму лясы, перакладчык – пра іх доўгае жыццё. Аўтарскія азначэнні важна было захаваць, бо далей гэты ланцуг характарыстык працягваецца: *Ашчадныя, / Запаслівыя, / Шчодрыя, / Яны і мне прадоўжылі гады*. Паэт даводзіць, што і яму (як многім іншым) сваімі дарамі лес працягнуў жыццё. У перакладзе гаворка ідзе пра дзіцячыя гады: *Запасливые, / Щедрые / И гордые, / Они продлили хлопчику годки*. Далей праводзіцца думка аб тым, што лес вучыць людзей мудрасці: *На ўзлесках і пад кронамі высокімі / Яны вучылі мудрасці без слоў – / Як сябраваць з зязюлямі і сойкамі, / Як разумець вавёрак і ласёў...* [2, с. 47]. Перакладчык і надалей засяроджваецца на дзяцінстве: *В ложбинах и под кронами высокими / Они учили мудрости без слов. / Дружило детство с белками и сойками / И понимало беззащитных*

*сов* [3, с. 311]. Такім чынам, семантычныя акцэнты пераносяцца з агульначалавечага філасофскага роздуму на дзіцячыя ўспаміны.

Рускі варыянт верша «Напамін халасцяку» таксама не ў поўнай меры адлюстроўвае аўтарскае бачанне жыцця. Напрыклад, радкі *Так спрадвеку павялося, / Што знайсці мы ўсе павінны / Свайго шчасця, / Свайго лёсу, / Свайго сэрца палавіну* перадаюцца наступным чынам: *Так уж издавно ведется, / Ольгу, Юлию, Полину, / Выбрать каждому придется / Всей юдоли половину.* Аўтар і перакладчык па-рознаму ставяцца да стварэння сямейнай пары. Словы *шчасце, лёс, сэрца* аб'ядноўваюцца лексемай *палавіна* ў сінанімічны рад і маюць дадатную афарбоўку; руская лексема *юдоль* (*книжн. устар*. 'место, где страдают, мучатся (обычно в сочетаниях: юдоль скорби, юдоль печали) // жизнь с ее горестями и печалями' (СРЯ)) мае адмоўную канатацыю. Пры передачы радкоў *І пакуль ты адзінокі / Пасярод жыццёвай прозы, / Ты як быццам аднабокі, / Несалідны, несур'ёзны* перакладчык таксама адступае ад арыгінальнага тэксту: *А пока ты одинокий / Посреди житейской прозы, / Дни – ободранные сбоку / И скрипучие березы.* Аўтар гаворыць пра чалавека, яго сутнасць, перакладчык – пра шэраг яго дзён, падобных да абадраных скрыпучых бяроз. Радкі *Як людзей ні судзіш строга, / Ды без жончынага вока / Ты яшчэ сябе самога / Разумееш неглыбока* [2, с. 72] перадаюцца наступным чынам: *Как людей ни судишь строго, / А без преданного ока, / Как без солнышка луна – / Жизнь твоя полутемна* [3, с. 344]. Ізноў у арыгінале гаворка пра пазнанне чалавекам самога сябе, а ў перакладзе – пра непаўнату жыцця.

Як відаць з прыкладаў, вобразны змест вершаў Генадзя Бураўкіна пры перадачы сродкамі рускай мовы не заўсёды знаходзіць адэкватнае адлюстраванне. Трансфармацыі вершаваных радкоў пры перакладзе непазбежныя, але неабаснаваныя лексічныя замены, якія прыводзяць да скажэння сэнсавага напаўнення арыгінала, не могуць быць апраўданы цяжкасцямі перакладу.

***Літаратура***


1. Бураўкін, Г. Выбраныя творы: у 2 т. / Г. Бураўкін. – Мінск: Маст. літ., 1986. – Т. 1. Вершы, паэмы. – 319 с.

2. Бураўкін, Г. Выбраныя творы: у 2 т. / Г. Бураўкін. – Мінск: Маст. літ., 1986. – Т. 2. Паэма, вершы, казкі, песні, пераклады. – 287 с.

3. Буравкин, Г. Синие качели: стихотворения; поэмы (1956–1985) / Г. Буравкин. – М.: Худ. лит., 1987. – 382 с.

4. Рагойша, В.П. Проблемы перевода с близкородственных языков: белорусско-русско-украинский поэтический взаимоперевод / В.П. Рагойша. – Минск: Изд-во БГУ, 1980. – 184 с.



***Э.А. Ашурбейли*** (Баку, Азербайджан)


## СОВЕРШЕНСТВОВАНИЕ ПЕРЕВОДЧЕСКОГО ОПЫТА (НА МАТЕРИАЛЕ ДВУХ ТЕКСТОВ ПЕРЕВОДА ФРАГМЕНТОВ ИЗ «АВЕСТЫ» Е.А. БЕРТЕЛЬСА)

В переводческой практике есть много случаев, когда переводчик не раз возвращается к предыдущим вариантам (редакциям) текста, шлифует его, дополняет,

изменяет лексику, словосочетания, акценты и т. п. Этот опыт еще раз доказывает тот факт, что творческий процесс над переводным текстом является не окончательным, не прекращающимся, а находящимся в динамике. Таким образом, вынашивание альтернативных лингвистических вариантов со стороны переводчика должно служить поводом к научному исследованию характера этих вариантов и причин, побудивших его внести изменения в раннюю редакцию. Именно указанное обстоятельство заставило нас обратиться к изучению двух вариантов перевода фрагментов из «Авесты» известного востоковеда и переводчика Е.Э. Бертельса. Обе они относятся к «Молитве Заратуштры после изгнания» («Ясна»): строфы 1–3 в ранней редакции, напечатанные в журнале «Восток» за 1924 год, и те же самые строфы в поздней редакции, опубликованные в его книге «Избранные труды: История персидско-таджикской литературы» в издании 1960 года. Судя по датам публикаций, между ранней и поздней редакциями существует тридцатишестилетняя дистанция. С другой стороны, такой длительный период вместе с тем свидетельствует и о росте переводческого мастерства Е.Э. Бертельса, который к концу этого времени стал автором перевода множества других произведений и отрывков из восточных языков. Учитывая профессиональное и серьезное отношение ученого и переводчика к объектам своего творчества, мы попытаемся столь же серьезно рассмотреть указанные переводные тексты, с привлечением к исследованию примеров из других переводов для всестороннего выявления имеющихся изменений.

Обратимся к первой строфе ранней редакции: «1. В какую землю бежать, куда бежать я пойду? / Удаляют меня от воинов и жрецов, / Не утешает меня община, / Не принимают приверженные друджам тираны в стране, / Как же мне удовлетворить тебя, Мазда?» [1, с. 9]

Во-первых, на наш взгляд, прежде чем перейти к анализу, необходимо дать краткое разъяснение к тексту.

Заратуштра (в поздней традиции и фарси *Зардушт*, в греческой передаче *Зороастр*), пророк и основатель зороастрийской религии и его мифологизированный образ, в тридцать лет был осенен Истиной новой Веры и сделался пророком Ахура-Мазды, стал проповедовать новую религию в родном племени, но сородичи ему не вняли, и он был изгнан. После двенадцати лет скитаний, уже будучи в 42-летнем возрасте, он пришел в царство Кави-Виштаспы, обратил царя, его приближенных в новую веру и по приказу царя его проповеди, откровения и наставления были записаны «золотом на 12 000 бычьих кожах», и книгу «Авесту» поместили в сокровищницу. Таким образом, молитва Заратуштры относится к периоду его изгнания из родного племени.

После предварительного разъяснения приведем строфу из поздней редакции: «1. В какой земле мне укрыться, куда мне пойти укрыться. / Изгоняют меня от земляков и соплеменников, / Неблагосклонны ко мне и родовой союз, / И поклоняющиеся друджам правители страны. / Как мне добиться твоей благосклонности, о Мазда-Ахура?» [2, с. 53]

Из сопоставления вариантов видно, что количество строк в строфе не изменилось. Как убедимся в дальнейшем, такой принцип сохраняется и в построении структуры последующих строф.

В первой строке опорным словом является глагол «бежать», который повторяется дважды, во втором случае в сочетании с «я пойду». В поздней редакции глагол «бежать» заменяется глаголом «укрыться», который тоже повторяется, но уже со словом «пойти». Если в первом варианте строки фразы «куда бежать, я пойду» по своему построению отражают подстрочный перевод, то во втором варианте перевод фразы «куда мне пойти укрыться» – не выглядит чужеродным на русском языке и сбрасывает с себя «узы» избыточности. Можно было бы считать такую трансформацию редакторской правкой, однако разница смысловых значений глаголов «бежать» и «укрыться» не дают нам этой возможности. В данном случае нет необходимости обращаться к толковым словарям, потому что каждый из них кроме смысловых различий имеет свою коннотацию. Пророк просит своего Бога указать ему не куда бежать, а дать ему убежище, место, где он с его помощью может укрыться от преследователей.

Правки второй строки еще больше убеждают нас в правоте. Так, слово «удаляют» слишком смягчает эмоциональное состояние обращающегося с молитвой, а глагол «изгонять» согласуется с глаголом «укрыться». Кроме того, в первом варианте он «удаляется» от «воинов и жрецов», а во втором – он «изгоняется» от «земляков и соплеменников». Во второй редакции ощущается стремление переводчика к обобщению понятий, которые отстраняясь от конкретики – воины и жрецы, – приобретают образ «земляков и соплеменников», то есть осмысливаются посредством не социальных групп, а в качестве представителей окружения, именуемых общиной Заратуштры. Хотя последующая строка первого варианта – не утешает меня община», – казалось бы, дает информацию о том, что в дополнение к недоброжелателям «воинам и жрецам», прибавляется множество других, то есть целая община. Кстати, переводчик именно к группе «воинов и жрецов» адресует сноску «имеется в виду община Заратуштры». Вероятно, поэтому в новой редакции для того, чтобы избежать смысловой тавтологии с предыдущей словоформой к слову «неблагосклонны» переводчик прибавляет объясняющую аналогию «родовой союз». Но к «неблагосклонным» молящийся относит, как это обнаруживается в четвертой строке, и тех «правителей страны», которые поклоняются «друджам». Под «друджами» в индоиранской религии имеется ввиду «ложь» – «абстрактная сущность, отрицательная сила мироздания, противопоставляемая понятию Истины в космологическом, социальном и личностном плане» [3, с. 435]. Значит, Заратуштра среди своих последователей называет представителей верхушки страны, которые поклоняются «Лжи», ложным богам, то есть являются язычниками и поэтому не хотят принять его веры в Единого Ахура-Мазду. Иная интерпретация этой строки дается в ранней редакции. Здесь правители страны напрямую жестко называются «тиранами», только

они поклоняются «друджам», и им привержены. Как видим, лексика в разных редакциях имеет и различную эмоционально-экспрессивную окраску. Даже последняя строка первой строфы нового варианта ярко отражает отмеченную изменчивую окрашенность. Заменив глагол «удовлетворить» на усложненную форму «добиться благосклонности», переводчик меняет не только окраску, но и стиль, который принимает возвышенность, и вместе с добавками обращений «о», «Ахура» доводит формулу молитвы до совершенства.


***Литература***

1. Бертельс, Е.Э. Отрывки из Авесты / Е.Э. Бертельс // Восток: журнал литературы, науки и искусства, Книга четвертая. – М. – Л., 1924. – С. 9 –10.

2. Бертельс, Е.Э. Избранные труды: история персидско-таджикской литературы / Е.Э. Бертельс. – М., 1960. – С. 53–54.

3. Авеста в русских переводах (1861–1996) / сост. И.В. Рак. – 2-е изд., исправ. – СПб.: Нева; Летний сад, 1998. – 480 с.



***Ю.М. Бабіч*** (Віцебск, Беларусь)


## ЖАРГОННЫЯ І ПРАСТАМОЎНЫЯ ЭЛЕМЕНТЫ Ў ПУБЛІЦЫСТЫЧНЫМ ТЭКСЦЕ

Аналіз беларускамоўных публіцыстычных тэкстаў дае падставы меркаваць, што апошнім часам у друкаваных СМІ істотна павялічылася колькасць прастамоўных і жаргонных лексічных элементаў. Аўтары нярэдка выкарыстоўваюць найбольш распаўсюджаныя словы і словазлучэнні, характэрныя ў першую чаргу для размоўна-бытавой лексікі. Гэта тэндэнцыя можа тлумачыцца, на наш погляд, імкненнем асобных журналістаў і рэдакцыйных калектываў у цэлым стаць бліжэй да карыстальнікаў, да чытачоў, максімальна папулярна і адначасова займальна данесці інфармацыю, што ў канчатковым выніку павінна паспрыяць і росту накладаў выданняў. А паколькі ў сучасных грамадска-палітычных умовах Беларусь знаходзіцца пераважна ў рускамоўнай медыяпрасторы, то значная колькасць стылістычна маркіраваных, некадыфікаваных лексічных адзінак трапляе ў беларускамоўны дыскурс з рускай мовы. Заўважым, аднак, што і там названыя рэсурсы пераважна не з’яўляюцца агульнаўжывальнымі, а выступаюць стылістычна афарбаванымі і выконваюць адпаведную функцыю. Але гэта насамрэч прыцягвае ўвагу чытача, прымушае яго міжволі засяродзіцца на пэўным тэкставым фрагменце. Сярод такіх прадуктыўных публіцыстычных «наватвораў», што выяўлены намі ў беларускамоўных СМІ, пераважаюць дзеясловы (*адрывацца*, *ламануцца*, *засвяціцца*, *завісаць*, *касіць, кінуць* і інш.) і назоўнікі (*бабло*, *барыга*, *кайф*, *фішка* і інш.), а таксама пэўныя ўстойлівыя спалучэнні (напрыклад, *па барабану*, дзе рэалізавана прыслоўнае значэнне «усё роўна, не важна, не цікава»). Праілюструем гэта прыкладамі з друкаваных выданняў апошняга часу: *Мужчына, так бы мовіць, па поўнай «**адрываўся**» ў начным клубе* («Чырвоная змена», 23.02.11); *Расіяне ўсё ж **ламануліся** па машыны ў Беларусь* («Звязда», 24.09.10); *Падазроныя выкралі больш за 126 тон цукру. А «**засвяціліся**» службовыя асобы аднаго з прыватных прадпрыемстваў…* («Звязда», 1.02.11); *У лістападзе маскоўскія гульцы «**завісалі**» ў мінскіх казіно на працягу амаль двух тыдняў* («Звязда»,

24.11.10); *Мне ўжо потым сказалі, што гэта быў афганскі разведчык… «**Касіў**» пад мірнага жыхара* («Звязда», 15.02.11); *Махляр «**кінуў**» на аўто сем чалавек. У Шумілінскім раёне спрытны дзялок паабяцаў грамадзянам прыгнаць з Германіі аўто, узяў грошы і падмануў* («Звязда», 28.01.11). *Кожны паліцыянт не прапускае магчымасці садраць з гора-бізнесмэна* ***бабла*** («Наша ніва», 12.01.11); *Хутка знайшлі* ***барыгаў****, якія падахвоціліся дапамагчы нам за пэўную плату* («Наша ніва», 9.02.11); *Яны працуюць для таго, каб спектакль атрымаўся… Гэта прыносіць сапраўдны* ***кайф*** («Віцебскі праспект», 11.11.10); *Многім з пакупнікоў «**па барабану**», што там намалявана і напісана на пакеце – абы мука* («Звязда», 3.02.11); *Яму асабіста «**па барабану**», дзе, на якім месцы стаіць мова…* («Звязда», 19.02.11).

Дастаткова частотнай апошнім часам стала лексема *фішка*. ТСБМ дае наступнае агульнапрынятае значэнне: «Кубік, квадрацік, кружок, які служыць у некаторых настольных гульнях для падліку ачкоў, бітак і пад.». У выніку пераасэнсавання слова набыло новую семантыку, з якой ужо нярэдка ўжываецца ў публіцыстычных тэкстах: *Лясны турызм – новая «**фішка**» турыстычнай Беларусі* («Звязда», 14.10.10); *У Львове за апошнія гады з'явілася даволі шмат тэматычных і прымальных па кошце рэстаранчыкаў і кавярняў. Фірмовыя «**фішкі**» самых папулярных зведала на сабе карэспандэнт «Звязды»* («Звязда», 12.03.11); *Упершыню будзе зладжана спаборніцтва конных рыцараў… Гэтая «**фішка**» дазволіць прывабіць да рыцарскага фэсту большую колькасць наведвальнікаў* («Культура», 19–25.03.11); *Не буду пераказваць журналісцкія* ***фішкі****, якімі дзяліліся польскія калегі* («Звязда», 26.10.10). *Але і ў галерэі, аказваецца, ёсць навучальная «**фішка**»: фотаздымкі літаратараў суправаджаюць не толькі асноўныя звесткі з іх біяграфій, але і матэрыял да алімпіяд* («Віцебскі праспект», 26.05.11); *Адметная* ***фішка*** *нашага выпускнога – гэта арэнда лімузіна* («Звязда», 24.05.11). У прыведзеных мікракантэкстах рэалізуецца значэнне «самае моднае, цікавае, істотнае». Менавіта з такой дэфініцыяй і пазнакай *жарг*. гэты назоўнік падаецца ў «Слоўніку новых слоў беларускай мовы» В. Уласевіч і Н. Даўгулевіч (2009). У гэтай жа крыніцы зафіксаваны таксама і назоўнік *кайф* (*разм*. «Прыемнае баўленне часу, атрыманне задавальнення ад чаго-небудзь; *жарг*. Атрыманне задавальнення ад выкарыстання наркотыкаў ці алкагольных напояў»). Неабходна заўважыць, што ў некаторых выпадках стылістычна маркіраваныя словы ў публіцыстычным радку бяруцца ў двукоссе, тым самым адлюстроўваючы пакуль іх нязвыкласць, метафарычнасць, іранічнае адценне, навізну. Разам з тым асобныя лексемы ўжываюцца без згаданага знака (*кайф*, *бабло*, *барыга*), што сведчыць пра іх фактычную асіміляцыю ў публіцыстычным стылі. Прынамсі з пункту гледжання аўтараў. Можна меркаваць, што падобная тэндэнцыя будзе працягвацца і паступова асобныя словы будуць пераходзіць з пасіўнага ў актыўны разрад. Сталі ж ужо звыклымі ў нашай мове лексемы *аблом*, *баксы*, *бомж* і г. д. Добра гэта ці не – іншая справа. Але безумоўна адно: каб выкарыстоўвацца ў публіцыстычным тэксце, жаргонныя ці прастамоўныя элементы, па-першае, павінны вызначацца яскравай эмацыянальна-экспрэсіўнай афарбоўкай і

адначасова быць здольнымі на дакладную характарыстыку прадмета або з’явы, а па-другое – не мецць занадта вульгарнага, грубага адцення. Т.Тамашэвіч заўважае: «Адны аўтары наракаюць на тое, што мова часопісаў, газет, нават паэзіі псуецца пад націскам прастамоўя, запазычаных слоў, іншыя, насупраць, гавораць пра тое, што літаратурная мова ў некаторых выданнях прыкметна аддаляецца ад жывога маўлення, з-за чаго траціць сваю выразнасць» [1, с. 4]. Усё большая частотнасць некадыфікаваных элементаў у газетных тэкстах сапраўды ажыўляе літаратурную мову. Зараз можна гаварыць пра выкарыстанне на старонках СМІ так званага інтэржаргону – слоў з вуснага маўлення прадстаўнікоў розных пластоў грамадства. Такія лексемы ў публіцыстычным радку выступаюць як пэўнага кшталту тэкстаўтваральны кампанент, як сродак эмацыйнага ўздзеяння на рэцыпіента. Гэта значыць, выконваюць амбівалентную функцыю: з аднаго боку, актуалізуецца вобразна-семантычны патэнцыял, а з другога – даюцца камунікатыўна-прагматычныя ўстаноўкі аўтара.

Але як гэта суаднесці з неабходнасцю захавання чысціні маўлення – адным з асноўных крытэрыяў вербальнай культуры асобы? «Ва ўмовах білінгвізму ўзнікае нямала праблем, звязаных з культурай мовы, у першую чаргу праблема чысціні маўлення», – слушна адзначае праф. Лепешаў [2, с. 125]. На наш погляд, існуе пэўная небяспека, што з цягам часу ў выніку рэгулярнага выкарыстання ў друку асобных прастамоўных ці жаргонных лексічных адзінак яны могуць перастаць успрымацца рэцыпіентамі як нелітаратурныя і перайсці ў катэгорыю агульнаўжывальных. Тут варта нагадаць, што першапачаткова французскае слова *жаргон* (*jargon*) абазначала якраз «сапсаваную мову». Расійскі лінгвіст А. Сяляеў сцвярджае, што рэгулярнасць выкарыстання падобнага кшталту слоў у СМІ рана ці позна выклікае змяненне іх сацыяльнай ацэнкі. Яны паступова пачынаюць пераходзіць у разрад нарматыўных сродкаў, што недапушчальна. Але тут таксама прыгадаем меркаванне і іншага вядомага расійскага лінгвіста В. Кастамарава, які, вызначаючы асноўны стылістычны прынцып публіцыстычнага тэксту, гаворыць пра эмацыйнае адзінства, сувязь экспрэсіі і стандарту. Можна меркаваць, што асобныя некадыфікаваныя лексемы ў газетным тэксце з’яўляюцца адмысловымі сэнсавымі індыкатарамі, сродкам прыцягнення ўвагі да пэўнай праблемы, своеасаблівым крэатыўным маркёрам. Менавіта друкаваныя медыі становяцца тым полем, дзе паступова пачынаюць сціраццa стылістычныя межы, дзе элементы жывога маўлення ўсё часцей карэлююць з нарматыўнымі лексічнымі рэсурсамі.

***Літаратура***

1. Тамашэвіч, Т. Асновы культуры мовы: тэксты лекцый: у 2 ч. / Т. Тамашэвіч. – Гродна. – 1985. – Ч. 1.
2. Лепешаў, І.Я. Асновы культуры мовы і стылістыкі: практыкум / І.Я. Лепешаў. – Мінск, 1989.

***Ю.Л. Баньковская*** (Минск, Беларусь)

## ИНТЕГРАТИВНЫЕ И КОНФЛИКТНЫЕ АСПЕКТЫ МЕЖКУЛЬТУРНОГО ДИАЛОГА

Коммуникативный процесс представляет собой необходимую предпосылку становления, развития и функционирования всех социальных систем, потому что

именно он обеспечивает связь между людьми и их общностями, накопление и передачу социального опыта, организацию совместной деятельности, трансляцию культуры. Коммуникация присуща любой сфере совместной человеческой деятельности, взаимодействию людей друг с другом. Б. Боденхамер и М. Холл говорят о том, что «жизнь основана на коммуникации» [1, с. 77]. Следовательно, все социальные процессы неизбежно приводят к необходимости диалога между людьми.

Взаимодействие представителей различных культур, этносов, традиций предполагает развитие глобальных взаимоотношений, благодаря которым народы смогут увидеть мир глазами друг друга, расширить сферу межличностного общения. Язык является фундаментальной консолидирующей силой, определяющей менталитет народа, связанного с его системой ценностей и убеждений. Формирование взаимопонимания может быть достигнуто благодаря углублению межкультурной коммуникации, что возможно лишь в ситуации успешного преодоления кризисов. «Лица, принимающие участие в коммуникации, должны продолжать свою интеракцию и в конфликтных случаях, в условиях прекращения коммуникативного поведения» [2, с. 68].

Возможность установления диалога означает понимание различия в представлениях людей разных культур и этносов. «Кто аргументирует, тот имплицитно признает всевозможные требования всех членов коммуникативного сообщества, которые можно оправдать разумными аргументами, и в то же время обязуется оправдывать аргументами все собственные требования к другим» [3, с. 325]. Умение видеть мир с позиции людей другой культуры, адаптация к межкультурному пространству при сохранении неповторимости своего этнокультурного облика и системы индивидуальных предпочтений находится в основании диалога культур.

Участвуя в формировании социальных идеалов и ценностей, коммуникация содействует не только интеграции, но и дезинтеграции. При рассмотрении процессов, происходящих в социальной системе, ученые пришли к необходимости изучения, с одной стороны, конфликтности как данности, с другой – поиску новых способов коммуникации в столкновении культур и цивилизаций. Нестабильность социальной структуры общества, ее усложнение и дифференциация, размывание ранее жестко очерченных границ социального взаимодействия делают наше общество чрезвычайно конфликтогенным. Процесс глобализации сопровождает сильнейший культурный плюрализм, который оформляется как конфликт культур и цивилизаций. Коммуникация представляет собой значимый компонент социального взаимодействия, обеспечивающий эффективность развития общества, необходимое и всеобщее условие его жизнедеятельности и существования. Конфликтное взаимодействие, как и любое другое социальное взаимодействие, невозможно без коммуникации, ибо она выступает формой и способом его проявления.

Межкультурные конфликты возникают тогда, когда существует противоречие в ценностях, нормах, обычаях и традициях. Конфликт культур всегда разворачивается на нескольких уровнях. Конфликт на макроуровне происходит между цивилизациями

вследствие противостояния в сферах политического или экономического устройства, религии, идеологии и т. д. На микроуровне конфликт возникает между социальными структурами внутри социума, имеющими различную направленность ценностных ориентаций.

Культуру можно представить как неравновесную систему, для функционирования которой характерен переход от ее устойчивых состояний к неустойчивым и наоборот. Любой неравновесный процесс, благодаря действию потоков извне, характеризуется периодическими выходами из состояния устойчивости, однако система всегда стремится к стабильности. В диссипативной системе, какой и является культура, развитие идет нелинейно. Движение совершается по множеству путей. В культуре один и тот же артефакт может привести как к положительным, так и к негативным последствиям. Сложные системы, сталкиваясь и взаимопроникая друг в друга, могут порождать ее полное или частичное перерождение. Таким образом, в процессе функционирования культура сама способна менять свою структуру. В ее открытости и подвижности проявляется возможность самоорганизации. При этом данная открытость и неустойчивость не предполагает ее разрушения. Благодаря корреляции связи в культуре сохраняются, даже если система изменяется и происходит реорганизация исходных элементов, вступающих во взаимодействие.

Существует множество путей разрешения межкультурного конфликта. Во-первых, это уничтожение всех носителей иной культуры, их традиций и норм. Во-вторых, закрытие границ между культурами, позволяющее защитить более слабые общества от вторжения культур, присущих более сильным обществам. В-третьих, поиск путей и способов согласования ценностей различных культур, признание их значимости. В-четвертых, интеграция, которая предполагает создание условий, при которых происходит сглаживание и нивелирование межкультурных различий. В-пятых, поддержание культурной самобытности отдельных народов.

Благодаря диалогу представители разных культур углубляют понимание социальных норм и ценностей друг друга. Осмысление ими интересов, потребностей и ценностей друг друга значимо еще и потому, что единственный способ предотвратить разрушающее влияние конфликта – это попытаться понять обоснованность позиций друг друга. Ю. Хабермас сформулировал эту мысль следующим образом: «мы не просто говорим о том, что имеет или не имеет места, а говорим что-нибудь кому-нибудь другому, так что последний понимает то, что говорится» [4, с. 40].

Стабильность и устойчивость культуры иллюзорна. Чем полнее социальная система интегрирует изменения, чем активнее инициирует их, тем успешнее она справляется с дестабилизирующими факторами, возникающими в процессе ее развития. В тех случаях, когда скорость изменений превосходит адаптационные возможности системы, она либо искусственно временно поддерживается тоталитарными методами, либо погибает. Монополизация центров принятия решений узким кругом наиболее развитых стран и связанных с ними международных экономических и политических структур,

равно как культурная вестернизация, вызывает протест со стороны втягиваемых в данный процесс народов. В качестве основного способа противодействия подобным тенденциям выступает культурная самобытность, которая, вместе с тем, провоцирует национализм, этнические конфликты. При столкновении социальных норм возможны изменения в системе ведущих ценностных ориентаций. С такой ценностной переориентацией, которая может быть как глобальной, так и локальной, связано формирование новой культурной парадигмы. Таким образом, межкультурный диалог невозможен без изменений в социальных структурах. В его рамках ни одна культура не может претендовать на право единственно верного миросозерцания, а, следовательно, отношения между культурами могут строиться только на принципах консенсуса, плюрализма и толерантности.

***Литература***


1. Боденхамер, Б.Г. Учебник магии НЛМ / Б.Г. Боденхамер, Л.М. Холл. – СПб.: Прайм – Еврознак, 2004. – 272 с.
2. Хабермас, Ю. Философский дискурс о модерне / Ю. Хабермас. – М.: Весь мир, 2003. – 416 с.
3. Апель, К-О. Трансформация философии / К-О Апель. – М.: Логос, 2001. – 344 с.
4. Хабермас, Ю. Моральное сознание и коммуникативное действие / Ю. Хабермас. – СПб.: Наука: С-Петерб. изд. фирма, 2000. – 377 с.


***А.В. Барысевіч*** (Мінск, Беларусь)

## БЫЦЦЁ 37:19 (20) У НЕКАТОРЫХ СЛАВЯНСКІХ ПЕРАКЛАДАХ БІБЛІІ ЯК ПРЫКЛАД РЭАЛІЗАЦЫІ СЛОВАЎТВАРАЛЬНАГА ПАТЭНЦЫЯЛУ МОВЫ

У Кнізе Быцця на старажытнаяўрэйскай мове – у Торы – у вершы 37:19 (20) чытаем [4]:,בעל החלומות што можна даслоўна перакласці як «гаспадар сноў» альбо «ўладальнік сноў». Так са зразумелай паводле кантэксту злой ironіяй браты кажуць пра Іосіфа, які наважыўся распавесці ім пра свае сны. У снах ён бачыў сябе вышэйшым за сваякоў, нават за бацьку з маці, што не магло не выклікаць абурэння ў братоў. Калі мы прыгадаем далейшае развіццё сюжэтнай лініі, звязанай з Іосіфам, то ўбачым, што ўсе найважнейшыя падзеі ў яго жыцці звязаныя менавіта са снамі, і перадусім з талентам іх правільнай інтэрпрэтацыі.

Для перакладчыка, які быў знаёмы з усёй гісторыяй Іосіфа, у гэтым кантэксце прынцыпова важна было падабраць найбольш дакладны адпаведнік для перадачы словазлучэння, што фігуруе ў старажытнаяўрэйскім тэксце. Вульгата [3] вырашае гэтую задачу дастаткова проста: у тэкст уведзены назоўнік *somniator*. Ён утвораны паводле мадэлі, адным з агульных значэнняў якой з'яўляецца намінацыя чалавека згодна з відам яго дзейнасці.

У «Лацінска-рускім слоўніку» [3] падаецца, што *somniator* – гэта не адзінкавы неалагізм, ужыты выключна ў дадзеным кантэксце. Зазначаецца, што дадзеная лексема сустракаецца яшчэ ў некалькіх біблейскіх кантэкстах, якіх, тым не менш, вельмі няшмат.

Кальку лацінскай мадэлі знаходзім – як гэта ні дзіўна – толькі ў перакладзе Сымона Буднага [6]: *śniarz*. Структура слова дакладна адпавядае лацінскаму першаўзору: у якасці словаўтваральнай асновы выступае назва аб'екта дзейнасці – *sen (śń-)*, у якасці словаўтваральнага афікса – суфікс *-arz*, пры дапамозе якога ў польскай мове ўтвараліся і ўтвараюцца назвы асоб паводле віду іх дзейнасці (*pisarz, malarz*). Цікавым фактам з'яўляецца тое, што пераклад Сымона Буднага зроблены непасрэдна са старажытаяўрэйскай мовы, і цалкам натуральна было б сутыкнуцца ў гэтым тэксце з калькай менавіта з гэтай, а не з лацінскай мовы.

Тыя пераклады Бібліі на польскую мову, што былі выдадзены ў XVI ст. і афіцыйна заяўлены ў прадмовах альбо нават у назвах на тытульнай старонцы як пераклады менавіта з лацінскай мовы, дэманструюць іншыя мадэлі перадачы гэтага фрагмента біблейскага тэксту. Нівоздін з іх не звяртаецца да мадэлі, рэалізаванай у Вульгаце.

У перакладзе Якуба Вуека [9], які на доўгі час стаўся адзіным афіцыйна прынятым для каталіцкіх вернікаў і нарматыўным з пункту гледжання мовы перакладам, знаходзім кампазітны дэрыват *widosen*. Яго з'яўленне менавіта ў гэтым тэксце таксама даволі нечаканае, бо кампазітную мадэль паслядоўна рэалізуюць у выданнях гэтага перыяду толькі ўсходнеславянскія выданні Францыска Скарыны [2] і Івана Фёдарава [1]. Парадак элементаў адрозніваецца ад прапанаванага Якубам Вуекам: *сновидець*.

Складанне асноў з суфіксацыяй ці без яе з'яўляецца адным з характэрных прыёмаў усходнеславянскіх перакладчыкаў, што перакладалі Біблію на царкоўнаславянскую мову ў яе мясцовых варыянтах. Часцей за ўсё падобныя дэрываты ўзыходзяць да грэчаскіх арыгіналаў. Пераклад Якуба Вуека ў гэты перыяд з'яўляецца адзіным з польскіх перакладаў, які не знаходзіўся ў сферы ўсходнеславянскага моўнага і культурнага ўплыву. Выбраная перакладчыкам мадэль паказвае, што альбо падобныя ўплывы ўсё ж такі былі, альбо Якуб Вуек таксама арыентаваўся на грэчаскія ўзоры.

Пераклады Бібліі на польскую мову, тым ці іншым чынам звязаныя з усходнеславянскім рэгіёнам, рэалізуюць трэцюю стратэгію перадачы зыходнага старажытнаяўрэйскага словазлучэння – таксама пры дапамозе словазлучэння. У Бібліі Яна Леапаліты [7] знаходзім пераклад *rozprawca snow*. Гэты варыянт даслоўна паўтарае пераклад, прапанаваны ў чэшскай Венецыянскай Бібліі [8]: *rozpráwcze snuow*. Сувязь паміж гэтымі выданнямі тлумачыцца проста: пераклад Яна Леапаліты з'яўляецца адрэдагаваным ранейшым ананімным польскім перакладам, які – як і ўсе першыя польскія пераклады Бібліі – у значнай ступені абапіраўся на чэшскія здабыткі ў сферы перакладa Пісанняў. Таму тут мы можам весці гаворку пра непасрэднае запазычанне.

Радзівілаўская Біблія [5] рэалізуе аналітычную словаўтваральную парафразу ў форме даданага сказа: *on co sny wida*. У параўнанні з чэшскім перакладам і перакладам Яна Леапаліты гэтая парафраза з'яўляецца бліжэйшай да арыгінала з пункту гледжання значэння, бо не дадае семантычны кампанент 'інтэрпрэтатар сноў'. У старажытнаяўрэйскім тэксце значэнне гэтага фрагмента – 'той, у каго ёсць сны, хто мае сны', а не 'той, хто добра разумее і тлумачыць сны'. Стратэгія перадачы гэтага

фрагмента біблейскага тэксту, выбраная ў Радзівілаўскай Бібліі, аказваецца бліжэйшай да пазнейшай стратэгіі Якуба Вуека, а не «суседа па рэгіёне» Яна Леапаліты.

Прыведзеныя прыклады паказваюць, што зыходнае словазлучэнне ў перакладзе можа быць згорнута як да аднаго слова, так і разгорнута ў цэлы сказ. Паміж гэтымі магчымасцямі знаходзяцца ўласна словазлучэнні і кампазітныя дэрываты. Выбар абумоўліваецца ўздзеяннем складанай сістэмы культурна-гістарычных фактараў: арыентацыяй на ўзор з пэўнага арыгінала, рэгіянальнымі ўплывамі, непасрэднымі запазычаннямі з іншых перакладаў.

***Літаратура***


1. Библия. Острог, 1581.
2. Біблія / пер. і камент. Ф. Скарыны. – Мінск, 1990–1991. – Т. 1.
3. Дворецкий, И.Х. Латинско-русский словарь / И.Х. Дворецкий. – М., 1976.
4. Biblia Hebraica Stuttgartensia. – Stuttgart, 1977.
5. Biblia święta, tho iest Księgo Starego y Nowego Zakonu, właśnie z Żydowskiego, Greckiego, y Łacińskiego, nowo na polski język z pilnością y wiernie wyłożone. – Brześć, 1563.
6. Biblia. To iest, księgi starego y nowego przymierza, z nowu z języka Ebreyskiego, Grecskiego y Łacińskiego na Polski przełożone. – Nieśwież, 1572.
7. Biblia. To iest, Księgi Stharego y Nowego Zakonu na Polski ięzyk, z pilnością według Łacińskiey Biblieу od Kościoła Krześciańskiego powszechnego przyiętey, nowo wyłożona. – Kraków, 1561.
8. Biblij Cžeská W Benátkách tisstená. – Venetiis, 1506.
9. Biblija To jest Księgi Starego i Nowego Testamentu według łacińskiego przekładu starego w kościele powszechnym przyjętego na Polski język znowu z pilnością przełożone, z dokładaniem tekstu Żydowskiego i Greckiego i z wykładem Katolickim trudniejszych miejsc do obrony wiary świętej powszechnej przeciw kacerstwom tych czasów należących. – Kraków, 1599.


***В.Я. Барысенка*** (Мазыр, Беларусь )

## ДЗЕЯСЛОЎНАЯ МЕТАФАРА Ў ПАЭЗІІ ВАСІЛЯ ЗУЁНКА

Метафара, як адзначаюць даследчыкі, «працуе не сама па сабе, не ізалявана, а ў сістэме ўсяго апавядання» [1, с. 29].

Імпліцытнае значэнне метафары ў мове Васіля Зуёнка мае традыцыйны характар. Майстэрства паэта праяўляецца перш за ўсё ў натуральнасці ўжывання метафар, у іх мастацкай абгрунтаванасці. Метафары як тропы ў мове твораў паэта выражаюцца дзеясловам, назоўнікам, а такія часціны мовы, як прыметнік, дзеепрыметнік і прыслоўе, дапамагаюць іх сінтаксічнаму афармленню.

Дзеяслоўныя метафары ў мастацкіх творах паэта – найбольш пашыраны троп. Механізм метафарызацыі дзеяслова ўтвараецца па наступнай схеме: назоўнік + дзеяслоў і як вынік – імпліцытнае прырашчэнне семантыкі, заснаванае на выкарыстанні дзеяслова ў незвычайнай сігніфікацыі: *Над полымем, як птахі, узляталі і беглі пакупацца ў чыстых росах. Пажадна-ачышчальнае* ***Купалле кацілася***, ***юрыла*** *шматгалоса* [2, с. 59]; ***Жыжаль*** *надоечы борці* ***агледзеў*** *–* ***поўдзень*** *пчалінаю песняй* ***гудзе****. Князю выносіцца частаванне: з мёдам і* ***гутарка*** *мёдам* ***цячэ****. Соты напоўнены сонечным ззяннем,* ***сонейка скача*** *ў блакіце вачэй* [2, с. 55]; *І, як мячом, гэтым* ***крыкам рассекла*** *повязі нітку крэўных братоў* ***Каменем*** *цяжкім* ***натоўп зварухнуўся*** *–* ***і***

***пакаціўся** – уверх – на курган! Імем касцёла і Езуса-бога вёў Сігізмунд інквізітарскі рэй* [2, с. 70].

Дзеяслоўныя метафары ў залежнасці ад колькасці назоўнікаў падзелены на адна-, двух- і полівалентныя. Аднавалентныя дзеяслоўныя метафары – гэта ўжыванне аднаго назоўніка ў прамым значэнні з метафарызаваным дзеясловам: *Хай пражывуць у бяспамяцці крэўным, без каранёў, як звяры між людзей ды і на тым ужо свеце, напэўна, з бацькам сыноў страшны **суд не звядзе*** [2, с. 72]; *Дзесьці за лесам **захад** крывавы **падаў** знясіленым птахам на дол...* [2, с. 73]; *Колькі ж па лесе пятляць, нібы заяц, з-пад каршуновага бегчы крыла? Колькі, скажы, беларускую завязь **град будзе біць**, каб пладоў не дала?..* [2, с. 75]; *Цішыню не пачуў Лукомскі – толькі раптам здалося: нема **гайдануўся** дарогаю боскай **свет** у пекла з няўмольнага неба... і паміс у маўчанні гаркотным, нібы д'ябальскае памялішча, дымны хвост над лукою балотнай, што пятлёй абнімала кастрышча...*[2, с. 83].

Двухвалентныя дзеяслоўныя метафары – выкарыстанне дадатковага назоўніка побач з асноўным, які выконвае пры двухвалентным метафарызаваным дзеяслове сінтаксічную функцыю прамога, ускоснага аб'екта ці параўнання: *І далей, і далей – безупынку – як **імгненні ўзрастаюць у дні**, як **стагоддзі пластуюцца ў вечнасць**, так ідуць і ідуць з глыбіні сто крыніц на Лукомскае веча. Сто – як вечнасць, як неба, як лёс, – як на шчыт, – на азёрны плёс* [2, с. 102]; *Стаіць Іван, гадае, чаму ж тут гэтак пуста, хоць і прывык з гадамі **загадак грызці лусту...*** [2, с. 87]; *Закон існуе – як зямля, як паветра, як неба, як зоркі, як вечнасць сама. **Законы ўзнімае гісторыя** з нетраў і селіць у куранках і ў дамах* [2, с. 92]; *Куды пахінуцца – гадае, напэўна тысячу год: **на захад – дзень хлебадайны**, **на ўсходзе – песні ўмалот*** [2, с. 5]; *Пачынаўся атамны стрэсс. **Уразаецца ў нетры прагрэсс** – расступаецца дзікі лес, лес непраходны, лес непрабудны – блізка, блізка дзень яго судны... І калі ўжо не стане лесу – значыць, **будзе вершыня прагрэсу*** [2, с. 11]; *Над вякамі згубленных сцяжын, ды вякамі скрыжаванных ісцін, над вякамі – нібы рубяжы, дзе шукаў народ да праўды выйсце; Над вякамі, дзе ляглі сыны, – памяці бяссоннымі званамі **ўзнімаюць неба курганы**, і **гаворыць неба з курганамі*** [2, с. 7] і інш.

Трохвалентныя метафарычныя дзеясловы – ужыванне двух дадатковых назоўнікаў: *На скрыжаванні ўсіх дарог, ўсіх вятроў, усіх эпох мая вякуе вёска. Усіх надзей, усіх трывог, усіх **смярцей і перамог жывуць** тут **адгалоскі*** [2, с. 8]; *Потым спраўна **ў боты абулі** ў вайсковыя – грозны **атам**. Тут ужо не схаваешся ў лес...* [2, с. 11].

Метафары прыносяць у паэзію Васіля Зуёнка навізну погляду на навакольны свет, элементы нечаканасці і першаадкрыцця рэчаіснасці. Паэт «малюе» з'явы і прадметы, надаючы ім рухомасць, раскрываючы ў іх раней не заўважанае і адначасова дае ім сваю ацэнку: ***Б'юць званы**, б'юць дзяржаўна-святыя, то набатна, то звонкім гарохам. **Дол гудзе**, і **гудуць камяніцы**, чарнакрыла **ўзрываюцца дахі**, і **пластаюцца вербы** ніца – як галовы кладуць на плахі* [2, с. 76]; *З кожнай пупышкі, як птушанятк і, **выпырхнуць коцікі** – сцюжам назло, выскачуць ярачкі і казлянятк і, – як і па самым пачатку было...*

[2, с. 76]; *Пяць рэчак з крыніцы маёй: Талінка – Нача – Бабёр – Бярэзіна – бацька-Дняпро сінякрылы, – Пяцірэчча, дзе продак выходзіў на ляда а лубянкай-сяўной, дзе калісьці на Рэпішчы* ***рэпа*** *салодка* ***радзіла*** [2, с. 4]; ***Ляцелі*** *пахавальныя – вайны* ***лісты*** *пахвальныя, што так яна стараецца, што столькі збіваецца... Ляцелі над Еўропаю,* ***кружыліся*** *над Азіяй – лісты, лісты жалобныя з казённаю аказіяй. Ляцелі,* ***роспач будзячы****, з вайны – штодзённа –* ***падалі****, як лісце з кроны будучых стагоддзяў неразгаданных. Стагоддзяў ненароджанных, ад свету адгароджанных. Стагоддзяў з вечнай тайнай, стагоддзяў непачатых, стагоддзяў растаптаных пятой цяжкіх пячатак* [2, с. 6] і інш.

У гэтых метафарычных радках заключаны надзвычай ёмістыя вобразныя думкі. Каб перадаць гэтыя думкі звычайнай мовай, спатрэбілася б намнога больш слоў, прычым апісанне збяднела б ад страты эстэтычнай інфармацыі.

Амаль у кожным вершы або паэме прысутнічае свой адметны і непаўторны вобраз, які дапамагае нам вылучыць і асэнсаваць галоўную задуму твора, сутнасць яго зместу. І ў гэтым асэнсаванні вялікую ролю адыгрываюць метафары, бо пры іх дапамозе аўтар падае нам сваё бачанне рэчаіснасці, а наша мэта – усрпыняць аўтарскую задуму і на аснове гэтага стварыць уласны свет думак, эмоцый, перажыванняў. І калі гэта ўдаецца, то можна з поўным правам сказаць, што мастак дасягнуў сваёй галоўнай мэты: захапіць чытачоў, заставіў іх задумацца, паразважаць, далучыцца да свету паэзіі, арганічна зліцца з ёй і адчуць усю асалоду і хараство мастацкага слова.

Уся яго паэзія вельмі вобразная, маляўнічая і даступная кожнаму. Выкарыстоўваючы лексічныя і граматычныя сродкі ў сваёй творчасці, Васіль Зуёнак падпарадкоўваўся галоўнай задачы – стварыць мастацкі вобраз. І гэта яму ўдавалася: ***Дым стаіць*** *над Масквою дзябёлы, быццам неба нясе на падпорах* [2, с. 85]; ***Зямля хай пракляне*** *той штык, што выразаў тры зоркі на спіне* [2, с. 12]; *Чуюць дзеці ў цішыні* ***зернейка прабілася****, а* ***зямля*** *за карані роспачна* ***ўхапілася****...* [2, с. 19]; *Весела – пад звонкаю вясёлкай –* ***выязджала хмарка*** *з-за лясоў.* ***Лета перасмяглага асколкі шапацелі*** *ў спеласці аўсоў. Сонцам атачонае* ***прырэчча плавала*** *ў сп’янеласці малін. Раздаліся трэшчыны агніста – пырскаў залатых* ***лінуўся рой****. І* ***мільён праменьчыкаў*** *яршыстых напярэймы ім* ***ляцеў*** *гурмой.* ***Шухнуў кропель перагон*** *кароткі: з кожнае дажджынкі – па цвіку. І дыхнула лёгка і салодка парнасцю ад цёплага пяску* [2, с. 27].

У прыведзеных прыкладах дзеяслоўная метафара істотна паглыбляе ўнутраны змест вобраза, надае яму новыя сэнсавыя адценні, што і абумоўлівае яе выключную пашыранасць у паэтычнай творчасці Васіля Зуёнка і ў мастацкім мысленні.

Прааналізаваны матэрыял дазваляе сцвердзіць, што індывідуальнасць і самабытнасць стылю паэта ствараюць дзеяслоўныя метафары. Усе яны пашыраюць, дапаўняюць і надаюць новыя лексічныя значэнні агульнавядомым паняццям і словам, ствараюць вобразныя карціны рэчаіснасці, перадаюць пачуцці паэта, уздзейнічаюць на эмоцыі чытачоў.

Такім чынам у мове твораў Васіля Зуёнка шырока выкарыстоўваецца такі моўна-выяўленчы сродак, як дзеяслоўная метафара. Прычым працэс трапеізацыі працякае па-рознаму, што абумоўлена мастацкай задачай, якую вырашае паэт у кожным канкрэтным выпадку, а таксама яго індывідуальна-аўтарскім стылем.

***Літаратура***


1. Будагов, Р.А. Человек и его язык / Р.А. Будагов. – М.: Изд-во МГУ, 1976. – С. 29.
2. Зуёнак, В. Лукам'е: вершы і паэма / В. Зуёнак. – Мінск: Маст. літ., 1984. – 110 с.


***Л.А. Бессонова*** (Минск, Беларусь)

## ТЕМПОРАЛЬНОСТЬ В РУССКОЙ И БЕЛОРУССКОЙ ФРАЗЕОЛОГИИ

*Мало найдется других показателей культуры, которые в такой же степени характеризовали бы ее сущность, как понимание* ***времени****, в нем воплощается, с ним связано мироощущение эпохи, поведение людей, их сознание, ритм жизни, отношение к вещам.*

*А.Я. Гуревич*

Время является универсальной, бытийной категорией человеческого пространства, фундаментальной характеристикой окружающей действительности. Время не дано человеку в непосредственном наблюдении, однако принадлежит к числу тех понятий, которые описываются при помощи языка и выявляются в его лексике и фразеологии. Н.Ю. Шведова называет время в числе 20 общих смысловых категорий, которые формируют смысловой каркас языка и таким образом составляют наиболее абстрактный уровень языковой картины мира. По наблюдению Ю.Н. Караулова, диапазон лингвистических исследований семантической зоны времени отличается значительной широтой: «от элементарного поля "день – ночь" до поля "время" в текстах отдельной области знания и в языке в целом» [5, с. 52]. Само слово ***время*** связано с глаголом *вертеть (вращать)* [1, с. 71]. В русской картине мира идея времени связана с идеей круговорота, бесконечности времени.

В академических словарях современного русского литературного языка насчитывается около 130 лексем, относящихся к разным частям речи, у которых временное значение является доминантным. В словаре «Лексическая основа русского языка» [8] подробно рассматривается тема времени в русской языковой картине: 1) время общего понятия; 2) повторяемость времени; 3) длительность времени; 4) временная точка.

Представление о времени как о самостоятельном фрагменте мира, отраженном языковым сознанием, находит выражение в семантике фразеологических единиц (около 300 фразеологизмов в русском языке). Как отмечает В.А. Маслова, «фразеологические единицы возникают не столько для того, чтобы описывать мир, сколько для того, чтобы его интерпретировать, оценивать и выражать к нему субъективное отношение» [7, с. 81].

Национально-культурная специфика фразеологизмов может проявляться на трех уровнях: 1) в совокупном фразеологическом значении; 2) в значении отдельных лексических компонентов; 3) в прямом значении свободного словосочетания, которое было образно переосмыслено [2, с. 122–124). Культурная и языковая картины мира

носителей близкородственных языков тесно взаимосвязаны, что находит отражение в лексике и фразеологии. Как показал анализ «Этымалагічнага слоўніка фразеалагізмаў» И.Я. Лепешева, большинство темпоральных фразеологизмов являются общими для восточнославянских языков *(день открытых дверей – дзень адкрытых дзвярэй, без пяти минут – без пяці мінут, до первых петухов – да першых пеўняў и др.).* В белорусском языке среди темпоральных фразеологизмов употребительны кальки *(ва векі вякоў* – лат. *in saecula saeculorum, гадзіна пік* – франц. *heures de pointe, мядовы месяц* – франц. *la lune de miel, парадак дня* – нем. Tagesordnung) и полукальки *(бітая гадзіна* – русск. *битый час, без году тыдзень* – русск. *без году неделя, да грэчаскіх календаў* – лат. *ad calendes graecas, на святое ніколі* – польск. *na swiety nikdy).* Собственно белорусские темпоральные фразеологизмы немногочисленны: *гады ў рады*, *дзенна і ночна*, *за дзедам шведам*, *зімой і летам адным цветам*, *тры чвэрці (да смерці)*, *у момант вока*; *хоць у пятніцу*; *чуць золак* [6].

Фразеологизмы данного раздела отражают эмоционально окрашенные темпоральные характеристики процесса, действия, состояния. Фразеосемантическое поле времени в обоих языках представлено фразеологизмами двух видов: 1) в составе фразеологизмов присутствует темпоральная лексика *(сию секунду, средь бела дня, медовый месяц)*; 2) фразеологизмы не содержат временных лексем, принадлежность к исследуемому полю определяется семантикой *(при царе Горохе, на носу, морковкино заговенье)*. Самыми активными и употребительными темпоральными лексемами в составе фразеологизмов являются *время, год* и *день*: в толковом словаре [9, с. 155–156] зафиксировано 33 значения контекстного употребления существительного время: *время бежит, на первое время, время от времени* и т. д.

Фразеосемантическое поле времени представляет собой сложное по структуре объединение фразеологических единиц, обладающих семой ‘длительность’, ‘промежуток времени’, ‘момент’; в центре поля расположены фразеологизмы, в значении которых отражено представление о времени объективном, на периферии – фразеологизмы, имеющие сему ‘субъективное время’.

Фразеологические единицы русского и белорусского языков, описывающие фрагмент языковой картины времени, можно разделить на фразеосемантические группы, отражающие следующие понятия: 1) «***рано***»: *ни свет ни заря – ні свет, ні зара* и др.; 2) «***поздно***»: *еще не вечер,* общий для бел. и укр. языков *у свіньня галасы* и др.; 3) «***давно***»: *испокон веков – спакон веку* и др.; 4) «***недавно***»: *на днях – гэтымі днямі* и др.*;* 5) «***будущее***»: *в скором времени – па малой гадзіне, па хуткім часе;* 6) «***никогда***»: *когда рак свистнет – калі рак на гары свісне* и др.; 7) «***сейчас***»: *сию минуту – у той самы момант* и др.; 8) «***своевременность***»: *в свое время – у сваім часе* и др.*;* 9) «***несвоевременность***»: *не в пору – не ў пару и др.*; 10) «***долго***»: *битый час – бітая гадзіна, до второго пришествия – да другога прышэсця* и др.; 11)«***недолго***»: *на минуточку – на хвілінку и др.*; 12) «***быстро***»: *в один (единый) миг – у адзін міг* и др.; 13) «***медленно***»: *через час по чайной ложке – у гадзіну па чайнай лыжцы, как черепаха –*

*як з гаршкамі на торг, як муха на смале;* 14) «***постоянно***», «***часто***»: *день ото дня – што ні дзень* и др.*;* 15) «***редко, иногда***»: *время от времени – калі-нікалі, раз-пораз* и др.; 16) «***постепенно***»: *час от часу – час ад часу* и др.*;* 17) «***промежуток времени***»: *черный день – чорны дзень и* др.

В значении фразеологических оборотов, относящихся к фразеосемантическому полю времени, могут появляться дополнительные дифференциальные семы, усложняющие семантику фразеологизма. Например, *бархатный сезон, бабье лето* ‘промежуток времени’ → ‘состояние природы’, *как сонная муха* ‘медленно’ → ‘субъект’. Особый интерес вызывает общеславянский фразеологизм *бабье лето – бабіна лета*, имеющий в болгарском языке другое соответствие: *сиромашко лято* – букв. «бедное, несчастное лето». В русском языке данная фразеологическая единица имеет 2 значения, а в белорусском – 4 [6, с. 43]. Собственно белорусские фразеологизмы, в состав которых входит темпоральная лексема, иногда могут расширять свою семантику: *начная зязюля* – жена, *рыцар ночы* – злобный враг прогресса.

Следует отметить, что большая часть фразеологических единиц, описывающих время, нейтральна. Осложненность семантики темпоральных фразеологизмов может наблюдаться как на сигнификативно-денотативном, так и на коннотативном уровне. Коннотативные компоненты значения присущи лишь некоторым фразеологизмам. Например, отрицательную оценочность имеют фразеологизмы с семой ‘промежуток времени’: *черный день, черный год, смертный (последний) час;* эмотивную сему шутливости имеют фразеологизмы *при царе Горохе, после дождичка в четверг.*

Среди темпоральных фразеологизмов можно выделить полисемичные фразеологические единицы, значения которых объединены «единым образным стержнем», существуют самостоятельно и являются равноправными: *на днях* – 1) в один из ближайших дней, в ближайшее время; 2) недавно, несколько дней назад; *с часу на час* – 1) в самое ближайшее время; 2) по мере течения времени. Отдельные фразеологизмы могут входить не только в фразеосемантическое поле времени: например, фразеологизмы *за плечами, не за горами* относятся к фразеосемантическому полю пространства; фразеологические единицы *до бесконечности, изо всех сил, что есть мочи, полным ходом* имеют сему ‘интенсивности’.

Сопоставление русской и белорусской темпоральной фразеологии обнаруживает общую типологическую универсалию, позволяет сделать вывод о значительном сходстве в представлении понятия «время». Время присутствует в наивной картине мира человека независимо от его национально-культурной принадлежности. По мнению Т.В. Топоровой, именно время организует «пределы, в которых развертывается человеческая жизнь и тем самым определяют все остальные категории – судьбу, право, социальное устройство» [10, с. 12].

Темпоральные фразеологизмы в русском и белорусском языках составляют довольно многочисленную группу и доказывают, что «циферблат со спешащей секундной стрелкой мог бы стать символом нашей цивилизации» [4, с. 45].

***Литература***


1. Алефиренко, Н.Ф. Фразеологический словарь: Культурно-познавательное пространство русской идиоматики / Н.Ф. Алефиренко, Л.Г. Золотых. – М., 2008.
2. Арсентьева, Е.Ф. Национально-культурная специфика фразеологических единиц / Е.Ф. Арсентьева // III Международные Бодуэновские чтения (Казань, 23 – 25 мая 2006 г.): труды и материалы: в 2 т. – Казань, 2006. – Т. 2. – С. 122–124.
3. Боярина, Е.Л. 2000 русских и 2000 белорусских идиом, фразеологизмов и устойчивых словосочетаний / Е.Л. Боярина, В.Н. Сивчиков. – Минск, 2006.
4. Гуревич, А.Я. Категории средневековой культуры / А.Я. Гуревич. – М., 1984.
5. Караулов, Ю.Н. Общая и русская идеография / Ю.Н. Караулов. – М., 1976.
6. Лепешаў, І.Я. Этымалагічны слоўнік фразеалагізмаў / І.Я. Лепешаў. – Мінск, 2004.
7. Маслова, В А. Лингвокультурология / В.А. Маслова. – М., 2001.
8. Морковкин, В.В. Опыт идеографического описания лексики (анализ слов со значением времени в русском языке) / В.В. Морковкин. – М., 1977.
9. Толковый словарь русского языка / под ред. Д.В. Дмитриева. – М., 2003.
10. Топорова, Т.В. Культура в зеркале языка / Т.В. Топорова. – М., 1996.
11. Фразеологический словарь русского языка / сост. Степанова М.И. – СПб., 2009.


***Т.В. Бобко*** (Минск, Беларусь)

## РУССКИЙ VS. БЕЛОРУССКИЙ ЯЗЫКИ ГЛАЗАМИ НАИВНОГО ПОЛЬЗОВАТЕЛЯ ЯЗЫКА

Исследования в области так называемой наивной лингвистики – одно из актуальных направлений современного языкознания. Богатый материал для изучения «наивных» представлений говорящих о языке или речи (а также о вербальной коммуникации в целом) дает обращение к спонтанным высказываниям, отражающим наивную языковую картину мира. Естественная, неподготовленная речевая деятельность говорящих отражается в неформальном интернет-общении (форумах, чатах, блогах), которое имитирует живой, непринужденный диалог или монолог и позволяет выявить спонтанные, высказанные мимоходом, суждения о тех или иных явлениях языка и речи.

Цель нашего доклада – определить те лингвистические и окололингвистические проблемы, которые интересуют «наивного» носителя языка. В качестве источника материала мы рассматривали популярные русскоязычные белорусские форумы, которые ежедневно посещают сотни пользователей и на которых обсуждается очень широкий круг самых разнообразных проблем.

Самые актуальные вопросы, связанные с языком, можно проследить по наличию на многих сайтах популярных специальных тем (веток), касающихся таких вопросов, как: 1) изучение языка: выбор и изучение иностранного языка как взрослыми, так и детьми; изучение русского или белорусского языка в школе; проблемы грамотности или чтения; 2) выбор имени / ника или фамилии: выбор имени для ребенка; сочетание имени и фамилии; смена фамилии при замужестве; выбор и объяснение ника; 3) развитие речи: задержка или нарушение речевого развития; 4) обсуждение детских высказываний;

5) ошибки и опечатки: цитирование высказываний, содержащих опечатки и ошибки; обсуждение фактов нарушения норм языка или самых раздражающих ошибок.

Из приведенного списка видно, что большинство вопросов, которые волнуют говорящих, относятся скорее к социальной сфере. Язык становится предметом обсуждения только тогда, когда нарушаются те или иные его нормы.

При этом любопытно отметить, что проблемы белорусско-русского двуязычия и языковой ситуации в стране, как правило, не становятся предметом специального обсуждения: участников интернет-дискуссий интересуют, в основном, практические вопросы. Самая популярная тема – это изучение белорусского языка в школе: выбор школы для первоклассника, плюсы и минусы обучения в белорусскоязычных школах, способы повышения грамотности у школьников. Еще один популярный вопрос – как познакомить с белорусским языком дошкольника, где найти детские книги или учебные пособия, мультфильмы или фильмы.

Кроме этого, пользователи Сети активно обсуждают вопросы транслитерации имени и фамилии в паспорте, возможности белорусизации операторов мобильной связи или компьютерных программ.

Из чисто лингвистических вопросов самый главный – это выбор написания *Белоруссия / Беларусь*, *белорусский / беларуский*. Комментарии, связанные с фактами нарушения норм белорусского языка, встречаются очень редко.

Следует отметить, что существуют специальные опросы, цель которых – выяснить уровень владения белорусским языком, а также сферы и частоту его использования, причины и условия, в соответствии с которыми говорящие выбирают русский или белорусский язык. Любопытно, что большинство отвечающих в этих темах пишут по-русски, даже если говорят о необходимости поддерживать и развивать белорусский язык.

С другой стороны, использование белорусского языка в дискуссии, где большинство участников высказываются по-русски, обычно не вызывает комментариев или вопросов – по-видимому, это воспринимается как нечто естественное (лишь в редких случаях переход с одного языка на другой становится темой для обсуждения). Но при этом многие пишущие по-белорусски считают своим долгом заранее извиниться за возможные ошибки, чего не делают русскоязычные коммуниканты (было выявлено лишь несколько случаев такого рода).

***А.І. Богдан*** (Мінск , Беларусь)

## ПЕРАКЛАД: ТЭКСТ, АЎТАР І ПЕРАКЛАДЧЫК

Хуткае развіццё сродкаў масавай інфармацыі на сучасным этапе прывяло да скарачэння адлегласці паміж народамі, у тым ліку і ў галіне культуры. Сучасны чытач больш, чым раней, сочыць за перакладчыцкай працай, можа сам праверыць перакладчыка. І ў гэтым адна з прычын узнікнення палемікі, прысвечанай праблемам

перакладу, таму, якім ён павінен быць (блізкім да тэксту ці творчым), яго непераадольных цяжкасцей і нават немагчымасцей перакладу асобных моўных адзінак.

Даследуючы пераклад, неабходна заўсёды помніць асноўныя, базавыя, этапы яго стварэння: 1) разуменне тэкста-арыгінала, 2) непасрэдна пераклад, 3) запіс атрыманага, перакладзенага, тэкста. За ўсімі гэтымі этапамі стаяць асобы пісьменніка і перакладчыка (праўда, часам яны могуць супадаць), якія здабытак адной нацыянальнай літаратуры пашыраюць сярод чытачоў іншага нацыянальнага асяроддзя і па-сутнасці, у пэўнай ступені, ствараюць новы твор.

У свой час Ф. Міка слушна адзначыў: «…пераклад – гэта адна з формаў існавання літаратурнага твора» [3, с. 157]. Успрыняцце перакладных помнікаў як асобнага пласту літаратуры, які знаходзіцца паміж «сваёй» і «чужой», кожны раз залежыць ад асобы перакладчыка, таго, як менавіта гэтая кантрэтная асоба перакладзе менавіта гэты тэкст. Праўда, тут неабходна помніць, што твор, напісаны на іншай мове, заўсёды будзе спалучаць у сваёй структуры два элементы: прыналежнасць да нацыянальнай пісьменнасці і перакладны варыянт тэкста, звязаны з майстэрствам перакладчыка.

Пераклад заўсёды існуе ў іншым моўным асяроддзі як самастойны літаратурны помнік і толькі ў яго асяроддзі можа быць успрыняты і ацэнены чытачом. Праўда, з пункту гледжання параўнальнага літаратуразнаўства пераклад можа быць супастаўлены з арыгіналам і іншымі перакладамі гэтага ж помніка на тую ж мову і іншыя мовы як тыпалагічна падобныя з’явы, а адрозненні паміж імі могуць быць усвядомлены ў іх аб’ектыўнай абумоўленасці моўнымі асаблівасцямі, асяроддзем, часам, літаратурнымі традыцыямі і г. д. і, зразумела, творчай індывідуальнасцю асобы перакладчыка, дзякуючы якой помнік слова ўзнікае перад чытачом у новым свеце.

Паняцце індывідуальнасці асобы перакладчыка закранае сутнасць уяўлення пра пераклад, належыць да яго найбольш цікавых і адначасова складаных праблем. Гаворачы пра праблему творчай асобы пры перакладзе, вядомы грузінскі даследчык і перакладчык Г. Гачэчыладзе адзначыў, што тут гаворка ідзе перш за ўсё пра сістэму адгалінаванняў ад тэкста арыгінала, якая ўзыходзіць да пэўных творчых прынцыпаў, да пэўнага падыходу да задач перакладу і да пэўнага метаду [1, с. 160].

Як вядома, творчая індывідуальнасць перакладчыка існцуе рэальна. У перакладчыка любой спецыяльнасці ёсць свае характэрныя прыёмы, прыхільнасці (у тым ліку і неўсвядомленыя), якія выяўляюцца ў выбары слоў, абаротаў мовы, сінтаксічных канструкцыях, тэрміналогіі і г. д. Усё гэта, узятае разам, можа шмат значыць для ацэнкі якасці работы перакладчыка, але наўрад ці мае прынцыповае, агульнае значэнне: адна і тая ж думка можа быць адноўлена на кожнай мове па-рознаму, а для навукова-тэхнічнага перакладу, па сутнасці, не мае значэння спосаб аднаўлення, таму што галоўнае тут – правільна ўсвядоміць асноўную думку і правільна данесці яе да чытача.

Для мастацкага перакладa характэрны феномен множнасці. Тут не можа быць фінальнага, канчатковага перакладу. Кожны перакладчык, які робіць больш позні па часу

ўзнікнення пераклад, выкарыстоўвае вопыт сваіх папярэднікаў, абапіраецца на лепшыя іх дасягненні. Гэтая традыцыя ахоплівае не толькі ўласна вопыт папярднікаў-перакладчыкаў, але і чытацкага ўспрыняцця: перакладчыкі больш позняга часу могуць разлічваць на большы водгук, таму што новыя пераклады трапляюць на больш падрыхтаваную глебу: твор ужо ў пэўнай ступені «свой» у новай нацыянальнай літаратуры.

З другога боку, ніхто не можа сцвярджаць, што наступны перакладчык будзе больш таленавіты, удалы і г. д., што яго пераклад будзе больш дасканалы і дакладны. Відавочна толькі тое, што яго пераклад будзе іншым, прычым у індывідуальных адрозненнях будуць бачыцца і агульныя заканамернасці, новыя чыцацкія густы і г. д.

Пытанне аб тым, які пераклад лічыць выдатным, а які – дрэнным, надзвычай цяжкае. Усе спробы дакладна вымерыць і ацаніць якасць мастацкага перакладa застаюцца, па сутнасці, на тым жа ўзроўні гэтай праблемы. Любая крытычная ацэнка можа быць адменена іншай крытычнай ацэнкай, таксама як і адзін пераклад можа быць адмоўлены другім, больш дакладным, прычым не абавязкова лепшым, проста – іншым. І вялікую ролю тут адыгрывае мастацкая, эстэтычная, сіла літаратурнага помніка, у тым ліку і перакладa, якая не паддаецца колькаснаму вымярэнню і якая супраціўляецца любой фармалізацыі.

Ацэнка якасці перакладa (акрамя выпадкаў непрафесіяналізму), не можа быць ні безумоўна дакладанай, ні адзінай, якія бы навуковыя абгрунтаванні-падыходы не выкарыстоўваў крытык. Яна залежыць ад разумення творчай індывідуальнасці перакладчыка і той творчай мэты, якая звязана з літаратурнымі і перакладчыцкімі традыцыямі, а таксама адносінамі да іх, з літаратурна-грамадскімі абставінамі і г. д. Менавіта таму разнастайныя памылкі, якія могуць існаваць у перакладзе, не могуць самі па сабе быць доказам таго, што пераклад дрэнны, таксама як і асобныя, нават самыя выдатныя, знаходкі не могуць быць прыкладам выдатнага перакладу. Так, М.Ю. Лермантаў, перакладаючы верш Р. Бернса, зблытаў англійскае слова «kind» («пяшчотна») з нямецкім «Kind» («дзіця»), што не перашкодзіла яго перакладу стаць жамчужынай рускай паэзіі. І такіх прыкладаў даволі шмат у сусветнай літаратуры.

Гаворачы пра пераклад і арыгінал тэкста, неабходна адзначыць, што пераклад заўсёды ўмоўны, таму што ён адначасова з'яўляецца і тэкстам-перакладам пэўнага арыгінала, і самастойным літаратурным тэкстам, напісаным перакладчыкам, прычым не толькі са знешняга боку (абставіны сюжэтнага дзеяння і г. д.), але і з унутранага (асаблівасці нацыянальнага характару, мыслення і г. д.).

Такім чынам, адчуванне непрыналежнасці перакладу да айчыннай літаратуры складваецца, у першую чаргу, з дапамогай моўных сродкаў. Так, А. Пушкін, перакладаючы А. Міцкевіча, дазваляў сабе ўключаць у тэкст перакладу паланізмы тыпу «пан», «пані» і г. д. Найбольш жа адыёзным прыкладам літаралізма ў сучаснай літаратуры прынята лічыць чатырохтомны пераклад «Яўгена Анегіна» А. Пушкіна, зроблены У. Набокавым на англійскую мову і апублікаваны ў 1964 г.

Пераклад у гэтым выданні займае толькі частку першага тома, астатнюю яго частку і тры іншых тамы займаюць прадмова, каментары і розныя суправаджальныя тэксты. Увогуле, гаворачы пра перакладчыцкую дзейнасць У. Набокава, трэба адзначыць, што яго адносіны да мовы перакладa мяняліся ў залежнасці ад сітуацыі і пастаўленых перакладчыкам мэт (пераклад «Алісы ў краіне цудаў» Л. Кэрала зроблены як вольны пераказ англійскага тэкста, пераўтворанага ў рускую казку, дзе месца галоўнай гераіні займае руская дзяўчынка Аня, з мноствам іншых рускіх рэалій і побытавых дэталяў і г. д.).

Гаворачы пра пераклады, неабходна спыніцца на праблеме так званых неперакладальных слоў, якія маюць лакальныя адценні. Лінгвісты, даследуючы такія словы, складаюць іх спісы-пералікі, часам захоўваюць такія неперакладальныя словы ў мове перакладa, выкарыстоўваючы ў такіх выпадках калькі. Так, японскае слова «ワサビ» ці «山葵» («васабі») гучыць аднолькава ў розных мовах, а перакладаць яго трэба як «японскі хрэн».

Такім чынам, кожны пераклад – гэта свайго роду інтэрпрэтацыя тэксту-арыгінала, дзе не можа не адбіцца і не праявіцца творчая індывідуальнасць перакладчыка. Як казаў Б. Пастэрнак, «…штодзённае прасоўванне па тэксту ставіць перакладчыка ў былыя становішча аўтара. Ён дзень за днём аднаўляе рухі, аднойчы зробленыя вялікім правобразам» [2, с. 316]. Па сутнасці перакладчык стварае ўласную версію помніка пісьменнасці, як быццам новы, «другі арыгінал», а не проста інтэрпрэтуе яго.

Зразумела, паняцце «другі арыгінал» па сутнасці абсурд, таму што арыгінал заўсёды непаўторны, адзіны, але пераклад дае яму новае жыццё. У гэтым і заключана пэўная праблема філасофскага характару, якая закранае сутнасць перакладчыцкай працы. Апісваючы гэтую праблему ў тэрмінах герменеўтыкі, Р.-Р. Вутеноу гаворыць, што пераклад, будучы вынікам «разумення» і «тлумачэння», сам становіцца мастацкім творам і ў сваю чаргу, падобна арыгіналу, можа быць аб'ектам герменеўтычнага дзеяння.

Меркаваць прафісійна пра якасць перакладу, супастаўляючы яго з арыгіналам, могуць толькі тыя даследчыкі, якія валодаюць абедзвюма мовамі: мовай арыгінала і мовай перакладу. З другога боку, тут павінны ўлічвацца і пункт гледжання тых, каму неабходны пераклад, гэта значыць, чытачоў.

Чытацкае ўспрыняцце – вышэйшы аргумент у спрэчцы пра тое, наколькі добры пэўны пераклад, таму што менавіта чытацкае ўспрыняцце арганізуе вакол сябе ўсе астатнія крытэрыі, неабходныя для ацэнкі перакладу. Зразумела, што чытачы адрозніваюцца паміж сабой па сваім адукацыйным, узроставым, прафісійным і г. д. узроўнямі. Аднак гэтая акалічнасць не адыгрывае вялікай ролі пры ацэнцы перакладу навукова-тэхнічнага характару ці якога-небудзь дзелавога тэкста. Пры аналізе ж мастацкага тэксту гэтыя характарыстыкі адыгрываюць значную ролю.

Такім чынам, працуючы над іншамоўным тэкстам, перакладчык па-сутнасці стварае новы тэкст-пераклад, дзе павінен захоўваць эквівалентныя адносіны паміж тэкстам-

арыгіналам і тэкстам-перакладам для таго, каб гэтыя абодва тэксты неслі ў сабе аднолькавы сэнс. І істотную ролю тут адыгрывае асоба перакладчыка, якая часам можа супадаць з асобай аўтара тэксту-арыгінала.

***Літаратура***


1. Гачечиладзе, Г.Р. Художественный перевод и литературные взаимосвязи / Г.Р. Гачечиладзе. – 2-е изд. – М.: Сов. писатель, 1980. – 255 с.
2. Пастернак, Б. Избранное: в 2 т. / Б. Пастернак. – М.: Худ. лит, 1985. – Т. 2: Проза. Стихотворения. – 559 с.
3. Zajac, P. Creativity of Translation / P. Zajac. – «Slavica Slovaca». – 1987. – № 2. – P. 155–159.


***І.І. Бубновіч, Ж.С. Сіплівеня*** (Гродна, Беларусь)

## НАЗВЫ-АРЫЕНЦІРЫ Ў МІКРАТАПАНІМІІ ГРОДЗЕНСКАГА РАЁНА

У сістэме мікратапанімічных адзінак Гродзенскага раёна пэўнай прадукцыйнасцю вызначаюцца назвы-арыенціры, якія ў большасці выпадкаў суадносяцца з прыназоўнікава-іменнымі канструкцыямі. Звычайна з дапамогай такіх назваў менш вядомыя мікрааб’екты абазначаюцца праз больш вядомыя. Пры гэтым выкарыстоўваецца апасродкаваны прыём: указваюцца асаблівасці прасторавага становішча мікрааб’екта ў адносінах да іншых абазначаных ці неабазначаных, але дастаткова прыкметных і ўжо вядомых [1, с. 47]. Па словах Ю.А. Карпенкі, абавязковай умовай пры ўзнікненні такога мікратапоніма з’яўляецца толькі адно: «у момант нараджэння арыентыраванай назвы арыентыр павінен быць больш вядомы сярод мясцовага насельніцтва, чым абазначаны аб’ект. Пасля свайго з’яўлення арыентыраваная назва жыве ўласным жыццём, развіваючыся шляхам лексікалізацыі словазлучэння» [2, с. 21–22].

Варта адзначыць, што ў сучаснай лінгвістыцы сустракаем розныя меркаванні наконт характару навуковай кваліфікацыі назваў-арыенціраў. Так, напрыклад, А.І. Яшчанка лічыць неправамерным адносіць назвы-арыенціры, якія стасуюцца з прыназоўнікава-іменнымі спалучэннямі, да групы мікратапонімаў. На думку даследчыка, такія назвы не належаць да лексічнага ўзроўню мовы, не выконваюць намінацыйнай функцыі і выступаюць у маўленні як няпоўныя эліптычныя сказы [3, с. 22]. У.А. Ніканаў вызначае назвы-арыенціры як своеасаблівыя «эмбрыёны назваў», адны з якіх, трапіўшы ва ўмовы функцыйнага тапанімічнага асяроддзя, замацоўваюцца, падпадаюць пад працэс далейшай фармалізацыі, другія – бясследна знікаюць [4, с. 7]. Лінгвісты Я.М. Адамовіч [5], Э.Д. Галавіна [6], Д.Д. Паўлавец [7], А.А. Іванова [1] разглядаюць арыенціраваныя назвы побач з іншымі тыпамі простых і састаўных паводле структуры мікратапонімаў. Мы будзем кваліфікаваць назвы-арыенціры як адну з групаў мікратапанімічных адзінак, бо для іх характэрныя асноўныя ўласцівасці мікратапонімаў: 1) такія адзінкі вядомы адносна нешматлікаму колу людзей, што жывуць побач з названым аб’ектам; 2) вызначальнай рысай падобных адзінак з’яўляецца іх варыянтнасць: яны лёгка змяняюцца ці замяняюцца; 3) такія назвы ўзнікаюць як вынік стыхійнай народнай творчасці і не падпадаюць тэрытарыяльна-адміністрацыйнаму ўздзеянню.

Назіранні сведчаць, што сярод назваў-арыенціраў, якія пашыраны ў гаворках Гродзенскага раёна, можна вылучыць некалькі разрадаў. Пры гэтым мікратапонімы кожнага разрада будуць адрозніваццa сваёй фармальнай структурай, але паводле паходжання ўсе яны, як трапна падкрэслівае Я.М. Адамовіч, нагадваюць «часткі дыялога паміж суразмоўцамі, адказы на пытанні «дзе?», «куды?» «[8, с. 15]. Падобныя мікратапонімы звычайна выкарыстоўваюцца для абазначэння палёў, лугоў, ніў, сенажацей, пашаў, дарог, асобных частак населенага пункта. Радзей з дапамогай такіх адзінак называюцца лясныя мясціны, балоты.

Як паказвае аналіз фактычнага матэрыялу, найбольшае пашырэнне маюць назвы-арыенціры, што суадносяцца са спалучэннем назоўніка ў форме ўскоснага склону і прыназоўніка з прасторавым значэннем. У ролі назоўніка ў форме ўскоснага склону нярэдка ўжываюцца антрапонімы (прозвішча, мянушка або гутарковы варыянт афіцыйнага імя). Часам у такой функцыі выкарыстоўваюцца апелятывы, якія абазначаюць розныя прыродна-геаграфічныя паняцці. У якасці другога кампанента мікратапонімаў выступаюць прыназоўнікі *за, каля, пад, на, у, да.*

Звычайна назвы, што складаюцца з прыназоўніка *каля* і назоўніка ў форме роднага склону, маюць прасторавае значэнне і паказваюць на непасрэдную блізкасць аб'ектаў:

*Каля Ба́ні*. Агароды каля калгаснай бані (Капцёўка);

*Каля Бу́бавіцы.* Поле паблізу могілак у вёсцы Верцялішкі (Верцялішкі);

*Каля Вайнаро́віча*. Поле паблізу хаты, у якой ужо амаль стагоддзе жыве сям'я па прозвішчы Бейнаровіч (Баяры);

*Каля Во́зера*. Кусты, тэрыторыя каля сажалкі (Капцёўка);

*Каля Запру́ды.* Месца насупраць запруды баброў (Капцёўка);

*Каля Каню́шні*. Луг паблізу канюшні, што знаходзіцца ў вёсцы Верцялішкі (Верцялішкі);

*Каля Лайко́ўскага*. Частка поля паблізу хутара Ракітна (Верцялішкі);

*Каля Стро́ка*. Поле каля хутара чалавека, які меў мянушку Строк (Капцёўка);

*Каля Сушы́лкі*. Агароды калгаснікаў, што знаходзяцца паблізу зернесушылкі (Верцялішкі);

*Каля Фе́рмы.* Луг за вёскай Батароўка (Батароўка);

*Каля Фе́рмы.* Месца, дзе была старая калгасная ферма, а цяпер пабудаваныя дамы (Капцёўка);

*Каля Ча́наў*. Крыніцы каля ракі Нёман, якія прабіваюцца з зямлі ў бетонныя кругі (Кашэўнікі).

Структура назваў, якія складаюцца з прыназоўніка *пад* і назоўніка ў форме творнага склону, паказвае на тое, што аб'ект размяшчаецца перад іншым аб'ектам:

*Пад Амба́рам*. Выдзелены для агародаў калгаснікаў зямельны надзел, што знаходзіцца побач з калгасным зернясховішчам (Верцялішкі);

*Пад Бычо́ўнікам*. Частка лесу за вёскай Капцёўка, бліжэй да калгаснай фермы (Капцёўка);

*Пад Гера́сімчыхай*. Выган каля хаты, якая раней належала жанчыне па мянушцы Герасімчыха (Капцёўка);

*Пад Грудко́м*. Сенажаць на поўначы ад вёскі Галаўнічы (Верцялішкі);

*Пад Заста́ваю.* Поле, размешчанае на захадзе ад вёскі Верцялішкі (Верцялішкі);

*Пад Іва́нушкінай*. Частка пашы за вёскай Верцялішкі (Верцялішкі);

*Пад канто́рай.* Тэрыторыя каля будынка сельскага савета і калгаснай адміністрацыі (Капцёўка);

*Пад касцё́лам*. Тэрыторыя каля касцёла, разам з прылеглаю да яе дарогаю (Капцёўка);

*Пад Ло́гам*. Поле, размешчанае на захадзе ад вёскі Пундзішкі (Верцялішкі);

*Пад Ляско́м*. Поле, размешчанае на ўсходзе ад хутара Ракітна (Верцялішкі);

*Пад са́дзікам*. Тэрыторыя, прылеглая да дзіцячага садка (Капцёўка);

*Пад Скі́льмам*. Поле за вёскай Бычкі па дарозе да вёскі Грыўкі, бліжэй да лесу;

*Пад стало́вай*. Тэрыторыя каля кафэ (Капцёўка);

*Пад цэ́рквай*. Агароды каля царквы (Капцёўка);
*Пад Чыгу́нкай*. Поле побач з чыгункай, што праходзіць паблізу вёскі Жытомля (Верцялішкі);
*Пад Эваэ́мам*. Невялікае поле ў ваколіцах вёскі Верцялішкі (Верцялішкі);
*Пад Яро́цкім*. Пясчанае поле на поўдзень ад вёскі Баяры (Верцялішкі).

Зрэдку ў структуры назвы-арыенціра прыназоўнік *пад* выкарыстоўваецца ў спалучэнні з назоўнікам у форме вінавальнага склону. Такія назвы паказваюць на кірунак размяшчэння аб'екта:

*Пад Галі́цкаго*. Тэрыторыя, а таксама частка дарогі з паваротам каля хаты Галіцкага (Капцёўка).

У асобных выпадках прыназоўнікава-іменная канструкцыя можа развівацца за кошт прыметніка:

*Пад Стары́мі мо́гілкамі*. Участак зямлі каля старых могілак (Капцёўка);
*Пад Салда́цкі лес*. Поле за вёскай Капцёўка пад Салдацкім лесам (Капцёўка);
*Пад Пілю́цкі кар'ер*. Лясная мясціна паблізу кар'ера, размешчанага каля вёскі Пілюкі (Пілюкі).

Назвы-арыенціры, што складаюцца з прыназоўніка *за* і назоўніка ў творным склоне, маюць прасторавае значэнне і паказваюць на месцазнаходжанне мікратапоніма па-за іншым геаграфічным аб'ектам. Часта ў складзе такіх назваў выступаюць прозвішчы гаспадароў, хаты якіх знаходзяцца ў канцы вуліцы:

*За Булако́м*. Перакрыжаванне дарог за хатай чалавека па прозвішчы Булак (Капцёўка);
*За Бычко́м*. Частка поля за хатай чалавека па прозвішчы Бычэк (Капцёўка);
*За ве́скай*. Поле за вёскай Капцёўка, якое знаходзіцца за хатай гаспадара па прозвішчы Валынец (Капцёўка);
*За Ко́зырам*. Зямля, кусты за хатай, якая раней належала чалавеку па прозвішчы Козыраў (Капцёўка);
*За Майстэ́рнямі* (*За масцярскімі*). Частка лесу, што пачынаецца за калгаснымі майстэрнямі і зерняскладам (Капцёўка);
*За Мо́гілкамі*. Агароды за праваслаўнымі могілкамі (Капцёўка);
*За Рыжко́м*. Выган за хатай чалавека па прозвішчы Рыжко (Капцёўка);
*За Са́дам*. Поле паблізу калгаснага сада, размешчанае недалёка ад вёскі Завадзічы (Жытомля);
*За Та́ляўшчынай*. Поле за лесам Таляўшчына (Капцёўка);
*За Фе́рмай*. Поле, размешчанае паблізу вёскі Пілюкі (Верцялішкі).

Мікратапонімы, якія суадносяцца са спалучэннем прыназоўніка *на* і назоўніка ў форме меснага склону, паказваюць на кірунак руху. Як правіла, падобныя адзінкі з'яўляюцца назвамі дарог, радзей – найменнямі палёў і сенажацей:

*На БАМ*. Дарога на пабудаваную ў 80-я гады XX ст. калгасную ферму (Капцёўка);
*На до́мікі*. Дарога ад цэнтра вёскі на трохпавярховыя дамы (Капцёўка);
*На зернаскла́д*. Палявая дарога па-за могілкамі на зернясклад (Капцёўка);
*На Мастка́х*. Сенажаць, размешчаная за вёскай Верцялішкі на месцы асушанага балота (Верцялішкі);
*На Паліцэ́йскай*. Палетак за два кіламетры ад вёскі Верцялішкі (Верцялішкі);
*На Стро́кі*. Дарога ад вёскі Капцёўка на вёску Цвіклічы, што ідзе каля Строкавых гор (Капцёўка).

Назіранні сведчаць, што граматычная і лексічная ўстойлівасць мікратапонімаў, якія стасуюцца з прыназоўніка-іменнымі канструкцыямі, адносная: у іх могуць замяняцца прыназоўнікі, мяняцца форма склону: *Каля Бані – Пад Баняй, Каля Амбару – Пад Амбарам; Пад Галіцкім – Каля Галіцкага, Пад Старымі могілкамі – Каля Старых могілак*, аднак семантыка іх не змяняецца.

У пэўную групу можна аб'яднаць і мікратапонімы, у складзе якіх бачым назоўнік у форме назоўнага склону і прыназоўнікава-іменную канструкцыю, што паясняе гэты назоўнік. У структуры такіх мікратапонімаў нярэдка прысутнічаюць родавыя назвы накшталт возера, сажалка, дарога, канава, востраў і пад.: *Дарога на Гро́нна*

(Верцялішкі), *Яма ў Хвайне́* ‘нізкае забалочанае месца ў лесе’ (Верцялішкі), *Сажалка пад Брыке́там* (Верцялішкі), *Востраў на Багне́* (Верцялішкі); *Дарога на Сухмяні́* (Капцёўка), *Дарога на Палатко́ва (*Капцёўка), *Дарога на Цві́клічы* (Капцёўка) і інш.

Зафіксаваны і мікратапонімы, якія складаюцца з дзвюх прыназоўнікава-іменных канструкцый: *За Тарфіскам каля Млына* (Табала); *За Буртамі пад сажалкай* (Верцялішкі); *На Гусціне пад Савіцкімі* (Кашэўнікі); *У Старым Садзе каля Фермы* (Капцёўка), *На Строках пад Домікамі* (Капцёўка).

Такім чынам, назвы-арыенціры найчасцей выкарыстоўваюцца ў маўленні жыхароў старэйшага пакалення сельскай мясцовасці. У сістэме мікратапанімічных адзінак падобныя назвы вылучаюцца поліварыянтнасцю формаў і здольнасцю ў асобных выпадках трансфармавацца ў састаўныя найменні. Структурныя тыпы назваў-арыенціраў, што пашыраны на тэрыторыі Гродзенскага раёна, супадаюць з агульнабеларускімі тыпамі.

***Літаратура***


1. Иванова, А.А. Предложно-именные конструкции как единица номинации в микротопонимии Мозырского Полесья / А.А. Иванова // Словообразование и номинативная деривация в славянских языках: тезисы докладов II респ. конф. (25–26 сентября 1986 г.). – Гродно, 1986. – Ч. 2. – С. 47–48.
2. Карпенко, Ю.А. Свойства и источники микротопонимии / Ю.А. Карпенко // Микротопонимия / отв. ред. О.С. Ахманова. – М.: Изд-во МГУ, 1967. – С. 15–22.
3. Ященко, А.И. Лингвистический анализ микротопонимов определенного региона: курс лекций / А.И. Ященко. – Вологда, 1977. – С. 22.
4. Никонов, В.А. Научное значение микротопонимии / В.А. Никонов // Микротопонимия / отв. ред. О.С. Ахманова. – М.: Изд-во МГУ, 1967. – С. 5–14.
5. Адамович, Е.М. Варианты названий и названия-ориентиры в микротопонимии Случчины / Е.М. Адамович // Микротопонимия / отв. ред. О.С. Ахманова. – М.: изд-во МГУ, 1967. – С. 63–70.
6. Головина Э.Д. О характере номинации в микротопонимике (на материале говоров северо-западной части Кировской области) / Э.Д. Головина // Вопросы топонимики. – 1974. – № 5. – С. 99–120.
7. Паўлавец, Д.Д. Лексіка-семантычныя і словаўтваральныя тыпы тапонімаў Пінскага Палесся / Д.Д. Паўлавец, Л.І. Харашун // Рэгіянальныя асаблівасці ўсходнеславянскіх моў (тэзісы дакладаў і паведамленняў) – Гомель, 1990. – С. 79–81.
8. Адамович, Е.М. Топонимия и микротопонимия Случчины: автореф. дис. … канд. филол. наук / Е.М. Адамович. – Минск, 1966. – 20 с.


***І.Л. Бурак*** (Мінск, Беларусь)

## ФУНКЦЫЯНАЛЬНЫЯ АНАЛАГІ ЗЛУЧНІКАЎ У СУЧАСНАЙ БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

У сучаснай беларускай мове ідзе няспынны працэс развіцця і ўдасканалення сістэмы фармальных сродкаў сувязі: з аднаго боку, утвараюцца новыя злучнікі, а з другога – некаторыя часціны мовы (часціцы, прыслоўі, мадальныя словы) і асобныя спалучэнні слоў, што па сваіх уласцівасцях збліжаюцца са злучнікамі, пачынаюць выконваць іх функцыі ў сказе і тэксце. Такія сродкі сувязі, як правіла, ужываюцца пры афармленні далучальнай сувязі. У прыватнасці, часціцы **нават** і **асабліва** ўводзяць у сказ паўпрэдыкатыўныя адзінкі (адасобленыя азначэнні, дапаўненні, акалічнасці), а таксама далучаюць парцэляваныя канструкцыі да сказаў у тэксце: *Усе свае пачуцці – нават самыя радасныя – ён выяўляў праз слёзы* (З. Бядуля); *Усё радуецца вясне, асабліва птушкі* (П. Пестрак); *Тайну нельга давяраць, нават добра знаёмым* (П. Пестрак);

*Настрой палепшыўся, асабліва ў Віктара* (Я. Маўр); *За гэты час шмат што змянілася, нават тут, у вёсцы* (І. Шамякін); *Некаторыя дрэвы, асабліва на ўскраінах, былі высечаны на дровы* (М. Лынькоў); *Усе тут паводзяць сябе стрымана, ціха. Нават дзеці* (Я. Брыль); *Лета сёлета было не надта сухое: не-не дый дажджыла. Асабліва з вясны* (Б. Сачанка). Збліжаючыся функцыянальна з далучальнымі злучнікамі, часціцы **нават** і **асабліва** выдзяляюць і ўзмацняюць тое, што абазначана адасобленымі членамі сказа або парцэлятамі ў тэксце.

Прыслоўі **адначасова, потым, затым, пасля, тады, таму,** ужываючыся ў якасці функцыянальных аналагаў злучнікаў, аб'ядноўваюць прэдыкатыўныя (часткі складанага сказа), камунікатыўныя (асобныя сказы ці іх функцыянальныя аналагі), зрэдку непрэдыкатыўныя (аднародныя члены сказа) адзінкі. Захоўваючы лексіка-граматычнае значэнне самастойнай часціны мовы, гэтыя прыслоўі актуалізуюць адносіны адначасовасці (прыслоўе **адначасова**) або паслядоўнасці (прыслоўі **потым, затым, пасля, тады**), асноўным сродкам выражэння якіх з'яўляюцца трывальна-часавыя суадносіны дзеясловаў-выказнікаў: *Увечары таго ж дня брыгада ідзе на руднік. Адначасова адбываюцца дзве размовы розных людзей* (Б. Мікуліч); *Аўтобус доўга ехаў па роднай вуліцы, потым спыніўся каля невысокага будынка* (М. Лупсякоў); *Вецер хутка перастаў, пасля хлынуў лівень* (А. Чарнышэвіч); *Жанчыны збіраюцца каля весніц. Затым пачынаюцца песні* (М. Зарэцкі); *Пазней сонца разганяла туман, тады свет ляжаў перад вачамі далёкі, пакорлівы, няяркі* (У. Караткевіч).

Прыслоўе **таму** афармляе далучальна-прычынна-выніковыя адносіны паміж прэдыкатыўнымі і камунікатыўнымі адзінкамі. Гэта прыслоўе ўключае ў сябе змест папярэдняй з аб'яднаных адзінак і ўказвае прычыну існавання таго, што абазначана ў наступнай адзінцы: *Петрык быў у сям'і самым меншым, таму ўсе звалі яго малым* (А. Якімовіч); *Дзень па-асенняму хмуры. Таму пад елкамі амаль вячэрні паўзмрок* (І. Шамякін).

Прыслоўе **наогул**, выступаючы ў ролі сродка сувязі (як правіла, камунікатыўных адзінак), траціць значэнне самастойнай часціны мовы і ўжываецца ў якасці пабочнага слова, ускладняючы далучальна-заключальныя адносіны адценнем катэгарычнага абагульнення: *Ідучы побач, маці расказвала пра апошнія пазеі ў іх вёсцы, пра хатнюю гаспадарку, пра здароўе. Наогул, маці гаварыла шмат* (І. Грамовіч).

Мадальныя словы ў якасці функцыянальных аналагаў злучнікаў аб'ядноўваюць паўпрэдыкатыўныя адзінкі (адасобленыя члены сказа) або камунікатыўныя адзінкі, надзяляючы тое, што абазначана гэтымі адзінкамі, рознымі суб'ектыўнымі адценнямі: *Акуля на скорую руку прыгатавала настаўнікам снеданне, праўда не такое багатае, як вячэра* (Я. Колас); *Дзяўчынка нешта тлумачыць, мусіць меншаму брату* (З. Бядуля); *На ўзлеску стаяць тры коннікі. Няйначай, чужыя* (М. Зарэцкі).

Спалучэнні слоў **галоўным чынам, больш за ўсё, у першую чаргу** аб'ядноўваюць, як правіла, паўпрэдыкатыўныя адзінкі і актуалізуюць далучальна-вылучальныя адносіны: *Большую частку сваёй дзейнасці ён праводзіць за межамі рэдакцыі, галоўным чынам у раз'ездах* (Я. Колас); *У сувязі з інтэнсіўным раставаннем снегу*

*хлебаробы пачалі спуск талых вод, у першую чаргу з азімых пасеваў* («Чырвоная змена»); *Ён палюбіў яешню, больш за ўсё з качыных яек* (Х. Шынклер).

Такім чынам, часціцы, прыслоўі, мадальныя словы і асобныя спалучэнні слоў даволі актыўна ўжываюцца ў якасці фармальнага сродку сувязі для аб'яднання паўпрэдыкатыўных, прэдыкатыўных і камунікатыўных адзінак. Захоўваючы ўласцівыя ім значэнні, гэтыя функцыянальныя аналагі злучнікаў узбагачаюць далучальныя адносіны разнастайнымі сэнсавымі адценнямі, што робіць змешчаныя ў тых ці іншых адзінках паведамленні больш дакладнымі, выразнымі і вобразнымі.

***М.А. Бурмич*** (Гомель, Беларусь)

## ВОЗДЕЙСТВИЕ СЛОВ ИНОЯЗЫЧНОГО ПРОИСХОЖДЕНИЯ НА НАШ ЯЗЫК

Известно, что нет такого языка, который был бы совсем свободен от иноязычных влияний, так как ни один народ в современном мире не живет совершенно изолированно.

В русский язык проникло значительное количество иноязычных слов, которые имеют различную степень ассимиляции и неограниченную или ограниченную сферу употребления. В русской лексикологической традиции выделяются: 1) слова, давно усвоенные (стул, лампа); 2) слова, не всем понятные, но необходимые, так как они обозначают понятия науки, техники, культуры и т. п. (брифинг, фонема); 3) слова, которые могут быть заменены исконно русскими без всякого ущерба для смысла и выразительности высказывания (эпатировать, эпатаж). В соответствии с этим заимствованные слова воспринимаются, с одной стороны, как закономерный результат общения народов, а с другой – как порча языка; также, с одной стороны, без заимствований нельзя обойтись, а с другой (когда их много и принадлежат они к 3-й группе в указанной классификации) – иноязычные слова и выражения становятся тем балластом, от которого язык должен избавляться.

Используемые в русском языке иноязычные слова выполняют определенную стилистическую роль, от которой зависит частотность их употребления в различных функциональных стилях. Больше всего иноязычных слов в научном стиле (это прежде всего терминология), меньше в публицистическом, еще меньше в официально-деловом и художественном. Идеи очищения русского языка от заимствований, употребления иностранных слов в строгом соответствии с их значением сохраняют свою актуальность и в наши дни. Неоправданное введение в речь иноязычных элементов засоряет ее, а использование их без учета семантики приводит к неточности. Во-первых, не следует прибегать к иноязычным словам, если есть у них русские эквиваленты, точно передающие то же значение. Во-вторых, необходимо всегда помнить, что самые грубые ошибки возникают тогда, когда иноязычные слова употребляются без учета их значения (семантики). В-третьих, иноязычные слова должны быть понятны и доступны адресату. Многие иностранные слова, уместные и необходимые в специальной, научной и технической литературе, неуместны в статьях, брошюрах, докладах, предназначенных

для широкого круга читателей или слушателей. Вдумчивое отношение к использованию иноязычных слов в соответствии с их точным значением и стилистической окраской поможет избежать речевых ошибок, сохранить чистоту речи.

Причины проникновения англицизмов и американизмов в другие языки лежат в неязыковой плоскости. Это связано в первую очередь с послевоенным переустройством мира; бурным развитием сферы бизнеса, СМИ, науки; распространением компьютера, Интернета и т. д. Новое слово, как правило, отражает изменения, происходящие в жизни общества.

Существуют различные способы заимствования. Один из способов заимствования – способ прямого заимствования: «beauty» вместо «красота», то есть замена русского слова английским. Существует способ калькирования, то есть замена структурных элементов иноязычного слова соответствующими русскими: supermarket – универсам. Далее идут неполные заимствования: стильмен, эталон – Jeans. Заимствования играют огромную роль в интеграционных процессах, происходящих в мире. Науке известны случаи, когда при определенных условиях (политико-экономических) язык может приобретать негативные функции: а) служить средством разобщения людей; б) инструментом расслоения общества; в) средством взращивания языкового снобизма (когда к месту и нет «сорят» иностранными словами) и т. д.

Можно разделить собранные слова на две группы по принципу полезные и вредные заимствования.

1. Полезные заимствования: а) которые прочно вошли в нашу жизнь и не имеют аналогов в белорусском языке: Эльдорадо – El Dorado, аудио – audio; б) имеют громоздкие переводы: Xerox – аппарат для снятия фотокопий.

2. Вредные заимствования: а) которые не имеют вообще никакого смысла: магазин «Нокс» – ?, магазин «Лайт Вэй» – ?; б) которые имеют достойные аналоги в русском языке: «субсидия» вместо «доплата», «аудит» вместо «проверка», «ревизия»; в) заимствования, состоящие из русского и иностранного слова: «Алекс сказочный», «Арт-салон».

В результате проведенного исследования можно сделать следующие выводы: процесс заимствования иностранных слов начался не сегодня и даже не вчера, это закономерный исторический процесс. Заимствуя, язык становится богаче и красивее, при этом иностранные слова начинают звучать к месту и породному. Заимствование – это один из каналов пополнения лексики новыми словами.

***Литература***

1. Виноградов, В.В. Проблемы русской стилистики / В.В. Виноградов – М., 1981. – 320 с.

2. Ицкович, В.А. Языковая норма / В.А. Ицкович – М., 1968. – 93 с.

3. Лазуткина, Е.М. Публицистический стиль: новые черты / Е.М. Лазуткина – М.: ИКЦ «МарТ», 2008. – 79 с.

4. Серова, С.А. Лингвистический анализ новостных газетных статей (оценочный аспект): автореф. дис… канд. филол. наук / С.А. Серова. – Тамбов, 2007. – 22 с.

***С.Ф. Бут-Гусаім*** (Брэст, Беларусь)

## КУЛЬТУРНА-ГІСТАРЫЧНАЯ АДМЕТНАСЦЬ АНТРАПАНІМІЧНАЙ ПРАСТОРЫ РАМАНА В. КОЎТУН «ПАКЛІКАНЫЯ»

XII стагоддзе – час жыцця і духоўнага подзвігу Апякункі зямлі беларускай *Еўфрасінні Полацкай* – стала прадметам мастацкага асэнсавання ў рамане-жыцііі Валянціны Коўтун «Пакліканыя». У гэты перыяд фарміраваўся падмурак новага светаўспрымання, ствараліся перадумовы сцверджання духоўнасці і маральнасці чалавека. Аўтарка аналізуе «працэс засваення нашымі продкамі новых маральна-этычных хрысціянскіх арыенціраў, сцвярджэння на нашай зямлі Веры ў Чалавека светлага, «пакліканага» і «абранага» [1, с. 191]. Дух далёкай мінуўшчыны Валянціна Коўтун здолела перадаць дзякуючы ўмеламу выкарыстанню інфармацыйнай нагрузкі старажытнага іменаслова.

Падзеі і факты, адлюстраваныя ў рамане-жыцціі, выглядаюць перакканальнымі, дзякуючы таму, што на старонках твора прыгадваюцца імёны рэальных гістарычных асоб: кіеўскіх князёў *Яраслава Мудрага, Мсціслава*, полацкіх князёў *Рагвалода, Святаслава, Усяслава Чарадзея,* смаленскага князя *Яраполка*, менскага князя *Расціслава,* мітрапаліта полацкага *Дыянісія,* мітрапаліта кіеўскага *Кліма Смаляціча,* летапісца *Нестара.*

У XII стагоддзі ў Полацкім княстве ўмацоўвала свае пазіцыі хрысціянская рэлігія, складаным чынам узаемадзейнічаючы з язычніцкімі культамі. Многія рэальныя гістарычныя асобы – князі і члены іх сем’яў – побач са старымі, язычніцкімі, мелі і хрысціянскія імёны, што адлюстравана ў творы В. Коўтун. Бацька Еўфрасінні завецца *Святаславам* (язычніцкімі імёнамі-пажаданнямі з кампанентам *-слаў* здаўна называліся полацкія князі) і *Георгіем (грэч. ‘земляроб’)* [2, с. 23]. Князёўны *Прадслава, Звеніслава, Гардзіслава*, стаўшы манашкамі, прымаюць хрысціянскія імёны *Еўфрасіння (грэч. ‘радасць’)* [2, с. 59], *Еўпраксія (грэч. ‘дабрачыннасць’)* [2, с. 59], *Еўдакія (грэч. ‘славутая’)* [2, с. 59].

У XII стагоддзі функцыянуе такі кампанент антрапанімічнай лексікі, як *патранімічнае іменаванне*, утворанае ад імені ці мянушкі бацькі або продкаў па бацькаўскай лініі. Такія формы іменавання выконвалі юрыдычную функцыю, абазначаючы спадчыннікаў уладарных асоб: «*Полаччына адкрыта загаварыла пра Васільку Святаславіча»* [3, с. 134]; «*А Еўфрасіння ўжо абыходзіла капліцу, якую Глебавічы збудавалі яшчэ ў даўнія леты»* [3, с. 145].

Многія князі ўвайшлі ў гісторыю пад прызваннямі-мянушкамі. Такія формы наймення выкарыстаны ў рамане-жыцціі: «*Цемнабровая княгіня Сафія трымалася паважна, як і належала дачцэ вялікага кіеўскага князя Яраслава Мудрага»* [3, с. 33]; «*Брачыслаў урэшце спамогся ўзяць пад апеку новыя гарады, успадчаныя пасля сынам ягоным Усяславам, званым у народзе Чарадзеем»* [3, с. 16].

На старонках твора сустракаем імёны персанажаў, народжаных уяўленнем аўтаркі. Гэтыя найменні адпавядаюць мадэлям называння, што бытавалі ў славянскіх княствах у тыя часы. Прадстаўнікі княскіх родаў, згодна з традыцыяй *імяслаўя*, насілі складаныя імёны, якія накрэслівалі *слаўны* жыццёвы шлях магутных непераможных валадароў,

фарміравалі лёс правіцеляў. Так, празванне *Дабраслаў*, утворанае на базе словазлучэння *'добрая слава'*, адпавядае знешняй і ўнутранай прыгажосці жаніха Прадславы: «*Дабраслаў у белай залатымі ніцямі расшытай сарочцы. Валасы і барада княжыча адлівалі золатам. Увесь час не магла адвесці ад яго захопленых вачэй*» [3, с. 33]. Шчыра кахаючы Прадславу, *Дабраслаў* ахвяруе ўласным жыццём дзеля любай дзяўчыны. Празванне *Барыслаў* адлюстроўвае сутнасць хітрага *барацьбіта за славу* і ўладу, гатовага для памнажэння багацця на здраду і нават братазабойства.

У адпаведнасці з традыцыяй таго часу князі – героі рамана – надзелены, апроч імені, празваннямі-мянушкамі, напр.: «*Малады Рагвалод у запале гневу ўпершыню назваў Барыслава «Запалоцкім кукушонам». Мянушка ў асяроддзі месцічаў адразу ж прыжылася: запалоцкае падвор'е было абкружана вялікімі, перапоўненымі зязюліным кукаваннем дубровамі*» [3, с. 44].

Язычніцкія імёны-характарыстыкі маюць прадстаўнікі розных слаёў грамадства: старэйшы вартаўнік у вязніцы, магутны, моцны, як дуб, ваявода названы *Кажадубам*, высокага росту і магутнага целаскладу ваявода завецца *Вялішынам*, манастырскі вартаўнік мае імя *Агмень,* высокае сацыяльнае становішча ваяводы падкрэслівае імя *Вышата*.

*Дэзыдэратыўнае* (*пажадальнае*) *імя* праграмавала чалавечы лёс. Так, невыпадкова вяшчун Вікула дае прыёмнаму сыну імя *Валодша*. Малады вяшчун – нашчадак валадара, пазашлюбны сын князя Барыслава. *Валодша* становіцца сапраўдным валадаром душаў язычнікаў. Не падпарадкоўваючыся царкве, ён адстойвае старую веру ў язычніцкіх багоў, ад улады якіх так цяжка вызваліцца палачанам. Вяшчун таксама авалодвае сэрцамі жанчын (у тым ліку і дачкі менскага князя Вольгі), якія мелі няшчасце пакахаць яго. *Валодша* адчувае сябе валадаром самой Прыроды: «*Я песні спяваю, я з птушкамі, са зверам гаманю. Носіцеся, а дагнаць – не дагоніце. Я ж – як вецер у полі. Як дождж у лесе. Хачу – і праменем стану. Я – як ноч, як дзень*» [3, с. 132].

Некаторыя прадстаўнікі вышэйшых саслоўяў маюць хрысціянскія імёны грэчаскага, лацінскага, старажытнаяўрэйскага паходжання: ваявода *Дзяменцій (лац. 'тугадум')* [2, с. 24], баярын *Міхал (яўр. 'той, хто як Бог')* [2, с. 35]. Людзі духоўнага звання таксама носяць хрысціянскія імёны: чарнарызіцы *Яўлампія (грэч. 'з добрым святлом')* [2, с. 73], *Куліна (грэч. 'арліная'*) [2, с. 62], *Еўпраксія (грэч. 'дабрачыннасць')* [2, с. 59].

Ярка прадстаўлена ў кантэксце твора хрысціянская канцэпцыя імені, якая пачынае ўкараняцца на славянскіх землях. У адпаведнасці з хрысціянскай формулай «*па імені і жыціе*», «мы носім імёны святых, якія пражылі сваё жыццё і ажыццявілі на зямлі сваё прызначэнне, мы ім прысвечаны, як храмы прысвячаюцца таму ці іншаму святому. Гэтыя святыя не толькі з'яўляюцца нашымі малітоўнікамі, заступнікамі і абаронцамі, але і ў пэўнай меры і вобразам таго, кім мы маглі б быць. Паўтарыць нічыё жыццё нельга, але навучыцца ад жыцця таго ці іншага чалавека, святога жыць больш годна сябе і больш годна Бога – можна» [4, с. 177]. Так, князёўна Прадслава падчас пастрыжэння ў манахіні прымае імя святой *Еўфрасінні Александрыйскай*. У V стагоддзі святая

*Еўфрасіння* (імя паходзіць ад грэчаскага слова '*радасць'* [2 с. 52]), дзяўчына з багатай сям'і, адмаўляецца ад шлюбу і прымае пострыг, прысвячаючы сябе Богу і служэнню людзям. Жыццёвы шлях, накрэслены *Еўфрасінняй Александрыйскай*, праходзіць і полацкая святая. Дачка магутнага князя «*адсекла ад сябе грахі зямныя мячом, але не з жалеза, а – з духу*», жыццёвым подзвігам сцвярджаючы евангельскія ідэалы «*не забі*», «*не праціўся злу*» і адвечную ісціну: «*толькі любоў можа працістаяць злу, бо ласкай Боскаю напоўнена зямля, любоўю Ягонаю. Як і кожны з нас*» [3, с. 18].

Князёўна *Звеніслава*, прайшоўшы праз няшчасны шлюб з магутным князем і горкае каханне да Барыслава, ачысціўшыся ад граху, становіцца манахіняй *Еўпраксіяй* (імя паходзіць ад грэчаскага '*дабрачыннасць*' [2, с. 59]). Святая XI стагоддзя *Еўпраксія* пакутавала падчас нешчаслівага шлюбу з магутным каралём і, вызваліўшыся ад грахоў, прыняла пострыг, стала ігуменняй. Гэты шлях быў паўтораны *Звеніславай-Еўпраксіяй*. Яна пасля доўгіх пакут і выпрабаванняў усведамляе жыццёвае прызначэнне, выказанае празорлівай ігуменняй Еўфрасінняй: «*Ідзі і навучай. Дадзена ўбачыць табе было страсці пякельныя, якія распазнаеш ужо. І скруціш галовы змяіныя, і станеш настаўніцай вялікай. Адпакутавала! Вяртайся ў Полацк, да дзяцей веры нашай*» [3, с. 245]. Менавіта *Еўпраксія* становіцца пасля смерці Еўфрасінні полацкай ігуменняй і змагаркай за веру Хрыстову.

Як бачым, праз імёны персанажаў Валянціна Коўтун умела перадае дуалізм вераванняў славян той пары, калі хрысціянства ўзаемадзейнічала на нашых землях з язычніцтвам. Асаблівая ўвага звернута ў творы на хрысціянскую традыцыю бачыць у імені формулу асобы, накрэсленую праведным жыццём святога. З пункту гледжання паэтычнай анамастыкі, большасць імёнаў персанажаў рамана з'яўляюцца *схаванагаваркімі паэтонімамі*, іншамоўныя асновы якіх утрымліваюць характарыстыку істотных рыс мастацкага вобраза.

**_Літаратура_**


1. Локун, В. Пакліканыя і абраныя / В. Локун // Полымя. – 2008. – № 2. – С. 185–191.
2. Барыс, С. Як у нас клічуць?: Беларускія імёны / С. Барыс. – Мінск: Медысонт, 2010. – 124 с.
3. Коўтун, В. Пакліканыя / В. Коўтун. – Мінск: Мастацкая літаратура, 2007. – 247 с.
4. Митрополит Сурожский Антоний. Школа молитвы / Митрополит Сурожский Антоний. – Клин: Христианская жизнь, 2006. – 493 с.


***А.И. Василевская*** (Гродно, Беларусь)

## СРЕДСТВА РЕАЛИЗАЦИИ ФУНКЦИОНАЛЬНОЙ НАГРУЗКИ ГАЗЕТНОГО ЗАГОЛОВКА

Человечество вошло в XXI век – в период, когда в мире происходят сложные глубинные процессы. Социально-гуманитарные науки дают различные характеристики нашему времени, одна из них определяет его как век информации. Идет процесс стремительного насыщения общества информацией, возрастает ее роль в жизни каждого человека, каждого государства и человечества в целом. Внедрение в жизнь новых технологий позволило сделать информацию действительно массовой, способной

воздействовать на общественную деятельность людей, что осуществляется не непосредственно, а через сознание людей, точнее, через формирование общественного мнения. Сегодня среди средств массовой информации большой популярностью пользуются радиовещание и телевидение. Однако пресса также не сдает своих позиций. Социологические исследования даже отмечают высокий престиж массовой печати в пропаганде идей, в освещении и комментировании событий общественной и международной жизни. Тем не менее, печатные средства массовой информации находятся в ситуации напряженной конкуренции за своего потребителя.

В этой связи одним из актуальных вопросов ономастики сегодня является выявление способов реализации функциональной нагрузки газетного заголовка как своеобразной рекламы содержания газетного материала и средства привлечения внимания читателей. Иными словами, заголовок не только репрезентирует сам газетный текст, но и косвенно указывает на политическую направленность данной газеты, формирует совокупный образ ритора. Таким образом, газетные заголовки являются эффективным средством воздействия, реализуемого за счет использования в них различных выразительных лексико-стилистических средств [4].

Заголовки должны привлечь большое количество читателей, тем самым обеспечив функционирование самой газеты. Поэтому заголовки английской газеты имеют свои особенности. Зачастую они напечатаны столь крупным шрифтом, что занимают значительную часть полосы, и, как правило, представляют собой многоступенчатое изложение основных положений газетной статьи или газетного сообщения [3, с. 392], например:

**A FALLING SATELLITE CATCHES THE POPULAR IMAGINATION**

A dead hulk of a NASA satellite the size of a bus is skimming the top of the atmosphere [9].

Первая строка напечатана самым крупным жирным шрифтом, последующий подзаголовок напечатан менее крупным шрифтом. Эти заголовки дают довольно полное представление о содержании самого сообщения.

Языковые особенности заголовков английских газет обусловлены их функциональным назначением − кратко изложить содержание заметки в возможно более сенсационном виде. В заголовках опускаются артикли, связочные глаголы, местоимения и т. д. Ограниченность места в какой-то степени определила употребление неперфектных форм глагола. В случае если глагол употребляется в заголовке в формах длительного вида, опускаются вспомогательные глаголы, часто используется так называемое «Present Historicum», широко используются инфинитивные конструкции [3, с. 393].

Не менее специфичны и синтаксические особенности газетных заголовков. Так, в них часто используются назывные предложения и эллиптические конструкции, например:

KENNEDY ACCUSED OF BLUSTER [6, p. 2].

Особенно часто употребляются неличные формы глагола: герундий, причастие, инфинитив, например:

WARNING SPEEDING DRIVERS. COLOUR-CODED PROTESTS
[6, p.12]. COPS TO BUST '*STRANGLER*' IN WIFE SLAY [8, p. 5].

В заголовках встречаются такие сложные атрибутивные группы, в которых излагается основное содержание сообщения. Таким образом, логическое сказуемое или, иначе говоря, основная предикация сообщения выступает в качестве определения, например:

DO-IT-YOURSELF MUSHROOMS [9]

Многие заголовки английских газет построены в виде вопросов, которые имеют целью привлечь внимание читающих к содержанию общения, например:

WHAT SHALL WE DO WITH THE DRUNKEN SUICIDE BOMBERS? [7, p. 18]

В английских газетных заголовках иногда даются отдельные слова, словосочетания и предложения из выступления того или иного политического деятеля, например:

WE MISLED PUBLIC OVER CANNABIS, CLARKE SAYS [6, p. 2]

Часто в целях эмфазы в заголовках используется повтор, например:

Danger! Danger! Danger! [7, p. 12]

Есть заголовки, которые представляют собой целые предложения – сентенции, например:

Half of all recruits to Army read at level of 11-year-olds [5, p. 12].

Другие заголовки состоят только из одного слова, например:

IMPOSSIBLE. AMAZING. MURDERED [5, p. 15].

Перечисленные особенности заголовков английских газет не исчерпывают многообразия их форм, но составляют их несомненную специфику и оказывают значительное влияние на нормы развития стиля английских газетных сообщений в целом. Несмотря на то, что газетный заголовок нельзя в полной мере назвать самостоятельным речевым элементом, − он тесно связан со статьей, является ее полноправным компонентом и приближен к тексту [1]. Все чаще заголовки отвечают всем основным признакам текста – целостности, делимости, наличию темы, концепции. Газетный заголовок перестает быть просто средством привлечения внимания, он несет информацию, делает ее более полной, раскрывает отношение автора статьи к освещаемой проблеме.

***Литература***

1. Арнольд, И.В. Стилистика современного английского языка / И.В. Арнольд. − Л.: Просвещение, 1981. − 295 с.

2. Васильева, Т.В. Когнитивные механизмы формирования и функционирования заголовка / Т.В. Васильева // Вестник МГУ. Сер.19. Лингвистика и межкультурные коммуникации. – 2006. – № 1. – С. 154–171.

3. Гальперин, А.И. Очерки по стилистике английского языка [Электронный ресурс]. – Режим доступа: http://www.classes.ru/grammar/30.Ocherki_po_stilistike_angliyskogo_yazyka/html/unnamed_28.html. − Дата доступа: 12.02.2010.

4. Стилистика газетных заголовков английских газет [Электронный ресурс]. – Режим доступа: http://www.referama.ru/txt.php?ch=20548. – Дата доступа: 25.03.2010.

5. Sunday Telegraph, 7 November, 2003.

6. The Times, 24 November, 2007.

7. The Mail, 28 March, 2004.

8. New York Post, 13 April 2010.

9. The New York Times, 13 April 2010 [Электронный ресурс]. – Режим доступа: http://www.nytimes.com/pages/todayspaper/index.html. – Дата доступа: 03.09.2011.

***Н.А. Валатоўская*** (Мінск, Беларусь)

**ВЫВУЧЭННЕ І ДАСЛЕДАВАННЕ ЎКРАІНСКАЙ МОВЫ Ў БЕЛАРУСІ**

Украінская мова разам з іншымі славянскімі (польскай, чэшскай, славацкай, балгарскай, сербскай) мовамі вывучаецца на філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Першы выпуск спецыялістаў-украіністаў адбыўся ў 2001 г. Акрамя таго, на факультэце ёсць курсы па вывучэнні ўкраінскай мовы, якія карыстаюцца попытам не толькі сярод студэнтаў універсітэта, але і ў асяроддзі тых, хто ўжо атрымаў вышэйшую адукацыю.

Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт мае дамову з Кіеўскім нацыянальным універсітэтам імя Тараса Шаўчэнкі, дзякуючы якой адбываецца рэгулярны абмен студэнтамі і выкладчыкамі згаданых устаноў адукацыі. Кожны навучальны год групы студэнтаў-украіністаў БДУ (8–14 чалавек) на працягу 2–3 тыдняў вывучаюць украінскую мову і літаратуру ў КДУ, а студэнты гэтай ВНУ – на філалагічным факультэце БДУ.

Выкладчыкі кафедры тэарэтычнага і славянскага мовазнаўства БДУ сумесна са сваімі ўкраінскімі калегамі падрыхтавалі да выдання «Украінска-беларускі слоўнік лінгвістычнай тэрміналогіі», які ўтрымлівае больш за 7000 тэрмінаў і прызначаны для студэнтаў, аспірантаў і выкладчыкаў. Гэты слоўнік ахоплівае найбольш ужывальную сучасную ўкраінскую і беларускую тэрміналогію ў галіне фанетыкі, фаналогіі, граматыкі, лексікалогіі, стылістыкі, словаўтварэння, гісторыі мовы, дыялекталогіі, тэорыі камунікацыі. Выхад у свет згаданага слоўніка чакаецца ў бліжэйшы час у выдавецтве Кіеўскага нацыянальнага ўніверсітэта імя Тараса Шаўчэнкі.

На базе філалагічнага факультэта БДУ з 2005 г. функцыянуе кабінет украінскай філалогіі, які з’яўляецца цэнтрам вывучэння ўкраінскай мовы, літаратуры і культуры. Пры падтрымцы Пасольства Украіны ў Рэспубліцы Беларусь кабінет быў укамплектаваны не толькі неабходнай вучэбнай і вучэбна-метадычнай літаратурай, але і тэхнічнымі сродкамі навучання, што, безумоўна, станоўча ўплывае на ўзровень падрыхтоўкі студэнтаў.

Філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта на працягу многіх гадоў супрацоўнічае з Пасольствам Украіны ў Рэспубліцы Беларусь. Студэнты-ўкраіністы рэгулярна наведваюць розныя мерапрыемствы (а часта і самі бяруць у іх удзел), якія праводзяцца па ініцыятыве Пасольства.

На кафедры тэарэтычнага і славянскага мовазнаўства БДУ падрыхтаваны тыпавыя праграмы па ўсіх курсах вывучэння ўкраінскай мовы (аўтары: А.М. Рудэнка, Н.А. Валатоўская): «Славянская мова (украінская)», «Тэарэтычная граматыка славянскай мовы (украінскай)», «Гістарычная граматыка славянскай мовы (украінскай)», «Гісторыя славянскай літаратурнай мовы (украінскай)», «Славянская дыялекталогія (украінская)».

Падрыхтаваны да выдання падручнік «Украінская мова для беларускамоўных» (аўтары: А.М. Рудэнка, Н.А. Валатоўская). У дапаможніку першапачатковая ўвага надаецца спецыфічным рысам украінскай мовы ў параўнанні з беларускай. Разглядаюцца асаблівасці ўкраінскай фанетыкі, марфалогіі (па асобных часцінах мовы), сінтаксісу словазлучэння і сказа. У дапаможніку прадстаўлены раздзелы «Лексікалогія» і «Фразеалогія», дзе аналізуюцца асноўныя паняцці гэтых галін мовазнаўства, а таксама найбольш выразныя своеасаблівыя характарыстыкі ўкраінскай мовы ў дачыненні да беларускай у межах лексікалогіі і фразеалогіі. У раздзеле «Лексікаграфія» прапануецца агляд найбольш важных украінскіх слоўнікаў і метадаў даследавання лексікі, у раздзеле «Дыялекталогія» – групоўка ўкраінскіх дыялектаў і ключавыя дыялекталагічныя паняцці. Падручнік уключае карысныя дадаткі: «Беларуска-ўкраінскія ілжэсябры перакладчыка», «Устойлівыя выразы ўкраінскай мовы» («формулы ветлівасці» і беларуска-ўкраінскі размоўнік), кароткія беларуска-ўкраінскі і ўкраінска-беларускі слоўнікі лінгвістычных тэрмінаў. Дадзены падручнік прызначаны для навучэнцаў вышэйшых і сярэдніх спецыяльных установ, якія хацелі б даведацца аб своеасаблівых рысах украінскай мовы ў параўнанні з беларускай, а таксама для ўсіх тых, хто цікавіцца мовай нашых усходнеславянскіх суседзяў.

У 2010 г. у БДУ быў створаны электронны падручнік «Украінская мова» (аўтары: Н.Р. Агафонава, Н.А. Валатоўская), з дапамогай якога студэнты могуць узнавіць свае веды па тэарэтычных пытаннях курса ўкраінскай мовы, а таксама замацаваць практычныя навыкі, выконваючы разнастайныя заданні розных узроўняў складанасці. Дадзены электронны сродак навучання ўключае ў сябе заданні па фанетыцы, арфаграфіі, словаўтварэнні, лексіцы, фразеалогіі, марфалогіі і сінтаксісе. Камп'ютарны дапаможнік складаецца з серыі ўрокаў, якія ўключаюць тэарэтычную частку і практыкаванні. Акрамя таго, у склад дадзенага электроннага падручніка ўваходзяць тэсты, якія дазваляюць кантраляваць засваенне матэрыялу як на асобных раздзелах, тэмах. Правільнасць выканання заданняў правяраецца аўтаматычна; пры неабходнасці да адказаў даюцца тлумачэнні. Выкарыстанне комплексу электронных тэстаў дазволіць студэнтам самастойна авалодаць практычнымі навыкамі ў асваенні дадзенага курса і замацаваць атрыманыя веды, а таксама будзе садзейнічаць высокай ступені аптымізацыі заняткаў, эканоміі вучэбнага часу, эфектыўнасці засваення матэрыялу. Зараз электронны падручнік «Украінская мова» праходзіць апрабацыю, у якой удзельнічаюць студэнты трэцяга курса спецыяльнасці «славянская (украінская) філалогія», а таксама слухачы курсаў па вывучэнні ўкраінскай мовы.

Выкладчыкі кафедры тэарэтычнага і славянскага мовазнаўства БДУ і студэнты спецыяльнасці «славянская (украінская) філалогія» прымаюць актыўны ўдзел у разнастайных міжнародных мерапрыемствах, прысвечаных вывучэнню і даследаванню ўкраінскай мовы і культуры. Выкладчык украінскай мовы Н.Р. Агафонава рэгулярна ўдзельнічае ў Міжнародным форуме выкладчыкаў украінскай мовы, які штогадова адбываецца ў Кіеве. Удзельнікі гэтага форуму дзеляцца сваімі метадычнымі

напрацоўкамі, а таксама абмяркоўваюць праблемы выкладання ўкраінскай мовы як замежнай. Студэнты-ўкраіністы ўдзельнічаюць (і перамагаюць!) у конкурсах на веданне ўкраінскай мовы. Супрацоўнікі кафедры рэгулярна прадстаўляюць на міжнародных каферэнцыях лінгвістычныя, культуралагічныя даследаванні на ўкраінскім матэрыяле [4; 7–9]. Артыкулы, у якіх разглядаюцца асобныя з'явы ўкраінскай мовы ў параўнанні з іншымі славянскімі мовамі, друкуюцца ў зборніках навуковых артыкулаў, часопісах Беларусі, Украіны, Польшчы, Расіі [1–3; 5; 7; 9]. У 2009 годзе на кафедры тэарэтычнага і славянскага мовазнаўства БДУ была абаронена кандыдацкая дысертацыя «Прадметная лексіка блізкароднасных моў: семантычная арганізацыя (на матэрыяле назваў страў у беларускіх і ўкраінскіх дыялектах)» [6].

У далейшым плануецца пашырэнне сувязей БДУ з рознымі навучальнымі ўстановамі Украіны, распрацоўка і выданне метадычных дапаможнікаў і слоўнікаў для студэнтаў спецыяльнасці «славянская (украінская) філалогія».

***Літаратура***

1. Валатоўская, Н.А. Асаблівасці намінацыі страў з бульбы ў сістэме дыялектнай прадметнай лексікі беларускай і ўкраінскай моў / Н.А. Валатоўская // Современная славистика и научное наследие С.Б. Бернштейна: сб. ст.: – М.: Институт славяноведения РАН, 2011. – С. 150–153.

2. Валатоўская, Н.А. Беларускія і ўкраінскія найменні абрадавых страў: этналінгвістычны аспект / Н.А. Валатоўская // Веснік Беларус. дзярж. ун-та. Сер. 4, Філалогія. Журналістыка. Педагогіка. – 2008. – № 2. – С. 31–34.

3. Валатоўская, Н.А. Праблемы тыпалогіі дыялектнай прадметнай лексікі (на матэрыяле назваў страў у паўночна-заходніх дыялектах беларускай мовы) / Н.А. Валатоўская // Slavia Orientalis. – Tom LVII, Nr 1. – 2008. – S. 153–168.

4. Валатоўская, Н.А. Рытуальныя стравы радзіннага абраду ў беларускай і ўкраінскай мовах / Н.А. Валатоўская // Восточные славяне: историческая и духовная общность: материалы Междунар. науч.-практ. конф., Гомель, 15–16 апр. 2008 г. – Гомель: Изд-во ГГУ им. Ф.Скорины, 2008. – С. 141–143.

5. Валатоўская, Н.А. Словы са значэннем 'страва' ў дыялектнай лексіцы беларускай і ўкраінскай моў // Роднае слова. – 2009. – 10 (262). – С. 46–49.

6. Валатоўская, Н.А. Прадметная лексіка блізкароднасных моў: семантычная арганізацыя (на матэрыяле назваў страў у беларускіх і ўкраінскіх дыялектах): аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.03 / Н.А. Валатоўская; Бел. дзярж. ун-т. – Мінск: Выд-ва БДУ, 2009. – 24 с.

7. Руденко, Е.Н. Система диалектных названий блюд из молока (на материале белорусского и украинского языков) / Е.Н. Руденко, Н.А. Волотовская // Мова і культура (науковий журнал). – Київ: Видавничий Дім Дмитра Бураго, 2010. – Вип. 13. – Т. VI (142). – С. 218–224.

8. Рудэнка, А.М. Эвалюцыя формы і семантыкі каравайнага абраду / А.М. Рудэнка, Н.А. Валатоўская // Мова – Літаратура – Культура: матэрыялы VI Міжнар. навук. канф. (Мінск 28–29 кастр. 2010 г.): у 2 ч. / Беларус. дзярж. ун-т. – Мінск: Выд-ва БДУ, 2011. – Ч. 1. – С. 73–80.

9. Рудэнка, А.М. Дыялектныя назвы хлеба ў беларускай і ўкраінскай мовах / А.М. Рудэнка, Н.А. Валатоўская // Компаративні дослідження слов'янських мов і літератур: Пам'яті академіка Леоніда Булаховського: зб. наук. пр. – Вип. 10. – К.: Київський університет, 2009. – С. 150–159.

***К.С. Вінакурава*** (Віцебск, Беларусь)

## НАЦЫЯНАЛЬНАЯ КУЛЬТУРА Ў МОВЕ МАСТАЦКАГА ТЭКСТУ (НА ПРЫКЛАДЗЕ ПАЭЗІІ Р. БАРАДУЛІНА)

Кожная нацыянальная літаратура адлюстроўвае духоўны вопыт нацыі, асаблівасці яе культуры, тое, што М. Багдановіч назваў «нацыянальнай душой», а У. Дубоўка –

«спрадвечнай існасцю». Менавіта з'яўленне нацыянальнага мастацкага тэксту выступае паказчыкам духоўнага нараджэння нацыі, яе этнакультурнага самаўсведамлення. Семантыка паняцця «нацыянальнае» надзвычай няпростая. Нацыянальнае ўвасоблена і ў сферы матэрыяльнага свету – асаблівасцях побыту, адзення і інш., і ў сферы духоўнага (нормы паводзін, захаванне народнай мудрасці). У мастацкім тэксце нацыянальнае – гэта свет звычаяў пэўнага народа, адметнасці яго жыцця і асаблівасці духоўнай свядомасці. Аб'ектам нашага даследавання з'яўляюцца нацыянальна-маркіраваныя моўныя адзінкі ў паэзіі Р. Барадуліна (а менавіта – безэквівалентная лексіка, анамастыкон, формулы ветлівасці, фразеалагічныя і парэміялагічныя адзінкі, назвы свят).

Матэрыяльнай і духоўнай культуры беларусаў, як і любой іншай этнічнай супольнасці, уласцівы спецыфічныя рэаліі і паняцці, якія маюць культурна-гістарычную канатацыю і не характэрны для жыцця і побыту суседніх народаў. Безэквівалентая лексіка з'яўляецца адным з лінгвакультурных кампанентаў у паэтычных творах Р. Барадуліна. Напрыклад, талака – рус. 'коллективная помощь; работа сообща': *Прасілі **талакою**: – Піліпе, шавяліся, / Сыграй ты нам такое, Каб грошы завяліся* [1, т. III, с. 12]; рэзгіны – рус. 'приспособление для носки сена, соломы': *А папеўка пра **рэзгіны** / малечае вуха не абмінула* [1, т. III, с. 150]; імшарына – рус. 'моховое болото': *Каго запытаць? Журавоў на **імшарыне**?* [1, т. III, с. 60]; валачобнічаць – рус. 'совершать волочебный обряд': *Пушчу душу – няхай ідзе / Хай **валачобнічае*** [1, т. II, с. 215]; ягамосць – рус. 'ваша милость': *Злыя **ягамосці.** Злая дрэсіроўня* [1, т. III, с. 73]. Мастацкая каштоўнасць прыведезеных вышэй безэквівалентных слоў у барадулінскім паэтычным кантэксце відавочная: сваім зместам яны адлюстроўваюць своеасаблівасць культуры беларускага народа, дазваляючы глыбей пазнаёміцца з яе нацыянальным каларытам.

Анамастычная лексіка – каштоўны матэрыял для вывучэння нацыянальна-культурнай спецыфікі любой мовы. Р. Барадулін часам сам адзначае самабытнасць нацыянальнага іменаслова беларусаў: *Міклашэўская Феліцыя Антонаўна, / Матка хросная мая / **(па-ўшацку – Фэля)*** [1, т. II, с. 37] або *Будзем **Янкамі**, а не **Іванамі**, / Што не ведаюць сваёй радні* [1, т. II, с. 220]. Для стварэння сацыяльнага партрэту беларусаў ён выбірае гаваркое прозвішча ***Селянінавічы***, якое трапна характарызуе беларусаў як нацыю сялянскую, прынамсі, да сярэдзіны XX ст.: *Шукалі работы / самай цяжкой / Ільновалосыя / **Селянінавічы**. / Аднавяскоўцы / касілі густы мурог, / А яны / ў маўклівай згодзе / Падставілі плечы / пад глыбы муроў / У тысяча семісот / далёкім годзе* [1, т. III, с. 321].

У лінгвакультуралогіі важнае месца адводзіцца аналізу прэцэдэнтных імён культуры. Прэцэдэнтнымі імёнамі называюцца індывідуальныя імёны, звязаныя з шырокавядомымі мастацкімі тэкстамі («Сымон-музыка» Я. Коласа, «Яўген Анегін» А.С. Пушкіна), з фактамі, падзеямі, якія вядомы большасці прадстаўнікам нашага народа (напрыклад, дзед Талаш як народны герой у часы Вялікай Айчыннай вайны). Да

прэцэдэнтных імёнаў у культуры адносяцца імёны людзей, чыя роля надзвычай вялікая не толькі для нацыянальнай, але і для сусветнай культуры. Пры выяўленні прэцэдэнтных імёнаў беларускай культуры ў паэтычным радку Р. Барадуліна мы кіраваліся колькасна-статыстычным метадам. Так, найбольш часта сустракаюцца ў паэзіі Р. Барадуліна наступныя імёны: ***Скарына*** (14 выпадкаў ужывання), ***Быкаў*** (7 выпадкаў ужывання), ***Купала*** (4 выпадкі ўжывання), ***Багдановіч*** (3 выпадкі ўжывання), ***Радзівілы*** (3 выпадкі ўжывання) і інш. Узгадваюцца таксама сусветнавядомыя мастакі – ураджэнцы Беларусі: ***Марк Шагал*** (3 выпадкі ўжывання), ***Язэп Драздовіч*** – «*павятовы Мікеланджэла*» (4 выпадкі ўжывання).

У барадулінскім паэтычным радку знаходзім цікавую інфармацыю пра моўныя паводзіны беларусаў. Моўныя звароты ветлівасці, якія сустракаюцца ў паэзіі Р. Барадуліна, характарызуюць беларусаў як гасцінны народ, які мае трывалыя застольныя традыцыі: *Традыцый многа павялося. / Між іншых я люблю адну,* ***/ Калі – ці то зімой, ці ўвосень – / Сусед суседа шчыра просіць / На навіну, / на свежыну*** [1, т. І, с. 22]; *Позна прыйдзеш – ласкава / Скажуць: / – Хлопец не жвавы, / Каб шырэй ступаў, /* ***Дык на чарку б папаў: / Пояць хмельнай сытою, / Кормяць стравай сытою. / Адразаюць акрайчык*** */ Каб быў сын Мікалайчык* [1, т. І, с. 39]; *Дарагія гаспадары, / Вам ці не надакучылі госці?* [1, т. ІІ, с. 318].

Р. Барадулін – паэт-хрысціянін, але як выразніку нацыянальнай свядомасці беларусаў не чужыя яму і міфалагічныя вобразы. Найбольш яскрава на сінтэз дзвюх прыгаданых вышэй рэлігій указваюць народныя святы, якія спрадвеку адзначаліся беларусамі. Многія з іх маюць «паганскія» карані, аднак падчас хрысціянізацыі набылі новы статус. У мове Р. Барадуліна сустракаюцца шматлікія назвы свят і прысвяткаў беларускага народнага календара. Напрыклад, <u>Дзяды</u> ‘абрад памінання нябожчыкаў, а таксама дзень, калі ён выконваецца’: *мамін голас усіх / На* ***Дзяды*** *з пашанай кліча* [1, т. ІІІ, с. 122]; <u>Каляда</u> ‘даўнейшы абрад хаджэння па хатах у калядныя вечары з віншаваннем, велічальнымі песнямі’: *сягодня якраз* ***Каляда*** *багатая* [1, т. ІІІ, с. 122]; *Не пытай / У пападзі, / Што зімой калядкі* [1, т. ІІІ, с. 71]; <u>Сёмуха</u> ‘адно са свят праваслаўнай царквы, якое святкуецца ў пяцідзесяты дзень (праз сем тыдняў) пасля вялікадня’, <u>Грамніцы</u> ‘зімовае свята, якое адзначаецца 2 лютага’: *хоць бы акрэсліць час /* ***Сёмуха*** *ці* ***Грамніцы****?* [1, т. ІІІ, с. 109]; <u>Масленіца</u> ‘старажытнае славянскае свята провадаў зімы, ад якога захаваўся звычай пячы бліны і весяліцца’: *Пост падняў кабыле хвост, / А там –* ***Масленіца*** [1, т. ІІІ, с. 123]; <u>Радаўніца</u> ‘дзень памінання памерлых ва ўсходніх славян, на якім са старажытных часоў адбываліся трапезы на магілах бацькоў і блізкіх сваякоў’: *На* ***Радаўніцу*** *свечку запалю. / Схілюся. Змоўкну. / Ціха памалюся* [1, т. ІІІ, с. 313]; <u>Вялікдзень</u> (у аўтара – <u>Вялічка</u>) ‘веснавое хрысціянскае свята, прысвечанае ўваскрасенню Хрыста’: *Я... фарбаваў на* ***Вялічка*** *яйкі / шалупкамі ад цыбулі* [1, т. ІІІ, с. 162]; <u>Купала</u> ‘старажытнае свята летняга сонцастаяння ва ўсходніх славян, якое святкуецца ў ноч з 23 на 24 чэрвеня старога стылю’: *Сягоння ж* ***Купала****, / Што ні зробіш – прапала...* [1, т. І, с. 65].

Рэпрэзентацыя асаблівасцей народнай культуры беларусаў у мове паэзіі Р. Барадуліна адбываецца таксама і праз прыметы, звязаныя з ашчаднасцю, беражлівым стаўленнем яго землякоў да гаспадаркі, паважлівымі адносінамі да хлеба. Назоўнікі *хлеб (бохан, луста)* семантызуюць павагу да працы і да хлеба – як яе выніку: *Так, помню, вучылі мяне /* ***Хлеб*** *не кідаць пад ногі* [1, т. III, с. 6]; *Стол не зматалі ніколі на рог, / Каб не звесці на клін гаспадарку / Не сядаў у шапцы за стол маладзён, / Каб не была глухою цешча, /* ***Бохан не быў цемем уніз кладзён*** [1, т. III, с. 124]; *А я на лусту аржаную / Шапчу: – Кусціся, ярына! / Прыглухлай бояззю шаную / Маўчанне перуна* [1, т. II, с. 10]. Заўважым, што лексема *хлеб* у моўнай карціне свету беларусаў акружана станоўчым сэнсавым арэолам, пра што сведчаць барадулінскія радкі *«Як чорны хлеб, / Свой чорны дзень цані»* [1, т. III, с. 102], г. зн. 'вельмі цані, паважай'. У паэта знайшлося месца і для жартаў пра хлеб, своеасаблівую перыфразу радкоў з малітвы «Ойча наш» сустракаем у гумарыстычнай паэме «Смаргонская акадэмія»: *Хлеб наш насушаны, / Сам ссох і нас ссушыў...* [1, т. III, с. 102].

Кожная нацыянальная літаратура адлюстроўвае духоўны вопыт нацыі, асаблівасці яе культуры. Мастацкі тэкст з'яўляецца каштоўным матэрыялам для даследаванняў асаблівасцей светаўспрымання, мыслення і псіхікі пэўнай нацыі. Адлюстраванне ў літаратуры ментальнасці пэўнага этнасу надае ёй самабытнасць, арыгінальнасць, нацыянальную адметнасць і робіць сапраўднай выразніцай духоўнай сутнасці народа.

***Літаратура***

1. Барадулін, Р. Збор твораў: у 4 т. / Р.І. Барадулін. – Мінск: Мастацкая літаратура, 1996–2002. – Т. 1–3.

***Т.А. Высկварка*** (Мінск, Беларусь)

## НЕКАДЫФІКАВАНЫЯ ПРЫМЕТНІКІ-КАМПАЗІТЫ Ў ТВОРАХ МІХАСЯ ЗАРЭЦКАГА: СЕМАНТЫЧНЫ АСПЕКТ

Аўтарская словатворчасць, увасобленая ў мастацкіх тэкстах Міхася Зарэцкага, у многім выявілася праз некадыфікаваныя складаныя прыметнікі, што выступаюць своеасаблівым ацэначным кампанентам, характарызуюцца суб'ектыўным адлюстраваннем рэчаіснасці, паказаць якую пісьменнік можа толькі заглыбіўшыся ва ўнутраны свет персанажаў. Пры такім «прамым», «непасрэдным» заглыбленні шырока ўжываюцца складаныя ад'ектыўныя словы, здольныя надаць індывідуальную, унікальную «абалонку» – прыкмету іншым лексемам і гэтым стварыць уражанне адзінасутнасці, выключнасці знаёмых і нават звыклых для чытача з'яў, прадметаў і інш.

Так, у залежнасці ад ролі састаўных кампанентаў у семантычнай напоўненасці складанага слова індывідуальна-аўтарскія прыметнікі-кампазіты Міхася Зарэцкага можна падзяліць на чатыры групы:

1) складаныя прыметнікі, у якіх абодва кампаненты семантычна раўнапраўныя, у роўнай ступені «вядуць» да ўсведамлення значэння кампазіта (пры гэтым яны могуць уступаць у сінанімічныя, антанімічныя, уступальныя адносіны паміж сабой і характарызуюцца спалучальнымі адносінамі асноў): **мякка-празрысты***: Скрозь празрыстыя глыбы сыпецца* ***мякка-празрыстае*** *сонца, сцелецца па падлозе*

*дрыготнымі жоўтымі плямамі* [1, с. 33]; **радасна-ціхі***:* ***Радасна-ціхае*** *сонца сыпецца бледным праменнем скрозь іскрыстыя шыбы і цёпла сцелецца па падлозе – рэдка й зыбуча* [1, с. 29]; **спакойна-шырокі***: Ён выганяе лодку на сярэдзіну рэчкі, кладзе вёслы, вальготна адкідаецца на спінку кармы і плыве ўніз, аддаўшыся* ***спакойна-шырокай*** *плыні Дняпра* [1, с. 106];

2) складаныя прыметнікі, у якіх назіраецца «размеркаванне роляў» паміж кампанентамі: адзін з іх утварае семантычнае ядро, а другі – надае гэтаму ядру дадатковую характарыстыку (падпарадкавальныя адносіны асноў). У такім выпадку ўдакладняльны кампанент можна замяніць іншай сінтаксічнай канструкцыяй: **назолліва-знаёмы** (настолькі знаёмы, што назаляе, дакучае, раздражняе): *Гэты голас здаўся яму* ***назолліва-знаёмым*** *і чамусьці да болю непрыемным* [1, с. 223]; **рэзка-бліскучы** (які рэзка, заўважна вылучаецца бляскам на фоне іншага (іншых), у параўнанні з іншым (іншымі)): *Яе хараство не было* ***рэзка-бліскучае****, агнёвае, як тады, яна быццам працята была нейкім трагічным смуткам* [1, с. 236]; **смяротна-напружаны** (настолькі напружаны, што блізкі ці набліжае да стану паміж жыццём і смерцю): *Лясніцкі глядзеў на яе, дзіваваўся і проста не верыў, каб чалавек так лёгка, так непасрэдна мог прыстасавацца да тых* ***смяротна-напружаных*** *абставін* [1, с. 275]; **шчасліва-бліскучы** (які блішчыць шчасцем ці ад шчасця): *Ён разы са два прайшоў міма светлых,* ***шчасліва-бліскучых*** *акон, каб суняць сваё хваляванне* [1, с. 232];

3) складаныя прыметнікі, у якіх адзін з кампанентаў узводзіць у ступень, узмацняе, «напружвае» гучанне і значэнне другога, не несучы пры гэтым дадатковай самастойнай характарыстыкі (гэты кампанент можна замяніць прыслоўем меры і ступені тыпу «надзвычай, занадта, вельмі» (падпарадкавальныя адносіны асноў)): **глыбока-зялёны**: *Яшчэ стаялі клёны ў сваім* ***глыбока-зялёным*** *уборы, але ўжо насіўся над імі нявідны і невыразны павеў празрыстай восені* [1, с. 364]; **глыбока-чорны** (абсалютна чорны, ушчэнт счарнелы): *У кутку пакоя прытульна растапырыўся масіўны раяль, і на яго* ***глыбока-чорным*** *фоне стаяла Раіса…* [1, с. 233]; **чыста-асабовы** (выключна асабовы): *Дзякуючы пад'юджванню слухачоў супярэчнікі ўсё больш і больш распаляліся, паступова саскаўзваючыся з узвышша тонкай палітыкі на* ***чыста-асабовую*** *глебу* [1, с. 226];

4) складаныя прыметнікі, якія можна аднесці адразу да некалькіх вышэйзгаданых груп, што абумоўлена зменлівай прыродай, неадназначнасцю гэтых лексічных адзінак і асаблівасцямі індывідуальнага аўтарскага і чытацкага ўспрымання складаных ад'ектыўных лексем. Сюды, на нашу думку, адносяцца кампазіты з першым кампанентам *бязмежна-* (16 адзінак), які можна разумець і як прыметнік «неабсяжны, неабдымны» (у такім выпадку звычайна выступае ў ролі матэрыяльнай, фізічнай прыкметы), і як прыслоўе «надзвычай, бясконца» (найчасцей выступае ў ролі ідэальнай прыкметы): *бязмежна-дарагое цела* [1, с. 238]; *бязмежна-зялёныя нетры* [1, с. 333]; *бязмежна-салодкае адчуванне* [1, с. 235]; *бязмежна-смелыя ўцехі* [1, с. 233]; *бязмежна-цягучы гук* [1, с. 103] і інш. Неадназначная інтэрпрэтацыя характэрна і для лексем з

першым кампанентам *дзіўна* – (18 адзінак), *цудоўна-* (10 адзінак), *невымоўна-* (4 адзінкі), *бясконца-* (3 адзінкі): *дзіўна-знаёмы голас* [1, с. 151]; *дзіўна-новыя словы* [1, с. 241]; *цудоўна-простая думка* [2, с. 209]; *цудоўна-прыгожае цела* [2, с. 104]; *невымоўна-жывая адухоўленасць* [1, с. 363]; *невымоўна-салодкая слабасць* [2, с. 271]; *бясконца-свежыя ўражанні* [1, с. 211] і інш.

Такім чынам, некадыфікаваныя прыметнікі-кампазіты, якія прадстаўляюць абсалютную большасць складаных прыметнікаў, ужытых Міхасём Зарэцкім, валодаюць багатымі вобразна-выяўленчымі магчымасцямі, выконваючы «функцыю сэнсавых і эмацыянальных стымулятараў» [4, с. 48], што абумоўлена патрэбамі мастацкага тэксту, накіраванага на эмацыянальнае ўздзеянне на чытача.

***Літаратура***


1. Зарэцкі, М. Збор твораў: у 4 т. / М. Зарэцкі. – Мінск: Маст. літ., 1990. – Т. 2. – 1990. – 414 с.
2. Зарэцкі, М. Збор твораў: у 4 т. / М. Зарэцкі. – Мінск: Маст. літ., 1989. – Т. 3. – 1991. – 375 с.
3. Зарэцкі, М. Збор твораў: у 4 т. / М. Зарэцкі. – Мінск: Маст. літ., 1989. – Т. 4. – 1992. – 414 с.
4. Цікоцкі, М.Я. Сугучнасць слоў жывых…: нататкі па стылістыцы мастацкай літаратуры / М.Я. Цікоцкі. – Мінск: БДУ, 1969. – 191 с.


***В.В. Вязовская*** (Воронеж, Россия)

## ИМЕНА ПЕРСОНАЖЕЙ Н.С. ЛЕСКОВА КАК ОТРАЖЕНИЕ СОЦИАЛЬНО-ОБЩЕСТВЕННОЙ ЖИЗНИ РОССИИ XVIII–XIX вв.

Писатель Н.С. Лесков, известный своим пристрастием к тонкой языковой игре, имена и фамилии давал своим героям неслучайные. Любопытными являются в этом плане имена персонажей его романа «Соборяне», принадлежащих к самым важным сферам российского общества XVIII–XIX вв.: армии, медицине, почтовой службе.

Фамилия капитана *Повердовни* происходит от глагола *повередить / повередовать* ‘попричудничать’ [2, с. 142]. И капитану удается *попричудничать* и «позабавить» светское общество». На вечере «он сидит как божок и чувствует, что он «душа общества», и готовит обществу еще новый сюрприз» [3, с. 255]. Он читает нелепые стихи, пишет любовные стихи. И в итоге, в конце вечера, капитан Повердовня сделал такой «сюрприз, какого никто не ожидал, и эффект его был полнейший» [3, с. 256]. Капитан разыгрывает учителя, в результате чего тот «зажмуря глаза, издалече коснулся усов Повердовни: капитан на него страшно зарычал и неожиданно гавкнул по-собачьи. Варнава, не снеся этого вскрикнул и, кинувшись пантерою на исправника, начал в беспамятстве колотить кого попало» [3, с. 256].

Кстати, эпизод со стихами, которые пишет Повердовня в честь столичной гостьи, удостоившей своим посещением их провинциальное общество, по мнению И.В. Столяровой, напоминает эпизод в «Мертвых душах», где Чичиков неожиданно получает «кудревато написанные стихи от некой таинственной незнакомки» [6, с. 91]. Капитан Повердовня является инвалидом и «начальником инвалидной команды». Н.С. Лесков неоднократно подчеркивает физический недостаток своего героя. Нельзя тут не вспомнить еще одного капитана-инвалида русской литературы XIX века гоголевского

капитана Копейкина. Получается, что фамилия капитана свидетельствует не только о его «причудах», но и также о его физическом недостатке: *Повердовня*, может быть, от глагола *повредить*, то есть ‘нанести вред’. Наверняка, мастер тонких лингвистических каламбуров Н.С. Лесков, высоко ценивший творчество Н.В. Гоголя, не мог не заметить и не обыграть созвучие форм глаголов *поверbegin* *поверeдить (поверeдовать)* ‘попричудничать’ / *повредить* ‘нанести вред’, которое в семантическом отношении четко воплощается в тексте.

Важным в этом плане оказывается замечание И.В. Столяровой о том, что «неудавшийся вечер у почтмейстерши составляет известную параллель изображенной в «Мертвых душах» купеческой пирушке, устроенной «на русскую ногу с немецкими затеями. Пирушка, как водится, кончилась дракой. Сольвычегодские уходили насмерть устьсысольских, хотя и от них понесли крепкую садку на бока, подмикитки и в подсочельник, свидетельствовавшую о непомерной величине кулаков» [6, с. 91]. Эта параллель в творчестве Н.С. Лескова и Н.В. Гоголя свидетельствует о том, что «в понимании обоих писателей тот духовный примитивизм, который проявляет себя в подобных нелепых происшествиях, – это не только специфически провинциальная черта, но и общая особенность русской жизни, демонстрирующая степень ее неразвитости» [Там же].

Фамилия лекаря восходит к апеллятиву *пуговица: Пуговкин* от *пуговка* < *пуговица*. Любопытно, что в словарной статье к существительному *пуговка* М.И. Михельсон дает такой афоризм: *на чужой рот не пуговицу нашить* – болтать, сплетничать [4, с. 629]. И, видимо, не случайно протопоп Туберозов так характеризует его: «Лекарь-лгун, принадлежащий к той науке, члены которой учеными почитаются только от круглых невежд» [3, с. 82]. Очевидно, что лекарь *Пуговкин* является одним из представителей врачей-шарлатанов: «Чтобы крестьяне остерегались шарлатанского лечения знахарей и бабок, нередко расстраивающих здоровье навеки, а обращались бы тотчас за пособием к местным врачам и ветеринарам. А где же у нас сии «местные врачи и ветеринары?» [3, с. 82]. Свидетельством такого «профессионализма» служит рассказ Пуговкина о том, будто «он, выпив по ошибке у Плодомасова вместо водки рюмку осветительного керосина, имел-де целую неделю живот свой светящимся». Подобное наделение героя-лекаря отрицательными чертами имеет, видимо, и отчасти реалистическое объяснение: отношение самого автора к врачам. Он посвятил врачам несколько статей еще в начале своей карьеры («Несколько слов о врачах рекрутских присутствий» и «Несколько слов о полицейских врачах в России» в «Современной медицине», 1860, № 36, 15 сентября и № 39, 6 октября), где словно иллюстрировал пословицу «Врачу, исцелися сам» и делал читателя свидетелем получения взяток эскулапами [1, с. 163].

Служба почтмейстера *Тимофея Ивановича Тимонова* всецело отражает ситуацию на русской почтовой службе: «Что на почте письма подпечатывают и читают – сие не новость» [3, с. 64]. Такая запись появляется в дневнике протопопа 20-го декабря.

И, продолжая традицию своих коллег, «Тимофей Иванович, подпечатывая письма, нашел описание Тугановского дела <…> На что же сие делают, на что же и подпечатывание с болтовством, уничтожающим сей операции всякое значение <…> Не достойнее ли бы было, если бы ничего этого, ни того, ни другого, совсем не было?» [3, с. 74–75].

Имя почтмейстера *Тимофей* происходит из греческого ‘почитающий бога’ [8, с. 106], а отчество из мужского имени *Иван,* то есть из др.-евр. *йоханан* ‘Бог милует’ [9, с. 192; с. 314]. Фамилия персонажа, как можно заметить, дублирует его имя: *Тимонов* восходит к тому же источнику, что и имя. При этом вероятно, «правильнее» был бы вариант *Тимонин* или *Тимохин*, *Тимошин.* Частичное совпадение одного компонента в имени и фамилии персонажа *тимао* ‘почитать’ заявляет о прямой преемственности героя и о его непоколебимом *почтении* опыта в «подпечатывании» писем предыдущих поколений почтовых служащих. А отчество почтмейстера *Иванович*, ввиду его самой широкой распространенности на Руси, свидетельствует о масштабности существующей болезненной ситуации на почтовой службе. Данный прием – удвоение одного из компонентов антропонима – является не редким в практике имянаречения русской литературы XVIII–XIX веков: так у Н.В. Гоголя встречаем: Акакий Акакакиевич Башмачкин*,* Антон Антонович Сквозник-Дмухановский.

По всей вероятности, при создании образа почтмейстера, Н.С. Лесков не мог не учесть общую ситуацию XVIII–XIX веков в почтовой службе, что подтверждает и то, что сам Н.С. Лесков не раз конфликтовал с этим учреждением на протяжении своей жизни. Однажды, как вспоминает сын писателя, отцу «показалось, что его письма просматриваются, и он заказал себе штамп *«Подлец не уважает чужих тайн»*, который и решил ставить прямо на конверте. Через несколько дней последовал вызов в жандармское управление, подчеркнуто вежливо штаб-офицер объявляет Н.С. Лескову, что по просьбе санкт-петербургского почтамта он обязывается сдать свой штамп и никогда более не разрешать себе никаких отступлений от общеустановленных и для всех обязательных правил.

«– Внутри, – холодно и почтительно говорит жандарм старшего ранга, – пишите и ругайте кого вам угодно, но на конверте ничего, кроме адреса!» [с. 5, 87 ].

Вероятна в этом плане и близость фамилии героя с семантикой глагола *тимиться*, то есть ‘издеваться, насмехаться’ [2, с. 405]. Получается, что почтмейстер *Тимонов* насмехается над людьми, читая их письма.

***Литература***


1. Грелов, А.А. Из дописательской биографии Н.С. Лескова / А.А. Грелов // Прометей. – М., 1983. – Т. 13. – С. 143–167.
2. Даль, В.И. Толковый словарь живого великорусского языка: в 4 т. / В.И. Даль. – М.: Русский язык, Медиа, 2006. – Т. 3: П. – 555 с.
3. Лесков, Н.С. Собрание сочинений / Н.С. Лесков. – М.: Худ. литература, 1957. – Т.VI. – 600 с.
4. Михельсон, М.И. Русская мысль и речь: свое и чужое: опыт русской фразеологии: сборник образных слов и иносказаний: в 2 т. / М.И. Михельсон. – М.: ТЕРРА, 1997. – Т. 1. – 800 с.
5. Семенов, В. Николай Лесков – время и книги / В. Семенов. – М.: Современник, 1981. – 302 с.
6. Столярова, И.В. В поисках идеала / И.В. Столярова. – Л.: Изд-во ЛГУ, 1978. – 231 с.

7. Суперанская, А.В. Словарь русских личных имен / А.В. Суперанская. – М.: Эксмо, 2003. – 544 с.
8. Федосюк, Ю.А. Русские фамилии: популярный этимологический словарь / Ю.А. Федосюк. – 4-е изд., испр. и доп. – М.: Флинта: Наука, 2002. – 240 с.

***Ю.М. Галковская*** (Витебск, Беларусь)

## СОЦИАЛЬНАЯ ЖИЗНЬ ЛИЧНЫХ ИМЕН: ПРОДУКТИВНЫЕ СЛОВООБРАЗОВАТЕЛЬНЫЕ СРЕДСТВА РЕПРЕЗЕНТАЦИИ КВАЛИТАТИВОВ

Одним из сравнительно новых и приоритетных направлений в современном языкознании является лингвопрагматика, изучающая употребление языковых единиц с учетом возрастных, общественно-статусных, половых и профессиональных особенностей коммуникантов в конкретных условиях речевого акта.

Разделяя мнение С.М. Пак о том, что имя представляет собой «многомерный социально-языковой знак, имплицирующий различные аспекты социопрагматических референций говорящих» [2, с. 40], отметим, что важнейшим компонентом речевого общения, безусловно, является обращение-антропоним.

Идентификационными средствами коммуникативно-прагматического узуса выступают словообразовательные аффиксы, формирующие квалитативы как важнейшие координаты речевой ситуации, которые способны реализовывать различные интенции участников общения, отражать эмотивное состояние говорящего, его отношение к собеседнику. В ономастической науке под *квалитативным личным именем* понимается «имя со значением любой субъективной оценки» [3, с. 73].

Цель данной статьи – выявить продуктивные словообразовательные средства репрезентации квалитативов в речевой коммуникации.

В качестве метода изучения эффективных словообразовательных формантов использовался раздаточный анкетный опрос. В анкетировании приняли участие **150** представителей современной молодежи (1990–1991 гг. рожд.), проживающих в приграничном ареале Витебской области. Выбор круга респондентов обусловлен уникальностью молодежной культуры общения, которая «выступает в роли идентификатора и своеобразного пароля в дискурсе молодежных субкультур» [4, с. 22]. Учитывая идею В.И. Абаева о том, что язык является регистратором общественных процессов и отношений, «ибо язык и родился для выражения этих отношений» [1, с. 280], мы предложили респондентам привести примеры форм и вариантов их личных имен, используемых для коммуникации в различных социальных группах: семья, родственное окружение, школьный класс, дружеская компания, микрогруппа «ученик-учитель».

В качестве первостепенного средства образования деминутивного имени в коммуникативной ситуации «родители / близкие родственники – ребенок» выступают форманты ***-к-*** (Андрейка, Вовка, Наталька), ***-ечк-*** / ***-очк-*** (Дим**очк**а, Лен**очк**а, Ол**ечк**а, Тан**ечк**а, Юр**очк**а, Ян**очк**а), ***-юш-*** (Вал**юш**а, Дарь**юш**а, Кат**юш**а, Наст**юш**а, Юл**юш**а), ***-еньк-*** (Даш**еньк**а, Наст**еньк**а, Наташ**еньк**а, Ол**еньк**а, Сереж**еньк**а), ***-ик-*** (Влад**ик**, Инесс**ик**, Слав**ик**, Тол**ик**), ***-ушк-*** / ***-юшк-*** (Ален**ушк**а, Анн**ушк**а, Вал**юшк**а, Рад**ушк**а (от

антропонима *Радость*), Ол**юшк**а), **-ул-** (Вик**ул**я, Даш**ул**я, Ян**ул**я). Высокочастотными являются и ***гипокористические именования*** (*Аня, Валя, Вея* (от *Виолетта*), *Даша, Катя, Люда, Ната, Ника, Оля, Паша, Тоня, Юля, Юра*). Нередки в семейном общении ***окказиональные антропонимы*** (*Вава* – от *Владимир*, *Вея* – от *Виолетта*, *Дада* – от *Дарья*, *Лёка* – от *Алексей*), а также именования, появившиеся в результате ***онимизации*** (*Зайка, Котенок / Катенок, Подарочек, Солнышко*). Единичны в употреблении квалитативы, образованные с помощью формантов ***-ют-*** (Ан**ют**а), ***-ош-*** (Ант**ош**а), ***-ун-*** (Даш**ун**я, Рад**ун**я), ***-янчик-*** (Юль**янчик** – от *Юлия*), ***-онок-*** (Юльч**онок**).

В общении одноклассников превалируют ***гипокористические формы*** (*Алена, Аня, Катя, Лена, Оля, Настя, Насть, Наташа, Паша, Таня, Тоня, Юля, Яна*), а также формы с суффиксом ***-к-*** (Ань**к**а, Вил**к**а (от *Виолетта*), Вов**к**а, Даш**к**а, Кать**к**а, Лен**к**а, Оль**к**а, Рад**к**а, Юль**к**а, Ян**к**а). Встречаются формы имен с грубовато-фамильярным оттенком (Ал**юх**а, Да**х**а, Дим**он,** Кол**ян**, Кост**ян**, Тан**юх**а), однако следует отметить, что в общении между коммуникантами социально равного статуса данные формы лишены грубоватой коннотации. Их скорее можно отнести к единицам с фамильярно-дружескими значениями. Зафиксированы 2 случая использования антропонима, образованного путем комбинаторного изменения звуков (метатезы) и суффиксации (***-ес-*** / ***-юс-***) (В**алдес** – от ***Вла****дислав*, Анатоли**юс** – от *Анатолий*). Использование данных форм личных имен в качестве вокатива, на наш взгляд, обусловлено антропонимной диффузией, характерной для приграничных территорий (оба случая зафиксированы в г. Браславе).

В дружеских компаниях употребляются формы с суффиксами ***-к-*** (Ань**к**а, Валь**к**а, Вил**к**а (от *Виолетта*), Даш**к**а, Лен**к**а, Оль**к**а, Тин**к**а (от *Валентина*), Юль**к**а), ***-еньк-*** (Кат**еньк**а, Наст**еньк**а, Ол**еньк**а, Юл**еньк**а), ***-ечк-*** (Ол**ечк**а, Тан**ечк**а, Юл**ечк**а), ***-ёк-*** (Вит**ек**, Сан**ек**), ***-юш-*** (Кат**юш**а, Наст**юш**а), ***-яш-*** (Юл**яш**а), ***-ан-*** / ***-ян-*** (Вов**ан**, Кост**ян**, Тол**ян**), ***-ик-*** (Влад**ик**, Тол**ик**), ***-он-*** (Андр**он**, Дим**он**), ***-юх-*** (Андр**юх**а, Иль**юх**а), ***-ют-*** / ***-ут-*** (Ан**ют**а, Даш**ут**а), ***-ус-*** / ***-юс-*** (Вик**ус**я, Юл**юс**я), ***-чик-*** (Вов**чик**, Лен**чик**, Оль**чик**, Тан**чик**, Юль**чик**), ***-ул-*** / ***-юл-*** (Даш**ул**я, Кат**юл**я, Нат**ул**я), ***-юн-*** (Вит**юн**я, Игор**юн**я), ***-х-*** (Да**х**а, Па**х**а), ***-ец-*** (Юр**ец**), а также ***гипокористики*** (*Валя, Вова, Лена, Оля, Саша, Таня, Юля, Яна*).

Характерной чертой нашего времени является активное проникновение заимствований во все пласты лексики, что не может не оказать влияния и на речевую коммуникацию. Продуктивной моделью обращений в молодежной среде становится ***именование иностранными эквивалентами*** личных имен (*Антонио, Джулия, Катрин, Кэтрин, Натали, Серж*). Среди особенностей использования личного имени в ситуации общения в компании друзей отметим употребление ***квазиотчества***, образованного путем добавления к гипокористической форме имени форманта ***-ыч-*** / ***-ич-*** (Дим**ыч**, Кат**ич**, Тол**ич**), а также форм, характеризующихся сменой ударения (*Ра́дость – Радо́сть, Та́ня – Таня*).

В микрогруппе «учитель-ученик» высокими фреквентативными показателями отличаются ***полные*** (*Андрей, Алена, Анна, Валентина, Вероника, Виолетта, Дмитрий, Елена, Игорь, Людмила, Наталья, Ольга, Павел, Радость*) и ***гипокористические*** (*Аня, Валя, Вика, Вячеслав, Дима, Катя, Лена, Люда, Наташа, Оля, Паша, Рада, Сережа, Таня, Юля, Яна*) формы. Деминутивы представлены единично, что обусловлено особенностями коммуникативной ситуации делового общения (форманты ***-ик-*** (Тол**ик**), ***-ечк-*** (Ан**ечк**а, Ол**ечк**а), ***-еньк-*** (Даш**еньк**а), ***-ун-*** (Даш**ун**я)).

Итак, анализ средств репрезентации квалитативов, используемых в качестве вокативов в различных микрогруппах, показал, что продуктивными формами обращения в семье и близком окружении являются гипокористики и деминутивы, в ситуации «ученик-учитель» активны в использовании полные и гипокористические формы. Одноклассники чаще всего употребляют имена с фамильярно-дружеской коннотацией.

Широкий спектр словообразовательных формантов характерен для антропонимов, используемых в дружеских компаниях. Яркой чертой коммуникации молодежи является экспериментирование с языковыми нормами (использование иностранных эквивалентов и квазиотчеств). Сопоставив результаты нашего исследования с данными, полученными Е.И. Поповой (г. Смоленск), которая изучала коммуникативное поведение молодежи Смоленщины [4, с. 28–29], отметим, что продуктивные средства образования квалитативов качественно практически не отличаются, что может свидетельствовать о схожести социопрагматических референций коммуникантов в смежных регионах.

***Литература***

1. Абаев, В.И. О происхождении языка / В.И. Абаев // Василию Ивановичу Абаеву 100 лет: сборник. – М.: Языки русской культуры, 2001. – С. 271–283.

2. Пак, С.М. Ономастикон как объект филологического исследования (на материале американского дискурса XIX–XX вв.): дис. … д-ра филол. наук: 10.02.04 / С.М. Пак. – М., 2005. – 366 с.

3. Подольская, Н.В. Словарь русской ономастической терминологии / Н.В. Подольская. – 2-е изд., перераб. и доп. – М.: Наука, 1988. – 192 с.

4. Попова, Е.И. Речевое и коммуникативное поведение молодежи Смоленщины / Е.И. Попова // Витебщина и Смоленщина в языковых и культурных контактах: история и современное состояние: материалы Междунар. метод. семинара (Смоленск, 18 ноября 2010 г.) / СмолГУ; под общ. ред. И.А. Королевой. – Смоленск, 2010. – С. 22–31.

***Я. Галло*** (Нитра, Словацкая Республика)

## К ПРОБЛЕМАТИКЕ ПОНИМАНИЯ И ИНТЕРПРЕТАЦИИ ТЕКСТА

Значение слова «интерпретация» определяется в словарях как «толкование», «изъяснение», «раскрытие смысла». Интерпретация текста – раскрытие того содержания, которое в нем заложено. Следовательно, чтение любого текста, вообще любой акт восприятия речи (при условии, конечно, что человек понимает читаемое или слышимое) есть интерпретация – интерпретация для себя. Очевидно, что интерпретация текста может быть более или менее глубокой, более или менее полной.

По нашему мнению, основная задача интерпретации текста как исследовательской деятельности и как учебной практики заключается в том, чтобы извлечь из текста максимум информации, как можно полнее постичь не только то содержание, которое заложено в него автором (адресантом), но и то, которое потенциально содержится в нем помимо авторской воли; не только постичь для себя, но и разъяснить другим.

В настоящее время в лингвистике сложились разные подходы к пониманию и интерпретации текста. Первый исходит из того, что *«интерпретация преставляет собой получение на основе одного исходного объекта (называемого интерпретируемым объектом) другого, предлагаемого интерпретатором в качестве равносильного исходному на конкретном фоне ситуации, набора презумпций, знаний»* (В.З. Демьянков); второй подход (А.В. Бондарко) сосредоточен на изучении интерпретационного компонента в содержании языковых единиц, дифференциации и взаимодействия мыслительной основы и ее языковой интерпретации (способе представления), которая реализуется в различных типах структурирования смысла. Можно также говорить об интерпретации своего / чужого поведения [7, с. 3]. Таким образом, текст, включаясь во внетекстовую деятельность, выступает и как результат интерпретации, и как средство интерпретации, и как внешние условия интерпретации [6, с. 154].

Интерпретацию текста иногда заменяют очень подробной регистрацией конкретных языковых средств. Какое бы ни было точное и подробное перечисление, на наш взгляд, оно отличается от интерпретации. Интерпретацией становится упорядоченное размышление над функцией этих средств в структуре текста. Это может быть камнем преткновения, так как не существуют заранее готовые ответы, невозможно, например, утверждать, что одно средство имеет только одну функцию или, что одну функцию может выполнять только одно средство (что, однако, с другой стороны, не является абсолютно произвольным).

Способ действия в интерпретативной работе с текстом осуществляется в виде постановки вопросов и рассмотрения вероятностных ответов, решений и выбор из них наиболее адекватного. Средствами являются языковые знаки. Знаками в герменевтической деятельности выступают как слова, так и предложения, сверхфразовые единства, знаком может служить форма текста (его стилевая и жанровая принадлежность), различные элементы текста (эпиграфы, цитаты, его графическое преставление) [6, с. 196–197].

Работа по интерпретации текста или герменевтический процесс содержит четыре основых этапа.

Первый этап соответствует *«предварительному наброску»* [2, с. 318], вхождению в текст сообщения. Герменевтический контекст задает предпонимание, смысловое предвосхищение, антиципацию, реализуемые через совокупность установок истолкователя. Начинается создание герменевтического круга с предварительного наброска: *«тот, кто хочет понять текст постоянно осуществляет набрасывание*

*смысла как только в тексте начинает проясняться какой-то смысл, он делает предварительный набросок всего текста в целом»* [там же].

Таким образом, на наш взгляд, результатом стадии предпонимания является комплекс вопросов, стоящих перед читателем, а осознание каждой из установок определяет возможную линию интерпретации.

Второй этап протекает как истолкование, в форме ответов на вопросы, что отражает логическую структуру герменевтического процесса: *«знание может быть лишь у того, у кого есть вопросы»* [2, с. 429].

На третьем этапе читатель, обобщая ответы, полученные на предыдущем этапе, определяет результаты истолкования. При филологической работе с текстом результаты истолкования преставляются вербализованно, могут иметь форму аналитического отчета, рецензии, редакторского отзыва, предисловия к изданию, то есть в тех жанровых формах, которые предполагают отклик, ответ на авторское понимание, опредмеченное в тексте.

На четвертом этапе осуществляется момент аппликации, или применения результатов, интеграции полученной информации в читательский опыт.

Выделяются следующие типы понимания: *«1) семантизирующее понимание, то есть „декодирование"» единиц текста, выступающих в знаковой функции; 2) когнитивное понимание, то есть освоение содержательности познавательной информации, данной в форме тех же самых единиц текста, с которыми сталкивается семантизирующее понимание; 3) смысловое (феноменологическое) понимание, построенное на распредмечивании идеальных реальностей, презентируемых помимо средств прямой номинации, но опредмеченных все же именно в средствах текста. Последние выступают не как знаковые образования, а как ассоциаты другого рода»* [1, с. 53].

Каждому типу соответствуют свои техники понимания: 1) семантизирующему типу соответствует техника декодирования, где знаку приписывается определенное значение; 2) когнитивному – техника интериоризации контекста ситуации (контекстная догадка), техника наращивания смыслов микротекстов и техника соединения актуализируемых знаний с усматриваемыми признаками отраженного в тексте объекта; 3) смысловому типу соответствует распредмечивание средств текста, коррелятивных со смыслами и неравных при этом средстам прямой номинации, реактивация прошлого опыта значащих переживаний и, наконец, переконцентрация – переключение личностной установки, сопровождаемое практическим абстрагированием от мыслей и чувств, не относящихся к содержательности понимаемого текста (эмпатия) [1, с. 63–71].

Типология понимания, с другой стороны, отражает степень сложности процесса интерпретации и, следовательно, уровень развитости языковой (текстовой) личности.

Выводы.

Процесс понимания, как и любая человеческая деятельность, предполагает наличие мотива, цели, способов действия и средств осуществления. Процесс

понимания – декодирующая текстовая деятельность, мотивом которой выступает стремление разрешить непонимание, целью – найти наиболее «правильную», удовлетворяющую интерпретацию, способ действия определяется стратегией, избираемой герменевтом, средствами – знаки и знаковые комплексы различной длины и сложности, вычленяемые в тексте.

Герменевтическая работа с текстом распадается на четыре этапа: анализ установок (предпонимание), процесс истолкования, вербализация (фиксация) результатов интерпретации, интегрирование нового знания в герменевтический опыт.

Существующие типы понимания (семантизирующее, когнитивное, смысловое или распредмечивающее) образуют систему герменевтической практики; при восхождении от даного типа к другому предыдущая ступень встраивается, интегрируется в более высокую. Вершиной практики и высшей формой герменевтического опыта является такое коммуникативное отношение, такая позиция в коммуникативном пространстве, при которой текст занимает позицию второго субъекта в коммуникативном акте, причем позицию центральную, главенствующую.

***Литература***

1. Богин, Г.И. Филологическая герменевтика. / Г.И. Богин. – Калинин: КГУ, 1982. – 86 с.

2. Гадамер, Г.Г. Истина и метод. / Г.Г. Гадамер. – М.: Прогресс, 1988. – 704 с.

3. Горшков, А.И. Русская стилистика. Стилистика текста и функциональная стилистика / А.И. Горшков. – М.: АСТ: Астрель, 2006. – 367 с.

4. Солганик, Г.Я. Стилистика текста / Г.Я. Солганик. – 9-е изд. – М.: ФЛИНТА: Наука, 2009. – 256 с.

5. Текст и дискурс / под общ. ред. Н.Ф. Алефиренко. – 1-е изд. – М.: Флинта, Наука, 2011. – 232 с.

6. Теория текста / под общ. ред. А.А. Чувакина. – 2-е изд., перераб. и доп. – М.: ФЛИНТА: Наука, 2010. – 224 с.

7. Трипольская, Т.А. Предисловие. // Проблемы интерпретационной лингвистики: человек – текст – адресат: сб. науч. трудов; редкол.: Т.А. Трипольская (отв. ред.) [и др.]. – Новосибирск: НГПУ, 2001. – 168 с.

8. Чернявская, В.Е. Интерпретация научного текста / В.Е. Чернявская. – 5-е изд. – М.: Либроком, 2010. – 128 с.

9. Hlavatá, R. Fenomén historizmu v myslení o literatúre. / R. Hlavatá. – 1. vydanie. – Nitra: UKF, 2011. – 150 s.

10. Interpretace textů (nejen) k státní maturitě. / R. Ibrahim a kol.; vedúci autorského kolektívu R. Ibrahim. – 1. vydání. – Praha: Akropolis, 2010. – 152 s.

11. Newton, M.K. Jak interpretovat text. / Kenneth M. Newton. – Olomouc: Periplum, 2008. – 263 s.

12. Vychodilová, Z. Výrazové prostředky textové soudržnosti v češtině v porovnání s ruštinou (na materiále zájmenných lexémů „ten/этот“, „to/это“ a jejich funčních ekvivalentů) / Z. Vychodilová. – 1. vydání. – Olomouc: Univerzita Palackého v Olomouci, 2008. – 298 s.

***У.І. Кулікові, А.В. Галіеўская, К.С. Грышчанка*** (Мінск, Беларусь)

## ХРЭСТАМАТЫЯ «БЕЛАРУСКАЯ АРФАГРАФІЯ: ГІСТОРЫЯ І СУЧАСНАСЦЬ» ЯК АБ'ЕКТ РЭКЛАМЫ Ў СМІ

Кніга – не толькі носьбіт духоўных каштоўнасцей, але і тавар, якому неабходна рэклама і прапаганда. Асабліва актуальны гэты тэзіс для сучаснага рэдакцыйна-выдавецкага комплексу не толькі Беларусі, а і многіх іншых краін Еўропы і Амерыкі, калі канкурэнцыя паміж выдаўцамі навуковай і навукова-папулярнай літаратуры дасягнула высокага ўзроўню.

Задача артыкула – устанавіць найбольш эфектыўныя віды рэкламы хрэстаматыі «Беларуская арфаграфія: гісторыя і сучаснасць», якая плануецца да выдання ў 2012 годзе намаганнямі кандыдата філалагічных навук У.І. Куліковіча і К.С. Грышчанка.

Паводле меркавання даследчыкаў, рэклама кнігі – гэта мэтанакіраванае распаўсюджванне інфармацыі пра асаблівасці кнігі з мэтай стварэння попыту на яе і павелічэння аб'ёмаў продажу на ўнутраным і замежным рынках.

Хрэстаматыя «Беларуская арфаграфія: гісторыя і сучаснасць» з'яўляецца спецыфічным выданнем, у якім змяшчаецца інфармацыя пра асаблівасці развіцця беларускай арфаграфічнай традыцыі на працягу апошняга стагоддзя ў гісторыі нашай краіны – з 1911 па 2011 гг. Унікальнасць яе ў тым, што гэта будзе першае выданне, прысвечаннае станаўленню і развіццю нашай пісьмовай мовы. Таму пры стварэнні таго ці іншага віду рэкламы неабходна ўлічваць: 1) шырокі чытацкі адрас твора – ад спецыялістаў-філолагаў да чытачоў далёкіх ад тэарэтычных праблем мовы (паколькі перадаваць маўленне на пісьме даводзіцца кожнаму чалавеку); 2) месца і час распаўсюджвання інфармацыі пра будучае выданне (гэта могуць быць не толькі метадычныя і педагагічныя выданні, установы адукацыі); 3) форму падачы рэкламнага матэрыялу (спрабаваць знайсці нацыянальна адметны спосаб данясення інфармацыі да патэнцыйнага пакупніка).

Распачаць рэкламаванне хрэстаматыі мэтазгодна яшчэ да выхаду яе ў свет. Гэта дазволіць падрыхтаваць грамадскасць да з'яўлення на кніжным рынку ўнікальнага прадукта, а настаўнікам, выкладчыкам па-новаму планаваць арганізацыю вучэбна-выхаваўчага працэсу з улікам даступнасці новых звестак па арфаграфічнай праблематыцы беларускай мовы, якая заўсёды была звязана з сацыяльна-эканамічнымі і палітычнымі ўмовамі жыцця беларускага грамадства. Тут павінна выкарыстоўвацца пераважна ўскосная рэклама, найбольш эфектыўнымі відамі, якой з'яўляюцца:

1) інтэрв'ю з аўтарамі-складальнікамі хрэстаматыі, якое можа быць размешчана а) у рэспубліканскіх газетах «Звязда», «Рэспубліка», «Настаўніцкая газета» і іншых, б) у сетцы Інтэрнэт, в) у рэпартажах тэлеканалаў «Лад», «СТБ», «АНТ»;

2) агляд вынікаў навуковай працы і яе перспектыўнага планавання творчага калектыву супрацоўнікаў БДТУ, паколькі аўтарамі хрэстаматыі з'яўляюцца супрацоўнікі гэтай навучальнай установы;

3) выступленні на навукова-практычных канферэнцыях з аналізам новай літаратуры, прысвечанай арфаграфічнай праблематыцы (вынік такога аналізу відавочны – адсутнасць у нашым мовазнаўстве рэкламуемага выдання).

Сярод відаў прамой рэкламы на гэтым этапе мэтазгодна выкарыстоўваць такія жанры, як а) аб'ява пра выхад хрэстаматыі з указаннем аб'ёму і фармату выдання, даты з'яўлення, месцаў продажу, кошту; б) анонс на тэлеканалах і ў сетцы Інтэрнэт.

Пасля выхаду ў свет кнігі варта разгарнуць шырокую рэкламную кампанію па інфармаванні патэнцыяльных карыстальнікаў-пакупнікоў адносна важнасці, актуальнасці,

**Дыяграма 1**




За апошнія 20 гадоў найбольшая колькасць даследаванняў у галіне беларускай лінгвістыкі падрыхтавана на атрыманне вучонай ступені кандыдата філалагічных навук (267*[1]). Значна менш спецыялістаў, у сферу навуковых інтарэсаў якіх уваходзіць беларуская мова, прэтэндавалі на атрыманне вучонай ступені доктара філалагічных навук (31*), доктара педагагічных навук (6*) і кандыдата педагагічных навук (12*) – гл. *дыяграму* 2.

**Дыяграма 2**




Адметна, што праблемы беларускай мовы і мовазнаўства вывучаліся не толькі філолагамі, але і гісторыкамі – у працэсе даследавання этнамоўных працэсаў і сістэмы нацыянальнай самасвядомасці (Т.М. Мікуліч; 1992), арабаграфічных рукапісаў XVII – першай паловы XX ст. (А.І. Цітавец; 2009), а таксама пры аналізе развіцця сістэмы вышэйшай філалагічнай адукацыі ў Беларусі ў 1944–1961 гг. (А.А. Гаравая; 2011).

Натуральна, што найбольшая колькасць дысертацыйных даследаванняў, звязаных з вывучэннем сістэмы, структуры і функцыянавання нацыянальнай мовы ў Беларусі, падрыхтаваны па спецыяльнасці «беларуская мова» (185*). Акрамя таго, матэрыял беларускай мовы выкарыстоўваўся для распрацоўкі агульных праблем лінгвістычнай тэорыі ў работах па спецыяльнасцях «тэорыя мовы» (у розны час – «тэорыя мовазнаўства», «агульнае мовазнаўства, сацыялінгвістыка, псіхалінгвістыка»; 26*), «славянскія мовы» (12*), «параўнальна-гістарычнае, тыпалагічнае і супастаўляльнае

[1] Тут і далей знак «*» абазначае колькасць дысертацыйных даследаванняў.

мовазнаўства» (6*), «руская мова» (4*), «журналістыка» (3*), «тэорыя і методыка дашкольнай адукацыі» (2*), а таксама па спецыяльнасці «тэорыя і методыка навучання і выхавання» (14*).

Шэраг даследаванняў выкананы па дзвюх спецыяльнасцях – «руская мова; беларуская мова» (34*), «беларуская мова; руская мова» (20*); «беларуская мова; параўнальна-гістарычнае, тыпалагічнае і супастаўляльнае мовазнаўства» (2*).

Адзінкавыя работы падрыхтаваны па спецыяльнасцях «беларуская мова; славянскія мовы», «беларуская мова; германскія мовы (англійская мова)», «руская мова; славянскія мовы», «славянскія мовы; беларуская мова», «агульнае мовазнаўства, сацыялінгвістыка, псіхалінгвістыка; беларуская мова», «агульная педагогіка», «тэорыя і методыка навучання і выхавання (пачатковая адукацыя)», «айчынная гісторыя», «этналогія», «гістарыяграфія, крыніцазнаўства і метады гістарычнага даследавання», «тэорыя літаратуры, тэксталогія; беларуская літаратура».

З 319 дысертацыйных даследаванняў 73 % (232 работы) напісаны на беларускай мове, астатнія – па-руску.

У незалежнай Беларусі спецыялізаваныя саветы па абароне доктарскіх і кандыдацкіх дысертацый па лінгвістыцы дзейнічалі пры Беларускім дзяржаўным універсітэце (Д 02.01.05, Д 02.01.08, Д 02.01.11, Д 02.01.21, Д 02.01.24, Д 056.03.06, К 02.01.02), дзе было абаронена 134 работы, звязаныя з беларусістыкай, Інстытуце мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі[1] (Д 006.15.01, Д 01.43.01) – 98*, Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Максіма Танка (Д 02.21.02, К 02.21.01, К 02.21.05, К 113.16.04) – 42*, Гомельскім дзяржаўным універсітэце імя Ф. Скарыны (К 02.12.03) – 35*, Гродзенскім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы (К 02.14.04) – 4*, Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце (Д 02.22.01; Д 056.06.01) – 2*, Нацыянальным інстытуце адукацыі (Д 02.23.01) – 1*. Нешматлікія даследаванні па гістарычных навуках і літаратуразнаўстве абараняліся ў адпаведных спецыялізаваных саветах.

Асноўнымі цэнтрамі па падрыхтоўцы навуковых кадраў вышэйшай кваліфікацыі ў галіне беларускага мовазнаўства на працягу двух апошніх дзесяцігоддзяў сталі профільныя кафедры вышэйшых навучальных устаноў – кафедра беларускай мовы ГДУ (31*), кафедра беларускага мовазнаўства БДПУ (27*), кафедра сучаснай беларускай мовы (21*) і кафедра гісторыі беларускай мовы БДУ (19*), а таксама асобныя аддзелы Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі – аддзел беларуска-рускіх моўных і літаратурных сувязей (14*), аддзел сучаснай беларускай мовы (10*) і інш.

Істотны ўклад у развіццё беларускага мовазнаўства зрабілі навуковыя кіраўнікі і кансультанты аспірантаў, саіскальнікаў і дактарантаў, у прыватнасці А.М. Булыка (21*), У.В. Анічэнка (17*), П.У. Сцяцко (11*), А.А. Лукашанец (10*), Н.Б. Мячкоўская (10*),

[1] Тут і далей прыводзяцца сучасныя назвы арганізацый, устаноў і іх структур.

А.І. Падлужны (10*), а таксама В.П. Лемцюгова, А.А. Станкевіч, М.С. Яўневіч, П.А. Міхайлаў, С.М. Прохарава, Л.М. Шакун, П.П. Шуба і многія іншыя.

Складанай навуковай праблемай з'яўляецца тэматычная характарыстыка абароненых даследаванняў. Яе вырашэнне абцяжарана поліаспектнасцю цэлага шэрагу дысертацыйных работ. Так, напрыклад манаграфія А.І. Забаштанскай «Нерэгулярныя фанетычныя з'явы ў беларускай дыялектнай мове» (2008) можа быць аднесена як да дыялекталогіі, так і да фаналогіі; работа В.У. Русак «Экспрэсіўны сінтаксіс празаічных твораў Янкі Сіпакова» (2009) падрыхтавана на сумежжы сінтаксісу і стылістыкі. Аднак, трэба думаць, уплыў суб'ектыўнага фактару пры класіфікацыі будзе неістотным у сувязі са значнай агульнай колькасцю дысертацый.

Як сведчыць аналіз, найбольшая колькасць даследаванняў выканана ў галіне лексікалогіі беларускай мовы (у т. л. семантыкі і этымалогіі; 20 %), прысвечана вывучэнню мовы асобных аўтараў і канкрэтных тэкстаў (12,5 %), гісторыі беларускай мовы (7,4 %) і характарыстыцы яе марфалагічнага ладу (7,3 %).

Адносна распрацаванымі галінамі нацыянальнай мовазнаўчай навукі канца XX – пачатку XXI ст. з'яўляюцца дыялекталогія (6,6 %), дэрываталогія (5,7 %), сінтаксіс (5,5 %), тэрміназнаўства (4,2 %), анамастыка (4 %), стылістыка (3,7 %), фразеалогія (3,4 %), лінгвадыдактыка (2,9 %), тэорыя і практыка перакладу (2,8 %), кагнітыўная лінгвістыка (2,6 %), тэорыя тэксту (1,8 %), этналінгвістыка (1,8 %), гісторыя мовазнаўства (1,3 %), парэміялогія (1,3 %), фаналогія (1,3 %).

Найменш даследуюцца праблемы тэорыі камунікацыі (0,8 %), лексікаграфіі (0,6 %), міжмоўных кантактаў (0,6 %), сацыялінгвістыкі (0,6 %), арфаграфіі (0,5 %), графікі (0,2 %), корпуснай лінгвістыкі (0,2 %), марфаналогіі (0,2 %), псіхалінгвістыкі (0,2 %).

На жаль, абмежаваны аб'ём артыкула не дазваляе правесці больш глыбокі аналіз дысертацыйнай тэматыкі. Аднак нават прапанаваныя колькасныя падлікі сведчаць аб праблемнай сітуацыі ў сучасным беларускім мовазнаўстве. Нескладана заўважыць, што найбольшая ўвага надаецца галінам, метады даследавання якіх сфарміраваліся яшчэ ў савецкай навуцы (лексікалогія, граматыка, мова тэкстаў, фразеалогія і інш.) або распрацоўка якіх была «пастаўлена на паток» у 1990-я гг. (кагнітыўная лінгвістыка, тэрміназнаўства, словаўтварэнне). Разам з тым, у «зародкавым» стане знаходзяцца нацыянальная тэарэтычная лексікаграфія, фаналогія, корпусная лінгвістыка, псіха- і сацыялінгвістыка.

Істотнай праблемай апошніх гадоў з'яўляецца дысбаланс у падрыхтоўцы кандыдацкіх і доктарскіх даследаванняў, прычыны якога – не толькі ўласна навуковага характару, але і, відавочна, экстралінгвістычнага плану. Аднак сам факт таго, што апошняя паспяховая абарона доктарскай дысертацыі (М.А. Даніловіча) адбылася ў красавіку 2004 г., г. зн. 7 гадоў назад, сведчыць пра востры крызіс існуючай сістэмы падрыхтоўкі кадраў вышэйшай кваліфікацыі ў Рэспубліцы Беларусь па спецыяльнасці «беларуская мова».

У сучасных умовах важна разумець, што ад вырашэння акрэсленых метадалагічных і кадравых праблем залежыць сам факт далейшага існавання нацыянальнай лінгвістыкі.

***Літаратура***


1. Дзятко, Д.В. Беларускае мовазнаўства: дысертацыі па беларускай мове, абароненыя ў Рэспубліцы Беларусь (1990 – 2011 гг.): навуковы даведнік / Д.В. Дзятко, С.У. Шахоўская. – Мінск: БДПУ, 2011. – 400 с.



***Э.С. Дубянецкі*** (Мінск, Беларусь)


## РОЛЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ МОВЫ Ў РАЗВІЦЦІ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ ВА ЎМОВАХ ГЛАБАЛІЗАЦЫІ

Агульны кірунак і дынаміка развіцця любой нацыянальнай культуры ў немалой ступені залежаць ад ступені развіцця і пашырэння ўсіх моў аўтахтоннага, карэннага насельніцтва і ў першую чаргу мовы прадстаўнікоў тытульнай нацыі. У выпадку з нашай краінай гэта азначае, што найбольшая ўвага павінна ўдзяляцца дзяржавай распаўсюджанню беларускай мовы, якая складае своеасаблівы фундамент, падмурак айчыннай культуры.

Асаблівую актуальнасць і важнасць задача пашырэння сферы ўжывання роднай мовы большасці жыхароў Беларусі набывае ў сучасны перыяд, у эпоху т. зв. «глабалізацыі». У цэлым глабалізацыя як працэс паскоранай інтэграцыі нацый і культур у адзіную сусветную супольнасць аб’ектыўна можа як у пэўным сэнсе паспрыяць развіццю нацыянальнай культуры (у выніку ўзмацнення кантактаў паміж творцамі і засваення іншакультурных феноменаў), так і, наадварот, запаволіць гістарычную эвалюцыю апошняй праз механізмы насычэння культурнай прасторы ўніфікаванымі, нівеліраванымі нізкаякаснымі і прымітыўнымі мастацкімі артэфактамі – кнігамі, фільмамі, музычнымі творамі, карцінамі, спектаклямі і інш.

У такой неспрыяльнай сітуацыі нацыянальная культура, створаная на роднай мове, выступае ў якасці пэўнага бар’еру на шляху ўзмацнення гэтых нівеліруючых глабалізацыйных працэсаў, а таксама з’яўляецца найбольш надзейным сродкам захавання старажытных народных традыцый, абрадаў, звычаяў, святаў. Калі грамадства абапіраецца на сваю нацыянальную мову, то яно становіцца больш абароненым ад разнастайных негатыўных знешніх уплываў, якіх у наш час з кожным годам становіцца ўсё больш.

Увогуле, нацыянальная мова выступае як своеасаблівы фільтр, які не дапускае ў нацыянальную культурную прастору мноства нізкамастацкіх іншаэтнічных феноменаў. Аднак калі мова тытульнай нацыі не мае глыбокай укаранёнасці ў паўсядзённым грамадскім жыцці, то патэнцыяльна можа мець месца няўхільная дэградацыя ўсёй духоўнай культуры грамадства, размыванне яго базавых этнакультурных каштоўнасцей і ідэалаў. У кожным цывілізаваным грамадстве на ўсіх гістарычных этапах яго развіцця заўважалася, што «менавіта мова дапамагае фарміраваць наша ўспрыманне свету» [3, с. 85]. Прычым звычайна «мова фарміруе лад жыцця народа, але, магчыма, не ў такой ступені, каб, згодна з гіпотэзай Сэпіра – Уорфа, цалкам вызначаць наша ўспрыманне рэчаіснасці» [3, с. 105].

Каб лепш зразумець, якую ролю адыгрывае ўласна нацыянальная мова ў развіцці этнічнай культуры, варта найперш разгледзець стан айчыннай літаратуры, паколькі менавіта апошняя непасрэдна працуе са словам, з адмысловымі мастацкімі тэкстамі. Прычым падобныя тэксты павінны ўспрымацца ў якасці «спецыяльна пабудаваных па штучных правілах моўных утварэнняў, абумоўленых культурна-гістарычна» [1, с. 63]. Паколькі сама мова дапамагае фарміраваць успрыманне свету, значыць, яна ж можа так ці іначай уплываць на светапогляд творцаў-літаратараў і ў нейкім сэнсе абумоўліваць, прадвызначаць адметныя рысы іх уласнай творчасці.

Увогуле, ва ўсе часы менавіта літаратура з'яўлялася і сёння «з'яўляецца важнейшым кампанентам духоўнай культуры, адным з найбольш дзейсных сродкаў выхавання моладзі, умацавання інтэлектуальных сіл народа» [2, с. 387]. На думку сучасных айчынных літаратуразнаўцаў, сённяшняя незапатрабаванасць літаратуры на роднай мове, як і ў мінулыя дзесяцігоддзі, «залежыць не столькі ад саміх пісьменнікаў, колькі ад абставінаў грамадскага характару ва ўмовах білінгвізму» [4, с. 118]. Пры гэтым вельмі важнай і жыццёва «неабходнай умовай для далейшага развіцця паэзіі, як і літаратуры ў цэлым, з'яўляецца паляпшэнне грамадскай сітуацыі, таму што сённяшні статус другараднасці мовы тытульнай нацыі ва ўмовах білінгвізму негатыўна ўплывае на стаўленне да культуры, гісторыі народа» [4, с. 126]. Таму з усяго вышэйсказанага можна зрабіць выснову пра тое, што менавіта пашырэнне сферы ўжывання роднай мовы ва ўсіх галінах жыццядзейнасці грамадства можа, з аднаго боку, даць даволі прыкметны імпульс для развіцця ўсёй сістэмы нацыянальнай культуры, а з другога – паслужыць эфектыўным бар'ерам на шляху ўзмацнення негатыўных працэсаў сённяшняй глабалізацыі.

***Літаратура***


1. Антипов, Г.А. Текст как явление культуры / Г.А. Антипов, О.А. Донских, И.Ю. Марковина, Ю.А. Сорокин. – Новосибирск: Наука. Сиб. отд-ние, 1989. – 197 с.
2. Беларусы: сучасныя этнакультурныя працэсы / Г.І. Каспяровіч [і інш.]; рэдкал.: А.І. Лакотка [і інш.]. – Мінск: Беларус. навука, 2009. – 607 с.
3. Говард, М. Сучасная культурная антрапалогія / М. Говард. – Мінск.: Тэхналогія; БФС, 1995. – 478 с.
4. Современная Беларусь: энциклопедический справочник: в 3 т. / редкол.: М.В. Мясникович [и др.]. – Минск: Белорус. наука, 2007. – Т. 3: Культура и искусство. – 778 с.



***И.М. Дятко*** *(Минск, Беларусь)*


## КУЛЬТУРОЛОГИЧЕСКИЙ АСПЕКТ ПРЕПОДАВАНИЯ РКИ

Язык выступает средством познания мировой и национальной культуры, духовного наследия стран и народов, достижения межкультурного взаимопонимания.

Понятия язык и национальная культура связаны между собой, поскольку именно языковой знак способен стать экспонентом культуры, язык отражает действительность, а культура является неотъемлемым компонентом действительности. Язык – фактор культуры, так как он является: а) составной частью культуры, которую мы наследуем от наших предков; б) инструментом, посредством которого мы усваиваем культуру.

При обучении иностранных студентов русскому языку необходимо гармонично сочетать изучение культуры русского языка, культуры республики пребывания и национальной культуры учащегося.

«Русский язык – один из международных языков, поэтому он функционирует и как язык-посредник при обучении другим восточнославянским языкам. Русско-белорусские связи включают все параметры существующих сходств и отношений между народами: этнические, языковые, исторические, культурные, социально-экономические, государственно-политические, географические. Эти условия образуют сумму экстралингвистических факторов, определяющих общность лингвокультурного типа двух восточнославянских языков» [1, с. 3].

Преподавание русского языка в условиях национальной республики позволяет познакомить учащегося со своей национальной культурой. Знакомство с культурой страны, в которой учащийся живет и учится, имеет огромное значение. В данном случае русский язык дает возможность рассказать белорусам о себе по всему миру, показать, кто они такие, рассказать, как они живут, приобрести настоящих друзей и искренних почитателей своей культуры. Таким образом, русский язык для студента-иностранца должен обеспечить не только получение знаний по выбранной специальности, но и познакомить с культурой русского и белорусского народов.

Знакомство с культурой белорусского народа (как мы отмечали выше) происходит при помощи русского языка. Русский язык в данном случае – это мостик, связывающий близкородственные культуры, позволяющий приспособиться к жизни в Республике Беларусь, узнать ее культуру, искренне полюбить ее, полюбить людей, живущих здесь.

Важным моментом на этом пути является отбор и презентация культуроведческого материала. Культуроведческий материал может быть представлен фразеологизмами, пословицами и поговорками, заглавиями, образами, символами классических текстов белорусской культуры; афоризмами и др.

Особое место среди такого материала отводится фразеологизмам. Давно было замечено, что фразеологизмы являются специальными единицами не только языка, но и культуры, поскольку возникновение многих из них связано с духовной жизнью народа. «Фразеологизмы, будучи образцом корреспонденции языка и культуры, донесли до нашего времени различные стороны и проявления традиционной духовной культуры и народного менталитета» [2, с. 5].

Н.И. Толстой отмечает, что «первый и относительно ранний интерес к фразеологии у славян был вызван как раз стремлением увидеть во фразеологизмах отпечатки или осколки старого быта, обрядов и верований, воссоздать породивший их контекст и ситуацию» [3, с. 373]. И.А. Подюков считает, что во фразеологии «предстает и физическая картина мира, окружающего человека, и социальное «измерение» человека в этом мире, и сам человек с его эмоциями, чувствами, внутренним миром» [4, с. 5].

В современной белорусистике широко известны этнолингвистические исследования белорусского фразеолога В.И. Коваля, который считает, что через отдельные слова и

словосочетания показана «зашифрованная» информация о мировоззрении наших предков, обрядах, представлениях людей об окружающей действительности.

Полезно знакомить студентов с традиционными народными праздниками: *Рождество, Пасха, Радуница, Купалье, Дожинки, Деды.* Это дает возможность показать преемственность традиций белорусов, отразить как старинную, так и современную специфику обрядов, раскрыть традиционную символику белорусской культуры. Интересным материалом являются следующие единицы: даты событий национальной истории; названия белорусских политических реалий, национальных и государственных праздников, обычаев; наименования исторических и архитектурных памятников, заповедников, музеев, библиотек, научных и культурных учреждений, театральных постановок; топонимы; антропонимы; названия белорусской флоры и фауны; названия блюд национальной кухни; традиционные белорусские обращения.

Неподдельный интерес у учащихся вызывают легенды белорусской земли, рассказы о выдающихся людях, известных писателях (например, о Янке Купале, Якубе Коласе, Максиме Богдановиче, Владимире Короткевиче, Василе Быкове), чтение отрывков из произведений белорусских писателей.

Инструментами преподавателя русского языка как иностранного в процессе приобретения студентами-иностранцами культурного опыта и вкуса являются в первую очередь слово (текст) и экскурсия. Экскурсия, на наш взгляд, занимает очень важное место в процессе формирования культурологического фона обучаемого. Иногда только прочитать или услышать – это очень мало. Важным является визуальный ряд. Так, недостаточно просто рассказать о Хатыни, очень важно увидеть, побывать в мемориальном комплексе. Студентам всегда интересны экскурсии в Музей народной архитектуры и быта в Строчицах, в музей Великой Отечественной войны, в Художественный музей, в Музей народного искусства в Раубичах.

Итак, задача преподавателя РКИ обучить студента-иностранца не только языку специальности (что без сомнения является первостепенной и очень важной задачей), но и познакомить его с культурой народа той страны, в которой он обучается.

***Литература***

1. Беларусь. Лингвокультурологический комплекс: пособие для иностранных студентов / под ред. Л.Н. Чумак. – Минск: БГУ, 2008.

2. Малоха, М. Фразеологизмы с концептом «дерево» в зеркале народной культуры (на материале восточнославянских и польского языков) / М. Малоха. – М.,1998.

3. Толстой, Н.И. Язык и народная культура: очерки по славянской мифологии и этнолингвистике / Н.И. Толстой. – М., 1995.

4. Подюков, А.И. Народная фразеология в зеркале народной культуры / А.И. Подюков. – Пермь, 1990.

***В.Ф. Епішава*** (Мінск, Беларусь)

## МОЎНЫЯ СРОДКІ СТВАРЭННЯ ЭТНАСТЭРЭАТЫПА БЕЛАРУСАЎ У РАМАНЕ Л. ДАЙНЕКІ «НАЗАВІ СЫНА КАНСТАНЦІНАМ»

Вобраз беларуса гераічнага, мужнага фактычна сцвердзіў у мастацкім свеце У. Караткевіч. Менавіта ён адзін з першых «пры ўзнаўленні нацыянальнага характару

беларуса ішоў насуперак распаўсюджаным у айчынным прыгожым пісьменстве поглядам на сваіх землякоў, палемізаваў з літаратурнымі клішэ. Пісьменнік услед за Янкам Купалам горка іранізаваў з беларускай памяркоўнасці і прыніжанасці: “Дазвольце ж мне, беднаму і няшчаснаму беларусу, ды ў сваёй хатцы, ды хоць у куточку, пад лаўкаю пераначаваць”. Беларускі аўтар паэтызаваў гераічны пачатак у народным характары. Сапраўдны беларус у мастацкім увасабленні Уладзіміра Караткевіча – гэта перш за ўсё моцная асоба, мужны абаронца роднай зямлі, высакародны рыцар у адносінах да жанчыны і Радзімы. Паэтызацыя станоўчых рыс характару суайчыннікаў мела на мэце выхаванне патрыятычных пачуццяў у чытачоў» [1, с. 74–75]. У чарговым гістарычным рамане Л. Дайнекі «Назаві сына Канстанцінам» мы бачым працяг той выдатнай традыцыі, якую адзін з першых у прыгожым пісьменстве распачаў класік беларускай літаратуры У. Караткевіч.

У мове рамана Л. Дайнекі «Назаві сына Канстанцінам» пры стварэнні этнастэрэатыпа беларусаў шырока выкарыстоўваюцца этнонім *ліцвіны* і этнатапонімы *Ліцвінія, Літва*. Гэтыя моўныя адзінкі дапамагаюць пісьменніку стварыць каларытную мастацкую карціну светабачання беларусаў, прыўнесці ў твор подых мінуўшчыны, адчуванне першавытокаў, акрэсліць не толькі гістарычную эпоху, але і эмацыйны фон, звязаны з традыцыяй успрымання чужымі народамі карэнных насельнікаў нашай зямлі.

На тэрыторыі Беларусі этнонім з асновай *Літва* надзвычай пашыраны ў якасці тапоніма – назвы населеных пунктаў: *Літва, Ліцвінка, Ліцвінавічы, Ліцвінава, Ліцвінаўка, Літвіца, Ліцвяны, Літоўка, Літоўск, Літоўшчына, Літоўцы* і інш. «У многіх кутках нашага краю людзі доўгі час называлі сваю радзіму Літвой, а саміх сябе літвінамі як этнанімічны напамінак, што яны некалі жылі ў складзе Вялікага Княства Літоўскага» [3, с. 33–34]. Фактычна да ХХ стагоддзя значная частка Беларусі неафіцыйна называлася *Літвою*, а жыхароў нашага краю як прадстаўнікоў новага ўсходнеславянскага этнасу – беларусаў ідэнтыфікавалі этнонімам *ліцвіны* [4, с. 54]. Як бачна, выкарыстанне Л. Дайнекам этноніма з асновай *Літва* для этнічнай самаідэнтыфікацыі беларусаў гістарычна апраўдана і адпавядае рэчаіснасці.

Этнатапанімічныя найменні *Ліцвінія, Літва* ў творы ўжываюцца як сінонімы для абазначэння поліэтнічнай дзяржавы перыяду сярэднявечча – Вялікага Княства Літоўскага. Пісьменнік у мастацкай форме абгрунтоўвае ўласную этымалогію этноніма *ліцвіны* і тэорыю ўзнікнення *Літвы-Ліцвініі*: *– Дык вып'ем, панове, за нашу новую Радзіму! – крыкнуў князь Палемон, аж лісце з дрэў пасыпалася, а звяры лясныя ў норы і берлагі зашыліся. – Даставай, слуга мой верны, залатыя келіхі са сваёй скрыні! Будзем у іх* ***ліць віны****!* [выдзелена намі. – ***В.Е.***]. *І назваў адразу ж я ўвесь народ наш прыгожым звонкім словам – ліцвіны, а дзяржаву нашу – зямля Ліцвінія. І гэтак да сконвеку нам называцца* [2, с 55]; *І тут мы непасрэдна падступаемся да нашых палесцінаў – да Вялікага Княства Літоўскага. Па сваіх памерах у той час яно было буйнейшай дзяржавай Еўропы (!), ад Балтыйскага мора да Чорнага. Калі сумняваецеся, гляньце на тагачасныя карты-мапы. Іншая справа, што гэта было*

*даволі рыхлае дзяржаўнае ўтварэнне – мясцовыя князі, нашчадкі Рурыкавічаў і Гедымінавічаў, трымалі свае княствы-ўдзелы і толькі падчас надзвычайнай замятні (вайны, паўстання) ішлі пад сцяг вялікага князя. Вялікія князі (гаспадары) былі славянабалтамі. Славянскія ліцвіны (палачане-менчукі) і балцкія аўкштайты стварылі-парадзілі Літву, якая затым пашырылася Жамойцю і Падляшшам, Валынню і Кіеўшчынай, Смаленшчынай і Браншчынай. … Зазначым, каб болей не паўтарацца, што сённяшняя Летува – гэта не тагачасная Літва, гэта толькі маленькі кавалачак таго цудоўнага залатога сасуда* [2, с. 70–71]; *Што такое Літва? Гэта ўсе мы, людзі славянскага кораня. Астрожскія з Тураўшчыны. Глябовічы з Полаччыны, Храптовічы з Валыні. І тысячы іншых, вяльможных і зацных. І мільёны простага люду. Гэта ўсё – Літва, ці Ліцвінія, як у вузкім сяброўскім коле называем мы сваю Айчыну. І аўкштайцкія князі-вадасы са сваімі дружынамі. Тыя ж самыя варагі, толькі наднёманскія. У іхніх жылах цячэ кроў ваяўнічых полацкіх князёў. Яны выйшлі з лясоў, жменька ваяўнічага народа, і наша Літва праглынула іх і засталася Літвой-Ліцвініяй, з нашай старадаўняй мовай, з нашымі статутнымі законамі, з нашай грэцкай хрысціянскай верай* [2, с. 355].

У рамане мы бачым шырокую панараму ўзаемадачыненняў паміж рознымі народамі, яркую галерэю характараў, на аснове якіх выяўлены па-мастацку пераканаўчы этнічны вобраз ліцвінаў. Можна вылучыць наступныя пазіцыі ў профілі этнастэрэатыпа ліцвінаў-беларусаў:

- самабытныя, адметныя: [Мацей Кветка]: – *… Для нас, жыхароў Вялікага Княства Літоўскага, павінна быць ясным адно: мы – самабытныя* [2, с. 327]; *Яны зразумелі – ёсць у іх нешта адметнае ад маскавітаў, палякаў, крымскіх татараў, лівонскіх рыцараў, рамеяў. Але што? Не варажства, не сармацтва* [2, с. 61];
- са сваім лёсам, гістарычным шляхам: [Андрэй Шаціла]: – *…Я б не сказаў, што мы, жыхары Вялікага княства, сарматы. Мы – ліцвіны. У нас свой лёс, свая гістарычная пуцявіна-дарога* [2, с. 250];
- з наканаваннем спалучыць у адно цэлае Усход і Захад: [Мацей Кветка]: – *…Мы – новы народ, ліцвіны, нашчадкі славутага рымляніна Палемона. Нам наканавана спалучыць у сабе, зліць у адно цэлае Усход і Захад, балтаў і славян, грэцкую і рымскую веру* [2, с. 327];
- добрыя воі, умеюць ваяваць, фізічна загартаваныя: *– Бачу, – сказаў Канстанцін. – Воі з Літвы – добрыя воі. Шмат у нас у сечах бясконцых палегла мужчынскай сілы, і хрысціянскія рыцары, у тым ліку і ліцвіны, падставілі нам сваё плячо* [2, с. 168]; [Марцін Жабыка-Жэмба]: – *…Мы, ліцвіны, умеем ваяваць. Жывучы на ўсходзе Еўропы, мы ні на імгненне не выпускаем з рукі меч, бо ўсё новыя і новыя орды накочваюцца на нас з неабсяжных лясоў і пустыняў* [2, с. 31]; *Толькі маладыя ліцвіны, налаўчыўшыся на лясных ловах і падчас бясконцых сечаў, бегаюць так хутка* [2, с. 38];
- ніколі не былі ў рабстве: [Андрэй Шаціла]: – *…Яны, маскоўцы, … лічаць ліцвінскія землі сваёй вотчынай, але нашы князі і баяры – прыродныя нашчадкі Рурыка*

*і Гедыміна і ніколі не былі ў чорным рабстве ў татараў, як дзяды-прадзеды маскоўцаў* [2, с. 244];

•любяць волю, роўнасць: *Конь, сядло, зброя, віно і гарачае мяса, трывожнае, амаль паходнае жыццё на памежжы Вялікага княства з Маскоўшчынай, – вось іхняе сонца* [2, с. 257]; [Андрэй Шаціла]: – *Ведаеш, пане Марціне, чаму я люблю нашу Ліцвінію? Таму што ў нас, ліцвінаў, усе роўныя, кожны шляхціц роўня самому каралю і вялікаму князю, а ў маскоўцаў усіх трымае ў жалезным кулаку гасудар. Там ён, як бог, а ўсе астатнія, і радавітыя князі і баяры, і праваслаўныя папы, і самыя апошнія смерды – ягоныя людзішкі. У сябе мы такога не цярпім. І не пацерпім ніколі* [2, с. 270];

•магутны народ: – *Ну й п'е ж наша шляхта! – з захапленнем выгукнуў Марцін Жабыка-Жэмба. – Такога нідзе ў Еўропе я не бачыў. Магутны народ!* [2, с. 265];

•вясёлы народ: *Гэта быў вясёлы народ. Сыны полацкай, віцебскай і аршанскай шляхты, не дужа багатай, ды ваяўнічай і ганарыстай, упартай і хлебасольнай* [2, с. 242];

•шчырыя, самаадданыя: *Марцін, шырока раскінуўшы рукі, быццам жадаючы абняць усіх гэтых чароўных багіняў, шчыра аддаўся імкліваму танцу, як спрадвеку аддаюцца яму ліцвіны* [2, с. 33].

У профілі этнастэрэатыпа ліцвінаў-беларусаў вылучаюцца семы са станоўчай канатацыяй, што яшчэ раз пацвярджае імкненне пісьменніка ўслед за У. Караткевічам сцвердзіць у мастацкай літаратуры станоўчы вобраз беларуса з мэтай выхавання маладога пакалення ў духу патрыятызму і любові да сваёй Айчыны.

***Літаратура***


1. Бароўка, В.Ю. Этнастэрэатыпы ў прозе У. Караткевіча і А. Крысці / В.Ю. Бароўка // Беларускае літаратуразнаўства: навукова-метадычны зборнік. – Мінск: Паркус плюс, 2008. – Вып. 6. БДУ. – С. 73–75.
2. Дайнека, Л.М. Назаві сына Канстанцінам / Леанід Дайнека. – Мінск: ЛіМ, 2010. – 448 с.
3. Лыч, Л.М. Назвы зямлі беларускай / Л.М. Лыч. – Мінск: Універсітэцкае, 1994. – 128 с.
4. Рогалеў, А. Назвы роднага краю / А. Рогалеў // Роднае слова. – 2011. – № 1. – С. 54–57.


***Е.А. Жукова*** (Москва, Россия)

## О ПРОБЛЕМАХ МЕЖКУЛЬТУРНОЙ КОММУНИКАЦИИ В ПРЕПОДАВАНИИ РУССКОГО ЯЗЫКА КАК ИНОСТРАННОГО

Человек – существо общественное. Он живет в обществе и, следовательно, может и должен общаться с другими членами этого общества. Главным в общении людей является их стремление понимать друг друга. Сейчас, когда смешение народов, языков, культур достигло невиданного размаха, и как никогда остро встала проблема воспитания интереса и уважения к чужим культурам, особое внимание уделяется вопросам межкультурной коммуникации.

Тесная взаимозависимость преподавания иностранных языков и межкультурной коммуникации настолько очевидны, что вряд ли нуждаются в пространных разъяснениях. Чтобы овладеть чужим языком, необходимо осознавать, что носитель чужого языка является и носителем чужой культуры, необходимо научиться общаться с

ним с учетом понимания его культуры, то есть овладеть межкультурной коммуникацией. Каждая культура формируется в соответствии со своими базовыми признаками, одним из которых является язык. Язык – это не только система знаков, но также исторически сложившаяся форма культуры народа. Культурная речь всегда помогала людям найти взаимопонимание.

Каждый урок иностранного языка – это перекресток культур, это практика межкультурной коммуникации, потому что каждое иностранное слово отражает иностранный мир и иностранную культуру: за каждым словом стоит обусловленное национальным сознанием представление о мире.

В процессе обучения русскому языку как иностранному перед преподавателем стоят две задачи: с одной стороны, научить иностранных учащихся правильному произношению, интонации, употреблению слов и форм, построению предложений и словосочетаний, соблюдению строевых норм языка, добиться автоматизма в правильном употреблении языковых единиц, с другой стороны, научить правильному построению письменных и устных текстов, использованию речевых средств в полном соответствии со стилистическим и лингвострановедческим статусом в изучаемом языке. Эти задачи взаимосвязаны и неразделимы, так как учащиеся не только получают знания, но и приобретают навыки коммуникативной деятельности на русском языке. Языковая компетенция предполагает владение на хорошем уровне культурой неродной речи. Именно поэтому вопрос о культуре речи в преподавании русского языка как иностранного является весьма актуальным, а в настоящее время он приобретает все большее значение.

Для иностранных учащихся русский язык является в первую очередь средством общения, то есть выполняет свою коммуникативную функцию. Обучение иностранных учащихся русскому языку предполагает, что учащиеся приобретают способность пользоваться данным языком в ситуациях, типичных для повседневной речевой коммуникации, поэтому, обучая языку, необходимо обучать их культуре речи. Требования к культуре речи иностранных учащихся должны быть достаточно высокими и дифференцированными в зависимости от этапа обучения.

В настоящее время в научной литературе сложились определенные подходы к изучению культуры речи, отражающие многоплановый характер этого сложного явления языковой жизни современного общества. Под культурой речи в преподавании следует понимать владение нормами устного и письменного литературного языка, умение использовать выразительные языковые средства, модели речевого этикета и осознанно применять их в реальных условиях общения в соответствии с целями и содержанием речи.

В процессе работы над культурой речи в иностранной аудитории необходимо, прежде всего, раскрыть понятие нормы, так как именно с усвоения норм языка начинается приобщение учащихся к культуре неродной речи. Норма – это образец общепризнанного употребления элементов языка. Нормы помогают литературному

языку сохранить свою целостность и общепонятность. Они защищают литературный язык от потока социальных и профессиональных жаргонов, диалектов и просторечий. Именно нормы позволяют литературному языку выполнять одну из важнейших функций – культурную. Постоянное развитие языка ведет к изменению литературных норм, и это необходимо учитывать при обучении иностранцев русскому языку.

При этом обычно выделяют два этапа: первый связан с усвоением учащимися литературно-языковых норм, второй – с творческим применением норм литературного языка в различных ситуациях общения, в зависимости от целей и задач речевой коммуникации. Иностранные учащиеся не только обучаются правильно в соответствии с нормой выражать свои мысли, но и правильно воспринимать речь, не затрудняясь в понимании нормированной речи и ее общепринятых ситуативных вариантов.

Конечно, разговорная речь иностранных учащихся имеет свои особенности, и тем не менее они стремятся нормировать свою речь, говорить ясно и правильно. Чтобы привить учащимся эти навыки в новой языковой системе, необходимо не механическое ее восприятие, а усвоение общих закономерностей системы, теоретическое обобщение полученных знаний и применение их в языковой практике. Культура речи воспитывается в языковом сознании, в речевом поведении людей. Кроме занятий по русскому языку этому способствуют пресса, радио, телевидение, кинематограф, театр, различные средства наглядности, речевая практика. При усвоении русского языка иностранные учащиеся пользуются умениями и навыками, выработанными на базе родного языка, поэтому необходимо обращать внимание на характер взаимосвязей родного языка студентов и русского языка. Степень родственности языков обусловливает специфику интерференции, а степень контактов создает предпосылки для лексических заимствований, грамматических и произносительных влияний.

Человек, как правило, формируется той культурой, в которой он развивается как языковая личность. В рамках собственной культуры у иностранных учащихся складывается свое видение мира, образа жизни, менталитета и т. п. как единственно возможного и единственно приемлемого. Когда они вступают в коммуникацию с носителями другой культуры, то начинают осознавать, что существуют и другие способы языкового выражения мыслей, форм переживания, поведения, которые не согласуются с привычными для них, поэтому воспринимаются как непонятные и странные. Если языковой барьер абсолютно очевиден, то барьер культур становится явным только при столкновении (или сопоставлении) родной культуры с чужой, отличной от нее. Культурный барьер гораздо опаснее и неприятнее языкового. Культурные ошибки обычно воспринимаются намного болезненнее, чем ошибки языковые, различия культур не обобщены в своды правил, как различия языков, нет ни грамматик, ни словарей культур. Однако все мы знаем, с каким добродушием обычно встречаются ошибки в иностранных языках его носителями. Культурные же ошибки, как правило, не прощаются так легко и производят самое отрицательное впечатление.

Иностранцу нужно хорошо знать культуру народа, чтобы пользоваться изучаемым языком как средством общения. Вступая в коммуникацию с представителями чужого языка, иностранные учащиеся должны владеть системой правил речевого поведения, речевым этикетом, являющимся неотъемлемой частью культурного общения. Владение речевым этикетом порождает доверие и уважение, позволяет чувствовать себя уверенно и непринужденно, не испытывать непонимания и затруднения в общении. Преподавателю русского языка как иностранного следует осознавать, что у иностранных учащихся уже сложившиеся представления о своем народе и других народах. Поэтому важно научить их видеть различия между культурами, улавливать особенности другой культуры, преодолевать стереотипы.

Иностранные студенты, изучающие русский язык, должны научиться понимать, почему люди другой культуры поступают определенным образом в каждой конкретной ситуации. Чем больше знаний о чужой культуре, тем меньше возможность появления коммуникативных неудач в общении с носителями языка в будущем.

***А.П. Занкавіч*** (Мінск, Беларусь)

## РОЛЯ МОВЫ Ў СІСТЭМЕ ВЫХАВАННЯ ПАТРЫЯТЫЧНАЙ АСОБЫ

Мова суправаджае свядомую дзейнасць чалавека на працягу ўсяго жыцця. Яна выступае як сродак навучання, развіцця і патрыятычнага выхавання асобы. Іншага раўназначнага з мовай па сваіх магчымасцях дыдактычнага сродку педагогіка не мае.

Мова з’яўляецца найважнейшым сродкам фарміравання культуры асобы, яе светапогляду і інтэлекту. Дзякуючы мове, пры належным валоданні ёю як інфарматыўным, інтэрактыўным і перцэптыўным сродкам адбываецца працэс духоўнага станаўлення чалавека, захаванне і перадача ім сацыяльна-культурнага вопыту, што забяспечвае ўключэнне яго ў рэальнае жыццё і працу ў грамадстве. Роднае слова дапамагае чалавеку вызначыцца з ідэаламі, поглядамі, пазіцыямі, засвоіць нормы паводзін у кантэксце нацыянальнай культуры. У прыродзе роднага слова закладзена перспектыва быць аперацыйным сродкам пазнання, інтэлектуальнага развіцця асобы, наладжвання дыялога паміж пакаленнямі, засваення і захавання людзьмі свайго і чужога вопыту.

Адносіны да духоўнай спадчыны свайго народа, да мовы продкаў выяўляюць агульную культуру і грамадскую годнасць чалавека. І хоць сёння беларуская мова рэдка гучыць, большасць насельніцтва Рэспублікі Беларусь лічыць яе роднай.

У стандарце вышэйшай адукацыі вызначаны патрабаванні да ўзроўню падрыхтоўкі будучага спецыяліста. Адно з патрабаванняў – валоданне дзяржаўнымі мовамі (беларускай і рускай), адной або некалькімі замежнымі мовамі. У сувязі з гэтым можна побач з такімі кампетэнцыямі, як: а) акадэмічныя, якія ўключаюць веды і ўменні па вывучаемых дысцыплінах; б) сацыяльна-асобасныя, якія ахопліваюць культурна-каштоўнасныя арыентацыі, веданне ідыялагічных, маральных якасцей грамадства і дзяржавы і ўменне карыстацца імі; в) прафесійныя кампетэнцыі, якія ўключаюць веды і

ўменні фармуляваць праблему, рашаць задачы, распрацоўваць планы і забяспечваць іх выкананне ў выбранай сферы дзейнасці, выдзеліць і кампетэнцыі, якія адносяцца да валодання вуснай і пісьмовай мовай. Тым больш ва ўмовах узрастаючага патоку навуковай інфармацыі асобую актуальнасць набывае фарміраванне інфармацыйнай культуры, якая заключаецца не толькі ў магчымасці хутка выбіраць патрэбную інфармацыю, але і ва ўменні яе лагічна асэнсоўваць і інтэрпрэтыраваць, граматна і аргументавана перадаваць. Такое ўменне ў значнай ступені абумоўліваецца добрай моўнай падрыхтоўкай.

Прызнанне мовы галоўным інструментам інфармацыйнага ўздзеяння. Павышэнне матывацыі публічнай маўленчай дзейнасці патрабуюць ад вышэйшай школы рыхтаваць не проста спецыяліста, а камунікатыўна развітую асобу, білінгвістычна падрыхтаваную, якая б на дастаткова высокім ўзроўні магла наладжваць зносіны ў прафесійна-справавой сферы. Таму ў сярэдзіне 90-х гадоў у ВНУ рэспублікі быў уведзены курс «Беларуская мова. Прафесійная лексіка». Асноўная задача курса – авалоданне беларускай мовай як сродкам зносін і інструментам пазнання ў галіне навукі і тэхнікі, паглыбленне ведаў пра беларускую мову як дынамічную і адкрытую сістэму, пра нацыянальную спецыфіку ў гэтай галіне; выхаванне адносін да слова як скарбніцы духоўнай і інтэлектуальнай культуры беларусаў.

Адукацыйна-выхаваўчае значэнне курса «Беларуская мова. Прафесійная лексіка» акрэсліваецца разнастайнымі сацыяльнымі функцыямі мовы ў грамадстве. Мова выступае як асноўны сродак зносін і пазнання рэчаіснасці. Дзякуючы мове, асоба засвойвае формы чалавечых узаемаадносін, пазнае маральныя і культурныя каштоўнасці свайго народа. Забяспечваючы моўную адукацыю, неабходна ствараць умовы для інтэлектуальнага, эмацыянальнага і духоўнага развіцця асобы, рыхтаваць студэнтаў да прафесійнай дзейнасці і актыўнага грамадскага жыцця, а таксама садзейнічаць таму, каб агульначалавечыя і нацыянальныя каштоўнасці культуры сталі набыткам асобы.

Праца выкладчыка накіравана перш за ўсё на тое, каб студэнты ў належнай ступені асэнсавалі той факт, што мова не проста этнічная прымета, а асноўны элемент духоўнай культуры, фальклору, літаратуры, рэлігіі, філасофіі, мастацтва і г. д., што гэта не абстрактная навука або дысцыпліна, якую неабходна здаць як абавязковы мінімум. Бясспрэчным застаецца той факт, што ў свеце няма мацнейшай сілы ўздзеяння на чалавека, чым тая, якую нясуць мова і культура народа, спрыяючы станаўленню інтэлектуальнага, нацыянальна-культурнага і патрыятычнага аблічча грамадзяніна сваёй краіны.

На выкладчыка ўскладваецца вялікая адказнасць за фарміраванне высокамаральнай творчай асобы з высокім узроўнем культуры і нацыянальнай самасвядомасці, здольнай дзейнічаць у інтарэсах свайго народа. Патрыятычны элемент у першую чаргу павінен прысутнічаць на занятках. Не апошнюю ролю ў гэтым адыгрывае правільны падбор матэрыялу.

Належнае месца займае такі від працы студэнтаў, як падрыхтоўка рэфератаў, што ўключаюць шырокі тэматычны спектр патрыятычнай накіраванасці. Абарона рэферата можа суправаджацца дыскусіяй.

Узровень валодання мовай павінен забяспечваць рэалізацыю камунікатыўных патрэб будучага сучаснага спецыяліста ў сферы прафесійных і службовых адносін. Значная ўвага пры вывучэнні мовы павінна ўдзяляцца фарміраванню камунікатыўнай кампетэнцыі спецыялістаў у сферы прафесійных, дзелавых і службовых адносін. Пагэтаму асноўная роля моўнай падрыхтоўкі ў адукацыі – не толькі практычнае авалоданне мовай, але і развіцце асобы.

***Д.П. Зылевіч*** (Мінск, Беларусь)

**АГУЛЬНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА СТЫЛЮ ДЗІЦЯЧАГА МАСТАЦКАГА ТВОРА**

Стыль мастацкай літаратуры больш складаны ў параўнанні з іншымі тыпамі літаратуры. Абумоўлена гэта тым, што мастацкая літаратура адносіцца да відаў мастацтва, а значыць выкарыстоўвае розныя спецыфічныя сродкі эмацыянальнага і эстэтычнага ўздзеяння на чытача. Калі ж чытачом з'яўляецца дзіця, то мастацкая літаратура, акрамя таго, абавязана рэалізоўваць выхаваўчую і адукацыйную функцыі, што, безумоўна, таксама адлюстроўваецца на яе стылі.

Спецыфіка стылю ў рознай ступені праяўляецца на ўсіх узроўнях мовы. Адзначым стылістычныя асаблівасці, якія найбольш характэрны для фанетычнага, арфаграфічнага, графічнага, лексічнага, граматычнага, пунктуацыйнага ўзроўняў мовы мастацкага твора для дзяцей.

Фанетычны ўзровень мовы – гэта яе агульнае гучанне ў творы, асанансы, алітэрацыі, з дапамогай якіх аўтар вырашае пэўныя мастацкія задачы. Акрамя таго, фанетычны ўзровень мовы можа быць задзейнічаны для стылізацыі мовы персанажаў, перадачы асаблівасцей дзіцячага маўлення, што дапамагае аўтарам дасягаць, напрыклад, гумарыстычнага эфекту. Аднак трэба памятаць: такія прыёмы нельга выкарыстоўваць у творах для дашкольнікаў, бо гэтыя дзеці не ўспрымаюць моўны камізм.

Графічны ўзровень мовы мастацкага твора ўключае сукупнасць літар, іншых графічных знакаў, знакаў пунктуацыі, прабелаў між словамі, водступаў між радкамі. Дзеці заўсёды візуальна ацэньваюць тэкст. Ім падабаецца буйны шрыфт, кароткія абзацы, таму што яны лягчэй чытаюцца пры несфарміраванай тэхніцы і хуткасці чытання. Маленькі чытач з цікавасцю ўспрымае выкарыстанне графічных знакаў у тэксце, з радасцю спасцігаючы аўтарскую задуму. Напрыклад, у назве зборніка А. Бутэвіча «Прыгоды Вірус@ Шкодзі»[1] ў імені галоўнага героя замест літары *а*

[1] Прыклады прыводзяцца з казак: Бутэвіч, А. Прыгоды Вірус@ Шкодзі / А. Бутэвіч. – Мінск: Маст. літ., 2009; Хадасевіч-Лісавая, К. Прыгоды дзічка Дзюдзі / К. Хадасевіч-Лісавая / Лясная кніга ў творах беларускіх пісьменнікаў. – Мінск: ЛіМ, 2008.

выкарыстоўваецца сімвал @, што ўспрымаецца арганічна, бо Шкодзя – прадстаўнік інтэрнэту.

Лексічны ўзровень мовы патрабуе ад аўтара аптымальнага з улікам чытацкага адраса адбору лексікі. Асноўнымі патрабаваннямі да мовы дзіцячай літаратуры прафесар С. Антонава лічыць простасць, выразнасць, зразумеласць для чытача адпаведнага ўзросту, вобразнасць, нагляднасць і канкрэтнасць [3, с. 308]. Гэта агульныя патрабаванні, яны павінны суадносіцца, з аднаго боку, з неабходнасцю ўзбагачаць слоўнікавы запас чытача, з другога – з індывідуалізацыяй мовы персанажаў. Мова аўтара і мова персанажаў дыферэнцыруюцца. Аўтар павінен гаварыць правільна, персанажы могуць ужываць, напрыклад, устарэлую ці дыялектную лексіку. Калі персанаж – дзіця, то ў яго мове могуць сустракацца характэрныя памылкі ці дзіцячыя неалагізмы, аднак чытачом яны павінны ўспрымацца менавіта як моўная спецыфіка ўзросту, а не норма.

У залежнасці ад зместу твора могуць ужывацца словы пэўнай тэматыкі. Напрыклад, А. Бутэвіч у названы ўжо зборнік уключае вялікую колькасць слоў камп’ютарнай тэматыкі. На сённяшні дзень гэтая лексіка рана ўваходзіць у актыўны моўны запас дзіцяці і не выклікае цяжкасцей пры ўспрыняцці. Арганічнымі ў тэксце з’яўляюцца імёны персанажаў і назвы краін: Камп Кампавіч, Манітор Дысплеевіч, Мышка, Працэсар, Мадэм, каралеўства Сусветнае Сеціва, кароль Віндаўс Вялікі, краіна Вірусанія, доктар Антывірус, камп’ютаршчык Юзер.

Пашырэнне слоўнікавага запасу чытача дасягаецца шляхам увядзення новых лексічных адзінак. Новыя для дзіцяці словы могуць тлумачыцца ў каментарыях і зносках, аднак дзіцяці дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту цяжка адрывацца ад асноўнага тэксту, таму складаныя для разумення словы лепш тлумачыць адразу ў тэксце. Значэнне слова можа праясняцца з кантэксту ці з дапамогай сінонімаў. Так, напрыклад, у А. Бутэвіча тлумачыцца запазычанае слова «фальсіфікат»: *Гэта фальсіфікат, падробка. Падман, адным словам.*

Некаторыя нявопытныя аўтары лічаць прыкметай дзіцячага стылю ўжыванне слоў з эмацыянальна-ацэначнымі суфіксамі. Гэта памылковая думка. Злоўжыванне такімі словамі надае тэксту празмерную сентыментальнасць. Выкарыстанне эмацыянальна-ацэначнай лексікі павінна быць строга матываваным.

Адзначым асаблівасці стылю на граматычным узроўні мовы. Увагі заслугоўвае марфалогія і сінтаксіс. У тэкстах для дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту колькасць назоўнікаў не павінна перавышаць 21 % ад агульнай колькасці слоў. Найбольшай увагай у гэтай катэгорыі чытачоў карыстаюцца дзеясловы. Дзецям цікава даведацца пра падзеі, іх развіццё, а апісанне прадметаў і наваколля, роздумы персанажаў прыхільна сустракаюцца чытачамі пазней – у сярэднім і старэйшым школьным ўзросце. Таму працэнт іменных часцін мовы ў тэкстах для гэтых чытачоў будзе павышацца.

Чым меншы ўзрост чытача, тым прасцейшым павінен быць сінтаксіс твора. Па выніках даследавання, праведзенага чэшскімі вучонымі, аптымальная даўжыня сказа для дзіцяці малодшага школьнага ўзросту – ад сямі да пятнаццаці слоў [3]. Сказы не павінны быць складанымі па будове, нельга злоўжываць падпарадкавальнай сувяззю, аднак занадта спрашчаць сінтаксіс таксама нельга. А. Бутэвіч, напрыклад, выкарыстоўвае парцэляваныя канструкцыі, што дазваляе разбіць складаны сказ на некалькі кароткіх, наблізіць мову твора да гутарковай, з дапамогай лагічнага націска выдзеліць пэўныя словы і надаць казцы інтанацыйную разнастайнасць: *Нават пачаў сам сябе шкадаваць, што такі ён адзінокі і няшчасны. Што ніколі не адчуваў такіх пачуццяў, пра якія Андрэй піша. Што ні разу ні ён не кахаў нікога, ні яго ніхто не кахаў.* Такія канструкцыі могуць дрэнна ўплываюць на правільнае разуменне малодшымі школьнікамі сказа як закончанай сінтаксічнай адзінкі.

Зразумела, што сінтаксічнай будовай сказа абумоўлена і пунктуацыя ў ім. У зборніку «Прыгоды Вірус@ Шкодзі» ёсць сказ складаны для дзіцяці з пункту гледжання і сінтаксіса (устаўная канструкцыя), і пунктуацыі: у ім выкарыстоўваецца тры працяжнікі, два двухкроп'і і коска: *А таму ён патрабуе – Вірус ажно здзівіўся: нічога сабе – бач, які суровы: нават патрабуе – каб гэтыя грошы невядомы адрасат забраў назад*. Думаецца, што такіх канструкцый у творах для дзяцей трэба пазбягаць.

Аўтары ўдала могуць выкарыстоўваць у тэксце пытальныя сказы. Яны ствараюць эфект дыялогу з чытачом. *А ты гатовы ім дапамагчы?* – гэта непасрэднае пытанне А. Бутэвіча да чытача. Другі прыклад падобнага прыцягнення ўвагі чытачоў: *Цікава, што за звер прысеў там паабедаць? …Чуеце чмяканне?* (К. Хадасевіч-Лісавая. Прыгоды дзічка Дзюдзі.)

Ацэнка стылю мастацкага твора прадугледжвае і ацэнку сродкаў мастацкай выразнасці. Уся разнастайнасць стылістычных фігур і мастацкіх тропаў можа выкарыстоўвацца толькі ў літаратуры для старэйшых школьнікаў. Дзеці дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту арганічна ўспрымаюць параўнанне, увасабленне, адзінкавыя эпітэты, паўтор, сінтаксічны паралелізм. Аднак усе гэтыя сродкі мастацкай выразнасці выкарыстоўваюцца дазіравана і з улікам кола цікавасцей дзіцяці. Удала, напрыклад, уводзіць параўнанне К. Хадасевіч-Лісавая: *Падняліся мы аж пад самыя аблокі, белыя і пульхныя, нібы цукровая вата.*

Такім чынам, спецыфіка стылю дзіцячай мастацкай літаратуры ў першую чаргу абумоўлена ўзроставымі магчымасцямі чытацкай аўдыторыі. Поўны стылістычны аналіз твора можна здзейсніць толькі з улікам жанра, вершаванай ці празаічнай формы напісання, часу стварэння, а таксама творчай манеры пісьма, якая характэрна кожнаму аўтару.

***Літаратура***

1. Евсеева, Г.И. Особенности редакторской подготовки изданий художественной литературы для детей среднего школьного возраста / Г.И. Евсеева // Редакторские чтения. – Омск, 2006. – С. 99–108.

2. Лавров, Н.П. Издания художественной, детской литературы, по искусству, филологии / Н.П. Лавров. – М.: Книга, 1979. – 264 с.

3. Редакторская подготовка изданий / под ред. С.Г. Антоновой. – М.: МГУП, 2002. – 466 с.

*падаюць баксы, / недзе на ладан дыхае **Ўсама**, / менскаю зьлівай дыхаюць таксы, / мокрыя таксы / й таксісты / таксама* (А. Хадановіч. Час перайсьці ад словаў да явы).

Такім чынам, каламбур у творах А. Хадановіча грунтуецца на суаднясенні ўласнага імені з сугучным яму агульным іменем, выяўляючы нечаканае аказіянальнае значэнне абодвух.

6. **Метанімія** – выкарыстанне імені вынаходцы ў якасці наймення яго вынаходніцтва: 1. *Сьпіць **Аліўе**, чый твар даўно ў салаце* (А. Хадановіч. Chansons de geste); 2. *Мы ім:* – *Каштоўны скарб Старога Сьвету! / Друкарства! Рэфармацыя! Асьвета! / Навука! **Гільятэн** і **Франкенштэйн**!* (А. Хадановіч. Бабілёнскі праект). Прыклад 2 утрымлівае анамастычныя алюзіі на паняцці *гільятына* як 'інструмент пазбаўлення жыцця' і *Франкенштэйн* – 'пачвара, створаная навукоўцам'. У першым прыкладзе побач з онімам-алюзіяй назіраем эксплікацыю апелятыўнага наймення блюда, аўтарства якога належыць носьбіту оніма: *салат Аліўе*. У сваю чаргу метанімічнае ўзаемадзеянне ўключана ў камічны кантэкст – у выслоўе *скончыць банкет тварам у салаце*.

7. Спалучэнне рознасферных імёнаў-алюзій на аснове іх **агульнага атрыбута**. У онімаў **Юдзіф** і **Доўль**, якія належаць розным субсферам – «Біблія» і «Літаратура» – гэта слова *галава*: *Зранку ён пачуваўся адрэзанай галавой прафесара **Доўля**, / з якою ўдавіца **Юдзіф** гуляла на шабашы ў боўлінг* (А. Хадановіч. Балада пра апошнюю рыфму). *Прафесар Доўэль* – памерлы вучоны-хірург, вакол ажыўленай галавы якога завязваецца інтрыга фантастычна-прыгодніцкага рамана савецкага пісьменніка А. Бяляева «Галава прафесара Доўэля». *Юдзіф* – персанаж Старога Запавету, іудзейская ўдава, якая ўратавала родны горад ад нашэсця асірыйцаў, завалодаўшы даверам іх военачальніка Алаферна і адрэзаўшы яму галаву. А. Хадановіч надае імені цнатлівай маладой удавы-патрыёткі негатыўныя канатацыі ў фантасмагарычным ключы праз трансфарманты алюзіі: Юдзіф *гуляе* галавой прафесара ў *боўлінг* на *шабашы* (як вядзьмарка).

8. Падвоеныя алюзіі, заснаваныя на **аманіміі** онімаў-алюзій: 1*. Хтось згарэў / Арлеанскаю паннай / (прысак потым аднесьлі ў музэй); / хтосьці мужна загінуў у ваннай, / як славуты францускі **Казей**…* (А. Хадановіч. Сьпеў аб маім суіцыдзе) – абыгрываецца імпліцытнае імя **Марат**, якое насілі юны беларускі партызан *Марат Казей*, знакаміты сваёй гераічнай гібеллю (трапіўшы ў акружэнне, узарваў сябе разам з фашыстамі), і *Жан-Поль Марат*, відны дзеяч Вялікай Французскай рэвалюцыі, заўзяты прыхільнік якабінскага тэрору, заколаты Шарлотай Кардэ ва ўласнай ванне. Эксплікацыя імені *Марат* адбываецца менавіта праз «прысвойванне» прозвішча беларускага піянера-героя французскаму палітыку XVIII ст. Прычым канатацыя оніма пеяратыўная – іронія праз кантраснае спалучэнне-аксюмаран: *мужна* і *загінуць у ваннай* (мужна гінуць на полі бою). 2. *Сьляпучы выбух першага стрэлу / сонечнай батарэі / багіні **Аўроры** / гэта / канец / прабоіна / мы ўсе патонем у бездані / блакітнага неба* (М. Шчур. О горад, поўны вар'ятаў…). Найбліжэйшы кантэкст паказвае, што ўласнае імя **Аўрора** выступае

аднachасова як а) парэёнім – расійскі крэйсер, адзін з афіцыйных сімвалаў Кастрычніцкага перавароту 1917 г. і б) тэонім – багіня світанку.

9. Утварэнне аказіянальных алюзійных онімаў на аснове накладання двусастаўных онімаў і «выпадзення» іх агульнага элемента: 1. **Страцім-Сэнс-Санс** – складаны онім-алюзія, утвораны шляхам накладання двух імёнаў: *Страцім-лебедзь* М. Багдановіча і *Каміль Сэн-Санс*, імя славутага французскага кампазітара XIX ст., аўтара музычнай п'есы *«Лебедзь»* (А. Хадановіч. Готыка). Тут мы бачым і прыём **метаніміі** на аснове адносін 'кампазітар – яго твор'. 2. **Сузор'е Вялікага Віні-Пуха** – аказіянальны касмонім, утвораны ад рэаліоніма-касмоніма *сузор'е Вялікай Мядзведзіцы* і імені вядомага літаратурна-мультыплікацыйнага персанажа – плюшавага *мядзведзіка Віні-Пуха* (А. Хадановіч. На дарозе). 3. **Маленькі жабрак** – аказіянальны бібліонім, утвораны ад накладання бібліонімаў А. дэ Сэнт-Экзюперы і М. Твэна: *Маленькі прынц + Прынц і жабрак*.

Такім чынам, онімы-алюзіі з'яўляюцца адным з найбольш запатрабаваных прыёмаў рэалізацыі вызначальных рыс постмадэрнісцкіх твораў, а іменна: 1) інтэртэкстуальнасці, 2) гульнёвага пачатку, 3) гульні з найменаваннямі культурных сімвалаў, 4) парадыйнасці. У творах маладых беларускіх паэтаў дадзеныя катэгорыі рэалізуюцца праз наступныя прыёмы: 1) апелятывацыя і дэсемантызацыя оніма; 2) стылёвы сінкрэтызм, калі онімы-алюзіі змяшчаюцца ў стылістычна неаднародны кантэкст; 3) алюзійнае перайначванне ідэонімаў, эргонімаў, тапонімаў; 4) плюралізацыя оніма-алюзіі – ужыванне яго ў множным ліку, што, як і напісанне з малой літары, з'яўляецца паказчыкам кантэкстуальнай апелятывацыі (тыпізацыі); 5) каламбур; 6) метанімія; 7) спалучэнне рознасферных імёнаў-алюзій на аснове іх агульнага атрыбута: *Юдзіф, прафесар Доўль*; 8) падвоеныя алюзіі, заснаваныя на аманіміі онімаў-алюзій: *Марат, Аўрора*; 9) утварэнне аказіянальных алюзійных онімаў на аснове накладання двусастаўных онімаў і «выпадзення» іх агульнага элемента: *Страцім-Сэнс-Санс, сузор'е Вялікага Віні-Пуха, Маленькі жабрак.*

***Літаратура***


1. Арнольд, И.В. Семантика. Стилистика. Интертекстуальность: сб. ст. / научн. ред. Г.Е. Бухаркин. – СПб.: Изд-во С.-Петерб. ун-та, 1999. – 444 с.

2. Васючэнка, П. Лекцыя 2. Ад мадэрнізму да XXI стагоддзя / П. Васючэнка // Мадэрнасць і літаратура: лекцыі / П. Васючэнка [Электронны рэсурс] / Беларускі калегіум. – Рэжым доступу: http://baj.by/belkalehium/lekcyji/litaratura/vasuczenka_02.htm. – Дата доступу: 24.08.2011.

3. Постмадэрнізм / Культуралогія [Электронны рэсурс] / Электронная энцыклапедыя. – 2003. – Рэжым доступу: http://slounik.org/154459.html – Дата доступу: 24.08.2011.

4. Рагаўцоў, В.І. Слоўнік пра камічнае: мовазнаўчы аспект / В.І. Рагаўцоў. – Магілёў: УА «МДУ імя А.А. Куляшова», 2010. – 172 с.

5. Стариченок, В.Д. Большой лингвистический словарь / В.Д. Стариченок. – Ростов н/Д: Феникс, 2008. – 811 с.

6. Эко, У. Открытое произведение: Форма и неопределенность в современной поэтике / У. Эко; пер. с итал. А. Шурбелева. – СПб.: Академический проект, 2004. – 384 с.

***В.М. Касцючык*** (Брэст, Беларусь)

# ЭПІТЭТ ЯК ЗНАКАВАЯ МОЎНАЯ АДЗІНКА Ў ТВОРАХ ЯНКІ КУПАЛЫ

Чытаючы творы Янкі Купалы, міжволі ловіш сябе на думцы, як многа значыла для яго паэтычнае слова пры выяўленні пачуццяў да Радзімы. «Усёй істотай Купалы, – як слушна зазначае У. Калеснік, – рухала звышлюбоў да Беларусі» [1, с. 395]. Яна аказвала выразны жыватворны ўплыў і на выбар моўных сродкаў. Нездарма многія эпітэты Купалы маюць грамадска-палітычны падтэкст. Часам яны адлюстроўваюць мажорную старонку ў Купалавай паэтыцы – звязваюць у адно цэлае прарочыя сны пра вызваленне радзімы і адраджэнне душы народа. Эпітэт падводзіцца пад новую ступень абагульнення, становіцца якасна новай моўнай адзінкай, напоўненай сімвалічным сэнсам. Шматлікія эпітэты-каляронімы Купалы выяўляюць абагульнена-асацыятыўнае бачанне будучыні беларускага народа: *К яснаму сонцу з цьмы, з беспрасвецця, / К славе з бясслаўя ўсім нашым людзям – / Гэткай шукаю сцежкі на свеце* [2, с. 196]. Светлае заўтра Беларусі ўяўляецца ўрачыста-велічным, струменіць зыркімі фарбамі, пакідае ўражанне незвычайнай, грацыёзнай жывапіснасці.

Праз эпітэты выяўляецца і часавая шырыня ўспрымання паэтам Бацькаўшчыны. Беларусь бачыцца на трох часавых зрэзах – праз мінулае, сучаснасць і будучыню. Стрыжнявым кампанентам выступае неабуджаная сучаснасць. Актуальнасць нацыянальнага пытання праяўляецца і як аб'ектыўная эпічная стыхія, і як суб'ектыўны лірычны пафас. Пры гэтым таксама адчуваецца шырыня і глыбіня паэтычнага светаўспрымання. Паэт асэнсоўвае рэчаіснасць праз выяўленне антаганістычных сіл – дабра і зла, святла і цемры. За кошт супастаўлення згаданых паняццяў Купала актывізуе думку чытача, запрашае да пошукаў прыхаванага дадатковага сэнсу: *Брат ваш і цёмны, і галодны; / Хацінка свой зжывае век;/ І век не знаў ён дум свабодных, / І крыўдзіў свой брат – чалавек* [2, с. 621]. Нярэдка паэт ужывае кантрасныя эпітэты, супрацьпастаўленыя паводле колератону: *Дайце мне сонца, сонца агнёвае, / Выведзьце з цёмнасці ночнай* [1, с. 68]. *Белая ніва ад снежнай расы / Ўбіраецца ў чорныя латы* [2, с. 101].

Аднак часцей розныя часавыя планы беларускай рэчаіснасці аўтар не спалучае ў адным паэтычным творы. Звычайна Купала трымаецца іншага прынцыпу словатворчасці. Ён мэтанакіравана злучае эпітэты аднаго часавага плану, што ўраўнаважваюць адзін аднаго. Такія словы, два разам узятыя, уплываюць на трэці, ствараючы яшчэ большую выразнасць і вобразнасць паэтычнага малюнка. Спарадкаванае спалучэнне эпітэтаў назіраецца пры апісанні дарэвалюцыйнага жыцця беларусаў: *Край наш убогі, люд наш убогі, / А цёмны, проста трудна сказаць!* [2, с. 104]. *Хоць сошка крывая, кабылка худая / І ты сам, крывы і худы, / Пацягнуцца ў поле, на тое прыволле, / На тыя прадзедаў сляды* [2, с. 103].

Частым у вершах Купалы з'яўляецца эпітэт *забраны,* што ўжываецца з мэтай абудзіць гістарычную памяць народа, цікавасць да яго мінуўшчыны: *Не загіне край забраны, / Покі жывы людзі* [2, с. 187]. *Мы ў сваім чужыя – / Край забраны тут!*

[2, с. 131]. *На цябе, наша моладзь, надзея / Нашай сумнай забранай зямлі* [2, с. 230]. Родная зямля паўстае ў вершах Купалы паняволенай. Гэта падкрэслівае і мэтанакіраванае ўжыванне эпітэтаў-дзеепрыметнікаў залежнага стану: *Брат скаваны не згіне і так: / Ён другіх пашукае братоў* [2, с. 190]. *Для аслепленых, здаўленых вас / Не было і няма іншых дум* [2, с. 193].

Паралельна з супрацьпастаўленнем антыномаў дабра і зла, з адлюстраваннем трагедыйнага стану Беларусі паэт уводзіць у свае творы і крытыку адмоўных бакоў рэчаіснасці. На ўзроўні выкарыстаных эпітэтаў можна лёгка заўважыць, як ён рэзка асуджае несправядлівасць паднявольнага становішча беларусаў, адмоўна ацэньвае канфлікт багатых і бедных у родным краі: *На ніве роднай зброд прадажны / Скрозь гаспадарку распрасцёр, / Чужацкай песняю прыказнай / Калыша здаўлены прастор* [2, с. 193].

Функцыянальна значнымі на старонках вершаў Купалы выступаюць і такія характарыстычныя эпітэты, як *убогі, сонны, сляпы, цёмны, чорны.* Яны спалучаюцца з рознымі лексіка-семантычнымі групамі назоўнікаў, адлюстроўваючы аднастайнае цяжкае становішча Беларусі: *Шчаслівы ты ці нешчаслівы, / Будзі сыноў сваёй зямлі, / Над беларускай соннай нівай / Нязгасны светач распалі!* [2, с. 120]. *Прывет вам, прывет з найцямнейшай старонкі, / Ад брацяў, ад сёстраў загнаных сваіх* [2, с. 59]. *Дажывае стара маці / Сіраціною ў хаце, / Ў соннай волі, ў чорнай долі, / Як та груша сярод поля* [2, с. 233].

Беларуская рэчаіснасць у вершах паэта не свеціцца чароўнасцю і пяшчотнай прыгажосцю. Няма тут і прасторавай адкрытасці, панарамнасці пейзажу, асаблівай радасці ад светаадчування. Не характэрна ёй ўраўнаважанасць, гарманічнасць, зладжанасць. У паняволенай Беларусі паэт не адчувае сябе шчаслівым, бо ў ёй няма магчымасці стварыць грамадства, дзе пануе сацыяльная справядлівасць, роўнасць, свабода. І таму Беларусь і яе краявіды надзяляюцца ў вершах эпітэтамі, адпаведнымі Купалаваму светаўспрыманню: *Нямое поле, сенажаці, / Лазой аквечаны дзірван* [2, с. 140]. *Сосны і вязы, дубы і асіны / Вокала возера вартай пасталі, / Долу ківаюць паклоны нямыя, / Небу малітву таемную твораць* [2, с. 271]. *Свет паклічам мёртва-сонны / Аж да сонца, аж да сонца!* [2, с. 302]. Сон, цемра, немата – гэта ключавыя словы, што так выразна адлюстроўваюць жорсткую дарэвалюцыйную рэчаіснасць роднага краю.

Побач з непрыхарошанай сучаснасцю ў паэтычных творах беларускага песняра значнае месца надаецца апісанню мінуўшчыны. Сімваламі былых выпрабаванняў нашага народа сталі ў паэзіі Купалы курганы, магілы, дзірваны, спустошаныя і палітыя крывёй палі. Тут Купала, як ніхто з беларускіх майстроў слова, выяўляе праз эпітэты абвостранае адчуванне трагічных калізій, трагедыйнае напружанне пры асэнсаванні жорсткай плыні гістарычнага працэсу. Частымі ў яго творах выступаюць эпітэты *адвечны, векавы, старасвецкі: На кургане на адвечным, / Пад асінай векавой, / Сеў дудар, сагнуўшы плечы, / З пасівелай галавой* [2, с. 149]. *Заныла ўсё, замерла ўсё, – / Не спіць адвечнае замчышча* [2, с. 356]. *Дрэмле памятка дзён, што ў нябыт уцяклі, – /*

*Ўдзірванелы курган векавечны* [2, с. 350]. У творах паэта адчувальнымі становяцца прычынна-выніковыя сувязі паміж падзеямі. Адказ на пытанне, чаму ўсюды цемра, страшная беднасць, спустошанасць палёў і душ чалавечых, холад і душэўная слепата, можна знайсці ў нямых сведках – курганах, дзе пахавана былая слава занядбанага краю.

Эпітэты ў пейзажных кантэкстах Купалы, звязаных з сучаснасцю і мінуўшчынай, выконваюць выразную мастацкую функцыю – паказваюць, што пры тагачасным сацыяльным і нацыянальным становішчы беларускага народа, у якога вынішчылі свабоду думкі і слова, забралі былую веліч духу, слаўную гісторыю і дзяржаўнасць, нельга ў поўнай меры ўспрымаць свет як аб'ект эстэтычнага асваення і ўнутранай асалоды. У паэтычных творах Купалы прырода надзяляецца мінорнай танальнасцю, а часам і непрыхаванымі адмоўнымі канатацыямі: *Трудна са сцюжай дзікаю збратацца / Хатцы, і матцы, і дзеткам малым* [2, с. 69]. *Чорная доля з чорнымі хмарамі / Жудка завіслі над гэтай раднёй* [2, с. 67].

Разам з тым прырода ў творах Купалы апісваецца і як цыклічная, рухомая з'ява, што найлепш адцяняе думку пра падабенства прыродных і грамадскіх працэсаў. Прырода – зменная з'ява, якая можа паўтарацца. Яна не заўсёды бывае соннай, бо можа абуджацца. Такая ж рухомасць, зменнасць можа праявіцца і ў грамадстве, на што і спадзяецца беларускі пясняр. Прыкладам таму выступаюць кантэксты з эпітэтамі, пазначанымі новай, мажорнай, танальнасцю: *Рэкі бурлівыя, ўчора санлівыя, / Сёння усталі, плывуць і бурляць* [2, с. 51]. *Хлынула вон зімовая нуда, / Сонца ўносе цяпло і пагоду; / Шумныя песні іграюць лясы, / Павявае вятрок цеплаваты* [2, с. 101].

Як бачым, у паэтычнай спадчыне Янкі Купалы эпітэты выступаюць носьбітамі важнай інфармацыі. Яны надзвычай глыбока адлюстроўваюць рэчаіснасць, ствараючы адметную танальнасць вершаваных радкоў.

***Літаратура***

1. Калеснік, У. Тварэнне легенды: Літ. партрэты і нарысы / У. Калеснік. – Мінск: Маст. літ., 1987. – 431 с.
2. Купала, Я. Выбраныя творы / Я. Купала. – Мінск: Белар. кнігазбор, 2002. – 640 с.

***Э.Р. Каюмова*** (Стерлитамак, Республика Башкортостан )

## ВСТАВНЫЕ КОНСТРУКЦИИ КАК СРЕДСТВО ИМИТАЦИИ ЖИВОЙ РАЗГОВОРНОЙ РЕЧИ (на материале журнала «Cosmopolitan»)

С имитацией устной спонтанной речи связано широкое распространение в современной публицистике вставных конструкций. Под *вставной конструкцией* (ВК) понимается «синтаксическая конструкция, характеризующаяся специфической интонацией включения (при которой не нарушается интонационная целостность основного предложения) и выражающая дополнительные замечания, пояснения, уточнения и поправки, касающиеся содержания основного предложения» [2, с. 79].

ВК может быть подчинена задаче пояснения содержания либо всего предложения в целом: *Если твоего предшественника очень любили в коллективе (не поверишь, и такое бывает!), твое появление может быть воспринято болезненно* (Cosmopolitan.

2010. № 2, с. 175), либо его части: *Я истосковался по вашим бирюзовым* (*a каким ещё?*) *очам!* (Cosmopolitan. 2009. № 11, с. 226).

ВК квалифицируются «как добавочные по отношению к содержанию основного предложения» [1, с. 6]. Приведем примеры из публикаций журнала «Cosmopolitan»:

*В общем, чтобы реже краситься* (*и средства экономим, и волосы щадим*)*, нужно как можно дольше поддерживать яркость цвета и умело маскировать отрастающие корни* (Cosmopolitan. 2009. № 11, с. 208).

В данном примере ВК носит характер попутного замечания по поводу содержания основного предложения (сохранение яркого цвета волос). Использование автором во ВК глаголов первого лица множественного числа приравнивает его к читательницам и смягчает директивный тон своих наставлений.

*Первые пару лет я вообще не хотел думать о браке, потом мне казалось, что брак в наших отношениях ничего не поменяет, а если не поменяет, так зачем шелушиться, потом мне было всё равно* (*тут-то меня и нужно было брать тёпленьким, но М. открыла для себя World of Warcraft, ей было не до этого*)*, а потом я вдруг захотел жениться* (Cosmopolitan. 2010. № 2, с. 84].

Автор, комментируя содержание предложения, дает дополнительные сведения, которые имеют отношение к теме высказывания (внебрачные отношения героя и его возлюбленной), но не привносят в нее существенной информации, которая была бы полезна читателю.

ВК, выполняющие функцию разъяснения термина, встречаются в «Cosmopolitan» гораздо реже:

*Правда, ответ могут написать не все старики. Одни не видят, кто-то парализован, кто-то находится в состоянии деменции* (*приобретенное слабоумие*) (Cosmopolitan. 2010. № 5, с. 177).

В данном примере ВК поясняет, семантизирует термин, который может быть не известен читателям.

Таким образом, ВК в текстах журнала «Cosmopolitan» функционируют как прием имитации живой разговорной речи. Они представляют собой попутные замечания, дополнительные сведения, незначительные по своему содержанию, что приводит к избыточности письменного текста.

Публицистический текст как текст письменной формы предполагает обдуманную фиксацию и оформление информации. Автор журналистского произведения не просто копирует разговорные формы, а своеобразно приспосабливает их к типу письменного общения, усваивая и имитируя разговорность.

***Литература***

1. Гусаренко, С.В. Синтагматический и семантико-прагматический аспекты функционирования вставных конструкций в современном русском языке: автореф. дис. … канд. филол. наук. / С.В. Гусаренко – Ставрополь, 1999. – 19 с.

2. Ляпон, М.В. Вставная конструкция / М.В. Ляпон // Русский язык: энциклопедия / гл. ред. Ю.Н. Караулов. – 2-е изд., перераб. и доп. – М.: Большая Российская энциклопедия; Дрофа, 1998. – С. 79.

***Т.А. Кісель, А.В. Макарэвіч*** (Брэст, Беларусь)

# НАЗВЫ СВЯТАЯННІКУ Ў ЗАХОДНЕПАЛЕСКІХ ГАВОРКАХ

**Святаяннік** ці **святаянскае зелле** – расліна, якую ведаюць жыхары ўсіх куткоў Беларусі за яго незвычайныя лекавыя ўласцівасці. Навуковая назва віда, які ў асноўным сустракаецца ў нашай краіне, *святаяннік прадзіраўлены* (Hypericum perforatum L.). Шырока распаўсюджана дадзеная расліна і на Заходнім Палессі. Народныя назвы гэтай расліны, якія адзначаюцца ў гаворках Брэсцка-Пінскага Палесся, і сталі прадметам нашага даследавання.

Назвы **святаяннік**, **свентыянскае зе́лле** паводле Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы запазычаны з польскай мовы [5, с. 15, с. 42]. Адносна асновы ўзнікнення дадзеных найменняў ёсць два меркаванні. Як піша Растафінскі, зверабой называецца святаяннікам таму, што цвіце каля свята св. Івана. Махэк мяркуе, што вытокі намінацыі трэба шукаць у павер'і аб неабходнасці капаць іх у ноч пад Івана Купалу. Не выключае ён і магчымасці нямецкага паходжання (калька з ням. *Sankt Johanneskraut,* літаральна 'трава святога Яна') [5, с. 15]. У заходнепалескіх гаворках намі зафіксаваны наступныя варыянты гэтага фітоніма: **свенціян** м.: *Во заўтра пойдзем свяціць свенціян, яго на Купалу свецяць* (МА, Калоднае Стол.); **сви$^{ю}$нтоян** м. (ЛАБНГ, Дружылавічы Іван.); **свінтыян** м.: *Свінтыяну нарвала, помагае от кашлю* (МА, Туляцічы Іван.), (ЛАБНГ, Спорава Бяроз.); **свынтыян** м. (НЛ, Спорава Бяроз.); **свынтыянське зі́лле** н. (ЛАБНГ, Пяркі Кобр.).

На сувязь расліны са святам Івана Купалы ўказваюць і такія двухкампанентныя найменні, як **Іва́нава кроў** ж. (ЛАБНГ, Камянюкі Кам.); **Іва́нкава кроў** ж.: *Іванкава кроў от девяноста болезнёў* (МА, Ліпна Кам.); **Іва́нова голова́** ж. (ЛАБНГ, Сушыцк Пін.). Ужыванне лексемы *кроў* можна растлумачыць уласцівасцю расліны вылучаць чырванаваты сок пры зломе сцябла [1, с. 101].

Асаблівасць расліны выдзяляць чырванаваты (вішнёвы) сок магла стаць асновай узнікнення і такой заходнепалескай назвы, як **вышнёвэ зілле** (ЛАБНГ, Ласіцк Пін.).

Аднак найбольш распаўсюджаным ў гаворках Брэсцка-Пінскага Палесся для называння расліны святаянніку з'яўляецца фітонім **зверабо́й** і яго разнастайныя варыянты: **зверабо́й** м. (ЛАБНГ, Расна Кам.); **зверобо́й** м.: *Зверобой по откосах ростэ* (МА, Лапацін Пін.), *Зверобой на межі ростэ* (МА, Дружылавічы Іван.), *Зверобой жовтэнькі на вірху* (МА, Рылавічы Іван.), *Зверобой от перелякоў помогае* (МА, Крамно Драг.), *Зверобой жоўтым цвітэ* (МА, Радчыцк Стол.), *Зверобой добрэ пыты от простуды* (МА, Фядоры Стол.), *Зверобой по корчях ростэ, варым пыты* (МА, М. Радванічы Брэсц.), *Зверобой на полі ростэ* (МА, Хлябы Пін.), *Зверобой от жоўтухі добрэ* (МА, Пелішча Кам.), (МА, Бухавічы Кобр., Велямовічы Брэсц., Віры Драг., Ганчары Пін., Гарадная Стол., Жабін Пруж., Камень Кобр., Міхалін Брэсц., Страдзечы Брэсц., Хацінава Кам., Чарнакі Кам., Шумакі Брэсц.); **звірабо́й** м. (ЛАБНГ, Прылукі Брэсц.); **звіробо́й** м. (ЛАБНГ, Хаціслаў Малар.); **звірубо́й** м. (ЛАБНГ, Радастава Драг.);

**звыробо́й** м. (ЛАБНГ, Пяркі Кобр., Азяты Жаб., Аніскавічы Кобр., Відзібар Стол.); **звэробо́й** м.: *Звэробой по горка́х ростэ* (МА, Раўчак Стол.), (МА, Сярэдняе Пруж.), (ЛАБНГ, Ласіцк Пін.).

Паводле народнай этымалогіі **зверабой** – расліна, якая забівае звера. Але выраз «забівае звера» ўжываецца тут у пераносным значэнні. Хоць святаяннік у вялікай колькасці, сапраўды, шкодны для свойскай жывёлы і выклікае нясцерпны сверб. Аднак І. Сабадош выказвае меркаванне, што номен **зверабой** матываваны ўжываннем адвару расліны для лячэння нярвовага напружання [3, с. 124].

Акрамя таго, на тэрыторыі Брэсцка-Пінскага Палесся намі зафіксаваны і такі адпаведнік, як **подгру́днык** м. (ЛАБНГ, Ласіцк Пін.). Ужыванне лексемы **подгру́днык** у адносінах да святаянніка можа быць матывавана тым, што расліна выкарыстоўваецца як процізапаленчы сродак [4, с. 474], у тым ліку пры запаленні лёгкіх ці, як кажуць вясковыя людзі, калі «баліць у грудзях».

Аналіз фактычнага матэрыялу паказвае, што за свае лекавыя ўласцівасці святаяннік шырока вядомы на тэрыторыі Брэсцка-Пінскага Палесся і мае разнастайныя адпаведнікі ў гаворках. Асноўнымі прынцыпамі намінацыі дадзенай расліны ў заходнепалескіх гаворках сталі яго знешнія ўласцівасці, час збірання і, найчасцей, характар прымянення расліны для лячэння тых ці іншых захворванняў.

***Умоўныя скарачэнні крыніц***

**ЛАБНГ** – Лексічны атлас беларускіх народных гаворак: у 5 т. / АН Беларусі, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа. – Мінск: Фонд фундаментальных даследаванняў РБ, 1993 –1998. – Т. 1: Раслінны і жывёльны свет / Г.У. Арашонкава [і інш.]; рэд. М.В. Бірыла, Ю.Ф. Мацкевіч. – 1993. – 160 с., 368 карт.

**МА** – матэрыялы, сабраныя ў час спецыяльных выездаў, у выніку апытання прадстаўнікоў гаворак.

***Літаратура***

1. Омельковець, Р. Західнополіські найменування звіробою звичайного (*Hypericum perforatum* L.) / Р. Омельковець // Flora i fitonimy na pograniczu polsko-ukraicskim / pod red. Feliksa Czygewskiego i Danuty Urban. – Lublin, 2006. – С. 99–106.

2. Раслінны свет: тэматычны слоўнік / склад. В.Д. Астрэйка [і інш.]; навук. рэд. Л.П. Кунцэвіч, А.А. Крывіцкі. – Мінск: Беларуская навука, 2001. – 655 с.

3. Сабадош, І.В. Формування української ботанічної номенклотури / І.В. Сабадош. – Ужгород, 1996. – 192 с.

4. Энцыклапедыя прыроды Беларусі: у 5 т. / гал. рэд. І.П. Шамякін. – Мінск: БелСЭ, 1983–1986. – Т. 4. – 599 с.

5. Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. – Мінск: Беларус. навука, 2008. – Т. 12. – 366 с.

***Л.Е. Ковалева*** (Гродно, Беларусь)

## О ПРИЧИНАХ ПРОНИКНОВЕНИЯ АНГЛИЦИЗМОВ В РУССКИЙ И БЕЛОРУССКИЙ ЯЗЫКИ

В последнее время в русский и белорусский язык интенсивно проникают заимствования из английского языка – англицизмы. Под англицизмом понимают «слово, выражение, заимствованные из английского языка, или оборот речи, построенный по модели, характерной для английского языка» [4, с. 28].

Влияние английского на остальные языки мира огромно: он проник практически во все сферы человеческой деятельности, стал универсальным средством

межнационального общения. Многие исследователи называют его языком-донором, подарившим другим лингвокультурам большое количество слов и выражений [1, с.19].

Что же касается начала проникновения английских слов в русский и белорусский язык, то этим временем принято считать середину или конец XVI века, когда началось непосредственное сближение Киевской Руси с Англией. В 1561 году Иван IV дал английским купцам жалованные грамоты свободно с товарами приезжать во все российские пристани. С того времени у России с Англией завязываются прочные политические и дипломатические связи. С учреждением Посольского Приказа, в Москве постоянно находятся английские послы, а в Лондоне – русские. Послы писали отчеты о своём пребывании в стране. Эти отчеты – замечательные памятники англо-русских языковых контактов, в которых встречается много слов английского происхождения. После вступления на престол Петра I большое значение стало уделяться изучению английского языка. На протяжении всего XVIII века наблюдается дальнейшее проникновение слов из английского языка в русский [3, с. 37].

Международный престиж Англии к концу XVIII – началу XIX века возрастает. В Англии начинается стремительное развитие промышленности. Это способствовало расцвету науки и техники в Англии. Технические изменения и научные открытия – создание механической прялки «Дженни», изобретение парового двигателя, появление первых паровозов, постройка железной дороги и другие достижения англичан – становятся известными в Российской империи, в состав которой вошла и территория современной Беларуси. О них появляются статьи, их описания даются в различных журналах. Все это вызывает новый приток английских слов в русский и белорусский язык. Многие передовые люди того времени изучали английский язык для того, чтобы иметь возможность читать оригинальную английскую литературу.

В конце XIX – начале XX века русский и белорусский языки обогощаются за счет английских слов, главным образом относящихся к общественно-политической, технической, спортивной сфере. Так, из английского заимствованы *бульдозер, грейдер, джаз, джем, джемпер, коктейль, кросс, пинг-понг, пуловер, радар, регби, сейф, сервис, снайпер, стенд, телетайп* и ряд других слов [3, с. 38].

Одной из главных причин проникновения англицизмов в русский и белорусский языки, как мы видим, являются дипломатические и торговые отношения. Наряду с этим можно выделить и другие причины:

1. Они возникают как наименования новой реалии, нового предмета, нового понятия, появившегося в общественной жизни. Так, *паблисити, бренд, сноб, юмор, плеер, бульдозер, коктейль.* М.А. Брейтер отмечает, что около 15% новейших англицизмов заимствуются в связи с отсутствием соответствующего наименования в языке-рецепторе. К ним относят следующие заимствования: *«детектор» (валют), топ-модель, виртуальный, инвестор, дайджест, спонсор, спрей.*

2. Новое слово является более удобным обозначением того, что прежде называлось при помощи словосочетания: наиболее раскупаемая книга – *бестселлер*,

меткий стрелок – *снайпер*, бегун на короткие дистанции – *спринтер*, гостиница для автотуристов – *мотель*, предпринимательская деятельность – *бизнес*, одно из лучших произведений композитора или исполнителя, побывавшего в хит-параде – *хит*.

3. Новые слова возникают в результате необходимости подчеркнуть частичное изменение социальной роли предмета в меняющемся социуме: *офис* – контора, служебное помещение, *сбербанк* – сберкасса. К этой группе отнесены те заимствования, которые в силу некоторых причин (лаконичность, семантика, произнесение) вытеснили ранее освоенные или исконно русские языковые единицы, например *прайс-лист* (вместо прейскурант), *имидж* (вместо образ). Здесь точнее говорить не о вытеснении, а о перераспределении смысловых ролей – в одном случае уместно употребление только англицизма (*имидж работника, имидж нашего банка*), в других – образ (*образ Божий, зверя, царя, учителя* и т. д.).

4. Заимствование новых слов обусловлено влиянием иностранной культуры, диктуется модой на английские слова. Соответственно, *торговец* поочередно становится то *коммерсантом*, то *бизнесменом*, а человек, сдающий карты – то *крупье*, то *дилером*. Большинство этих слов в силу их актуальности очень быстро стали общеупотребительными и вошли в активный словарный запас.

5. Уточнение или детализация соответствующего понятия. Например, в русском языке было *варенье* (бел. *варэнне*), которым называлось и жидкое, и густое варенье. Чтобы отличить густое варенье из фруктов или ягод, представляющее собой однородную массу, от жидкого варенья, в котором могли сохраниться целые ягоды, густое варенье стали называть английским словом *джем*. Так же возникли слова *репортаж* (при исконно русском – *рассказ*), *тотальный* (при исконно русском – *всеобщий*), *хобби* (при исконно русском – *увлечение*), *комфорт* (при исконно русском – *удобство*), *сервис* (при исконно русском – *обслуживание*) и др.

6. Обеспечение стилистического эффекта. Так, рецензия на книгу «Миры Пола Андерсена» была озаглавлена «Аптека. Улица. Фонарь». Экспрессия этого заглавия связана с интертекстовностью (намек на блоковскую строчку «Ночь. Улица. Фонарь. Аптека»). Действие этого фактора нечастое и рассчитано на высокую степень языковой компетентности говорящих.

Таким образом, все причины проникновения заимствований можно поделить на две группы: экстралингвистические и интралингвистические. К экстралингвистическим причинам относятся: 1) культурное влияние одного народа на другой; 2) наличие устных и письменных контактов; 3) увеличенный интерес к изучению определенного языка; 4) авторитетность языка-источника; 5) условия языковой культуры социальных слоев, в которую принимают новые слова. К интралингвистическим причинам можно отнести: 1) отсутствие в языке-реципиенте эквивалента для нового предмета или понятия; 2) использование одного слово вместо описательного оборота; 3) увеличение и сохранение коммуникационной точности лексических единиц путем устранения полисемии и омонимии; 4) отсутствие в родном языке возможности деривации от

исконно родных слов, в то время, как от заимствованных синонимов это возможно; 5) приобретение родового, общего термина для известных узких наименований [2, с. 112].

***Литература***

1. Введенская, Л.А. Русское слово / Л.А. Введенская – М.: Просвещение, 1991. – 66 с.
2. Гринёв, С.В. Терминологические заимствования: краткий обзор современного состояния вопроса / С.В. Гринёв // Лотте, Д.С. Вопросы заимствования и упорядочения иноязычных терминов и терминоэлементов. – М., 1982. – С. 108–136.
3. Крысин, Л.П. Иноязычные слова в современном русском языке / Л.П. Крысин. – М.: Просвещение, 1968. – 173 с.
4. Языкознание: большой энциклопедический словарь / под ред. В.Н. Ярцевой. – М., 1998. – 789 с.

***Е.В. Кожемяченко*** (Минск, Беларусь)

## ОБРАЗЫ ЗЕМНОЙ СТИХИИ В ТВОРЧЕСТВЕ М. ЦВЕТАЕВОЙ

Язык художественного текста, направленный на эстетическое восприятие, хотя и имеет прочные корни в обыденном языке, представляет собой некоторую внутреннюю форму, то есть нечто внутри себя, обладающее содержательной ценностью. В тексте слова, получая эстетическую функцию, претерпевают изменения, становятся качественно иными.

В поэзии Марины Цветаевой мы можем видеть превосходное владение всеми аспектами поэтического мастерства и широчайший охват философских, социальных и психологических аспектов жизни. Поэтические произведения Цветаевой содержат очень широкий спектр уровней сложности, у нее есть как произведения чрезвычайно простые ясные и красивые, так и сложные, требующие значительного напряжения для постижения авторской мысли, но тем не менее красивые.

Особую семантическую насыщенность в цветаевском контексте имеют образы земной стихии: *цветок – куст – дерево – лес.* С мотивом вечности, органически связанным с традиционной темой поэта и поэзии, соотнесены цветаевские образы куста и деревьев. Центральный образ цикла «Куст» наделен некоторой долей абстракции. Парадигма ключевого номинанта *имущий; тогда бы цвел мне прямо в разверстую душу; полная чаша куста; от куста – тишины* и т. д. разрушает обыденное представление о реалии. Культурный компонент лексической единицы *куст* остается на периферии коннотации. С его помощью Цветаева обращается к нераскрытому феномену творчества, к условно названному первому этапу творческого процесса, который характеризуется внутренним средоточением, медитативным состоянием поэта: *…А мне от куста – тишины: / Той, – между молчанием и речью, / …Той – до всего, после всего…* Куст – это прибежище для души поэта. Куст манит поэта, ибо нуждается в нем. Куст и поэт взаимно необходимы друг другу, слиты, между ними существует вечная тайна, которую должен понять и раскрыть читатель: *Что нужно кусту от меня?.. / А нужно! иначе б не шел / Мне в очи, и в мысли, и в уши. // Не нужно б – тогда бы не цвел / Мне прямо в разверстую душу…* Поэту же от куста нужна только тишина творчества, Вселенной, невнятицы хаоса, которая, заполнив душу, становится творчеством. Данный образ определяет направление восприятия, формирует смысл всего стихотворения.

Будучи природным символом, дерево во многих культурах знаменует динамичный рост, природное умирание и регенерацию. Почтительное отношение к дереву в разных культурах основано на вере в его целительную силу. У славян дерево – символ приобщения к миру предков, что обусловлено природными факторами, фольклорно-обрядовыми традициями, земледельческим укладом жизни, мифологическими представлениями о мировом древе жизни. Дерево – плод Матери-Земли. В славянской мифологии дерево рождено от брака земли и неба, его питают не только земля и вода, но и солнечный свет. Соединяя глубину и высоту в пространстве и во времени, дерево выступает как символ памяти о прошлом.

Одним из наиболее значимых факторов, определивших пантеистические тенденции в мироощущении Цветаевой, является ее глубокая, даже интимная связь с деревьями. Сам образ дерева представляет собой вертикаль, воплощенную идею стремления ввысь, а значит, по Марине Цветаевой, имеет значение сакрального. Дерево как сакральный культурный символ представляет собой мировую ось, проходящую в нескольких плоскостях: корни связаны с миром преисподней, срединный мир (земля) представлен стволом дерева, ветви символизируют *горний, небесный мир*. В интерпретации поэта наиболее значимой частью дерева является ствол, сердцевина: *Я знаю: не сердце во мне сердцевина // На все протяженье ствола.* Образ дерева соединяет цветаевские понятия, связанные с темой поэзии: идею вертикального восхождения, динамики, предельной свободы, вечности, высшей природной мудрости. Текстовая парадигма *деревья* включает следующие ассоциаты: *други, беглецы, вестовые, ивы-провидцы, березы-девственницы, вяз-яростный Авессалом, На пытке вздыбленная сосна…* Образ дерева приобретает дополнительную нагрузку, семантический объем слова обогащается за счет экспрессивно-образных коннотаций. Поэт привносит в их узуальную семантику свежее культурологическое звучание – деревья находятся вне человеческого измерения времени: *Это – заговор против века: / Веса, счета, времени, дроби*. Они открывают иную жизнь, «по ту сторону дней», кроме забвения земных печалей лес хранит и прошлое, и таинство будущего *…пророчества речами косвенными –, / Листва ли листьями? / Сивилла ль – выстонала?, …ивовый сребролетейский плеск Плачущий …/ В слепотекущий склеп памятей…* и др. Цепочку растительных образов логически завершает образ леса, синтезирующий абстрактные понятия вечности, святости, творчества в художественном мире Марины Цветаевой. Лес в цикле «Деревья» коннотирует признаки мощи, силы, стремительного движения *(лавины, поток, потоп, ручьи, разлитвы)*, которым не свойственны захват, агрессия, их действия – *струенье, свеченье, скввоженье*, но деревьям неизменно свойственна направленность ввысь, к небу *(небо – как въезд, это – сразу и с корнем / Ввысь сорвавшийся лес!)*. Таким образом, обращение поэта к образам деревьев выявляет принцип идентификации или сближения понятий *человек / деревья; поэт / дерево*. Мотивы отождествления человека и дерева, значимость употреблений лексем *жилы, ручьи, камни, сушь, огнь, нарост* и др., которые «обрастают» индивидуально-

авторскими ассоциациями, достойно входят в культурный тезаурус нашей эпохи.

Особого внимания заслуживает параллель «кровь – смола», свидетельствующая очеловечиванию дерева: *Березовое серебро, // Ручьи* ***живые***; *Смоль. //* ***Стонущую*** *под нажимом*. Этот факт говорит в пользу мифологической трактовки переносов. Наиболее часто встречающимися именами концепта являются *бузина и рябина*. О.Г. Ревзина отмечает, что «рябина и бузина являются языческими деревьями и в христианской религии признаются нечистыми» [1, с. 143]. М. Цветаева ощущает связь с данными деревьями как с хранителями памяти о природном родстве человека и мира. Целью же поэта, по мнению О.Г. Ревзиной, было включение данной темы в культурную парадигму своего времени и вскрытие архетипического слоя данного концепта, причем осмысление шло по логике и чутью своего поэтического языка. Деревья лечат душу, спасают: *Деревья! К вам иду! Спастись // От рева рыночного.* Они получают символическую окраску при помощи эпитетов: *дуб богоборческий, ивы-провидицы, березы-девственницы* и т. д. Деревья устремлены ввысь (*ввысь сорвавшийся лес)*. Среди признаковых номинаций концепта преобладают персонифицированные эпитеты: *равнодушные (*травы), *льстивые* (ивы), *ошалелые* (тополя), которые приобретают дополнительную нагрузку посредством экспрессивно-образных коннотаций.

Поэтическое словоупотребление Марины Цветаевой характеризуется стремлением преодолеть стереотипное осмысление используемых лексических единиц. Это происходит за счет расширения традиционного набора семантических признаков и ассоциативных связей слов, вплоть до переосмысления их культурной значимости, привнесения в семантику некоторых из них уникальной культурной соотнесенности. Выражая свое неповторимое эстетическое видение мира и создавая прагматический эффект, поэт смело использует все ресурсы коммуникативного потенциала слова. Компоненты коннотации лексической единицы, обусловленные ее интегральными связями и ассоциативной сопряженностью с контекстом, передают важнейшую для коммуникативного акта информацию, делают общение субъективно-окрашенным, личностно значимым.

***Литература***

1. Ревзина, О.Г. Тема деревьев в поэзии М. Цветаевой / О.Г. Ревзина // Труды по знаковым системам. – Тарту. – 1982. – Вып. 576. – С. 141–148.

***О.И. Копач*** (Минск, Беларусь)

## ОСОБЕННОСТИ СТРУКТУРНОЙ ОРГАНИЗАЦИИ НАЗВАНИЙ БОЛОТ БЕЛАРУСИ И США В СРАВНЕНИИ С ДРУГИМИ ГИДРОНИМНЫМИ ПОДСИСТЕМАМИ

Логичным завершением ономасиологического анализа географических собственных имен будет представление основных структурных разрядов собственных имен болот Беларуси и США – то есть той точки, с которой начинает работу над топонимией семасиолог. Будучи рассмотренными с точки зрения создателя, различные формы гелонимов не просто фиксируются как простые, сложные или составные, но получают естественное функциональное и лингвистическое объяснение.

Материалом исследования послужила авторская электронная база данных белорусских и американских гелонимов общим объемом более 7000 единиц в каждом языке (7041 гелоним Беларуси, 7304 гелонима США). Источниками материала были белорусские кадастровые планы каждой из 6 областей Беларуси, справочник «Мікратапанімія Беларусі», пятитомная «Энцыклапедыя прыроды Беларусі», ресурсы Интернета (официальный сайт американского географического общества USGS). Простыми мы будем называть «одноосновные собственные имена, не являющиеся результатом разложения, сложения или сокращения другого имени» [1, с. 113]. Это самый продуктивный разряд в белорусской гелонимии и наименее продуктивный – в американской. Более того, простой разряд гелонимов США представлен исключительно немногочисленными заимствованными именами: все-таки имена типа *the Marsh, the Bog, la Cienega* формально включают в свой состав помимо полнозначного слова определенный артикль.

Сложный разряд формируется из тех цельнооформленных единиц, в которых представлено сразу несколько основ. Такие наименования непродуктивны: в каждом из рассматриваемых языков они составляют не более 2 %.

Под составными гелонимами мы понимаем наименования болот, состоящие из двух и более слов, между которыми существует / существовал определенный вид связи.

1. Структурное своеобразие гелонимии США

Наименования болот США по преимуществу составные: поликомпонентные единицы в гелонимии страны занимают около 99 % от общего числа названий: *Barber Bay, Cahokia Slough, Carrs Marsh*. В этом проявляется характерная черта английского языка – высокая степень аналитизма. Причем если в словах общей лексики аффиксы встречаются довольно регулярно (*cooperation*, *revolution, childish*), то собственные имена не вырабатывают системы топонимных морфологических средств. Их заменяют однозначные, но сравнительно громоздкие целые слова. Даже семантические дериваты являются несколькословными единицами, а сложные гелонимы США всегда представляют собой те же самые сочетания слов, но слившиеся в акте номинации без помощи морфологических показателей (таких, как соединительная гласная в славянской топонимии).

Поскольку роль морфем в американской гелонимии берут на себя полнозначные слова, то неудивительным выглядит рост числа полнозначных компонентов в топониме. При этом отмечается большее количество слов-морфем в названиях американских болот, чем в именах рек или озер. Порядок следования компонентов в гидронимах свидетельствует об очень частой номинации болот через имя другого объекта и не оставляет сомнений в том, что вторичность болот как объекта внимания человека отразилась в языковых формах.

2. Структурное своеобразие гелонимии Беларуси

Гелонимы Беларуси обычно представлены разрядом простых единиц – 4937 примеров (70,12%): *Бубнаўка, Гадзючніца, Гуцянскае*. Высокому удельному весу их в

названиях болот способствуют особенности языка, который часто пользуется морфолого-словообразовательными показателями, в том числе при определении принадлежности к тому или иному классу слов. И хотя аффиксы не столь точно определяют референцию единичного понятия как полнозначные номенклатурные термины, они позволяют «экономить» на морфемах: ср. *Шарынскі Мох, Баравіца, Чачэрскае*.

Общее количество «согласующих» морфем типа -скае, которые не всегда несут смысловую нагрузку – только грамматическую, велико именно в гелонимии. (В американских именах для разграничения на классификатор и идентификатор никаких грамматических «топонимных интерфиксов» не требуется.) Для названий озер и особенно рек более частотными оказываются однословные единицы с аффиксами, которые обычно отмечаются в именах существительных – -ка, -іца, -шчына и т. д. По-видимому, для менее крупных и стабильных объектов местности не утрачивается связь определяющего компонента с номенклатурным термином, который указывает на тип объекта и который номинатор продолжает наделять определением, даже если тот представлен имплицитно.

Объекты с устоявшимся именем – потамонимы, лимнонимы – предпочитают сводить количество компонентов, участвующих в создании имени, до двух. В результате классифицирующая морфема объединяет в себе функции свернутого термина и «согласующей» морфемы, но вместе с тем утрачивает способность однозначно определять референцию онима.

Структура гелонимов объективно отражает особенности американского варианта английского языка и белорусского (славянского) языка, а также опосредованно – через количественные особенности разных онимических подсистем – своеобразие гелонимии на фоне названий более крупных водных объектов. Аналитические гелонимы США содержат большее количество морфем по сравнению с названиями рек и озер, либо просто «копируют» имена объектов из других географических сфер. Синтетические белорусские имена предпочитают использовать семантические дериваты (как и американские гелонимы), а также сохраняют во многих единицах указание на имплицитную представленность географического термина – особенность в значительно меньшей степени характерная для потамонимов и лимнонимов Беларуси.

***Источники***

Кадастровый справочник. Торфяной фонд Белорусской ССР. По состоянию разведанности на 1 января 1978 г. – Минск, 1979 (по каждой из областей).

Мікратапанімія Беларусі. Матэрыялы. – Мінск, 1974. – 327 с.

Энцыклапедыя прыроды Беларусі: у 5 т. / рэд. І.П. Шамякін і інш. – Минск: БелСЭ, 1983. – 5 т.

United States Geographic Society: Geographic National Information System (Electronic resource). Mode of access: http://geonames.usgs.gov/pls/gnis. Date of access: 12. 4. 2003.

***Литература***

1. Подольская, Н.В. Словарь русской ономастической терминологии / Н.В. Подольская. – 2-е изд., перераб. и доп. – М.: Наука, 1988. – 192 с.

***В.А. Корань*** (Мінск, Беларусь)

# ПРАБЛЕМЫ ВЫВУЧЭННЯ І ПЕРАКЛАДУ «ТОРБЫ СМЕХУ…» КАРАЛЯ ЖЭРЫ

Гумарыстычная проза Беларусі XVIII ст. прадстаўлена толькі адным, але цікавым і змястоўным зборнікам фацэцый і анекдотаў францысканскага манаха Караля Жэры «Торба смеху…», які «датаваны прыблізна 1773–98 г. У яго ўключаны … анекдатычныя, пацешныя, павучальныя гісторыі, якія здарыліся на Піншчыне, Лепельшчыне, у Гродне, Драгічыне, Сянне і ў іншых мясцінах Беларусі і Польшчы. Некаторыя з фацэцый пададзены на беларускай мове» [3, с. 214]. «Торба смеху…» мае два неаднолькавыя паводле зместу выданні. Першае [4] было падрыхтавана да друку З. Глогерам яшчэ ў 1893 г., а другое [5] – К. Жукоўскай у 1980 г. на аснове рукапісу, які захоўваецца ў Санкт-Пецярбургу ў бібліятэцы імя М.Е. Салтыкова-Шчадрына. Рукапіс, паводле якога рыхтавалася глогераўскае выданне, да нашага часу не захаваўся. Цяжка сказаць, які з двух спісаў больш важны. В. Карнейчык на аснове прааналізаванага матэрыялу зазначыла, што «глогераўская версія больш нагадвае сапраўдную silva rerum, у якую запісвалася ўсё: гісторыі пра знаёмых, анекдоты, урыўкі з пропаведзяў ксянзоў, песенькі, загадкі. Другі ж варыянт уяўляе сабой кнігу са стройнай кампазіцыяй» [1, с. 127]. Цікавая і выснова, якую зрабіла даследчыца, параўнаўшы два выданні «Торбы смеху…»: «абодва рукапісы, на аснове якіх былі ажыццёўлены згаданыя выданні, – гэта аўтарскія варыянты адной кнігі. Магчыма, першы з іх К. Жэра пісаў проста для сябе, занатоўваючы, на яго думку, вартае захавання, другі ж – аўтарская апрацоўка, зробленая, магчыма, па чыёйсьці парадзе ці просьбе» [1, с. 128]. На нашу думку, варта звярнуць увагу менавіта на глогераўскае выданне «Торбы смеху…» 1893 г. На жаль, мы не ведаем, што за праўкі З. Глогер зрабіў у рукапісе, які ў свой час трапіў да яго і які ён рыхтаваў да выдання, але нас цікавіць перш за ўсё «Торба смеху…» неапрацаваная, «народная», «жывая», а не зробленая паводле літаратурных канонаў. Таму тут мы будзем гаварыць менавіта пра глогераўскае выданне. Таксама трэба адзначыць, што «Торба смеху…» К. Жэры – важная і цікавая з’ява ў полілінгвістычнай літаратуры Беларусі XVIII ст. – да сённяшняга дня цалкам не была перакладзена на сучасную беларускую мову. Праўда, раней рабіліся спробы перакладу гэтай кнігі. Прынамсі, дзякуючы А. Мальдзісу і М. Хаўстовічу, мы маем перакладзенымі каля 20 фацэцый [2], але гэтага, вядома, недастаткова. «Торбу смеху…» непажадана перакладаць асобнымі фацэцыямі, бо яны, вырваныя з кантэкстуальнага поля, не могуць даць паўнавартаснага ўяўлення пра кнігу, якая павінна ўспрымацца менавіта як цэласны твор, дзе кожнай фацэцыі належыць асобнае месца.

Ніжэй хацелася б прывесці некалькі спрэчных момантаў, з якімі мы сутыкнуліся падчас працы над перакладам «Торбы смеху…», аздобіўшы іх цікавымі прыкладамі.

У фацэцыі «Jako pan Kozieł szukał swojej gospody w Wiźnie» абыгрываюцца прозвішча Козел і назва жывёлы: «Аднойчы пан Козел, прыехаўшы да замку ў Візьні і загадаўшы сваім людзям ехаць у горад, калі пазней ішоў да іх і, не ведаючы куды яны заехалі, запытаў нейкага прыдворнага:

– Дзе тут мая гаспадарка?

Прыдворны на тое:

– А вашая міласць хто такі?

Тады шляхціц яму адказаў:

– Я – Козел.

Прыдворны ж на гэта:

– Калі васпан козел, тады ў хляве павінна быць ягоная гаспадарка» [4, с. 13].

Слова «казёл» мае адпаведнікі «kozieł» і «kozioł» (гл. Польска-беларускі слоўнік. Мінск., 2005, с. 254). У польскай мове націскным з'яўляецца перадапошні склад і таму яе натуральна, што і прозвішча, і назва жывёлы ў напісанні не адрозніваюцца. Для беларускай мовы гэта не характэрна, бо ў яе націск рухомы, таму тут даволі цяжка расставіць патрэбныя акцэнты: пан Козел ці пан Казёл. Мы вырашылі спыніцца на першым варыянце, таму што, па-першае, такое прозвішча існуе ў Беларусі да нашага часу менавіта ў такім выглядзе, па-другое, гэта цалкам адпавядае жартаўліваму зместу фацэцыі.

Тое самае можна сказаць і ў дачыненні да фацэцыі «Co usłyszał imć p. Kozieł od garbarza» [4, с. 138].

У фацэцыі «Zagadki od różnych pań i panien» ёсць наступная загадка: «…Co to za Bóg, co nie jest Bogiem?» (адгадка – рака Буг) [4, с. 219]. Як вядома, польскае [ó] чытаецца і вымаўляецца як беларускае [у] (гл.: Баршчэўскі Л. Кароткая граматыка польскай мовы. Мінск, 2008, с. 4). Таму «Bóg» у значэнні «Бог» чытаецца як «Буг», што падобна па гучанні да назвы ракі. Такім чынам, атрымліваецца цікавая гульня слоў, якую, на жаль, на беларускую мову перакласці даволі праблематычна. Таму для такіх і падобных выпадкаў мэтазгодна выкарыстоўваць зноскі або тлумачыць у каментарах пасля тэксту.

На старонках «Торбы смеху…» даволі часта выкарыстоўваюцца лацінамоўныя выразы, што не дзіўна, бо, як вядома, К. Жэра вучыўся ў езуіцкай калегіі, працаваў выкладчыкам у канвенце бернардынцаў і, урэшце, быў францысканскім манахам, таму на добрым узроўні валодаў лацінскай мовай і свабодна ўжываў лацінамоўныя выразы ў сваёй кнізе. Безумоўна, у тэксце трэба даваць адпаведныя пераклады з лацінскай мовы, але тут хацелася б звярнуць увагу на пераклад асобных лацінскіх слоў у тэксце, у прыватнасці, у фацэцыі «Jako szlachcic nie chciał być "sapiens"». «Адзін дваровы шляхціц з тапчэўскай парафіі, не разумеючы анічога па-лацінску, а толькі на слых вывучыўшы колькі лацінскіх выразаў, часта страляў імі, як куляю ў плот. Тады аднойчы здарылася так: ён меў справу ў судзе і з якімсьці лацінскім выразам выскачыў, як Піліп з Канапель, на што адвакат супрацьлеглага боку сказаў:

– Васпан, як бачна, вялікі *sapiens*.

– Што-што? Я – *sapiens*? – гнеўна закрычаў шляхціц, думаючы, што гэта, мусіць, надта брыдкае і абразлівае слова, – ані я, ані мой дзед, аніхто ва ўсім маім родзе ніколі не быў *sapiens***ам**!» [4, с. 31].

Тут мэтазгодна прыраўняць лацінскае слова «*sapiens*» да назоўніка мужчынскага роду творнага склону. У выніку атрымліваем не «*sapiens*», як гэта ёсць у арыгінале, а «*sapiens***ам**», што, на нашу думку, ўзмацняе камічны эфект у фацэцыі і ўказвае на гутарковасць, народнасць, а не на надуманасць і літаратурнасць дыялогу паміж шляхціцам і адвакатам.

У фацэцыі «O imć panu Żabie» чытаем: «Калі гэты ж пан Жаба прагульваўся аднойчы па садзе са сваёю малою дачушкаю, тая дзяўчынка, убачыўшы жабу, якая скакала, пачала крычаць:

– Жаба! Татулька, жаба!

Бацька ж на тое адказаў:

– Маё дзіцятка, памятай: ніколі не гавары «жаба», а прыстойней, калі на гэтую жывёліну будзеш казаць: “робак”» [4, с.14].

Тут нас цікавіць слова «robak», адно са значэнняў якога «чарвяк» (гл. Польска-беларускі слоўнік. Мінск, 2005, с. 549). «Жаба» з «чарвяком» не мае нічога агульнага. Калі зрабіць даслоўны пераклад, то, хутчэй за ўсё, гэта выкліча ва ўспрымальніка тэксту не смех або ўсмешку, як таго чакаў аўтар, а непаразуменне. Таму, на нашу думку, варта пакінуць польскі варыянт, але напісаны кірылічнымі літарамі – «робак».

Таксама ў тэксце «Торбы смеху…» ўжываецца шмат ветлівых зваротаў. Аўтар, называючы прозвішча чалавека, ад якога пачуў тую ці іншую гісторыю (анекдот), або дзеючую асобу той ці іншай фацэцыі, абавязкова называе яго «ягамосць», «яемосць», «яснавяльможны пан», «васпан» і інш. На нашу думку, трэба, па магчымасці, захоўваць усе ветлівыя звароты, бо яны перадаюць каларыт эпохі, у якую запісваліся гісторыі. Калі іх прыбраць або замяніць на звычайнае «пан», то «Торба смеху…» збяднее, ператворыцца ў звычайны літаратурна апрацаваны тэкст. Вядома, ён будзе цікавы, але страціць повязі з тагачаснай шляхецкай культурай.

Такім чынам, праблемы вывучэння і перакладу «Торбы смеху…» з’яўляюцца надзвычай актуальнымі ў сучасным літаратуразнаўстве. Гэты выдатны помнік гумарыстычнай літаратуры XVIII ст. патрабуе ўвядзення ў навуковы і літаратурны ўжытак свайго поўнага перакладу, што значна ўзбагаціць і пашырыць уяўленні пра літаратуру Беларусі пераходнага перыяду.

***Літаратура***

1. Карнейчык, В. Два выданні «Торбы смеху» Караля Жэры / В. Карнейчык // Працы кафедры гісторыі беларускай літаратуры Белдзяржуніверсітэта: Навуковы зборнік. Выпуск чацвёрты. – Мінск: ВТАА «Права і эканоміка», 2003. – 192 с.

2. Жэра, Караль. З «Торбы смеху» // Беларуская літаратура XVIII–XIX стагоддзяў: зб. тэкстаў / склад. і аўтар камент. М.В. Хаўстовіч. – Мінск: БДУ, 2000. – С. 43–55.

3. Мальдзіс, А. Жэра (Żera) Кароль Антоні / А. Мальдзіс // Мысліцелі і асветнікі Беларусі (X–XIX стагоддзі): энцыкл. давед. / склад. Г.А. Маслыка; гал. рэд. Б.І. Сачанка. – Мінск, 1995. – С. 214–215.

4. Ze starych szpargałów śp. Karola Żery. Fraszki i opowiadania. Wyd- Z. Gloger. – Warszawa, 1893.

5. Żera, K. Vorago rerum. Torba śmiechu. Groch z kapustą. A każdy pies y innej wsi... – Warszawa, 1980.

***Н.М. Котин*** (Санкт-Петербург, Россия)

## ИРЛАНДСКАЯ ДИЛЕММА: «ДИСКУРС МЕРТВОГО ЯЗЫКА» ИЛИ ПУТЬ К ВОЗРОЖДЕНИЮ НАЦИОНАЛЬНОЙ КУЛЬТУРЫ

Социолингвистическая ситуация в Ирландии представляет собой чрезвычайно любопытную по своей уникальности сферу для исследования, поскольку она включает в себя не только проблему конвенциональной дихотомии языков меньшинства и большинства. Согласно недавним данным статистики, опубликованным весной 1999 года в ежедневном журнале Cuisle, посвященном ирландскому языку, в стране насчитывается лишь около 80 тысяч носителей ирландского языка. Этот факт позволяет сделать вывод о том, что количество говорящих на языке в настоящее время устоялось, поскольку еще в начале восьмидесятых годов цифра в пятьдесят тысяч уже казалась более чем реалистичной.

Краеугольным камнем ирландской социолингвистики стала книга географа Reg Hindley под названием «The death of the Irish language», но ее методология была поставлена под сомнение многими, например Anders Ahlqvist, профессором университета Galway. Последний, давая интервью одному из финских образовательных журналов, заявил, «если критерии Hindley применить к языковой ситуации в Финляндии, то вряд ли станет возможным обнаружить также исконного носителя финского языка» [1, с. 4]. Ведь, согласно теории Hindley, реальный носитель языка должен провести свою жизнь в одном и том же месте, разговаривая с одними и теми же соседями только на ирландском языке. Скорее всего, Hindley пытался указать на то, что эмиграция «опустошает» ирландско-говорящие регионы, однако, он упустил главное. Естественно, эмиграция является серьезной проблемой и угрозой для языка, но было бы слишком смело предположить, что языковые навыки ирладско-говорящего эмигранта необратимо испытывают влияние от длительного пребывания за границей. На самом деле, носители ирландского языка часто возвращаются после долгих лет проживания в другой стране и принимают порой даже активное участие в культурной жизни Ирландии. Таким образом, не следует думать, что носители ирландского языка, уехавшие в США, навсегда потеряны для языка.

Работа Hindley была принята с большим энтузиазмом, чем того заслуживала, поскольку она отлично подходит только под определение, данное Camille O'Reilly в своей монографии по ирландскому языку в Северной Ирландии, – «дискурс мертвого языка» [3, с. 48]. Прежде всего, такой дискурс является попыткой воссоздать или поддержать воспринимаемую реальность посредством воспроизведения установленных ритуалов обсуждения тем, касающихся дискурса – или, имплицитно, посредством подавления вопросов, аргументов и мнений, несопоставимых с дискурсом. Как заметил Éamon Ó Ciosáin в ответ на работу Hindley, утверждение о том, что ирландский язык является действующим, в данном дискурсе звучит как националистический (то есть в корне не научный) аргумент [2, с. 7]. С точки зрения O'Reilly, те, кто рассуждают о «дискурсе мертвого языка» часто относятся к ирландскому языку

как к части самого собой разумеющегося альянса консервативных и националистических сил в Ирландии, включая, например, католическую церковь или общество противников аборта [3, с. 51]. Противостояние ирландского языка, таким образом, воспринимается равноценным защите либеральных прав и гражданских свобод от реакционного шовинизма. За последние десятилетия попытки уравнять движения в поддержку языка и движение ирландских республиканских активистов (IRA) были привычным делом, особенно среди северных лоялистов. С другой стороны, не меньшей оказывалась заинтересованность в таком видении проблемы и оппонентов продвижения ирландского языка.

«Дискурс мертвого языка» (в определении O'Reilly) повлиял на формирование образа ирландского языка как в самой стране, так и за ее пределами, и может быть даже принят самими носителями языка, находясь в центре общественного внимания. Впрочем, ученому-лингвисту стоит более скептически отнестись к лозунгам, связанным с такого рода дискурсом. Ведь дискурс основывается на предположении о том, что ирландско-говорящие и другие люди, использующие ирландский язык, в повседневной жизни по определению являются убежденными националистами, неспособными быть беспристрастными к языку. Такие рассуждения приводят к очевидной несостоятельности выводов о том, что ученый, не владеющий языком, более объективен и компетентен, чем тот, кто прикладывает все силы для изучения и практики языка.

Как отмечает Ó Ciosáin в своей работе, рассуждения о «смерти ирландского языка» также имеют негативные последствия, поскольку они провоцирует появление образов внутреннего распада и разрушения языка, своего рода фатального предопределения, которое не может быть остановлено профанацией политических мер, между тем, как было бы более уместным и своевременным заметить, что ирландскоговорящие жители страны составляют маргинальную и угнетенную общественную группу [2, с. 9].

В настоящее время из 80 тысяч носителей ирландского языка только 30 тысяч населяют традиционные ирландскоговорящие регионы на западном побережье, остальные же преимущественно проживают в крупных городах и мегаполисах, где субкультурные сети ирландскоговорящих жителей обладают большей численностью – Дублин, Корк, Белфаст и т. д. В последних насчитывается доминирующее количество носителей ирландского языка, то есть носителей его как родного (хотя численность билингвов и превосходит) по сравнению с регионами западного побережья, но в процентном соотношении, среди городского населения этот уровень снижается с каждым годом. Вместо языковых сообществ городские носители языка принадлежат к субкультурным сетям, состоящим из ирландскоговорящих семей. Люди, вовлеченные в такого рода сети, чаще всего являются носителями языка или «нео-носителями» первого поколения, воспитанными на ирландском языке не ирландскоговорящими родителями. Вопрос, в какой степени подлинные носители языка, поколение за поколением проживающие на западном побережье, принимают участие в этих сетях, до сих пор не получил ответа. Однако существует множество предубеждений, например, о

том, что подлинные носители языка не заинтересованы в возрождении ирландского языка, или о том, что люди при переезде с островов Аран в Дублин не будут вовлечены в развитие вышеописанных сообществ.

Влияние подлинных носителей ирландского языка на подобные сообщества в городах не может остаться вне поля зрения, постоянные путешествия в регионы Gaeltacht составляют важный элемент субкультуры ирландского языка. С другой стороны, не стоит забывать и о том, что сеть не эквивалентна сообществу и что уровень истирания языка весьма высок у детей и подростков, воспитанных на ирландском языке билингвами в неирландскоговорящей части страны.

В любом случае, несмотря на все затруднения, стоит отложить «дискурс мертвого языка» в сторону и отнестись к ирландскому как к любому другому языку меньшинства, не более «мертвому», чем остальные, хотя он и является любопытнейшим исключением из их числа в связи со своим специфическим положением в общественной жизни населения.

***Литература***

1. Ahlqvist, Anders. Third International Conference on Minority Languages: general papers. – Avon: Multilingual Matters, 1986. – P. 3–40.

2. Hindley, Reg. The death of the Irish language: a qualified obituary. – New York: Routledge, 1990. – P. 3–21.

3. Ó Ciosáin, Éamon. Buried Alive: A Reply to The Death of the Irish Language. Rath Eanaigh // Dáil Uí Chadhain, 1990. – P. 5–14.

4. O'Reilly, Camille. The Irish Language in Northern Ireland. // The Politics of Culture and Identity. London, New York: Macmillan's Press, 1999. – P. 47–62.

***У.Ф. Красюк*** (Мінск, Беларусь)

## ПРАБЛЕМА МЕТАДАЛОГІІ ГІСТОРЫКА-ЛІТАРАТУРНАГА ДАСЛЕДАВАННЯ Ў ПРАЦАХ І. ДВАРЧАНІНА

Праблема распрацоўкі метадалогіі навуковага даследавання займала важнае месца ў творчасці таленавітага беларускага вучонага, грамадскага дзеяча, доктара філасофіі Ігната Дварчаніна (1895–1937). Кругагляд яго навуковых інтарэсаў быў даволі шырокі, выкліканы патрэбамі жыцця. У цэлым філасофію Дварчаніна можна адзначыць як філасофію асветніцтва, ён імкнуўся данесці да грамадства, да простых людзей вытокі ведаў, граматы, прагрэсіўных светапоглядных уяўленняў. Узорам для яго быў Ф. Скарына, вывучэнню творчасці і спадзвіжніцтва каторага вучоны прысвяціў галоўны напрамак сваёй даследчаскай дзейнасці. Вывучэнне грамадска-філасофскай думкі мінулага патрабавала адпаведных спосабаў даследавання, выяўлення зручнай метадалогіі. Дварчанін удзяляе першачарговую ўвагу праблеме метадалагічных прыёмаў гіторыка-літаратурнага пазнання.

У гісторыка-літаратурным даследаванні значная роля належыць гістарычнаму метаду. Гістарычны метад правамерны, калі стаіць задача выявіць паслядоўнасць, гісторыю працэссу. Раскрыццё асаблівасцей духоўнага жыцця ў адпаведную эпоху патрабуе разгляду яго рэальнага ўзнікнення і станаўлення. Гэта стымулюе ўвагу да агульных і спецыфічных рыс працэсу фарміравання поглядаў крэатараў культуры, калі

неабходна мысленна ўзнаўляць, навукова абгрунтоўваць шляхі і абставіны іх інтэлектуальнага сталення. Годнасць гістарычнага метаду ў тым, што ён дае магчымасць апісваць падзеі ва ўсім іх шматгалоссі, з улікам індывідуальных асаблівасцей канкрэтнай асобы – тварцы духоўных каштоўнасцей.

Аднак, у залежнасці ад акалічнасцей і абставін навуковай дзейнасці даследчыка, гістарычны метад не заўседы праяўляецца ў чыстай форме. Ён увасабляецца ў памежных падыходах, калі храналагічная паслядоўнасць і падрабязнасці з'яў разглядаюцца з розных пазіцый. Такі прыём і прымяніў І. Дварчанін у аналізе творчай дзейнасці Францішка Скарыны – вучонага з надзвычай шырокім кругаглядам і інтарэсамі.

Для даследавання праблем культуры неабходным бокам з'яўляецца ўзнаўленне адносін паміж аб'ектыўнай рэчаіснасцю, што гістарычна развіваецца, і яе разуменнем пры дапамозе навуковага тлумачэння. Разуменне гістарычнага як працэссу станаўлення і развіцця даследуемай з'явы выступае аб'ектыўным неабходным момантам, важнейшым этапам даследчыцкай дзейнасці. Гістарычная форма аналізу раскрываецца праз рэалізацыю ў той ці іншай форме гістарычнага метаду. Прычым, як заўважаў у свой час Ф. Энгельс, гістарычны падыход да аналізу падзей звязаны з шэрагам цяжкасцей. Гэта прыводзіць да прымянення гістарычнага метаду праз пасрэдніцтва звязаных з ім прыёмаў навуковага пазнання.

У сваім даследаванні І. Дварчанін карыстаецца метадалогіяй, выбар якой абумоўлены асаблівасцямі як тэмы і характару матэрыялаў, так і ўмовамі навуковай дзейнасці.

Ва «Уступе» да сваёй доктарскай дысертацыі «Францішак Скарына як культурны дзеяч і гуманіст на беларускай ніве», якую ён паспяхова абараніў у 1926 годзе пасля заканчэння Карлава ўніверсітэта ў Празе, Дварчанін адзначае дзве цяжкасці, якія перашкаджаюць стварэнню аб'ектыўных поглядаў на гістарычную ролю Ф. Скарыны ў развіцці беларускай культуры і літаратуры. Адна з іх – недахоп саміх твораў Скарыны, з якімі трэба працаваць. Тое, што кнігі славутага першадрукара захаваліся і адносна не з'яўляюцца бібліяграфічнай рэдкасцю – гэта добра; аднак яны раскіданы па розных бібліятэках і магчымасці даследчыка абмежаваны. Таму прыходзіцца за падставу браць працы вучоных, якія мелі ў сваім карыстанні першакрыніцы. І ў гэтым – другая цяжкасць, бо вынікі такіх навукоўцаў як Бакмейсцер, Уладзіміраў, Буслаеў, Стасаў, Вішнеўскі, Галавацкі, Віктараў, Вахнянін і іншых дастаткава розныя і не заўседы зыходзяцца на адной думцы.

Таму І. Дварчанін адзначае, што ў залежнасці ад таго, як змяняўся характар скарыназнаўства, мянялася і методыка даследаванняў і спасылаецца на нямецкага вучонага Бернгайма, які гаварыў, што «выпрацоўка методыкі абумоўлена як у цэлым, так і па сутнасці характарам стымулявання і ўзроўнем зацікаўленнасці ў ім, а таксама пытаннем, якое неабходна высветліць» [1; с. 13]. Дварчанін аналізуе метедалагічныя

прыёмы даследчыкаў-скарыназнаўцаў, каб акрэсліць найбольш спрыяльную методыку сваёй працы.

Спасылаючыся на Бернгайма, Дварчанін гаворыць, што пры вывучэнні прац Скарыны часцей за ўсё выкарыстоўвалася методыка, якая вызначалася як філалагічная. Гэта перш за ўсё вывучэнне фактаў, якія ўзніклі як вынік дзейнасці чалавека ў слове, паслядоўнае даследаванне помнікаў літаратуры з моўнага боку, спосабу паходжання, часу і месца ўздзеяння знешняга асяроддзя на творчы працэс.

З 60-х гадоў XIX ст. у скарыназнаўстве пачала выкарыстоўвацца методыка, якую Дварчанін называе публіцыстычнай. Гэты метадалагічны прыём засноўваецца на прыняцці «з'яў жыцця і літаратуры», калі яны адпавядаюць пэўнаму грамадскаму ідэалу і дапамагаюць яго ажыццявіць. Робіцца агляд пазіцый розных даследчыкаў, якія спрачаліся адносна зместу дзейнасці Скарыны і яго творчасці.

Гаворачы пра методыку «самага вядомага даследчыка» спадчыны Скарыны праф. Уладзімірава І. Дварчанін называе яе гістарычнай. Яе задачай можна лічыць «пошук сувязнага звяна паміж з'явамі літаратуры і агульнагістарычнымі з'явамі», а таксама высвятленне генетычнага паходжання адной з'явы з другой «у залежнасці ад жыцця народа». Да гэтага Уладзіміраў дапасоўваў і іншыя метадалагічныя прыёмы.

І. Дварчанін акрэслівае сваю пазіцыю – «прытрымлівацца часцей за ўсё гістарычнай методыкі», пры гэтым пашыраючы «гарызонты даследавання». Да яе далучаецца параўнальны метад, карыстанне якім абмяжоўваецца недахопам арыгіналаў – выданняў Скарыны. Пры неабходнасці пажадана прымяненне і іншых метадаў. Даследчык карыстаецца гістарычным метадам і ў другой сваёй працы – «Беларусы па Праскім універсітэце ад ягоных закладзінаў да паловы XVI стагоддзя», у якой даецца агляд навучання моладзі з Беларусі ў гэтатай славутай навучальнай установе Еўропы [2; с. 236–240].

Такім чынам, І. Дварчанін за галоўны метадалагічны прыём сваёй даследчай дзейнасці бярэ гістарычны метад, распрацоўваючы яго ў адпаведнасці з патрэбамі і асаблівасцямі тэматыкі сваей працы. Карыстанне гістарычным метадам дало магчымасць раскрыць вытокі, паслядоўнасць і змест тытанічнай літаратурна-выдавецкай дзейнасці Скарыны, паказаць дынаміку і супярэчнасці ў разгортванні ягонай творчасці. Аналізуючы метадалагічныя падыходы сваіх папярэднікаў – скарыназнаўцаў Дварчанін паказвае шматграннасць гістарычнага метаду, калі ён фактычна дапаўняецца дадатковымі метадалагічнымі прыёмамі. Вынікам працы стаў паказ Ф. Скарыны як гуманіста ў суадносінах з ідэйным рухам тагачаснай Еўропы, як выдатнага прадстаўніка славянскай культуры, крэатара абнаўляючых традыцый ў беларускім нацыянальным менталітэце.

***Літаратура***

1. Дварчанін, І.С. Францішак Скарына як культурны дзеяч і гуманіст на беларускай ніве / І.С. Дварчанін. – Мінск: Навука і тэхніка, 1991. – 178 с.

2. Місарэвіч, Я.А. І.С. Дварчанін. Гісторыка-біяграфічны нарыс / Я.А. Місарэвіч, М.Д. Каралёў. – Гродна: Абласное аддзяленне Беларускага фонду культуры, 1995. – 301 с.

***М.М. Круталевіч, Ф.С. Шумчык*** (Мінск, Беларусь)

## ПАХОДЖАННЕ ЗЫЧНАГА [Ф] У БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

У гісторыі станаўлення фанетычнай сістэмы беларускай мовы асобнае месца адводзіцца паходжанню зычнага гука [ф]. Агульнавядома, што губна-зубны зычны [ф] не быў уласцівы славянскім дыялектам у праславянскі перыяд, не характэрны ён і для ўсходнеславянскай мовы-асновы. Такі гук сустракаўся толькі ў словах, запазычаных пераважна з грэчаскай мовы і зафіксаваных у помніках старaславянскага (царкоўнаславянскага) пісьменства тыпу ***прѣфациѣ*** ‘*прадмова*’, ‘*прысвячэнне*’, ***философъ***, ***фарисеи***, ***иѡсифъ***, ***ѳома***, ***Филипъ***, ***Февронија***, ***финикъ*** і пад. Ва ўсходнеславянскіх старажытных пісьмовых крыніцах даволі паслядоўна да пэўнага часу фіксуецца замена старaславянскіх літар ф (ферт) і ѳ (фіта) адпаведна літарамі **п** або **т**, а часам іншымі літарамі і спалучэннем зычных. Адлюстравана паказаная асаблівасць пісьмовых помнікаў у некаторых замацаваных ў беларускай і рускай мовах запазычаннях накшталт: бел. *Сцяпан*, рус. *Степан* (грэч. *Στέφανος* ), бел. *Восіп*, рус. *Осип* (стараяўр. *יוֹסֵף*) і пад. Пры гэтым у беларускай мове такая замена больш пашырана, чым у рускай. Параўнайце, напрыклад, рус. і бел. *Филипп* і *Піліп* (грэч. *Φίλιππος*), *Федор* і *Тодар* (*Хведар*) (грэч. *Θεόδωρος*), *Фекла* і *Тэкля* (грэч. *Θεόκλεια*), *Никифор* і *Нічыпар* (грэч. *Νικηφόρος*), *Ефим* і *Яўхім* (грэч. *Ευήμιος*) і пад. Сказанае чарговы раз падкрэслівае адсутнасць у старажытнай сістэме славянскага кансанантызму гука [ф]. Таму не выпадкова паўстае пытанне аб паходжанні і замацаванні названага гука ў славянскіх мовах, у тым ліку і беларускай. Праўда, для рускай мовы сёння існуюць даволі пераканаўчыя аргументы наконт вырашэння гэтага пытання. Аналіз спецыяльнай літаратуры паказвае на адпаведнае паходжанне і замацаванне гука [ф] у рускай мове. Паводле Я.Ф. Карскага: «У беларускай мове ўсе абставіны склаліся супраць узнікнення *ф*…» [3, с. 344].

Тым не менш, па меркаванні даследчыкаў, канчаткова зычны гук [ф] замацаваўся ва ўсходнеславянскіх мовах пасля працэсу падзення рэдукаваных. На іх думку, такі пункт гледжання тлумачыцца з’яўленнем фанетычнай пазіцыі аглушэння губна-зубнога гука [в] у [ф] [2, с. 177–179]. Аднак для беларускай мовы гэты факт хутчэй за ўсё меў апасродкаваны ўплыў, паколькі ў дыялектах, пакладзеных у аснову беларускай мовы, і некаторых рускамоўных дыялектах спрадвечныя губна-зубны і губна-губны (білабіяльны) зычныя [в] і [w] мяняліся не на гук [ф], а на [ў] (нескладовы) або [у] (складовы) і непасрэдна не маглі ўплываць на замацаванне гука [ф] (напрыклад: [трава́ – тра́ўка], [каро́ва – каро́ў] і пад.). Неабходна таксама заўважыць, што ў свой час А.А. Шахматаў указваў на аглушэнне губна-зубнога [в] у [ф] толькі ў пэўных умовах, а ў іншых, як і губна-губны (білабіяльны) [w], мяняўся на [ў]. Паказаная мена білабіяльнага гука на канцы слова і перад зычным не выпадковая з’ява, паколькі [w] адносіцца да так званых санантаў (прамежкавых гукаў), які па-рознаму вымаўляўся ў становішчы перад зычнымі і галоснымі гукамі: перад зычнымі cананты паводзяць сябе як галосныя, а

перад галоснымі – як зычныя. Змена [в] і [w] на [ў] або [у] адлюстроўваецца ў помніках усходнеславянскага пісьменства з XI – XII ст.: *прауДа* (Ізб. Святаслава 1073 г.); ***доулѣють*** (Добр. ев. 1164 г.); ***оузѧти, оуздоумалъ, дооулеєть, оу ризѣ, оу дыбоу*** (Смал. грам. 1229 г.); ***оулѣсти оу корабль*** (Галіц. ев. 1266 г.); ***оунизъ, оуверхъ*** (Грамата 1387); ***оу Полоцку, былъ тот воидило оу великой моци*** (Вілен. л.) і пад. Зразумела, што з гістарычнага пункту гледжання сувязь з працэсам падзення рэдукаваных тут відавочная, бо ў гэтых і падобных прыкладах [ў] або [у] на месцы [в] з’яўляўся, калі пасля ***в*** знаходзіўся слабы рэдукаваны (***възѧти, въздоумалъ, довълеєть, вълѣсти въ корабль*** і пад.). Для асобных рускамоўных дыялектаў пасля працэсу падзення рэдукаваных губна-зубны [в] у выніку аглушэння на канцы слова і асіміляцыі перад глухім зычным мяняўся на глухі фрыкатыўны гук [ф]: *город* – [гърʌдо́ф], *трава* – [тра́фкъ] і пад. Так, у рускай мове як глухая разнавіднасць фанемы [в] з’яўляецца новы зычны гук [ф], які супаў з аналагічным запазычаным гукам. Паступова ўзнікае магчымасць выкарыстання новага гука ў іншым становішчы, ствараюцца ўмовы для развіцця і замацавання ў рускай мове новай самастойнай зычнай фанемы. Тым больш, што наяўнасць гука [ф] у запазычаных словах садзейнічала яго замацаванню ў мове, хоць у помніках рускага пісьменства ў славянскіх паводле паходжання словах зычны [ф] стаў выкарыстоўвацца прыкладна з XVI ст., а не адразу пасля страты слабых рэдукаваных. У прыватнасці, В.В.Іваноў адзначае: «…напісанне *ф* перад глухімі шумнымі з’яўляецца вельмі позна: першы такі прыклад – напісанне *фпрокъ* – адзначана ў грамаце 1501 г.» [2, с. 179]. Такая даволі позняя фіксацыя гука [ф] у помніках пісьменства, на нашу думку, тлумачыцца моцнай пісьмовай традыцыяй у рускай мове.

Аднак, прыведзеныя факты непасрэдна не ўказваюць на паходжанне і замацаванне зычнага гука [ф] у беларускай мове. Аналіз матэрыялу сучасных беларускіх гаворак таксама не дае канкрэтнага адказу на пастаўленае пытанне. З аднаго боку, у даўно запазычаных словах і ў большасці сваёй у параўнальна новых запазычаннях для прадстаўнікоў старэйшага пакалення замена губна-зубных [ф] і [ф’] на [п], [х], [т] або спалучэнні [хв] і [кв] – звычайная з’ява: [карто́пл’а], [капта́н], [ку́хар], [хунт], [ту́хл’і], [кухва́йка] ([куфа́йка]), [Тэ́кл’а], [квасо́л’а], [хварту́х], [Хв’э́дар] і пад. Прычым такая замена характэрна для ўсіх беларускіх гаворак. Праўда, ні ў адной з іх паказаная замена не адлюстроўваецца паслядоўна, нават у прадстаўнікоў адной і той самай вёскі. З другога боку, як правіла, у запазычаных словах губна-зубныя зычныя [ф] і [ф’] ужываюцца ва ўсіх гаворках беларускай мовы: *кофта*, *торф*, *шафа*, *форма*, *фанера*, *фуганак*, *фігура*, *фарба*, *фурманка*, *фасоля*, *картофля*, *куферак*, *фунт* і пад. У некаторых гаворках гук [ф] вымаўляецца нават на месцы спрадвечнага зычнага [х]: [фул’іга́н] (*хуліган*), [ф’ім’і́чэск’і] (*хімічны*) і пад. [1, с. 58–59]. У сучаснай беларускай літаратурнай мове названы губна-зубны зычны гук ужываецца паслядоўна і ўплывае на яго пашырэнне ў беларускіх гаворках.

Такім чынам, пытанне аб паходжанні зычнага гука [ф] у беларускай мове да гэтага часу застаецца даволі праблематычным. Відаць, можна толькі выказаць меркаванне, што з’яўленне і замацаванне губна-зубнога зычнага гука [ф] у беларускай мове абумоўлена некалькімі прычынамі. Адной з такіх прычын, паводле нашага меркавання, з’яўляецца выкарыстанне з глыбокай старажытнасці ў пісьмовых крыніцах запазычаных з грэчаскай і некаторых іншых моў слоў з названым зычным гукам. Сустракаецца ён пераважна ва ўласных імёнах і радзей у агульных. Такія і падобныя ўжыванні, хоць і нязначна, але пастулова ўплывалі на беларускамоўныя гаворкі. Узмацняецца гэты ўплыў пасля замацавання зычнага гука [ф] у фанетычнай сістэме рускай літаратурнай мовы, якая ў пэўнай ступені ўздзейнічала на аналагічную сістэму блізкароднаснай беларускай мовы. Да таго ж неабходна таксама ўлічваць уплыў на беларускую і польскай мовы, дзе гук [ф] вымаўляецца ў адпаведных пазіцыях са старажытнасці: [kr’ef] (*krew*), [tráfka] (*trawka*), [práfda] (*prawda*) і пад. Між іншым, з’яўленне на старонках беларускамоўных помнікаў пісьменства слоў з зычным *ф* Я.Ф.Карскі часам адносіць да ўплыву польскай або ўкраінскай мовы. На гэта ён указвае пры разглядзе пытання аб перадачы ў старажытных помніках у асобных выпадках спалучэнняў *пв* і *хв* літарай *ф*: *фалу* (хвалу), *форымъ* (хворым), *форобы* (хваробы), *волфы* (волхвы) і пад., а таксама перадачы *ф* спалучэннем *хф*: *chfartuch*, *axficer*, *Xfedar* і пад. [3, с. 343–344].

Са сказанага вынікае, што губна-зубны зычны гук [ф] у беларускай мове з’яўляецца запазычаным, паколькі на беларускай моўнай глебе, у параўнанні з рускай, не існавала ўмоў для яго самастойнага развіцця. Першапачатковае і найбольш шырокае распаўсюджанне гэтага гука звязана з пісьмовай мовай. Менавіта яна ў першую чаргу адчувала ўплыў рускага і польскага пісьменства, бо народныя гаворкі ў меншай ступені рэагавалі на іншамоўнае ўздзеянне. Такая думка не супярэчыць выказванню акадэміка Я.Ф. Карскага: «Яго [гук [ф] – М.К.] можна пачуць толькі ад асоб, граматных па-руску або асабліва па-польску, ды і то ў словах замежных…» [3, с. 344]. Пісьмовая мова пастулова аказвала ўплыў на вусную яе форму, садзейнічала пашырэнню сферы выкарыстання названага гука. Гэта прывяло на пэўным гістарычным этапе станаўлення ўсходнеславянскай фанетычнай сістэмы да замацавання запазычанага губна-зубнога гука [ф] у беларускай мове.

***Літаратура***


1. Блінава, Э.Д. Беларуская дыялекталогія / Э.Д. Блінава, Е.С. Мяцельская. – 2-е выд., дапрац. і дап. – Мінск: Выш. школа, 1980. – 304 с.

2. Иванов, В.В. Историческая грамматика русского языка / В.В. Иванов. – 3-е изд., перераб. и доп. – М.: Просвещение, 1990. – 400 с.

3. Карский, Е.Ф. Белорусы: в 3 т. / Е.Ф. Карский. – Минск: БелЭН, 2006. – Т. 2. Кн. 1: Язык белорусского народа – 457 с.

***А.У. Ксяндзова*** (Мінск, Беларусь)

**«УТОЕНЫЯ» БАЛТЫЗМЫ Ў БЕЛАРУСКІХ ГАВОРКАХ ЯК ВЫНІК БЕЛАРУСКА-БАЛЦКАГА МОЎНАГА КАНТАКТАВАННЯ**

Пытанні балта-славянскага моўнага ўзаемадзеяння для беларускага мовазнаўства з'яўляюцца вельмі актуальнымі. Найперш гэта звязана з вызначэннем ступені балцкага моўнага ўплыву на гаворкі беларускай мовы як на сучасным этапе, так і ў дастаткова старажытны перыяд. Вядома, што падмуркам для цеснага беларуска-балцкага моўнага ўзаемадзеяння паслужыла вельмі доўгае па часе суіснаванне і ўзаемапранікненне моў і культур суседніх балцкіх і славянскіх народаў. Сярод балцкіх па паходжанні назваў, якія былі запазычаны ў беларускія гаворкі ў розныя гістарычныя перыяды, найперш, безумоўна, вылучаюцца т. зв. «відавочныя» балтызмы – словы, паходжанне якіх не выклікае або амаль не выклікае сумненняў. Аднак хочацца звярнуць увагу, што ў гаворках беларускай мовы адзначаецца таксама вельмі шмат т. зв. «утоеных» балтызмаў [7, с. 204–205]. Гэта словы, якія маюць славянскае паходжанне або выкарыстоўваюцца і ў славянскіх, і ў балцкіх мовах, аднак асобныя элементы ў іх складзе з'яўляюцца вынікам менавіта балцкамоўнага ўплыву.

Вельмі цікавымі ў гэтым плане з'яўляюцца метафарычныя назвы чалавека кульгавага, крываногага, утвораныя на аснове падабенства ног чалавека да крывога, сукаватага дрэва, крывой палкі, пня, карча і да т. п. Сярод іх сустракаюцца назвы як славянскага, так і балцкага паходжання. Так, да ліку славянскіх паводле паходжання намінацый адносяцца словы з коранем *-корч- (-карач-)*: *карачу́н, карчано́гі (карчано́гій), карачунава́ты (карачунова́ты)* (спарадычна адзначаюцца ў гаворках Цэнтральнага і Заходняга Палесся, а таксама ў асобных гаворках Гродзеншчыны) [ТС; ДСБ; НЛ]. У беларускіх гаворках назва *карачу́н* ужываецца таксама са значэннямі 'бярозавы венік', 'стары, абдзёрты венік', 'корч, нешта крывое, пагнутае' і інш. [ДСБ; ЛП, Клімчук].

Найменні з коранем *-корч- (-карач-)* вядомы ў многіх славянскіх мовах і з'яўляюцца працягам (рэфлексам) прасл. **kъrčь (<*kъr-k-jo)* [2, т. 3, с. 45–46]. Хутчэй за ўсё генетычна яны звязаны з праславянскай назвай **korę* 'корань' і ўзыходзяць разам з ёй да індаеўрапейскага кораня **(s)ker- (*kor-/*kr-)* 'рэзаць, стрыгчы; аддзяляць' [2, т. 3, с. 24–25, 45 – 46; 5, с. 166].

Відавочна, падобную метафарычную матывацыю маюць таксама зафіксаваныя ў гаворках беларускай мовы назвы кульгавага, крываногага чалавека *раскара́ка, раскірэ́ка* і аднакаранёвыя ўтварэнні.

Назоўнікавая намінацыя агульнага роду *раскара́ка* ў шматлікіх варыянтах *(раскірэ́ка, раскіра́ка, рыскярэ́ка, рыскірэ́ка, разгіра́ка, разгірэ́ка)* спарадычна адзначана ў беларускіх гаворках паўночна-заходняй дыялектнай зоны (Пастаўскі, Астравецкі, Смаргонскі, Карэліцкі, Ваўкавыскі, Свіслацкі р-ны, Даўгаўпілскі р-н Латвіі), у гаворках Заходняга Палесся (Драгічынскі р-н), а таксама ў некаторых гаворках усходніх раёнаў Беларусі (Мсціслаўскі, Чачэрскі, Гомельскі р-ны, Віцебскі рэгіён) [СПЗБ; ЗНС; НЛ; Каспяровіч; Насовіч; Станкевіч; Шаталава; Мат. апыт.]. Акрамя таго, у асобных гаворках

беларускай мовы зафіксаваны аднакаранёвыя назоўнікавыя і прыметнікавыя намінацыі *кірэ́ка*, *раскараку́н* (Столінскі р-н), *разгірэ́ганы* (Пухавіцкі р-н), *разгіра́ты* (Пухавіцкі р-н), *разгірэ́йда (розгірэ́йда)* (Драгічынскі р-н) [ТС; МММГ-70; ЖС; НЛ; Насовіч; Станкевіч].

Прапанаваная беларускімі этымолагамі версія адносна паходжання назвы *кірэ́ка* і аднакаранёвых з ёй назваў (праз сувязь з бел. *ако́рак* 'костка з абрэзанага свінога кумпяка', укр. *окорок*, рус. *окорок* 'тс', балг. *крак,* с.-х. *крâк* 'нага' і інш. < ад прасл. *korkъ* 'нага' [9, т. 5, с. 39; 9, т. 1, с. 102]) не зусім задавальняе. Незразумелым застаецца характар чаргавання галосных *а (о)// і* ў корані гэтых слоў. На нашу думку, назвы *раскара́ка, кірэ́ка* і пад. у генетычным (а таксама і ў тыпалагічным) плане даволі лёгка суадносяцца з найменнямі *корч, карачу́н, карачкава́ты* і таксама могуць разглядацца ў кантэксце шматлікіх утварэнняў ад індаеўрапейскага кораня **(s)ker- (*ker-/*kor-/*kr-)* 'рэзаць, стрыгчы; аддзяляць' (параўн. рус. *раскоря́ка* 'не расколатае да канца дрэва' [6, т. 34, с. 132], укр. *коря́к* 'дрэва, якое дрэнна расце', *корячкува́тий* 'з крывым, сукаватым ствалом' [2, т. 3, с. 47]). Рэфлексы гэтага індаеўрапейскага кораня як у беларускай, так і ў іншых мовах якраз дэманструюць адпаведныя чаргаванні галосных (параўн. таксама чэш. *keř* 'куст', н.-луж. *keŕk* памянш. ад *keŕ* 'куст', польск. дыял. *kierzek* 'куст', рус. дыял. *карёк* 'кустоўе', *корёг* 'кустоўе, крываporслы лес', літ. *kerėža, kerẽžis, kẽrė* 'пра нізкарослыя расліны', *kẽras* 'пень', *kìrna* 'корань дрэва', 'карчага', 'пень зрубленага куста', ст.-прус. *kirno* 'куст', лат. *cęrs* 'куст', 'зарослае месца на балоце' [8, т. 13, с. 242–243; 10, т. 5, с. 847; 7, с. 15–18]).

Нам уяўляецца, што з'яўленне каранёвага [і] ў беларускіх назвах *кірэ́ка, раскірэ́ка, разгірэ́йда* і пад. магло быць абумоўлена менавіта ўздзеяннем балцкіх найменняў тыпу літ. *kìrna,* ст.-прус. *kirno* і пад., бо акрамя беларускіх слоў гэты гук сустракаецца выключна ў балцкіх па паходжанні назвах зрубленага дрэва, куста. Такім чынам, верагодна, што ў гаворках беларускай мовы сутыкнуліся генетычна роднасныя славянскія і балцкія назвы, адбылося іх «узаемапранікненне». Гэтым хутчэй за ўсё і тлумачыцца чаргаванне галосных унутры каранёвай марфемы *-кар- (-кяр-) // -кір-.* Тым больш, што ў паўночна-заходніх гаворках беларускай мовы зафіксаваны «відавочныя» балтызмы са значэннем 'кульгавы, крываногі', якія маюць гук [і] ў корані: *кірна́ты (кірма́ты), кірна́ч* (< літ. *kìrna* 'корань дрэва', 'нізкае кустоўе', 'пень зрубленага куста' і да т. п.), *кірэ́бла* (< літ. *kerė́pla* 'раскірака', 'разявака') [СПЗБ; Сцяшковіч; Цыхун; 10, т. 5, с. 600, 601; 7, с. 15–18, 20, 24; 4, с. 30; 1, с. 178].

Акрамя таго, уяўляецца невыпадковым, што ў шэрагу гаворак беларускай мовы (пераважна гродзенска-баранавіцкіх і заходнепалескіх) адзначаны формы са звонкім [г] або [ґ] у корані, якім адпавядаюць найменні з каранёвым [к]: *разгіра́ты*, *разгірэ́йда, разґіра́ка*, *разґірэ́ґаны* (побач з *раскара́ка, раскірэ́ка, раскараку́н*). Для адзначаных беларускіх моўных рэгіёнаў азванчэнне зычных перад галоснымі і санорнымі ў шэрагу запазычаных і спрадвечна беларускіх слоў даследчыкі [3, с. 218–219] кваліфікуюць як фанетычную заканамернасць (параўн., напрыклад, ужывальныя ў гэтых жа гаворках найменні *зяґра́ты, зыґра́ты* 'чалавек з вялікімі вачамі' паралельна з формамі *зікра́тый,*

*зыкра́тый, зякра́ты, зекра́ты* 'тс' [СПЗБ; ДСБ; СГЦР; НЛ; ЖС; ДСЗ; Цыхун]). Уяўляецца, што гістарычна фарміраванне гукавога аблічча падобных слоў хутчэй за ўсё адбывалася пад уздзеяннем усходнебалцкіх дыялектаў, якім вядома чаргаванне зычных [g]/[k].

Такім чынам, «утоеныя» балтызмы ў гаворках беларускай мовы выяўляюцца ў пэўнай трансфармацыі асобных моўных элементаў па адпаведным ўзоры з сістэмы балцкіх моў. Адзначаныя моўныя элементы не ўспрымаюцца носьбітамі беларускіх гаворак як запазычаныя. Як было сказана вышэй, іншы раз яны нават могуць набываць статус сістэмнай асаблівасці пэўнага згрупавання гаворак і ўплываць на адпаведнае гукавое афармленне спрадвечнай лексікі.

***Спіс скарачэнняў***

**ДСБ** – Дыялектны слоўнік Брэстчыны / склад. М.М. Аляхновіч [і інш.]. – Мінск: Навука і тэхніка, 1989. – 294 с.; **ДСЗ** – Сцяцко, П.У. Дыялектны слоўнік. З гаворак Зэльвеншчыны / П.У. Сцяцко; рэд. М.В. Бірыла. – Мінск: Выд-ва БДУ імя У.І. Леніна, 1970. – 183 с.; **ЖС** – Жывое слова: зб. арт. / АН БССР, Ін-т мовазнаўства; рэд. Ю.Ф. Мацкевіч, І.Я. Яшкін. – Мінск, 1978. – 288 с.; **ЗНС** – З народнага слоўніка: дыялекталагічны зб. / АН БССР, Ін-т мовазнаўства; пад рэд. А.А. Крывіцкага, Ю.Ф. Мацкевіч. – Мінск, 1975. – 352 с.; **Каспяровіч** – Касьпяровіч, М.І. Віцебскі краёвы слоўнік / М.І. Касьпяровіч. – Віцебск: Заря Запада, 1927. – 371 с.; **ЛП, Клімчук** – Климчук, Ф.Д. Специфическая лексика Дрогичинского Полесья / Ф.Д. Климчук // Лексика Полесья. Материалы для полесского диалектного словаря; отв. ред. Н.И. Толстой. – М.: Наука, 1968. – С. 20–78; **Мат. апыт.** – матэрыялы апытанняў; **МММГ-70** – Матэрыялы для слоўніка мінска-маладзечанскіх гаворак / пад рэд. М.А. Жыдовіч. – Мінск: Выд-ва БДУ імя У.І. Леніна, 1970. – 172 с.; **Насовіч** – Насовіч, І.І. Слоўнік беларускай мовы / І.І. Насовіч.– Мінск: БелСЭ, 1983. – 792 с.; **НЛ** – Народная лексіка: зб. / рэд. А.А. Крывіцкі, Ю.Ф. Мацкевіч; АН БССР, Ін-т мовазнаўства; пад рэд. А.А. Крывіцкага, Ю.Ф. Мацкевіч. – Мінск, 1977. – 288 с.; **СГЦР** – Слоўнік гаворак цэнтральных раёнаў Беларусі: у 2 т. / пад рэд. Е.С. Мяцельскай. – Т. 1: А – П. – Мінск: Універсітэцкае, 1990. – 287 с.; **СПЗБ** – Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча: у 5 т. / АН БССР, Ін-т мовазнаўства; уклад.: Ю.Ф. Мацкевіч [і інш.], пад рэд. Ю.Ф. Мацкевіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1979–1986. – 5 т.; **Станкевіч** – Станкевич, Я. Русско-белорусский (Великолитовско-русский) словарь / Я. Станкевич. – Нью-Йорк, 1990. – 1305 с.; **Сцяшковіч** – Сцяшковіч, Т.Ф. Слоўнік Гродзенскай вобласці / Т.Ф. Сцяшковіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1983. – 671 с.; **ТС** – Тураўскі слоўнік: у 5 т. / АН БССР, Ін-т мовазнаўства; склад.: А.А. Крывіцкі [і інш.]; рэд. А.А. Крывіцкі. – Мінск: Навука і тэхніка, 1982–1987. – 5 т.; **Цыхун** – Цыхун, А.П. Скарбы народнай мовы (з лексічнай спадчыны насельнікаў Гродзенскага раёну) / А.П. Цыхун; пад рэд. П.У. Сцяцко. – Гродна: Выд-ва Гродзен. дзярж. ун-та, 1993. – 244 с.; **Шаталава** – Шаталава, Л.Ф. Беларускае дыялектнае слова / Л.Ф. Шаталава; АН БССР, Ін-т мовазнаўства. – Мінск: Навука і тэхніка, 1975. – 208 с.

***Літаратура***

1. Гринавецкене, Э. Бытовая лексика литовского происхождения в западной Белоруссии / Э. Гринавецкене, Ю.Ф. Мацкевич, Е.М. Романович, Е.И. Чеберук // Lietuvių kalbotyros klausimai. – 1975. – Т. XVI. – Р. 163–195.

2. Етимологічний словник української мови: у 7 т. / АН УССР, Ін-т мовознавства; редкол.: О.С. Мельнічук (гол. ред.) [та інш.]. – Київ: Наукова думка, 1982–2006. – Т. 1–5.

3. Крывіцкі, А.А. Дыялекталогія беларускай мовы / А.А. Крывіцкі. – Мінск: Выш. шк., 2003. – 294 с.

4. Лаучюте, Ю.А. Словарь балтизмов в славянских языках / Ю.А. Лаучюте. – Л.: Наука, 1982. – 213 с.

5. Откупщиков, Ю.В. Из истории индоевропейского словообразования / Ю.В. Откупщиков. – Л.: Изд-во Ленингр. ун-та, 1967. – 320 с.

6. Словарь русских народных говоров / АН СССР (РАН), Ин-т рус. языка; под ред. Ф.П. Филина, Ф.П. Сороколетова. – Л. (СПб.): Наука, 1965 – 2006. – Вып. 1–40.

7. Топоров, В.Н. Прусский язык: Словарь: K – L (*kirk – *laid-ik-) / В.Н. Топоров; АН СССР, Ин-т славяноведения и балканистики. – М.: Наука, 1984. – 439 с.

8. Этимологический словарь славянских языков: Праславянский лексический фонд / АН СССР (РАН), Ин-т рус. языка; под ред. О.Н. Трубачева.– М.: Наука, 1974–2005. – Вып. 1–31.

9. Этымалагічны слоўнік беларускай мовы / АН БССР (НАН Беларусі), Ін-т мовазнаўства; пад рэд. В.У. Мартынава, Г.А. Цыхуна. – Мінск: Навука і тэхніка (Беларус. навука), 1978–2008. – Т. 1–12.
10. Lietuvių kalbos žodynas / Lietuvių kalbos ir literatūros institutas (Lietuvių kalbos institutas). – Vilnius, «Minties» leidikla (Lietuvių kalbos instituto leidikla), 1968–2002. – T. I–XX.

***И.П. Кудреватых*** (Минск, Беларусь)

**«О, ЕСЛИ БЫ БЕЗ СЛОВ СКАЗАТЬСЯ МЫСЛЬЮ БЫЛО МОЖНО…» (А. ФЕТ)**

Речевая ситуация, сложившаяся в нашем обществе на рубеже веков, заставляет по-новому взглянуть на проблему языковой нормы. Прозрачность границ между устным и письменным общением, снижение и нивелировка стилей, определяющих ситуацию общения, обязывает искать пути преодоления той тотальной безграмотности, которая разделила общество на две группы: с одной стороны оказались люди, ответственные за слово, а с другой – люди, с радостью переставшие задумываться о форме выражения своих мыслей. Ситуация осложняется тем, что средоточием современных норм все больше становятся средства массовой информации, с одной стороны, завоевывающие читателя, с другой – насаждающие свой языковой вкус. Кроме того, появление большого количества словарей, подтверждающих шквальное нарастание вариантных форм, ранее считавшихся показателем разговорного стиля, – свидетельство отсутствия желаемого языкового единообразия.

Язык современных СМИ отражает и все богатство, и всю сложность коммуникативной культуры начала XXI века. Современную журналистику захлестывает разговорно-просторечная стихия, кажущаяся по сравнению с нормированным языком более выразительной, более экспрессивной. Однако свобода слова – явление социально значимое, и не каждому человеку эта свобода под силу. Современный говорящий не задумывается не только над формой выражения своих мыслей, но и над их смысловым объемом. Например, герой художественного фильма говорит *держать нос на ветру* вм. *по ветру, цедить сквозь рот* вм. *сквозь зубы,* в песне поется *Девочка едет в столицу, девочка едет жениться.* А какое пустословие сопровождает речь большинства наших сограждан: *на самом деле, типа, значит, такая / такой, как бы* и мн. др. свидетельствуют о том, что только небольшая часть высказывания информативна, все остальное – пустословие.

Профессор Д.Э. Розенталь, критикуя многословие, употреблял интересный термин «ляпалиссиада», образованный от имени французского маркиза Ля Палиса, погибшего в бою в 1525 г. Солдаты, выражая скорбь, сочинили песню, в которой была фраза: «Наш командир еще за 25 мнут до своей смерти был жив». Подобные «ляпалиссиады» нередки и сегодня. К ним можно отнести тавтологию, плеоназм и слова-паразиты, например: *более серьезнее, ведущий лейтмотив, памятные сувениры, заново перечитать, трудоемкий труд, ступни ног* и мн. др. А формы *в двухтысячадесятом году, в трехсот километрах* и под., звучащие с экрана телевизора, становятся частотными.

Нормативный аспект культуры речи – один из важнейших, но не единственный. Важным является и этический аспект. После распада Советского Союза образовалась

лакуна в употреблении формулы обращения. Еще 25 лет назад мы все были *товарищами*, в известных ситуациях – *гражданами.* Сегодня мы *мужчина* и *женщина.* Почему в обществе, имеющем богатые традиции и многовековую культуру, все больше наблюдается пренебрежительное отношение к языку. К. Паустовский однажды заметил, что «по отношению каждого человека к своему языку можно судить не только о его культурном уровне, но и о его гражданской ценности». Нежелание задумываться о силе воздействия, которое способно оказать слово на слушающего, приводит иногда к резкому снижению интереса к собеседнику при общении, так как, по словам одного ритора, «мы слушаем не речь, а человека, который ее говорит». Словесный нигилизм устойчиво противодействует распространению нормированного слова – точного и выразительного, емкого и уместного одновременно.

Современная наука о языке, при характеристике изменений в нем «к лучшему», предпочитает пользоваться принципом целесообразности. В таком случае учитывается функционально-прагматическая сущность языка, а не абстрактно и отдельно существующая кодовая модель. Поэтому такое явное качество современного языка, как нарастающая вариантность языковых знаков, может быть воспринято, с одной стороны, как явление положительное, поскольку говорящий имеет возможность выбора из сосуществующих языковых единиц более уместные для решения конкретных коммуникативных задач. Значит, язык становится более мобильным, тонко реагирующим на ситуацию общения, то есть обогащается стилистика языка. Но с другой стороны, обилие вариантов, еще недавно считающихся признаком разговорности – это свидетельство размывания границ литературного языка. Например, произошли изменения в глагольном и именном управлении: так, управление глагола *поражаться* дат. п. (чему, вм. чем) возникло по аналогии с другими глаголами (*изумляться* чему, *удивляться* чему). Часто такие изменения оцениваются как ошибочные, недопустимые в литературном языке (например, под влиянием сочетания *вера в победу* возникло ошибочное сочетание *уверенность в победу* вместо *уверенность в победе*).

Особенно активным в современном русском языке оказывается действие закона речевой экономии. Стремление к экономичности языкового выражения обнаруживается на разных уровнях языковой системы (в лексике, словообразовании, морфологии, синтаксисе). Действие этого закона объясняет, например, замену форм следующего типа: *грузин* из *грузинец*, *лезгин* из *лезгинец*, *осетин* из *осетинец* (однако *башкирец* – ?); о том же свидетельствует нулевое окончание в родительном падеже множественного числа у ряда классов слов: *пять грузин* вместо *грузинов*; *сто грамм* вместо *сто граммов*; *полкило апельсин, помидор, мандарин* вместо *апельсинов, помидоров, мандаринов* и т. п.

В русском языке в XX в. появилось много аббревиатур, которые тоже являются следствием закона речевой экономии. Однако многие сегодняшние аббревиатуры расшифровать сложно, более того, расчлененные наименования (ср.: *общество защиты животных, управление по борьбе с организованной преступностью, общество художников-станковистов*) не отрицают употребление аббревиатур, но

обладают явным преимуществом воздействующей силы, поскольку несут в себе открытое содержание.

Две формы реализации языка – устная и письменная – исторически были противопоставлены. Однако сегодня они сближаются, активизируя свое естественное взаимодействие. Начинает разрушаться само соотношение книжности (основа – письменная речь) и разговорности (основа – устная речь). В звучащей речи появляются не только лексико-грамматические признаки книжной речи, но и чисто письменная символика, например: *человек с большой буквы, доброта в кавычках, качество со знаком плюс (минус)* и др. Границы форм речи становятся размытыми, и, как считает В.Г. Костомаров, появляется особый тип речи – книжно-устная речь.

Интересную мысль еще в 1993 г. на страницах «Литературной газеты» высказал И. Волгин, процитировав И. Бродского: «Только если мы решили, что «сапиенсу» пора остановиться в своем развитии, следует литературе говорить на языке народа. В противном случае народу следует говорить на языке литературы».

Таким образом, одной из важнейших задач воспитания современной функциональной культуры речи является овладение умениями и навыками анализа сложных ситуаций общения прежде всего применительно к актуальным сферам и ситуациям. На этой базе соответствующие продуктивные умения и навыки могут приобретаться только самовоспитанием в естественной речевой практике.

***Г.І. Кулеш*** (Мінск, Беларусь)

## СІНТАКСІЧНЫЯ КАНСТРУКЦЫІ З ПРЫНАЗОЎНІКАМ *ПРАЗ* У ЗАКАНАДАЎЧЫХ ТЭКСТАХ

Сінтаксічныя канструкцыі з прыназоўнікам *праз* ужываліся ў беларускамоўных заканадаўчых тэкстах 1920–30-х гадоў як адпаведнікі рускім сінтаксемам часцей за ўсё з вытворным прыназоўнікам *путем*: *право признания ребенка своим* ***путем*** *подачи соответствующего заявления* (КЗаШС-27, 41)[1] – *права прызнаць дзіця сваім* ***праз*** *падачу заявы* (КЗаШС-27, 41);

часам – з іншымі невытворнымі прыназоўнікамі, напрыклад *по*, *в*: *лица, являющиеся опасными* ***по*** *своей связи с преступной средой* (УК-28, 8) – *асобы, якія з'яўляюцца небяспечнымі* ***праз*** *сувязь з злачынным асяродкам*; *общественное порицание объявляется* ***в*** *печати* (УК-28, 42) – *грамадзкае ганьбаваньне абавязкова абвяшчаецца* ***праз*** *друк* (КК-28, 42);

у асобных выпадках – як эквіваленты да беспрыназоўнікавых словазлучэнняў: *лишить тем самым гражданства* (УК-28, 18) – *пазбавіць* ***праз*** *тое самае грамадзянства* (КК-28, 18).

Ва ўсіх выяўленых выпадках прыназоўнік *праз* мае акалічнаснае значэнне, але спалучэнне з семантычна рознымі словамі, якімі кіруе прыназоўнік, надае яму

[1] У ілюстрацыйным матэрыяле захоўваюцца моўныя асаблівасці арыгінала. Першая лічба абазначае год выдання, другая – нумар артыкула.

разнастайныя сэнсавыя адценні. Удакладненне агульнага акалічнаснага значэння адбываецца за кошт семантычных элементаў кантэксту. У выніку канструкцыі набываюць значэнне: способ дасягнення выніку: ***абарона*** *дзяржавы* ***праз ужываньне*** *паказаных мер* (КК-28, 1); *штраф ня можа быць* ***спагнаны праз продаж*** *маёмасьці* (КК-28, 45 ув.1); сродак дасягнення выніку: *грамадзкае ганьбаваньне абавязкова* ***абвяшчаецца праз друк*** (КК-28, 42); тоеснасць выніку дзеяння: *абвяшчэньне ворагам працоўных* ***з пазбаўленьнем*** *грамадзянства БССР і* ***праз тое самае*** *грамадзянства Саюзу ССР* (КК-28, 18); прычыну: *асобы* ***з'яўляюцца небяспечнымі праз сувязь*** *з злачынным асяродкам* (КК-28, 8).

Сучасныя лексікаграфічныя даведнікі такія сэнсавыя адценні акалічнаснага значэння канструкцый з прыназоўнікам *праз* не фіксуюць. Напрыклад, Тлумачальны слоўнік беларускай мовы побач з прасторавымі, часавымі, аб'ектнымі, прычыннымі адносінамі ў такіх канструкцыях адзначае толькі дзве мадэлі з акалічнаснымі адносінамі. Першая ўжываецца для ўказання на акалічнасці, якія суправаджаюць якое-небудзь дзеянне (*усміхнуцца праз слёзы*), другая – для выражэння перабольшання чаго-небудзь (*праз меру нацягнутая струна*) [2, с. 327].

Частковая страта семантычных кампанентаў шматзначнага слова можа быць выклікана рознымі прычынамі. У гэтым выпадку звужэнне семантычнага аб'ёму прыназоўніка *праз* адбылося ў выніку перанясення ў беларускамоўныя тэксты рускіх мадэляў сінтаксічных канструкцый, якія выцеснілі свае. У шэрагу сінтаксем, ужываных у кніжных стылях, *праз* быў заменены на іншы прыназоўнік – *шляхам*. У заканадаўчых тэкстах гэты адыменны прыназоўнік з'явіўся ў выніку калькавання рускага прыназоўніка *путём* у працэсе перакладу такіх тэкстаў з рускамоўнага арыгінала.

Наяўнасць выданняў розных гадоў дае магчымасць прасачыць храналогію гэтага працэсу. У тэксце Канстытуцыі канструкцыі з прыназоўнікам *шляхам* фіксуюцца ўжо ў рэдакцыі 1937 г.: *выбары… праводзяцца грамадзянамі непасрэдна* ***шляхам*** *прамых выбараў* (К-37, 114). У іншых тэкстах, напрыклад у Крымінальным кодэксе, – толькі пачынаючы ад рэдакцыі 1957 г.:

*склонение* [*к объявлению войны*] *иностранного государства или каких-либо в нем общественных групп* ***путем*** *сношения с их представителями…* (УК-28, 67) –

*схіленьне замежнай дзяржавы альбо якіх-небудзь грамадзкіх груп яе* ***праз*** *зносіны з іх прадстаўнікамі* (КК-28, 67) –

*схіленне іншакраіннай дзяржавы або якіх-небудзь грамадскіх груп яе* ***праз*** *зносіны з іх прадстаўнікамі* (КК-40, 67) –

*схіленне замежнай дзяржавы або якіх-небудзь у ёй грамадскіх груп* ***шляхам*** *зносін з іх прадстаўнікамі* (КК-57, 67).

Цікава, што Крымінальны кодэкс да прыняцця рэдакцыі 1961 г. перавыдаваўся ў рэдакцыі 1928 г. і, як паказвае ілюстрацыйны матэрыял, у новых рэдакцыях іншыя лінгвістычныя ўдакладненні рабіліся (напрыклад, *замежная дзяржава – іншакраінная дзяржава*, *альбо – або*), пры гэтым канструкцыя з прыназоўнікам *праз* пакідалася

нязмененай. Гэта дае падставу меркаваць пра пашыранасць такіх канструкцый у тагачасным узусе. Выкарыстанне іх у заканадаўчым стылі падтрымлівалася патрабаваннем маладой савецкай улады фармуляваць законы зразумелай для працоўных мас мовай [1, с. 92]. У перакладчыкаў заканадаўчых тэкстаў на беларускую мову, магчыма, былі апасенні, што вытворны прыназоўнік *шляхам* будзе неадназначна ўспрыняты гэтай катэгорыяй карыстальнікаў з-за ўжывання звыклага слова ў новай функцыі, атрыманай у выніку надання яму пераноснага значэння – 'спосаб дзеяння'.

Канструкцыі з прыназоўнікам *праз*, якія мелі ў рускім варыянце беспрыназоўнікавыя адпаведнікі або адпаведнікі з іншымі невытворнымі прыназоўнікамі, таксама з цягам часу былі заменены на скалькаваныя: *общественное порицание обязательно **объявляется в печати*** (УК-28, 42) – *грамадзкае ганьбаваньне абавязкова **абвяшчаецца праз друк*** (КК-28, 42) – *грамадскае ганьбаванне абавязкова **абвяшчаецца праз друк*** (КК-40, 42) – *грамадскае ганьбаванне абавязкова **аб'яўляецца ў друку*** (КК-57, 42).

Аднак пры даследаванні моўных асаблівасцей заканадаўчага стылюназіранні за такімі словазлучэннямі не настолькі цікавыя, як за сінтаксемамі з вытворнымі прыназоўнікамі, паколькі вытворныя прыназоўнікі называюць у ліку найбольш адметных сінтаксічных уласцівасцей афіцыйна-справаводчага стылю [3, с. 256]. Выкладзеныя вышэй назіранні паказваюць, што ўжыванне замест вытворных прыназоўнікаў іх невытворных сэнсавых адпаведнікаў не выводзіць тэкст за межы яго функцыянальнай прыналежнасці. На падставе гэтага можна меркаваць не толькі аб неаднолькавым месцы адных і тых жа маркераў у іерархіі стылеўтваральных сродкаў розных, хоць і блізкароднасных моў, але і неаднолькавым іх наборы.

***Скарачэнні***

**КЗаШС-27** – Кодэкс законаў аб шлюбе, сям'і і апецы Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. – Мінск: Выд. СНК БССР, 1927. – 48 с.; **КК-28** (**УК-28**) – Крымінальны кодэкс БССР. Афіц.выд. – Мінск: Выд-ва кіраўніцтва спраў СНК: Выд. эканам. нарады БССР, 1928. – 163 с.; **КК-40** – Крымінальны кодэкс БССР. – Мінск: Дзяржвыд БССР. Рэд. паліт. літ., 1940. – 98 с.; **КК-57** – Крымінальны кодэкс Беларускай ССР. – Мінск: Дзярж. выд-ва БССР, 1957. – 296 с.

***Літаратура***

1. Лукьянова, Е.А. Российская государственность и конституционное законодательство в России (1917 – 1993) / Е.А. Лукьянова. – М.: Изд-во Моск.ун-та, 2000. – 192 с.

2. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. У 5-ці т. Т. 4. / рэд. тома Г.Ф. Вештарт, Г.М. Прышчэпчык. – Мінск: Гал. рэд. Беларус. Сав. Энцыклапедыі, 1980. – 768 с.

3. Цікоцкі, М.Я. Стылістыка беларускай мовы: вучэб. дапам. для фак. журналістыкі / М.Я. Цікоцкі. – Мінск: Універсітэцкае, 1995. – 294 с.

***У.І. Кулікові́ч, К.С. Грышчанка*** (Мінск, Беларусь)

## СТРУКТУРА І ЗМЕСТ ХРЭСТАМАТЫІ «БЕЛАРУСКАЯ АРФАГРАФІЯ: ГІСТОРЫЯ І СУЧАСНАСЦЬ»

Патрэба ў падрыхтоўцы і выданні хрэстаматыі прысвечанай беларускаму правапісу наспела даўно. Гэта абумоўлена шэрагам фактараў, сярод якіх: 1) вялікая значымасць арфаграфіі ў свядомасці людзей, якія атаясамліваюць правілы напісання з усёй сістэмай

мовы і на аснове гэтага фарміруюць сваё стаўленне да беларускай мовы як сродку камунікацыі; 2) даступнасць для візуальнага назірання за тымі зменамі, якія адбываюцца ў перадачы на пісьме слоў; 3) цесная ўзаемасувязь алфавіта і арфаграфіі як частак агульнай сістэмы мовы з фанетыкай, фаналогіяй, арфаэпіяй, лексікалогіяй, граматыкай; 4) значная ўвага да вывучэння арфаграфічных правілаў у агульнаадукацыйных, прафесійна-тэхнічных установах адукацыі і ВНУ.

Задача артыкула – акрэсліць структуру і змест першай у Беларусі хрэстаматыі «Беларуская арфаграфія: гісторыя і сучаснасць».

Праектуемае выданне складаецца з чатырох раздзелаў: 1) Першыя крокі (1900–1917); 2) Станаўленне традыцыі (1918–1933); 3) Спробы ўдасканалення (1934–1959); 4) Пошукі і знаходкі (1960–2010).

Першы раздзел будзе змяшчаць інфармацыю пра беларускае пісьмо, якая з'явілася пасля зняцця забароны на друкаванне беларускіх кніг і перыёдыкі, прызнання беларусаў асобнай нацыяй з адметнай гісторыяй, культурай, мовай. Ён уключае дыскусійныя артыкулы з газеты «Наша ніва», у якіх ідзе гаворка пра беларускую графіку і арфаграфію, а таксама фрагменты вучэбна-метадычных кніг па арфаграфіі, дзе зафіксаваны першыя спробы кадыфікацыі пісьмовай мовы беларусаў. Сярод іх: Abicht R., Stankewič J. prosty sposab stacca ŭ karotkim čaśe hramatnym. – Breslay: Buchhandlung Priebatsch, 1918. – 16 s.; Luckiewič Ant. jak prawilna pisać pa biełarusku. – Wilnia: Druk. M.Kuchty, 1917. – 16 s.; Luckiewič Ant. Stankewič J. Biełaruski prawapis. – Wilnia: Druk. M.Kuchty, 1918. – 32 s.; Тарашкевіч Б. Беларуская граматыка для школ. – Вільня: Выд-ва Бел. камітэту, 1918. – 76 с.; Pačobka B. Hramatyka biełaruskaj mowy. – Wilnia: Homan, 1918. – 36 s. Аб'ём раздзела — каля 60 старонак.

Змест другога раздзела адлюстроўвае вынікі напружанай працы беларускіх і замежных дзеячаў навукі перыяду, калі адбывалася станаўленне нацыянальнай традыцыі па выпрацоўцы аптымальных арфаграфічных правілаў для аднастайнай перадачы на пісьме беларускага маўлення. Тут прадстаўлены вучэбныя дапаможнікі, дыскусійныя артыкулы 20-х гадоў ХХ ст. Я. Лёсіка, Р. Астроўскага («Беларускі правапіс. Компіляцыя паводле Б. Тарашкевіча і Я. Лёсіка»), У. Дубоўкі, П. Бузука, П. Растаргуева і іншых, вытрымкі з падручніка для тэхнікумаў і самаадукацыі дацэнта БДУ А. Багдановіча «Беларуская мова» (1927), дапаможніка «Методыка роднай мовы» Я. Коласа, матэрыялы Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі, Беларускі правапіс: Проект (1930 г.). Завершыць раздзел пастанова Савета Народных Камісараў ад 26 жніўня 1933 г. «Аб зьменах і спрашчэньні беларускага правапісу» (Мінск, 1933. 16 с.). Плануемы аб'ём гэтай часткі хрэстаматыі – каля 100 старонак.

Для трэцяга раздзела прапануюцца матэрыялы, якія адлюстроўваюць адносіны беларускай і замежнай грамадскасці, навуковых супрацоўнікаў да рэформы беларускага правапісу, прапановы па яго ўдасканаленні, фрагменты вучэбна-метадычных дапаможнікаў 30-х – 60-х гадоў ХХ ст. Сярод іх: артыкулы са зборнікаў «Пісьменнік і мова» (1934 г.), «Пісьменнікі БССР аб рэформе правапісу беларускай мовы» (1934 г.),

артыкулы ў СМІ: Суднік, М. Да пытання аб беларускім правапісу / М. Суднік // Настаўн. газ. – 1946. – 16 мая. – С. 3; Суднік, М. Складаныя словы ў беларускай арфаграфічнай сістэме / М. Суднік // ЛіМ. – 1948. – 2 кастр. – С. 3; Суднік, М.Р. Да пытання аб гісторыі фарміравання беларускай арфаграфічнай сістэмы / М.Р. Суднік // Вес. Акад. навук БССР. – 1950. – № 3. – С. 46–57; Умрэйка, С. Пашырыць марфалагічны прынцып у беларускім правапісе / С. Умрэйка, І. Вадэйка, М. Сулер // Настаўн. газ. – 1951. – 13 верас. – С. 3; Крапіва, К. Аб прынцыпах удакладнення беларускага правапісу / К. Крапіва // ЛіМ. – 1952. – 9 лют. – С. 2 і іншых. Сярод афіцыйных дакументаў прадстаўлены: Праект змен і ўдакладненняў беларускага правапісу, распрацаваны арфаграфічнай камісіяй Інстытута мовы, літаратуры і мастацтва Акадэміі навук БССР пад кіраўніцтвам правадзейнага члена Акадэміі навук БССР Якуба Коласа (Настаўн. газ. – 1951. – 9 жн. – С. 3) і Аб удакладненні і частковых зменах існуючага беларускага правапісу (зацверджана Саветам Міністраў БССР) (Звязда. – 1957. – 23 мая. – С. 2). Завяршае раздзел артыкул М. Лобана «Новае ў беларускім правапісе (ЛіМ. – 1957. – 1 чэрв. – С. 2) і частка кнігі Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі. Зацверджаны Акадэміяй навук БССР і Міністэрствам асветы БССР. — Мінск.: Выд-ва Акадэміі навук БССР, 1959. Аб'ём гэтага раздзела — каля 200 старонак.

Чацвёрты раздзел уключае фрагменты падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў па арфаграфіі беларускай мовы, артыкулы і афіцыйныя пастановы адносна правапісу. Гэта абумоўлена тым, што найперш у вучэбных выданнях гэтага часу адбывалася ўдакладненне асобных праблемных момантаў, выяўленных у працэсе моўнай практыкі пасля надрукавання Правіл беларускай арфаграфіі (1959). Сярод дапаможнікаў будуць фрагменты кніг: Камароўскі, Я.М. Беларускі правапіс: вучэб. дапам. / Я.М. Камароўскі. – Мінск: Вышэйшая школа, 1965. – 164 с.; Юргелевіч, П. Я. Нарыс сучаснай беларускай мовы з гістарычнымі каментарыямі: дапаможнік для студэнтаў філалагічных і гістарычна-філалагічных факультэтаў педінстытутаў (1958), а таксама такіх аўтараў, як Л.І. Сямешка, З.І. Бадзевіч, І.Р. Шкраба і іншых. Сярод афіцыйна зацверджаных і афіцыйна незацверджаных дакументаў у хрэстаматыі прадстаўлены Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі: зацверджаны Законам Рэспублікі Беларусь ад 23 ліпеня 2008 г. №430-З. – Мінск: Нац. Цэнтр прававой інфарм. Рэсп. Беларусь, 2008. – 144 с. і Беларускі клясычны правапіс: збор правілаў: сучасная нармалізацыя / Ю. Бушлякоў [і інш.]. – Вільня, Менск, 2005. – 159 с. На наш погляд, размяшчэнне гэтых дакументаў дазволіць убачыць падыходы да нармалізацыі арфаграфічнай сістэмы беларускай мовы з пункту погляду розных школ і напрамкаў нашага мовазнаўства. Завершыць раздзел тэарытычная частка з кнігі У. Куліковіча «Новае ў беларускай арфаграфіі». Плануемый аб'ём гэтай часткі каля 200 старонак.

Хрэстаматыя стане адлюстраваннем паступовага развіцця арфаграфічнай сістэмы беларускай літаратурнай мовы, дазволіць убачыць цэласную карціну фарміравання правапісных нормаў, кадыфікацыі нашага правапісу, якія непасрэдна былі звязаны са зменамі ў сацыяльна-эканамічным і культурным жыцці Беларусі, з культурай беларускай

мовы, развіццём нацыянальнага рэдакцыйна-выдавецкага комплексу. Акрамя навуковай і педагагічнай вартасці (праца будзе запатрабавана для навуковых даследаванняў і арганізацыіі вучэбна-выхаваўчага працэсу ў ВНУ), яна мае агульнакультурнае значэнне, паколькі дазваляе кожнаму беларусу глыбей пазнаць гісторыю сваёй краіны і тым самым аб'ектыўна прэзентаваць яе ў свеце, усвядоміць адметнасць нашага правапісу ў параўнанні з правапісам іншых славянскіх народаў. Аб'ём хрэстаматыі, якая будзе прадстаўлена і на папяровым, і на электронным носьбітах – каля 600 старонак.

***К.М. Куршук*** (Гродна, Беларусь)

## ТЭХНІЧНЫЯ СРОДКІ ПЕРАКЛАДУ: ПРАГРАМЫ АЎТАМАТЫЗАВАНАГА ПЕРАКЛАДУ

Перакладчыцкая дзейнасць у свеце мае даўнюю гісторыю. На працягу многіх стагоддзяў перакладчыкі ўносілі вялікі ўклад у развіццё мовы і культуры сваёй краіны, рабілі даступным усё найбольш каштоўнае, што з'яўлялась у культуры і літаратуры іншых народаў. Пазней дзейнасць перакладчыкаў стала неад'емнай умовай развіцця міжнародных стасункаў, абмену дзелавой і навукова-тэхнічнай інфармацыяй. Аб'ём перакладаў у сучасным грамадстве няспынна расце, перакладчыкі не могуць адолець такія аб'ёмы самастойна і бяруць на ўзбраенне інфармацыйныя тэхналогіі, якія дапамагаюць апрацоўваць тэкст, у тым ліку рабіць пераклады.

Роля інфармацыйных тэхналогій у лінгвістыцы пастаянна павялічваецца. Паводле А.В. Зубава, інфармацыйныя тэхналогіі ў лінгвістыцы – гэта сукупнасць законаў, метадаў і сродкаў атрымання, захоўвання, перадачы, распаўсюджвання, пераўтварэння інфармацыі пра мову і законах яе функцыянавання з дапамогай камп'ютара [1, с. 8]. Гэтае азначэнне суадносіцца з тымі задачамі, якія вырашае прыкладная лінгвістыка: стварэнне сістэм штучнага інтэлекту і аўтаматызаванага перакладу, распрацоўка баз даных для гуманітарных навук, распрацоўка электронных слоўнікаў і сістэм перадачы інфармацыі ў сетцы Інтэрнэт і іншыя [1, с. 9].

З'яўленне камп'ютара стала прарывам у перакладчыцкай дзейнасці. Тэкставы рэдактар, электронны слоўнік, магчымасць захоўваць усе неабходныя дакументы ў памяці камп'ютара дапамаглі значна паскорыць працэс перакладу і яго якасць. Развіццё праграмнага забеспячэння не стаіць на месцы – з'яўляюцца тэхналогіі і інструменты цалкам іншага ўзроўню. Сучасная спецыфіка пісьмовага перакладу абумоўлена неабходнасцю перакладу вялікіх аб'ёмаў тэхнічных дакументаў, змест якіх часта паўтараецца. Тэхнічны пераклад увогуле патрабуе строгасці стылю і кананічнасці форм. У дакументах пастаянна паўтараюцца тыповыя абароты, і калі перакладчыкі вымушаны ўручную перакладаць раз за разам адно і тое ж, гэта значна зніжае хуткасць іх працы. Гэтую праблему дапамагае вырашыць тэхналогія Translation Memory (TM) – база даных, у якой захоўваюцца выкананыя пераклады. Яе таксама называюць «памяць перакладаў». Выкарыстанне тэхналогіі TM павышае хуткасць перакладу за кошт памяншэння механічнай працы. TM не выконвае пераклад замест перакладчыка, але

значна палягчае яго працу. Прынцып работы ТМ даволі просты: падчас перакладу пары «зыходны тэкст – канчатковы (перакладзены) тэкст» захоўваюцца ў базе даных і потым выкарыстоўваюцца для перакладу новых дакументаў.

Тэхналогія ТМ пакладзена ў аснову работы большасці сродкаў аўтаматызаванага перакладу (CAT-сродкі). Сярод іх Trados, SDLX, Deja Vu, Wordfast, Star Transit і многія іншыя [2]. Сістэма ТМ разбівае тэкст на сегменты, часцей за ўсё сегмент роўны аднаму сказу. Падчас перакладу новага тэксту сістэма параўноўвае ўсе сегменты зыходнага тэксту з тымі, якія ўжо ёсць у базе. Калі ў памяці знаходзяцца фрагменты, якія супадаюць, яны аўтаматычна выводзяцца ў акно перакладу. Калі фрагмент супадае толькі часткова, то праграма паведамляе колькасць адсоткаў супадзення. Перакладчык мае магчымасць адрэдагаваць фрагмент самастойна. У выпадку, калі супадзенняў няма, перакладчык цалкам перакладае зыходны тэкст уручную. Скончыўшы працу над адным сегментам, ён дасылае яго ў памяць базы даных і пераходзіць да наступнага. Адпаведна, папаўненне памяці перакладу адбываецца аўтаматычна па меры таго, як выконваецца пераклад тэксту. Адразу пасля таго, як білінгва (пара «зыходны сегмент – перакладзены сегмент») пападае ў базу даных, яна становіцца даступнай карыстальніку. Калі ТМ размешчана на сеткавым дыску і з ёй працуюць іншыя карыстальнікі, новая білінгва адразу становіцца даступнай для іншых перакладчыкаў па сетцы.

Такім чынам, сутнасць работы тэхналогіі ТМ зводзіцца да наступнага: карыстальнік загружае зыходны тэкст у праграму памяці перакладу, праграма сегментуе тэкст, выбірае са сваёй базы перакладзеных тэкстаў сегменты, якія супадаюць з сегментамі зыходнага тэксту, і выдае цалкам або часткова перакладзены тэкст. Атрымліваецца, што падчас працы з ТМ перакладчыку застаецца толькі перакласці новыя сегменты і адрэдагаваць тыя, якія часткова супадаюць. Усе змены ў перакладзе і новыя пераклады захоўваюцца ў ТМ, і няма неабходнасці перакладаць адно і тое ж двойчы.

Працу ТМ можна прадставіць схематычна. Калі *A* – гэта ўвесь тэкст, а *b, c, d, e, f* – сказы (сегменты), з якіх складаецца тэкст, то ТМ аналізуе сегменты на прадмет іх супадзення з перакладзенымі сегментамі ў сваёй базе. Калі, напрыклад, сегменты *b* і *d* знойдзены ў памяці перакладу, то карыстальніку трэба перакласці толькі сказы *c, e, f.* А ў наступным разе увесь тэкст, які скаладецца са сказаў (сегментаў) *b, c, d, e, f,* будзе перакладзены праграмай аўтаматычна.

База даных памяці перакладаў дапаўняецца і расце з перакладам кожнага новага дакумента, таму час, які затрачваецца на чарговы падобны пераклад, скарачаецца. Акрамя зніжэння працаёмкасці перакладу, ТМ дазваляе вытрымаць адзінства тэрміналогіі і стылю ўсёй дакументацыі, а таксама скараціць выдаткі на далейшую вёрстку перакладзеных дакументаў.

Праграмы аўтаматызаванага перакладу на базе тэхналогіі ТМ падтрымліваюць розныя фарматы: Microsoft Word (.doc), Microsoft Excel (.xls), Microsoft PowerPoint (.ppt), дакументы QuarkXPress, Adobe InDesign, Adobe Framemaker, Adobe Pagemaker, HTML-

старонкі. Многія з гэтых праграм, напрыклад, SDL Trados падтрымліваюць беларускую мову, што дазваляе ствараць базы перакладаў беларускіх тэкстаў практычна на ўсе мовы свету і наадварот. Гэта прадстаўляе інтарэс для мовазнаўцаў, якія займаюцца складаннем і вывучэннем паралельных карпусоў тэкстаў.

Аўтаматызаваны пераклад, пра які шла гаворка вышэй, нельга атаясамліваць з машынным перакладам. Галоўнае яго адрозненне ад машыннага перакладу ў тым, што базу памяці складаюць сегменты з тэкстаў, перакладзеных чалавекам. Прыняцце рашэння, які варыянт перакладу выбраць, ажыццяўляе сам перакладчык, а не праграма. Машынны пераклад можна вызначыць, як дзеянне, якое выконвае камп'ютар, па пераўтварэнню тэкста на адной натуральнай мове ў тэкст на іншай натуральнай мове пры захаванні эквівалентнасці зместу, а таксама вынік такога дзеяння [3, с. 253]. Камп'ютар цалкам самастойна выконвае пераклад, аднак перакладзены тэкст дадаткова стылістычна рэдагуецца чалавекам для зручнасці яго ўспрымання. Тэорыю машыннага перакладу актыўна распрацоўваюць такія айчынныя мовазнаўцы, як А.В Зубаў, І.І. Зубава [1, с. 3], Л.Н. Бяляева [4].

Пералічым плюсы выкарыстання тэхналогіі ТМ: павышэнне прадукцыйнасці працы перакладчыка; эканомія сродкаў як вынік эканоміі часу; адзінства тэрміналогіі і стылю; захаванне ў перакладзеным тэксце фармату зыходнага дакумента; забеспячэнне пераемнасці працоўнага працэсу, што гарантуе сінхроннае ўзаемадзеянне вялікай колькасці перакладчыкаў у межах аднаго праекту.

Авалоданне навыкамі працы са сродкамі аўтаматызаванага перакладу на базе тэхналогіі ТМ патрабуе пэўнага часу. Здаецца мэтазгодным, каб студэнты, будучыя перакладчыкі, атрымлівалі гэтыя навыкі падчас навучання ва ўніверсітэце. Валоданне тэарэтычнымі ведамі па аўтаматызаванаму і машыннаму перакладу і навыкамі працы з праграмамі перакладу, такімі як SDL Trados, Wordfast і іншымі, з'яўляецца абавязковым патрабаваннем да прафесіянальнага перакладчыка і значна павышае канкурэнтаздольнасць маладога спецыяліста на рынку працы.

***Літаратура***


1. Зубов, А.В. Информационные технологии в лингвистике / А.В. Зубов, И.И. Зубова. – М.: Изд. центр «Академия», 2004. – 208 с.

2. SDL Trados TM Server. Technical Whitepaper. – SDL International, 2006. – 16 p.

3. Зубов, А.В. Основы искусственного интеллекта для лингвистов / А.В. Зубов. – М.: Логос, 2007. – 320 с.

4. Беляева, Л.Н. Лингвистические автоматы в современных гуманитарных технологиях / Л.Н. Беляева. – СПб.: ООО «Книжный дом», 2007. – 192 с.



***Т.Т. Лахвіч*** (Мінск, Беларусь), ***А.З. Ножак*** (Чарніўцы, Украіна)


## АДАПТАЦЫЯ ХІМІЧНАЙ ІНФАРМАЦЫІ Ў КАНТЭКСЦЕ МІЖАСОБАСНАЙ, ГРУПАВОЙ І МАСАВАЙ КАМУНІКАЦЫІ (на прыкладзе беларускай і ўкраінскай моў)

Развіццё нацыі і дзяржавы немагчыма без утварэння і дзейнасці камунікатыўных сувязяў, якія ўзнікаюць паміж рознымі кампанентамі соцыуму. Паводле прынцыпу функцыянальнай маштабнасці вылучаюць наступныя тыпы камунікацыі [1, с. 112]:

масавую камунікацыю (МК) (у грамадстве ў цэлым), лімітаваную (у рамках сацыяльных груп тыпу кампаній), лакальную (у групах тыпу прафесійных калектываў), унутрыгрупавую (у малых групах), міжасобасную, або інтэрперсанальную (паміж двума індывідамі) і інтраперсанальную (паміж індывідам і сродкамі перадачы інфармацыі). Варта зазначіць, што паняцце МК часта ўспрымаецца абмежавана і зводзіцца выключна да мас-медыя. Але гістарычна гэты тып камунікацыі бярэ пачатак са старадаўніх часоў, калі першабытны «шаман» – моўнік, «спецыяліст МК» даводзіў сваю думку да іншых членаў соцыуму. Такі рэпрадуктар МК слушна асацыюецца Д. Альшанскім як «*служка рэлігійнага культу, распаўсюднік плётак і чутак, тэлевізар ці іншы СМІ, нарэшце, палітычны лідар. І ўсе яны, псіхалагічна, выконваюць адну функцыю – зразумела, кожны па-свойму. Аднак ва ўсіх гэтых выпадках мы маем справу з кім ці чым, хто або што выклікае, як трэба рабіць, абвяшчае сапраўдныя каштоўнасці, дэманструе ўзорныя паводзіны*» [2, с. 9]. Падрабязна тэорыя МК разгледжана ў У. Рызуна [3]. Да лімітаванай, лакальнай і ўнутрыгрупавой камунікацыі можна аднесці і розныя формы навучальнага працэсу. Вялікую ролю ў ім адыгрываюць таксама інтэр- і інтраперсанальная камунікацыі.

Развіццё моўнага працэсу заўсёды было звязана з рознымі варыянтамі камунікацыі (уключаючы міжкультурную). У «нармальнай» моўнай сітуацыі ў камунікацыйныя працэсы ўключаюцца ўсе сегменты соцыуму незалежна ад ступені масавасці (індывідуумы, групы і г. д.), ступені адукаванасці, спецыяльнасці ці іншых дыферэнцыяльных характарыстык. Абмежаванне моўнай камунікацыі (напрыклад, толькі сферай культуры ці філалогіі) стварае ізаляцыяністкі тып грамадства, дзе мова не можа выконваць свае функцыі асноўнага сродку камунікацыі. Зыходзячы з гэтага, функцыянаванне дзяржаўнай мовы немагчыма без уключэння ў сферу розных тыпаў камунікацыі ўсіх кампанентаў, у тым ліку і вузкапрафесійных і спецыяльных.

На жаль, функцыянаванне прафесійнага беларускамоўнага кампанента камунікацыі было абмежаваным на працягу ўсяго перыяду фармавання і развіцця беларускай нацыі. На першым этапе ў дадзеным сегменце панавалі польская, руская і (у меншай ступені) нямецкая мовы. Савецкі перыяд уключае нязначны прамежак часу (1920-я гг.), калі беларуская мова выкарыстоўвалася для выкладання прыродазнаўчых дысцыплін у ВНУ. Але неўзабаве яе ўжытак быў звужаны да навучання хіміі ў беларускамоўных класах. Па-першае, гэты сегмент складае нязначную частку агульнага камунікацыйнага поля соцыуму. Па-другое, у пэўнай ступені, дадзены працэс ажыццяўляўся штучна (літаральны пераклад рускамоўных падручнікаў і, у лепшым выпадку, абмежаванае выкарыстанне беларускай мовы падчас заняткаў у рускамоўным асяроддзі). Вынікам з'яўляецца недасканаласць прыродазнаўчага, у тым ліку хімічнага, сегмента беларускамоўнай камунікацыі, што знаходзіць адлюстраванне ва ўсіх яе тыпах – ад масавай да інтраперсанальнай. У гэтым кантэксце неабходна правесці параўнальны аналіз фарміравання ўкраінскамоўнай адпатацыі хімічных тэкстаў. Так, калі на першым этапе сітуацыя ў значнай ступені была падобнай да таго, што адбывалася на Беларусі

(фактары дыферэнцыяцыі: больш спрыяльныя ўмовы развіцця ўкраінскамоўнай камунікацыі ў Аўстра-Венгрыі, уключаючы выданне ўкраінскамоўных падручнікаў [4]; а таксама большая колькасць ВНУ на ўкраінскіх тэрыторыях), то ў ХХ ст. выкладанне ў шэрагу ВНУ (у адрозненне ад Беларусі!) праводзілася на ўкраінскай мове. Адначасова, навучанне хіміі ва ўкраінскамоўных класах праводзілася больш нефармальна, чаму спрыялі існаванне рэальнага ўкраінскамоўнага асяродку ў Заходняй Украіне, стварэнне арыгінальных падручнікаў і інш.

Можна вылучыць наступныя асноўныя праблемы нацыянальнамоўнай адаптацыі хімічнай інфармацыі (далей – ***ХІ***): стварэнне паўнацэннай тэрміналагічнай базы ў галіне хіміі; стварэнне слоўнікавай інфраструктуры пабудовы хімічных тэкстаў; стварэнне асяродкавай інфраструктуры ўжытку для ўсіх сегментаў камунікацыі, у якіх ажыццяўляецца перадача *ХІ*.

Вырашэнне першай задачы ў пэўнай ступені з'яўляецца нарматыўным. Тэрміналогія ўключае назвы хімічных рэчываў (хімічная наменклатура), працэсаў, апаратаў і інш. Найбольш прымальным было б стварэнне нацыянальнай камісіі IUPAC, якая павінна ўносіць прапановы па адаптацыі міжнародных правілаў наменклатуры да рэалій моўнага працэсу. Асноўныя пытанні, якія характэрны для Рэспублікі Беларусь: упрадкаванне правіл назваў хімічных элементаў (так прапаноўвалася замена нехарактэрных назваў тыпу *Літый* на *Літ*, выкарыстанне лацінскіх каранёў і інш. [5]), транслітарацыя марфем з англійскага варыянту правіл (перадача цвёрдага-мяккага ***Д-Дз'***, ***Т-Ц'***: *пірыдын-пірыдзін* і *меціл-метыл*; перадача ненаціскных *О* і *Э* ў сэнсаносных тэрміналагічных марфемах: *оксазол-аксазол*; пераход *О-Ё*, *А-Я*: *дыол-дыёл*, *тыафен-тыяфен*). Пытанне толькі на першы погляд з'яўляецца простым: фармальнае выкананне фанетычных правілаў прыводзіць да знікнення семантычнай азначанасці тэрміналагічных марфем (напрыклад, *ол-* – пазначэнне гідраксільнай групы і інш.). У любым выпадку, выбар на карысць семантычнага ці фанетычнага падыходу павінна зрабіць камісія ў складзе спецылістаў у галіне хіміі, філалогіі і камунікацыі. Прыклад Украіны паказвае, што існаванне такой камісіі спрыяла ўнармаванню правілаў выкарыстання хімічнай тэрміналогіі. Так, апошнім часам былі ўведзены новыя назвы хімічных элементаў (*Карбон, Оксіген* і інш.), мова падручнікаў утрымлівае ўнармаваныя назвы хімічных злучэнняў згодна адаптаваных правілаў IUPAC. Варта адзначыць, што праблема транслітарацыі лацінскіх назваў з'яўляецца для беларускай мовы больш складанай у параўнанні з украінскай. Так, для ўкраінскай мовы выкарыстанне суфікса *-діол*, марфем тыпу *-тіазол* і інш. знаходзіцца ў межах рэгулярнай моўнай практыкі. Таксама не паўстае пытанне з выкарыстаннем ненаціскных *О* і *Е*. Варта адзначыць, што ў дадзенай сітуацыі ва ўкраінскай мове зроблены выбар на карысць «цвёрдай» перадачы заходнееўрапейскіх зычных – *пір**и**д**и**н*; *2-**е**т**и**л-1,4-д**и**мет**и**лбензол*.

З адзначанай праблемай цесна звязана праблема марфемнага «афармлення» тэрміналогіі працэсаў. Нягледзячы на тое, што апошняя рэдакцыя правілаў беларускага правапісу абмяжоўвае ўжытак суфікса *-ірава-*, ён да гэтага часу захоўваецца ў значнай

колькасці тэрмінаў. Пры гэтым трэба адзначыць непаслядоўнасць, якая мае месца ў слоўніках: так, тэрмін *гідрыраванне* супярэчыць практыцы ўжывання тэрміна *галагенаванне* ў межах аднаго слоўніка. На нашу думку, мэтазгодна практычна ва ўсіх выпадках пазбягаць выкарыстання суфікса *-ірава-*, як гэта зроблена ў практыцы ўкраінскамоўнай камунікацыі (*ацилювання, алкілування, гідрування* і інш.). Яшчэ адным прыкладам з'яўляецца адаптацыя тэрміналагічнай ідыёмы *scissoring* у дачыненні да інфрачырвонай спектраскапіі. Ужыванне ідыёмы ва ўкраінскамоўнай (*ножичні коливання*) і рускамоўнай (*ножничные колебания*) адаптацыі з'яўляецца непрымальным для беларускай мовы па прычыне нехарактэрнай формы азначэння і дыялектнасці (*коливання*) ці адсутнасці (*колебание*) асноўнай лексемы. Прапанаваны намі тэрмін *нажніцападобныя хістанні* змяшчае адаптаванае да беларускай мовы азначэнне і семантычна больш прымальную (у параўнанні з *ваганні*) лексему.

Стварэнне слоўнікавай інфраструктуры пабудовы хімічных тэкстаў уключае ўжыванне адзінак рэгулярнай вербальнай камунікацыі ў дачыненні да хімічных аб'ектаў. Так, англійскі выраз «*reaction proceeds*» звычайна суадносіцца з украінскім «*реакція проходить*» і рускім «*реакция протекает*». Выбар адпаведнай тэрміналагічнай ідыёмы ў беларускай мове адбываецца пад уплывам рэгулярнай моўнай камунікацыі ва ўсіх яе тыпах. Гэта датычыцца трэцяй праблемы: стварэнне асяродкавай моўнай інфраструктуры. На вялікі жаль, у адрозненне ад суседняй Украіны, дзе існаванне адзінай дзяржаўнай мовы патрабуе яе выкарыстання ва ўсіх сферах ужытку, у Рэспубліцы Беларусь беларуская мова выкарыстоўваецца вельмі абмежавана для перадачы *ХІ*, і, як правіла, у штучным варыянце. Адсюль і «ляпы» ў нешматлікіх прыкладах хімічных фрагментаў тэксту ў мас-медыя (напрыклад, *пабудова* замест *будова* атама), выкарыстанне калькаваных з рускай мовы тэрміналагічных ідыём і інш. Вырашэнне гэтай праблемы немагчыма без увядзення беларускай мовы ў практыку перадачы *ХІ* ў межах усіх сегментаў і тыпаў камунікацыі.

***Літаратура***


1. Конецкая, В.П. Социология коммуникаций / В.П. Конецкая. – М.: МУБиУ, 1997. – 304 с.
2. Ольшанский, Д.В. Психология масс / Д.В. Ольшанский. – СПб., 2001. – С. 9.
3. Різун, В.В. Теорія масової комунікації / В.В. Різун. – К.: ВЦ «Просвіта», 2008. – 260 с.
4. Цегельський, Р. Основи хемії / Після підручника проф. Конрада Кравса приладив Роман Цегельський. – Чернівці, 1910. – 152 с.
5. Міляшкевіч, Я.Г. Этапы станаўлення беларускай хімічнай тэрміналогіі / Я.Г. Міляшкевіч. // Хімія: праблемы выкладання. – 1996. – Вып. 5. – С. 1–22.


***Н.П. Лобань*** (Мінск, Беларусь)

## ЛЕКСІКА З ФАРМАЛЬНА ВЫРАЖАНЫМ КАНАТАЦЫЙНЫМ ЗНАЧЭННЕМ (прыметнікі і дзеясловы з афіксамі эмацыянальнай ацэнкі)

Да лексікі з фармальна выражаным канатацыйным значэннем адносяцца словы, канатацыйная значнасць якіх акрэсліваецца пэўнымі сродкамі афіксацыі – суфіксамі і прыстаўкамі. Таму гэтая з'ява не столькі лексічная, колькі марфалагічна аформленая, бо

канатацыйнае значэнне моўнай адзінкі вынікае непасрэдна з самой структуры слова, яе складнікаў.

Асноўным і найбольш прадуктыўным матэрыяльным сродкам перадачы канатацыі слова выступаюць суфіксы, у тым ліку суфіксы прыметнікаў. Як сведчаць назіранні, найбольш ужывальнымі пры характарыстыцы асобы з’яўляюцца прыметнікі з суфіксамі **-еньк-(-эньк-), -аньк-, -ютк-, -юсеньк-, -ічк-, -енн-, -ізн-, -ізазн-, -эзн-, -ізарн-, -юшч-** і інш.

Вылучаюцца дзве асноўныя лексіка-семантычныя групы прыметнікаў, якія абазначаюць: ‘фізічныя якасці чалавека’: маленькі, тоўсценькі, губаценькі, нядошленькі, кірпаценькі, кругленькі, дробненькі, маладзенькі, старэнькі, здаровенькі, шчупленькі, тоненькі, нізенькі, сухенькі, слабенькі, малюсенькі, невялічкі, здаравенны, вялізны, вялізазны, велізарны, высачэзны, худзюшчы; ‘унутраныя, псіхічныя і разумовыя якасці чалавека’: *ціхенькі, лагодненькі, акуратненькі, чысценькі, шчаслівенькі, разумненькі, вясёленькі, жывенькі, хітранькі* і інш.

Прыметнікі гэтых груп адначасова абазначаюць якасць прадмета (асобы) і даюць яму эмацыянальную (станоўчую або адмоўную) ацэнку. У кантэксце часта спалучаюцца з суфіксальна-канатацыйнымі назоўнікамі. Гэта спалучальнасць звычайна характарызуецца наступным чынам: а) азначэнне і азначаемае маюць форму эмацыянальнай ацэнкі, у выніку чаго ўзнікае так званая эмацыянальная сугучнасць [3]: *чорненькая шчабятушка* (Я. Брыль. Галя), *тоўсценькі чалавечак* (М. Лужанін. Гасцінны вырай), *сухенькая жанчынка* (А. Жук. Асеннія халады), *маленькі мужычок* (В. Карамазаў. Дома), *старэнькая, сухенькая, невялічкая бабулька* (А. Кудравец. Авохці мне!). Дзякуючы эмацыянальнаму дапасаванню абвастраецца і ўзмацняецца канатацыйная афарбоўка, закладзеная ў назоўніку, ствараецца больш яркая экспрэсія словазлучэння; б) эмацыянальна-ацэначную форму мае толькі азначэнне, а азначаемае – слова без суфікса эмацыянальнай ацэнкі: *здаравенны мужчына* (А. Чарнышэвіч. Музыка), *старэнькая мама* (Ф. Янкоўскі. Развітанне), *маладзенькая дзяўчына* (А. Кудравец. Песня), *шыкозны кавалер* (В. Вітка. Баравіцкія музыкі). З прыкладаў відаць, што прыметнік выступае тут у ролі эмацыянальна «няўзгодненага» з назоўнікам азначэння.

Магчымы і трэці выпадак ужывання, калі азначэнне, якое не мае суфікса эмацыянальнай ацэнкі, але па сваёй семантыцы ўспрымаецца як ацэначнае, дапасуецца да суфіксальна-канатацыйнага азначаемага: *прыгожы матросік* (Я. Сіпакоў. Знаёмыя жнівеньскія сны), *моцны чалавечына* (М. Лужанін. Палессе перад будучыняй), *дужы хлапчына* (Я. Скрыган. Як спявалі песню), *непрыкметны чалавечак* (У. Караткевіч. Карней – мышыная смерць), *разбрыджаная мяшчаначка* (Я. Брыль. Жменя сонечных промняў). Радзей у ролі азначэння выступае наогул неацэначнае слова: *сівы папок* (Я. Брыль. У іншай гісторыі), *малады зладзяйчук* (Я. Брыль. Абы на здароўе), *стары кулачына* (Я. Брыль. Праведнікі і зладзеі).

Канатацыйныя значэнні суфіксаў эмацыянальнай ацэнкі (і памяншальных, і павелічальных) строгай класіфікацыі не паддаюцца. Тлумачыцца гэта тым, што любое

суфіксальнае ўтварэнне памяншальна- або павелічальна-эмацыянальнага характару пад уздзеяннем шэрагу фактараў (кантэксту, інтанацыі, мэты выказвання, настрою суб'екта) можа набываць цэлы калейдаскоп канатацыйных значэнняў. У залежнасці ад кантэксту формы з адным і тым жа суфіксам могуць выражаць розныя, часта супрацьлеглыя пачуцці і эмоцыі і, наадварот, розныя суфіксы могуць надаваць форме адно і тое самае ці вельмі блізкае канатацыйнае адценне. У лінгвістычнай літаратуры, прысвечанай вывучэнню суфіксаў эмацыянальнай ацэнкі, звычайна называюцца тры асноўныя фактары, якія дапамагаюць вызначыць іх значэнне: лексічнае значэнне базавага слова з яго дадатковымі адценнямі, суфікс і кантэкст.

У параўнанні з суфіксамі выразна-характарыстычныя функцыі прыставак даволі абмежаваныя. Прыстаўка вядома як афіксальная марфема, якая мае пераважна словаўтваральны характар. Гэтым, відаць, і тлумачыцца яе меншая экспрэсіўнасць у параўнанні з той, якую можа мець суфікс. У розных часцін мовы ступень актыўнасці слова- і формаўтваральных значэнняў прыставак неаднолькавая. Пры ўтварэнні назоўнікаў, прыметнікаў і прыслоўяў яны выконваюць у асноўным словаўтваральную функцыю. Пры ўтварэнні ж дзеясловаў прыстаўцы адводзіцца галоўная роля як пры стварэнні новых слоў, формаў слоў, так і пры выражэнні дадатковых эмацыянальна-сэнсавых значэнняў. З ліку найбольш прадуктыўных па сваіх структурных і функцыянальных паказчыках вылучаюцца дзеяслоўныя прыстаўкі: **пана-** са значэннем 'ажыццявіць дзеянне ў значнай меры': *Вера Іванаўна <u>паназапісвала</u> яму розных праверак, <u>панавыпісвала</u> паперак на аналізы…*(Я. Сіпакоў. Белыя сцены); **папа-** са значэннем 'працягласці або шматкратнасці, інтэнсіўнасці дзеяння': *Колькі <u>папахадзіў</u> такімі пуцявінамі не аднаго бабінага лета!* (Я. Сіпакоў. Белыя сцены), *Прошла лета прыязджалі з дзецьмі – цэлы вывадак… От Уляна <u>папакруцілася!</u>* (П. Місько. Васіліна); **да-** са значэннем 'дасягнуць непрыемнага выніку шляхам інтэнсіўнага выканання дзеяння': *<u>Даляжаўся</u>… <u>Далячыўся</u>… Людзі палохаюцца ўжо аднаго майго выгляду* (Я. Сіпакоў. Белыя сцены); **на-** са значэннем 'дасягнуць поўнай або частковай завершанасці дзеяння': *Дома, калі жыць будзем, за год <u>нанядзелькуемся</u>* (Ф. Янкоўскі. Нядзелькаваць); **раз-(рас-)** са значэннем 'дасягнуць вялікай інтэнсіўнасці ў ажыццяўленні дзеяння': *Схапіла Аўдоцця шчасце… <u>Развалачыўся</u>, <u>расп'янстваваўся</u>...* (А. Чарнышэвіч. Музыка) і інш.

На думку некаторых вучоных, эмацыянальнасць, экспрэсіўнасць, ацэначнасць і вобразнасць найбольш ярка і поўна праяўляецца менавіта ў афіксальных утварэннях, бо яны з'яўляюцца невычэрпнай крыніцай розных канатацыйных значэнняў і выступаюць у ролі моцнага выразна-выяўленчага сродку пры перадачы разнастайных ацэнак і нават сілы пачуццяў, якія суправаджаюць гэтыя ацэнкі [1, с. 2].

***Літаратура***

1. Анисимова, Т.В. Стилистические возможности суффиксальных имен существительных: (на материале газетно-публицистического стиля): автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.02.01 / Т.В. Анисимова. – Саратов, 1982. – 15 с.

2. Багамолава, А.М. Прыметнікі з суфіксамі суб'ектыўнай ацэнкі і стылістычнай мадыфікацыі ў беларускіх народных песнях: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.02 / А.М. Багамолава. – Мінск, 1995. – 21 с.
3. Виноградов, В.В. Русский язык: (грамматическое учение о слове) / В.В. Виноградов. – М., 1986. – 639 с.

***Лю Яньчунь*** (Шэньян, Китай)

## КОНЦЕПТ «ГРОМ» В РУССКОЙ И КИТАЙСКОЙ ЯЗЫКОВЫХ КАРТИНАХ МИРА

Картина мира является образом мира, складывающимся в сознании и голове человека в процессе его познавательной деятельности. Она опосредована тем культурным языком, на котором говорит данная группа. Ю.Д. Апресян называл языковую картину мира наивной картиной, подчеркивая, что человек в процессе познавательной деятельности не избавляется от ошибок, от искажения мира, и поэтому языковая картина мира отличается от научной. Научная картина мира – это система представлений человека о свойствах и закономерностях действительности, она построена в результате обобщения и синтеза научных понятий и принципов.

Т.В. Матвеева отмечает, что картина мира – это целостная совокупность выраженных в языке понятий и представлений о мире, которая формируется в зависимости от экономических, политических, культурных факторов [3, с. 140].

По В.А. Масловой: «Понятие картины мира (в том чесле и языковой) строится на изучении представлений человека о мире. Если мир – это человек и среда в их взаимодействии, то картина мира – результат переработки информации о среде и человеке» [2, с. 64]. Языковая картина мира формирует тип отношения человека к миру. Она определяет нормы поведения человека и его отношение к миру. Каждый естественный язык отражает определенный способ восприятия и организации («концептуализации») мира. Выражаемые в нем значения складываются в некую единую систему взглядов, своего рода коллективную философию, которая навязывается в качестве обязательной всем носителям языка [2, с. 65].

Каждый народ, в том числе китайский и русский, по-своему видит и воспринимает мир. Концепт «гром» представлен в русской и китайской языковых картинах мира следующим образом.

Гром является природным явлением, сопровождающим молнию во время грозы. Много людей боятся грома. Так как это явление приносит человеку помимо сильного шума, сверкания молнии, еще и страх к смерти. Убить громом – наказание небесное. Это часто встречается в клятвах людей. Об этом в русском языке имеются такие фразеологизмы, как *громом расшиби, убей меня <на месте> гром, убей меня громом, пусть громом хлопнет, гром небесный, грянет (грянул) гром.* В китайском языке таких фразеологизмов мало. Одним из них является *天打雷劈 (букв.* 'пусть небо громом хлопнет'*, в знач.* 'клятвенное заверение в чем-либо; проклятье кому-либо'*).* Например, *我要是撒▪， 就天打雷劈 Пусть меня громом хлопнет, если лгу.*

В древние времена китайцы считали, что гром – это гнев небожителей. Поэтому в китайском языке есть фразеологизмы с компонентом 雷 гром, обозначающие гнев

человека: *大▪雷霆 метать громы и молнии; впадать в ярость; прийти в бешенство, 雷霆之怒 гнев как гром; гнев до предела; сильный гнев, 咆哮如雷 оглушительно реветь; громоподобный рёв, 暴跳如雷 метать громы и молнии, выйти из себя, взбеситься со злости; громоподобный, взбешенный, неистовый, 烈火▪雷 сильное пламя и раскаты грома; вспыльчивый, темпераментный, страшный, грозный.* И в русском языке нам удалось найти такие фразеологические единицы, например: *метать громы и молнии, громы и молнии <летят, разразились>.*

Как в китайском, так и в русском языках существуют фразеологизмы о неожиданности, удивлении, которые имеют в своем составе компонент 雷 гром. Например, в кит. яз.: *▪雷失箸 при раскате грома выронить палочки для еды* (о крайней степени растерянности, удивления)*, 平地一声雷 как раскат (весеннего) грома; как снег на голову; крутой поворот событий, 晴天霹▪ как гром среди ясного неба; совершенно неожиданно, нежданно-негаданно; как снег на голову* и др.; в рус. яз: *как громом оглушить, как громом (гром) поразило, как удар грома, как громом хлопнуло, <как> гром среди ясного неба.*

Китайцы в своем языке связывают большую скорость с громом и молнией, что не характерно для русского языка. Примерами могут служить *疾如雷▪ быстрый как гром и молния, 疾▪迅雷 как быстрый ветер и гром; быстро и бурно, 迅雷不及掩耳 не успеть закрыть уши при ударе грома; очень быстро, 雷▪▪行 решительно и немедленно проводить в жизнь; принять к немедленному и неуклонному исполнению; быстрый и решительный.*

Гром шумный. С этим связаны китайские фразеологизмы *聚蚊成雷 писк множества комаров бывает равносилен грому; даже мелкие, но частые сплетни и кривотолки могут легко ввести в заблуждение, ▪声雷▪ радостные возгласы и гром аплодисментов; бурная овация, 如雷▪耳 как гром в ушах; о громкой славе, большой известности; много наслышал; слишком известное имя, чтобы его не знать, 鼾声如雷 храпеть как гремит гром, 瓦釜雷▪ глиняный котёл гремит, как гром; ничтожный человек на большом посту: пустая бочка громче гремит.* В русском языке также есть подобные выражения, но не в форме фразеологизма, например: *Гром идущих танков. Раздался шум и гром от бегущих по лестнице людей. Гром аплодисментов. Громовой голос. Громовой хохот. Громовой взрыв* и т. д.

И так, концепт «гром» в русской и китайской языковых картинах мира представляется как общим, так и различным. Это естественное и понятное. Как отметил О.А. Леонтович: «В настоящее время общепринятым является мнение о том, что как в культуре, так и в языке каждого народа присутствует универсальное (общечеловеческое) и национально-специфическое. Универсальные значения, одинаково осмысляемые всеми людьми в мире или представителями определенных цивилизационных типов, создают почву для МКК (межкультурной коммуникации), без

них межкультурное взаимопонимание было бы в принципе невозможно. В то же время в любой культуре имеются присущие только ей культурные значения, закрепленные в языке, моральных нормах, убеждениях, особенностях поведения и т. п.» [1, с. 74].

***Литература***

1. Леонтович, О.А. Введение в межкультурную коммуникацию: учеб. пособие. / О.А. Леонтович. – М.: Гнозис, 2007. – 368 с.

2. Маслова, В.А. Лингвокультурология: учеб. пособие для студ. высш. учеб. заведений / В.А. Маслова. – М.: Изд. центр «Академия», 2001. – 208 с.

3. Матвеева, Т.В. Полный словарь лингвистических терминов / Т.В. Матвеева. – Ростов н/Д: Феникс, 2010. – 562 с.

***А.У. Лянкевіч*** (Мінск, Беларусь)

## СТАЎЛЕННЕ ДА БІЛІНГВІЗМУ Ў ІНТЭРНЭТ-ДЫСКУРСЕ (на матэрыяле дыскурс-аналізу каментарыяў на інтэрнэт-форумах)[1]

1. **Прадмет даследавання.** Пад стаўленнем да мовы мы разумеем «адчуванні людзей у адносінах да іх уласнай мовы або мовы іншых людзей» [4, с. 215]. Па меркаванні экспертаў ЮНЭСКА, стаўленне ў грамадстве да мовы з'яўляецца адным з дзевяці фактараў, якія ўплываюць на яе жыццёвасць (linguistic vitality) [6]. Для даследавання стаўлення ў лінгвістыцы выкарыстоўваецца шэраг прамых (апытанне, інтэрв'ю) і непрамых методык (метад уключанага назірання і эксперыментальныя методыкі), а таксама метады аналізу дыскурсу. У дакладзе прадстаўлены некаторыя вынікі дыскурс-аналізу выказванняў на дыскусійных форумах.

2. **Методыка**. Дыскурс-аналіз разглядае адносіны паміж мовай і сацыяльна-культурным кантэкстам, у якім гэтая мова выкарыстоўваецца. Ён вывучае, ***што*** людзі «маюць на ўвазе пад сваімі выказваннямі, ***як*** яны разумеюць іншых і якім чынам мова прадстаўляе розныя погляды на свет і розныя яго разуменні» [7, с. 19–20]. Асноўныя падыходы да дыскурс-аналізу – гэта тэорыя дыскурсу Э. Лакло і Ш. Муф, крытычны дыскурс-аналіз і дыскурсіўная псіхалогія. З тэорыі Лакло і Муф мы запазычваем паняцце міфа, пад якім разумеем «прастору рэпрэзентацыі, якая не захоўвае ніякіх адносін пастаянства з дамінуючай «структурнай аб'ектыўнасцю», (...) гэта прынцып прачытання дадзенай сітуацыі» [3, с. 78]. У сувязі з гэтым адна з асноўных мэт дыскурс-аналізу – вызначыць і прааналізаваць міфы ў грамадстве як пэўную аб'ектыўную рэальнасць, якая маецца на ўвазе ў размове і дзеяннях.

3. **Задача**. Разгледзім білінгвізм як міф паводле тэорыі Лакло і Муф. У такім выпадку цэнтральнае пытанне даследавання будзе заключацца ў тым, што ўключаецца ў змест гэтага міфа (як зменлівага знаку) у барацьбе за тое, каб іх асобае разуменне білінгвізму «перамагло».

4. **Матэрыял**. Адной з найважнейшых асаблівасцей інтэрнэт-прасторы з'яўляецца яе дэмакратычнасць, а інтэрнэт-камунікацыя разглядаецца даследчыкамі як «спосаб

[1] Даклад падрыхтаваны ў рамках навукова-даследчага праекту «Трасянка ў Беларусі – «змешаны варыянт» як прадукт беларуска-рускага моўнага кантакту», які фінансуецца фондам «Фольксваген» (грант № II/83 371, 14 красавіка 2008).

удзелу ў грамадзянскім дыскурсе» [5, с. 7–8]. У апошнія гады беларускі сектар інтэрнэту, або ByNet, стаў адной з пляцовак для абмеркавання грамадскіх праблем; адначасова гэта «лакмусавая паперка... той моўнай сітуацыі, што мае месца ў сучаснай Беларусі» [2, с. 6].

Матэрыялам для аналізу паслужылі 269 каментарыяў на інтэрнэт-форуме газеты «Компьютерные вести он-лайн», які функцыянаваў у перыяд 2003–2008 гг. і быў прысвечаны праблеме, якая акрэсліваецца ў назве тэмы форума: *«Як дабіцца беларускамоўнай вэрсіі на афіцыйным сайце Менска»* (http://www.kv.by/forum/forum1000005192.htm).[1]

5. **Вынікі**. Дыскусія на форуме пачалася з наступнага паведамлення:

*Жыхарка сталіцы: «Спрабавала напомніць стваральнікам сайту аб неабходнасці беларускай вэрсіі на сталічнам афіцыйным сайце, але ні адно з 3 (!) паведамленій у гасцёўні не з'явіліся. Цензура редактара сайта не прапускае. Прозьба стварыць вэрсію на дзяржаўнай (!) мове не праходіць праз адміністрацыю сайта. Праверце самі!»* [2] (21.06.2003, 01:00).

Удзельнікі дыскусіі выражалі свае меркаванні па акрэсленай тэме або згаджаючыся з аўтарам (выказваліся на карысць стварэння беларускамоўнай версіі), або спрачаючыся з прыхільнікамі гэтай ідэі.

Адно з цэнтральных паняццяў тэорыі Лакло і Муф – «барацьба дыскурсаў»: розныя дыскурсы змагаюцца за права інтэрпрэтаваць і надзяляць сэнсам пэўны міф. Так, пад білінгвізмам, або двухмоўем, разумеюць «папераменнае карыстанне дзвюма мовамі» [1, с. 174]. Будзем лічыць гэтае азначэнне білінгвізму навуковым дыскурсам.

Аднак аналіз выказванняў на дыскусійных форумах засведчыў, што пэўная частка інтэрнэт-карыстальнікаў разумее сутнасць двухмоўя як магчымасць валодаць і карыстацца толькі адной з дзвюх дзяржаўных у краіне моў – назавём гэта масавым, або народным, дыскурсам[3]:

*Romantik: «Нигде не прописано в законах о том, что документы должны быть сразу на двух языках»* (4.07.2003, 14:25).

*Smile: «Если официальных языка 2, то сайт должен быть либо на белорусском, либо на русском языке. (...) Может прикажете вообще всю документацию дублировать на 2-х языках?!»* (6.07.2003, 15:47).

Даволі распаўсюджаным выявілася меркаванне, згодна з якім адсутнасць беларускамоўнай версіі сайта не з'яўляецца абмежаваннем правоў беларускамоўных грамадзян, а жаданне «дабіцца» беларускамоўнай версіі ацэньваецца як прыгнёт іншых

---

[1] Паколькі дыскурс-аналіз з'яўляецца не колькаснай, а якаснай (квалітатыўнай) методыкай даследавання, то мы не ставілі задачу прааналізаваць статыстычныя дадзеныя.

[2] Усе прыклады каментарыяў прыводзяцца на мове арыгіналу і з захаваннем асаблівасцей правапісу і граматыкі аўтараў.

[3] Параўн.: народная лінгвістыка.

моў (хаця ніхто з дыскутантаў не ставіў пад сумнеў патрэбу існавання рускамоўнай версіі старонкі):

*Romantik: Ни в коей мере не спорю с тем, что сайт должен быть и на белорусском, но его отсутсвие никак не ущемляет ваших прав, т.к. вы знаете и русский. (...)У Вас никто права пользования своим языком не отнимает, в отличии от вас, от тех которые пытаются всеми способами отнять у других возможность использовать иной язык отличный от белорусского».* (4.07.2003, 14:25).

Некаторыя ўдзельнікі форуму прыводзілі паралелі з іншых двухмоўных сітуацый у свеце (Украіна, Канада, Філіпіны, Латвія, Малдова), але і пры выкарыстанні паралеляў дыскутанты апераравалі або навуковым, або масавым дыскурсам (калі не валодаючы ведамі аб пэўных моўных сітуацыях у дастатковым аб'ёме, выкарыстоўвалі толькі тую інфармацыю, якая служыла на карысць іх інтэрпрэтацыі міфа):

*Ынг: «В Канаде, где 2 государственных языка (...), официальные сайты поддерживают оба. Пример – сайт правительства Канады (...). Иначе это выглядело бы как отдание предпочтения одному из языков при том, что оба объявлены равноправными»* (27.06.2003, 20:40).

*Клава: «В Канаде такая же свора идет насчет языков, даже хуже чем у нас. Можно просто на хамство нарваться если в ресторане на английском вместо французского или наоборот заговоришь»* (27.06.2003, 21:44).

6. **Высновы**. Аналіз дыскусіі на інтэрнэт-форуме засведчыў пэўныя праблемы ў масавым разуменні паняцця білінгвізму (перавага «народнага» дыскурсу над навуковым), якія можна, прынамсі часткова, вырашыць шляхам паляпшэння прававой культуры грамадства (пашырэння звестак са сферы прававога статусу моў у Беларусі і ў іншых двух- і шматмоўных краінах), што ў сваю чаргу можа паўплываць на змену стаўлення да моў. На нашу думку, пры ўсведамленні шырокімі слаямі грамадства сутнасці дзяржаўнага білінгвізму і пры выкананні ўсімі грамадзянамі краіны Закона аб мовах можа палепшыцца стаўленне да беларускай мовы як важнага кампанента камунікатыўнай прасторы.

***Літаратура***


1. Беларуская мова: энцыклапедыя / пад рэд. А.Я. Міхневіча. – Мінск.: БелЭн, 1994. – 655 с.

2. Важнік, С.А. Тры стыхіі Байнэта, або Праява нацыянальнай моўнай самаідэнтыфікацыі / С.А. Важнік – Мінск: Права і эканоміка, 2007. – 54 с.

3. Йоргенсен, М.В. Дискурс-анализ. Теория и метод / М.В. Йоргенсен, Л. Филипс. – Харьков: Гуманитарный центр, 2008. – 352 с.

4. Crystal, D. An encyclopedic dictionary of language and languages / D. Crystal. – Cambridge, MA: Blackwell, 1992. – 428 p.

5. Holt, R. Dialogue on the Internet: language, civic identity, and computer-mediated communication / R. Holt. – Westport: Greenwood Publishing Group, 2004. – 256 p.

6. Language Vitality and Endangerment / Document submitted to the International Expert Meeting on UNESCO Program Safeguarding of Endangered Languages. – Paris, 10–12 March 2003. – 27 p.

7. Paltridge, B. Discourse analysis. An introduction / B. Paltridge. – London: Continuum, 2006. – 244 p.

***Л.М. Мазуркевіч*** (Мазыр, Беларусь)

**ФУНКЦЫЯНАВАННЕ ФІТОНІМА *БЯДРЫНЕЦ* У ГАВОРКАХ ГОМЕЛЬШЧЫНЫ**

Народная медыцына Беларусі характарызуецца пэўнай устойлівасцю ў захаванні сродкаў і спосабаў лячэння, адметнае месца сярод якіх займае фітатэрапія, паколькі ў пошуках магчымых варыянтаў для лячэння хвароб чалавек найперш звяртаўся да прыроды. На працягу тысячагоддзяў людзьмі была выяўлена вялікая колькасць разнастайных лясных, палявых, балотных, пакаёвых і інш. раслін, што атрымалі шырокае прымяненне ў медыцынскай практыцы.

У ліку многіх апрабіраваных лекавых сродкаў адметнае месца займае *бядрынец* (*Pimpinella saxifrage L.*) – шматгадовая травяністая расліна з прамастаячым сцяблом і белымі, радзей ружовымі, кветкамі [4, с. 123]. Фанетычна мадыфікаванае найменне *бедрэнец* дастаткова актыўна функцыянуе ў гаворках Гомельшчыны: *Бедрэнец хворобы жывота лечыць (Забалоцце, Мазырскі р-н)*. Калі ўлічыць той факт, што дадзеная расліна – даўні эфектыўны лекавы сродак, які мае шырокі спектр уздзеяння на чалавечы арганізм, то натуральнай з'яўляецца сувязь праслав. **bedrъпьсь* з коранем **bedr-* 'сіла, здароўе, бадзёрасць' [5, т. 1, с. 437].

З некаторымі фанетычнымі і структурнымі адметнасцямі разгледжаны фітонім паўсюдна выкарыстоўваецца ў народна-дыялектнай мове беларусаў [2, с. 141].

У асобных гаворках даследуемага рэгіёна сінонімам да назоўніка *бедрэнец* выступае слова *воронец*: *Воронец вугоняе голоўные болі (Пагост, Жыткавіцкі р-н),* якое вядома таксама гаворкам Гродзеншчыны і Міншчыны [2, с. 141; 3, т. 1, с. 54]. Паводле паходжання слова, верагодна, можна звязаць са словам *вараны* 'чорнага колеру' [5, т. 2, с. 58], паколькі корань расліны, які звычайна выкарыстоўваецца ў выглядзе настою, мае чорны колер.

Названая лясная расліна адносіцца да сямейства парасонавых – *Umbelliferae*, прадстаўнікі якога маюць не толькі адпаведны знешні вгляд, але і з'яўляюцца даўнімі паводле часу асваення чалавекам. Значную групу ў гэтым сямействе складаюць такія культурныя расліны, як морква, кроп, пятрушка, аніс, кмен. Наяўнасць у сямействе культурных раслін звычайна знаходзіць актыўнае адлюстраванне ў наменклатуры дзікарослых раслін таго ж сямейства. Назвы культурных раслін служаць своеасаблівай крыніцай для такіх найменняў па прынцыпе кантрасту: *морква – дзікая морква*, *маркоўнік; пятрушка – дзікая пятрушка* і г. д. [1, с. 58], што абумовіла выкарыстанне ў гаворках Гомельшчыны і іншых найменняў акрэсленай расліны тыпу *болотні кроп*, *моркоўнік*: *Бало, корэнь кропу болотнего дзеду настойвала на зіму (Сямурадцы, Жыткавіцкі р-н)*; *У моркоўніку толькі корэнь употрэбляецца (Дарашэвічы, Петрыкаўскі р-н)*. Дарэчы, найменне *маркоўнік* сведчыцца і заходнепалескімі гаворкамі [2, с. 141].

Варта адзначыць і той факт, што ўжо сухі бядрынец ці яго корань можна пазнаць па вострым паху, які раздражняе органы нюху, і гаркавата-вострым смаку. Магчыма, гэта таксама нейкім чынам паўплывала на з'яўленне адзначанай вышэй двухкампанентнай назвы *болотні кроп*.

Актыўнае выкарыстанне ў лекавай практыцы дадзенай расліны абумовіла наяўнасць і функцыянаванне разнастайных рэгіянальных назваў. Так, у беларускіх народных гаворках выкарыстоўваюцца і такія намінатыўныя адзінкі, як *пятрушка*, *пастарнак*, *перац*, *аньыш* і інш. [2, с. 141].

Разгледжаны матэрыял сведчыць, што ў народна-дыялектнай мове беларусаў традыцыйна фіксуецца значная колькасць намінатыўных сродкаў для абазначэння пэўнай расліны, якія, як правіла, маюць даволі празрыстую семантыку і развітую варыянтнасць, што найперш абумоўлена асацыятыўнасцю мыслення і імкненнем чалавека да дэталізацыі пры найменні батанічных адзінак.

***Літаратура***


1. Меркулова, В.А. Очерки по русской народной номенклатуре растений (Травы. Грибы. Ягоды) / В.А. Меркулова. – М.: Наука, 1967. – С. 58.
2. Раслінны свет: тэматычны слоўнік / склад. В.Д. Астрэйка [і інш.]; навук. рэд. Л.П. Кунцэвіч, А.А. Крывіцкі. – Мінск: Беларус. навука, 2001. – С. 141.
3. Слоўнік гаворак цэнтральных раёнаў Беларусі: у 2 т. / пад рэд. Е.С. Мяцельскай. – Мінск: Універсітэцкае, 1990. – Т. 1.
4. Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы / пад рэд. М.Р. Судніка, М.Н. Крыўко. – 2-е выд. – Мінск: БелЭн, 1999. – 784 с.
5. Этымалагічны слоўнік беларускай мовы: у 13 т. / рэдкал. В.У. Мартынаў, Г.А. Цыхун [і інш.]. – Мінск: Навука і тэхніка, Беларус. навука, 1978–2010. – Т. 1–2.



***В.А. Мандзік*** (Мінск, Беларусь)


## СЦЭНІЧНАЕ МАЎЛЕННЕ Ў НАЦЫЯНАЛЬНЫМ ТЭАТРЫ

Найбольш значны ўплыў на маўленчую культуру сучаснага грамадства побач з ЭСМІ аказвае тэатр. Роля тэатральнага мастацтва ў выпрацоўцы і захаванні вымаўленчых нормаў сапраўды значная: «Тэатр, дзякуючы таму, што вусная форма літаратурнай мовы з’яўляецца адным з важнейшых элементаў акцёрскай ігры, зацікаўлен у выпрацоўцы строгіх арфаэпічных норм і адыгрывае ў гэтым сэнсе велізарнае значэнне» [1, с. 167]. Нацыянальны беларускі тэатр нараджаецца ў пачатку ХХ ст. намаганнямі І. Буйніцкага, аднак невялікія калектывы без сталага месца знаходжання не маглі істотна паўплываць на фарміраванне літаратурнага вымаўлення. Значна больш спрыяльнымі ў гэтым сэнсе аказаліся 20-я гады мінулага стагоддзя. У 1920 г. адкрыўся Беларускі дзяржаўны тэатр у Мінску, а ў 1926 – Другі беларускі тэатр у Віцебску.

Сёння Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы справядліва лічыцца эталонам моўнай культуры. Павага да чысціні беларускай мовы гаворыць пра «адносіны акцёра да сваёй прафесіі, пра разуменне ўплыву, які аказвае сцэнічная мова на маўленчую культуру народа» [2, с. 6].

У адносінах да гукавога ладу мовы паняцце правільнасці з’яўляецца менш дакладным. Нават сярод прафесійных носьбітаў беларускай мовы цяжка знайсці чалавека, маўленне якога цалкам адпавядала б усім арфаэпічным нормам. Літаратурнае маўленне «не можа быць цалкам аднастайным, аднолькавым ва ўсіх

носьбітаў мовы, але ў той ці іншай ступені дазваляе індывідуальную варыятыўнасць, спецыфічныя гукавыя рэалізацыі рознага паходжання» [3, с. 107]. Арфаэпічныя нормы ўвесь час знаходзяцца пад уплывам спантаннага гутарковага маўлення. Таму правільнае літаратурнае маўленне павінна ўсвядомлена кантраляваецца самім прамоўцам, што патрабуе ўвагі і інтэлектуальных намаганняў [4, с. 199]. Будучым акцёрам выкладаюць дысцыпліну «Сцэнічная мова», якая прадугледжвае вывучэнне арфаэпічных норм і практычныя заняткі па выпраўленні вымаўленчых хібаў [5–6].

Прааналізуем маўленне артыстаў у спектаклі «Офіс» (рэжысёр-пастаноўшчык К. Аверкава). У пастаноўцы задзейнічаны пяцёра акцёраў малодшага пакалення (гады нараджэння з 1978 па 1987). Запіс спектакля на электронны носьбіт быў зроблены 29 чэрвеня 2011 г. (працягласць паўтары гадзіны). Аналіз фанетычнага матэрыялу паказаў, што акцёры пераважна захоўваюць нормы літаратурнага вымаўлення зычных і галосных гукаў, у тым ліку і тых, якія фарміруюць характэрныя фанетычныя рысы беларускай мовы. Гэта фрыкатыўны характар звонкага [г], цвёрдыя гукі [р], [ж], [ш], [ч], вымаўленне як аднаго гука афрыкат [дж], [дз], [дз’], перадача падаўжэння зычных у інтэрвакальным становішчы, акаючае вымаўленне ненаціскных галосных і інш. Рэгулярны характар носяць наступныя фанетычныя з’явы.

Асіміляцыя па звонкасці*: [йа́гбы], [про́з’ба], [л’і́джба];* на пісьме – *як бы, просьба, лічба.*

Асіміляцыя па глухасці: *[абав’аско́ва], [увахо́ц:’э], [н’эмахчы́ма], [бры́ткайа]*; на пісьме – *абавязкова, уваходзьце, немагчыма, брыдкая*.

Асіміляцыя шыпячага да свісцячага: *[ма́йэс:’а], [вы́прав’іс:’а], [падаба́йэс:’а]*; на пісьме – *маешся, выправішся, падабаешся*.

Памякчэнне [з] перад [й]: *[з’йаўл’а́йэцца], [з’йэ́хац’], [з’йэ́с’ц’і], [з’йі́м’і], [з’йаго́най]*; на пісьме – *з’яўляецца, з’ехаць, з’есці, з імі, з ягонай*.

Перадача спалучэнняў [чц’], [чн] без змен: *[праба́чц’э], [вы́кл’учц’э], [адназна́чна]*; на пісьме – *прабачце, выключце, адназначна*.

Разам з тым на сцэнічнае беларускае вымаўленне негатыўна ўздзейнічаюць некаторыя фактары.

**Уплыў білінгвізму**. Найбольш істотна ён праяўляецца пры перадачы мяккасці свісцячых [з’] і [с’]. Іх артыкуляцыя ў беларускай мове мае пэўныя асаблівасці: «Зычныя *зь*, *сь* у беларускай мове значна мякчэйшыя, чым у іншых славянскіх мовах <…>. Эфект іх мяккасці дасягаецца тым, што кончык языка пры іх вымаўленні апускаецца да ніжніх зубоў, месца ўтварэння шчыліны ссоўваецца да сярэдзіны цвёрдага паднябення, сама шчыліна ў канцавой фазе артыкуляцыі становіцца вельмі шырокай» [7, с. 20]. Аднак у рускай арфаэпіі мяккія зубныя [з’], [с’] не маюць шапяляватага адцення, і гэтая з’ява пераносіцца і на беларускае вымаўленне. Так, мяккія шапляватыя [з”], [с”] перад галоснымі і наступнымі мяккімі зычнымі зафіксаваны ў маўленні толькі адной артысткі: *дро́бя[з”]і, трыма́ю[с”]я, агрэ́[с”]ію, ё[с”]ць, [с”]ме́ла, [з”]няла́, бая[з”]лі́ва* і інш. Астатнія

акцёры вымаўляюць [з'], [с'] як мяккія зубныя: *[з']емлятру́с, паў[с']ю́ль, спа[з']ні́ліся, [з']ме́ны, [с']ме́тнік, жано́цка[с']ці* і інш.

**Уплыў арфаграфіі.** Ён заключаецца ў тым, што прамоўца агучвае слова ў адпаведнасці з напісаннем. Гэты фактар сёння аказвае вельмі істотнае негатыўнае ўздзеянне, паколькі сфера бытавання вуснай мовы ў параўнанні з пісьмовай няўхільна звужаецца. Асабліва адчувальны ўплыў арфаграфіі пры вымаўленні слоў з праклітычнымі прыназоўнікамі і часціцай *не*. Артысты пераважна адлюстроўваюць яканне ў распаўсюджаных спалучэннях «часціца *не* плюс асабовая форма дзеяслова»: *[н'аба́чыц'], [н'аўста́н'э], [н'аво́з'м'эш], [н'авы́спал'іс'а]*; на пісьме – *не бачыць, не ўстане, не возьмеш, не выспаліся.* Калі ж часціца *не* стаіць перад словамі іншых часцін мовы, яканне часта не вытрымліваецца: *[н'эсо́рамна], [н'эта́к], [н'эва́рта], [н'эўку́рс'э];* на пісьме – *не сорамна, не так, не варта, не ў курсе.*

Пры спалучэнні прыназоўнікаў з іменнымі часцінамі мовы ўзнікаюць кансанантныя групы, у якіх зычныя падпадаюць асіміляцыйнаму ўздзеянню рознага характару. Паслядоўна адлюстроўваецца асіміляцыя па звонкасці-глухасці і шыпячасці-свісцячасці: *[прас:у́таргу], [спа́расткам'і], [атс'м'э́ху], [ск'і́мс'ц'і], [шчым], [б'эш:тано́ў], [ж:анчы́нам'і], [шчалав'э́кам]*; на пісьме – *праз сутаргу, з парасткамі, ад смеху, з кімсьці, з чым, без штаноў, з жанчынамі, з чалавекам*. Асіміляцыя па мяккасці ў дадзенай пазіцыі перадаецца значна радзей: *[з'м'ікрафо́нам], [б'аз'л'і́шн'ага]*, але *[зм'ан'э́], [зм'э́сца], [зм'эта́лу]*; на пісьме – *з мікрафонам, без лішняга, з мяне, з месца, з металу*.

**Уплыў тэмпу маўлення**. Тэмпавыя паказчыкі маўлення акцёраў залежаць не толькі ад індывідуальных асаблівасцей, але і ад мастацкіх задач. У п'есе «Офіс» ёсць рэплікі, якія прамаўляюцца акцёрамі ў вельмі хуткім тэмпе, без паўзацыі нават паміж сказамі. Змяненне хуткасці артыкуляцыі адбіваецца на ўласцівасцях вымаўленых гукаў: рэдуцыруюцца галосныя і зычныя, што прыводзіць у дзеянне рэгулярныя фанетычныя працэсы. Так, у словаформе *тысячу* ў выніку рэдукцыі галоснага [а] побач аказваюцца свісцячы [с'] і шыпячы [ч]. Пад уздзеяннем наступнага шыпячага [с'] пераходзіць у [ш] і атрымоўваецца гукавы варыянт *[ты́шчу]*, які не адпавядае літаратурнай норме. У слове *ёсць* рэдуцыруецца канцавы [ц'], і на стыку слоў *ёсць што (сказаць)* узнікае спалучэнне [с']+[ш], якое гучыць як [ш:]: *[йо́ш:то сказа́ц'].*

Нацыянальны тэатр – галоўны папулярызатар і захавальнік арфаэпічных норм. Аднак на маўленне акцёраў уплываюць фактары, якія выклікаюць з'явы інтэрферэнтнага і варыянтнага характару.

***Літаратура***


1. Бірыла, М.В. Да пытання аб фарміраванні і важнейшых нормах беларускага літаратурнага вымаўлення / М.В. Бірыла // Весці Акадэміі навук Беларускай ССР. – 1958. – № 3. – С. 165–176.

2. Шагидевич, А.А. О речевой культуре и речевом мастерстве в белорусском театре: автореф. дис. … канд. искусствоведения: 17.00. 01 / А.А. Шагидевич. – М., 1975. – 22 с.

3. Выгонная, Л.Ц. Беларускае літаратурнае вымаўленне / Л.Ц. Выгонная // Najnowsze dzieje jkzykyw siowiacskich: Беларуская мова / пад рэд. А.А. Лукашанца [і інш.]. – Opole: Uniwersitet Opolski – Instytut Filologii Polskiej, 1998. – С. 105–147.

4. Плотнікаў, Б.А. Беларуская мова: Лінгвістычны кампендыум / Б.А. Плотнікаў, Л.А. Антанюк. – Мінск: Інтэрпрэссэрвіс, Кніжны Дом, 2003. – 672 с.
5. Каляда, А. Сцэнічная мова: навук. дапам. / А. Каляда, А. Шагідзевіч. – Мінск: Вышэйш. школа, 1993. – 171 с.
6. Каляда, А.А. Сцэнічная мова: вучэб.-метад. дапам. / А. Каляда. – Мінск: Беллітфонд, 2006. – 480 с.
7. Падлужны, А.І. Нормы беларускага літаратурнага вымаўлення / А.І. Падлужны // Сучасная беларуская мова (Пытанні культуры мовы). – Мінск: Навука і тэхніка, 1973. – С. 5–32.

***С.С. Мароз, М.С. Ржавуцкая*** (Мінск, Беларусь)

## ФУНКЦЫЯНАЛЬНА-ГРАМАТЫЧНЫЯ ДАСЛЕДАВАННІ Ў СУЧАСНЫМ БЕЛАРУСКІМ МОВАЗНАЎСТВЕ: СТАН І ТЭНДЭНЦЫІ

Агульнавядома, што ў залежнасці ад мэт вывучэння граматыкі падзяляюцца на розныя тыпы. Адрозніваюць навуковую апісальную, нарматыўную, гістарычную, параўнальную, тыпалагічную, структурную, трансфармацыйную граматыку [1, с. 159]. Навуковая апісальная граматыка адлюстроўвае граматычны лад пэўнай мовы, гістарычная граматыка апісвае прычыны, працэсы і вынікі змянення моўных формаў, параўнальная граматыка сістэмна супастаўляе факты розных моў у сінхраніі ці дыяхраніі і г. д. Аднак прыведзеная тыпалогія ўключае і ўлічвае далёка не ўсе кірункі граматычных даследаванняў. Мовазнаўцы заўсёды актыўна аналізавалі семантыку слова, словазлучэння ў неад'емным адзінстве з яе фармальным выражэннем. Узмацняецца і пашыраецца семантычны аспект у вывучэнні моўных адзінак розных узроўняў. З'яўляюцца працы, у якіх выяўляюцца міжузроўневыя сэнсавыя сувязі і адносіны, дакладна прасочваюцца тэндэнцыі да інтэграцыі (аб'яднання) адзінак розных моўных узроўняў. Функцыяналізм як адзін з падыходаў да вывучэння моўных з'яў адлюстраваўся яшчэ ў працах В. Матэзіуса, Ф. Данеша, Р. Якабсана; Ф.І. Буслаева, А.А. Патабні, А.А. Шахматава, У.Г. Адмані, В.У. Вінаградава і інш. Мэта артыкула – акрэсліць стан і тэндэнцыі ў галіне функцыянальна-граматычных даследаванняў у сучасным беларускім мовазнаўстве.

Сучасная лінгвістыка, акрамя традыцыйных моўных катэгорый, з апісаннем і аналізам якіх мы сустракаемся ў навуковай апісальнай граматыцы, вывучае катэгорыі, статус якіх і па сённяшні дзень акрэслены неадназначна. У навуковай літаратуры іх называюць «функцыянальна-семантычнымі катэгорыямі» (ФСК) (часам для зручнасці – «семантычнымі») або, улічваючы іх структуру, «функцыянальна-семантычнымі палямі» (ФСП). Узнікненне тэорыі ФСК у лінгвістыцы звязана перш за ўсё з імёнамі О. Есперсена і І.І. Мешчанінава. У манаграфіі «Філасофія граматыкі» дацкі даследчык, аналізуючы сінтаксічныя катэгорыі, пісаў, што ўстанавіць сінтаксічныя паняцці можна, не выходзячы ні на імгненне за межы граматыкі, аднак, як толькі мы задаём пытанне, што гэтыя паняцці і катэгорыі адлюстроўваюць, мы тут жа са сферы мовы трапляем у сферу навакольнага свету, у сферу мыслення [7, с. 56]. Сваё далейшае развіццё гэтая тэорыя атрымала ў працах І.І. Мешчанінава, які сцвярджаў, што ўсякае паняцце, якое існуе ў чалавечай свядомасці, можа быць перададзена моўнымі сродкамі [9, с. 11]. Такія катэгорыі вучоны назваў паняційнымі.

Абапіраючыся на тэорыю паняційных катэгорый, мовазнаўцы, аднак, трактуюць функцыянальна-семантычныя катэгорыі толькі як моўныя, г. зн. такія, якія маюць моўны змест і моўнае выражэнне. Тэрміны «паняційны» і «семантычны» размяжоўваюцца. Сваім зместам гэтыя катэгорыі могуць быць тоесныя, але ФСК абавязкова маюць канкрэтную моўную рэалізацыю, адлюстраванне ў канкрэтных моўных сродках. Апісаннем ФСК і займаецца функцыянальная граматыка. Названая граматыка вывучае і даследуе заканамернасці функцыянавання граматычных адзінак ва ўзаемадзеянні з адзінкамі іншых моўных узроўняў, а таксама прадугледжвае магчымасць аналізу не толькі ў напрамку ад формы да значэння, але і ў напрамку ад значэння да формы. Граматыка такога тыпу ўключае ў той ці іншае ступені, па-першае, аналіз сістэмы моўных сродкаў – паказчыкаў пэўных семантычных функцый і, па-другое, аналіз семантычных функцый, рэалізаваных у выказванні ў маўленні.

У рускім мовазнаўстве сярод функцыянальна-граматычных даследаванняў найбольш вядомыя працы А.У. Бандарка, які распрацаваў мадэль функцыянальнай граматыкі, заснаванай на паняццях функцыянальна-семантычнае поле (ФСП) і катэгарыяльная сітуацыя (КС) [3–4; 12]. За апошняе дзесяцігоддзе рускія даследчыкі даволі актыўна займаюцца вывучэннем і апісаннем разнастайных ФСП. Так, напрыклад, на матэрыяле рускай мове былі даследаваны ФСП каўзальнасці, эвідэнцыяльнасці, прамога аб’екта, таксіса, уступкі і інш. (Бакулеў А.В., Грыгоранка М.Ю., Надалінская Ю.С., Сямёнава Н.У., Мусатава Г.А. і інш.). Адзначым, што беларускае мовазнаўства таксама мае пэўныя здабыткі ў галіне функцынальнай граматыкі. Грунтоўнае даследаванне кагнітыўнай структуры, функцыянальнага статусу і сродкаў выражэння катэгорыі мадальнасці ў сучаснай беларускай мове правяла Н.Ю. Паўлоўская [10–11]. Разгляд шляхоў фарміравання поля суб’ектыўнай мадальнасці сродкамі лексічнага, марфалагічнага і сінтаксічнага моўных узроўняў у сучаснай беларускай публіцыстыцы адлюстраваны ў працы Ермаковай А.М. [6]. Падрабязнае апісанне розных тыпаў пасесіўных канструкцый складае змест дысертацыі Мароз С.С. [8]. Рознаўзроўневыя сродкі выражэння эматыўных адносін сталі аб’ектам аналізу Доўгаль А.В. [5]. У супастаўляльным аспекце (на матэрыяле англійскай і беларускай моў) сродкі выражэння працягласці апісаны ў даследаванні Бяцені А.П. [2]. Функцыяналізм у апісанні лексічных адзінак са значэннем ацэнкі (на матэрыяле субстантываў – характарыстык асобы ў беларускай дыялектнай мове) выяўляецца і ў працы Урбан В.В. [13].

Такім чынам, разгляд функцыянальна-граматычных даследаванняў выразна адлюстроўвае дзве тэндэнцыі: па-першае, найбольш поўнае, сістэмнае апісанне пэўнай ФСК з вызначэннем яе семантычнага зместу і падрабязным аналізам рознаўзроўневых сродкаў выражэння гэтага зместу, па-другое, вывучэнне асобных моўных адзінак, якія ўжываюцца ў мове для перадачы пэўнага значэння. Адзначым, што граматычным даследаванням любога тыпу ў той ці іншай ступені ўласцівы функцыянальны аспект, асабліва там, дзе гаворка ідзе пра семантыку граматычных форм, граматычных адзінак.

З гэтага пункту гледжання шматлікія работы беларускіх мовазнаўцаў, аб'ектам даследавання ў якіх з'яўляюцца сродкі выражэння тых ці іншых адносін, маюць дачыненне да функцыянальнай граматыкі.

**_Літаратура_**


1. Беларуская мова: энцыкл. / пад рэд. А.Я. Міхневіча. – Мінск: БелЭн, 1994. – 655 с.
2. Бетеня, Е.П. Средства выражения длительности в английском и белорусском языках: на материале предикативных форм глагола: автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.02.20 / Е.П. Бетеня; УО «Минский государственный лингвистический университет». – Минск, 2005. – 20 с.
3. Бондарко, А.В. Основы функциональной грамматики: Языковая интерпретация идеи времени / А.В. Бондарко; С.-Петерб. гос. ун-т. – СПб.: Изд-во С.- Петерб. ун-та, 2001. – 260 с.
4. Бондарко, А.В. Принципы функциональной грамматики и вопросы аспектологиии / А.В. Бондарко. – 4-е изд., стереотип. – М.: URSS: ЛКИ, 2007. – 347 с.
5. Доўгаль, А.В. Функцыянальна-семантычная катэгорыя эматыўнасці ў сучаснай беларускай мове: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / А.В. Доўгаль; Беларус. дзярж. ун-т. – Мінск, 2006. – 14 с.
6. Ермакова, А.М. Катэгорыя суб'ектыўнай мадальнасці ў сучаснай беларускай публіцыстыцы: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / А.М. Ермакова; Гом. дзярж. ун-т ім. Ф. Скарыны. – Гомель, 1999. – 21 с.
7. Есперсен, О. Философия грамматики / О. Есперсен. – М.: Изд-во иностр. лит-ры, 1958. – 404 с.
8. Мароз, С.С. Катэгорыя пасесіўнасці і сродкі яе выражэння ў сучаснай беларускай літаратурнай мове: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / С.С. Мароз; БДПУ. – Мінск, 2001. – 19 с.
9. Мещанинов, И.И. Понятийные категории в языке / И.И. Мещанинов // Труды ВИИЯ. – № 1. – М., 1945. – С. 11.
10. Паўлоўская, Н.Ю. Катэгорыя мадальнасці ў сучаснай беларускай мове: кагнітыўная структура, функцыянальны статус, сродкі выражэння: аўтарэф. дыс. … д-ра філал. навук: 10.02.01 / Н.Ю. Паўлоўская; Бел. дзярж. ун-т. – Мінск, 2002. – 39 с.
11. Паўлоўская, Н.Ю. Катэгорыя мадальнасці ў сучаснай беларускай мове / Н.Ю. Паўлоўская; Мін. дзярж. лінгвіст. ун-т. – Мінск: МДЛУ, 2001. – 205 с.
12. Теория функциональной грамматики: Введение. Аспектуальность. Временная локализованность. Таксис / А.В. Бондарко, М.А. Шелякин, В.С. Храковский и др. – 3-е изд., стереотип. – М.: УРСС. 2003. – 347 с.
13. Урбан, В.В. Катэгорыя ацэнкі ў беларускай дыялектнай мове (на матэрыяле субстантываў – характарыстык асобы): аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / В.В. Урбан; БДПУ. – Мінск, 2002. – 19 с.


**_П.У. Маслянкова_** (Мінск, Беларусь)

## БЛОГІ ЯК ПЕРСПЕКТЫЎНАЯ СФЕРА ДАСЛЕДАВАННЯ ПРЭЦЭДЭНТНАСЦІ

Блог (англ. blog, ад «web log», «сеціўны часопіс ці дзённік») – вэб-сайт, асноўны змест якога – рэгулярныя запісы, што ўтрымліваюць тэкст, выявы і мультымедыя. Для блогаў характэрныя нядоўгія запісы часовай значнасці, адсартаваныя ў зваротным храналагічным кірунку [1].

У адрозненне ад часопіса, гэта тэатр аднаго акцёра, у блогу ты сам сабе рэжысёр. Гэта здымае ўсе магчымыя абмежаванні цэнзуры, ідэалогіі і маралі. Ад дзённіка блог адрозніваецца сваёй публічнасцю. Кожны можа ўступіць у палеміку з аўтарам у каментарыях ці асобным запісам ва ўласным блогу. Гэтым блогі набліжаюцца да традыцыйных сродкаў масавай інфармацыі і камунікацыі.

Фактычна, благасфера падпарадкоўваецца ўсім законам функцыянавання інтэрнэт-журналістыкі ў сучасным медыядыскурсе. Ад блогера патрабуюцца наступныя камунікатыўныя якасці: лаканічнасць, інфармацыйнасць, аўдыявізуальнасць, арыгінальнасць, моўны густ, аналітычнасць ці экспрэсіўнасць (у залежнасці ад сітуацыі).

Таксама благасферы ўласцівы суб'ектывізм, «крэатыў», дыялагічнасць, іранічнасць і нават «сцёб».

У параўнанні з іншымі сродкамі масавай інфармацыі блогі найбольш набліжаны да рэальных умоў камунікацыі за кошт сістэмы аўтарызацыі, узаемнага чытання і каментавання. Да таго ж яны публічныя, а значыць, у адрозненне ад электроннай пошты, скайпу ці ICQ, даступныя для азнаямлення староннямy чытачу. Таму блогі з'яўляюцца новай і перспектыўнай сферай даследавання мовы ва ўмовах, максімальна набліжаных да жывой камунікацыі.

Камунікацыя ў блогах падразумявае пад сабой дыялог, які, як правіла, перарастае ў палілог. Запіс у блогу (пост) ёсць стымулам да камунікацыі, каментавання, абмеркавання.

Зварот да прэцэдэнтных феноменаў у запісе абумоўлены тымі самымі прычынамі, што і ў сродках масавай інфармацыі: эканомія моўных сродкаў, прыцягненне ўвагі, апеляцыя да агульнага з адрасатам культурнага грунту, атрыманне эстэтычнага задавальнення, узмацненне інтэлектуальнага градуса і г. д.

Прэцэдэнтныя адзінкі сустракаюцца як у назве паста, так і ў самім тэксце. Найчасцей сустракаюцца прэцэдэнтныя сітуацыі і выказванні, радзей на імёны і тэксты.

Прэцэдэнтнае імя і сітуацыя – сыход Л.М. Талстога з Яснай Паляны:

*Ці маглі б Вы як Леў Талстой «пакінуць Ясную Паляну», т.б. адмовіцца ад жж?*

Спасылка на прэцэдэнтнае імя і факт з біяграфіі Еўфрасінні Полацкай:

*А ещё говорят, что студенты всегда всё оставляют на последний момент!!! А преподаватели лучше что ли??? Кошмар!!! Вдруг все проснулись, что им нужны какие-то рефератики и ещё куча всяких самостоятельных работ студентов. А я спать хочу!!! Между прочим я ЧЕЛОВЕК!!! Устала корчить из себя Ефрасинью Полоцкую и ПЕРЕПИСЫВАТЬ КНИГИ!*

Спасылка на прэцэдэнтнае выказванне – апошні радок з дзённіка Кузьмы Чорнага:

*«Госпадзе, зафрэндзь мяне» – хіба так маліцца ці што...*

Спасылка на прэцэдэнтныя тэксты і выказванні: радок з вядомага верша М. Багдановіча, кнігу нарысаў У. Караткевіча і песню Ю. Антонава:

*Увесь гэты час – ты проста талая лядышка недзе па-над усімі, па-над белым пухам вішняў, і нават па-над белымі крыламі, па-над крышай дома тваево*.

Прыведзеныя вышэй прыклады сведчаць пра шырокі дыяпазон розных прэцэдэнтных феноменаў, крыніц цытацыі і спосабаў іх увядзення ў тэкст. Тут прадстаўлены імёны са спасылкай на прэцэдэнтную сітуацыю (Ефрасіння Полацкая, Леў Талстой), імёны як сімвалы эпохі (вальтэры), прэцэдэнтныя выказванні (толькі тры чарапахі былі), прэцэдэнтны тэкст (глава з «Слова пра паход Ігара», «Зямля пад белымі крыламі»), квазіцытацыя, кантамінацыя прэцэдэнтных выказванняў з трох крыніц.

У блогах за 2010 год былі актуалізаваны наступныя прэцэдэнтныя тапонімы і антрапонімы: *Чарнобыль* (у аспекце замоўчвання небяспекі), *Нестар* (першы

гістарыёграф, летапісец), *Марат Казей* (герой-партызан), *Радзівіл* (багаты пан, шляхціц).

Сярод беларускіх прэцэдэнтных феноменаў, што найчасцей ужываюцца ў блогах, найбольшую колькасць складаюць літаратурныя і песенныя крыніцы: творы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Уладзіміра Караткевіча, Кандрата Крапівы і інш.

Паколькі блогі ўтрымліваюць не толькі тэксты, але і здымкі, відэаролікі, флэш-анімацыю, то можна вылучыць міні-жанр подпісу ці кароткага каментару да таго ці іншага аўдыявізуальнага аб'екту. У такіх выпадках часта выкарыстоўваюцца прэцэдэнтныя адзінкі: напрыклад, запіс з падводнымі здымкамі мае назву *«Мора ўнутры»* (спасылка на прэцэдэнтны тэкст – назву кінафільма), запіс пра перагон кароў праз шашу сярод ночы з адпаведным відэаролікам мае кароткі каментар *«Беларусь у фантастычных апавяданнях»* (прэцэдэнтны тэкст Яна Баршчэўскага).

Прэцэдэнтныя феномены шырока выкарыстоўваюцца ў каментарах да запісу:

*– Гдзе твая родзіна, сынок?*

*– Дзе асілкі-хлапцы маладымі ўзрастаюць дубамі:)* (прэцэдэнтнае выказванне з верша У.С. Караткевіча «Беларуская песня»)

Закрэсліванне як тэхнічны сродак інтэрнэт-графікі дазваляе рэалізаваць камунікацыйны прыём агаворкі, прычым агаворкай часта становіцца прэцэдэнтны феномен: *хай спадарыня зіма і не збіраецца здавацца... час ~~збіраць камяні~~ апранаць спадніцу!* (прэцэдэнтнае выказванне з Бібліі).

Для графічнага пазначэння інтэртэкстуальнасці блогеры часам выкарыстоўваюць © – знак капірайту, які ў благасферы выконвае функцыю традыцыйных двукоссяў. Ён ужываецца ў тых выпадках, калі цытуецца тэкст, які, паводле меркавання адрасанта, можа быць невядомы адрасату. Пасля яго можа стаяць аўтарства цытаты, але часцей яно не ўказваецца. Фактычна, аўтар здымае з сябе адказнасць за сказанае, а вось каб перакласці гэтую адказнасць на сапраўднага аўтара, адрасату давядзецца пашукаць першакрыніцу.

Па выніках аналізу прыблізна аднолькавага аб'ёму матэрыялу СМІ і блогаў трэба адзначыць, што шчыльнасць прэцэдэнтных феноменаў у блогах у значнай ступені пераважае. Таму варта адзначыць, што даследаванне блогаў як сферы, наблізкай да ўмоў жывой камунікацыі, з'яўляецца плённым і перспектыўным кірункам даследавання прэцэдэнтных феноменаў.

***Літаратура***

1. Блог // Википедия [Электронный ресурс]. – 2010. Рэжым доступу: http://ru.wikipedia.org/wiki/Блог. Дата доступу: 11.06.10.

***А.П. Мерчи, Е.О. Мочалова*** (Гродно, Беларусь)

**МЕЖЪЯЗЫКОВАЯ ПЕРЕДАЧА ИМЕН СОБСТВЕННЫХ В РОМАНЕ Д. БРАУНА «АНГЕЛЫ И ДЕМОНЫ» ПРИ ПЕРЕВОДЕ НА РУССКИЙ ЯЗЫК**

Категория имени собственного является неотъемлемой частью взаимоотношений и взаимопонимания между людьми. Расширение сферы межъязыковой коммуникации ставит перед лингвистами-переводчиками задачу исследования вопроса о закономерностях межъязыковой передачи рассматриваемой категории лексических единиц. Поднятая в данной статье проблема актуальна в связи с тем, что при переводе художественной литературы могут быть выбраны неподходящие приемы перевода имен собственных, что приводит к ошибкам и неточностям. Большое внимание данной проблеме уделяется учеными-лингвистами Р.С. Гиляревским [2], Ж.А. Голиковой [3], Д.И. Ермоловичем [4], В.С. Слеповичем [6] и др. Ими рассматриваются различные категории имен и названий, предлагаются практические решения и рекомендации по переводу данных языковых единиц.

В статье представлены результаты, полученные при анализе текста романа Дэна Брауна «Ангелы и демоны» (Corgi Books, 2004), и его перевода на русский язык, выполненного переводчиком Г.Б. Косовой (АСТ, 2005). В романе встречаются разные по национальной принадлежности имена собственные, поэтому нужно подчеркнуть важность их упорядочивания и систематизации. В лингвистических классификациях категория имен собственных рассматривается в двух разрезах: как наименование одушевленных и неодушевленных объектов, причем к одушевленным относятся имена людей, а к неодушевленным – названия географических объектов, средств передвижения, различные фирменные названия и др. [1, с. 211].

Рассмотрим примеры языковых единиц, которые непосредственно называют объект (при этом они не имеют собственного содержания). Ими являются имена и фамилии персонажей романа (выделено 23 случая употребления их в романе) и имена исторических личностей (проанализировано 27 языковых единиц). Мы отметили, что имена собственные переданы на русский язык с помощью транскрипции и транслитерации, что демонстрируют следующие примеры: *Leonardo Vetra – Леонардо Ветра, Robert Langdon – Роберт Лэнгдон, George Charpak – Жорж Шарпак, Bob Brownell – Боб Браунелл, Charles Pratt – Чарльз Пратт, Gunther Glick – Гюнтер Глик, Chinita Macri – Чинита Макри, Rebecca Strauss – Ребекка Штросс* и др. Наиболее интересными являются случаи передачи имен *George* и *Charles*, так как одно и то же имя может произноситься и писаться по-разному, например: *Георг VI* и *Джордж* (Вашингтон) [6, с. 161].

Для систематизации отобранных имен собственных, называющих исторические личности, мы разделили их на несколько тематических групп: а) имена художников, писателей и других деятелей искусства: *Galileo Galilei – Галилео Галилей, Bernini – Бернини, Brahe – Браге, Santi Raphael – Рафаэль Санти, Peter Sellers – Питер Селлерс, Louis Armstrong – Луи Армстронг* и др.; б) имена священнослужителей: *Pope*

*Pius IX – папа Пий IX, Boniface IV – папа Бонифаций IV, Pope John Paul I – папа Иоанн Павел I* и др.*;* в) имена государственных и общественных деятелей: *George Washington – Джордж Вашингтон, Ben Franklin – Бенджамин Франклин, Henry Wallace – Генри Уоллес, Franklin D. Roosevelt – Франклин Делано Рузвельт* и др. Приведенные примеры указывают на то, что при передаче имен собственных используется способ транскрипции и транслитерации с учетом сложившейся традиции написания этих имен. Издавна сложилась следующая практика перевода: имена монархов и религиозных деятелей передаются, как правило, по методу транспозиции [4, с. 79]. Поэтому римский папа носит имя *Иоанн Павел*, а не *Джон Пол*. Принцип транспозиции дает нам представление о том, что языки с общим лингвистическим происхождением имеют этимологически соответствующие друг другу имена собственные. Следует обратить внимание на передачу сокращенной формы имени собственного – *Ben Franklin*, так как оно переведено не как *Бен Франклин,* а *Бенджамин Франклин.* Главная функция имени – указывать на лицо, однако при передаче его вариантов могут возникнуть сложности его распознавания у русского читателя, который легче идентифицирует имя *Бенджамин Франклин,* как, например, и *Авраам Линкольн*, чем *Эйб Линкольн.*

Объекты городской топонимики, выделенные из рассматриваемого произведения, являются топонимами неанглийского происхождения, точнее, географическими наименованиями итальянской действительности, так как сюжет романа разворачивается в Ватикане. Было проанализировано 14 лексических единиц, относящихся к наименованиям улиц и площадей (*Via della Osservatorio – виа делла Оссерваторио, Via Belvedere – виа Бельведер, Via degli Orfani – улица Орфани, Piazza Sant'Ignacio and Sant'Eustachio – площади Святого Игнацио и Святого Евстахия, the Piazza del Popolo – пьяцца дель Пополо* и др.) и 14 названий зданий и достопримечательностей (*the Sistine Chapel – Сикстинская капелла, St. Peter's Basilica – собор Святого Петра, the Borgia Courtyard – двор Борджиа, the Chigi Chapel – капелла Киджи, Palazzo Governatorato – Правительственный дворец, Collegio Ethiopiana – Коллегия по делам Эфиопии, the Ufficio di Comunicazione – Бюро ди коммуникационе* и др.). Принимая во внимание перевод, осуществленный в рассматриваемом нами романе, следует отметить, что в переводе с итальянского*'via'* – это *'улица'*, а *'piazza'* – *'площадь'.* В представленных выше примерах в 11 из 14 случаев осуществляется транскрипция нарицательного элемента – *виа делла Оссерваторио*, *пьяцца дель Пополо*, а в остальных случаях передача части наименования географического объекта осуществляется с помощью эквивалентного слова на русском языке – *улица Орфани, площади Святого Игнацио и Святого Евстахия.* Названия достопримечательностей в тексте переданы с помощью приема калькирования в сочетании с транскрипцией и транслитерацией, причем нарицательные элементы переданы на русский язык эквивалентным словом – *Сикстинская капелла, собор Святого Петра, двор Борджиа.*

Рассмотрим примеры употребления названий органов печати, издательств и других средств массовой информации, переданных на русский язык с помощью транскрипции и транслитерации (всего отобрано 10 языковых единиц): *the New York Times – «Нью-Йорк таймс», United Press International – Юнайтед пресс интернэшнл, London Herald – «Лондон геральд», Wall Street Journal – «Уолл-стрит джорнэл», BBC – Би-би-си, CNN – Си-эн-эн, MSNBC – «Нэшнл бродкастинг систем»* и *Эм-эс-эн-би-си* и др. Переводчики стараются избегать иноязычных вкраплений буквенных сокращений, так как они мешают восприятию текста. В этих случаях применяется принцип воспроизведения названий букв, входящих в сокращение, на кириллице, например, *BBC – Би-би-си, CNN – Си-эн-эн* [4, с. 126]. Мы обратили внимание и на то, как двояко было передано название *MSNBC,* радио- и телевещательной компании Эн-Би-Си (США): *'Нэшнл бродкастинг систем'* и *Эм-эс-эн-би-си.* Переводчиком была допущена ошибка: *NBC* расшифровывается как «*National Broadcasting Company*», то есть «*Нэшнл бродкастинг кампани*», а не «*систем*».

Таким образом, проанализировав передачу имен собственных в романе Д. Брауна «Ангелы и демоны», мы можем утверждать, что основным приемом перевода представленного рода лексических единиц является транскрипция и транслитерация. К тому же необходимо учитывать закрепившиеся традиции написания имен собственных, представленных в словарях, справочниках, географических атласах.

***Литература***

1. Влахов, С.В. Непереводимое в переводе / С.В. Влахов; под ред. В. Россельса. – М.: Международные отношения, 1980. – 256 с.

2. Гиляревский, Р.С. Иностранные имена и названия в русском тексте: справочник / Р.С. Гиляревский, Б.А. Старостин. – 3-е изд. – М.: Высш. шк., 1985. – 303 с.

3. Голикова, Ж.А. Перевод с английского на русский / Ж.А. Голикова. – 5-е изд. – М.: Новое знание, 2008. – 286 с.

4. Ермолович, Д.И. Имена собственные на стыке языков и культур / Д.И. Ермолович. – М.: Р. Валент, 2001. – 200 с.

5. Красневская, З.Я. Правда в переводе: этюды о работе переводчика с английского / З.Я. Красневская. – М.: Изд-во деловой и учебной литературы, 2007. – 200 с.

6. Слепович, В.С. Перевод (английский – русский). Translation difficulties / В.С. Слепович. – Мінск: ТетраСистемс, 2009. – 336 с.

***Л.П. Михайлова*** (Петрозаводск, Россия)

## БЕЛОРУССКАЯ ЛЕКСИКА С ПРОТЕЗОЙ *а-* В КОНТЕКСТЕ МЕЖЪЯЗЫКОВОЙ КОММУНИКАЦИИ

В белорусском языке имеются слова с протетическим гласным *а-*, наличие которого не всегда может быть объяснено внутренними процессами развития языка. Они чаще всего выступают в качестве параллелей к русским словам с протезой *о-*. «Этымалагічны слоўнік беларускай мовы» (ЭСБМ), материалы которого служат основой для исследования, приводит около двадцати слов с протезой *а-*. Протетический характер

начального гласного отмечается в диалектных словах, которые в зависимости от характера начального слога можно разделить на три группы.

1. Лексемы с протезой перед сочетанием согласных: ***асляпéнь*** ‘сляпень’, ***атварóг*** ‘тварог’, ‘скіслае малако’, ***атрáма*** ‘бэлька у хаце, што падтрымлівае іншыя бэлькі’. Лишь в одном слове – ***астрыжань*** ‘стрыжань’ – А.Я. Супрун обращает внимание на позицию начального *а-*, который «мае пратэтычны характар перад спалученнем зычных у *стрыжань*» [6, с. 186].

Появление протезы в указанных словах, на наш взгляд, может объясняться спорадическим проявлением тенденции к ликвидации сочетания согласных в позиции анлаута. Аналогичное явление известно многим русским говорам, находящимся в зоне этноязыковых контактов – контактов русского языка с неродственными, в частности финно-угорскими и тюркскими языками. Ср., например: *острáда* ‘уборка хлеба, жатва; страда’ Пск,. Осташк. Твер., Твер., *озрачóк* ‘зрачок’ Ср. Урал., *астарáшно* ‘страшно, жутко, боязно’ Лен. Якут. и общеизвестные *страдá*, *зрачóк*, *стрáшно*. «В начале слова в финно-угорском языке-основе стоял только один согласный (или один гласный)» [3, с. 119], характерно «отсутствие в исконно тюркских словах сочетаний нескольких согласных в начале слова, на стыках морфем или в абсолютном исходе слова» [2, с. 528].

2. Протеза наблюдается и перед одиночным согласным, в частности перед звуком [*в*]: ***авóнтпицца*** ‘пудзіцца’, ***авýнь*** ‘вон (вокліч для адгону сабакі)’ Авторы ЭСБМ предполагают не префиксальный, а протетический характер начального *а-* и в слове ***абóец*** ‘клінок, якім замацоўваецца каса на касільне’, реконструируя исходное слово **бóец*. Допускается *а-* протетичное и в слове ***абíч*** ‘частка цепа, якой б’юць па калоссі’, при этом данный вариант адекватен исходному слову *біч* ‘бізун’, то есть *абі’ч < біч*, а не от **o-bit-jь*.

3. Часть отмеченных в ЭСБМ слов развивает протетический гласный *а-* перед звуком [р]: ***арэлі*** ‘гушкалка’, ***арэптам*** ‘раптоўна, нахабна, нястрымна’ и др. Оставляя в стороне лексемы ***арабíна***, ***арабóк***, в которых а- может рассматриваться как исконное [5, с. 73–76], отметим слова с возможной протезой: ***арáк, арахмáны, арубéль, арýна***, приводимые с отсылкой к исходным лексемам: *рак, рахманы, рубель, рунь*. Ср. в русских говорах русского языка: *арахмáнный* ‘вялый, хворый’, Вят., *орья́ный* ‘сильный, рьяный’ Троснян. Орл., *орепéй* ‘сорное растение репейник’ Нижнедев. Ворон., Орл., Курск., Тамб., Ряз. Мещера., Ряз., Дон., Калуж.. Казаки-некрасовцы, *орё́лина* ‘качели’ Любим. Яросл., *арáма* ‘рама’ Лаб. Якут. и др. Отсутствие начального ***р-*** может быть объяснено такой особенностью звукового строя агглютинативных языков, оказывающих влияние на русский язык, как противопоказанность использования сонантов в начале корня: «слог, начинающийся с согласного R, не может быть началом корня» [4, с. 347].

Некоторые из указанных явлений, возникших под влиянием языков иной структуры, могут быть объяснены историческими фактами. Элементы материальной культуры

финнов за пределами финской дуги известны на территории Псковско-Ильменского межозерья, Волго-Мстинского и Днепро-Двинского междуречья, полоцкого Подвинья; спорадически такие элементы встречаются в Посожье, могилевском Поднепровье, Центральной Беларуси [1, с. 28]. Данный географический ареал, определяемый археологами, «намечает южные пределы лесной зоны Восточной Европы как места обитания протофинской общности в эпоху неолита (III тыс. до н. э.» [1, с. 29]. Вполне допустимо в описываемой лексике видеть результаты древнего межъязыкового взаимодействия, однако сложность и неоднозначность материала требует дальнейших разысканий в решении вопросов о причинах и времени возникновения протетического гласного а-.

***Литература***


1. Булкин, В.А. Днепро-Двинская историко-культурная зона по данным археологии / В.А. Булкин // Очерки исторической географии: Северо-Запад России: славяне и финны / под общ. ред. А.С. Герда, Г.С. Лебедева. – СПб.: Изд-во С.-Петерб. ун-та, 2001. – С. 25–30.

2. Гаджиева, Н.З. Тюркские языки / Н.З. Гаджиева // Лингвистический энциклопедический словарь / гл. ред. В.Н. Ярцева. – М.: Советская энциклопедия, 1990. – С. 527–529.

3. Лыткин, В.И. Сравнительная фонетика финно-угорских языков. Основы финно-угорского языкознания (вопросы происхождения и развития финно-угорских языков) / В.И. Лыткин. – М.: Наука, 1974. – С. 108–213.

4. Мельников, Г.П. Системная типология языков: принципы, методы, модели / Г.П. Мельников; отв. ред. Л.Г. Зубкова. – М.: Наука, 2003. – 395 с.

5. Этимологический словарь славянских языков. Праславянский лексический фонд / под ред. О.Н. Трубачева. – М.: Наука, 1974. – Вып. 1. – 214 с.

6. Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. – Мінск: Навука і тэхніка, 1978. – 440 с.


***А.Г. Міхалевіч, Н.Р. Мордас*** (Мінск, Беларусь)

## СПЕЦЫФІЧНЫЯ ФІГУРЫ ЭКСПРЭСІЎНАГА СІНТАКСІСУ Ў БЕЛАРУСКАЙ МАСТАЦКАЙ ПРОЗЕ

Любы мастацкі, у тым ліку і празаічны, твор уяўляе сабой арганічнае адзінства інфарматыўнага і эмацыянальна-экспрэсіўнага аспектаў. Для выражэння ў пісьмовай форме гэтага адзінства выкарыстоўваюцца шматлікія сродкі, кожны з якіх у залежнасці ад мэты паведамлення выконвае разнастайныя функцыі. Паколькі мова мастацкай літаратуры нярэдка вызначаецца актыўным узаемадзеяннем, з аднаго боку, з нарматыўна ўсвядомленай літаратурнай мовай, а з другога – з вуснымі гаворкамі, то ў сучаснай беларускай прозе атрымалі заканамернае пашырэнне экспрэсіўныя сродкі размоўнага (гутарковага) стылю.

Лінгвістычныя даследаванні апошніх гадоў паказалі, што мову сучаснай мастацкай прозы вызначае шырокае ўжыванне згаданых адзінак на сінтаксічным узроўні. Адна з прычын таго, несумненна, у ідэйна-тэматычнай накіраванасці твораў: многія з іх прысвечаны паказу гістарычнага мінулага і сучасных праблем беларускай вёскі, што аб'ектыўна патрабуе ад празаікаў ствараць ілюзію рэальнага жыцця, народных характараў і быту. Для рэалізацыі гэтага сучасныя празаікі выпрацавалі своеасаблівы

падыход да кампазіцыйнага афармлення раманаў і аповесцей, максімальна наблізіўшы апавяданне да персанажа. Зараз назіраецца тэндэнцыя распаўсюдзіць пазіцыю цэнтральнага героя на ўсе канструктыўныя элементы твора. Адлюстраванне рэчаіснасці ў такім ракурсе дазваляе не толькі стварыць аб'ектыўнае апісанне, але і спалучыць яго з паказам думак, перажыванняў, пачуццяў героя, а таксама паказаць адну і тую ж з'яву ў розных аспектах, даць магчымасць выказацца розным дзеючым асобам. Акрамя таго, экспрэсіўныя сінтаксічныя адзінкі (асабліва разнавіднасць іх – экспрэсіўныя фігуры) дазваляюць актыўна ўздзейнічаць на чытача. Пры гэтым пад тэрмінам «фігура», запазычаным з лацінскай мовы, мэтазгодна разумець адзін з прыёмаў узмацнення эмацыянальнай выразнасці маўлення, сінтаксічную канструкцыю, якая ў пэўных адносінах адрозніваецца ад агульнапрынятых сінтаксічных нормаў. Традыцыйным з'яўляецца выдзяленне сярод экспрэсіўных сінтаксічных фігур фігур павелічэння ці памяншэння аб'ёму выказвання; фігур размяшчэння і перастаноўкі; уласнарытарычных фігур. Менавіта яны атрымалі пашырэнне ў мастацкай прозе Івана Мікалаевіча Пташнікава, аўтара шэрагу раманаў і аповесцей («Тартак», «Лонва», «Найдорф», «Мсціжы», «Алімпіяда» і інш.), прысвечаных пераважна апісанню падзей Вялікай Айчыннай вайны.

Фігуры павелічэння аб'ёму выказвання вызначаюцца наяўнасцю ў структуры выказвання лішніх з пункту гледжання асноўнай семантыкі элементаў. Такія фігуры ўжываюцца пераважна ў апісанні тых сітуацый, калі асоба, якой належыць паведамленне, ставіць за мэту свядома падкрэсліць эмацыянальны характар асобных моўных кампанентаў ці нават прэдыкатыўных частак, выдзеліць іх інтанацыйна з агульнай плыні гаворкі. Сярод такіх фігур найбольш пашырана сінтаксічная анафара – паўтор у пачатку сказаў. У аўтарскай мове яна выконвае пераважна раздзяляльна-выдзяляльную функцыю і можа паказваць, напрыклад, на працягласць і інтэнсіўнасць дзеяння: *Блішчалі на дарозе ад сонца вінтоўкі і аўтаматы, як чорнае шкло. Блішчалі, што выпацканыя ў дзёгаць, чорныя прыклады. Блішчалі ўгары ў пыле штыкі – нажы – і чорныя скрыначкі на плячах у немцаў, мусіць, з патронамі. Блішчалі каскі, вялікія, з чыгуны, у якіх дома вараць свінням бульбу. Блішчалі плешкі да балтоў на касках, белыя, што вышараваныя ў пяску…* (Найдорф). У мове герояў такая фігура выконвае функцыю выдзялення семантычна важнага кампанента: – *Не лёг бы, брат, на пясок… Не лёг… І не лягу…*(Тартак).

Пашыраным у мастацкай прозе з'яўляецца і анадыплозіс – экспрэсіўная фігура, у якой канец аднаго сказа паўтараецца ў пачатку другога. Для дыялагічнай мовы герояў І. Пташнікава ўласцівы паўтор выказніка ў канструкцыі-адказе, што належыць аднаму і таму герою: – …*Дык знай: на менінгіт каня не спішу. Недагледзеў? Недагледзеў. Адвічай сам* (Мсціжы). У аўтарскай мове такі паўтор дазваляе празаіку перадаць думкі героя ў іх дынамізме, падкрэсліць нязмушанасць і, акрамя таго, даць вычарпальную характарыстыку герою: *Глядзеў Завішнюк на вазоны, на старыя фотакарткі Грасыльдзінай сям'і і думаў. Думаў зусім пра другое: пра лес, пра Сырніцу…* (Лонва).

Нярэдкім з'яўляецца і спецыфічнае выкарыстанне анадыплозісу: у складзе састаўнога іменнага выказніка аўтар змяняе мадальнасць выказальнага слова, выражанага прыметнікам: *Пень быў высокі. Вышэй калена, і дым з яго валіў, што з коміна* (Найдорф). Частым выступае і паўтор кампанентаў у канцы сказаў. Такая сінтаксічная фігура мае месца пераважна ў мове персанажаў для ўзмацнення сэнсавага выдзялення: – *Не ідзі! – Алёша аж крычаў, забыўшыся на ўсё. – Яма ў крыві… Пясок у крыві…* (Найдорф).

Сярод фігур павелічэння аб'ёму выказвання выдзяляецца і сегментацыя. Яна, выконваючы функцыю дадатковай інфарматыўнасці, прадугледжвае раздзяленне канструкцыі на дзве самастойныя часткі, кожная з якіх вызначаецца наяўнасцю адзінак з аднолькавай семантыкай: *Алёша ўбачыў, што рабочыя сядзяць і за сталом – шырокім і доўгім, якія бываюць толькі ў вёсцы на вялікую сям'ю, – мусіць, тыя, што асталяваліся ў Юлькі: чалавек восем* (Найдорф).

Фігуры з памяншэннем аб'ёму выказвання, абумоўленыя тэндэнцыяй да эканоміі моўных сродкаў, дазваляюць максімальна перадаць змест пры мінімальнай затраце моўных сродкаў. Яны праяўляюцца ў структурах са шматлікімі варыянтамі пропуску розных моўных кампанентаў. Да такіх фігур адносіцца эліпсіс: – *На зямлю! Дзяцей на зямлю! – закрычаў Махорка, не чуючы самога сябе, і пабег назад, да падвод* (Тартак). У творах І.Пташнікава пераважаюць эліптычныя канструкцыі з пропускам выказніка, якія ўключаюць дзейнік і акалічнасць месца і выражаюць запытанне: *Алімпіяда тады адразу выкрыкнула ўсё, з чым бегла сюды ўсе пяць вёрст з гакам: – Дзе начальнік паліцыі? Дзе бандзіт?* (Алімпіяда). Такія канструкцыі дазваляюць акцэнтаваць увагу чытача на асабліва важных для разумення ідэйнай задумы аўтара моўных элементах, больш лаканічна аформіць тэкст, падкрэсліць яго рытмамелодыку.

Сярод фігур з памяншэннем аб'ёму выказвання выдзяляецца і асіндэтон – сінтаксічная фігура, у якой прапушчаны злучнікі, што прыводзіць да афармлення бяззлучнікавых канструкцый з галоўным і залежным прэдыкатыўнымі комплексамі: *Немцы пераходзяць цераз дарогу адзін да аднаго, згрудждваюцца, і Жаваранка доўга водзіць мушкай ад кучкі да кучкі, тады ловіць траіх з мінамётамі і мацней прыплюшчвае вока. Хутчэй бы: пачынаюць дрыжаць рукі* (Найдорф). У творах І. Пташнікава пераважаюць двухчленныя бяззлучнікавыя канструкцыі, у якіх залежны прэдыкатыўны комплекс мае прычыннае, тлумачальнае, субстантыўна-азначальнае і дэтэрмінатыўна-часавае значэнні: *Пісем было многа, пасланы яны былі і вялікім людзям, а рашаць павінны былі тут, на месцы – старшыня сельсавета Станіслаў Пракопавіч і Колас, людзей адсылалі да іх. Колас быў за тое, каб бальніцу закрыць: яго бралі ў Плешчаніцы* (Алімпіяда). На стылістычна матываванае ўжыванне бяззлучнікавых канструкцый у розных тыпах моўнага выкладу аказвае ўплыў парадак размяшчэння залежнага прэдыкатыўнага комплексу ў адносінах да галоўнага, а таксама факт супадзення-несупадзення ў іх дэнататаў дзейнікаў.

Да фігур размяшчэння і перастаноўкі адносіцца перш за ўсё парцэляцыя. Гэты прыём экспрэсіўнага сінтаксісу перадае асаблівасці гутарковай мовы, што фарміруецца ў працэсе разгортвання думкі і не з'яўляецца загадзя абдуманай. Як сінтаксічная адзінка, цесна звязаная з інверсіяй, парцаляваная канструкцыя самастойна аформлена, хоць сэнсава залежыць ад папярэдняга кантэксту: *Над лесам у тым баку, дзе чырванела неба, ляцелі вароны. Жменькай, памалу-памалу кратаючы крыллем* (Тартак). «*Пойдуць зноў… І на Рабы Калодзеж, і сюды, на Пячное… Дацямна далекавата…» – падумаў Жаваранка, паглядзеўшы на чырвонае сонца над лесам* (Найдорф).

Ужываюцца ў мастацкай прозе і ўласнарытарычныя фігуры, такія як рытарычнае пытанне, рытарычны зварот, перыяд і інш. Мае месца і афармленне няўласна-простай мовы, за кошт чаго паглыбляецца драматызм у паказе пэўных падзей, становіцца больш выразным адлюстраванне самых разнастайных абставін з пункту гледжання розных герояў: *Юзюк недзе ўжо за Дзвінасай. Пайшоў без яе, Тані. Як жа яна магла пайсці з Юзюком… Кінуць у балоце матку? Мала што ў балоце людзі…Як гэта пайсці ўдваіх з Юзюком? Каб усе відзелі?..* (Тартак).

Праведзены аналіз дазваляе сцвярджаць, што беларуская мастацкая проза характарызуецца разнастайнасцю экспрэсіўных стылістычных фігур, за кошт чаго аўтары дасягаюць пастаўленых мэт, ствараючы гарманічныя паводле зместу і формы творы.

***Е.О. Мочалова*** (Гродно, Беларусь)

## СТРУКТУРНО-СЕМАНТИЧЕСКАЯ ХАРАКТЕРИСТИКА НАИМЕНОВАНИЙ ЛИЦА ПО РОДУ ДЕЯТЕЛЬНОСТИ
### (на материале русского и английского языков )

Цель данной работы заключалась в определении и сопоставлении основных семантических и структурных характеристик наименований лица по роду деятельности в русском и английском языках.

Материалом для исследования послужили 638 русских единиц наименований лица, выявленных с помощью «Большого толкового словаря русских существительных» под редакцией Л.Г. Бабенко и 628 английских единиц, отобранных из Oxford ADvanced Learner's Dictionary.

Нами было выделено 16 основных тематических групп наименований: сельское хозяйство, производство, техника, военная служба, медицина, строительство, сфера обслуживания, транспорт, наука, искусство, средства массовой коммуникации, экономика, социальные отношения, управление, политика, право. Затем было проведено сравнение общего количества единиц наименований лица в трех сферах деятельности (производной, непроизводной и бытовой) в английском и русском языке.

Расхождения в общем количестве единиц в каждой из сфер деятельности составляют менее 10 % (в производственной сфере в английском языке мы выявили

217 лексических единиц, что превышает количество русских (200 наименований лица), в бытовой – 56 и 53 соответственно, а в непроизводственной сфере, наоборот, количество русских единиц (385 наименований) превышает количество английских (355). В области производства, сельского хозяйства, медицины, сферы обслуживания, науки, средств массовой коммуникации количество единиц в английском языке превышает количество единиц в русском языке (в пределах 4–6 %). В сферах техники, транспорта, искусства, экономики, управления, политики количество единиц в русском языке больше, чем в английском (в пределах 6–7 %), а в сферах военной службы, строительства, социальных отношений и права – равное.

Проведенное исследование семантической составляющей наименований лиц по роду деятельности в русском и английском языках показало, что тематические группы наименований лиц по роду деятельности в сопоставляемых языках демонстрируют как сходства, так и национально-специфические различия.

Так, например, в английском языке отсутствуют такие наименования лиц по роду деятельности, как *дальнобойщик*, *краснодеревщик, саловар, бульдозерист, комбайнёр, газовик*. В свою очередь в русском языке отсутствуют такие наименования, как *carder* – «чесальщик, ворсильщик», *stone-cutter – «каменотес», bagger – «упаковщик в мешки», packer – «упаковщик», presser – «гладильщик, гладильщица», repairer – «специалист по ремонту», digger – «землекоп», ground-man, former – «слowолитчик»* и т. д. Сходства заключается в аналогичной семантической структуре тематических групп и подгрупп в сферах деятельности.

В обоих языках морфолого-синтаксический способ образования лексических единиц со значением «деятель» является наиболее распространенным (15 % от общего количества рассматриваемых наименований лиц). В английском языке морфологический способ более частотный, чем в русском языке (18 % и 7,7 % соответственно), однако в русском языке наиболее частотным способом номинации являются заимствования (21 %). Низкий процент (менее 1 %) заимствованных наименований лица связан с процессами глобализации английского языка на современном этапе развития.

Было выявлено, что в обоих языках суффиксальный способ номинации данных лексических единиц является доминирующим. В английском языке такова роль принадлежит суффиксу *-er*, в русском − суффиксам *-ер, -щик, -ик, -ник, -тель, -ист, -чик*.

В ряде сфер деятельности суффиксальные наименования образованы при помощи генетически родственных суффиксов. Так, для сфер науки и искусства самыми продуктивными для обоих языков оказались суффиксы *-er (-ер) и -ist (-ист).*

Наибольшей продуктивностью английский суффикс -ist обладает при образовании наименований лица по его научным интересам, специализации – 60 % лексических единиц. Доля существительных, со значением человека, занятого в сфере искусства, образованных с использованием суффикса *-ist / -ист* в английском и русском языках

совпадает – по 40 %. Вторым по частотности при образовании данных групп номинативных единиц в обоих языках является суффикс *-er / -ер*. В английском языке суффикс *-er* (и его вариант *-or*) встречается почти в 30 % случаев, для русского это значение – 10 %.

Сопоставляя изучаемые единицы по структуре, можно сказать, что не всегда русскому однословному наименованию соответствует однословное английское. Например: *landscape – painter – пейзажист, child-minder – няня, white-collar worker – служащий*.

Английскому суффиксальному может соответствовать бессуффиксальное: *dentist – стоматолог, gardener – садовод, geneticist – генетик.*

Сложные существительные: *cattle-breeder, bee-keeper, poultry-farmer, fruit-grower* не нашли полного соответствия в русском языке, им соответствуют сложные существительные с соединительной гласной – о – *скотовод, пчеловод, птицевод, плодовод*.

Сложные английские существительные типа *stone mason, repair man, black smith, fore man, dress maker, hair dresser, watch man*, не имеют однотипных соответствий в русском языке: *каменщик, часовщик, ремонтник, кузнец, портной, парикмахер*.

Возрастающее количество сложных и составных наименований лица связан с активными процессами преобразования наименований лиц по роду деятельности в политкорректные. Данная тенденция становится не только характерной для английского языка, но все более значимой для русского.

В обоих сравниваемых языках наблюдается тенденция к экономии языковых средств, интеллектуализации наименований. В русском языке – к усложнению состава терминологии, дифференциации и специализации обозначений.

***Литература***

1. Большой толковый словарь русских существительных / под ред. Л.Г. Бабенко. – М.: АСТ-ПРЕСС КНИГА, 2005. – 864 с.

2. Longman Dictionary of English Language and Culture. – Longman Group UK Limited, 1992. – 1528 p.

3. Oxford ADvanced Learner's Dictionary. – Oxford UK Limited, 1998. – 1618 p.

***Л.М. Надумович*** (Минск, Беларусь)

## РАЗВИТИЕ СЕМАНТИКИ СЛОВОСЛОЖЕНИЙ В РУССКОМ ЯЗЫКЕ

Роль слов со сложной основой в эволюции языка исторически изменчива. В древнерусском и старорусском языках их относят преимущественно к изобразительным средствам высокого стиля, и в этой связи в первую очередь приводят сложения с начальными *благо-, бого-, зло-, добро-, веле-, все-* и др. Возрождение в русском языке XX–XXI столетий вышедших из употребления сложений тесно связан с процессом неологизации лексики. В последние годы стали активизироваться прежде всего лексемы, относящиеся к общественно-политической сфере. Среди них можно отметить группу слов с начальным компонентом *благо-*: *благополучие, благоденстви*е (в СРЛЯ

имеет помету «устаревающее»), *благотворительность, благоразумие, а также слова милосердие, правопреемница, миротворческий* и др.

В семантическом плане показательна история композит с корневым компонентом *благ-* (корневая морфема *благо-* занимает ведущее место по частотности употребления в словах со сложной основой русского языка XI–XVII вв.). Она позволяет раскрыть, как с помощью рассматриваемых единиц репрезентируются в древнерусском, старорусском, церковнославянском и современном русском языках определенные ценностные ориентиры.

По утверждению А.А. Плаховой, языковая картина мира современного русского языка, в отличие от языковой картины мира церковнославянского языка, не теоцентрична, а антропоцентрична [2, с. 21]. В лексике не зафиксировано многих сложных слов с корнем *благ-*, и при этом из соответствующих церковнославянским русских слов только единичные не изменили своего значения (*благоволити* / *благоволить* ‘быть расположенным, относиться доброжелательно, оказывать милость, любезность’, *благовременїе* / *благовремение* ‘удобный случай подходящее время’ (ср. в белорусском языке: *благі час* ‘нядобры час, ліхая гадзіна’), *благоденствїе* / *благоденствие* ‘благополучие, счастливая жизнь’).

В отношении семантического поля «Человек» в церковнославянском языке выделены следующие личные наименования: *Благо, благовестникъ, благогласникъ, Благодавецъ, благодарственникъ, благодатель (благодетель), благодельникъ, Благопременитель, благотворецъ, благочинный, блаженный.*

Современный русский язык предполагает следующие наименования лица с корнем *благ-*: *благоверный, благодетель (благодетельница), благотворитель (благотворительница), благочинный, блаженный, блажной*.

В церковнославянском языке среди личных имен выделяются именования Бога. При этом указанные именования не могут быть отнесены ни к какой иной лексико-семантической группе, так как Бог является Личностью. К наименованиям Бога относятся: *Благо, Благодавецъ, Благопременитель* (ср. благопременныи ‘легко изменяющийся’). Тот факт, что ни одно из них не имеет соответствия в современном русском языке, свидетельствует об изменении языкового сознания народа от тео- к антропоцентризму. Это отражается в языковой картине мира современного русского языка [2, с. 22].

Лексемы *благодавецъ* и *благодатель*, несмотря на образование от двух одинаковых корней, в церковнославянском языке не являются абсолютными синонимами, ср.: *благодавец* ‘податель благ’ (в большинстве же случаев для именования Бога) и *благодатель* ‘благодетель, благотворитель, лицо, оказывающее кому-л. покровительство, помощь, услугу’ (как характеристика человека, которая, однако, может быть использована и в отношении Бога). А.А. Плахова полагает, что в подобных случаях при совпадении денотатов имеются различные сигнификаты существительного *благо* и глагола *дать, давать*. В семантике слова *благодавецъ*

корень *благ-* актуализирует сему ‘добро, доброе деяние, польза’ (нечто способное приблизить к Богу), а глагольный корень – сему ‘сделать возможным что-л. для кого-л.’. В значении слова *благодатель* корень *благ-* актуализирует иной компонент – ‘добро, доброе деяние, польза как нечто утилитарное, материальное’. *Благодатель* (благодетель) – благодетель, благотворитель, лицо, оказывающее кому-л. покровительство, помощь, услугу [2, с. 22].

В древнерусском и старорусском языках значение слов *благодавец* и *благодатель* понимается более широко. Наряду со словообразовательными вариантами *благодатникъ, благодательникъ, благодетель, благодетельникъ, благотворецъ, благотворитель* они обозначают ‘того, кто делает другим добро’. Ср. в старобелорусском языке: *благодетель* ‘добролетель, добро’ (*Чини благодетель пред всякимъ живымъ*. Скар. IC, 15б) [1, с. 30].

Нельзя обойти вниманием одну особенность: если в старославянском и церковнославянском языках в семантике слов *благодавецъ* и *благодетель* ощутима связь с опорными словами (в данном случае *давецъ* ‘того, кто дает’ и *детель* ‘создатель, строитель’, ‘Создатель, Творец – о Боге’), то в русском языке XI–XVII вв., как показывают вышеперечисленные варианты, она утрачена.

В современном русском языке из единиц указанного синонимичного ряда сохранились только две лексемы (причем с пометой «устар.»): *благодетель* ‘лицо, оказывающее кому-л. покровительство, помощь, услугу’ и *благотворитель* ‘тот, кто занимается благотворительностью’. Кроме различия в семантическом объеме данных слов (*благодетель* шире, чем *благотворитель*, значение последнего – лишь семантический компонент в смысловом содержании слова *благотворитель*), лексема *благодетель* может в контексте оказываться средством отрицательной оценочной характеристики, а особенно ярко – в сочетании *благодетель рода человеческого*. В подобных контекстах исследуемый корень начинает актуализировать сему ‘нечто идущее во вред тому, на кого направлено действие’. Еще на одном существенном различии между *благодетель* и *благотворитель* акцентирует внимание А.А. Плахова – на активности функционирования: согласно данным Национального корпуса русского языка, слово благотворитель употреблено в 189-ти контекстах, тогда как благодетель в 8,5 раз чаще (1600 контекстов). Значительно менее частотны слова *благодетельница* и *благотворительница*: соответственно 218 и 38 употреблений в контекстах. Характерно, что подобные наименования лиц женского пола отсутствуют в церковнославянском языке. Православная культура патриархальна, в общественной жизни православия роль женщины, как правило, второстепенна, что и фиксирует состав подобных лексических единиц с корнем *благ-* [2, с. 23].

В современном русском языке почти половина единиц исследуемой группы стилистически окрашена: 43 % составляют устаревшие или устаревающие слова, 2 % слов имеют разговорный оттенок.

Проведенное исследование позволяет говорить о том, что семантика слов с начальным *благ-* расширилась. Часть слов утратила непосредственную связь с исходным понятием. При этом отдельные лексемы изменили свое значение до противоположного, что связано с секуляризацией русской культуры.

***Литература***


1. Гістарычны слоўнік беларускай мовы. – Мінск: Навука і тэхніка, 1982–2001. – Вып. 1–20.
2. Плахова, А.А. Слова с корнем БЛАГ- в церковнославянском и современном русском языках: автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.02.01 / А.А. Плахова; Московский государственный областной университет. – М., 2009. – 26 с.
3. Словарь русского языка XI–XVII вв. / гл. ред. Г.А. Богатова. – М.: Наука, 1975–2000. – Вып. 1–24.
4. Словарь современного русского литературного языка: в 20 т. – М.: Русский язык, 1991. – Т. 2. – 960 с.
5. Словарь церковно-славянского и русского языка, составленный Вторымъ отд-ниемъ имп. Акад. наук: в 4 т. – СПб., 1847. – Т. 1–4.
6. Срезневский, И.И. Словарь древнерусского языка: в 3 т. / И.И. Срезневский. – Т. 1–3. – М.: Книга, 1989.
7. Старославянский словарь (по рукописям X–XI вв.) / под ред. Р. Цейтлин, Р. Вечерки, Э. Благовой. – М.: Рус. яз., 1994. – 842 с.


***Т.В. Никитенко*** (Витебск, Беларусь)

## МОРФЕМНАЯ ДЕРИВАЦИЯ КАК ОДИН ИЗ ИСТОЧНИКОВ ФОРМИРОВАНИЯ ЭМОЦИОНАЛЬНО-ОЦЕНОЧНОЙ ЛЕКСИКИ РУССКОГО ЯЗЫКА В XVIII ВЕКЕ

XVIII в. для истории русского языка явился переломным, поскольку процессы, происходившие в XVIII в., заложили основу современного русского литературного языка на национальной основе.

Ю.С. Сорокин отмечал одну из особенностей языка XVIII в. – это «словесный эксперимент», результатом которого стали многочисленные образования новых слов, чаще всего от известных церковно-русских основ с помощью известных словообразовательных формантов [1, с. 36].

Большинство из зафиксированных нами эмоционально-оценочных (далее ЭО) аффиксальных дериватов – это суффиксальные производные. Следует отметить количественную представленность ЭО производных с формантом *-щина,* пр.: *иностранщина* (СлРЯXVIII в., вып. 9, с. 99); *самодельщина* (САР², VI, стлб. 19).

Среди зафиксированных ЭО единиц выделяются предикаты, у которых в качестве объекта оценки выступает **человек.** В большинстве своем – это суффиксальные дериваты, мотивированные оценочной семантикой производящих слов, пр.: *кляузник* (САР¹, III, стлб.659); *мазила* ‘тот, кто плохо, неумело рисует, пишет’ (СлРЯXVIII в., вып. 12, с. 35); *кропатель* ‘тот, кто кропает (сочиняет, пишет)’; (СлРЯXVIII в., вып. 11, с. 34); *мерзавец* (СлРЯXVIII в., вып. 12, с. 135); *подлец*’ подлый, низкий, бесчестный человек’ (Черных, II, с. 49); *смутьян* (САР², VI, стлб. 273).

Регистрируются также ЭО сложные слова, которые представляют собой метафорически осмысленную целую ситуацию, редуцированную до двух корней сложного слова, пр.: *бумагомаратель* (СлРЯXVIII в.; вып. 2, с. 165); *краснобай* (СлРЯXVIII в., вып. 10, с. 234); *крючкотвор* (САР¹, III, стлб. 1045; *лизоблюд* (СлРЯXVIII в., вып. 11, с. 174–175).

Среди глаголов выделяются словообразовательные дериваты, образованные от оценочных производящих основ, пр.: *кляузничать*(САР[1], III, стлб. 659); *обезьянничать* (СлРЯXVIII в., вып. 15, с. 226).

В разговорной речи оформлялись многие оценочные единицы. Некоторые современные ЭО слова в XVIII в. классифицировались как «простонародные» и употреблялись в речи низших социальных слоев, пр.: *брехня* 'вранье, вздор' (СлРЯXVIII в., вып. 2, с. 139); *краснобай* (САР[2], III, стлб. 379); *крючкотвор* (САР[2], III, стлб. 462); *прожрать* 'проесть' (САР[1], II, стлб.1193).

Просторечные слова были наделены экспрессией грубости или фамильярности; особенно часто употреблялись в простых сниженных литературных жанрах. Просторечные слова принадлежали общей разговорной речи. Как «просторечные» в XVIII в. квалифицировались такие современные ЭО единицы: *безмозглый* (СлРЯXVIII в., вып. 1, с. 177); *дурень* (СлРЯXVIII в., вып. 7, с. 32); *обожраться* (СлРЯXVIII в., вып. 16, с. 33).

Как отмечает Г.П. Князькова, простонародные и просторечные слова образовывались по одним и тем же моделям, и часто применялись для отрицательной характеристики предметов и явлений [2, с. 17–18]. Простонародная и просторечная лексика не была ограничена локально в употреблении, а социальная ограниченность многих простонародных слов не подтверждается многими памятниками XVIII в. [2, с. 17–18]. Это подтверждается, в частности, в некоторых случаях несовпадением в употреблении помет *простонар.* и *простор.* в Словаре XVIII века и Словарях Академии (1789–1794; 1806–1822). Ср.: *образина* 'безобразное, отталкивающее лицо' маркируется как просторечное (СлРЯXVIII в., вып. 16, с. 59) и как простонародное (САР[1], IV, стлб. 589–590; САР[2] IV, стлб. 104); *лизоблюд* – просторечное (СлРЯXVIII в., вып. 11, с. 174–175), простонародное (САР[2] III, стлб. 558).

В результате проведенного исследования выяснено, что словообразование являлось вторым по значимости (26,0 %) после семантических изменений (62,6 %) источником пополнения ЭО слов, датируемых XVIII в. и сохранившихся в современном употреблении.

***Принятые сокращения***

**САР[1]** – Словарь Академии Российской: в 6 ч. / сост. Д.И. Фонвизин [и др.]. – СПб.: Императ. Акад. наук, 1789–1794. – 6 ч.; **САР[2]** – Словарь Академии Российской, по азбучному порядку: в 6 ч. – СПб., 1806–1822. – 6 ч.; **СлРЯ XVIII в**. – Словарь русского языка XVIII века: в 16 вып. / Акад. наук СССР, Ин-т рус. яз.; редкол.: Ю.С. Сорокин (гл. ред.) [и др.]. – Л.: Наука, Ленингр. отд-ние, 1984–2006. – 16 вып.

***Литература***

1. Сорокин, Ю.С. О «Словаре русского языка XVIII века» / Ю.С. Сорокин // Материалы и исследования по лексике русского языка XVIII века / АН СССР; Ин-т русс.яз. – Л.; М.: Наука, Ленингр. отд-ние, 1965. – С. 5–42.

2. Князькова, Г.П. Русское просторечие второй половины XVIII в. / Г.П. Князькова. – Л.: Наука, Ленингр. отд-ние, 1974. – 253 с.

3. Черных, П.Я. Историко-этимологический словарь современного русского языка: в 2 т. / П.Я. Черных. – 3-е изд., стереотип. – М.: Рус. яз., 1999. – 2 т.

***А.З. Ножак*** (Чарніўцы, Украіна)

## ВЫДАВЕЦКАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ НА БУКАВІНЕ (У ДАДРУКАРСКІ ПЕРЫЯД)

Выдавецкая справа займае асаблівае месца ў гісторыі народа, дзяржавы, этнаграфічнага рэгіёна. Гэта адна з галін чалавечай дзейнасці, якая адлюстроўвае якасны ўзровень грамадскай камунікацыі, культурны і інтэлектуальны ўзровень насельніцтва. А паколькі адукаваная нацыя з'яўляецца асновай для развіцця дзяржавы, то стварэнне кніг – адна з найбольш важных крыніц падтрымкі палітычнай і нацыянальнай незалежнасці любога соцыуму.

Калі весці гаворку пра Букавіну – асобную частку ўкраінскіх этнічных земляў, размешчаных паміж сярэднім цячэннем Днястра і галоўным Карпацкім хрыбтом, варта зазначыць, што гэтая тэрыторыя на працягу многіх стагоддзяў уваходзіла ў склад розных дзяржаўных утварэнняў, апыняючыся то на поўдні дзяржавы, то на ўсходзе, то на поўначы, а цяпер – і на захадзе. Такім чынам, для насельніцтва Букавіны стварэнне кніг (напісанне, а потым друкаванне) было не толькі культурным працэсам, але і такім, які стымуляваў працэсы нацыянальнага і дзяржаўнага будаўніцтва грамадства.

Часовыя рамкі нашага даследавання – ад пачатку стварэння грамат і летапісаў на Букавіне (XIV ст.) да 1799 г., калі ў Чарніўцах была адкрыта першая друкарня, – абраныя для таго, каб прааналізаваць перадумовы і крыніцы ўзнікнення кнігадрукавання ў краі.

Украінскае кнігадрукаванне ў розныя перыяды гісторыі развівалася па-рознаму. Найбуйнейшымі ўкраінскімі цэнтрамі друкавання (пра некаторыя з іх як пра беларуска-ўкраінскія пісаў І. Агіенка [9]), пачынаючы з XVI ст., былі Львоў, Астрог, Заблудаў і Пшэмысль (цяпер Польшча), Пачаеў, Кіеў, Чарнігаў [9; 15; 8; 10]. Развіццё кнігадрукавання на Букавіне пачалося адносна позна – толькі напрыканцы XVIII ст., калі край увайшоў у склад Аўстрыйскай імперыі. Месца друкаванай кнігі доўгі час займалі пісьмовыя помнікі: летапісы, граматы, дыпламатычная перапіска, набажэнскія кнігі, перапісныя зборкі. Значны ўклад у вывучэнне гэтых пісьмовых помнікаў зрабіў вучоны-лінгвіст родам з Букавіны Міхаіл Станіўскі (даследаваў мясцовыя помнікі ўкраінскай мовы). Славянскую пісьмовую спадчыну Малдоўскага княства XIV–XVII стст. (у склад якога ўваходзіла і Букавіна) ён падзяліў па жанравых прыкметах на дзелавыя дакументы (граматы, дыпламатычная перапіска і г. д.), летапісы, набажэнскія кнігі, а таксама царкоўную і свецкую прозу [14, с. 6–7]. Таксама вывучэннем рукапіснай кнігі ў краі займаліся А. Жукоўскі, У. Малышаў, К. Герман, У. Вазнюк, А. Масан, У. Старык і інш.

Як адзначаюць даследчыкі, першыя літаратурныя знаходкі на тэрыторыі Букавіны напісаны на царкоўнаславянскай мове, з перавагаю рысаў украінскай мовы [5; 7, с. 178; 3, с. 66]. Тое, што ў Малдоўскім княстве афіцыйнай мовай была славянская (а дакладней кажучы – старажытнаўкраінская), лічыцца вынікам «*успадкування Молдовою писемної традиції Галицько-Волинського князівства, яке в XI–XIII століттях володіло землями між Карпатами, Дністром і Дунаєм*» [5, с. 102].

Каштоўнымі помнікамі пісьмовай культуры Букавіны XV – пачатку XVI ст. з'яўляюцца так званыя славяна-малдоўскія летапісы, якія складаліся ў манастырах Путна і

Быстрыца, а таксама ў Сучаве (сёння – на тэрыторыі Румыніі). У іх апісваюцца некаторыя падзеі з гісторыі Букавіны і Хатыншчыны, у прыватнасці бітвы з палякамі, татарамі і г. д. А самымі распаўсюджанымі творамі былі царкоўныя кнігі (Біблія, Евангелле, апокрыфы). Такія творы перапісваліся ад рукі, як гэта зрабіў у 1504 г. святар Ігнат з Кіцманя, які скапіраваў Евангелле [3, с. 66]. З распаўсюджваннем кнігадрукавання рукапісная кніга ўсё яшчэ займала вядучае месца ў культурным жыцці букавінцаў з прычыны аддаленасці іх ад друкарскіх цэнтраў. Зрэдку набажэнскую літаратуру прывозілі сюды з Львова, Пачаева, Вены, Масквы, а таксама Трансільваніі і Валахіі.

Каштоўным даследаваннем для гісторыі ўкраінскага рукапісання з'яўляецца кніга М. Баяніўскай «Переписувачі книжок як культурні діячі України: XV – перша половина XVII ст.», дзе на аснове вывучэння рукапісаў, апісанняў бібліятэк аўтар падала алфавітны пералік майстроў перапісвання, сярод якіх можна адшукаць і букавінцаў. Так, можам даведацца, што напрыканцы XVI ст. у Чарніўцах займаліся перапісваннем прынамсі чатыры чалавекі: Анфім (дзяк, або пісар, які ў 1575 г. пачаў перапісваць Евангелле-тэтр і падарыў яго пасля Чарнівецкай царкве) [2, с. 4], Марко Завадоўскі (прафесійны пісар, які ў 1593 г. склаў зборнік «Зерцало живота вечнаго») [2, с. 21], Марцін Васевіч (прафесійны пісар, які ў 1590 г. у адным з манастыроў паўднёвай Букавіны перапісаў Евангелле-тэтр) [2, с. 21] і Стэць (Стэфан, дзяк, які ў 1584 г. таксама перапісаў Евангелле-тэтр) [2, с. 29].

Аб тым, што пісьменства і чытанне на Букавіне былі распаўсюджаны і мелі гістарычную аснову, сведчыць шэраг крыніц і фактаў. Так, У. Вазнюк указвае на археалагічныя знаходкі са старажытнарускіх часоў на тэрыторыі краю, сярод якіх – прылады для пісьма, прадметы побыту з надпісамі [4, с. 43–44]. Гэта сведчыць не толькі аб распаўсюджванні пісьменнасці, але і пра існаванне пэўнай сістэмы навучання пісьму.

Наступны аргумент на карысць развітой пісьменнасці на тэрыторыі Букавіны – існаванне пасады дзяка (што азначала не служыцеля царквы, а пісара) пры ўладных структурах. У часы малдоўскага валадарства (XIV–XVIII стст.) гарадскі савет Чарніўцоў сведчыў або выдаваў граматы для насельніцтва аб валоданні нерухомасцю, продажы або набыцці зямлі, рабіў іншыя дакументы. Найстарэйшы з іх – з 1447 г., датычыцца ён польска-малдоўскіх адносін. Арыгінал гэтай граматы захоўваецца ў Галоўным архіве старажытных апісанняў у Варшаве [12, с. 47]. Наступныя акты, якія былі створаны на Букавінскіх землях, дайшлі да нас з канца XVI – пач. XVII ст.

Яшчэ адзін доказ пісьменства і здольнасці рабіць выдавецкую справу – перапісы насельніцтва 1772 і 1774 гг. Нягледзячы на сцвярджэнні некаторых гісторыкаў пра тое, што да канца XVIII ст. народ на Букавіне жыў цёмны [1, с. 137; 6, с. 5], букавінцы ўласнаручна падпісваліся ў перапісных дакументах. Як сведчыць пратакол 1878 г., у школах дзяк вучыў дзяцей з больш заможных сем'яў чытаць, лічыць, спяваць псалмы [13, с. 135]. Пісьменнымі былі ўсе святары, шляхцічы, гарадскія чыноўнікі, нават рамеснікі. Некаторыя падпісваліся па-нямецку.

Варта зазначыць, што рукапісанне на Букавіне не спынілася і пасля адкрыцця друкарні ў 1799 г. Але калі ў папярэднія стагоддзі перапісванне і стварэнне дакументаў

выконвала асветніцкую і службовую ролю, то ў XIX ст. яно было хутчэй імкненнем запоўніць нішу – у той час пустую – «лубачнай», хатняй літаратуры. У 1806 г. вучань гімназіі Іван Велягорскі склаў такі рукапісны зборнік, куды змясціў дзве вясельныя прамовы, шэсць рэлігійных песняў, дванаццаць свецкіх [11, с. 178]. У такім маленькім зборніку змясціліся тэксты на малдоўскай, царкоўнаславянскай (перамешанай з украінскай, польскай), гутарковай украінскай, рускай мовах, адлюстроўваючы такім чынам рэаліі жыцця народа, які знаходзіўся пад уплывам гістарычных змяненняў уладароў, быў сведкам пераходу чужых войскаў, але і не забываўся аб развіцці ўласнай культуры.

Вядомыя і іншыя, у прыватнасці з 1820–1830 гг., перапісванні папулярных гісторый, заснаваных часткова на апокрыфах, народных легендах, часткова на сярэднявечнай рамантычнай прозе. Гэтыя перапісванні, як разважае В. Макавей, былі «*спадщиною ще по прадідах, у котрих така набожна, моралізаторська література заступала теперішні часописи і книжки*» [11, с. 179]. Магчыма, гэта своеасаблівае «*завмирання*» над спадчынай прадзедаў было адной з прычын таго, што першая друкаваная ўкраінская кніга на Букавіне з’явілася ажно ў 1848 годзе, а сістэматычнае кнігадрукаванне пачалося яшчэ пазней – у 80-х гг. XIX ст.

Праблема заключаецца яшчэ і ў тым, што з часоў Малдоўскага княства і ажно да сярэдзіны XIX ст. Чарніўцы асацыяваліся галоўным чынам з гандлем і земляробствам. Горад не быў значным культурным, прамысловым або гандлёвым цэнтрам, а з прычыны поліэтнічнасці край не выяўляў якога-небудзь адзінага стрыжня: славянскае насельніцтва Букавіны цягнулася да падалян і галічан (на поўнач і ўсход), усходнераманскае – да малдаван і валохаў (на поўдзень). Такім чынам, гістарычныя абставіны ў пэўнай ступені запавольвалі развіццё кнігадрукавання, працягнуўшы ў часе рукапісанне, тады як на іншых землях рукапісная кніга даўно ўжо знікла. Спрыяльнымі для букавінцаў сталі толькі пазнейшыя часы – другая палова XIX ст., калі выдавецкая справа стала выяўленнем нацыястваральных матываў і рухавіком нацыянальнага развіцця.

***Літаратура***


1. Ботушанський, В. Розвиток народної (початкової) освіти в Чернівцях наприкінці XVIII – на початку XX ст. / Василь Ботушанський // Буковинський журнал. – 2008. – № 3. – С. 137–146.
2. Боянівська, М. Переписувачі книжок як культурні діячі України: XV – перша половина XVII ст. / Марта Боянівська. – Львів, 1994. – IX, 44 с.
3. Буковина : історичний нарис / [редкол.: С.С. Костишин (гол.) та ін.]. – Чернівці: Зелена Буковина, 1998. – 416 с.
4. Вознюк, В. До джерел культури Буковини: кн. І / Володимир Вознюк; наук. ред. А.М. Добрянський. – Чернівці: Рута, 2002. – 128 с.
5. Герман, К.Ф. Буковинсько-молдавські грамоти XIV – XVII століть – пам’ятки староукраїнської мови / К.Ф. Герман // До витоків назви краю Буковина (600-річчя першої писемної згадки): тези доповідей та повідомлень II Буковинської історико-краєзнавчої конференції, Чернівці, 2–3 жовтня 1992 р. / [ред. кол.: Ю.І. Макар та ін.]. – Чернівці: [ЧДУ], 1992. – С. 101–102.
6. Дмитрів, Є. Ілюстрована історія Просвітного Товариства «Руска Бесїда» в Чернівцях (1869 – 1909) / Євгеній Дмитрів. – Чернівції: «Руска Рада», 1909. – 126 с.

7. Жуковський, А. Історія Буковини / А. Жуковський // Буковина: її минуле і сучасне / під ред. д-ра Д. Квітковського, проф. Т. Бриндзана, А. Жуковського. – Париж; Філядельфія; Детройт: Зелена Буковина, 1956. – С. 63–420.

8. Запаско, Я. Початки українського друкарства / Яким Запаско, Орест Мацюк, Володимир Стасенко. – Львів: Центр Європи, 2000. – 222 с.

9. Іларіон (Іван Огієнко; митрополит). Історія українського друкарства / Іван Огієнко (Митрополит Іларіон) ; упор., передм. М. Тимошик. – К.: Наша культура і наука, 2007. – 536 с. – (Вид. проект «Запізніле вороття»; сер. 2 «Зарубіжні першодруки»; т. 6).

10. Лотоцький, О. Українське друковане слово / О. Лотоцький // Українська культура: лекції / за ред. Дмитра Антоновича, упор. С.В. Ульяновська. – К.: Либідь, 1993. – С. 98 – 111.

11. Маковей, О. Життєпис Осипа Юрія Гординського-Федьковича / Осип Маковей; за ред. Б.І. Мельничука, Л.М. Ковалець, О.В. Добржанського, К.М. Лук'янюка. – Чернівці: Золоті литаври, 2005. – 432 с.

12. Масан, О. Цецинська держава (З історії давньої чернівецької околиці) / Олександр Масан // Буковинський журнал. – 2007. – № 1. – С. 47 – 59.

13. Масан, О. Чернівці та чернівчани у світлі переписів 1772 і 1774 рр. / Олександр Масан // Буковинський журнал. – 2008. – № 3. – С. 111 – 136.

14. Станівський, М. Спостереження над мовою буковинсько-молдавських пам'яток XIV – XVIII століть / М.Ф. Станівський // Наукові записки Чернівецького державного університету. – Т. 31, серія філол. наук. – вип. 7: питання історії і діалектології східнослов'янських мов. – Чернівці: ЧДУ, 1958. – С. 3–21.

15. Тимошик, М. Історія видавничої справи: підручник / Микола Тимошик. – К.: Наша культура і наука, 2007. – 496 с. – (Книга для видавця, редактора, автора).

***Н.М. Нямковіч, Н.В. Гаўрош*** (Мінск, Беларусь)

## АФАРЫСТЫЧНЫЯ ВЫСЛОЎІ: СІНТАКСІЧНАЯ ФОРМА

Усякае выслоўе двухпланавае: у ім дыялектычна спалучаюцца форма і змест. Паколькі афарызм – гэта надзвычай адметны выраз, лагічна чакаць, што і знешнасць яго – форма – будзе спецыфічная, адметная.

Спачатку (без каментарыяў) толькі выслоўі – няхай чытач атрымае асалоду ад глыбіні думкі, ад ступені аналітычнасці, ад вастрыні бачання свету, ад геніяльнасці прастаты: *Без ворыва не будзе і жніва* (Х. Жычка); *Калі ў жыцці не будзеш плугаром, / Як будзеш ты ад голаду лячыцца?* (Н. Мацяш); *Нябожчыка хаваюць ад жыцця, / Каб больш яно свой доўг не спаганяла* (Р. Барадулін); *Бойся спазніцца са словам харошым: / Тонка прадзецца жыццёвая ніць* (Н. Мацяш); *Вучы дзяцей яшчэ з пялёнак: / Каб не скаціцца пад адхон – / Хай з курганоў тваіх зялёных / Бяруць у заўтрае разгон* (Н. Гілевіч).

Як бачым, усе адзінкі паводле сінтаксічнай структуры – сказы, простыя і розныя віды складаных. З акрэслення сутнасці афарызма відаць, што яго састаўнымі часткамі з'яўляюцца: кароткая, лаканічная, запамінальная форма + абагульненая закончаная думка. Натуральна, што менавіта сказ становіцца галоўным сродкам для выражэння афарыстычнасці: яму ўласціва сэнсавая, інтанацыйная і граматычная завершанасць.

У кожнай сінтаксеме закладзены пэўныя патэнцыі. Так, складаназалежныя і бяззлучнікавыя складаныя сказы з умоўна-выніковымі і прычынна-выніковымі сэнсавымі адносінамі паміж састаўнымі часткамі надзвычай прыдатныя для афармлення афарыстычных выслоўяў, што тлумачыцца самой прыродай афарызмаў: у іх –

назіранні, правілы, прынцыпы, нормы, узоры: *Калі б мы матак не хавалі, / Слёзы не патрэбны б нам былі* (А. Пысін); *Калі відзён ужо канец дарогі, / Ты сам сабе – суддзя і пракурор* (С. Грахоўскі); *Каб нарадзіцца, трэба памерці* (В. Іпатава); *Каб гартавацца, варта быць са сталі* (А. Разанаў); *Не мецьме сейбіт інтарэс – / яму й жняя не адзавецца* (М. Трафімчук); *Сляпому добра ў цьме: / Лягчэй ісці яму дарогаю жабрачай* (А. Гарун).

Афарызм заўсёды лёгка запамінальны. Гэта не толькі з-за яркасці зместу, але яшчэ і дзякуючы прастаце формы. Сапраўдная прастата разумеецца намі дыялектычна, як нешта прама супрацьлеглае прымітыўнасці. Мастацкая прастата, на думку Ю. Лотмана, заўсёды больш складаная, чым мастацкая складанасць. Афарызм заўсёды глыбокі сваім зместам. І калі аўтару ўдаецца выказаць гэту глыбіню ў яркай, лаканічнай форме, тады і рэалізуецца дыялектычнае адзінства формы і зместу.

Усё пазнаецца ў параўнанні. Пісьменнікі – вечныя вучні жыцця – спрабуюць акрэсліць пэўныя ісціны праз паралелі. Гэта дае магчымасць сканцэнтраваць у адной сінтаксеме – сказе – большы аб'ём зместу: *Ад зерня – колас, ад слова – мова* (Э. Акулін); *Гэта ўсё на небе дасканала, / На зямлі адметны толькі скон* (Р. Барадулін); *Паэзія ў жыцці, а ў смерці – проза* (Л. Рублеўская).

Як вядома, афарыстычныя выслоўі разнастайныя: гэта і максімы, і сентэнцыі, і апафегмы. Яны, як правіла, перадаюцца праз адпаведную форму, якой уласцівы павучальныя інтанацыі: *Зямлёю, вышыня, не пагарджай* (П. Макаль); *Абыдзіся без жабрацкай скаргі на жыццё* (П. Панчанка); *Вартаўнікі эпохі, спаць не смейце! / Яшчэ скасоўваць варты не пара!* (А. Звонак); *Ешце з голаду, / кахайце змоладу – / іначай вы / – ні к сялу ні к гораду* (А. Вярцінскі). Гэта своеасаблівыя імператыўныя адзінкі. Наданню ім імператыўнасці садзейнічае актыўнае выкарыстанне дзеясловаў у форме загаднага ладу, шырокае ўжыванне аднасастаўных абагульнена-асабовых сказаў, а таксама клічных паводле інтанацыйнага афармлення сказаў. Такія і падобныя граматычныя сродкі дапамагаюць дасягнуць пэўнай мэты – давесці, што сказанае з'яўляецца ісцінай, якой трэба следаваць. Так складаюцца інструкцыі, кодэксы, арыентуючыся на якія людзі жывуць па ўстаноўленых нормах.

Сярод афарыстычных выслоўяў беларускіх пісьменнікаў нярэдкія так званыя рытарычныя пытанні. І гэта лагічна. Жыццё поўнае неразгаданага, таямнічага, неспазнанага. (А ці патрэбны на ўсё адказы?). Праз афарызмы пісьменнікі спрабуюць акрэсліць і гэты аспект быцця, існага і духоўнага, спрабуюць актывізаваць мысленне свайго чытача:

*Добра быць коласам; але шчаслівы той, каму дадзена быць васільком. Бо нашто каласы, калі няма васількоў?* (М. Багдановіч); *Калі раб у веры, дык у чым жа вольны?* (Н. Мацяш); *Дом – крэпасць. Бацькі – крылы. Дзяды – падмурак крэпасці. А калі няма ні крэпасці, ні падмурка, ні крылаў?* (У. Ліпскі).

Зусім нечаканым (афарызмы – адзінкі з абагульненым зместам!) бачыцца ўжыванне ў афарыстычных выслоўях зваротаў, якія, на першы погляд, звужаюць афарыстычны

аб'ём: ***Браток***, *Ямелю не зваляй!* ***Сястра***, *не зблоць Жанчыны!* (Я. Янішчыц); *Вярні нам Бацькаўшчыну нашу,* ***Божа***, */ Калі ты Цар і неба, і зямлі* (Янка Купала); ***Гадоў неўгамонных імклівы экспрэс***, */ Спыніся хоць... на павароце* (А. Бачыла); *Жывіце,* ***людзі добрыя***, *буйней, і цешцеся, і цешце без апаскі* (Е. Лось). Як бачым, звароткі ў прыведзеных выслоўях не называюць канкрэтнай асобы, пэўнага прадмета, а нясуць у сабе абагульнены змест (*браток, сястра, людзі добрыя*), з'яўляюцца нібы семантычным ядром усяго выслоўя (*Божа, гадоў неўгамонных імклівы экспрэс*).

Такім чынам, нават такі – не вельмі глыбокі – аналіз структуры (чытай: сінтаксічнай формы) афарыстычных выслоўяў паказвае, што наша думка адносна незвычайнасці, спецыфічнасці формы такіх моўных формул была памылковая. Значыць, не ад формы залежыць вызначэнне, афарызм перад намі ці не афарызм. Форма тут другасная, першаснае – сэнс, змест. Ёсць яшчэ нешта – трэцяе, што і робіць выслоўе афарыстычным. І гэта трэцяе хутчэй за ўсё не ўніверсальнае. Яно своеасаблівае, адзінкавае, як неканвеерныя і самі афарыстычныя выслоўі. І разглядаць іх класамі, групамі, тыпамі не выпадае. Класіфікацыя тут не ўкладваецца ў пэўныя правілы: спецыфічнасць, неардынарнасць матэрыялу не дазваляе.

***С.У. Палашкевіч*** (Мінск, Беларусь)

## АДТАПОНІМНЫЯ ДЭРЫВАТЫ Ў БЕЛАРУСКАЙ АНАМАСТЫЧНАЙ ЛЕКСІКАГРАФІІ

Да праблемы лексікаграфічнага апісання адтапонімнай лексікі на працягу некалькіх апошніх дзесяцігоддзяў неаднаразова звярталіся шматлікія айчынныя і замежныя навукоўцы. Згодна з існуючай усходнеславянскай лексікаграфічнай традыцыяй адтапонімныя дэрываты доўгі час не ўключаліся не толькі ў тлумачальныя лексікаграфічныя выданні, але нават у спецыялізаваныя слоўнікі анамастычнай лексікі. Акрамя таго, не існавала арыгінальных прац, дзе б апісваліся толькі ад'ектонімы і катайконімы. Заканамерным вынікам такой сітуацыі стала страта часткі названых наміцый.

Як адзначалі Н.А. Багамольнікава і А.А. Станкевіч [1, с. 4], на сучасным этапе развіцця беларускай лексікаграфіі ў слоўніках вельмі рэдка фіксуюцца адзінкавыя ад'ектонімы, утвораныя ад назваў населеных пунктаў, якія маюць статус абласных або раённых гарадоў, а катайконімы па-ранейшаму не падаюцца зусім:

Ваўкавыск, **ваўкавыскі** [7, с. 394];
Давыд-Гарадок, **давыд-гарадоцкі** [6, с. 63].

Упершыню беларуская адтапонімная лексіка была зафіксавана ў «Слоўніку назваў жыхароў СССР» пад рэдакцыяй А.М. Бабкіна і Я.А. Левашова, што змяшчае каля 10 тысяч намінацый асоб паводле месца жыхарства. Аднак названае выданне не мела статусу нарматыўнага і з-за сваёй шырокай геаграфічнай арыентаванасці ўключала далёка не ўсе беларускія катайконімы.

Адным з першых ва ўсходнеславянскім мовазнаўстве да пытання стварэння слоўніка беларускай адтапонімнай лексікі звярнуўся ўкраінскі лінгвіст У.А. Гарпініч. Ён прапанаваў асноўныя прынцыпы складання такога лексікаграфічнага выдання, вызначыў яго задачы і распрацаваў структуру. Асноўнымі праблемамі, якія павінен вырашаць слоўнік адтапонімных вытворных адзінак, называліся наступныя: а) фіксацыя створаных народам формаў катайконімаў і ад’ектонімаў; б) рэгістрацыя новых найменняў, што замянілі тыя, якія выйшлі з ужытку, і замацаванне іх у літаратурнай мове; в) дыферэнцыяцыя варыянтаў онімаў [2, с. 15].

У адпаведнасці з распрацаванай канцэпцыяй У.А. Гарпініч у Запарожскім дзяржаўным універсітэце выдаў арыгінальны анамастычны слоўнік «Оттопонимические производные в белорусском языке» [4], дзе зафіксавана 7100 тапонімаў з усіх абласцей Беларусі, да кожнага з якіх прыводзяцца ад’ектонімы і катайконімы. Аўтар не толькі лексікаграфаваў адтапонімныя дэрываты, але і дыферэнцыраваў іх асноўную форму і варыянтныя найменні. Гэта ў многім садзейнічала нармалізацыі словаўтварэння і выкарыстання беларускіх ад’ектонімаў і катайконімаў.

Публікацыя слоўніка У.А. Гарпініча паспрыяла актывізацыі ўвагі беларускіх даследчыкаў да вытворнай адтапонімнай лексікі. Так, рукапісныя слоўнікі адтапонімных дэрыватаў былі ўключаны (у якасці дадаткаў) у дысертацыйныя даследаванні Т.М. Шчур[1] («Назвы жыхароў Гомельшыны»), З.М. Заікі[2] («Адтапонімныя дэрываты ў арэале заходнепалескіх гаворак»), У.М. Генкіна[3] («Адтапонімныя дэрываты Віцебшчыны»). З 1983 г. у рэспубліканскім штогодніку «Беларуская мова» рэгулярна друкаваліся матэрыялы для слоўніка катайконімаў Гомельшчыны («Слоўнік назваў жыхароў Гомельшчыны»), а ў неперыядычным выданні «Беларуская анамастыка» – матэрыялы да «Слоўніка назваў населеных пунктаў Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці» Г.М. Прышчэпчык.

Першым на Беларусі самастойным лексікаграфічным выданнем, у якім апісана адтапонімная лексіка, з’яўляецца «Слоўнік тапонімаў і адтапанімічных дэрыватаў у арэале заходнепалескіх гаворак» З.М. Заікі [5]. У выданні 704 артыкулы, якія змяшчаюць назвы населеных пунктаў і вытворных ад іх ад’ектонімаў і катайконімаў з усімі іх марфалагічнымі варыянтамі. Айконімы і вытворныя ад іх у працы З.М. Заікі падаюцца ў афіцыйнай і размоўнай формах.

Мікраструктура выдання ўключае айконімы і дэрываты ў наступнай паслядоўнасці: ад’ектонім; катайконімы ў форме множнага ліку, у форме мужчынскага і жаночага роду; у дужках указваецца раён, да якога належыць вёска. Марфалагічныя мадыфікацыі онімаў падаюцца пасля афіцыйнага варыянта анамастычнай адзінкі:

---

[1] Дыс. на атрым. вуч. ступ. канд. філал. навук «Названия жителей Гомельщины» (1987).
[2] Дыс. на атрым. вуч. ступ. канд. філал. навук «Адтапанімічныя дэрываты ў арэале заходнепалескіх гаворак» (1994).
[3] Дыс. на атрым. вуч. ступ. канд. філал. навук «Оттопонимические дериваты Витебщины» (1999).

Зёлава // Зёлово зёлаўскі / зёловкі; зёлаўцы / зёловцы, адз. зёлавец / зёловэць, зёлаўка / зёловка (Др.) [5, с. 36].

Адтапонімныя дэрываты Гомельскай вобласці фіксуюцца ў слоўніку Н.А. Багамольнікавай і А.А. Станкевіч «Айканімія Гомельшчыны» [1]. У прадмове да выдання аўтар указвае на неабходнасць адлюстравання вытворных адтапонімных адзінак у лексікаграфічных выданнях. Па-першае, адтапонімныя дэрываты, утвораныя ад назваў геаграфічных аб'ектаў, відазмяняюцца разам з адпаведным утваральным словам і з гэтай прычыны часта губляюцца, страчваюцца. Па-другое, назвы, утвораныя ад тапонімаў, ужываюцца пераважна ў маўленні, і літаратурная мова яшчэ не выпрацавала дасканалай сістэмы афіксальнай дэрывацыі такіх утварэнняў, часта не мае адпаведных найменняў для абазначэння пэўных паняццяў. Таму збіранне і фіксацыя рэгіянальных адтапонімных назваў з'яўляецца важнай крыніцай папаўнення анамастычнага фонду літаратурнай мовы [1, с. 4–5].

Мікраструктура выдання «Айканімія Гомельшчыны» адпавядае пабудове слоўнікавага артыкула слоўніка З.М. Заікі і ўключае айконімы, да якіх падаюцца адміністрацыйныя звесткі, ад'ектонім і катайконімы ў формах множнага ліку мужчынскага і жаночага роду. Побач з дэрыватамі ўказваюцца іх варыянтныя назвы:

БАГДА́НАЎ. п. у Парэцкім с/с …
**багда́наўскі**, -кага, -кім…
**багда́наўцы**, -цаў, -цах, **багда́наўскія**, -кіх; **багда́навец**, -ўца, -ўцу… [1, с. 7].

Вынікам дысертацыйнага даследавання У.М. Генкіна стала выданне трэцяга і на сённяшні дзень апошняга слоўніка беларускай адтапонімнай лексікі – «Слоўнік адтапанімных дэрыватаў Віцебшчыны» [3]. У сваёй кандыдацкай дысертацыі аўтар вызначыў асноўныя прынцыпы ўкладання слоўніка. Ён сцвярджаў, што пры вызначэнні аб'ёма слоўніка адтапонімнай лексікі неабходна разлічваць на ўкладанне вузкага рэгіянальнага выдання, што дазволіць больш ярка праілюстраваць дыялектную спецыфіку дэрыватаў, абмяжуе колькасць звестак у мікраструктуры выдання і зробіць сам слоўнік больш кампактным (такой жа думкі прытрымлівалася пры стварэнні «Слоўніка тапонімаў і адтапанімічных дэрыватаў у арэале заходнепалескіх гаворак» З.М. Заіка). Галоўнай крыніцай матэрыялу навуковец вызначыў жывую гаворку, бо фактычна ад'ектонімы і катайконімы ўтвараюцца па законах дыялектнай мовы.

Пры ўкладанні «Слоўніка адтапанімных дэрыватаў Віцебшчыны» У.М. Генкін паставіў наступныя задачы: а) сабраць і зафіксаваць айконімы, ад'ектонімы і катайконімы, якія ўжываюцца ў вусным маўленні, а таксама замацаваліся ў публіцыстыцы і справаводстве; б) размежаваць стылістычныя варыянты, даць парады па нарматыўным выкарыстанні геаграфічных назваў і ўтвораных ад іх дэрыватаў; в) замацаваць у лексікаграфічнай практыцы ўжыванне формаў, якія склаліся гістарычна, садзейнічаць папулярызацыі нарматыўных варыянтаў [3, с. 4].

Мікраструктура выдання У.М. Генкіна падпарадкавана вырашэнню пастаўленых аўтарам для слоўніка адтапонімных дэрыватаў задач і ўключае айконім у якасці лемы, а таксама ад'ектонімы і катайконімы, вытворныя ад гэтага наймення. Да афіцыйных варыянтаў катайконімаў аўтар паслядоўна прыводзіць размоўныя варыянты са спецыяльнымі паметамі. І да загаловачных слоў, і да кожнага дэрывата падаюцца рускія адпаведнікі:

**Старыя́ Шараба́і**, мн. / **Ста́рые Шароба́и**, мн. (Гл.)
**старашараба́йскі**, шараба́йскі – *гутар.* / **старошароба́йский**;
шараба́йцы (-аў) – *гутар.* [3, с. 198].

Адтапонімныя дэрываты, зафіксаваныя ў старабеларускіх пісьмовых помніках, даследуюцца ў працы «Аданамастычнае словаўтварэнне ў старабеларускай пісьменнасці» З.У. Шведавай [8]. Кніга ўключае «Слоўнік адтапонімных дэрыватаў», дзе змешчаны 710 слоўнікавых артыкулаў, прысвечаных апісанню ад'ектонімаў.

У слоўніку фіксуецца наступная інфармацыя: назвы геаграфічных аб'ектаў, ад якіх утвараюцца ад'ектонімы і катайконімы; самі адтапонімныя дэрываты; указанне на гістарычную крыніцу, у якой зафіксаваны онімы, час і месца іх фіксацыі:

Лукомль (г.) – лукомский, 1579, т. 39, с. 364 [8, с. 55];
Прилуки (им. Мен. в-во) – прилуцкий, 1645, т. 15, с. 33 [8, с. 161].

На наш погляд, названая праца ўяўляе несумненную цікавасць для спецыялістаў і вартая таго, каб стаць самастойным лексікаграфічным выданнем.

Такім чынам, беларуская адтапонімная лексіка да нашага часу застаецца малараспрацаванай і неўніфікаванай. Даследаваны і лексікаграфічна аформлены толькі адтапонімныя дэрываты Гомельшчыны і Віцебшчыны, катайконімы і ад'ектонімы асобных заходнепалескіх гаворак і Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці. Вывучана, але пакуль не прадстаўлена арыгінальным лексікаграфічным выданнем лексіка старабеларускіх помнікаў пісьменнасці. Гэта азначае, што перад нацыянальным мовазнаўствам стаіць актуальная задача сістэматызаваць і каталагізаваць адтапонімныя дэрываты, не адлюстраваныя ў сферы фіксацыі. Яе вырашэнне паспрыяе далейшаму развіццю тэарэтычнай і прыкладной лексікаграфіі, анамастыкі і дыялекталогіі.

***Літаратура***

1. Багамольнікава, Н.А. Айканімія Гомельшчыны / Н.А. Багамольнікава, А.А. Станкевіч. – Гомель: Выд-ва ГДУ, 2003. – 392 с.

2. Гарпініч, У.А. Мэты, задачы і структура слоўніка назваў жыхароў Беларускай ССР / У.А. Гарпініч // Рэгіянальныя асаблівасці беларускай мовы, літаратуры і фальклору: тэз. дакл. Рэсп. навук. канф. (Гомель, 25 – 26 мая 1973 г. / Гомельскі дзярж. ун-т імя Ф. Скарыны. – Гомель, 1973. – С. 15–18.

3. Генкін, У.М. Слоўнік адтапанімных дэрыватаў Віцебшчыны / У.М. Генкін. – Віцебск: Выд-ва ВДУ, 2005. – 235 с.

4. Горпинич, В.А. Оттопонимические производные в белорусском языке / В.А. Горпинич. – Запорожье: Изд-во ЗГПИ, 1978. – 73 с.

5. Заіка, З.М. Слоўнік тапонімаў і адтапанімічных дэрыватаў у арэале заходнепалескіх гаворак / З.М. Заіка. – Брэст: Выд-ва БрДУ, 2001. – 68 с.
6. Плотнікаў, Б.А. Слоўнік цяжкасцяў беларускай мовы / Б.А. Плотнікаў, В.П. Трайкоўская. – Мінск: Кніжны Дом, 2004. – 544 с.
7. Слоўнік лексічных формаў (сінонімы, амонімы, антонімы, паронімы, амографы, амафоны) / уклад. Я.І. Хвалей, У.В. Шарпіла. – Мінск: Парадокс, 2004. – 416 с.
8. Шведава, З.У. Аданамастычнае словаўтварэнне ў старабеларускай пісьменнасці / З.У. Шведава. – Мінск: ІВЦ Мінфіна, 2004. – 173 с.

***Н.В. Паляшчук*** (Мінск, Беларусь)

## ВЫРАЖЭННЕ ІМПЕРАТЫЎНАСЦІ Ў СТАРАБЕЛАРУСКІХ ТЭКСТАХ ДЗЕЛАВОГА ЗМЕСТУ

Імператыўнасць – паказальная стылявая рыса старабеларускіх тэкстаў дзелавога зместу. Паколькі права ў Вялікім Княстве Літоўскім вызначаецца як сістэма абавязковых сацыяльных нормаў, якія ўстанаўліваюцца і ахоўваюцца дзяржавай [2, с. 516], выкарыстанне моўных адзінак у статутах, судзебніках, прывілеях, інскрыпцыях, выраках, баніцыях, пасольствах і інш. накіравана на дакладную перадачу абавязковасці (неабходнасці) выканання прынятых распараджэнняў, пастаноў, заканадаўча зацверджаных нормаў і правілаў паводзін.

У дадзеным артыкуле будзе прадстаўлены агляд асноўных сродкаў выражэння імператыўнасці ў старабеларускай дзелавой пісьменнасці.

Інфінітыў як сродак выражэння катэгарычнага прадпісання дамінуе ў помніках ранняга перыяду, напрыклад, «Дагаварной грамаце смаленскага князя Мсціслава Давыдавіча з Рыгай і Гоцкім берагам» 1229 г., «Дагаворы Полацка з Рыгай» 1407 г. і інш. Пры гэтым неазначальная форма дзеяслова мела пры сабе назоўнікі са значэннем асобы ў форме давальнага склону, што абазначалі як пэўную сукупнасць людзей, так і канкрэтную асобу: *а немцемъ дати весчего* (Дагавор Полацка з Рыгай 1330 г.); *толко князю скирикгаилу володети городомъ полоцкомъ* (Гр. 1387 г.). У пазнейшых дакументах такі спосаб перадачы імператыўнасці, па нашыхназіраннях, шырока не прадстаўлены. У іх пераважаюць спалучэнні інфінітыва з: 1) безасабова-прэдыкатыўнымі словамі тыпу *повинно*, *потреба / потрэба,* 2) кароткімі прыметнікамі тыпу *винный, повинный, должный*, 3) дзеясловам *годитися / годитисе*: *съ конопель дворныхъ вже не повинно неводовъ робити* (АЗР, III, 78, 1557); *близкие змерлого платити повинни* (ККСС, 20б, 1615); *намъ годится митрополита зборомъ поставити* (АЗР, I, 36, 1415).

Частотнасцю функцыянавання вызначаюцца складаныя формы будучага часу, паколькі тыя ці іншыя законы, выдадзеныя органамі ўлады, пастановы судоў, розныя загады з боку надзеленых уладай асоб традыцыйна мелі сілу не толькі ў час іх стварэння, але і ў будучым. У структуру будучага часу ўваходзіў асноўны дзеяслоў у форме інфінітыва і дапаможны дзеяслоў у асабовай форме, якія маглі ўскладняцца прыметнікамі са значэннем неабходнасці: *одинъ съ таковыхъ годнейший з ыменья подле статуту ехати будеть виненъ* (КПД, 660, 1563).

Характэрнае для дзелавых тэкстаў спалучэнне дзеяслова *мети* (*имети*) у асабовай форме і інфінітыва, акрамя значэння будучага часу, рэалізоўвала мадальнае адценне неабходнасці выканання дзеяння. У тэкстах XIV–XV стст. як дапаможны ўжываўся дзеяслоў *имети*. Так, па назіраннях В.Э. Зіманскага, названае адценне ў спалучэннях з *имети* ў Вісліцкім статуце адзначаецца ў 56 % ад агульнай колькасці выпадкаў яго фіксацыі ў складзе будучага складанага I [1, с. 68]. У сувязі з трансфармацыяй *имети* ў *мети* па прычыне адпадзення пачатковага *и-* (XV ст.) апошні дзеяслоў становіцца адзіна магчымым у такіх спалучэннях. Пашыраны прыклады, калі падобнаму спосабу выражэння распараджэння папярэднічалі ўмоўныя канструкцыі з мэтай зафіксаваць абумоўленасць прынятага рашэння: *коли будуть ремесники въ месте мешкати тогды вси мають быти Майтьборского права* (КЗ, 816, 1500).

У разгледжаных тэкстах абавязковасць зацверджаных нормаў часам перадавалася <u>дзеяслоўнымі формамі цяперашняга часу</u>, у якіх у такім разе праяўлялася значэнне цяперашняга прадпісання: *коли хто з нихъ умретъ, тотъ статокъ на близкихъ приходитъ* (КЗ, 66, 1517). Сродкам волевыяўлення ў інскрыпцыях выступала спалучэнне <u>*вы бы о томъ ведали,*</u> асновай якога з'яўляўся дзеяслоў умоўнага ладу*: вы бы о томъ ведали и везде по панству... добровольне пропушчали* (КЗ–28, 2, 1541).

<u>Формы загаднага ладу 2-й асобы.</u> як эксплікатары імператыўнасці шырока прадстаўлены ў творах XIV–XV стст.: *Хто паки хочеть торговати торгуи* (Гр. 1409). Адначаюцца яны і ў чалабітных, аднак функцыя іх у гэтым выпадку іншая. <u>Складаныя формы 3-й асобы.</u> зафіксаваны ў актах Метрыкі ВКЛ: *Нехай онъ самъ и его жона и дети на себе вечно держать* (КЗ-28, 16, 1528). Як правіла, умовай такога спосабу рэалізацыі загаду з'яўляецца яго адрасацыя канкрэтнай асобе, названай у загалоўку акта: *Листъ писаный до тивуна дирваньского Богдана Митковича*. У многіх прывілеях і пацвярджэннях XV–XVI стст. адзначаецца дзеяслоў *статися* ў форме 2-й асобы (*станься*), аднак выключна ў складзе формулы *Во имя Божье станься* ў клаўзе invocatio (прысвячэнне Богу); яе выкарыстанне сведчыла пра намер адрасанта дзейнічаць справядліва, у адпаведнасці з існуючымі прававымі нормамі. У Статутах ВКЛ як агульнадзяржаўных кодэксах падобныя сродкі выражэння імператыўнасці не атрымалі пашырэння. Выключэнне складаюць цытата з Бібліі аб праведным судзе і суддзях, змешчаная ў ніжняй частцы тытульнага ліста Статута ВКЛ 1588 (*Смотрите, што маете судити... А што кольвекъ осудите, все на вас се обвалитъ. А справуите все шире*), і «Панегірык гербу Льву Сапегі» А. Рымшы (*Живите жъ Сапегове вси в многие лета...*). Згаданыя факты можна кваліфікаваць як украпленні іншых стыляў з уласцівымі для іх марфалагічнымі паказчыкамі імператыўнасці.

Прадпісанне пэўнай мадэлі паводзін перадавалася праз выкарыстанне <u>асабовых формаў дзеясловаў з агульным значэннем волевыяўлення (тыпу *постановити, приказати, позволити*</u> і пад.), якія выступалі як складнік граматычнай асновы галоўнага сказа ў складаназалежным сказе з даданым мэты са злучнікамі *абы, штобы* і пад.: *приказуемъ старостамъ… абы никого не позывали безъ повода* (Вісл., 16).

Абавязковасць выканання заканадаўча афармленых рашэнняў выразна выяўляецца і ў тых выпадках, калі дзеяслоўныя эксплікатары імператыўнасці ў іх апушчаны (яны лёгка ўзнаўляюцца з кантэксту): *Панцерному слузе – шестьдесят копъ грошей, путному слузе – пятьдесят копъ грошей* (Ст. 1588, 487). Пропуск дзеяслоўных формаў абумоўлены іх паўтаральнасцю ва ўсім тэксце статута і, відавочна, накіраваны на падкрэсліванне, канцэнтрацыю ўвагі на новай інфармацыі.

З прадстаўленага матэрыялу можна заключыць, што: 1) інфінітыўныя спалучэнні, складаныя формы будучага I, дзеясловы са значэннем волевыяўлення адносяцца да ліку дамінуючых сродкаў выражэння імператыўнасці ў старабеларускай дзелавой пісьменнасці; 2) інфінітывы і простыя формы загаднага ладу, паказальныя для помнікаў дзелавога зместу ранняга перыяду развіцця старабеларускай мовы; 3) складаныя формы загаднага ладу мелі месца галоўным чынам у дакуметах, адрасаваных канкрэтнай асобе; 4) інфінітыўныя спалучэнні і складаныя формы будучага I адзначаюцца як у Вісліцкім статуце, «Трыбунале» і Статутах ВКЛ, так і ў дакументах адміністрацыйна- ці гаспадарча-дзелавога зместу, сабраных галоўным чынам у кнігах (тамах) Метрыкі ВКЛ. Аднак прадпісанне, якое выражалася ў агульнадзяржаўных кодэксах, прызначаных кадыфікаваць у грамадстве юрыдычныя нормы, было накіравана шырокаму колу насельніцтва, мела абагулены характар. Прадпісанне ў пацвярджэннях, прывілеях і інш. насіла адрасны характар, паколькі ў іх заўсёды ўказваўся адрасат (асоба / група асоб), які павінен быў адрэагаваць на загад ці пастанову выкананнем пэўнага дзеяння; 5) вышэйсказанае пацвярджае, што экстралінгвістычныя фактары ўплываюць на характар функцыянавання моўных сродкаў і прынцыпы іх адбору; 6) у дакументах *з кніг Метрыкі ВКЛ* сродкі выражэння імператыўнасці мелі строга фіксаваную пазіцыю – яны выкарыстоўваліся выключна ў клаўзе dispositio і часта суправаджаліся формуламі *подъ честью и подъ горломъ твоимъ, подъ ласкою нашою господаръскою, до жывота его, вечными часы, на веки вечные, на вечъне, на потомные (и вечные) часы, на вси потомные и вечные часы.* Абавязковая ўмова выкладу загаду – наяўнасць просьбы, змешчанай у narratio; 7) у агульнадзяржаўных кодэксах, напрыклад, Статуце ВКЛ 1588, інфінітыўныя канструкцыі і складаныя формы будучага I фіксуюцца ў распарадчых палажэннях артыкулаў, пры гэтым сам артыкул, як правіла, пачынаецца са слова *уставити*. Тыповым для статута з’яўляецца таксама функцыянаванне сродкаў выражэння імператыўнасці ў складзе загалоўкаў асобных артыкулаў.

***Літаратура***

1. Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588: Тэксты. Даведнік. Каментарыі / рэдкал.: І.П. Шамякін [і інш.]. – Мінск: БелСЭ, 1989. – 573 с.

2. Зіманскі, В.Э. Мова беларускай пісьменнасці ранняга перыяду (на матэрыяле Вісліцкага статута XV ст.): дыс. ... канд. філал. навук: 10.02.01. / В.Э. Зіманскі. – Мінск, 2002. – 233 с.

***Т.Л. Памазенка*** (Мінск, Беларусь)

## БЕЛАРУСКАЯ ПЕРАКЛАДНАЯ ТЭРМІНАГРАФІЯ ПАЧАТКУ XXI ст.: МЕТАДАЛАГІЧНЫ АСПЕКТ

Імклівае развіццё навукі і тэхнікі, інфармацыйных тэхналогій у жыцці сучаснага грамадства дыктуе неабходнасць усебаковага апісання, вывучэння і аналізу новых пластоў тэрміналагічнай лексікі. Як адзначае Ю.М. Марчук, «тэрміналагічная лексікаграфія (тэрмінаграфія) з'яўляецца вынікам і адначасова неабходнай умовай навукова-тэхнічнага прагрэсу. У тэрміналагічных слоўніках фіксуюцца элементы навуковых ведаў, без якіх навуковыя і тэхнічныя даследаванні і распрацоўкі немагчымыя» [6, с. 18]. Разам з тым, змены ў жыцці беларускага грамадства, працэсы інтэнсіўнай міжнароднай інтэграцыі і глабалізацыі, асаблівасці сучаснай моўнай сітуацыі ў краіне актуалізуюць пытанне лінгвістычнага забеспячэння патрэб знешняй камунікацыі [4, с. 107]. Таму даследаванне тэарэтычных і практычных пытанняў беларускай перакладной тэрмінаграфіі ў новых умовах набывае асаблівую значнасць і дэтэрмінуецца недастатковым вывучэннем заканамернасцей яе развіцця ў сінхронным зрэзе.

Мэта артыкула – зрабіць кароткі агляд сучасных перакладных тэрміналагічных слоўнікаў і акрэсліць асноўныя метадалагічныя прынцыпы іх укладання.

Пачатак XXI ст. характарызуецца значнымі напрацоўкамі ў галіне практычнай беларускай тэрмінаграфіі. Агульная колькасць апублікаваных перакладных слоўнікаў складае 66 пазіцый, у тым ліку самастойныя выданні з рэгістрацыяй тэрміналагічнай лексікі па розных галінах навукі, тэхнікі, культуры, грамадскага жыцця і слоўнікі-дадаткі да навуковых прац (манаграфій, дысертацый), вучэбных дапаможнікаў, энцыклапедый і інш. У гэтых выданнях сістэматызавана спецыяльная лексіка такіх сфер, як архітэктура, батаніка, біялогія, выдавецтва, выяўленчае і дэкаратыўнае мастацтва, геалогія, дарожная справа, інфарматыка, маркетынг, матэматыка, медыцына, метралогія, механіка, паліграфія, палітыка, педагогіка, права, псіхалогія, рэлігія, спорт, транспарт, тэхніка, фармакалогія, фізіка, фізічная культура, фізіялогія, філасофія, харэаграфія, хімія, экалогія, эканоміка, эстэтыка.

За перыяд з 2000 па 2011 гг. адзначаецца наступная дынаміка публікацыі перакладных тэрміналагічных слоўнікаў: 2000 – 10, 2001 – 13, 2002 − 6, 2003 – 5, 2004 – 9, 2005 – 3, 2006 – 2, 2007 – 4, 2008 − 2, 2009 − 6, 2010 – 3, 2011 − 2. Пераважаюць двухмоўныя (руска-беларускія і беларуска-рускія), але выдаюцца таксама трохмоўныя (Руска-беларуска-англійскі тэрміналагічны слоўнік па геалогіі. Мінск, 2001; Юридические термины и афоризмы: латинско-русско-белорусский словарь. Минск, 2009), чатырохмоўныя (English-Polish-Russian-Belarusian dictionary on informatics and computer technology. Bialystok, 2003; Русско-белорусско-немецко-английский словарь по механике. Минск, 2005) і нават дзевяцімоўны кароткі слоўнік філасофскіх тэрмінаў, змешчаны ў «Хрысціянскім Філасофскім Зборніку» (Мінск, 2001). Сярод замежных моў, тэрміны з якіх перакладаюцца або супастаўляюцца з беларускімі, пераважае руская мова (54). Прадстаўніча выглядаюць англійская (14) і лацінская мовы (8), па некалькі пазіцый

прыходзіцца на нямецкую (4) і польскую (3), па адной – на грэчаскую, італьянскую, старабеларускую, французскую, царкоўнаславянскую мовы.

Выдадзеныя слоўнікі розныя паводле аб'ёму апісанай лексікі. Іх рэестры вагаюцца ад некалькіх сотняў адзінак (Руска-беларускі слоўнік скурных і венерычных хвароб. Гомель, 2009; 800 тэрмінаў) да некалькіх тысяч (Англа-беларускі слоўнік па інфарматыцы. Мінск, 2008; 6000) і нават дзясяткаў тысяч (Современный русско-белорусский политехнический словарь. Минск, 2007; 20000).

Зразумела, навуковая і практычная вартасць перакладных тэрміналагічных слоўнікаў не аднолькавая. Істотна зніжаюць каштоўнасць некаторых даведнікаў не толькі невялікі памер выданняў, але і якасць лексікаграфічнай апрацоўкі моўнага матэрыялу (адсутнічаюць акцэнталагічныя і граматычныя паметы, не ўніфікаваны прынцыпы напісання, перакладу, тлумачэння тэрмінаадзінак). Разам з тым, падрыхтаваны і грунтоўныя па аб'ёме і спосабах лексікаграфічнай апрацоўкі лексікі тэрміналагічныя слоўнікі, напр.: Руска-беларускі і беларуска-рускі слоўнік па інжынерна-тэхнічным абсталяванні, сістэмах і працэсах Б.М. Хрусталёва (Мінск, 2009; 14 000 тэрмінаў) і інш.

Лексікаграфічныя працы не аднастайныя з метадалагічнага боку, паколькі, як адзначае А.А. Лукашанец, «развіццё сістэмы беларускай літаратурнай мовы ў пачатку XXI ст. вызначаюць рознанакіраваныя працэсы і тэндэнцыі» [5, с. 109]. З тэндэнцыяй да нацыяналізацыі, абумоўленай пурыстычнымі падыходамі апошняга дзесяцігоддзя XX ст., звязана адштурхоўванне ад рускай мовы, імкненне да рэвізіі і пераацэнкі нарматыўнага статусу лексічнага складу і словаўтваральных сродкаў сучаснай беларускай мовы. З другога боку, тэндэнцыя да інтэрнацыналізацыі, якая вядзе да інтэнсіўнага папаўнення слоўнікавага складу беларускай мовы новымі запазычаннямі, у першую чаргу англа-амерыканізмамі (праз пасрэдніцтва рускай мовы), што актыўна ўключаюцца ў сістэму беларускага словаўтварэння, падтрымлівае ўплыў рускай мовы на стан і развіццё лексічнай і словаўтваральнай сістэм беларускай мовы [5, с. 109].

Па асаблівасцях фіксацыі моўных адзінак слоўнікі ўмоўна можна падзяліць на два тыпы: выданні з арыентацыяй на ўласнанацыянальныя лінгвістычныя сродкі і на запазычаныя (пераважна рускамоўныя). Першы тып перакладных даведнікаў адлюстроўвае прынцыпы тэрмінаўтварэння, абраныя і выпрацаваныя ў пачатку 20-х гг. XX ст., − імкненне арыентавацца на ўласнае моўнае багацце (Матэматычная энцыклапедыя (Мінск, 2001), Расійска-беларускі харэаграфічны слоўнік В. Цяцёркінай (Мінск, 2001), Руска-беларускі, беларуска-рускі слоўнік медыцынскіх тэрмінаў В.І. Каранца (Мінск, 2001), Расійска-беларускі хімічны слоўнік Я.Г. Міляшкевіча (Мінск, 2002), Краткий русско-белорусский словарь экономических терминов Н.В. Сляпухи (Минск, 2007), Руска-беларускі слоўнік эканамічных тэрмінаў А.А. Акуленкі (Мінск, 2011) і інш. Аналіз зместавых асаблівасцей перакладных тэрміналагічных даведнікаў дазволіў выявіць характэрныя рысы першага тыпу:

- ***на лексіка-семантычным узроўні***: пераважнае выкарыстанне ўласнанацыянальных лексічных сродкаў (агульнаўжывальнай, дыялектнай і ўстарэлай

лексікі) у спалучэнні з тэндэнцыяй да інтэрнацыяналізацыі: *аккомпанемент – акампанэмэнт, суправаджэнне* [15, с. 6], *канифоль – смурга* [15, с. 29], *анемия – недакровіца* [2, с. 4], *бронхиолы – дыхнічкі* [2, с. 5], *гастрит – разачка* [2, с. 7], *адсвет – рэфлекс* [2, с. 25];

➢***на фанетыка-арфаграфічным узроўні***: ужыванне «клясычнага правапісу» або афармленне лексем згодна з афіцыйнымі нормамі: *асимметричный – асыметрычны* [15, с. 7], *мелодика – мелёдыка* [15, с. 35]; *богатство – багацце* [12, с. 9], *утолщение – патаўшчэнне* [11, с. 58];

➢***на дэрывацыйным узроўні***: **а)** падбор эквівалентаў з суфіксамі *-ава- (-ява-)* для передачы працэсуальнага дзеяння запазычанымі дзеясловамі, яго формамі (інфінітывамі, дзеепрыметнікамі) і аддзеяслоўнымі назоўнікамі з *-ірава- (-ырава-)*: *координировать – каардынаваць* [15, с. 31], *ассимилировать – асіміляваць* [11, с. 6], *диссоциированный − дысацыяваны* [11, с. 18]; **б)** замена беларускімі формамі з *-льн-* (для передачы якаснай характарыстыкі аб'екта), *-оўн- (-ёўн-)* (для наймення суб'екта ўздзеяння), *-н-* (для характарыстыкі аб'екта ўздзеяння) дзеепрыметнікавых структур на *-уч- (-юч-), -ач- (-яч), -ем-, -ім-*: *огибающая – агінальная* [9, с. 482], *плавающая запятая – нефіксаваная коска* [9, с. 484], *разрешимая формула – развязальная* формула [9, с. 487], *расходящийся интеграл – разбежны інтэграл* [9, с. 487]; **в)** выкарыстанне беларускіх тэрмінаадзінак з суфіксамі *-ов- (-ав-, -ев-), -ат-(-ават-), -іст- (-ыст-)* для перадачы ад'ектываў з *-чат-*: *вейкавы – реснитчатый* [1, с. 305], *жалабаты – желобчатый* [1, с. 306], *линейчатый − лінеісты* [9, с. 377]; **г)** фіксацыя беларускіх формаў іншамоўных тэрмінаў без фіналі *-ій (-ый)*: *каль – калий, кальц – кальций, мезатэль – мезотелий, натр – натрий* [1, с. 306]; **д)** выкарыстанне ўласнабеларускіх субстантываў з *-нік (-льнік-), – ач-, -ец-, -ўц-* на месцы запазычаных лексем на *-тель-, -чык-, -шчык-: зритель – глядач* [15, с. 26], *арендодатель – арэндадаўца* [12, с. 6]; **е)** паслядоўная передача беларускімі адпаведнікамі з *-нн-* або нульсуфіксальным дэрыватам працэсуальнага значэння аддзеяслоўных назоўнікаў з фармантам *-к-*: *аранжировка – апрацаваньне* [15, с. 7], *фразировка – фразаваньне* [15, с. 72], *перестановка – перастаўленне* [9, с. 483]; **ж)** замена дэрыватамі з суфіксамі *-ов-(-ав-), -ев-(-ёв-), -асн-(-ясн-)* іншамоўных адзінак на *-ичн-, -очн-, -ечн-, -енн-, -ическ-, -атическ-*: *жаўтковы – желточный, падпахавы – подмышечный* [1, с. 306], *першасны – первичный* [1, с. 307], *унутрыцэлевы − внутриклеточный* [1, с. 308]; **з)** актывізацыя тэрмінаэлементаў з *-н-* у перакладной частцы лексіконаў на месцы фармантаў з *-арн- (-ярн-), -альн-(-анальн-)*: *биномиальный – біномны* [9, с. 482], *потенциальны – патэнцыйны* [9, с. 494], *абаксиальный – абаксійны* [11, с. 4], *бинарный − двухскладны* [11, с. 7], *бактериальный –бактэрыйны* [11, с. 60].

Другі тып перакладных даведнікаў адлюстроўвае прынцыпы тэрмінастварэння 1930-х – 1980-х гг. − максімальны ўплыў рускай мовы на моўную сістэму беларускай. Запазычаныя словаўтваральныя сродкі пераважаюць у наступных перакладных тэрміналагічных слоўніках: «Марфалогія і анатомія раслін: беларуска-рускі і руска-

беларускі тэрміналагічны слоўнік» В.М. Яроміна (Мінск, 2000), «Беларуска-рускі аўтатранспартны слоўнік» А.А. Паўловіч (Мінск, 2005), «Русско-белорусский словарь спортивных терминов» А.П. Шостак (Минск, 2005), «Руска-беларускі навукова-тэхнічны слоўнік» А.М. Савіцкай (Магілёў, 2010), «Русско-белорусский учебный словарь экономических терминов» В.Г. Наталевич (Минск, 2010) і інш.

Істотныя рысы перакладных тэрміналагічных даведнікаў гэтага тыпу наступныя:

➢***на лексіка-семантычным узроўні***: пераважнае выкарыстанне запазычаных і інтэрнацыянальных лексем: *атлетика – атлетыка* [16, с. 5], *гандбол – гандбол* [16, с. 11], *туристический – турыстычны* [16, с. 50], *эстафета – эстафета* [16, с. 55];

➢***на фанетыка-арфаграфічным узроўні***: калькаванне навуковых тэрмінаў з іншых моў: *абстаноўка – обстановка* [8, с. 5], *заціранне − затирание* [8, с. 42], *пульверызатар – пульверизатор* [8, с. 87], *ралі – ралли* [8, с. 89].

➢***на дэрывацыйным узроўні***: **а)** захаванне фармантаў *-ір-(-ыр-), -ірава-(-ырава-)* пры перадачы працэсуальнага дзеяння запазычанымі дзеясловамі, дзеяслоўнымі формамі (інфінітывамі, дзеепрыметнікамі) і аддзеяслоўнымі назоўнікамі: *балансировка – балансіроўка* [10, с. 11], *бланшировать – бланшыраваць* [10, с. 12], *сепарирование – сепарыраванне* [10, с. 81], *смонтированный – зманціраваны* [10, с. 83]; **б)** адлюстраванне неўласцівых беларускай мове аддзеяслоўных формаў з фармантамі *-уч- (-юч-), -ач- (-яч), -ем-, -ім-*: *облагаемая налогом – абкладаемы падаткам* [3, с. 73], *блуждающий нерв – блукаючы нерв* [3, с. 196], *величина искомая – велічыня шукаемая* [10, с. 14], *виброкипящий слой – вібракіпячы слой* [10, с. 15], *самонесущая стена – саманясучая сцяна* [10, с. 79]; **в)** ужыванне вытворных субстантываў з суфіксамі *-цель-, -шчык, -чык-*: *запраўшчык – заправщик* [8, с. 41], *абяспыльвацель – обеспыливатель* [8, с. 5], *праявіцель – проявитель* [8, с. 85]; **г)** захаванне структур з суфіксамі *-н-, -ічн- (-ычн-), -очн-, -ачн-, -енн-*: *проектный – праектны* [7, с. 33], *фирменный – фірменны* [7, с. 44], *авиадесантный – авіядэсантны* [16, с. 4]; **д)** падбор беларускіх адпаведнікаў з *-арн-(-ярн-), -альн-(-яльн)*: *абаксиальная сторона − абаксіяльны бок* [17, с. 145], *экстрозональная – экстразанальная* [17, с. 212], *эмбриональный – эмбрыянальны* [17, с. 212]; **е)** выкарыстанне тэрмінаадзінак-ад'ектываў з суфіксам *-чат-*: *аднаступеньчаты – одноступенчатый* [8, с. 7], *каленчаты – коленчатый* [8, с. 48]; **ж)** фіксацыя іншамоўных тэрмінаў з фіналямі *-ій-(-ый)*: *альпинарий – альпінарый* [17, с. 158], *гинецей – гінэцэй* [17, с. 159], *гиностемий – гинастэмій* [17, с. 160]; **з)** перадача працэсуальнага значэння аддзеяслоўных назоўнікаў з фармантам *-к-*: *абдзірка – обдирка* [8, с. 4], *запайка – запайка* [8, с. 41], *кампаноўка – кампоновка* [8, с. 49].

Перавага аднаго з тыпаў названых прыкмет у лексікаграфічным выданні не павінна расцэньвацца як адмоўная ці станоўчая з'ява. На думку Г.А. Цыхуна, натуральна, што большасць тэрмінаў павінны мець карані ў беларускай мове і ўтварацца ў адпаведнасці з яе граматычнымі асаблівасцямі. З гэтых пазіцый становіцца зразумелай «эўрыстычная вартасць тэрміналогіі, што грунтуецца на сваіх моўных рэсурсах, бо гэта адкрывае

новыя магчымасці і падыходы ў пазнанні ісціны» [13, с. 18]. Гэта не выключае магчымасці карыстацца запазычанай тэрміналогіяй, але як дадатковым, а не асноўным сродкам у працэсе пазнання. Не павінна быць «саматужніцкага стварэння ўласначыстай тэрміналогіі», паколькі шлях штучнай ізаляцыі не спрыяе міжнароднай стандартызацыі і ўніфікацыі тэрмінаў [14, с. 5]. На наш погляд, у сучасных умовах абедзве тэндэнцыі абсалютна заканамерныя і аб'ектыўныя, паколькі дазваляюць выпрацаваць аптымальныя спосабы для перадачы назваў актуальных навуковых паняццяў, дзеянняў і працэсаў сродкамі нацыянальнай мовы.

***Літаратура***


1. Арцішэўскі, А.А. Гісталогія з асновамі цыталогіі і эмбрыялогіі / А.А. Арцішэўскі. − Мінск: Тэхналогія, 2000. − 311 с.

2. Варанец, В.І. Руска-беларускі, беларуска-рускі слоўнік медыцынскіх тэрмінаў / В.І. Варанец. − Гродна: ГрДМУ, 2001. − 39 с.

3. Кузьменкова, Т.В. Краткий русско-белорусский словарь юридических и социально-экономических терминов / Т.В. Кузьменкова. − Минск: Веды, 2009. − 239 с.

4. Лукашанец, А.А. Беларуская мова ў жыцці сучаснага грамадства / А.А. Лукашанец // Доклады Национальной академии наук Беларуси. − Мінск: Беларуская навука, 1999. − С. 106−108.

5. Лукашанец, А.А. Моўныя праблемы жыцця сучаснага беларускага грамадства / А.А. Лукашанец // Роднае слова. – 2008. – № 1. – С. 108−112.

6. Марчук, Ю.Н. Основы терминографии / Ю.Н. Марчук. – М.: МГУ, 1992. − 75 с.

7. Наталевич, О.Г. Русско-белорусский учебный словарь экономических терминов (с учетом новых правил белорусской орфографии) / О.Г. Наталевич, М.В. Юнаш, С.В. Огородникова. − Минск: БГЭУ, 2010. − 47 с.

8. Паўловіч, А.А. Беларуска-рускі аўтатранспартны слоўнік / А.А. Паўловіч, В.А. Сяргеенка, Г.А. Самко. − Мінск: БНТУ, 2005. − 123 с.

9. Расійска-беларускі слоўнік матэматычных тэрмінаў і тэрміналагічных словазлучэнняў // Матэматычная энцыклапедыя / гал. рэд. В. Бернік. − Мінск: Тэхналогія, 2001. − С. 465–496.

10. Савіцкая, А.М. Руска-беларускі навукова-тэхнічны слоўнік / А.М. Савіцкая. − Магілёў: МДУХ, 2010. – 107 с.

11. Савіцкая, Н.Я. Руска-беларускі слоўнік па фізіялогіі і біялогіі раслін / Н.Я. Савіцкая, М.І. Баранаў. − Мінск: БДТУ, 2001. − 68 с.

12. Слепуха, Н.В. Краткий русско-белорусский словарь экономических терминов / Н.В. Слепуха. − Минск: Частный ин-т упр. и предпр-ва, 2007. − 85 с.

13. Цыхун, Г. Пра некаторыя пытанні тэрміналагічнай працы ў Беларусі / Г. Цыхун // Праблемы беларускай навуковай тэрміналогіі: матэрыялы Першай нацыянальнай канферэнцыі. − Мінск: ТБМ, 1995. − С. 18−19.

14. Цыхун, Г. Шляхі ўпарадкавання беларускай тэрміналогіі / Г. Цыхун // Тэрміналагічны бюлетэнь. − 1997. – Вып. 1. − С. 5–7.

15. Цяцёркіна, В. Расійска-беларускі харэаграфічны слоўнік / В. Цяцёркіна. − Мінск: K J, 2001. − 97 с.

16. Шостак, А.П. Русско-белорусский словарь спортивных терминов / А.П. Шостак, Т.Е. Яковлева, Н.Е. Савицкая. − Минск, 2005. − 55 с.

17. Яромін, В.М. Марфалогія і анатомія раслін: Беларуска-рускі і руска-беларускі тэрміналагічны слоўнік / В.М. Яромін, М.П. Жыгар, Г.А. Баўтута. − Мінск: Тэсей, 2000. − 216 с.


***Л.В. Паплаўная*** (Гомель, Беларусь)

## ЛЕКСІКА СА ЗНАЧЭННЕМ КОЛЕРУ Ў ПАЭЗІІ ПІМЕНА ПАНЧАНКІ

Паэтычная творчасць Пімена Панчанкі – яркая старонка ў беларускай паэзіі XX стагоддзя. Ён самабытны і таленавіты паэт, які шырока і арыгінальна выкарыстоўваў мастацка-эстэтычныя магчымасці беларускага слова. Сістэма яго вобразна-выяўленчых

сродкаў шматгранная і гарманічна скампанаваная. І ў гэтай сістэме пэўнае месца займае лексіка колераабазначэння, якая з'яўляецца неад'емнай часткай слоўніка выдатнага мастака слова. Бачанне навакольнага свету ў колерах вымагае ад пісьменніка не толькі добрага ведання моўных сродкаў і перадачы з дапамогай іх разнастайных адценняў, але і асабістага прыроднага таленту да колерапісу словам.

Спецыялісты падзяляюць усе колеры на дзве групы: храматычныя (асноўныя), да якіх належаць сем колераў вясёлкі, і ахраматычныя – белы, чорны і ўсе шэрыя колеры [1, с. 168].

Пімена Панчанку можна аднесці да паліхромных паэтаў, паколькі ў яго паэтычнай мове сустракаюцца каларатывы абедзвюх груп. Аднак ахраматычныя колеры ўсё ж дамінуюць. Сярод іх найбольш колькасна прадстаўлены чорны і белы. Пры гэтым перавагу паэт аддае чорнаму колеру, што характарызуе яго як чалавека непрымірымага, гатовага да барацьбы. Сапраўды, Пімен Панчанка заставаўся непрымірымым да рознага роду негатыву, фальшу і гвалту над чалавечай асобай. П. Панчанка – гэта паэт-праўдалюб, палымяны абаронца духоўнасці і маральнасці жыцця.

Прыметнік чорны, які традыцыйна лічыцца сімвалам гора, бяды, смутку і жалобы, паэт часцей ужывае ў метафарычным значэнні: *Крывёю залітыя рэкі, падбітыя бомбамі хвоі… і* ***чорны*** *задымлены вецер [2, т. 1, с. 159]; Яшчэ рана, хлопцы, атрасаць на паперу горкія ўспаміны… Халадзее* ***чорная*** *раса На нямецкіх мінах [2, т. 1, с. 182]; Запяклася на ўскрайках варонак, Як на вуснах,* ***чорная*** *кроў [2, т. 1, с. 155]; Адплывае на захад гарматны гром,* ***Чорны снег*** *і забітых белыя твары [2, т. 1, с. 181].* Паэт-франтавік, які зведаў сапраўдную цану жыццю і смерці, П. Панчанка выкарыстоўвае чорны колер пераважна ў вершах ваеннага часу.

Да прыметніка *чорны* прымыкае каларатыў *цёмны*, які па колеру блізкі да чорнага: *Сосны месяц нада мной калышуць* ***Цёмнымі*** *касматымі рукамі [2, т. 1, с. 101]; Дзмухне вецер – і лісце клёнаў Далонямі* ***цёмнымі*** *стукне ў месяц [2, т. 2, с. 86]; Ноч зоркам перабблытала Таемныя шляхі – Адна ўпала спрытная У* ***цёмны*** *бор хлухі [2, т. 1, с. 26].*

*Белы* колер, які сімвалізуе чысціню, нявіннасць, таксама пашыраны ў паэтычнай мове П. Панчанкі. Найбольш ужывальны гэты колер у пейзажных замалёўках аўтара. Варта прыгадаць верш «Белыя яблыні», у якім паэт стварыў яркі малюнак вясновай прыроды, поўны хараства і замілавання. Вясна намалявана аўтарам светлымі фарбамі, з асаблівай вобразнай метафарычнасцю. Пімен Панчанка згадвае прыгожую легенду пра нараджэнне з белай квецені дзяўчат на нашай зямлі. Белая квецень яблынь успрымаецца як сімвал чысціні і прыгажосці чалавечых пачуццяў: *О* ***белыя*** *яблыні,* ***белыя*** *яблыні, Пялёсткаў шалёны хвалюючы пах! [2, т. 2, с. 302].*

Ужыванне прыметніка *белы* дапамагае паэту тонка перадаць прыгажосць беларускай прыроды: ***Белы*** *снежань мяккім пухам Апрануў палі і луг [2, т. 1, с. 43]; Пахне тут зямля смалою, Апавіта дзеразою, А пабелена бяростай* ***Белай***, ***белай*** *як*

*туман [2, т. 1, с.300]; Пах смалісты п'ю і не нап'юся, І пад гром птушыных галасоў Да бярозы* ***белай*** *прыхінуся, – Буду прагна піць салодкі сок [2, т. 1, с. 46].*

Да белага колеру паэт далучае шматлікія яго адценні – *светлы, беласнежны, ясны, малочны: На паляне ў* ***светлым*** *пералеску Расцвілі налітыя расой Сінія падснежныя пралескі Пад аховай урачыстых хвой [2, т. 1, с. 46]; Як пена,* ***беласнежныя*** *карункі Спускаюцца на пальцы веяроў [2, т. 1, с. 118]; Смолкай маланкай пупышкі палушчаны, Свежа і зелена.* ***Ясныя*** *дні [2, т. 1, с. 249]; Я сам люблю прыход вясны –* ***Малочнае*** *цвіценне вішань [2, т. 1, с. 17]; Пагразлі дрэвы ў* ***малочнай багне*** *[2, т. 1, с. 86].*

Колеракод шэры і яго адценні – *шызы, «цёмна-шэры з сіняватым адлівам», серабрысты, «які колерам і бляскам нагадвае серабро»,* – паэт ужывае ў якасці сродку намінацыі: *Мяне кліча ў госці друг мой лепшы –* ***Шэры*** *дрозд, цудоўнейшы спявак [2, т. 1, с. 46]; На жоўтых крыльцах зярняты лятуць І* ***шэрыя*** *фарбуюць тратуары [2, т. 3, с. 235]; Закончыў шлях і* ***шызы*** *голуб У каршуновых кіпцюрах [2, т. 1, с. 22]; Асцярожна трымаў на далонях тугіх* ***Серабрыстае*** *зарыва клён [2, т. 1, с. 51].*

Храматычная група колераў у паэзіі Пімена Панчанкі, якая па колькасці займае другое месца, прадстаўлена зялёным, сінім, чырвоным і жоўтым колерамі.

Зялёны колер, які лічыцца адным з найбольш спакойных колераў, самы пашыраны з храматычнай групы ў мове паэта.

Зялёны колер – гэта сведчанне не толькі рэалістычнага адлюстравання прыроднага асяроддзя, але і падсвядомага выражэння душэўнай ранімасці і, разам з тым, веры ў жыццёвыя сілы. Гэты колер П. Панчанка па-майстэрску выкарыстоўвае ў пейзажных замалёўках, выступаючы як майстар маляўнічага эпітэта і метафарычнага жывапісу: *А з поўдня ехаў май* ***зялёны*** *Да нас з вясёлкавай дугой [2, т. 1, с. 18]; Ліцеся сягодня ціха, ціха Родныя* ***зялёныя*** *дажджы [2, т. 2, с. 256]; Пярун перажагнаў* ***Зялёнай*** *бліскавіцай І чорную жаўну, І чорную крыніцу [2, т. 3, с. 105]; І так недарэчы У гэтых лясах непацёртых І рогат турыстаў, і бляск тых прылад рэпарцёрскіх, Што хочацца пушчы* ***Зялёныя*** *вочы заплюшчыць [2, т. 3, с. 53].*

Да зялёнага колеру далучаюцца яго адценні: цёмна-зялёны і светла-зялёны: *За край наш біліся яны, І ў чэсць іх вольны Нёман узгадаваў тры яліны Ў* ***цёмна-зялёных*** *шлёмах [2, т. 2, с. 51]; Вясною на елчыных лапах адростваюць* ***Светла-зялёныя*** *пальцы [2, т. 2, с. 32].*

Колеракоды *сіні* і *блакітны* ў паэзіі П. Панчанкі ў спалучэнні з назоўнікамі метафарызуюцца і набываюць дадатковыя сэнсавыя і эмацыяльна-экспрэсіўныя адценні: *На* ***сінія*** *травы, на сосны густыя Павольна спускаўся жнівеньскі вечар [2, т. 2, с. 143]; І паціху вецер* ***сіні*** *На празрысты, лёгкі насціл Залаты гарох раскінуў Трапяткіх нямых сузор'яў [2, т. 1, с. 15]; І навісла цяжкая хмара, Каб пад* ***сінім*** *агнём бліскавіц Дружным залпам дажджу ўдарыць [2, т. 1, с. 155]; Вясёлая трывога прагнала моцны сон…* ***Блакітная*** *дарога з асенніх верасоў [2, т. 3, с. 29]; У завеях пялёсткаў* ***блакітных*** *Няцяжка цяпер заблудзіцца [2, т. 1, с. 49].*

Як бачна з прыведзеных прыкладаў, выкарыстанне зялёнага, сіняга і блакітнага колераў актывізавана тэматыкай пейзажнай лірыкі паэта.

*Чырвоны* колер, які спрадвеку лічыўся ў славян сімвалам агню, сонца, у паэзіі П. Панчанкі займае асаблівае месца і з'яўляецца «колерам болю»: *Лета справіла шчодра памінкі: На рабінах **чырвоны** агонь Гэта гронкі маіх успамінаў, Гэта колер болю майго [2, т. 2, с. 32]; А на захадзе ў дыме **чырвоным** Бой жалезным голасам роў [2, т. 1, с. 55]; Агонь **чырвонымі** клыкамі Грызе разбіты Ваўкавыск [2, т. 1, с. 136].*

Побач з *чырвоным* колерам паэт вельмі часта ўжывае шматлікія яго адценні – *ружовы, барвовы, рубінавы, вішнёвы, малінавы, пурпуровы: Ты хацела забыць Кулямётаў суровы пагляд, Прыхінуцца да зорак І песні **ружовыя** выткаць [2, т. 2, с. 11]; Расплёскан па бярозах і хваінах **Барвовы** лівень жнівеньскай зары [2, т. 1, с. 77]; На віленскі бэз, на віры, на званіцы Цярушацца зоры **рубінавым** снегам [2, т. 2, с. 32]; З **вішнёвымі** губамі Дзяўчынка вунь ляціць [2, т. 2, с. 299]; Хутчэй бы прыйшла зіма, Белая і маладая, З **малінавымі** маразамі [2, т. 3, с. 14]; На фронце мы ў гнілых акопах мерзлі, а там на схілах – **пурпуровы** мак [2, т. 2, с. 116].*

Ружовы колер, «светла-чырвоны» і малінавы, «падобны на колер спелых суніц», паэт выкарыстоўвае выключна для апісання прыродных з'яў, ствараючы тым самым адмысловыя пейзажныя замалёўкі: *Норму вырабіўшы, клаўся У **ружовую** калыску Дзень – шырокі, нібы мора [2, т. 1, с. 15]; Гарыць **ружовы** край нябёс [2, т. 1, с. 22]; Зямля маладая спрасоння Дыміцца **ружовай** зарой [2, т. 1, с. 34]; Расой, як жэмчугам акроплены мурог, Гарыць зары **малінавая** стужка [2, т. 1, с. 35]; Адгаманіла лета На мове зор **малінавых** і кветак [2, т. 1, с. 36].*

З адмоўнай канатацыяй ужывае П. Панчанка прыметнік *крывавы, «ярка-чырвоны, колеру крыві»: **Крывавы** зброд руйнуе брудным ботам Хаціны мірныя, дзе люд вясёлы жыў [2, т. 1, с. 65]; Па травах зялёных Каравай пакаціўся **крывавы**, чырвоны [2, т. 1, с. 260].*

Па-мастацку рэалізуе паэт семантычныя магчымасці *жоўтага* колеру і такіх яго адценняў, як *залаты, «бліскуча-жоўты» і янтарны, «залаціста-жоўты»: Над **жоўтым** кветкавым кастром – Стракозы, быццам верталёцікі [2, т. 3, с. 11]; Плыве ракою **жоўтай** восень У цёмны і далёкі акіян [2, т. 3, с. 149]; Прыйшла ў наш горад восень На лапках **залатых** [2, т. 3, с. 75]; Хвалі цёмна-сінія, А пяскі **янтарныя**, Сонца п'е азёрны халадок [2, т. 2, с. 340].*

Праведзены аналіз паказвае, што П. Панчанка ўжывае колеравую лексіку не толькі ў якасці сродку намінацыі, але і для выражэння разнастайных эмацыянальна-экспрэсіўных ацэнак. Мова яго паэтычных твораў сакавітая, каларытная, вобразная. Выкарыстоўваючы колеранайменні ў якасці вобразных сродкаў, паэт адухаўляе прыроду, апісвае яе з вялікай замілаванасцю, шчодрасцю фарбаў і багаццем колеравай гамы. Разнастайнасць лексічнай колеравай палітры П. Панчанкі, яе сімвалічная насычанасць вызначаюць адметнасць яго аўтарскага стылю.

***Літаратура***

1. Миронова, Л.Н. Цветоведение / Л.Н. Миронова. – Минск: Вышэйш. шк., 1984. – 286 с.
2. Панчанка, П. Збор твораў: у 4 т. / П. Панчанка. – Мінск: Мастацкая літаратура, 1981.

***Л.И. Петровичева, Е.Н. Богданович*** (Минск, Беларусь)

**ЭСТЕТИЧЕСКАЯ СОСТАВЛЯЮЩАЯ СТРУКТУРЫ ТЕКСТА (на материале рассказа М. Шолохова «Чужая кровь»)**

Обозначим, что под текстом мы понимаем совокупность структурно-содержательных единиц, взаимозависимость и взаимодействие четырех его составляющих (информационной, логической, психологической и эстетической). Мы остановимся на эстетической составляющей структуры текста рассказа М. Шолохова «Чужая кровь». Но сразу же оговорим, что будем рассматривать ее не с литературоведческой, а с книговедческой стороны (в частности, редакционно-издательского дела).

В связи с тем, что государственная политика в сфере образования Республики Беларусь основывается на принципах приоритета общечеловеческих ценностей, гуманистического характера образовательного процесса, задача эстетической составляющей любого текста видится прежде всего в эффективности ее воспитательного воздействия на читателей. Добиться выполнения поставленной задачи возможно через реализацию функций рассматриваемой составляющей структуры текста: *мировоззренческой,* формирующей у читателя нравственные, эстетические, философские и другие нормы поведения; *организующей (эмоционально настраивающей, активизирующей внимание)*, то есть создающей условия, при которых текст будет коммуницировать с читателем; *ориентирующей*, содержащей явную или неявную оценку сообщаемых сведений, положений, событий и т. д. и направляющей, побуждающей читателя к их активному осмыслению, собственному анализу и оценке.

Изучение текста интересует нас с точки зрения понимания его читателем, мы исследуем его взаимодействие с теми, кому он адресуется. Цель исследования – выявить эффективность понимания читателями рассказа М. Шолохова «Чужая кровь», воздействие на них эстетической составляющей структуры текста. Был проведен анкетный опрос 68 студентов 2 курса факультета «Издательское дело и полиграфия» БГТУ. Анализ ответов студентов на вопросы показал, что текст рассказа оказывает на них сильное воспитательное воздействие. Читатели сопереживают Гаврилу и его жене, вместе с ними провожают и ждут их сыновей, и вместе с ними понимают, что те уже никогда не вернутся.

Рассказ никого не оставляет равнодушным. Недолгое счастье вновь иметь сына и прощание навсегда, теплота чувств и разбитые надежды, когда становится «холодно» героям рассказа и читателям от того, что все то тепло, отданное Николаю как родному сыну, уходит в никуда и никогда не вернется, и не согреет их старость. «Как же это так, – пишет одна из опрошенных студенток, – как можно быть таким жестоким. Они же вернули его к жизни, они отдали ему все, они назвали его сыном. А он уехал, просто уехал. Не приехал и не забрал их с собой. Он не имел морального права так поступить с

ними, это нечеловечно». «Наверно, от того и рушится наш мир, что люди не отвечают добром на добро, не ценят то, как к ним относятся друзья, соседи, знакомые, не думают о других. К сожалению, в современном мире большинство людей заботятся только о себе, только берут, но не отдают, – пишет другой студент. – Мы забыли слова Священного Писания: «Благодарные люди спасут мир». И страшно подумать: к чему это приведет». М. Шолохову удается остановить читателей в суете этой жизни, направить их на размышления о вечных ценностях, о тех людях, которые вложили в них частицу своей души, и о своем отношении к ним, о тех, кто их вырастил и воспитал. «Мы часто воспринимаем заботу родителей как нечто привычное и обязательное, не задумываясь о том, что мы значим для них, на что они идут ради нас. Многого мы никогда не узнаем. Но мы должны всегда помнить об этом. Этот рассказ подтолкнул меня подумать о том, какой я сын».

В тексте рассказа нет нотаций и четко прописанных правил поведения, нет прямой авторской оценки событий и поступков людей. М. Шолохов просто рассказывает, показывает внутренний мир героев, их чувства, переживания, их мужество, их трагедию. Но то, как автор рассказывает, то, как он выстраивает текст, воздействует еще сильнее. М. Шолохов дает возможность увидеть жизнь глазами стариков, их сердцами. «Зачем война проклятая, зачем завод литейный?» Автор показывает силу родительской любви, перед которой надо преклонить голову, их боль, которая становится и болью читателей. Текст построен так, что студенты понимают высокую ценность человеческих отношений, еще глубже осознают цену отцовской и материнской любви. Рассказ производит сильное эмоциональное воздействие. Многие читатели вместе с Гаврилом все-таки надеются и ждут, что вернется «чужая кровь», но в то же время и понимают, что этого никогда не будет. Студенты анализируют: почему так поступил Николай, к которому относились как к родному сыну, и не видят ему оправдания.

Рассказ построен так, что он находит живой отклик у читателей, наталкивает их на размышления, на оценку и переоценку своих взглядов и отношений к людям, заставляет их задуматься о вечных ценностях. Проведенный анализ показал, что эстетическая составляющая структуры текста рассказа М. Шолохова «Чужая кровь» очень не навязчиво, но эффективно «работает» с читателем, с его мыслями и душой, воспитывая в нем человека, пробуждая лучшие его качества, ориентирует на духовность, добро, благодарность. Текст этого рассказа формирует нравственные и эстетические идеалы читателей, которые становятся их убеждениями. В этом мастерство М. Шолохова, которому надо учиться авторам. Очень важно выстраивать текст так, чтобы добиться его воспитательного воздействия на читателей. М. Шолохову удалось достичь этого. Редактор должен уметь оценить, смог ли автор реализовать задачу и функции эстетической составляющей структуры текста, и если это необходимо помочь ему рекомендациями по организации текста.

Рассказ «Чужая кровь» «вбирает в себя» читателя, помогает ему в самосовершенствовании, содействует в его духовном и нравственном росте. Благодаря

тому, что текст выполняет вышеперечисленные функции эстетической составляющей его структуры, становится возможным эффективность процесса его понимания студентами, эффективность его воспитательного воздействия на них. Текст воспринимается не пассивно, он преобразуется читателями, которые, раскрывая его возможности, одновременно изменяются сами. В их душах еще тверже и глубже утверждаются идеалы добра, любви, благородства, текст побуждает их к размышлению о своем отношении к жизни, учит обдумывать свои поступки, ценить любовь, заботу, внимание окружающих их людей.

***І.В. Піваварчык*** (Гродна, Беларусь)

**САКРАЛЬНАЯ ТАПАНІМІЯ ГРОДЗЕНШЧЫНЫ**

Вывучэнне сакральнага анамастыкону – параўнальна новая тэма для ўсходнеславянскага мовазнаўства. Па прычыне «тэалагічнасці» матэрыялу, спецыфічнасці названых аб’ектаў сакральная анамастыка, займаючы своеасаблівае месца ў агульнай тапанімічнай сістэме, доўгі час заставалася па-за ўвагай даследчыкаў. Толькі з канца XX ст. адбыўся паварот грамадства да духоўных рэлігійных каштоўнасцяў, да даследавання рэлігійнай праблематыкі. У гісторыі анамастыкі многія вучоныя займаліся пытаннямі, прама ці ўскосна звязанымі з вывучэннем рэлігійных тапонімаў: працы М.В. Гарбанеўскага аб гісторыі агіятапонімаў Маскоўскай вобласці, раздзел у манаграфіі А.Л. Беразовіч аб тапаніміі Рускай Поўначы, дзе праведзены ўсебаковы аналіз рэлігійных тапонімаў названага рэгёна.

У адносінах да апісання рэлігійнай анамастычнай намінацыі існуе некалькі падыходаў. У навуковай літаратуры дастаткова трывала ўвайшоў ва ўжытак тэрмін *сакральны анамастыкон*. У дысертацыйным даследаванні «Язык православной сферы: современное состояние, тенденции развития» аўтар І.В Бугаёва да сакральнага анамастыкону адносіць: тэонімы, агіяантрапонімы («апеллятивно-антропонимический комплекс, служащий для номинации прославленных христианских святых»), агіятапонімы, іконімы (назвы абразоў), эартонімы (назвы царкоўных свят), эклезіёнімы (назвы храмаў і манастыроў) [1, с. 34]. Асноўным паказчыкам аднесенасці намінатыўнай адзінкі да разраду ўласных імён, якія ствараюць анамастычнае поле са значэннем святасці, з’яўляецца наяўнасць у іх складзе сакральнай семы. Складаная сістэма і своеасаблівая размытасць тэрміналагічна-паняційнай атрыбуцыі выклікае нязгоду некаторых даследчыкаў: «Несогласие вызывает термин *сакральная ономастика*, который хотя и активно употребляется учеными-ономастами, но, бесспорно, нуждается в пересмотре – вплоть до отказа от него» [2, с. 82].

У дадзеным артыкуле разглядаюцца тапонімы, з’яўленне і бытаванне якіх звязана са сферай хрысціянскай рэлігіі. Паспрабуем выявіць асаблівасці функцыянавання і семантычнага напаўнення сакральнай тапанімічнай лексікі на тэрыторыі Гродзеншчыны. Матэрыялам даследавання паслужылі анамастычныя слоўнікі Гродзенскай вобласці,

дыялектныя слоўнікі Гродзеншчыны, выкарыстаны таксама матэрыялы архіўных крыніц мінулага стагоддзя.

У сакральнай прасторы Гродзенскага рэгіёна можна выдзеліць некалькі груп тапонімаў. У першую групу мы ўключаем геаграфічныя назвы, у аснову якіх пакладзена пэўная біблейская лексема і якія ўмоўна можна назваць «біблейскія тапонімы». У групе «біблейскія тапонімы» выдзяляюцца тапонімы: а) утвораныя ад назваў біблейскіх геаграфічных аб'ектаў і б) утвораныя ад назваў біблейскіх персанажаў. Матывацыя такіх тапонімаў заснавана на біблейскім кантэксце, яны звычайна з'яўляюцца метафарычнымі назвамі і адлюстроўваюць спецыфіку пераасэнсавання біблейскага вобразу народнай свядомасцю.

Біблейскія тапонімы былі асабліва прадуктыўнымі ў XIX ст. для называння так званых калоній – прымусовых месцаў пасялення яўрэйскага насельніцтва. У Заходніх губернях яўрэяў прымушалі апрацоўваць зямлю, ствараючы сельскагаспадарчыя калоніі ў рысе аседласці. На тэрыторыі Гродзенскай губерні было адведзена 407 надзелаў для яўрэяў-земляробаў, на якіх была арганізавана 21 калонія. Засноўваючы сельскія населеныя пункты, яўрэйскае насельніцтва давала ім назвы. Пералічым іх: *Галілейская, Ізраільская, Сіёнская, Ааронава, Іерусалімская, Мікалаеўка, Аляксандраўка, Канстанцінава, Паўлава, Іярданава, Якаўлева, Аўрамава, Сароўская, Лотава, Ісакава, Палесцінская, Хаанская, Фаворская, Маісеева, Сінайская, Іудзейская* [4, с. 30–31]. Тапонімы з асновамі *галілей-, ізраіл-, сіён-, іерусалім-, іярдан-, палесцін-, хаан-, фавор-, сінай-* – вынікі сімвалічнай намінацыі. Абсалютная большасць назваў калоній паказвае на іх сувязь з легендарнымі біблейскімі тапонімамі, выражае, на нашу думку, спецыфічныя з'явы чужой культуры і асацыіруецца з месцам пражывання яўрэйскага этнасу. Асноўная прычына з'яўлення іх як геаграфічных аб'ектаў звязана з палітычнымі працэсамі, аўтары намінацый, верагодна, хацелі падкрэсліць у назвах сваіх населеных пунктаў непарыўную сувязь месца і яго жыхароў з яўрэйскім народам і яго мовай.

Прычыны ліквідацыі ці самаліквідацыі калоній і (ці) іх назваў у дадзеным артыкуле не асвятляюцца. Зазначым, што тапонім *Сінайская Калона* існуе і цяпер – такую назву мае вёска ў Дзярэчынскім с/с Зэльвенскага раёна [3, с. 221]. Гэта сведчанне таго, што біблейскае паходжанне тапоніма не з'явілася прычынай для яго замены ці знікнення.

У наступную групу мы ўключылі тапонімы, якія абазначаюць рэлігійныя рэаліі і якую ўмоўна можна назваць *хрысціянскія тапонімы*. Яе можна падзяліць на некалькі падгруп. У першую падгрупу ўваходзяць тапонімы, утвораныя ад тэонімаў, другую падгрупу складаюць тапонімы, матываваныя назвамі рэлігійных аб'ектаў, у трэцюю падгрупу ўключаюцца айконімы, узнікненне якіх абумоўлена назвай рэлігійнай асобы.

Айконімы, тапаасновы якіх узыходзяць да тэонімаў, вельмі рэдкія на Гродзеншчыне. Гэта назвы *Божы Дар* (Бялкоўшчынскі с/с Смаргонскага р-на) і *Святы Дух* ( Кальчунскі с/с Ашмянскага р-на). Рэлігійная матывацыя тапонімаў паслужыла першапрычынай для іх перайменавання: з 1964 г. в. Божы Дар атрымала назву Хадакі, в.Святы Дух з 1949 г. стала іменавацца Будзёнаўка.

Найбольш частотнымі з рэлігійна матываваных тапонімаў з'яўляюцца айконімы, утвораныя ад назваў рэлігійных аб'ектаў. Гэта *Касцельная Баля* (в.да 1964 г. у Лойкаўскім с/с Гродзенскага р-на, зараз *Зарачанка;* першы кампанент назвы мяняўся: спачатку тапонім меў назву *Царкоўная Баля*, назва *Касцельная Баля* адносіцца да ХХ ст. і звязваецца з канфесійнай прыналежнасцю храма), в. *Вялікая Капліца* і *Малая Капліца* (Путрышкаўскі с/с Гродзенскага р-на), *Падкасцёлак* (хутар у Спондаўскім с/с Ашмянскага р-на), *Плябанавічы* (Дзятлаўскі с/с Дзятлаўскага р-на, Канюхоўскі с/с Бераставіцкага р-на), *Плябанаўцы* (Роскі п/с Ваўкавыскага р-на, Пескаўскі с/с Мастоўскага р-на, Васілішкаўскі с/с Шчучынскага р-на), *Плябанішкі* (Гожскі с/с Гродзенскага р-на), *Плябанскія* (Лойкаўскі с/с Гродзенскага р-на), *Плябанцы* (Гальшанскі с/с Ашмянскага р-на, Дубровенскі с/с Лідскага р-на).

Наступную падгрупу ўтвараюць айконімы, анамаасновамі якіх выступаюць назвы царкоўных асоб. Колькасць назваў абмежавана: *Папоўшчына* (хутары да 1970-х гадоў у Дзятлаўскім р-не) і *Равіны* (Варачанскі с/с і Карэліцкі п/с Карэліцкага р-на). Зыходныя матывацыйныя значэнні гэтых тапонімаў выявіць складана.

Асобную групу тапонімаў утвараюць тыя, у якіх семантыка 'святы' фармальна не выражана, аднак падразумяваецца значэннем самога геаграфічнага тэрміна. Так, *Васкрасенка* (Граўжышскі с/с Ашмянскага р-на), *Вялікая Свянціца* і *Малая Свянціца* (Вердаміцкі с/с Свіслацкага р-на), *Наваспаск* (Сінькоўскі с/с Смаргонскага р-на, да 1964 г. в.Ферма), *Свяцк* (Сапоцкінскі п/с Гродзенскага р-на).

Такім чынам, айконімы, якія ўтвараюць групу сакральнай тапаніміі, нешматлікія, для большасці з іх характэрна сімвалічнае і метафарычнае ўжыванне.

***Літаратура***

1. Бугаева, И.В. Язык православной сферы: современное состояние, тенденции развития: автореф. дис. … д-ра филол. наук: 10.02.01 / И.В. Бугаева. – М., 2010. – 39 с.

2. Маршева, Л.И. «Православный социолект (религиолект)» как способ языковой маргинализации / Л.И. Маршева // Вестник ПСТГУ. Серия III, Филология. – 2010. – Вып. 2 (20). – С. 74–85.

3. Рапановіч, Я.П. Слоўнік назваў населеных пунктаў Гродзенскай вобласці / Я.П. Рапановіч – Мінск: Навука і тэхніка, 1982. – 319 с.

4. Соболевская, О. Сельскохозяйственная деятельность евреев Белоруссии в XIX веке / О.Соболевская // Евреи Беларуси: История и кудьтура: сб.науч. трудов. – Минск. – 1988. – Вып. 3–4. – С. 26–35.

***Ю.Ф. Прадід*** (Сімферополь, Україна)

## УКРАЇНСЬКА ПЕРЕКЛАДНА ФРАЗЕОЛОГІЯ

Початки української перекладної фразеографії сягають у XIX ст., коли фразеологічні одиниці (далі ФО) почали описувати в пареміологічних працях. З початку і до середини 50-х років XX ст. ФО були об'єктом описання в лексикографічних зібраннях. І лише в 50 – 60-х роках XX ст. почали з'являтися перекладні фразеологічні словники, але в усіх словниках, за винятком праць Ю.Ф. Прадіда [11] та Е.М. Емірової [16], поряд із ФО описуються й інші стійкі звороти (прислів'я, приказки, крилаті вислови і под.).

Першим перекладним фразеологічним словником, що побачив світ в Україні, був «Фразеологічний словник англійської мови з українськими відповідниками» К.Т. Баран-

***Літаратура***

1. Бірыла, М.В. Літоўскія элементы ў беларускай анамастыцы / М.В. Бірыла, А.П. Ваганас. – Мінск: Навука і тэхніка, 1969. – 100 с.

2. Лемцюгова, В.П. Беларуская анамастыка: Лінгвістычны аналіз назваў населеных пунктаў Мінскай вобласці / В.П. Лемцюгова. – Мінск: Навука і тэхніка, 1970. – 150 с.

3. Лемтюгова, В.П. Топонимия Минщины: автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.661 / В.П. Лемтюгова; Ін-т мовазнаўства АН БССР. – Минск, 1966. – 24 с.

4. Сцяцко, П.У. Беларускае народнае словаўтварэнне. Афіксальныя назоўнікі / П.У. Сцяцко. – Мінск: Навука і тэхніка, 1977. – 320 с.

5. Sperber, W. Die Bedeutung der Plurals bei sorbischen Flürnamen / W. Sperber // Zeitschrift für slawistik. – B. 3. – H. 2–4. – Berlin, 1958. – S. 310–322.

***М.С. Ржавуцкая, С.С. Мароз*** (Мінск, Беларусь)

## ГУТАРКОВАЯ ЛЕКСІКА Ў АРЫГІНАЛЕ І ПЕРАКЛАДЗЕ МАСТАЦКАГА ТЭКСТУ

Мастацкі пераклад, як і любы іншы, павінен узнавіць сродкамі мовы перакладу ўсё тое, што было сказана на зыходнай мове. Асаблівасці праблем мастацкага перакладу найперш «вызначаюцца спецыфікай самога мастацкага тэксту» [2, с. 344]. Адной з такіх асаблівасцей зыходнага тэксту можа быць наяўнасць у ім гутарковых лексічных адзінак.

Гутарковая лексіка – гэта лексіка вуснага маўлення «з адценнямі іроніі, жарту, знявагі або эмацыянальна-экспрэсіўнай афарбоўкай» [3, с. 40]. Гутарковыя словы ўваходзяць у лексічную сістэму літаратурнай мовы, ужываюцца пераважна ў сферы паўсядзённых зносін, шырока выкарыстоўваюцца ў творах мастацкай літаратуры як стылістычны сродак. Гутарковая лексіка – гэта даволі аб'ёмная і разнастайная група, якая ўключае словы, адметныя як па семантыцы, так і ў граматычных адносінах.

На матэрыяле арыгінала і перакладу твораў Івана Мележа прааналізуем магчымыя сродкі перадачы гутарковай лексікі на рускую мову.

Значны пласт гутарковай лексікі складаюць адзінкі эмацыянальна-экспрэсіўнай ацэнкі. Тут сустракаюцца характарыстычныя словы з нейтральнай, станоўчай і негатыўнай ацэнкай. Агульнавядома, што словы з негатыўнай ацэнкай пераважаюць. Негатыўная ацэнка можа ўваходзіць семантычным кампанентам у структуру лексічнага значэння слова і абазначаць самую розную семантыку. Асабліва характэрныя для гэтага тыпу слоў эмацыянальна-экспрэсіўныя найменні асобы, якія даюць характарыстыку знешнім і ўнутраным якасцям чалавека. Канататыўна афарбаваную лексіку арыгінала часам дастаткова складана ўзнавіць сродкамі перакладу. Аднак у беларускай і рускай мовах ёсць група слоў, аднолькавых (нават тоесных) або надзвычай блізкіх па сэнсе і эмацыянальнай насычанасці: *неслух – неслух, дурніца – дурёха, хвалько – хвастун, не зломак – не промах, задзіра – задира: ‒ Вярніся, **неслух**! – пачуў ён [Хведзька] дзедаў загад…* («Людзі на балоце»). ‒ ‒ *Вернись, **неслух**! – услышал он приказ деда…* (пераклад Н. Кісліка). *Тут часта пачыналіся спрэчкі: адны даказвалі, што бяда-бядою, што Хадоська цяпер – нават лепшая, паразумнела, не тое, што якая другая **дурніца**…* («Подых навальніцы»). – *Тут часто начинались споры: одни доказывали, что беда бедою, а Хадоська теперь даже лучше стала, поумнела, не то что какая-*

*нибудь там* ***дурёха****…* (пераклад Д. Кавалёва). *Наліваючы чарку, сказаў, як* ***хвальку****: – Дай бог чутае бачыць!* («Людзі на балоце»). – *Наливая чарку, сказала, как* ***хвастуну****: – Не вижу, так и не верю!* (пераклад Н. Кісліка). – *І на работу ж –* ***не зломак****! – запярэчыла Алёшава сястра* («Людзі на балоце»). – – *И к работе –* ***не промах****! – возразила Алёшина сестра* (пераклад Н.Кісліка). *…Але побач з дзядзькам сядзела* ***задзіра*** *Ануля…* («Людзі на балоце»). – *…но рядом с дядькой сидела* ***задира*** *Ануля…* (пераклад Н. Кісліка). Выдзеленыя лексемы ў ілюстрацыях раўназначныя ў семантычных і стылістычных адносінах.

Пры параўнанні арыгінала і перакладаў твораў І. Мележа семантыка-стылістычная раўназначнасць гутарковых слоў назіраецца не заўсёды, параўнаем: *Міканор нібы пабачыў гарэзную Іванаву ўсмешачку – і тут,* ***прычэпа****, не ўтрываў…* («Людзі на балоце»). – *Миканор словно увидел озорную Иванову усмешечку – и тут,* ***задира****, не удержался…* (пераклад Н. Кісліка). *…А паспрабуй утрымаць дома гэту* ***неадчэпу-заразу*** («Людзі на балоце»). – *…Да попробуй удержать в хате этого* ***назолу*** (пераклад Н. Кісліка). Відавочна, ступень семантычнай тоеснасці ў гэтых парах слоў неаднолькавая. **Прычэпа – задира**: *прычэпа* – той, які звяртаецца з надакучлівымі размовамі, пытаннямі, просьбамі, прыставала; *задира* – завадатар сварак, забіяка. **Неадчэпа-зараза – назола**: *неадчэпа* – тое, што і прычэпа; *зараза* – шкодны, паганы чалавек; *назола* – той, хто назаляецца, дакучае. Як відаць, лексічныя адзінкі арыгінала і перакладу семантычна неадпаведныя.

Гутарковая лексіка – гэта словы розных лексіка-граматычных разрадаў. Гутарковыя дзеясловы вызначаюцца бытавой канкрэтнасцю семантыкі. У большасці выпадкаў такія дзеясловы абазначаюць дробныя, не вельмі значныя дзеянні, што не выходзяць за межы паўсядзённага жыцця чалавека. Дзеяслоў **корпацца** мае значэнні: 1) капацца ў чым-небудзь, перабіраючы, шукаючы што-небудзь; 2) рабіць што-небудзь марудна, не спяшаючыся або няўмела. У перакладах твораў Івана Мележа да гэтага дзеяслова ўжываюцца адпаведнікі: *хлопотать, суетиться, возиться, копаться*: *Пры печы* ***корпалася*** *гаспадыня…* («Завеі, снежань»). – *У печи* ***хлопотала*** *Циля* (пераклад Д. Кавалёва і І. Залатухінай). *…[Васіль] убачыў… дзеда Дзяніса, які* ***корпаўся*** *пры калёсах* («Людзі на балоце»). – *…Василь увидел… деда Дениса,* ***суетившегося*** *около телеги* (пераклад М. Гарбачова). *[Васіль]… стаў* ***корпацца*** *з калёсамі* («Людзі на балоце»). – *[Василь]… стал* ***возиться*** *с телегой* (пераклад Н. Кісліка). *Сяргей ад самай раніцы* ***корпаўся*** *ў маторы…* («Мінскі напрамак»). – *Сергей с самого утра* ***копался*** *в моторе…* (пераклад Л. Ракоўскага). **Хлопотать** – г. зн. старацца, увіхацца; *суетиться* – зн. мітусіцца; *возиться* – зн.важдацца, поркацца, кешкацца; *копаться* – зн. корпацца. Як бачым, найбольш семантычна блізкія ад адзінкі арыгінала адпаведнікі *возиться, копаться*. Лексемы *хлопотать, суетиться* нельга лічыць адэкватнымі ні па семантыцы, ні па эмацыянальна-экспрэсіўнай афарбоўцы.

Гутарковая лексіка вызначаецца яскравай семантычнай экспрэсіўнасцю. Якасная характарыстыка дзеяння з'яўляецца вызначальнай для большасці дзеясловаў, якія

ўтвараюць шматкампанентныя сінанімічныя рады, як, напрыклад, адзінкі з агульным значэннем «ісці». Адпаведнікі да такіх лексічных адзінак могуць быць абсалютна тоесныя, адносна тоесныя, нятоесныя. Звернемся да ілюстрацый: *…Але вазок, нібы знарок, **плёўся** далёка* («Завеі, снежань»). – *Но его возок, как нарочно, **тащился** далеко* (пераклад Д. Кавалёва і Т. Залатухінай). *Праз хвіліну, згорблены, ён [Міканор] **тупаў** ужо к балоту* («Людзі на балоце»). – *Через минуту, согнувшись под тяжестью ноши, он уже **шагал** к болоту* (пераклад М. Гарбачова). *Конь цяпер не бег – **клыпаў** цярпліва свежым снегам* («Завеі, снежань»). – *Конь теперь не бежал – **ковылял** терпеливо по свежему снегу* (пераклад Д. Кавалёва і Т. Залатухінай). *Афіцыянтка… **паклыпала** да буфета* («Завеі, снежань»). *– …Официантка… **поплелась** к буфету* (пераклад Д. Кавалёва і Т. Залатухінай). На нашу думку, найбольш семантычна блізкія пары: *плёўся – тащился, клыпаў – ковылял*; адносная семантычная блізкасць назіраецца паміж адзінкамі: *паклыпала – поплелась*; стылістычна нятоесныя: *тупаў – шагал*, паколькі *тупаць* – разм. ісці, хадзіць; *шагать* – нейтр. крочыць.

Аналіз арыгінала і перакладу паказаў, што неадзінкавыя выпадкі, калі для перадачы гутарковай лексікі «з выразнай канататыўнай афарбоўкай прыцягваюцца моўныя адзінкі, якія маюць іншае сэнсавае і эмацыянальнае напаўненне, чым беларускія» [1, с. 11].

***Літаратура***

1. Астапчук, А.М. Ацэначная лексіка ў перакладзе на рускую мову рамана ў вершах Ніла Гілевіча «Родныя дзеці» / А.М. Астапчук // VIII Міжнародныя навуковыя чытанні, прысвечаныя Сцяпану Некрашэвічу»: Міжнар. навук. канф., (Гомель, 18 мая 2007 г.: зб. навук. арт.: у 2 ч. / ГДУ імя Ф. Скарыны; рэдкал.: А.А. Станкевіч [і інш.]. – Гомель, 2007. – Ч. 2. – С. 8–11.

2. Сдобников, В.В. Теория перевода / В.В. Сдобников, О.В. Петрова. – М.: АСТ Восток-Запад, 2007. – 448 с.

3. Сцяцко, П.У. Слоўнік лінгвістычных тэрмінаў / П.У. Сцяцко, М.Ф. Гуліцкі, Л.А. Антанюк; пад рэд. М.В. Бірылы, П.У. Сцяцко. – Мінск: Вышэйш. шк., 1990. – 222 с.

***А.С. Русских*** (Минск, Беларусь)

## СОХРАНЕНИЕ НАЦИОНАЛЬНО-КУЛЬТУРНОГО КОМПОНЕНТА ПРИ ПЕРЕВОДЕ ХУДОЖЕСТВЕННОГО ТЕКСТА С ПОЛЬСКОГО НА РУССКИЙ И БЕЛОРУССКИЙ ЯЗЫКИ

Необходимость сохранить инвариант содержания художественного текста вынуждает переводчика прибегать к различного рода трансформациям (как семантическим, так и грамматическим), в результате которых лексическим единицам текста оригинала в тексте перевода могут соответствовать не только словарные эквиваленты, но и различные переводческие трансформы. Одним из видов лексико-семантических трансформаций, позволяющих сохранить национально-культурную специфику текста-оригинала, является транслитерация, представляющая собой «передачу написаний, соответствующих графической конвенции, принятой в одном языке, написаниями, нормированными в соответствии с принципами орфографии другого языка» [2, с. 98].

Нами были проанализированы случаи использования транслитерированных форм на месте производных имен существительных в русском и белоруском текстах поэмы

А. Мицкевича «Пан Тадеуш». В качестве русского текста анализировался перевод С. Мар (Аксёновой), в качестве белорусского – перевод П. Бителя. Производное слово обладает специфической внешней и внутренней формой, которая сигнализирует о том, как был понят обозначаемый объект и с каким реальным объектом его сравнили или ассоциировали носители языка. Обычно при переводе производной лексики особое внимание переводчика концентрируется на внутренней форме слова, то есть на семантике производящей основы. Однако использование транслитерированных форм при переводе производной лексики свидетельствует об актуализации словообразовательной структуры вторичной номинации.

В русском тексте транслитерация используется при переводе 15 польских производных существительных, в белорусском – при переводе 37 польских производных существительных. Посредством транслитерации с сохранением некоторых элементов транскрипции как в русском, так и в белорусском текстах переводятся польские производные существительные, образованные путем присоединения эмоционально-оценочных аффиксов, не имеющих тождественных по форме и значению аналогов в языках переводов. Так, польское существительное *księżyna* образовано при помощи суффикса *-yn(a)* от лексемы *ksiądz*. В русском и белорусском языках образование тождественного по смыслу и структуре коррелята невозможно, поскольку основа существительного *ксендз* не допускает прибавления суффикса *-ин(а)* (*-ын(а)*). Поэтому переводные лексемы (рус. *ксенжина*, бел. *ксянжына*) расцениваются нами как транслитерированные формы с элементами транскрипции:

польск.: *Jeśli od niego wyszła ta cała nowina,*
*To kto wie, w jakim celu: bo to bies **księżyna*** [3, с. 165]

рус.: *С какою целью врал, мне это все едино,*
*Но доверять ему не надо, бес – **ксенжина*** [3, с. 724]

бел.: *Калі ж вось гэта ад яго прыйшла навіна,*
*Дак што ў яго за мэта? Бес ён – не **ксянжына*** [3, с. 446]

Транслитерированные формы также используются в обоих переводах при передаче некоторых имен собственных (напр., польск. *Mopanku* – рус. *Мопанку*, бел. *Мапанку*; польск. *Protazeńku* – рус. *Пратазенька*, бел. *Пратазанька*).

Бóльшая часть польских производных существительных, переводимых на **русский язык** путем транслитерации, представляет собой слова, не имеющие однословных коррелятов в русском языке. Словосочетания же не всегда могут быть использованы в качестве переводческих коррелятов, поскольку не вписываются в ритмическую структуру стихотворной строки. Так, польское существительное *polszczyzna* переводится на русский язык следующим образом: *уст.* все польское (культура, обычаи и т. п.) [1, с. 97]. Вместо данного словарного эквивалента, представляющего собой объяснительный перевод, в русском тексте поэмы используется транслитерированная форма *польщизна*. В белорусском тексте польскому слову соответствует существительное *польскасць*:

польск.: *Wpadam do Soplicowa jak w centrum **polszczyzny**:*
*Tam się człowiek napije, nadyszy Ojczyzny!* [3, с. 171]

рус.: *Я в Соплицово шел натешиться* ***польщизной****,*
*Там надышаться мог, упиться мог отчизной* [3, с. 730]

бел.: *Заходжу ў Сапліцова* ***польскасцю*** *абмыцца,*
*Бо там сапраўды нашых звычаяў сталіца* [3, с. 452]

При переводе польских производных имен существительных на **белорусский язык** прием транслитерации применяется гораздо чаще, чем в русскоязычном варианте поэмы. Данный вид трансформации широко используется белорусским переводчиком в следующих случаях:

1) для передачи имен собственных (напр., польск. *Rębajło* – бел. *Рэмбайла*; польск. *Rózeczka* – бел. *Рузэчка*; польск. *Scyzoryczek* – бел. *Сцызорычак*; польск. *Szczerbiec* – бел. *Шчэрбец*);

2) для перевода безэквивалентной польской лексики (напр., польск. *dębniak* – бел. *дубняк*; польск. *Jegomość* – бел. *ягамосць* и др.);

3) для перевода польских производных имен существительных, которым в белорусском языке соответствует аналитическая структура (напр., польск. *Wojszczanka* – бел. *Вайшчанка*).

В русском тексте в качестве переводческих коррелятов данных польских лексем чаще всего используются различные переводческие трансформы: межъязыковые контекстуальные синонимы (польск. *Szczerbiec* – рус. *Рубака)*, переводческие корреляты без уменьшительно-лакательных суффиксов (польск. *Rózeczka* – рус. *Розга*), аналитические структуры (польск. *Scyzoryczek* – рус. *Перочинный нож*), описательные обороты (польск. *szlachcic* – рус. *шляхетские мухи,* бел. *шляхціц*), кроме того, данные существительные нередко опускаются при переводе.

В тех случаях, когда в языках переводов польским лексемам соответствует аналитическая структура, русский переводчик стремится ее использовать либо, при невозможности прямого перевода, опустить данное существительное, а белорусский предпочитает включение в текст перевода транслитерированной формы (напр., польск. *Wojszczanka* – рус. *Дочка Войского*, бел. *Вайшчанка*; польск. *Wojewodzianka* – рус. *дочка воеводы*, бел. *ваеводзянка*; польск. *Hreczeszanka* – рус. *лакуна,* бел. *Грэчашанка*). Следует отметить, что довольно часто транслитерированные формы используются для перевода на белорусский язык даже тех существительных, которые не относятся к безэквивалентной лексике (напр., польск. *przycisk* – бел. *прыціск*; польск. *groźba* – бел. *гразьба*; польск. *delikacik* – бел. *далікацік*).

Столь активное использование белорусским переводчиком транслитерации как наиболее национально окрашенной единицы, отражающей национальную культуру и содержанием, и формой, свидетельствует о стремлении к сохранению национального духа поэмы. В русском тексте обилие подобных форм могло бы привести к нарушению одного из основных принципов адекватного перевода – принципу динамической эквивалентности, заключающейся в полной естественности способов выражения. Именно поэтому при интерпритации текста поэмы на русский язык переводчик использует транслитерированные формы более избирательно.

***Литература***

1. Гессен, Д. Большой польско-русский словарь: в 2 т. / Д. Гессен, Р. Стыпула. – 2-е изд., испр. и доп. – Москва-Варшава: Русский язык – Ведза повшехна. – 1979. – Т. 2. – С. 97.
2. Дорошевский, В. Элементы лексикологии и семиотики / В. Дорошевский. – М.: Прогресс, 1973. – С. 83.
3. Міцкевіч, А. Пан Тадэвуш, або Апошні наезд у Літве. Шляхецкая гісторыя з 1811 і 1812 гг. У дванаццаці кнігах вершам / А. Міцкевіч. – Мінск: БФК, 1998. – 880 с.

***М.В. Савко*** (Минск, Беларусь)

## ПЕРЕВОД КАК ЯЗЫКОВОЙ КОНТАКТ

Идея изучения перевода как языкового контакта сама по себе не нова, однако исследователей зачастую останавливал тот факт, что такой подход может оказаться бесполезным, так как дает незначительные результаты, что обусловлено сознательной установкой на исключение всякого иноязычного влияния. Сегодня это положение должно быть пересмотрено. Не актуален более и тезис о переводе как статистически редком проявлении индивидуального билингвизма.

Пусть мы не можем заглянуть в сознание переводчика и увидеть сам механизм переключения и языкового контакта, однако для наблюдения доступен продукт этого переключения – перевод (как результат). Ограниченность творческого двуязычия переводчиков находит свое отражение в понятии ***переводные тексты***. Так, В.Н. Комиссаров убежден, что все переводные тексты в той или иной мере несут на себе печать «иноязычности» [4, с. 103].

Переключение кода – волевой акт, заключающийся в изменении установки на использование того или иного языка. А если иноязычный элемент и будет включаться в текст перевода, то лишь как цитата, то есть осознанно. В этом, на наш взгляд, заключается принципиальная разница между собственно интерференцией (как ее понимают в рамках теории языковых контактов) и интерференцией, которую В.Н. Комиссаров называет способом достижения адекватности в переводе [4, с. 104–109]. При таком подходе интерференция становится частью переводческой стратегии (например, стилизация речи иностранца и т. д.) и является результатом сознательных действий переводчика. Интерференция как прием, как переводческая стратегия имеет, на наш взгляд, мало общего с языковым взаимодействием.

Переводной текст – это своеобразный языковой перекресток. Давление оригинала проявляется в нем не только в форме прямой интерференции (которая может затрагивать любой из языковых уровней), но и в форме межъязыковых отождествлений, что представляет больший интерес для исследователя. Сущность межъязыкового отождествления лучше всего раскрывается посредством структурного анализа, как это делает У. Вайнрайх, напоминая о том, что языковые единицы определяются на основе оппозиций [1, с. 31–33]. Переводчик вынужден как-то упорядочивать в своем сознании две системы оппозиций, а частичное их отождествление помогает ему облегчить эту лингвистическую ношу. Примером такого межъязыкового отождествления может быть отождествление функций русских и французских посессивов. В.Ю. Розенцвейг и

Л.М. Уман детально описали влияние системы русского языка на выбор формы посессива во французском языке и связанные с этим ошибки типа «*Prenez son livre!*» (вместо *votre livre*) [5, с. 61–65].

В анализируемом материале мы наблюдаем обратный процесс, то есть влияние системы французского языка на русский язык. Материал нашего исследования составляют переводы аудиовизуальных текстов – документальных, научно-популярных фильмов – с французского языка на русский, выполненные переводчиками, сотрудничающими с Белтелерадиокомпанией. Переводные тексты не прошли редакторскую обработку.

Базой для интерференции становятся расхождения и сходства языковых систем, то есть присутствие или отсутствие одного и того же дифференциального признака в обоих языках. В русском языке система посессива основана на противопоставлении форм личных притяжательных и возвратных притяжательных местоимений (или местоименных прилагательных).

Личное и возвратное местоимение составляют оппозицию, где общим признаком является выражение значения принадлежности, а дифференциальным – значение принадлежности субъекту действия. Возвратное притяжательное местоимение всегда выражает принадлежность предмета субъекту действия и не нуждается в особых формах, указывающих на лицо и число обладателей (так как обладателем является сам субъект, уже выраженный в речи). Посессив *свой* указывает на активность субъекта и сопровождает агенс. Не совсем прав В.Г. Гак, говоря, что во французском языке значение возвратного притяжательного *свой* «выражается обычным притяжательным местоимением *son, sa, ses*» [2, с. 123], так как это значение во французском языке вообще не получает своего выражения.

Во французском языке, который не различает, принадлежит ли предмет субъекту действия или нет, подобной оппозиции не существует (здесь существует своя оппозиция в системе посессивов: притяжательный детерминатив (*son, sa, ses*) противопоставляется притяжательному местоимению по выполняемой функции (субститут/определение)). Французские посессивы характеризуются двойным отношением: к антецеденту и к существительному, с которым они употреблены. Благодаря своим разносторонним связям и категории лица, посессивы выполняют во французском предложении ряд важных функций и оказываются в полтора раза употребительнее, чем неопределенный артикль [3, с. 201]. Вероятно, такая частотность играет не последнюю роль в том, насколько стабильными оказываются дифференциальные признаки исходного языка (французского) в сознании переводчика. Под влиянием ИЯ в ЯП признак принадлежности субъекту становится неактуальным (неважным), оппозиция личный – возвратный посессив нейтрализуется:

*С одной стороны, она считала это* ***ее*** *долгом, а с другой, она осознавала, что способна повлиять на ход событий… Cette femme–là, d'une part pense que c'est* ***son***

*devoir de soutenir la population de sa ville dans des circonstances très difficiles, d'autre part, elle pense, qu'elle peut y faire quelque chose, qu'elle en est capable*…[Святая Женевьева].

*Для* ***его*** [короля] *коронации король получил сотни литров этого напитка. Le breuvage fait dès lors son entrée dans les mœurs royales et Louis XIV, qui en reçoit des centaines de pintes pour* ***son*** *couronnement*…[Шампанского!].

*Мы начали* ***нашу*** *работу лишь с две тысячи второго года…C'est pourquoi, nous n'avons commencé* ***notre*** *travail ensemble qu'au début de l'année 2002* [Энрон].

Различие в системах языков, избыточная соотнесенность грамматических структур являются причиной подобного межъязыкового отождествления и, как следствие, причиной нарушения грамматических норм русского языка. Переводчик оказывается заложниками исходного языка, в результате чего возникает интерференция – вторжение системы исходного языка в систему языка перевода, что наблюдается даже при переводе на родной доминантный язык. Подобное наблюдение лишь подтверждает необходимость изучения проблемы интерференции в переводе не только с целью прояснения механизмов и причин ее возникновения, но в первую очередь с целью выработки способов, которые позволили бы ее избежать.

***Литература***


1. Вайнрайх, У. Языковые контакты / У. Вайнрайх. – Киев: Вища школа, 1979. – 268 с.
2. Гак, В.Г. Сравнительная типология французского и русского языков / В.Г. Гак. – М.: Либроком, 2010. – 288.
3. Гак, В.Г. Теоретическая грамматика французского языка / В.Г. Гак. – М.: Добросвет, 2000. – 832 с.
4. Комиссаров, В.Н. Проблема интерференции в теории перевода / В.Н. Комиссаров // Interferenz in der Translation / Herausgegeben von Heide Schmidt. – VEB Verlag Enzyklopdie. – Leipzig, 1989. – С. 103–108.
5. Розенцвейг, В.Ю. К проблеме грамматической интерференции / В.Ю. Розенцвейг, Л.М. Уман // Проблемы структурной лингвистики / отв. ред. С.К. Шаумян. – М.: Изд.-во АН СССР, 1962. – С. 60–73.



***І.І. Савіцкая*** (Мінск, Беларусь)


## БЕЛАРУСКІ НАЦЫЯТВОРЧЫ СЛОЎНІК: САЦЫЯЛЬНА-ГІСТАРЫЧНЫ КАНТЭКСТ СТВАРЭННЯ

У артыкуле прапануецца гіпотэза аб тым, што «Слоўнік беларускай мовы» І.І. Насовіча (Санкт-Пецярбург, 1870 г.) варта лічыць *нацыятворчым*, паколькі ён уключае ў свой рэестравы матэрыял такія лексічныя адзінкі, якія ўказваюць на псіхалагічнае і культурнае адзінства носьбітаў іх моў на розных этапах гістарычнага развіцця нацый (г. зн. на ўстойлівыя сувязі і адносіны людзей унутры сацыяльнай групы, што выражае іх этнічнасць): прыказкі і прымаўкі, сціслыя апісанні традыцый і абрадаў, указанні на этнічныя стэрэатыпы ў словаспісе і ў выглядзе ілюстрацыйнага матэрыялу.

Згодна з меркаваннем этнолагаў, этнічнасць не з'яўляецца стабільнай і нязменнай адзінкай: «У розныя гістарычныя эпохі, у розных народаў і ў розных рэгіёнах этнічнасць мела розныя формы праяўлення, адчувала на сабе ўплыў ізаляцыяністкіх, інтэграцыйных і іншых тэндэнцый» [2, с. 110].

І таму патрэбна ўказаць на той агульнаеўрапейскі сацыяльна-гістарычны кантэкст, у межах якога ствараўся слоўнік І.І. Насовіча, як і ўвогуле працы такога ўзроўню і значэння.

Другая палова XVIII – пачатак XX ст. храналагічна яшчэ адносяцца да Асветы, аднак менавіта тады ўзнікаюць канцэпцыі І. Гердэра і В. фон Гумбальта, якія часта кваліфікуюцца як рамантызм, паколькі абодва філосафы пачалі казаць пра «дух» асобных народаў. Сфера мовы і маўлення вылучылася на прыярытэтныя пазіцыі сярод тагачасных гуманітарных даследаванняў, і В. фон Гумбальт разгарнуў думку пра тое, што мова адыгрывае большую ролю, чым проста сістэма знакаў для механічнай перадачы інфармацыі. Мовы з'яўляюцца нацыянальнымі і значна адрозніваюцца адна ад адной, таму варта казаць пра непаўторную спецыфіку нацыянальных характараў, якія выражаюцца ў гісторыі і прадуктах духоўнага жыцця [4, с. 59].

Хваля славянскага рамантызму наблізілася і да ўсходніх славянскіх народаў. Асабліва гэта праявілася ў 1840-х гг. і ў канцы 1860-х гг. пры падрыхтоўцы да І славянскага з'езда ў Расіі, калі адрадзілася ідэя агульнаславянскай мовы, пад якой разумелася, акрамя старога кніжнага маўлення, і аднесенасць да сучаснага маўлення, да таго агульнага, што ўласціва многім жывым славянскім мовам, што пранесла кожная славянская мова праз сярэднявечча. Увогуле падчас гэтага перыяду узаемаадносіны славістаў развіваліся ў складанай палітычнай абстаноўцы. Напрыклад, у расійскіх грамадскіх колах узніклі паланафобныя настроі, звязаныя з паўстанскімі падзеямі 1830-х гг., а вось паўднёвыя і заходнія славянскія народы, наадварот, спадзяваліся на падтрымку Расіі ў іх барацьбе супраць Турцыі і Аўстра-Венгрыі. Якраз падчас гэтай хвалі (1854–1860 гг.) і было здзейснена ў Львове другое выданне слоўніка Ліндэ, дапоўненае прадмовай рэдактара А. Бялоўскага.

Такім чынам, славістычныя сувязі з'яўляліся не толькі формай навуковых кантактаў, але і формай спрыяння нацыянальна-вызваленчаму руху 60-х гг. XIX ст. Пецярбургская Акадэмія навук і ўвогуле расійскія даследчыкі праблем вывучэння славянства падтрымалі захады славянскіх вучоных. Прыкладам такога, калі можна так сказаць, этнічнага дыскурсу, папулярнага ў тыя гады, можна лічыць выказванні І.І. Сразнеўскага (1842 г.): «Мы, хто б мы ні былі, рускія або палякі, мы павінны любіць і паважаць іншых славян, як нашых братоў. Мы павінны любіць славянства ва ўсім яго аб'ёме, таму што мы славяне; без гэтага мы не можам мець сапраўднай любові, сапраўднай павагі да саміх сябе; гэта абавязак маральнасці, прамы наш чалавечы абавязак, абавязак любові роднага да роднага, брата да брата» [цыт. па: 3, с. 143].

Што тычыцца этнічнага дыскурсу, які так актыўна распачаўся ў Заходняй і Паўднёвай Еўропе і разгарнуўся ў Расіі, у тым ліку і адносна да Беларусі, то трэба нагадаць, што пасля падзелаў Рэчы Паспалітай беларускія землі, разам з польскімі і ўкраінскімі, апынуліся ў Расійскай імперыі. Так рускія і беларусы былі штучна аб'яднаны ў адной дзяржаве, і беларускія землі аўтаматычна падпалі пад прапагандаванае вывучэнне славянства. Хочацца, аднак, адзначыць, пэўную аднабаковасць і непаўнату

вывучэння беларускіх земляў расійскімі вучонымі. Нават праца ў т. зв. «западнорусском крае» экспедыцыі 1860-х гг. Рускага Геаграфічнага Таварыства, якая павінна была апісаць «племянныя і побытавыя адрозненні народнасцей заходняга краю, іх колькасныя адносіны, размеркаванне паводле веравызнанняў і ступеней культуры, нарэшце гаспадарчы побыт і ступень матэрыяльнага дабрабыту» [5, с. 148], таксама не спрыяла канчатковаму сцвярджэнню самастойнасці беларускай мовы і ўвогуле беларускай культуры: «дзеячы 1860-х гадоў у заходнім краі так многа гаварылі пра «аб'яднанне», «абрусенне» і да т. п., так настойвалі на пазбаўленні ад усяго мясцовага, якое нагадвала «польскі» ўплыў, так моцна лічылі польскім усё, што не было падобна да маскоўскага, што мясцовае жыццё стала хавацца ў шкарлупу, і вучоным даследчыкам (асабліва раней чужым краю) з цяжкасцю прыходзілася б вышукваць яго праявы, замест таго, каб бачыць яго адразу ўвачавідкі без канцылярскіх шырмаў» [5, с. 148]. Больш за тое, стаўленне афіцыйнай Расіі да насельнікаў беларускіх земляў было прасякнута ўпэўненасцю ў іх індыферэнтнасці і неразвітасці. Па словах віленскага генерал-губернатара У.І. Назімава, «калі рускае [г. зн. пераважна беларускае] насельніцтва ў Заходніх губернiях нельга яшчэ назваць аджытым свой век, то не памылімся, калі скажам, што ў ім жыццёвая сіла яшчэ не абудзілася, скажам больш – пачуцці народнай самабытнасці знаходзяцца ў такім адчайным летаргічным усыпленні, што ўслед за наступным абуджэннем ён [народ] з аднолькавай гатоўнасцю пойдзе як за руска-праваслаўнаю, так і за польска-каталіцкай прапагандаю» [цыт. па: 1, с. 139].

Тым не менш патрабаванне лексікаграфічнай апрацоўкі выяўленай спадчыны беларускага народа прывяло да падрыхтоўкі І.І. Насовічам «Слоўніка беларускай мовы». Гэтая праца на пачатковым этапе складання выявіла тагачаснае разуменне Імператарскай Акадэміяй навук беларускай мовы як дыялекта («наречия») рускай мовы, ды і была запланавана ў якасці другой часткі «Опыта словаря областных наречий». Тым не менш работа па збіранні і публікацыі спецыфічных у адносінах да корпуса рускай літаратурнай лексікі беларускіх слоў была скончана ў 1861 г. і прывяла да выдання ў 1970 г. лексікаграфічнай працы, якая набыла значэнне агульнанацыянальнага слоўніка.

Такім чынам, памкненне І. Насовіча як складальніка слоўніка вылучыць сваю мову з ліку іншых моў і адначасова ўключыць яе ў агульнаславянскі кантэкст было выклікана агульнай асветніцка-рамантычнай хваляй вывучэння духоўных здабыткаў народа і гістарычна наспелай патрэбай вылучыцца з межаў «заходнерусізму».

***Літаратура***

1. Долбилов, М. Полонофобия и политика русификации в Северо-Западном крае империи в 1860-е гг. / М. Долбилов // Образ врага / сост. Л. Гудков; ред. Н. Конрадова. – М.: ОГИ, 2005. – С. 127–174.

2. Крысько, В.Г. Этническая психология / В.Г. Крысько. – М.: Издательский центр «Академия», 2002. – 320 с.

3. Отечественные лексикографы XVIII–XIX вв. – М.: Наука, 2000. – 508 с.

4. Перлов, А.М. История науки: введение в методологию гуманитарного знания / А.М. Перлов. – М.: РГГУ, 2007. – 308 с.

5. Пыпин, А.Н. Исторія русской этнографіи. / А.Н. Пыпин. – СПб., 1892. – Т. 4: Белоруссія и Сибирь. – 488 с.

***М.В. Салеева*** (Минск, Беларусь)

**ФОРМИРОВАНИЕ ЯЗЫКА И ФОРМИРОВАНИЕ НАЦИИ (К 150-ЛЕТИЮ ОБЪЕДИНЕНИЯ ИТАЛИИ)**

2011 год в Италии объявлен юбилейным. Страна отмечает 150-летие объединения. Подобное событие обычно является поводом для размышлений и подведения неких исторических итогов. В феврале по инициативе администрации президента в Италии состоялся Национальный Конгресс «Итальянский язык как несущий фактор национальной идентичности», в котором приняли участие все ведущие институты Италии – Академия Дей Линчеи, Академия дела Круска, Институт итальянской энциклопедии и Общество Данте Алигьери [1].

В дискуссии приняли участие ведущие политические деятели и ученые. С приветственной речью выступил президент Джорджо Наполитано. Он подчеркнул государственную важность изучения сложного процесса становления и утверждения итальянского языка в условиях политического объединения. Не скрывая трудностей формирования итальянской нации и политического объединения, случившегося так поздно, невозможно переоценить значимости вклада языка литературы в этот процесс.

Тулио де Мауро выступил с докладом «Лингвистическая Италия в период от объединения до Республики», Лука Сериани – «Итальянский язык в мире», Николетта Мараскье – «Прошлое, настоящее и будущее национального языка», Умберто Эко – «Итальянский будущего».

Йохан Гердер во второй половине XVIII века говорил, что гениальность языка – это и гениальность нации. Джан Франческо Галиани Напионе указал на это пьемонтской буржуазии, намеревавшейся создать итальянскую нацию на французском языке. В тот момент было очень важно при создании нации итальянской дистанцироваться от нации французской, имевшей большой мировой вес и влияние.

В языке кристаллизуется прошлое, но закладывается и будущее. В своем развитии язык подчиняется внутренним законам и не зависит от воли говорящего. Однако степень и масштабы изменений языков могут значительно отличаться. Если вы дадите современному французу прочесть текст Рабле, хронологически соответствующий текстам Ариосто, ему будет достаточно сложно понять содержание. Так же и для современного англичанина текст «Кентерберийских рассказов» Дж. Чосера будет непонятен, поэтому существует современная адаптированная версия этого произведения. А для среднего итальянца, даже не имеющего высшего образования, и даже для иммигранта, торгующего на рынке, будет понятен смысл строк «Nel mezzo del cammin di nostra vita mi ritrovai per una selva oscura ché la diritta via era smarrita» (Земную жизнь пройдя до половины, я очутился в сумрочном лесу, утратив правый путь во тьме долины), а ведь Данте написал эти строки на 60 лет раньше Чосера.

Итальянцы оказываются, таким образом, в привилегированном положении по отношению к французам или англичанам, потому что достаточно легко могут понимать язык своих классиков, который не претерпел значительных изменений за последние

700 лет. И действительно, сравнивая язык Ф. Петрарки «Italia mia, benché ’l parlar sia indarno» и Дж. Леопарди «O patria mia, vedo le mura e gli archi E le colonne e i simulacri e l'erme», язык последнего может показаться даже более архаичным.

Можно утверждать, что итальянский язык на протяжении веков был единственным средством выражения национального единства. Просматривается этимологическая связь между natio – нация, рожденные вместе и говорящие на одном языке.

Однако не следует забывать и об итальянском парадоксе – параллельном существовании множества диалектов, претендующих (например, сицилийский или сардский) на статус языка. Эта диалектная раздробленность была безусловным фактором разобщенности. В качестве примера можно привести факт, показанный лингвистом Тулио де Мауро в передаче, посвященной итальянским диалектам. В ней режиссер Пьетро Нелли рассказал о событиях времен первой мировой, когда ломбардские и сицилийские партизаны стреляли друг в друга, думая, что другие говорят по-немецки.

В объединенной Италии было представлено два варианта формирования национального языка: Алессандро Мандзони и Грациадио Асколи.

Когда в 1812 году Мандзони взялся за написание «Фермо и Лучия», лингвистическая ситуация в стране была очень сложной. Как поясняет Мандзони в письме Форьелю, написанному еще до начала работы над романом «Обрученные», при общении жители разных регионов испытывали значительные трудности и были лишены спонтанности, потому что единственной альтернативой диалектам был современный литературный язык, существовавший в форме искусственной и условной, выстроенной по высоким идеалам флорентийского Треченто, весьма далекой от понимания простых людей. Именно тогда Мандзони ставит перед собой достаточно амбициозную цель – создать общий язык для всей итальянской нации. Для Мандзони вопрос языка выходит за рамки литературной дискуссии, он воспринимает его как проблему социальную и политическую. Для Мандзони создание общего литературного языка было так же вопросом престижа – это означало уравнять Италию с другими европейскими государствами, имеющими уже свой национальный язык, которым пользуются все, и литературный язык, достаточно к нему близкий.

В качестве языковой модели Мандзони выбрал современный ему тосканский диалект, используемый образованными флорентийцами. Именно таким языком и написан исправленный вариант романа «Обрученные», вышедший в 1827 году. После объединения эту позицию приняло и итальянское правительство.

Против предложения Мандзони выступил выдающийся лингвист того времени Исайа Грациадио Асколи в предисловии к своему журналу «Лингвистический архив». На его взгляд, национальный язык не может быть насажден сверху, сам народ со временем выберет, какой диалект предпочтительнее. Однако эта позиция была несколько идеалистичной, а предложение Мандзони на его фоне выглядело естественным и логичным [2, с. 531].

Умберто Эко в своем выступлении рассуждал о будущем языка. Проблема бесконфликтного существования литературного языка и диалектов в Италии не решена до сих пор. После объединения акцент был смещен в сторону языка. Была проведена глобальная школьная реформа и основным языком преподавания стал общелитературный язык. Фашистский режим официально запретил использование диалектов.

Взгляды У. Эко разделял Андрэа Дзандзотто (1921–2011), поэт и выдающейся литературный критик современности оценивал нынешнее состояние итальянского языка как «от плохого к худшему». Он считал, что человек должен противостоять техническому прогрессу, убивающему и обедняющему все живое. Соединяя в себе язык и диалект (он писал стихи на венецианском диалекте), являл пример гражданина и патриота. Найти тонкую грань, хрупкий баланс между литературным языком и диалектом задача сверхсложная. Лингвисты, сражавшиеся столько лет за то, чтобы литературный язык взял верх над диалектом, теперь, практически одержав победу, ратуют за возвращение к жизни диалектов как истинных носителей духа прародителей.

**_Литература_**


1. Режим доступа: «21 febbraio 2011- La lingua italiana fattore portante dell'identità nazionale» [электронный ресурс]: http://www.quirinale.it/qrnw/statico/eventi/2011-02-lett/lett_home.htm.
2. B.Migliorini Storia della lingua italiana, Bompiani, 2000.



***В.А. Салееў*** (Мінск, Беларусь)


## МОВА І ЭТАПЫ ФАРМІРАВАННЯ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ КУЛЬТУРЫ

1. Культура этнасу ўяўляе сабой складаную сістэму каштоўнасцей і ацэнак, узятых разам у адной сістэме аксіялагічнага поля. У рэчышчы такога падыходу да арэалу культуры, далучаюцца толькі духоўныя каштоўнасці, з якіх галоўнымі, дэтэрмінуючымі сутнасную прыроду культуры, з'яўляюцца тыя, што адпавядаюць старажытным словам-паняццям: *Ісціна*, *Вера*, *Дабро* (рус. *благо*) і *Краса*.

Зразумела, сістэма ацэнак, якая фарміруецца вакол гэтых сістэм каштоўнасцей, і шырачэнная сфера «прамежкавага поля» паміж гэтымі дзвюма сістэмамі каштоўнасцей і ацэнак – тая «прамежкавая прастора», дзе перакрэсліваюцца «каштоўнасныя» і «ацэначныя» адносіны і дзе, урэшце рэшт, вырашаецца канчаткова сам характар аксіялагічнага поля, яго пабудова на дамінантнай аснове каштоўнасных або ацэначных адносін.

2. Нацыянальная культура ўключае ў сябе тыя духоўныя каштоўнасці, што створаны рознымі этнасамі на пэўнай тэрыторыі. Этнас, як вядома, гэта ўстойлівая супольнасць людзей, якая сфарміравалася гістарычна і будуецца на біялагічным і духоўным кампанентах. Нацыя – больш складанае паняцце. З аднаго боку, гэта вышэйшы ўзровень развіцця этнасу, і ў гэтым плане яна прадстаўляе сабой устойлівую этнасацыяльную супольнасць людзей, якія пражываюць на адной тэрыторыі, маюць

агульнае эканамічнае і сацыяльна-палітычнае быццё і звязаны адзінай культурай, мовай, самасвядомасцю і ментальнасцю. Але ёсць і навейшая трактоўка паняцця нацыі, якая па прынцыпах міжнароднага права прадстаўляе насельніцтва той ці іншай дзяржавы, фіксуючы, такім чынам, увагу на палітычным і цывілізацыйным баках быцця людзей.

І ў гэтым плане нацыянальная культура ўяўляе сабой сукупнасць духоўных каштоўнасцей, што створаны як асобнымі этнічнымі супольнасцямі, так і сацыяльнымі групоўкамі людзей – творцамі субкультур.

Аднак у кожным грамадстве, на тэрыторыі любой дзяржавы вядучай усё ж з’яўляецца культура тытульнага этнасу. Менавіта на яе аснове фарміруецца нацыянальная культура, ментальнасць тытульнага этнасу як бы пакрывае сабой і творчую дзейнасць па стварэнні духоўных каштоўнасцей (г. зн. артэфактаў культуры) і адыгрывае вядучую ролю ў працэсе адаптацыі каштоўнасцей, запазычаных у іншанацыянальных культурах, або адвяргае іх, уводзячы ў скарбніцу сваёй нацыянальнай культуры.

3. Мова, як вядома, з’яўляецца феноменам, надасабістым, надгрупавым і надкласавым. Яна, перш за ўсё, – феномен культуры, яе прадукт і канцэнтрат; адначасова мова – і праваднік культуры, яе найбольш важны інструмент. Згодна з еўрапейскай класічнай традыцыяй, якая бярэ свой пачатак ад В. Гумбальдта, мова выступае ў якасці адной з вузлавых формаў культуры, своеасаблівага спосабу аб’ектывацыі і выражэння чалавечага духу. Моўнае поле як бы ахоплівае ўсю сферу культуры зверху і данізу: усе з’явы культуры, усе імкненні чалавечага духу, усе сферы чалавечай жыццядзейнасці так ці інакш знаходзяць выражэнне ў мове; з глабальнага, філасофскага пункту гледжання мова можа лічыцца і першаэлементам і канчатковым элементам культуры.

Прырода мовы ўключае ў сябе (як і структура чалавека, і пабудова грамадства) і прыродны (біялагічны), і сацыяльны, і духоўны пачаткі. Прынцыпова важным з’яўляецца і той факт, што мова можа выражаць як сістэмныя праявы свядомасці, так і элементы падсвядомыя і бессвядомыя. Калі гаворка ідзе аб нацыянальнай культуры, аб космасе этнасу, то можна сцвярджаць, што менавіта ў мове назапашваюцца, факусіруюцца і канцэнтруюцца вопыт нацыянальнага быцця, памяць народа, духоўныя асаблівасці этнасу.

4. У сувязі з гэтым вельмі цікава прасачыць метамарфозы змяненняў статусу беларускай мовы ў сістэме нацыянальнай культуры на беларускай зямлі.

У XIV–XV стст. на беларускай зямлі адбыўся новы якасны зрух – стварэнне новага беларускага этнасу. Ён фарміруецца з дапамогай і на аснове мовы, якую мы сёння называем старабеларускай. Яна пабудавана на аснове старажытнарускай мовы з пэўнай лексікай, запазычанай з балтыйскіх (галоўным чынам – літоўскай) і польскай моў што з’яўляецца прычынай адмаўлення ў суверэннасці беларускай мовы з боку

некаторых сучасных даследчыкаў. Але ў XV ст. немагчыма весці размову аб «частковасці», г. зн. «дыялектычнасці» беларускай мовы, да якога б вектару не звяртацца – старажытнарускага, новарускага або польскага. Ускосным пацвярджэннем гэтага з'яўляецца арфаэпічная самабытнасць беларускай мовы, якая яскрава праявіла сябе ўжо ў XIV ст. Па меркаванні большасці даследчыкаў, у сярэдзіне XV ст. была сфарміравана старабеларуская літаратурна-пісьмовая мова. Прынцыпова важным можна лічыць той факт, што дзяржаўная мова ВКЛ выкарыстоўвалася рознымі этнасамі (яўрэямі, татарамі, прадстаўнікамі ўкраінскага этнасу і нават этнічнымі літоўцамі) у якасці мовы міжнацыянальных зносін. І галоўнае – нягледзячы на тое, што ў навуцы галоўнай мовай заставалася лацінская, старабеларуская мова цэментавала ідэнтычную культуру маладога беларускага этнасу.

Пад уздзеяннем прагрэсіўных ідэй еўрапейскага Рэнесансу беларуская культура напрыканцы XV – у сярэдзіне XVI ст. прад'явіла ўсяму свету высокія ўзоры культуратворчасці (перш за ўсё ў дойлідстве, літаратуры, рамёствах). Але пасля Люблінскай уніі (1569 г.) культурная сітуацыя ў Беларусі прынцыпова змянілася.

5. XVII–XVIII стст. – своеасаблівы перыяд сацыякультурнага развіцця Беларусі. Гэта час актыўнага наступлення каталіцызму, час сацыяльнага і духоўнага прыгнёту беларускай народнасці. Мовамі – дзяржаўнай, навуковай і мастацкай – канчаткова робяцца польская і лацінская. Культура на Беларусі як бы дыферэнцыруецца на 2 паверхі.

Першы – шляхецкі і магнацкі – не толькі ўжываюць польскую мову, але і арыентуюцца на польскую культуру, а праз яе трансфер – на французскую (якая займала вядучую пазіцыю ў Еўропе ў эпоху класіцызму і Асветы). Лепшыя дасягненні шляхецка-магнацкай культуры абагацілі нацыянальную культуру Беларусі.

Але культура ўласнабеларускага этнасу, існавала пераважна на другім «ніжэйшым» паверсе. Тут панавала беларуская мова, развіваліся фальклор, народнае мастацтва розных відаў (найбольш яскравымі прадстаўнікамі былі школьны тэатр і батлейка), прыкладное мастацтва, цесна звязанае з рамёствамі, ананімная мастацкая пісьменнасць.

6. У XIX ст., у час далучэння Беларусі да Расійскай імперыі, акцэнты ў развіцці культуры зноў змяняюцца. На «верхні» паверх у культуры прэтэндуе расійская дваранская культура, якую падтрымліваюць расійская сістэма адукацыі і, зразумела, руская мова, якая пры дапамозе Расійскай імперскай дзяржавы робіцца афіцыйнай дзяржаўнай мовай і прэтэндуе заняць дамінуючую пазіцыю ў навуцы, мастацтве і паўсядзённым жыцці насельніцтва «Северо-Западного края».

Першыя парасткі адраджэння беларускай літаратуры, пры выключнай ролі ў гэтым працэсе В. Дуніна-Марцінкевіча, у 40-х гадах XIX ст. садзейнічаюць зближэнню «верхняга» і «ніжняга» паверхаў культуры на беларускай зямлі і вяртаюць беларускую мову ў сістэму культурных узаемадзеянняў на беларускай зямлі.

Літаратурная творчасць Ф. Багушэвіча і яго паплечнікаў Я. Лучыны, А. Гурыновіча, а таксама сацыяльна-культурная дзейнасць К. Каліноўскага падрыхтавалі новы ўзлёт беларускай культуры, які адбыўся ўжо ў XX ст.

7. Гэты перыяд меў 2 этапы: першы звязаны з дзейнасцю «Нашай Нівы» ў 1905–1914 гг. у Вільні. У гэты перыяд, у выніку дзейнасці вялікага згуртавання дзеячаў беларускай культуры на чале з класікамі беларускай літаратуры Я. Купалам, Я. Коласам, М. Багдановічам, адбылося не толькі сапраўднае адраджэнне беларускай нацыянальнай культуры, але, на наш погляд, і канчатковае фарміраванне беларускай нацыі (у якасці вышэйшага ўзроўню развіцця беларускага этнасу). Другі ўзлёт беларускай культуры звязаны с пострэвалюцыйнымі зменамі 20-х гг. Гэты перыяд так званай «беларусізацыі» быў адзначаны ростам нацыянальнай самасвядомасці, што знайшло адбітак ва ўсіх галінах нацыянальнага жыцця. Так, у 20-я гг. адкрываюцца 3 беларускія дзяржаўныя тэатры, з'яўляюцца першыя беларускія кінастужкі, ствараюцца Белдзяржуніверсітэт, Нацыянальная акадэмія навук. Ва ўсіх гэтых працэсах выдатную ролю адыграла беларуская мова.

Аднак з пачатку 30-х гадоў, калі хвалі сталінскага тэрору дайшлі да БССР, праблемы нацыянальнай самасвядомасці, як і праблемы нацыянальнай культуры, былі фактычна пад забаронай, шмат вядомых дзеячаў беларускай культуры былі знішчаны.

Пасля вайны палітыка супердзяржавы прывяла да таго, што ў свядомасці жыхароў рэспублікі няправільна зразуметае «інтэрнацыянальнае» выцясняе «нацыянальнае». Гэта адмоўна адбівалася на працэсе фарміравання нацыянальнай самасвядомасці, няўхільна звужала сферу ўжывання беларускай мовы.

Аднак за 70 год беларуская нацыянальная культура набыла рысы сталасці і ў многіх галінах навукі, адукацыі і мастацтва выйшла на высокі ўзровень.

8. У першае дзесяцігоддзе XXI ст. абвастрыліся працэсы развіцця нацыянальных моў і культур у сувязі з уплывам глабалізацыі. У святле гэтага ўплыву найбольш значнай праблемай застаецца праблема захавання нацыянальнай самабытнасці, ідэнтычнай цэласнасці этнасаў, з якіх складаецца нацыя; перш за ўсё, карэннага этнасу. І разам з гэтым – праблема захавання нацыянальнай культуры, у сістэме якой нацыянальная мова займае адну з вядучых пазіцый. Аднак, згодна з апошнім перапісам насельніцтва Беларусі (2009 г.), значная колькасць рэспандэнтаў хаця і не карыстаецца актыўна беларускай мовай, лічыць яе роднай, лаяльна ставіцца да яе і паважае беларускую нацыянальную культуру. Гэта дае магчымасць існавання «стрыманага» аптымізму ў дачыненні да перспектыў далейшага развіцця беларускай нацыянальнай культуры.

Напачатку адмоўныя адносіны да персанажа, якія праяўляюцца ў адпаведных словах і выразах, ствараюць канататыўную дамінанту ўсяго тэксту. Даследчыца ўжывае паняцце *дыскурсіўныя паводзіны*. Яго выкарыстанне можна падмацаваць пазіцыяй М. Бахціна: чалавечы ўчынак ёсць патэнцыйны тэкст і можа быць зразумелы толькі ў дыялагічным кантэксце свайго часу [3, с. 302]. Станоўчы ўчынак персанажа, які адпаведна змяніў адносіны апавядальніка, паўплываў на танальнасць тэксту і на ўзнікненне іншай камунікатыўнай пазіцыі, што забяспечвае эфект падманутага чакання ў чытача. Апавядальнік у выніку займае дыялагічную пазіцыю і называе свайго спадарожніка не па мянушцы, а па сапраўдным імені. Даследчыца робіць выснову, што аўтарскі дыскурс узаемадзейнічае з дыскурсам персанажа імпліцытна, дыялог выяўляецца толькі на кампазіцыйна-стылістычным узроўні. Аналіз моўных сродкаў стварэння эфекту падманутага чакання дазваляе выявіць прыёмы дыялагізацыі тэксту – асновы дыскурсу.

Разгляд «унутранага» дыялогу, вызначанага Т. Пляханавай, – адзін з магчымых варыянтаў дыскурснага падыходу, які неабходна ўлічваць і выкарыстоўваць на занятках па стылістычным аналізе тэксту. Але ёсць і яшчэ адзін варыянт дыскурс-аналізу, калі рознаўзроўневыя моўныя сродкі разглядаюцца не выключна з мэтай характарыстыкі індывідуальна-аўтарскага стылю, а дзеля разумення кантакту з патэнцыйным суразмоўцам. Як піша П. Жаўняровіч, «матываваны выбар моўнага факта ў канкрэтным публіцыстычным творы прэзентуе аўтарскія інтэнцыі» [5, с. 86]. У сваёй манаграфіі навуковец праводзіць дыскурсны аналіз публіцыстычнага твора як прэзентацыю аўтарскіх інтэнцый. Разглядаючы твор У. Караткевіча «Гэта было 10-га сакавіка 1864 года...», П. Жаўняровіч вылучае пяць макраструктур, якія абавязкова прадугледжваюць улік дыскурсіўных паказчыкаў і па-свойму ўздзейнічаюць на чытача, такім чынам кантактуючы з ім. Усталёўваецца своеасаблівы дыялог. Чытач далучаецца да яго праз уключэнне ў склад займенніка *мы* (пад ім разумеем суб’екта і адрасата дыскурсу), выкарыстанне дзеясловаў цяперашняга часу незакончанага трывання (яны дазваляюць і аўтару, і чытачу выразней адчуць атмасферу 60-х гадоў XIX стагоддзя), рытарычных фігур (мэта іх ужывання – уздзеянне і перакананне), вобразных сродкаў мовы (такія сродкі выконваюць функцыю ўздзеяння ў публіцыстыцы). Дыскурс прадугледжвае абавязковую наяўнасць дыялогу аўтара-адрасанта і рэцыпіента-адрасата. П. Жаўняровіч разглядае дэйктычныя сродкі маркіроўкі суб’екта дыскурсу (займеннікі *я, мы, мой, наш*) і адрасата дыскурсу (займеннікі *ты, вы, твой, ваш*). Дыялагічнасць публіцыстычнага дыскурсу У. Караткевіча ствараецца не толькі паказчыкамі аўтарызацыі, але і персуазіўнасці (яе сродак – лексема *магчыма*, паказчык функцыі ілакутыўнага акта, які запрашае чытача да суразважання).

Як бачым, пры стылістычным аналізе тэксту неабходна ўлічваць патрабаванні сучаснага і запатрабаванага на сёння дыскурснага падыходу. Разгляд моўных сродкаў (асабліва публіцыстычных і мастацкіх твораў) мусіць праводзіцца на аснове дыялагізацыі. Яна можа быць унутрытэкставай і знешняй (усталёўвае кантакт (сумоўе) паміж адрасантам і адрасатам). Дыскурс-аналіз дазваляе адчуць не толькі спецыфіку адпаведнага стылю, але і адметнасці стварэння дыялогу.

***Літаратура***

1. Іўчанкаў, В.І. Дыскурс беларускіх СМІ. Арганізацыя публіцыстычнага тэксту: манаграфія / В.І. Іўчанкаў. – Мінск: БДУ, 2003. – 257 с.
2. Лепешаў, І.Я. Лінгвістычны аналіз тэксту: вучэб. дапам. / І.Я. Лепешаў. – Мінск: Вышэйш. шк., 2009. – 287 с.
3. Бахтин, М.М. Эстетика словесного творчества / М.М. Бахтин. – 2-е изд. – М.: Искусство, 1986. – 445 с.
4. Плеханова, Т.Ф. Стилистика и дискурс-анализ художественного текста / Т.Ф. Плеханова // Постклассическая стилистика и дискурсивный анализ текста: материалы межвузовского круглого стола (кафедра стилистики английского языка), 11 дек. 2008 г. / МГЛУ; редкол.: С.Е. Кунцевич (отв. ред.) и др.). – Минск, 2010. – Вып. 2. – С. 17–22.
5. Жаўняровіч, П.П. Публіцыстычны дыскурс Уладзіміра Караткевіча: манаграфія / П.П. Жаўняровіч; навук. рэд. В.І. Іўчанкаў. – Мінск: РІВШ, 2011. – 244 с.

***Т.Я. Старасценка*** (Мінск, Беларусь)

## ДЫСКУРСНЫ АНАЛІЗ ЗАМАЛЁЎКІ ЯНКІ БРЫЛЯ «УСМЕШКА»

Методыка дыскурс-аналізу пакуль яшчэ не распрацаваная, што выклікана неадназначным падыходам навукоўцаў да вызначэння сутнасці тэрміна *дыскурс*. Манаграфічнае даследаванне П. Жаўняровіча «Публіцыстычны дыскурс Уладзіміра Караткевіча», важнае і надзённае, ліквідуе многія прабелы ў разуменні дыскурснага падыходу да канцэптуальнай структуры тэксту, дазваляе ўявіць паэтапны аналіз публіцыстычнага твора з улікам дыскурсных напрацовак [2].

Разгледзім замалёўку Янкі Брыля «Усмешка». Пісьменнік разгортвае дыскурс з выкарыстаннем трох макраструктур, кожная з якіх па-рознаму ўплывае на чытача.

**Першая макраструктура «Пасля навальніцы»**

*Толькі што адшумела навальніца, і па вуліцы вёскі бягуць вясёлыя мутныя раўчукі.*

*Я стаю каля варот бацькоўскага двара, і мне вельмі хочацца зняць свае модныя туфлі, прайсціся па быстрай дажджавой вадзе, памясіць нагамі цёплую, пухкую гразь...*

*Мяркуючы па тым, што я яшчэ не зрабіў гэтага, а толькі раздумваю – я ўжо даўно не малы. Ды я не адчуваю чамусьці ні цяжару гадоў, ні адказнасці за свае паводзіны: я проста рад, можа, нават не менш, чым рады бываюць у такі час малыя.*

У гэтай макраструктуры пераважае суб’ектыўнае разважанне з элементамі апісання. Уздзеянне на адрасата дасягаецца пазітыўна ацэначнымі эпітэтамі *вясёлыя* (раўчукі), *быстрая* (вада), *цёплая, пухкая* (гразь). Эфект нечаканасці выклікае ўжыванне кантэкстуальнага аксюмарана *цёплая, пухкая гразь*, які надае тэксту экспрэсіўнасць і стварае адпаведны эмацыйны фон – радасці, дзіцячага захаплення ад такой звычайнай, на першы погляд, падзеі. Эпітэт *вясёлыя* прадугледжвае далейшае ўжыванне адпаведных па настраёвай напоўненасці азначэнняў. Пісьменнік жа выкарыстоўвае лексему *мутныя*, што таксама мае эфект падманутага чакання. Сярод дэйктычных сродкаў маркіроўкі суб’екта і адрасата дыскурсу, якія ствараюць дыялагічнасць, у 1-й макраструктуры ўжываюцца толькі паказчыкі аўтарызацыі – займеннік *я (мне)* – 6 разоў. Прычым вобраз аўтара ў гэтай макраструктуры грунтуецца на двух прынцыпах канструявання – рэпрэзентатыўным і інтраспектыўным. Аўтар, такім чынам, і ўдзельнік, і разважальнік. Пісьменнікам выкарыстаны і сродак персуазіўнасці, які выражае

суб’ектыўную мадальнасць і дазваляе перадаць інфармацыю з аўтарскіх пазіцый, – лексема *можа*. Яна падключае чытача да сатворчасці, дыялогу.

Па-дзіцячы непасрэднае пісьменніцкае ўспрыманне, выражанае ў 1-й макраструктуры, актыўна разгортваецца ў 2-й макраструктуры.

**Другая макраструктура «Незвычайнае падарожжа»**

*На захадзе з-за хмар выглянула сонца.*

*З узгорку ўніз па вуліцы ідзе белы, зусім сухі і чысты бычок, а на бычку сядзіць гадоў пяцішасці дзяўчынка, што таксама не была пад дажджом.*

*Бычок ідзе паволі, нават салідна, упарта і горда несучы наперад свой шырокі пародзісты лоб з тупымі шэрымі рожкамі.*

*Дзяўчынка сядзіць на бычку не так, як хлопцы, а бокам, спіной да мяне, нібы знарок схаваўшы свой твар, напэўна, шчасліва і смешна сур’ёзны, свае, вядома ж, загарэлыя ножкі.*

*Сонца прасвечвае цераз мокрае, бліскучае лісце бяроз, і на мелкай гразі, нядаўна затупанай слядамі каровіных капытоў, на гаманлівай вадзе і на шэрых штакетах за раўчуком ляжыць рухавая сетка ценю. Калі бычок са сваёй амазонкай уваходзіць у гэты цень, па іх гуляюць сонечныя зайчыкі.*

*На ўсходзе, куды накіравалася, яшчэ не ўсё аддаўшы, цёмна-сіняя хмара, красуецца вясёлка. Пад вялізную арку яе ідзе вясковая вуліца, а па вуліцы, нібы ў краіну казачнай радасці, едзе светлагаловая дзяўчынка, гулліва пастукваючы пятамі па баку свайго верхавіка.*

*Трохі воддаль за імі ідзе, таксама босы, бацька дзяўчынкі. Ідзе і ўсміхаецца, бо думае, відаць, што дзіця – заўсёды дзіця, заўсёды радасць, ці хлопец гэта, ці дзеўка.*

У гэтай макраструктуры пераважае наратыў з элементамі апісання. Аднак суб’ект дыскурсу пастаянна адчуваецца. Гэта і ўжыванне займенніка *мяне,* хоць і аднаразовае ў параўнанні з папярэдняй макраструктурай. Гэта і памяншальна-ласкальныя формы слоў *бычок, рожкі, ножкі, раўчук*, якія «разбураюць» аб’ектыўны аўтарскі аповед і дазваляюць адчуць свет вачыма дзіцяці. Гэта і трапеічныя сродкі: *вялізная арка* (вясёлкі), *краіна казачнай радасці,* бычок ідзе... *салідна*, якія выяўляюць суб’ектыўнае ўспрыманне, як, дарэчы, і аксюмаран *смешна сур’ёзны* (твар).

Адыходам ад нарацыі і зваротам да большай аўтарызацыі характарызуецца трэцяя макраструктура.

**Трэцяя макраструктура «Дапамога бычка»**

*Але дзяўчынка тым часам праехала міма мяне і там, дзе шумлівы, пеністы раўчук ад плота разліўся на сярэдзіну вуліцы, пачала раптам з’язджаць з хрыбта свайго бычка і, пакуль я сабраўся бегчы ёй на дапамогу, з’ехала і шлёпнулася, села ў мелкую ваду!..*

*Пакуль мы з бацькам малое падбеглі туды, паспела адбыцца самае цікавае, самае вясёлае ў гэтай гісторыі.*

*Белы бычок прыгнуў лабастую галаву, наблізіў вільготную казытлівую пысу да твару свае сяброўкі і панюхаў яго, а дзяўчынка працягнула загарэлыя рукі, узялася за рогі бычка, адкінула назад светлавалосую галаву і, смеючыся, устала.*

*– Ой, татачка! – гаварыла яна і, не могучы дакончыць, звонка смяялася і паўтарала: – Ой, татачка! Ой!*

*І мы смяяліся ўтраіх, – так весела, так непаўторна молада, што я не вытрымаў больш і... прачнуўся.*

Для макраструктуры характэрны суб'ект *я* (займеннік ужыты 2 разы), *мяне* (форма займенніка ўжыта 1 раз) і *мы* (займеннік ужыты 2 разы). На кантэкстуальным узроўні лексема *мы* ўключае і асобу пісьменніка, і дзяўчынку, і яе бацьку. Тым не менш, ужыванне гэтага займенніка стварае дыялагічнасць, бо адрасант дыскурсу таксама далучаецца да суперажывання.

Вертыкальная сувязь макраструктур забяспечваецца кантэкстуальнай сінанімічнай парадыгмай, дамінантай якой выступае загаловак твора: **усмешка** – рад – сонца – шчасліва – смешна – сонечныя зайчыкі – вясёлка – радасць – молада. Такая парадыгма стварае семантычную сувязь паміж макраструктурамі, кагерэнтнасць тэксту і выклікае адпаведную рэакцыю рэцыпіента, суладную з творчым настроем пісьменніка.

***Літаратура***

1. Брыль, Янка. Сцежкі, дарогі, прастор: лірычныя замалёўкі / Янка Брыль. – Мінск: Юнацтва, 2001. – С. 18–20.

2. Жаўняровіч, П.П. Публіцыстычны дыскурс Уладзіміра Караткевіча / П.П. Жаўняровіч; навук. рэд. В.І. Іўчанкаў. – Мінск: РІВШ, 2011. – 244 с.

***В.Д. Старычонак*** (Мінск, Беларусь)

## ЛЕКСІЧНЫ КОРПУС БАЛТЫЗМАЎ У БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

Тэма кантактавання балтыйскіх і славянскіх моў даўно прыцягвае ўвагу даследчыкаў. Пытаннямі выяўлення і функцыянавання балтызмаў у беларускай мове і гаворках займаліся Я. Карскі, К. Яблонскіс, Р.Й. Далідэнас, А.І. Жураўскі, А.М. Булыка, Э. Грынавяцкене, Ю.Ф. Мацкевіч, Я.І. Рамановіч, А.І. Чабярук і інш. Адказы на розныя пытанні беларуска-балтыйскіх моўных узаемасувязей прадстаўлены ў кнізе «Лексічныя балтызмы ў беларускай мове». Лексікаграфічная апрацоўка балтызмаў, іх этымалогія і тэрытарыяльнае распаўсюджанне разглядаюцца ў слоўніках Ю.А. Лаўчутэ і А.Я. Анікіна [1–2]. Даследчыкі даволі часта спрачаюцца наконт колькаснага складу балтызмаў у беларускай і ішых славянскіх мовах, прыводзяць розныя довады адносна ўключэння ці неўключэння таго ці іншага слова ў спіс балтызмаў і яго этымалогіі. На аснове слоўніка Ю. Лаўчутэ падлічана, што колькасць балтызмаў у беларускай мове перавышае лічбу 550, у польскай – 400, у рускай – 200, ва ўкраінскай – 60 [1, с. 4]. Гэтыя даныя, складзеныя на аснове матэрыялаў 1960–1970 гг., не адлюстроўваюць сапраўдны колькасны паказчык балтызмаў у беларускай мове. Выдадзены ў 1979–1986 гг. пяцітомны «Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча», а таксама шматлікія дыялектныя даведнікі дазволілі папоўніць корпус балтызмаў да 1200–1300 адзінак (з улікам вытворных суфіксальных найменняў). Наяўнасць у лексічным складзе значнай колькасці балтызмаў сведчыць аб інтэнсіўных і працяглых кантактах беларускай і балтыйскіх моў, якія пачаліся амаль паўтары тысячы гадоў назад і працягваюцца да нашага часу.

Ядро лексічнага корпуса балтызмаў утвараюць каля 120 лексічных адзінак, якія прайшлі ўсе стадыі лексіка-семантычнай адаптацыі і трывала замацаваліся ў сучаснай літаратурнай мове і яе функцыянальных стылях. Значную іх частку (каля 100 слоў)

складаюць назоўнікі: *адліга* (літ. *àtlėga*[1]), *бомы* (літ. *búomas* ), *буч* (літ. *bùčias*, bučius), *венцер* (літ. *vėnteris*, *vėntaris), дзёгаць* (літ. *degùtas* ), *крумкач* (літ. *krunkočius* ), *крупеня* (літ. *kruopiene), лоўж* (літ. *láužas), мурза* ( літ. *mùrza), парсюк* (літ. *paršiùkas), рэзгіны* (літ. *rẽzginės* ), *шаршатка* ( літ. *šaršė), шашок* (літ. *šẽškas), янтар* (літ. *gintarys*). Дзеясловы, як правіла, абазначаюць пэўныя дзеяннні чалавека: *кешкацца* (літ. *teškentis*, лат. *keškat), клыпаць* (літ. *klyptii, klibeti*), *лапіць* (літ. *lopyti*), *лындаць* (літ. *lindoti, lindeti), мянціць, мянташыць* (літ. *menčiuoti* ), *сноўдацца* (літ. *snaudaliuoti, snauduliuoti*).

У групе слоў літаратурнай мовы вылучаецца падгрупа найбольш старажытных балтызмаў, якія зафіксаваны ў помніках старабеларускага пісьменства *атоса* (фіксуецца з 1643 г. ← літ. *atãsaja); гірса* (фіксуецца з 1596 г. у форме *дырса* ← літ. *dirse, girse); клуня* (фіксуецца з 1503 г. у формах *клоня, клуня, клюня* ← літ. *kluonas); коўш* (фіксуецца з 1486 г. у форме *ковшъ*← літ. *kaušas*); *крушня* (фіксуецца з 1591 г. у форме *крушня* ← літ. *krusnis); куль* (фіксуецца з 1540 г. у форме *куль*← літ. *kulỹs* ); *свіран* (фіксуецца з 1499 г. у форме *свирен* ← літ. *svirna, svirnas* ); *склюд* (фіксуецца з 1599 г. у формах *склютъ, склут* ← літ. *skliùtas* ) і інш.

Многія са старажытных балтызмаў захаваліся толькі ў гаворках: *берла* ‘нявеянае збожжа’ (фіксуецца з 1584 г. у формах *берело, берло, бярало* ← літ. *beralas ); дзякло* ‘дань, падатак’ (фіксуецца з 1457 г. у формах *дякло, дзякло* ← літ. *dùokle, dekla); люн, люна* ‘багна, дрыгва, зыбун’ (фіксуецца з 1552 г. у формах *лунъ, люнъ* ← літ. *liunas); прымен, прымян ‘*сенцы’, ‘павець’ (фіксуецца з 1521 г. у формах *примен, применъ, примн, примън* ←літ. *priemene*); *скіцер* ‘кавалак сала’ (фіксуецца з 1540 г. у форме *скитера* ← літ. *sketerà)* і інш.

У лексічным корпусе балтызмаў вылучаюцца экспліцытныя адзінкі, якія не захаваліся да нашага часу і адлюстроўваюць спецыфіку лексічнага складу старабеларускай мовы: *жыбінцей* ‘асоба, адказная за асвятленне і ацяпленне’ (літ. *žibinčius*), *койминецъ* ‘селянін, які жыве не на двары вотчынніка, а ў асобным доме’ (літ. *kaimýnas*), *мезлева, мезлива* ‘падатак за кароў’ (літ. *mezliava*), *пиркойта* ‘хацінка’ (літ. *pirkaite*), *явктъ* ‘рэмень, якім прывязваецца валу ярмо’ (літ. *jàuktas*).

Перыферыю лексічнага корпуса балтызмаў складаюць дыялектныя словы, якія часцей за ўсё фіксуюцца ў пагранічным беларуска-літоўска-польскім пагранiччы і адрозніваюцца па тэрыторыі распаўсюджанасці. Адны з іх утвараюць даволі шырокія арэалы (гэта невялікая частка запазычанняў), другія ж фіксуюцца ў адным-двух населеных пунктаў і адносяцца да катэгорыі кантактэм-запазычанняў. У дадзеным выпадку важнай метадычнай перадумовай неабходна лічыць выразнае адмежаванне балтыйскіх запазычанняў ад інфільтрацый-аказіяналізмаў, якія, па сцверджанні Э. Смулковай, выпадкова выкарыстоўваюцца ва ўмовах актыўнага ці пасіўнага

[1] Пры вызначэнні этымалогіі слоў і іх літоўскіх (латышскіх) адпаведнікаў, што прыводзяцца ў спрошчаным фанетычным афармленні, выкарыстоўваліся матэрыялы «Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы» (т. 1 – 14), «Слоўніка беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча» (т. 1 – 5), а таксама слоўнікаў Ю. Лаўчутэ і А.Я. Анікіна.

білінгвізму, не засвоены беларускай дыялектнай сістэмай і не заўсёды свядома ўспрымаюцца носьбітамі той ці іншай мовы [3, с. 204–205]. Безумоўна, гэта пытанне патрабуе даволі скрупулёзнага і дэталёвага вывучэння.

Балтыйскія словы, зафіксаваныя ў народных гаворках, размяркоўваюцца па шматлікіх тэматычных групах. Сярод назоўнікаў найбольш рэльефна вылучаюцца наступныя найменні: **а)** асоба, чалавек; больш за 150 слоў; чалавек характарызуецца з самых розных пазіцый, поглядаў і падыходаў (вонкавага выгляду, псіхічнага складу, тэмпераменту, разумовых здольнасцей, пэўных рыс характару, адносінах да працы, роду дзейнасці, заняткаў, паводзін, узросту, нацыянальнасці і інш.: *абэржа, балтушнік, біза, бінда, вілюга, вяпла, дудук, кепша, скердзь;* **б)** жывёльны свет (назвы жывёл, рыб, птушак, насякомых, паўзуноў і земнаводных): *букса, вягал, гамола, мальга, свірбуль, шуршаль;* **в)** саматызмы (часткі цела чалавека і жывёліны); *гнібур, кепель, комсць, марзакі;* **г)** раслінны свет; каля 80 запазычанняў гэтай тэматычнай групы называюць расліны, кветкі, дрэвы, кусты, грыбы і інш.: *арнік, іксва, шумята, жылвіца, лапшак, раўдонік;* **д)** дом, збудаванні, гаспадарчыя пабудовы; *прывен, торп, жагіні, лакты, сверсць;* **е)** стравы, ежа: *бурга, плюсна, путра, рагойш, раўгеня;* **ё)** адзенне, абутак: *барулі, мэкшты, ушмалы, шварка;* **ж)** трасспартныя сродкі і іх часткі: *баршкулі, грынджолы, гокты, ускорсы;* **з)** посуд, кухонныя прылады: *каўбыр, ракяцень, сласты;* **і)** сродкі для рыбалоўства: *болдаўка, відзея, ганта, гізка.*

Сярод дзеяслоўнай лексікі, запазычанай з балтыйскіх моў, вылучаецца некалькі найбольш прадстаўнічых па колькасным складзе разрадаў. Гэта перш за ўсё «гукавыя» словы, якія выражаюць спецыфіку маўлення чалавека, гукаў жывёлы і гучання прыродных з'яў: *вайцяць* 'надакучліва гаварыць' (літ. *vaitóti* 'вохкаць, стагнаць'); *вяркыць* 'гаварыць павучальным тонам' (літ. *verkti* 'плакаць'); *кункаць* 'квакаць' (літ. *kunkti* 'тж'); *керкаць* 'гагатаць; кракаць' (літ. *kirkauti* 'тж'); Дзеясловы руху абазначаюць перамяшчэнні ў прасторы, розныя па інтэнсіўнасці і напрамку: *кунацца* 'спатыкацца, аступацца' (літ. *kunoti*); *стрыбуляць* 'ісці падпрыгваючы' (літ. *stribuliúoti*, *stripuliúoti*); *шкрумбацца* 'ісці, шоргаючы абуткам' (літ. *skrumplinti*); *брэйдацца* 'бегаць, круціцца' (літ. *braide).* Дзеясловы *басцяцца* (літ. *bastýtis*), *блындаць* (літ. *blandotis, blandýtis), клымбаць, клындаць* (літ. *klyptii, klibeti),валэндацца* (літ. *valandà)* у значэнні 'бадзяцца, хадзіць без мэты, швэндацца' характарызуюцца крыху зніжанай канатацыяй і выразнай экспрэсіўнасцю. Даволі пашыранымі з'яўляюцца дзеясловы са значэннем працоўнай дзейнасці: *вашаваць* 'інтэнсіўна і напружана працаваць на цяжкой рабоце' (літ. *vąšúoti* ); *кніпаць* 'вязаць, цыраваць' (літ. *knypoti* ); *пойсаць* 'малаціць каласы' (літ. *paisýti); тарпаваць* 'складаць у тарпу' (літ. *tárpas*). У асобную групу вылучаюцца дзеясловы са значэннем фізічнага стану чалавека: *кныцець* 'балець, ныць' (літ. *kniteti); кеўляць* 'ледзь жыць, ледзь дыхаць' (літ. *kiaulioti*); *гебнуць* 'загінуць' (літ. *geibti* ); *згеліць* 'званітаваць' (літ. *gelti*); *выкарпацца* 'ачуняць, паправіцца' (літ. *karpities* ).

Такім чынам, лексічны корпус балтызмаў займае значнае месца ў слоўнікавым складзе беларускай мовы. Запазычанні абазначаюць важныя для жыццядзейнасці

чалавека прадметы і паняцці, звязаныя з бытавой сферай, раслінным і жывёльным светам, рамесніцтвам. Тэрыторыя іх распаўсюджання даволі неаднастайная. Прыкладна 10 % такіх слоў адзначаецца ў слоўніках літаратурнай мовы і выкарыстоўваецца ва ўсіх яе стылях. Астатнія 90 % балтызмаў размяркоўваюцца па пэўных дыялектных кантынуумах і ўтвараюць больш-менш шырокія (даволі рэдка) ці вузкія арэалы. Большая частка балтызмаў (у сваёй большасці назоўнікі і дзеясловы) фіксуецца ў зоне беларуска-літоўскага пагранічча, выяўляецца ў некалькіх населеных пунктах і адносіцца да ліку лакальных лексічных запазычанняў.

***Літаратура***


1. Аникин, А.Е. Опыт словаря лексических балтизмов в русском языке / А.Е. Аникин. – Новосибирск: Наука, 2005. – 394 с.
2. Лаучюте, Ю.А. Словарь балтизмов в славянских языках / Ю.А. Лаучуте. – Л.: Наука, 1982. – 211 с.
3. Смулкова, Э. К вопросу о белорусских балтизмах (Проблема статуса балтизмов в белорусских говорах) / Э. Смулкова // Балто-славянские исследования. 1980. – М.: Наука, 1981. – С. 203–214.


***Т.Ф. Сухоцкая*** (Мінск, Беларусь)

## ШЛЯХАМ ВЕРБАЛІЗАЦЫІ

Праблема вербалізацыі нацыянальнай культуры – адна з актуальных у беларускай гуманітарыстыцы. Эфектыўнасць яе вырашэння залежыць найперш ад маўленчай культуры суб'екта і яго здольнасці да вербальнага выказвання, пад якім разумеецца «…каштоўнасна акрэсленая і структурна завершаная адзінка моўных зносін у палілогу культурных сэнсаў» [А.У. Рагуля]. Яшчэ Цыцэрон ставіў развіццё філасофіі, захаванне духоўных і сацыяльных каштоўнасцяў у непасрэдную сувязь з культурай моўных зносінаў і сумарным вынікам дзейнасці ўсяго этнасу ў цэлым. Лагічна перад установамі адукацыі ў якасці першачарговых і важных павінна стаяць праблема насычэння навучальнага працэсу нацыянальным зместам (беларускай культурай і беларускай мовай), фарміраванне новай канцэпцыі гуманітарнай адукацыі. Мэтазгодным бачыцца падыход, які пераносіць акцэнт на даследаванне і выкарыстанне на практыцы культурных сэнсаў, што адкрывае магчымасць пераадолець у пэўнай меры перагрузку праграм несістэматызаванымі фактамі з гісторыі культуры. Абавязковая рэфлексія і рэпрэзентацыя сумарнага культурнага тэксту павінна ажыццяўляцца сродкамі сваёй роднай мовы, а не іншанацыянальнай. Новае пакаленне беларускага этнасу мае магчымасць убачыць праз прызму нацыянальнай культуры сэнс чалавечага жыцця, перспектывы самарэалізацыі ў духоўнай і сацыяльнай прасторы. На жаль, сучасная тэхналогія тэсціравання не разлічана на адлюстраванне ўменняў мыслядзеяння, на фарміраванне і ажыццяўленне вербальнага выказвання.

Вербальная культура нацыі з'яўляецца індыкатарам сацыяльнага і культурнага развіцця грамадства. Рэпрэзентацыя краіны на міжнароднай арэне як самастойнай дзяржавы патрабуе вызначэння яе культурнай ідэнтычнасці. Нацыянальная прырода культуры раскрываецца найперш у моўным яе быцці. Менавіта мова надае культуры

нацыянальную цэласнасць, самабытнасць, праграмуе і захоўвае нацыянальны менталітэт грамадства.

Вербальная мова – гэта ўніверсальны сімвал усіх відаў кагнітыўнай дзейнасці. У яе семантыцы адлюстраваны агульныя, універсальныя кампаненты агульначалавечай культуры і адметнасць культуры канкрэтнага народа. Сёння ў сферы моўнай дзейнасці назіраецца ўкараненне нігілізму ў дачыненні да беларускай мовы, што пакідае па-за сферай філасофскіх інтарэсаў нацыянальны вербальна-мастацкі вопыт. Відавочную небяспеку выклікае ў беларускай культуры двухмоўе: «…пры дасягненні нейкай крытычнай мяжы працэс выцяснення беларускай мовы рускай можа стаць незваротным» [2, с. 39]. Развіццё нацыянальнай культуры, стан і функцыянаванне нацыянальнай мовы ўзаемаабумоўлены.

Моўная праблематыка, узаемаадносіны мовы і культуры, актыўна распрацоўваліся ў культурфіласофіі. Вырашальную ролю мовы ў культурагенезе сцвярджаў філосаф Новага часу І. Гердэр у працы «Ідэі да філасофіі гісторыі чалавецтва: «…мова – гэта сродак выхоўваць чалавечнасць у нашым родзе…» [3, с. 240], пад якой ён разумеў культуру.

Вядомы тэарэтык культуры Дж. Віко («Асновы новай навукі: Аб агульнай прыродзе нацый») таксама невыпадкова вялікую ўвагу надае мове: даследуе яе паходжанне і развіццё ад старажытнага мыслення, у якім вельмі мала логікі, да строга навуковага, уласцівага сучаснаму чалавеку. Вучоны падкрэслівае сувязь паміж мовай і мноствам яе выражэння. Слова разглядаецца ім як знак рэчы ў яе грамадскім значэнні. Дж. Віко даказвае сувязь паміж народнай мовай і звычаем: простанародныя гаворкі павінны быць сведкамі старажытных народных звычаяў [4]. Высновы даследчыка падрыхтавалі вучэнне пра паходжанне мовы ў часы рамантызму, якое стала прыступкай да сучаснага мовазнаўства.

Культуратворчую энергію ў роднай мове адкрыў В. Гумбальт («Пра адрозненне ў будове чалавечых моў і яго ўплыў на духоўнае развіццё чалавечага роду»), падкрэсліў дзейсную функцыю мовы ў фарміраванні суб’екта культуры. У тэорыю мовы ён увёў катэгорыю «ўнутраная форма мовы», якую перанёс з тэорыі мастацтва. У яе аснове ляжыць тэзіс аб творчай дзейнасці чалавечага мыслення, якое ўвасоблена ў мове і зведвае ўплыў мовы. В. Гумбальт адзначыў, што мастацтва выяўляе «знешнія формы» свету і стварае «ўнутраныя формы для чалавека».

Канцэпт «унутраная форма слова» распрацаваны ў эстэтыцы А. Патабні. У працы «Думка і мова», «З запісак славеснасці», «Мова і народнасць» раскрываецца эўрыстычная функцыя мовы. Здольнасць успрымаць свет праз прызму мовы, перакананне ў тым, што мова фарміруе думку, паспрыялі ўбачыць яму ў міфе, фальклоры, літаратуры вытворныя ў адносінах да мовы мадэліруючыя сістэмы. Гэтыя ідэі атрымалі далейшае развіццё ў дзейнасці тартуска-маскоўскай школы семіётыкі. Паўплывала на тэорыю культуры і канцэпцыя гісторыі мовы А. Патабні, асноўным прынцыпам якой з’яўляецца семантычнасць, дынаміка сэнсаў, закладзеных у слове.

Мова для А. Патабні – не ізаляваны феномен. Ён цесна звязаны з культурай народа, які і стварае яе. Менавіта мова абумоўлівае нацыянальную спецыфіку народа, у тэрмінах А. Патабні – «народнасць». Як бачым, у філасофскай канцэпцыі даследчыка першапачатковае значэнне маюць катэгорыі «мова», «народ», «народнасць». Сфармуляваная ім праблема «мова і нацыя» атрымала развіццё ў працах М. Трубяцкога, Г. Шпэта і інш.

Архетыпам ведання на думку Г. Шпэта з’яўляецца слова («Герменеўтыка і яе праблемы», «Эстэтычныя фрагменты», «Свядомасць і яго ўласнік»). Яго фенаменалогія не разбурае логацэнтрызм, а наадварот, падкрэслівае яго значнасць ва ўсіх відах духоўнай дзейнасці, і перш за ўсё – у маўленчай. Слова-сімвал выступае як найвышэйшая ступень мастацкага абагульнення, як сродак асэнсавання быцця ў модусе арганічнай еднасці двух яго пачаткаў: прыроднага (аб’ектыўнага) і чалавечага (суб’ектыўнага). Аб’яднанне іх у мастацтве стала адной з самых актуальных праблем сучаснасці.

Як бачым, філасофія культуры і філасофія мовы паказалі арганічную сувязь паміж культурай і мовай народа. Першым, хто паставіў перад сабой задачу «апрануць у беларускую вопратку» нацыянальны хранатоп, быў В. Дунін-Марцінкевіч, які пераклаў «Пана Тадэвуша». Інтэрпрэтацыя сэнсаў мастацкай структуры сродкамі беларускай мовы азначала ў XIX ст. поўную перамогу ў Беларусі нацыянальнага стылю.

Нацыянальная ідэя атрымала вербальнае афармленне ў творчасці Ф. Багушэвіча, М. Багдановіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа. Беларуская культура нацыянальнага адраджэння змагла сфармуляваць сваё важкае выказванне ў агульнаеўрапейскім дыялогу, створанага семантыкай беларускага слова, прасякнутага каштоўнаснай інтэнцыяй. Маўленчая творчасць стала надзвычай актыўнай. На нацыянальным грунце ўзніклі сэнсавызначальныя канцэпты «наша ніва», «родны кут», «спадчына», «скарб» і інш. Мовы стараславянская, лацінская, польская, руская, якія ў розныя часы абслугоўвалі афіцыйнае жыццё царквы і дзяржавы, не змаглі абагуліць гісторыка-культурны вопыт і стварыць адпаведныя яму лексікоды. Нягледзячы на нігілістычныя адносіны да нацыянальнай мовы і культуры, працэс словаўтваральнасці працягваецца і ў нашы дні. Па-ранейшаму прыярытэтную ролю ў ім адыгрывае беларуская мова.

Беларуская вербальная культура XX стагоддзя стала духоўным самасцвярджэннем нацыі ў атмасферы афіцыйнага і постмадэрнага нігілізму. Каштоўнасным нацыянальным зместам напоўнены мастацкія формы эстэтыка-філасофскага выказвання і філасофскай лірыкі. Менавіта моўная дзейнасць з’яўляецца адным з галоўных сродкаў самавызначэння і самарэалізацыі суб’екта культуры.

***Літаратура***

1. Рагуля, А.У. Спасціжэнне сэнсу (рукапіс знаходзіцца ў аўтара).
2. Астапенка, А.У. Нацыянальная ідэя ў сучасным свеце / А.У. Астапенка. – Мінск, 2003. – 182 с.
3. Гердер, И.Г. Идеи к философии истории человечества / И.Г. Гердер. – М.: Наука, 1977. – 703 с.
4.Вико, Дж. Основания Новой науки / Дж. Вико. – М. – К.: «REFL – book» – «UCA», 1995. – С. 156–176.

***В.Л. Татур*** (Мінск, Беларусь)

**УЖЫВАННЕ ІНФІНІТЫЎНЫХ ФОРМ ДЗЕЯСЛОВА Ў СУЧАСНАЙ МАСТАЦКАЙ ПРОЗЕ І ПУБЛІЦЫСТЫЦЫ**

Інфінітыўныя формы дзеяслова шырока ўжываюцца ў мове афіцыйна-дзелавога стылю. М. Кожына адзначае: «Характэрна, што пры найменшай колькасці дзеясловаў дзелавая мова дае найбольшую... колькасць форм інфінітыва» [1, с. 140]. Менавіта інфінітыўная форма дзеяслова адпавядае стылістычным асаблівасцям афіцыйных дакументаў. Для мастацкага маўлення недастаткова абстрактнага наймення дзеяння, таму інфінітыўныя формы ў ім не вельмі пашыраны. Але як паказвае аналіз сучаснай мастацкай літаратуры і публіцыстыкі слоўнікавы склад інфінітыўных форм дзеяслова актыўна папаўняецца новымі матываванымі адзінкамі за кошт уласных сродкаў у адпаведнасці з патрэбамі моўнай практыкі. Развіццё лексічнага саставу сучаснай беларускай літаратурнай мовы ўжо цяжка ўявіць без аўтарскіх словаўтварэнняў, матывавальнай асновай якіх стаў уласнабеларускі матэрыял: *Ды і дом неабходна* ***абакураціць****, упрыгожыць* (С. Лобач. Журба прылегла. Полымя. 2006. № 3. С. 55). *Прыйсці на гадзіну-другую, быць каханкай – адно,* ***асямеіцца*** *– зусім іншае.* (І. Капыловіч. Калі трэба жыць. Маладосць. 2001. № 10. С. 113). *Дык няўжо трэба было* ***асямейвацца****?* (М. Зарэмба. Здань у храме святой наіўнасці. Маладосць. 2000. № 11. С. 149). *Стаў* ***кавалерыцца****. Бацька ўгаворваў да дваццаці жаніцца, а я не хацеў* (С. Лобач. Пажыві для людзей. Полымя. 2005. № 3. С. 80). *І пану не давядзецца* ***красамоўнічаць*** *на публіцы* (М. Клімковіч. Цень анёла. Маладосць. 2008. № 3. С. 35). *Бацюшка лічыць, што* ***лекаваць*** *душы. можна не толькі добрым словам.* (Звязда. 29 жніўня 2007. С. 2) ...*кветку.., здольную* ***лекаваць*** *чалавечыя хваробы* (Д. Бугаёў. Шматмернасць паэтычнага свету. Полымя. 2008. № 5. С. 182). *Мне заўсёды прыемна было знаёміцца, а потым за нейкім сталом нават* ***чаркавацца*** *з мастакамі, кампазітарамі, спевакамі* (К. Камейша. Паміж кубкам і вуснамі. Полымя. 2007. № 12. С. 78) і інш.

Адметнасцю мовы сучаснай мастацкай прозы і публіцыстыцы з'яўляюцца шматлікія, розныя па семантыцы і сферы ўжывання аказіяналізмы, створаныя на аснове прадуктыўных і непрадуктыўных словаўтваральных мадэляў, рэальна існуючых лексічных адзінак, якія адрозніваюцца ад агульнапрынятых сваімі словаўтваральнымі сродкамі – прыстаўкамі і суфіксамі: *А. Разанаў – паэт, які блукаў у нябёсах, калі яго імкнуліся* ***абземліць*** *і ўземліць* (А. Пашкевіч. З маланкай у сэрцы. Маладосць. 1997. № 12. С. 246*). Не так проста мяне* ***аблапушыць*** (В. Ткачоў. Да неба камень не дакінеш. Маладосць. 2004. № 2. С. 43) ...*каб* ***выдастаць*** *з-пад зямлі якое-небудзь рэха вайны.* (А. Бахарэвіч. Пагроза. Маладосць. 2007. № 1. С. 7). *Таму* ***зацаніць*** *прыгажосць галактыкі... можна толькі вечарам...* (Чырвоная змена. 17 жніўня 2007. С. 2) і інш.

Нельга не адзначыць і такую з'яву, як ужыванне аўтарамі інфінітыўнай формы дзеясловаў у зваротнай форме, тады як слоўнікі падаюць іх як незваротныя: *Ды там яшчэ трэба знаць дзе, што і як трэба ўзяць,* ***атаварыцца*** (Т. Супрановіч.

Пракрустава ложа. Маладосць. 2008. № 5. С. 90). *Мусіць трэба **далажыцца**. Але дакладваць аб сваім вяртанні не давялося* (А. Кажадуб. Апавяданні. Полымя. 2008. № 5. С. 21). *А мо згодзіцца **закадзіравацца**..?* (М. Даніленка. Апавяданні. Полымя. 2008. № 4. С. 95). Або падаюць зваротны дзеяслоў у незваротнай форме: *Раз жыццё задумана так, дык няма чаго **дзівавацъ**, што людзі падзяліліся на групы па веры, па колеру аблічча* (Г. Чарказян. Курдскія апавяданні. Маладосць. 1999. № 5–6. С. 163) і інш.

Часам лексемы, якія ў слоўніках зафіксаваны як дзеясловы незакончанага трывання, аўтары ўжываюць як формы закончанага трывання і наадварот: ...*і знаходзіў любыя адгаворкі каб **аднекнуцца*** (А. Федарэнка. Рэвізія. Полымя. 2004. № 2. С. 46). *Я ж і гавару: ён, антыхрыст, і **прыдурыцца** можа* (В. Ткачоў. Да неба камень не дакінеш. Маладосць. 2004. № 2. С. 54) і інш.

Шматлікія ўзоры аўтарскіх неалагізмаў сур'ёзна ўскладняюць пытанне аб узуальным аказіянальным і патэнцыяльным статусе слоў у беларускай мове. Асноўнай цяжкасцю ў аднясенні аўтарскіх неалагізмаў да ўзуальных адзінак з'яўляецца нераспрацаванасць крытэрыяў, паводле якіх тое ці іншае слова можа лічыцца літаратурным сродкам. Тым не менш замацаваны ў мовазнаўстве агульны статус новых слоў – прызнанне іх наяўнасці, існавання як спецыфічных лексічных адзінак – дае ім права на жыццё, на выкарыстанне ў мове.

Ужываюць аўтары і словы, якія маюць традыцыйна сацыяльна абмежаваную сферу ўжывання: *Каб **адпэндзіць** спакой, Такую прыдумаў сабе работу...* (Р. Барадулін. А прымаўка гэта яўна старая... Полымя. 1995. № 1. С. 32)... *фатограф, які можа... «**адфоташопіць**», пагуляцца з ценем...* (А. Бязлепкіна. Сучасны чалавек А. Глобуса. Маладосць. 2007. № 1. С. 124).

Характэрнай асаблівасцю з'яўляецца і актывізацыя іншамоўных слоў, якія ўключаюцца ў працэс словаўтварэння ў якасці матывавальнай базы. Найбольш актыўна ўдзельнічаюць у словаўтваральным працэсе запазычаныя назоўнікі. З дапамогай суфіксальнага і постфіксальнага спосабаў словаўтварэння ад іх утвараюцца інфінітыўныя формы дзеяслова: ***Адфармацыраваць** дыск* (Л. Шчэрба. Уладар рыбаў. Маладосць. 2003. № 11. С. 36) ... *калі гаспадарка бедная, калі ў ёй няма чаго **акцыяніраваць**, дык навошта людзей смяшыць* (І. Валасевіч. Зямля шануе руплівых. Маладосць. 1998. № 9. С. 184). *Надалей мы плануем **інсталіраваць** усе гэтыя віды альтэрнатыўных крыніц* (І. Клімковіч. Дзеля гармоніі… Маладосць. 2006. № 9. С. 34). ***Медытаваць** можна…* (Л. Шчэрба. Уладар рыбаў. Маладосць. 2003. № 12. С. 26) ... *герой рамана пачынае **медытаваць**…* (Л. Галубовіч. Замова на будучае. Полымя. 2006. № 12. С. 189). *Колерам зліваецца з каменем падземкі, і сама спрабуе сціснуцца ў кропельку, зліцца з асяроддзем, **мімікраваць*** (Звязда. 12 верасня 2007. С. 7) ... *і чаму аўтару так важна **рэінкарнаваць** менавіта гэты аповед?* (І. Шаўлякова. Рай-які-заўсёды-з-табой. Маладосць. 2007. № 5. С. 116). *Ты… будзеш **рэлаксаваць**, уяўляць*

*сябе ў цёплай рэчцы* (А. Наварыч. Памалюся Перуну. Маладосць. 2007. № 5. С. 52). ***Спансіраваць*** *футбольныя каманды...* (Звязда. 23 мая 2007. С. 2). *Творца мусіць... адчуваць слова і ведаць асноўныя паняцці літаратуразнаўства, каб* ***спрадукаваць*** *нешта вартае ўвагі калегаў і чытачоў* (В. Трэнас. Пакаленне NEXT. Маладосць. 2003. № 9. С. 145). *Смех смехам, але сапраўды не на тым жа свеце* ***тусавацца*** *падлеткам.* (У. Міхно. Падлеткі. Маладосць. 1996. № 9. С. 202) і інш.

Назіраецца таксама і далейшая актывізацыя іншамоўных словаўтваральных фармантаў: *Сутнасць апошніх – максімальна* ***дэбюракратызаваць*** *працэс дзяржзакупак* (Звязда. 9 ліпеня 2008. С. 1) ...*будзе прыцягнута ўвага сіл, якія сёння спрабуюць* ***дэстабілізаваць*** *абстаноўку* (Звязда. 7 верасня 2007. С. 2) і інш.

Пашырэнне колькаснага складу інфінітыўных дзеяслоўных форм адбываецца і за кошт вяртання ва ўжытак слоў з пасіўнага запасу, якія не абазначаюць новыя паняцці, а з'яўляюцца дублетамі нарматыўнай лексікі. Пачынаючы з 1990-х гадоў актывізаваўся працэс ажыўлення ўстарэлых слоў, напрыклад: ...*не ўсім прыемна слухаць музыку і* ***танчыць*** (Звязда. 28 жніўня 2007. С. 2) ... *з п'яным Андрэем няёмка было* ***танчыць****, а танцаваць хацелася* (В. Шабалтас. Душагуб. Полымя. 2005. № 5. С. 59). *Дык што, узяць і* ***станчыць*** *на стале...* (А. Казлоў. Горад у нябёсах. Маладосць. 2008. № 1. С. 26) і інш.

Значныя змены ў лексічным складзе беларускай мовы выкліканы кардынальнымі пераўтварэннямі ў грамадска-палітычным і культурным жыцці краіны канца XX – пачатку XXI ст. Папаўненне слоўнікава складу інфінітыва беларускай мовы адбываецца за кошт новаўтварэнняў, запазычванняў, а таксама за кошт вяртання ва ўжытак слоў з пасіўнага запасу.

***Літаратура***

1. Кожина, М.Н. О речевой системности научного стиля сравнительно с некоторыми другими / М.Н. Кожина. – Пермь, 1966. – С. 140.

***Т.Г. Трофимович*** (Минск, Беларусь)

## «ГІСТАРЫЧНЫ СЛОЎНІК БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ» В КОНТЕКСТЕ ДОСТИЖЕНИЙ И ПРОБЛЕМ ВОСТОЧНОСЛАВЯНСКОЙ ЛЕКСИКОГРАФИИ И ФРАЗЕОГРАФИИ

В настоящее время можно с удовлетворением отметить высокий уровень развития восточнославянской исторической лексикографии. Она достигла значительных успехов, которые стали возможными благодаря целенаправленной и систематической работе целых научных коллективов. В течение последних десятилетий издаются такие фундаментальные труды, как «Словарь русского языка XI–XVII вв.», «Словарь древнерусского языка XI–XIV вв.», «Словарь русского языка XVIII в.», «Словник староукраїнської мови XIV–XV вв.». Буквально в последние годы начато издание «Словаря обиходного русского языка Московской Руси XVI–XVII вв.» (в.1, СПб., 2004), «Словаря промысловой лексики северной Руси XV–XVII вв.» (в.1, СПБ., 2003), многочисленных исторических региональных словарей. Опубликован проект «Словаря русского языка XIX в.» (СПб., 2002).

Свое место среди перечисленных лексикографических трудов по праву занимает «Гістарычны слоўнік беларускай мовы» (далее ГСБМ), первый том которого вышел в 1982 г. К настоящему времени свет увидело 30 выпусков словаря (том 30 вышел в 2010 г., буква Р), издание продолжается.

Как известно, впервые попытку словарной фиксации старобелорусской лексики и фразеологии предпринял И.И. Носович. В 1853–57 гг. он по заданию Российской академии наук составил словарь для пятитомного издания Археографической комиссией «Актов, относящихся к истории Западной России» (СПб., 1846–1853). Этот словарь должен был облегчить изучение документов. Комиссия, состоящая из академиков А.А. Шахматова, И.И. Срезневского и М.А. Каркунова, высоко оценила проделанную работу, однако словарь так и не был издан.

В 1872 г. в журнале «Университетские известия» (Киев) было завершено издание «Справочного словаря юридических терминов древнего актового языка Юго-Западной России» И.П. Новицкого. Всего около 600 различных терминов актовой письменности получили в нем свое толкование. В 1874 г. в Вильно вышел «Словарь древнего актового языка Северо-Западного края и Царства польского» М. Горбачевского, в котором содержится толкование в основном латинских и польских юридических терминов.

Сохранились свидетельства того, что идею создать словарь старобелорусского языка поддерживал академик Е.Ф. Карский. По его мнению, источниками такого словаря должны были стать памятники письменности от XIII до XVIII в. включительно.

Решение начать работу над историческим словарем белорусского языка было принято в 1927 г. в Институте белорусской культуры, однако работа была остановлена на начальной стадии и возобновлена только в 1960 г. К 1972 г. была создана картотека словаря, которая насчитывала 1 миллион 60 тысяч карточек.

ГСБМ стал заметным событием в восточнославянской исторической лексикографии и фразеографии. В процессе работы было принято верное, научно мотивированное решение о хронологическом охвате словаря. Историки белорусского языка (Л.М. Шакун, А.И. Журавский, А.Н. Булыко, Н.Г. Пригодич и др.) неоднократно указывали на то, что белорусские черты находят отражение в письменности, начиная с XIII в. Тем не менее было принято решение не использовать в качестве источников памятники XIII–начала XIV в., поскольку их лексика найдет свое отражение в словаре древнерусского языка. Высшей границей словаря предложили считать XVIII в., который отделяет древний белорусский литературно-письменный язык от нового. Таким образом, исторический словарь белорусского языка охватывает лексику от конца XIV в. до конца XVIII в. Правда, памятников XVIII в. известно очень мало, поэтому использован только один памятник – «Собраніе припадковъ краткое и духовнымъ особомъ потребное» 1722 г.

Удачно решена проблема источников ГСБМ. Она оказалась очень сложной в связи с тем, что древняя белорусская письменность развивалась в условиях многоязычия.

Тексты создавались не только на старобелорусском языке, но и на латинском, польском, церковнославянском. Авторы концепции ГСБМ успешно решили проблему соотношения церковнославянского и старобелорусского языков, приняв во внимание реализацию имеющихся различий, а также проблему разграничения старобелорусских и староукраинских памятников письменности по этнотерриториальному принципу.

К многочисленным достоинствам ГСБМ следует отнести продуманную, основанную на достижениях современной исторической лексикографии систему подачи языкового материала. Заглавное в словарной статье слово сопровождает частеречная характеристика, толкование значений, объемный иллюстративный материал. ГСБМ фиксирует все известные написания слов, что является чрезвычайно важным для понимания речевых процессов, происходивших в прошлом, а также закономерностей эволюции правописного облика слова. Так, читаем: *обачоный, обаченый (ГСБМ, т. 21, с. 90), обваженый, обаженый, обважоный (Там же, с. 91)* и т. д.

Особого одобрения заслуживает факт фиксации в ГСБМ старобелорусской фразеологии. Огромное фразеологическое богатство фиксируется словарем с учетом сложившейся практики. Первоначально предлагалось использовать двоякую маркировку фразеологических единиц: если фразеологизм относится к одному из значений многозначного слова, помечать его ◊, если же ко всему многозначному слову – ♦. Как показывает практика издания словаря, последовательно соблюсти это условие не удалось. Последние тома ГСБМ свидетельствуют о том, что наиболее жизнеспособным и удобным оказался знак ◊. Авторы словаря постепенно отказались от качественной оценки фразеологизмов.

ГСБМ оказался не только в контексте достижений восточнославянской исторической лексикографии и фразеографии, но и в контексте ее проблем. Главная из них – полнота фиксации языкового материала. Судя по всему, еще много слов старобелорусского языка не охвачены словарем. Так, обращение автора этих строк к содержанию «Актовой книги Полоцкого магистрата 1650 г.» (Минск, 2006) позволило установить, что ряд содержащихся в ней слов не зафиксированы ГСБМ: *байдачное – пошлина за проход речного судна или за провоз на нем товаров; бакста – башня; биндалик, бендалик – повязка на голову; болдыш – мастер по изготовлению эфесов; вилчура – одежда из волчьей шкуры; изводъ – поиск преступника; куратор – тот, кто опекает несовершеннолетних детей; куроспондент – поверенный; селезневый – серо-зеленый* и т. д. Не зафиксированы и некоторые варианты: *братанец – сын брата (братанца, братенич* есть), *кграцъ* (есть варианты *кгарнецъ, гарнецъ, гарнеть)* и т. д. Предстоит большая работа по подготовке дополнений к ГСБМ. Думается, что к этой работе должна активно подключиться широкая научная общественность. Это позволит привлечь новые памятники письменности, уточнить уже имеющиеся сведения, полнее и точнее их оценить, опираясь на новейшие достижения не только языкознания, но и других наук.

Как показывает практика, особую ценность в изданиях, которые оказываются событиями в лексикографии, становятся справочные тома или выпуски. Так, в 2004 г.

вышел «Справочный выпуск» к «Словарю русского языка XI – XVII вв.». Этот выпуск не только содержит указатель источников, обратный словник, но и созданную историю картотеки словаря, а также биобиблиографическое описание авторского коллектива. С большой любовью и уважением рассказано о тех, кто не только создавал концепцию словаря, редактировал тома, готовил по нескольку десятков тысяч карточек для картотеки, но и о тех, кто волею судеб внес в картотеку 40–60 карточек. Полагаем, что историю картотеки и историю авторского коллектива ГСБМ нужно создавать, пока еще живы воспоминания об относительно недавно ушедших, а также живы непосредственные участники такого научного, культурного и общественного события, коим является ГСБМ.

***А.В. Трафімчык*** (Варшава, Польша)

## ПАЛЕСКАЯ ПАМЫЛКА ЯЎХІМА КАРСКАГА[1]

Моўны фактар вызначаў на працягу дастаткова працяглага часу нацыянальную ідэнтыфікацыю насельніцтва па ўсім усходнееўрапейскім рэгіёне. Але, па-першае, ён не заўсёды быў кангеніяльным у дачыненні да такой праблемы, якая ў пачатку XX ст. імкліва набывала вастрыню, а, па-другое, у сілу розных прычын яго інтэрпрэтацыі набывалі пэўны ўзровень тэндэнцыйнасці. Звычайна то былі прычыны палітычнага кшталту. Многія дэмографы, лінгвісты, гісторыкі, зыходзячы са сваіх меркаванняў, абумоўленых падзейнай кан'юнктурай і асабістым паходжаннем, выхаваннем, адукацыяй, стваралі канцэпцыі на карысць той сацыяльнай ці нацыянальнай сілы, да якой яны належалі. Я. Карскі быў беларусам па паходжанні. І па сённяшні дзень яго працы застаюцца аўтарытэтнымі для навукоўцаў, асабліва для ўкраінскіх даследчыкаў і грамадскіх дзеячаў, калі ўзнімаецца праблема нацыянальнай прыналежнасці жыхароў Берасцейска-Пінскага Палесся (фактычна сённяшняй Брэсцкай вобласці). Гэты рэгіён Я. Карскім уключаўся ў тэрыторыю ўкраінскага этнасу. Але аналіз пазіцыі класіка ўсходнеславянскай навукі выяўляе яе слабасць адносна дадзенай праблемы. Шлях да ўдакладнення той пазіцыі, яе вартасцей і значэння паспрабуем акрэсліць у гэтым артыкуле.

Усеагульны перапіс Расійскай імперыі 1897 г. па Гродзенскай губерні паведамляе пра 22,6 % насельніцтва з роднай мовай малярускай (украінскай). Канцэнтрацыя маларосаў назіралася ў трох паветах – Брэсцкім, Кобрынскім і Бельскім (часткова), дзе яны агулам складалі каля 350 тысяч [6, с. 102–103].

Крыху пазней Я. Карскі практычна толькі на аснове вывучэння беларускіх дыялектаў склаў сёння шырока вядомую «Этнографическую карту белорусского племени» (што ўжо само па сабе некарэктна, паскольку лінгвістычныя даследаванні не ёсць этнаграфічныя), у якой тэрыторыя з беларускім насельніцтвам на Берасцейска-Пінскім

[1] Работа выканана ў рамках Беларускай стыпендыяльнай праграмы Універсітэта Лазарскага, фінансаванай са сродкаў праграмы польскага развіццёвага супрацоўніцтва Міністэрства замежных спраў 2011 г.

Палессі была, аднак, значна рэдукавана. Прычыны, думаецца, заключаюцца ў падыходзе вучонага да праблемы нацыянальнай ідэнтыфікацыі. Складваецца ўражанне, што Я. Карскі ў разглядаемым рэгіёне вызначаў размежаванне метадам «ад адваротнага». Гэта значыць, ведаючы асноўныя асаблівасці беларускага «наречия», ён устанавіў мяжу яго распаўсюджвання. Пры гэтым гаворкі, якія адрозніваліся некаторымі сапраўды прынцыповымі рысамі, былі аўтаматычна аднесены да бліжэйшага этнасу, у нашым выпадку – украінскага (нягледзячы на таксама прынцыповыя адрозненні і ад асноўнай масы ўкраінскіх гаворак). На гэта працуюць два аргументы.

Першы. Як відаць па карце, распаўсюджванне беларускіх гаворак на ўсходзе Беларусі канстатавалася Я. Карскім як вельмі глыбокае. Справа ў тым, што ведаючы дасканала рускую мову, вучоны пры ўсіх цяжкасцях выразна адрозніваў яе ад беларускіх дыялектаў (як, дарэчы, і неславянскія прыбалтыйскія гаворкі, нятоднасць якіх з беларускімі з'яўлялася відавочнай нават пры няведанні іншых). Да таго ж не факт, што ён асабіста даследаваў Заходняе Палессе, больш бываючы ў паўночна-заходніх і заходніх паветах Беларусі. «Вось чаму трэба лічыць межы беларускага народу, паданыя акадэмікам Карскім у Віленшчыне і на захадзе Горадзеншчыны больш трывалымі, больш угрунтаванымі, чымся паўднёвыя межы Заходняй Беларусі» [2, с. 8].

Другі акадэмік У. Пічэта звяртаў увагу, што Я. Карскі быў схільны лічыць беларускія дыялекты менш самабытнымі, чым украінскія [5, с. 421, 423], што магло і прадвызначыць у такім дыскусійным моманце перавагу меркаванняў вучонага на карысць большай распаўсюджанасці апошніх. Да таго ж у яго лінгвістычных даследаваннях Палесся Я. Станкевічам выяўляецца шмат недакладнасцей і памылак [7, с. 194–196]. Больш таго, на думку Я. Карскага, «белорусское наречие» было ў свой час «инструментом литературы, которая имела целью возмутить народ против православной церкви и русских» [3, с. 351], гэта значыць, для такіх меркаванняў у вучонага былі і палітычныя матывы, якія накладалі суб'ектыўны адбітак.

Тым не менш і Я. Карскі заўважаў, што складзеная ім карта акрэслівае «вобласць, якая хутчэй належыць беларускай *мове*, *чым этнасу*» [па: 4, с. 14] (*курсіў наш* – **А. Т.**), таму гэтыя словы не трэба скідваць з рахунку. Разважаючы аб устаноўленых межах беларускіх гаворак, Я. Карскі робіць некалькі вельмі цікавых заўваг адносна іх. Прынамсі адзначае, што вызначыць дакладна мяжу на беларуска-рускім або беларуска-ўкраінскім сумежжы па сутнасці немагчыма [3, с. 29]. Гэтым самым нібы прадбачачы эвентуальнасць памылковага і тэндэнцыйнага выкарыстання вынікаў яго даследаванняў, Я. Карскі дэклараваў, што яны не прэтэндуюць на тое, каб легчы ў аснову размежавання этнасаў. Хоць у пэўным сэнсе тут можна адшукаць і супярэчнасці ў пазіцыі самога даследчыка (што ўзнікае, відаць, з прычыны іншых – сацыяльна-палітычных – меркаванняў вучонага, якія, як бачым, такім чынам зашкодзілі метадалагічным асновам навуковых пошукаў). Да таго ж, як указвае Я. Насытка, галоўны недахоп Я. Карскага (і яго папярэднікаў – А. Рыціха і Г. Ноберта) заключаецца

Часта *сват* і *сваха* ўзгадваюцца ў пары: *Прыходзілі **сват** і **сваха**, бралі хлеба, бутылку, закусі* (в. Гарошкаў) [1]; *Выходзяць **сват** са **свахаю** з хлебам ды соллю з гарэлкаю, сустракаюць **сватоў*** [4, с. 115]; *За сталом, дзе маладыя, сядзелі **сваха** і **сват**, кум і кума* (в. Жмураўка) [1].

Яшчэ часцей лексема ўжываецца ў форме множнага ліку: ***Сваты** вядуць свадьбу, вызываюць на каравай* (г. Ветка) [1]; *К нявесце прыходзяць **сваты**. Высваталі нявесту. Эта **сваты** або заручыны называлася* (д. Хальч) [1]; *Выбіраюць **сватоў**. Жаніх бярэ хроснага, свідзецеля і свайго бацьку і едуць да нявесты* [5, с. 223]; *На выкупе таргавалі **сваты**, дружок жа быў у яго* (г. Ветка) [1]; *У нас толькі прыежжалі **сваты**, дагаварыліся на счот свадьбы* (в. Клімаўка) [1]; ***Сватамі** могут быць родственнікі; бацька ж прыходзіць у сваты* (в. Старое Сяло) [1].

Указаныя лексемы сустракаюцца і ў рускіх вясельных песнях: *Как у **свата** на дворе, У Михаила Афанасьевича, В трое колокол ударили* [6, с. 221]; *Дурны **сваты**, дурны: Заехали в гумны* [7, с. 165]; *А завтра мою косоньку **сваха** расплетет* [7, с. 154].

І ў беларускай, і ў рускай вясельнай лексіцы традыцыйна формы суб'ектыўнай ацэнкі перадаюць павагу, пашану і значнасць адпаведных асоб: *Адчыняй дзверы, **сваток**, Адчыняй, **сваток**, вароты* (в. Івакі) [1]; ***Сватушка-сват** хорошенький, **Сват** хорошенький – **сват** пригоженький!* [7, с. 164]; ***Сватушка**, падари-ка нам, сватушка, не рублем, полтиною, **Сватушка**, золотою гривною!* [7, с. 164]; ***Сватьюшка** хмелем осыпает* [7, с. 222]; *Исполать тебе, **свахонька*** [7, с. 164].

У параўнанні з найменнямі *сват, сваха, сваты* словы *свёкар, свякроў* менш пашыраныя: *На свадзьбе нада была, штоб каля маладых сядзелі свідзецелі, а радам радзіцелі маладой і маладога: **свякроў** і **свёкар**, цесць і цёшча* (г. Ветка) [1]; *Уж как мне назвать люта свекра, Уж как мне назвать люту свекровь* [7, с. 155].

З асобай свякрові звязана на вяселлі некалькі абрадавых дзеянняў. На Гомельшчыне існуюць варыянтныя назвы *свякроў, свякруха, свякрова*: ***Свякроў** устрачала і з хлебам і з соллю* (в. Хальч) [1]; *У канцэ вечара **свякруха** снімае з нявесты фату і мерае яе ўсім незамужнім дзеўкам* (в. Церуха) [1]; *Ну тады ўжо як за сталом, маладая далжна назваць **свякруху** мамаю* (в. Азершчына) [1]; *Пасля сватоў **свякруха** прыносіць нявесце сняданак некалько разоў да свадзьбы* [5, с. 278]; *Ужо ў жаніха **свякрова** снімае з нявесты вянок і фату і кладзець іх за іконай, а нявесці на галаву адзявае свой платок* (г. Ветка) [1].

Часам лексемы, агульныя для беларускай і рускай вясельнай традыцыі, называюць маладое пакаленне: <u>дружок (дружка)</u>: ***Дружка** і **дружок** – сведкі жаніха і нявесты на вяселлі. **Дружка** стаіць і **дружок** стаіць. Вянок дзержыць **дружок** на вянчанні* (г. Ветка) [1]; ***Дружок** у нево, і ў нівесты – падруга. У мене сын старшы, што сейчас у Мінску жывёт, был на свадьбе. Он **дружок**, а ана – **дружка*** (в. Старое Сяло) [1]; *Як **дружка** ў нявесты, то так, это дружок у маладога* (в. Хальч) [1]; ***Дружок** нясе каравай, бласлаўляе. **Дружок** – ета прымерна свідзецель. Вядзе свадзьбу* (г. Ветка) [1]; <u>княжы</u>:

*Уваходзяць маладыя ў хату, садзяцца за стол, у нявесты – дружкі, а ў жаніха – **княжыя**, дзве свяцілкі* [8, с. 2].

Рускі фальклорны матэрыял выяўляе адпаведныя лексемы: *Ели **дружки**, ели – Да целого воробья съели!* [7, с. 165]; *На **дружeньке** шапочка коломенковая, На **дружeньке** кушак шелковый* [7, с. 165]; ***Княжой** тысяцкой, не скупися, золотой казной расступися!* [6, с. 21]

Беларускія адметнасці (на ўсіх моўных узроўнях) паўплывалі на наяўнасць адметных назваў удзельнікаў абраду. Агульным найменнем з'яўляецца *вясельнікі*: *Сват уносіў каравай і абвяшчаў аб гэтай важнай падзеі, запрашаючы **вясельнікаў** на каравай* (г. Ветка) [1].

Для наймення сяброўак нявесты на Гомельшчыне ўжываюцца: <u>баярка</u>: *Стой, зяцко, за вароцьмі, у чырвоньім у боцці. З залатымі падкоўкамі, з маладымі **баяркамі*** [9, с. 35]; <u>бяседа</u>: *Маладую павезлі, а дзявочая **бяседа** (прыданыя) ідзе к хлопцу па другі дзень, я сама прыданкаю хадзіла* [9, с. 249]; <u>паднявесніца</u>: *А нявеста к сабе са сваім **паднявесніцамі*»** [5, с. 8]; <u>прыдана</u>: *Назаўтра малады едзе па **прыданых**, забірае іх і вядзе к сабе* [8, с. 8]; <u>прыданка</u>: *Маладую павезлі, а дзявочая бяседа (прыданыя) ідзе к хлопцу па другі дзень, – я сама **прыданкаю** хадзіла* [9, с. 249].

З боку жаніху на вяселлі былі: <u>баярык</u>: *А малады з **баярыкамі** (так звалі яго дружкоў) сядзеў на лаўке з краю* [5, с. 237]; <u>паджанішнік</u>: *Цяпер жаніх сеў з **паджанішнікамі** на каня і паехалі дамоў* [5, с. 227]; <u>свяцілка</u>: *Уваходзяць маладыя ў хату, садзяцца за стол, у нявесты – дружкі, а ў жаніха – княжыя, дзве **свяцілкі. Свяцілкі** стаўлялі свецкі на стале* [8, с. 29].

Уласныя найменні захаваліся на Гомельшчыне для ўдзельніц асобных вясельных абрадаў: <u>перазвяначка</u> 'удзельніца пярэзваў': *А вы, сятрыцы-цяліцы, а вы, **перазвяначкі**, рукавічкі, тонкія, бяленькія, як папера, святленькія* [9, с. 234]; <u>свашка</u> 'удзельніца сватання': ***Свашка** – гэта калі ад жаніха ідзе суседка, ну такія людзі на ёлку цветы вешалі* (в. Хальч) [1].

Такім чынам, супастаўленне найменняў асоб у вясельнай лексіцы гомельскіх гаворак і адпаведных рускамоўных лексем паказвае, што большасць лексем, што называюць удзельнікаў вяселля на Гомельшчыне, захоўваюцца са старажытнарускіх часоў і таму з'яўляюцца агульнымі для беларускай і рускай моў: *дружка, княжыя, сват, сваха, свёкар, свякроў*. Акрамя старажытнарускай слоўнікавай асновы і абрадавых традыцый, трывалае выкарыстанне гэтай лексікі падтрымліваецца беларуска-рускім білінгвізмам грамадства. Натуральна пры гэтым, што беларускія моўныя адметнасці паўплывалі на наяўнасць варыянтных назваў і спецыфічных адметных утварэнняў: *баярка, баярык, бяседа, вясельнік, паджанішнік, паднявесніца, перазвяначка, прыдана, прыданка, свяцілка.*

***Літаратура***

1. Прыводзіцца фактычны матэрыял картатэкі лінгвістычнай лабараторыі кафедры беларускай мовы УА «Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Ф. Скарыны» з указаннем у дужках лакалізацыі. Ілюстрацыі прыводзяцца з захаваннем фанетычных і граматычных адметнасцей мясцовага вымаўлення.

2. Фальклорна-этнаграфічная і літаратурная спадчына Рэчыцкага раёна / уклад. І.Ф. Штэйнер, В.С. Новак. – Мінск: ЛМФ «Нёман», 2002. – 384 с.
3. Лоеўшчына. Бэзавы рай, песенны край: сучасны стан традыцыйнай культуры Лоеўшчыны / уклад. В.С. Новак. – Гомель: Сож, 2007. – 472 с.
4. Народная духоўная культура Брагіншчыны: фальклорна-этнаграфічны зборнік / склад. В.С. Новак, У.І. Коваль. – Гомель: Белдрук, 2007. – 240 с.
5. Вечнае: Фальклорна-этнаграфічная спадчына Веткаўскага раёна / уклад. І.Ф. Штэйнер, В.С. Новак. – Гомель: УА «ГДУ імя Ф. Скарыны», 2003. – 362 с.
6. Круглов, Ю.Г. Русские обрядовые песни: Учеб. пособие для пед. ин-тов по спец. «Рус. яз. и лит.» / Ю.Г. Круглов. – 2-е изд., испр. и доп. – М.: Высш. шк., 1989. – 320 с.
7. Русский фольклор / сост. и примеч. В. Аникина. – М.: Худож. лит., 1985. – 367 с.
8. Вяселле на Гомельшчыне: фальклорна-этнаграфічны зборнік / рэд. І.Ф. Штэйнер, В.С. Новак. – Мінск: ЛМФ «Нёман», 2003. – 472 с.
9. Фальклорны слоўнік Гомельшчыны / У.В. Анічэнка [і інш.]. – Гомель: ГДУ, 2003. – 346 с.

***О.И. Халупо*** (Челябинск, Россия)

## БАЗОВЫЕ ЛИНГВОКУЛЬТУРНЫЕ ЕДИНИЦЫ ЯЗЫКА КАК ОТРАЖЕНИЕ НАЦИОНАЛЬНО-КУЛЬТУРНОЙ МЕНТАЛЬНОСТИ ЕГО НОСИТЕЛЯ

Для современного общества, живущего в век глобализации, назрела необходимость уделять должное внимание лингвокультурным процессам, происходящим в нем, так как состояние любой нации определяется уровнем культуры. В лингвокультурологии, с одной стороны, актуальным становится направление исследований языковых тенденций, которые способствуют повышению культуры нации, с другой – нуждаются в осмыслении факторы влияния культуры на формирование языковой культуры общества, его языкового сознания, ментальности носителя языка.

«Методологическое основание лингвокультурологии зиждется прежде всего на том непреложном факте, что культура, равно как и язык, – это формы сознания, отображающие мировоззрение человека. Но культура – это прежде всего процесс и продукт его самосознания, нацеленного на установление идентичности субъекта культуры с тем, что выделено в культуре как мерило собственно человеческого в деятельности, то есть как оценки ее окультуренной ценности. Культурные же ценности – это смыслы ее собственных категорий и установок, которые могут быть представлены в виде ментальных моделей» [1, с. 224].

Ментальность – система образов и представлений, определяющая характер восприятия человеком окружающего мира, своего места в мире и обусловливающая соответствующие модели поведения [2].

Ментальность понимается нами как совместное сознание людей, которое становится своеобразным единым средоточием и оказывает прямое или косвенное влияние на их восприятие, предопределяет уровень развития культуры, языка и определяет направление формирования духовно-нравственных ценностей.

Национально-культурной ментальностью можно назвать такие воззрения и понятия нации, которые отражают ее национальное своеобразие и включают накопленные и

сохраненные в течение своей истории материальные и духовные культурные ценности нации.

Национально-культурная ментальность изучается в настоящее время с различных подходов и позиций. Она еще мало исследована и требует рассмотрения ее с позиций анализа различных наук. В нашем случае – это исследование с позиции языка с точки зрения лингвокультурной направленности, а именно владения базовыми лингвокультурными единицами.

Разработка данной проблемы предполагает владение (то есть осознание и использование) определенными базовыми лингвокультурными единицами носителем языка и применение их, а значит, и заключенную в них культурно значимую информацию в своей языковой деятельности. Базовая лингвокультурная единица – единица, направленная на изучение и осознание языка, национально-культурной ментальности и культуры общества и нации.

В основе такого подхода лежит точка зрения Н.А. Бердяева, признававшего культуру национальной по сути: «Культура никогда не была и никогда не будет отвлеченно-человеческой, она всегда конкретно-человеческая, то есть национальная, индивидуально-народная и лишь в таком своем качестве восходящая до общечеловечности» [3, с. 85].

У каждой культуры и языка есть свой сложившийся, укоренившийся, проверенный опытом «набор» единиц языка, который отражает культуру данной нации, ее развитие в различных областях. Данный набор зависит от многих факторов: и от общественного и экономического строя, и от политического и культурного уровня, и влияния других культур. Важными задачами взаимодействия языка и культуры являются не только изучение их влияния друг на друга, но и сохранение языковой культуры нации, ее обогащение, влияние ее на развитие личности и формирование ментальности носителя языка.

Языковые способности и культурные характеристики личности являются не только врожденными, но и приобретенными в процессе их жизнедеятельности, а значит, есть возможность создавать такие условия и ситуации, при которых будет происходить развитие, обогащение человека лингвокультурными средствами – базовыми лингвокультурными единицами. Под базовыми лингвокультурными единицами нами понимаются основные компоненты системы языка, отражающие национально-культурную специфику общества (детерминированных системой ценностей общества) и позволяющие личности обеспечить развитие способностей, формирование мировоззрения и духовности, то есть достойную подготовку ее к жизнедеятельности в обществе.

Под базовыми лигвокультурными единицами подразумеваются «ключевые» слова и выражения, которые отражают важные особенности культуры народа, пользующегося данным языком. Кроме этого, они должны быть значимыми, стержневыми, общеупотребительными, а также применяться в составе фразеологизмов и пословиц.

Базовые лигвокультурные единицы должны отражать как культурные, политические, социальные, экономические, образовательные, исторические и другие стороны жизни, так и национальное сознание, национальный менталитет, национальную идею современного общества. Общее представление о мире, заключающееся в объединении разных базовых лигвокультурных единиц, выстраивается в единую систему понятий, которую осваивают и понимают все носители языка.

Таким образом, говоря об отражении национально-культурной ментальности посредством усвоения определенного «набора» базовых лингвокультурных единиц, носитель языка будет успешно социализироваться в обществе, совершенствовать свой духовный уровень, повышать личностный, а значит, и культурный уровень всего общества в целом.

С другой стороны, соотнося понятия «базовые лингвокультурные единицы» и «национально-культурная ментальность», мы можем более содержательно описывать взаимоотношения языка и культуры с точки зрения познания национальной ментальности, что способствует сохранению ценного материала нашей культуры, нашего языка, богатства нашей духовности.

***Литература***

1. Телия, В.Н. Русская фразеология. Семантический, прагматический и лингвокультурологический аспекты / В.Н. Телия. – М.: Школа «Языки русской культуры», 1996. – 288 с.

2. http://www.onlinedics.ru/slovar/his/m/mentalnost.html.

3. Бердяев, Н.А. Судьба России / Н.А. Бердяев. – М.: Мысль. 1990. – 208 с.

***Н.У. Чайка*** (Мінск, Беларусь)

## КАНЦЭПЦЫІ СІНТАКСІЧНЫХ ТЫПАЛОГІЙ У МОВАЗНАЎСТВЕ

У сучасным мовазнаўстве тэрмін *тыпалогія* ўжываецца з некалькімі значэннямі. Большасць даследчыкаў лічыць правамерным карыстацца ім выключна пры вызначэнні спецыфікі мовы ў параўнанні з іншымі. На іх погляд, тыпалогія – гэта параўнальнае вывучэнне структурных і функцыянальных уласцівасцей моў незалежна ад характару генетычных адносін паміж імі. У залежнасці ад аб'екта даследавання яна можа быць функцыянальнай, структурнай, фармальнай, кантэнсіўнай.

Н.Б. Мячкоўская вызначае тыпалогію як метад даследавання разнастайных і ўнутрана складаных аб'ектаў шляхам выяўлення іх агульных або падобных рыс і аб'яднання аб'ектаў з улікам меры блізкасці ў некаторыя класы, групы, падгрупы. У адпаведнасці з метадалагічнымі прынцыпамі даследчыца прапануе наступныя віды тыпалогіі (сістэматызацыі) моў: генеалагічную, арэальную, а таксама сістэматызацыю па пэўных параметрах, не звязаных з генеалогіяй. Пры гэтым тыпалогія можа будавацца не толькі на аснове параўнання моўных сістэм (генеалагічная, арэальная і інш.), а і на выяўленні замкнутых моўных падсістэм – фанетычных, лексічных, граматычных (А.У. Цымерлінг, А.Я. Кібрык, І.П. Мельнікаў), што падразумявае размяшчэнне моўных з'яў па класах у адпаведнасці з пэўнымі прыкметамі. За час існавання навукі даследчыкі выпрацавалі багаты метадалагічны апарат, асноўныя метадалагічныя прынцыпы якога

можна прадставіць наступным чынам: прынцып сістэмнасці тыпалагічнага падабенства (А.Я. Кібрык, І.П. Мельнікаў, Н.Б. Мячкоўская); прынцып тыпалагічнай значымасці прыкмет (параметраў). Толькі «моцныя» прыкметы могуць брацца за аснову тыпалогіі (А.Я. Кібрык, І.П. Мельнікаў і інш.); прынцып іерархіі аб’ектаў (ад універсальных да ўнікальных уласцівасцей), які павінен улічвацца пры сістэматызацыі аб’ектаў – аб’яднання іх у кантынуум (А.У. Цымерлінг); прынцып абумоўленасці тыпалагічна значымых прыкмет ступенню распаўсюджанасці (Н.Б. Мячкоўская); прынцып сінтагматыка-парадыгматычнага функцыянальнага ўзгаднення (А.Я. Кібрык).

Нягледзячы на тое, што названыя прынцыпы браліся за аснову пры параўнальным даследаванні некалькіх моў, яны прыдатныя і для тыпалагічнага даследавання замкнутых сістэм унутры адной мовы.

Апошнім часам назіраецца выразная тэндэнцыя да выкарыстання тэрміна *тыпалогія* пры вызначэнні тыпу ў мове (аднак пры гэтым метадалагічныя прынцыпы застаюцца базавымі). Падобныя даследаванні выяўляюць спецыфіку замкнутых сістэм (тыпалагічная рэлевантнасць моўнай збыткоўнасці, тыпалогія сказаў з прэдыкатыўным ядром $N_1 – N_1$, тыпалогія дадaных сказаў нетыповай будовы і інш.) адной мовы і ставіць перад сабой задачу сінтэзаваць вынікі аб’яднання і супрацьпастаўлення класіфікуемых аб’ектаў. Падобныя тэарэтычныя метадалагічныя прынцыпы выступаюць базавымі ў шматлікіх даследаваннях апошніх год (І.І. Дзягавец, Т.Я. Памыкалава, Р. Симић, M.P. Anstey, F. Daneš, Pottelberge, Z. Saloni, E. Thompson, N.N. Zhang).

Дасканалая тэарэтычная база і разнастайныя метадалагічныя прынцыпы і прыёмы тыпалагічнага мовазнаўства спрыяюць пашырэнню даследаванняў, што выяўляюць тыпалогію розных сінтаксічных катэгорый або канструкцый. Сучасныя даследаванні па праблемах сінтаксічнай тыпалогіі можна падзяліць на дзве групы. Асновай падзелу выступае характар тыпалагічнага класа аб’ектаў.

Значная колькасць прац прысвечана выяўленню тыпалагічных прыкмет у сінтаксічных сістэмах некалькіх моў. Крытэрыем вылучэння тыпалагічных прыкмет выступаюць розныя параметры.

*Кантэнсіўная* тыпалогія моў (Н.Б. Мячкоўская, А.Я. Кібрык, І.П. Мельнікаў, А.А. Халадовіч) заснавана на тыпах адносін паміж суб’ектам і аб’ектам дзеяння. Гэтыя даследаванні дазволілі класіфікаваць мовы ў адпаведнасці з сінтаксічнай арганізацыяй сказа (мовы намінатыўнага, эргатыўнага, актыўнага, класнага, нейтральнага тыпаў).

Тыпалогія *парадку слоў* у якасці асноўных параметраў прадугледжвае свабоднае або фіксаванае становішча асноўных сінтаксічных катэгорый (А.У. Цымерлінг, А.Я. Кібрык і інш.). У адпаведнасці з ёй мовы падзяляюцца на два тыпы – са свабодным і фіксаваным парадкам слоў.

Тыпалогія *лінейнай паслядоўнасці ў сінтагмах* (А.У. Цымерлінг) заснавана на супастаўленні і ўзаемаразмяшчэнні членаў сказа пры падпарадкавальнай сувязі. Сінтаксічныя сістэмы класіфікуюцца як цэнтрабежныя і цэнтраімклівыя. Метадалагічнай асновай гэтай класіфікацыі, на думку А.У. Цымерлінга, выступаюць «тры асноўныя тыпы

адносін паміж адзінкамі: іерархічныя, лінейныя і адносіны часткі і цэлага» [13, с. 25]. Даследчык упершыню ўводзіць паняцце *сінтаксічнае абмежаванне* – «працэс вылічэння складаных аб'ектаў, у якія ўваходзяць дыскрэтныя элементы» [13, с. 25 ]. Паняцце *тып* характарызуецца вучоным як рэгулярнае і абавязковае: толькі ў такім выпадку апісанне сінтаксічных катэгорый будзе адэкватным. Відавочна, што асноўным параметрам тыпалогіі тут выступаюць сінтаксічныя адносіны, якія, як вядома, маюць канстантны характар.

У аснове *граматыка-структурнай* тыпалогіі (А.У. Цымерлінг, А.Я. Кібрык) пакладзены спосабы і сродкі выражэння граматычных і сінтаксічных катэгорый (асабовасці, зваротнасці і інш.) у мовах з рознай тыпалогіяй. Тыпалагічна значымыя параметры дазваляюць выявіць сінтаксічныя сістэмы, дзе граматычныя катэгорыі набываюць функцыянальны характар. Пры вызначэнні тыпалогіі канструкцый (у прыватнасці канструкцый са значэннем супрацьпастаўлення) асноўным параметрам выступаюць граматычныя формы выражэння сінтаксічных катэгорый (Н.У. Верацельнік).

Выклікаюць цікавасць тыпалогіі, што выяўляюць спецыфіку *семантычнай арганізацыі* сінтаксічных канструкцый у розных мовах. Асноўнымі параметрамі ў такім выпадку выступаць розныя характарыстыкі аб'екта даследавання. Пры супастаўленні катэгорый прасторавых (статальных) адносін у рускай і скандынаўскіх мовах (Н.У. Шматава) параметрам тыпалогіі выступаюць геаметрычныя і тапанімічныя формы аб'ектаў. Дэнататыўная сітуацыя выступае базавай пры вызначэнні тыпалогіі класаў дзеясловаў з семантыкай кручэння (В.А. Круглякова). Дамінантнай прыметай тыпалогіі (а было прааналізавана 15 моў) выступае семантычная прыкмета – указанне на наяўнасць восі кручэння. Семантыка і дыстрыбуцыя дзеяслоўнага прэдыката з'яўляецца параметрам пры выяўленні спецыфікі польскай і беларускай моў (С.А. Важнік).

Тыпалогія, прапанаваная Т.Н. Андрэевай, адрозніваецца пэўнай ступенню навізны. Даследчыца значна пашырыла лінгвістычнае поле даследавання за кошт увядзення параметра, які ахоплівае некалькі моўных узроўняў. Характар *сінтактыка-семантычных адносін* у таджыкскай і англійскай мовах выступіў кваліфікуючым прынцыпам, у выніку чаго атрымалася арыгінальнае аб'яднанне моўных адзінак у класы на аснове канстантных прыкмет.

Класіфікацыя аб'ектаў можа ажыццяўляцца і на аснове *проціпастаўлення катэгорыі статальнасці і дынамічнасці* (Н.В. Верацельнік). У даследаванні асноўнымі кваліфікуючымі прызнакамі выступаюць не толькі прэдыкаты с лакатыўнай семантыкай, а і спосабы і сродкі выражэння прасторавых адносін у цюркскіх мовах. У працы прасочваецца яўная тэндэнцыя да сістэматызацыі класаў аб'ектаў або функцыянальных катэгорый.

Арыгінальную метадалогію тыпалагічнага аналізу распрацавала А.В. Круглякова. На думку даследчыцы, супастаўленне тыпаў *сінтаксічных сувязей* у рускай і французскай мовах магчыма толькі праз пасрэдніцтва «трэцяга кампанента» – мадэлей (у дадзеным выпадку), які «пазбаўлены пэўнай дэнатацыі» [7, с. 12], а таму выступае пасрэднікам

пры супастаўленні моў з рознай тыпалогіяй. У якасці «трэцяга кампанента» выкарыстоўваюцца мовы-пасрэднікі, абстрактныя схемы і мадэлі, што выступаюць эталонам, зыходнай базай супастаўлення. Названы прынцып шырока выкарыстоўваецца ў сучасных супастаўляльных даследаваннях.

Вывучэнне *функцыянальнай тыпалогіі* моў (А.А. Халадовіч і інш.) заснавана на ўзаемадзеянні фармальна-сінтаксічнага і функцыянальнага аспектаў сказа. Базавымі параметрамі выступаюць тыпы рэматычных дамінант – суб'ектная, аб'ектная і інш. Аналіз найбольш распаўсюджаных у французскай і рускай мове прыватнаінфарматыўных тэкстаў дазволіў выявіць іх тыпалогічныя прыкметы і вылучыць адпаведныя класы аб'ектаў.

Нязначная колькасць прац прысвечана выяўленню тыпалагічных прыкмет моўных з'яў у сінтаксічнай сістэме *адной мовы* (А.У. Цымерлінг)**.** Тыпалогія замкнутых сінтаксічных сістэм унутры адной мовы ставіць перад сабой задачу выявіць тыпалагічныя прыкметы сінтаксічных з'яў і на гэтай падставе сістэматызаваць іх у адпаведныя класы. Асновай для класіфікацыі звычайна служаць асаблівасці структурнай, семантычнай арганізацыі, заканамернасці функцыянавання або некалькі прыкмет адначасова.

Тыпалагічнаму апісанню сінтаксічнай сістэмы рускай мовы прысвечаны працы І.І. Дзягаўца. Асноўнымі параметрамі ў яго даследаваннях выступаюць *структурна-семантычныя адносіны паміж галоўнай і дададзенай часткамі* складаназалежнага сказа. У якасці аб'екта даследавання былі абраны складаныя сінтаксічныя канструкцыі з нетыповай будовай. Дыферэнцыяцыя спецыфічных і базавых прыкмет праводзілася на аснове фактараў структурнай антыноміі: базавыя – спецыфічныя характарыстыкі.

Праблемы сінтаксічнай тыпалогіі закраналіся ў працах некаторых даследчыкаў (E. Thompson і інш.), дзе быў апісаны *логіка-сінтаксічны* прынцып тыпалагічнага аналізу. Абраныя параметральныя характарыстыкі – семантычны тып прэдыката, семантычная структура, логіка-сінтаксічныя адносіны паміж прэдыкатыўнымі кампанентамі – дазволілі пабудаваць семантыка-сінтаксічныя класы канструкцый з прэдыкатыўным ядром $N_1$ – $N_1$. У выніку праведзенага даследавання ўпершыню адносіны паміж прэдыкатыўнымі адзінкамі кваліфікаваліся на аснове логіка-граматычнай метадалогіі – адносіны тоеснасці, эквівалентнасці, часткі і цэлага і інш.

Пэўнай ступенню навізны характарызуецца метадалогія, якую выкарыстоўвае М.М. Каленічэнка ў даследаванні «Семантыка-граматычная тыпалогія безасабовага сказа ў сучаснай чэшскай мове». «Спецыфіка безасабовых сказаў абумоўлена ўзаемадзеяннем семантычных і граматычных паказчыкаў, што дзейнічаюць у межах безасабовай структуры» [5, с. 2]. Параметрам вылучэння тыпалагічных класаў выступае спосаб выражэння галоўнага члена ў чэшскай мове: гэта можа быць дзеяслоў паўназначны, дапаможны, мадальны або аналітычная форма.

Часам тыпалагічныя даследаванні сінтаксічнай сістэмы патрабуюць падключэння лексічных параметраў. Такая метадалогія выкарыстоўваецца пры пабудове тыпалогіі

семантычных адносін паміж лексемамі ў структуры тэкста (Т.Н. Андрэева і інш.). Спалучэнне лексічных і сінтаксічных параметраў дазволіла вынайсці арыгінальныя тыпы семантыка-сінтаксічных адносін – акалічнасныя, атрыбутыўныя і інш.

Сінтаксічныя параметры зрэдку выкарыстоўваюцца і ў тыпалагічных даследаваннях фразеалагічнага ўзроўню мовы (Т.Я. Памыкалава). *Семантыка-сінтаксічныя* адносіны паміж кампанентамі фразеалагічнай адзінкі выступаюць канстантным параметрам, які ў спалучэнні з лексічнымі параметрамі ацэначнасці дазволілі пабудаваць абсалютна новую тыпалогію. Даследчыца выявіла цэлую сістэму лексічных і сінтаксічных сродкаў, што забяспечвае функцыянаванне фразеалагічных адзінак.

***Літаратура***


1. Андреева, Т.Н. Типология семантических отношений между словами в английских прозаических текстах: автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.02.04 / Т.Н. Андреева; Мин. гос. пед. ин-т иностр. яз. – Минск, 1993. – 24 с.

2. Важнік, С.А. Кантрастыўны сінтаксіс польскай і беларускай моў: семантыка і дыстрыбуцыя дзеяслоўнага прэдыката / С.А. Важнік. – Мінск: Права і эканоміка, 2008. – 464 с.

3. Веретельник, Н.В. Структурно-семантические особенности конструкций со значением противопоставления: на материале французского и русского языков / Н.В. Веретельник // Типология языков: теоретические и прикладные аспекты: межвуз. сб. науч. тр. / Яросл. гос. пед. ин-т; [редкол.: Н.В. Веретельник (отв. ред.) и др.]. – Ярославль, 1990. – С. 87–95.

4. Дяговец, И.И. Типология русских придаточных предложений нетипичного построения: синтаксические единицы с отклоняющейся структурой: автореф. дис. … д-ра филол. наук: 10.02.01 / И.И. Дяговец; Моск. гос. ун-т. – М., 2006. – 22 с.

5. Калениченко, М.М. Семантико-граматична типологія безособового речення сучасної чеської мови: на матеріалі художніх прозових творів: автореф. дис. … канд. філол. наук: 10.02.03 / М.М. Калениченко; Нац. акад. наук України, Ін-т україн. мови. – Київ, 2006. – 25 с.

6. Кибрик, А.Е. Константы и переменные языка / А.Е. Кибрик; Моск. гос. ун-т, Филол. фак. – СПб.: Алетейя, 2005. – 719 с.

7. Круглякова, В.А. Семантика глаголов вращения в типологической перспективе: автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.02.19 / В.А. Круглякова; Рос. гос. гуманитар. ун-т. – М., 2010. – 25 с.

8. Мельников, Г.П. Системная типология языков: принципы, методы, модели / Г.П. Мельников; Рос. акад. наук, Ин-т языкознания. – М.: Наука, 2003. – 393 с.

9. Мечковская, Н.Б. Социальная лингвистика / Н.Б. Мечковская. – 2-е изд., испр. – М.: Аспект Пресс, 1996. – 206 с.

10. Помыкалова, Т.Е. Семантико-типологический аспект фразеологического признака в русском языке: автореф. дис. … д-ра филол. наук: 10.02.01 / Т.Е. Помыкалова; Челяб. гос. пед. ун-т. – Волгоград, 2006. – 39 с.

11. Симић, Р. Српска синтакса: у 4 књ. / Р. Симић, Ј. Јовановић; Филол. фак. у Београду [и др.]. – Београд [и др.]: Филол. фак. [и др.], 2002. – 4 књ.

12. Холодович, А.А. Проблемы грамматической теории / А.А. Холодович; Акад. наук СССР, Ин-т языкознания. – Л.: Наука, 1979. – 304 с.

13. Циммерлинг, А.В. Типологический синтаксис скандинавских языков / А.В. Циммерлинг. – М.: Яз. славян. культуры, 2002. – 895 с.

14. Помыкалова, Т.Е. Семантико-типологический аспект фразеологического признака в русском языке: автореф. дис. … д-ра филол. наук: 10.02.01 / Т.Е. Помыкалова; Челяб. гос. пед. ун-т. – Волгоград, 2006. – 39 с.

15. Anstey, M.P. Functional discourse grammar – multifunctional problems and constructional solutions / M.P. Anstey // Linguistics. – 2008. – Vol. 46, Iss. 4. – P. 831 – 859.

16. Daneš, F. Syntaktické struktury / F. Daneš // Kultura a struktura českého jazyka / F. Daneš; Univ. Karlova v Praze. – Praha, 2009. – S. 251 – 352.

17. Saloni, Z. Składnia współczesnego języka polskiego / Z. Saloni, M. Świdziński. – Warszawa: Wydaw. Nauk. PWN, 2001. – 354 s.

18. Pottelberge, J. van. Defining grammatical constructions as a linguistic sign: the case of periphrastic progressives in the Germanic languages / J. van Pottelberge // Folia Linguistica. – 2007. – Vol. 41, Iss. 1/2. – P. 99–134.
19. Thompson, E. Temporal dependency and the syntax of subjects / E. Thompson // J. of Linguistics. – 2001. – Vol. 37, № 2. – P. 287–312.
20. Zhang, N.N. The syntax of English comitative constructions / N.N. Zhang // Folia Linguistica. – 2007. – Vol. 41, Iss. 1/2. – P. 135–169.

***А.М. Чарнышова*** (Гомель, Беларусь)

## МОВА ПОЗІРКУ ЯК КРЫНІЦА ІНФАРМАЦЫІ АБ ПЕРСАНАЖЫ МАСТАЦКАГА ТВОРА

Чалавек як сацыяльны аб'ект не можа не мецъ зносін з другімі людзьмі. Працэс камунікацыі вельмі складаны. Ён уключае не толькі набор пэўных гукаў, якія ў працэсе маўлення фарміруюцца ў сказы, а і комплекс невербальных паводзін, якія суправаджаюць маўленне. У працэсе зносін важна ўлічваць усё: як і што гаворыць субяседнік, якія жэсты ён пры гэтым выкарыстоўвае, які выраз твару суправаджае яго паведамленне, а таксама, як ён стаіць, як паводзіць сябе ў пэўнай сітуацыі. Зусім не разумеючы, што чытаем мову жэстаў, мы можам распазнаць душэўны стан чалавека: страх, пячаль, шчасце, каханне, нянавісць. Па абліччы і паводзінах чалавека мы і бачым праяўленне гэтых пачуццяў без усялякіх слоў. Невербальныя аспекты мовы неабходны пры камунікацыі, таму што з іх дапамогай перадаецца сэнс выказвання, разуменне якога разам з семантыкай слоў забяспечвае зносіны паміж людзьмі.

У артыкуле мы будзем разглядаць моўнае выражэнне невербальнай камунікацыі пры дапамозе вачэй. Мова позірку з'яўляецца дастаткова інфармацыйнай падчас зносін. Па вачах можна зразумець эмацыянальны стан чалавека, позірк дапамагае падтрымліваць пры размове кантакт.

Вучоные адзначаюць, «падчас непасрэдных зносін жэст і міміка з'яўляюцца невыпадковымі. У пісьмовай мове – літаратурна-стылістычны прыём перадачы кінетычных з'яў вербальнымі сродкамі» [1, с. 21]. Аўтарскі тэкст максімальна набліжаны пісьменнікам да сапраўдных жыццёвых рэалій, таму пры апісанні стасункаў паміж героямі мы можам успрымаць вочы як крыніцу інфармацыі аб персанажы мастацкага твора. Калі разглядаць мастацкі твор, то можна заўважыць, як вочы (а менавіта іх памер, рэакцыя, колер і г. д.) могуць дапамагчы чытачу раскрыць сапраўдную інфармацыю аб героях. Частата ўжывання ў мастацкім тэксце моўных адзінак са значэннем візуальнага кантакту сведчыць аб майстэрстве пісьменніка, якое заключаецца ў яскравым і выразным раскрыцці вобразаў герояў, іх пачуццяў, перажыванняў, характараў, ва ўменні дакладна паказаць узаемаадносіны персанажаў падчас камунікатыўных зносін.

Вочы як адбітак эмацыянальнага стану герояў твора могуць выражаць самыя разнастайныя пачуцці: негатыўныя ці пазітыўныя. Позірк можа выражаць пэўны настрой ў той ці іншай сітуацыі ці, наадварот, характарызаваць персанажа як індывідуальнасць, ствараць непаўторны вобраз, які будзе вылучацца потым у літаратуры.

Моўныя адзінкі са значэннем візуальнага кантакту называюць разнастайныя тыпы міжасобасных адносін, якія ўзнікаюць у працэсе камунікацыі, выражаюць пэўную ацэнку,

перадаюць пачуцці, псіхалагічны і эмацыянальны стан асобы. Сярод кінем са значэннем візуальнага кантакту можна выдзеліць моўныя адзінкі, што выражаюць: **а)** пачуццё дабраты і замілаванасці да субяседніка: *«Ды ўжо як, калі такое дзела», – ніякавата паморшчыўся Грыбаед, і вочы яго неяк мякка і па-добраму засвяціліся* [2, с. 65]; **б)** непаразуменне і насцярожанасць у пэўнай сітуацыі: *Валодзька, малы бялявы брат, што спаў на палацях, раптам заварушыўся, расплюшчыў вочы, зірнуў на Васіля і мігам ускочыў. «Вась, а Вась, – і я?!»* [3, с. 65]; *Ляўчук, не збаўляючы кроку і нават не азірнуўшыся, толькі косячы вокам, прашыбаваў яшчэ дзесяць крокаў і выйшаў з іх кола* [2, с. 91]; **в)** спакой і абыякавасць да сітуацыі: *Юрый спыніўся. Вочы яго спакойна сустрэлі позірк вачэй Леановіча* [4, с. 30]; **г)** здзіўленне пры пэўных умовах: *Праз гэты дымок здзіўленыя вочы Горава ўбачылі, як Пора-Леановіч тарганууўся ўперад быццам наткнуўся грудзьмі на нешта нябачнае, і стаў* [4, с. 37]; *«А брат твой па жанчынападобству, Іаан Зеведзееў, апостал Ян, евангеліст Ян» Мудрагелістыя вочы Ладысевы пашырыліся. «Прыемна мне. Але пацерам то мяне вывучылі, а іншаму ні-ні»* [5, с. 115]; **д)** шчырасць і пяшчоту да субяседніка: *Вочы Гарновай загарэліся шчырым агнём* [6, с. 258]; **е)** пільнасць, уважлівасць, зацікаўленасць да субяседніка: *Зоська вялізнымі вачыма моўчкі ўтаропілася ў нябожчыцу* [2, с. 174]; *У вачах Мусатава з'явілася іскра цікаўнасці...* [7, с. 47]; *Зоська, пабялеўшы, ва ўсе свае вялікія вочы глядзела на Антона* [2, с. 190]; **ж)** кпіць, здзекавацца з субяседніка: *Васіль знерок адвярнуўся, каб не глядзець у яе бок, але міма яго ўсё ж не прайшло ні тое, што яна рабіла, ні тое, як яна зірнула на яго. Зірнула з усмешачкай, і Васілю здалося, што з яе язычка зноў сарвецца штосьці кплівае, крыўднае* [3, с. 15–16].

У некаторых выпадках пісьменнікі не імкнуцца да таго, каб чытач дадумваў, што хацеў паказаць аўтар пры дапамозе таго ці іншага позірку, ён дастаткова аднастайна выкарыстоўвае такія кінемы: *У вачах гарэлі, пераліваліся аганькі гневу* [6, с. 276]; *Срэбнікаў здзіўлена лыпнуў сваімі вачыма, падатна размяў пальцы на ручцы* [2, с. 83]; *Васіль кінуў на яе насцярожаны позірк* [3, с. 27]; *Калі датыркнецца яе гаворка, раптам насупіцца, змоўкне … у вачах смутак засвеціцца – ціхі, пакорны* [6, с. 64].

У такіх прыкладах адлюстравана прастата невербальных дзеянняў і ў той жа час створаны складаныя эмацыянальныя стасункі паміж героямі. Аўтары паказваюць, што пры дапамозе такіх кінемах можна намаляваць вельмі шырокую камунікатыўную карціну і дапамагчы чытачу больш поўна раскрыць для сябе таго ці іншага героя, зразумець, што ён адчувае і чым жыве ў пэўнай сітуацыі.

Часам пісьменнік для таго, каб падаць як мага больш інфармацыі аб персанажы выкарыстоўвае разам з кінемамі, якія адлюстроўваюць візуальны кантакт, і адзінкі, што выражаюць міміка-жэставыя і прасторавыя адносіны. Пры дапамозе гэтага яднання аўтары яшчэ больш хочуць паказаць на адносіны паміж персанажамі, дакладней выразіць пачуцці і эмоцыі гаворачага да субяседніка: *Хрыстовы вочы п'яна і страшна заблішчалі. Ён грукнуў кулаком: «Застаемся. І гор-ра ўсім... Звяжам! Скруцім!»* [5, с. 158]; Стаяў ён панура, нерухома, у дол апусціўшы сярдзіта прыжмураныя вочы. Твар

быццам драўляны, быццам мёртвы. На ім застыла, закамянела хваравітая напружанасць [6, с. 165]; *Абдымаючы яе на развітанне, Васіль з рашучасцю, блізкай да адчаю, думае: ці цяпер, ці ніколі! Ён заплюшчвае вочы і прыкладае губы да Ганнінага твару, пацалунак трапляе ў скронь. Учыніўшы гэта злачынства, ён апускае галаву і чакае прысуду* [3, с. 39]; Але замест гэтага бярэ яе рукі, сціскае, гладзіць пяшчотна, абнімае нясмела любы, падатны стан [6, с. 278].

Такім чынам, многія пісьменнікі праз такую звычайную на першы погляд з'яву, як позірк, раскрываюць рысы характара, адметнасці псіхічнага стану кожнага героя, а таксама іх узаемаадносіны адзін з адным. Часта выкарыстанне ў мастацкім творы кінем са значэннем візуальнага кантакту выступае адной з галоўных крыніц інфармацыі аб героі. Позірк садзейнічае раскрыццю як знешніх, так і ўнутраных праяў персанажаў, сітуацыі, у якой яны апынуліся.

***Літаратура***


1. Колшанский, Г.В. Паралингвистика / Г.В. Колшанский. – М.: Наука, 1974. – 96 с.
2. Быкаў, В. Збор твораў: у 4 т. / В. Быкаў. – Мінск, 1982. – Т. 3. – 432 с.
3. Мележ, І. Людзі на балоце / І. Мележ. – Мінск: Народная асвета, 1968. – 512 с.
4. Караткевіч, У. Нельга забыць: раман / У. Караткевіч. – Мінск: Маст. літ., 1982. – 335 с.
5. Караткевіч, У. Выбраныя творы: у 2 т. / У. Караткевіч. – Мінск: Маст. літ., 1980. – Т. 2. Хрыстос прызямліўся ў Гародні (Евангелле ад Іуды): раман. – 400 с.
6. Зарэцкі, М. Кветка пажоўклая: апавяданні, аповесць / М. Зарэцкі. – Мінск: Маст. літ., 1998. – 431 с.
7. Караткевіч, У. Каласы пад сярпом тваім: раман / У. Караткевіч. – Мінск: Юнацтва, 1981. – Кн. 1. – 381 с.


***Т.Л. Чахоўская*** (Мінск, Беларусь)

## УРОК ЯК АСНОЎНАЯ АРГАНІЗАЦЫЙНАЯ ФОРМА НАВУЧАННЯ БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ ЯК ЗАМЕЖНАЙ

Арганізацыйныя формы навучання – гэта варыянты педагагічных зносін паміж выкладчыкам і навучэнцамі ў працэсе аўдыторных заняткаў. Такія формы з'яўляюцца кампанентам сістэмы навучання і рэалізуюцца ў залежнасці ад мэты навучання ва ўзаемадзеянні з абранымі для яе дасягнення метадамі і сродкамі навучання.

На занятках па беларускай мове як замежнай маюць месца непасрэдныя і апасродкаваныя арганізацыйныя формы навучання, якія адлюстроўваюць характар камунікацыйных адносін паміж яе ўдзельнікамі. *Групавая форма навучання* рэалізуецца ў рамках класна-ўрочнай сістэмы заняткаў, калі прэзентацыя, замацаванне і актывізацыя навучальнай інфармацыі адбываюцца ў працэсе працы выкладчыка з усімі ўдзельнікамі навучання. *Індывідуальная форма навучання* рэалізуецца пры працы з кожным навучэнцам па індывідуальным плане, калі ён атрымлівае ад выкладчыка спецыяльныя заданні, а навучанне адбываецца ў форме «выкладчык – навучэнец». Такая форма навучання можа функцыянаваць і ў межах групавога навучання, аднак яе рэалізацыя звязана з цяжкасцямі з-за вялікай колькасці навучэнцаў у групе.

*Апасродкаванае навучанне* адбываецца без асабістага кантакту выкладчыка і навучэнца, пераважна праз пісьмовае маўленне або сродкі, якія яго замяняюць. Арганізацыйныя формы навучання рэгламентуюць суадносіны паміж індывідуальным і

калектыўным у навучанні, ступень актыўнасці навучэнцаў у навучальна-пазнавальнай дзейнасці і характар кіраўніцтва ёю з боку выкладчыка.

*Урок* з’яўляецца асноўнай арганізацыйнай адзінкай навучальнага працэсу па практыцы беларускага маўлення. Для ўрока характэрна перавага калектыўных форм навучання ў спалучэнні з рознымі індывідуальнымі формамі, накіраванымі на дасягненне пастаўленай мэты навучання.

Урок як арганізацыйная адзінка навучання мае стабільныя і варыяцыйныя кампаненты. Да *стабільных* кампанентаў урока належаць: яго пачатак, цэнтральная частка і завяршэнне ўрока. У межах названых кампанентаў урока вылучаюцца *варыяцыйныя*, якія залежаць ад мэты заняткаў і этапа навучання (тлумачэнне новага матэрыялу, выкарыстанне сродкаў нагляднасці, абмеркаванне матэрыялу і інш.).

Тлумачэнне новага матэрыялу можа мець *індукцыйны характар* (ад назірання над фактамі мовы выкладчык падводзіць навучэнцаў да высновы ў выглядзе правіла, моўнай заканамернасці) і *дэдукцыйны характар* (спачатку даецца правіла, якое затым падмацоўваецца прыкладамі, што ілюструюць выкарыстанне вывучанай моўнай з’явы ў рэальным маўленні). Тлумачэнне можа быць *практычным* (напрыклад, пры азнаямленні са значэннямі дзеясловаў руху ці дзеяслоўных прыставак, калі шырока выкарыстоўваюцца сродкі нагляднасці) і *тэарэтыка-практычным*. На азнаямленне з новым матэрыялам рэкамендуецца адводзіць 10–12 хвілін.

Знаёмства з ключавымі граматычнымі формамі і катэгорыямі павінна станоўча паўплываць на маўленчую практыку, паколькі граматычныя з’явы характарызуюцца багаццем і разнастайнасцю форм, лексіка-семантычных і стылістычных магчымасцей. Разуменне камунікацыйных перспектыў тэарэтычнага матэрыялу актывізуе цікавасць, развівае ўвагу да выкарыстання моўных сродкаў у маўленчай практыцы, спрыяе мэтанакіраванаму выбару сродкаў мовы ў разнастайных сітуацыях узаемаадносін, што ў канчатковым выніку рыхтуе замежных навучэнцаў да сацыяльнай адаптацыі ў грамадстве.

Свядомасць і мысленне чалавека звязаны з культурай яго роднай краіны, з карцінай свету, створанай яго народам. У працэсе вывучэння няроднай мовы (асабліва на пачатковым этапе) непазбежны працэс спасціжэння аб’ектыўнай рэчаіснасці праз прызму нацыянальнага. З гэтага вынікае, што для поўнага авалодання беларускай мовай як замежнай неабходна авалодаць культурай яе носьбітаў, зразумець яе ўнутраную спецыфіку. Такі кірунак выкладання беларускай мовы як замежнай дазволіць арганізаваць вучэбны працэс такім чынам, што фарміраванне камунікацыйнай кампетэнцыі і засваенне вучэбнага лексіка-граматычнага матэрыялу будуць адбывацца сінхронна, паралельна з сістэмным азнаямленнем замежных навучэнцаў з беларускай гісторыяй, культурай, сучаснымі рэаліямі.

У сучаснай лінгвадыдактыцы зафіксаваны два падыходы да класіфікацыі тыпаў урокаў па замежнай мове.

Пры *першым падыходзе* ў якасці галоўнага паказчыка для класіфікацыі ўрокаў разглядаецца скіраванасць заняткаў па мове або на фарміраванне маўленчых навыкаў, або на развіццё маўленчых уменняў. У сувязі з гэтым вылучаюцца тры тыпы ўрокаў: 1) урокі фарміравання маўленчых навыкаў; 2) урокі ўдасканалення маўленчых навыкаў; 3) урокі развіцця маўленчых уменняў.

У межах кожнага тыпу ўрокаў вылучаюцца розныя віды ўрокаў у залежнасці ад: 1) характару сфарміраваных навыкаў (фанетычных, лексічных, граматычных); 2) формы маўлення (маналагічнае маўленне / дыялагічнае маўленне); 3) характару ўрока (урок-тлумачэнне новага матэрыялу, урок-дыскусія, кінаўрок і інш.).

Такая тыпалогія ўрокаў будуецца на канцэпцыі паэтапнага фарміравання відаў маўленчай дзейнасці як спосабаў авалодання мовай. Прыведзеныя тыпы ўрокаў адначасова з'яўляюцца і этапамі авалодання мовай – ад фарміравання навыкаў да авалодання маўленчымі ўменнямі. Заўважым, аднак, што ў прыведзенай тыпалогіі ўрокаў адсутнічаюць урокі, накіраваныя на авалоданне ведамі, якія з'яўляюцца асновай для навыкаў, а затым і для ўменняў.

*Другі падыход* грунтуецца на відах маўленчай дзейнасці. Наяўнасць пазнавальна-камунікацыйнай і ўласна-камунікацыйнай відаў дзейнасці дае падставы вылучаць: 1) урокі, накіраваныя на авалоданне сродкамі і тэхналогіяй зносін ці маўленнем як спосабам фарміравання і фармулявання думак; 2) урокі развіцця камунікацыйнай дзейнасці ў розных відах і формах яе выражэння.

Абагульняючы вопыт выкладання беларускай мовы як замежнай, можна, на наш погляд, звярнуць увагу на тры тыпы ўрокаў.

*1 тып. Урокі, накіраваныя на авалоданне сродкамі мовы.*

1.Урокі па авалоданні элементамі сістэмы мовы на фанетычным, лексічным, граматычным узроўнях. Вынікам заняткаў з'яўляецца набыццё ведаў пра сістэму беларускай мовы.

2.Урокі па авалоданні спосабамі выкарыстання набытых ведаў на ўзроўні маўлення (фарміраванне адпаведных навыкаў).

*2 тып. Урокі, накіраваныя на авалоданне дзейнасцю зносін.*

Мэта такіх урокаў – развіццё маўленчых уменняў у розных відах дзейнасці на аснове набытых ведаў і сфарміраваных навыкаў. У межах гэтага тыпу вылучаюцца наступныя віды ўрокаў.

*1 тып. Урокі па авалоданні рэцэптыўнымі відамі маўленчай дзейнасці:* 1) урокі аўдзіравання; 2) урокі пісьма і пісьмовага маўлення; 3) урокі вуснага і пісьмовага перакладу з беларускай на родную мову.

*2 тып. Урокі па авалоданні прадуктыўнымі відамі маўленчай дзейнасці:* 1) урокі маўлення; 2) урокі чытання; 3) урокі вуснага і пісьмовага перакладу з роднай мовы на беларускую.

*3 тып. Камбінаваныя ўрокі.*

Такія ўрокі накіраваны на ўзаемазвязанае авалоданне ведамі, навыкамі і ўменнямі ў межах аднаго ўрока. Ва ўмовах філалагічнай вышэйшай навучальнай установы, дзе прадугледжана спецыялізацыя ў галіне замежнай мовы, падзел на аспектныя і камбінаваныя ўрокі вытрымліваецца найбольш паслядоўна. Пры гэтым заняткі па авалоданні рознымі ўзроўнямі сістэмы мовы рэалізуюцца не толькі ў вылучэнні асобных аспектаў (урокі фанетыкі, лексікі, граматыкі), але і асобных дысцыплін (стылістыка, лінгвістычны аналіз тэксту, пераклад). У той жа час аспектнае навучанне пры практычнай скіраванасці заняткаў заўсёды мае комплексны характар, паколькі канчатковай мэтай навучання з'яўляецца фарміраванне і развіццё маўленчых уменняў у розных відах дзейнасці.

***Г.К. Чахоўскі*** (Мінск, Беларусь)

## СЕМІЁТЫКА СУЧАСНАГА ПАЛІТЫЧНАГА ДЫСКУРСУ

Сучасная лінгвістыка пры аналізе феномену палітычнага дыскурсу недастаткова поўна выкарыстоўвае напрацоўкі класічнай і сучаснай семіётыкі, якія даволі паспяхова маюць прымяненне ў іншых гуманітарных навуках. Разам з тым, такая метадалогія дазваляе не толькі глыбока, хоць і некалькі нетрадыцыйна, сінтэзаваць навуковыя здабыткі агульнапрызнаных тэорый камунікацыі.

Зробленыя М. Вебэрам высновы пра першаснасць феномену палітычнай улады ў адносінах да дзяржаўна-прававых інстытутаў і неправамернасці яе атаясамлення з механізмам дзяржаўнага кіравання, заклалі аснову для далейшага вывучэння гэтай з'явы ў еўрапейскай і амерыканскай лінгвістычнай навуцы. Да сярэдзіны XX ст. спецыялісты, якія займаліся названай праблемай, падзяліліся на два асноўныя кірункі – аб'ектывісцкі і суб'ектывісцкі. *Інстытуцыйная школа* (Р. Бенедыкс, Р. Дарэндорф, Д. Ландберг, С. Ліпсэт і інш.) разглядае ўладу як сукупнасць аб'ектыўных інстытутаў і норм, якія створаны сацыяльнымі адносінамі і функцыянуюць адносна незалежна ад суб'ектыўнай волі і паводзін асобных людзей. *Біхейвіярысцкі кірунак* (Р. Барт, Э. Канэці, М. Фуко і інш.) цікавяць перадусім паводзіны індывідаў і груп па ажыццяўленні ўладных функцый, іх матывацыя і формы, абумоўленасць паводзін грамадства ўздзеяннем улады.

Кожная з пералічаных тэорый грунтуецца на рацыянальных пачатках, якія выяўляюць розныя сутнасныя ўласцівасці палітычнай улады. *Семіятычная метадалогія* інтэгруе абедзве канцэпцыі і прэзентуе ўладу як суб'ектыўнае адлюстраванне аб'ектыўнай рэальнасці, выяўленае ў пэўных знаках (сэнсах, сімвалах) і адпаведных ім дзеяннях суб'ектаў палітыкі.

Такі падыход паспяхова выкарыстоўваецца сёння ў тэорыі культуры пры аналізе праблем камунікацыйнага характару літаратуры і сродкаў масавай інфармацыі, а таксама нацыянальнай спецыфікі іх успрымання. Яго навуковыя традыцыі былі закладзены яшчэ прадстаўнікамі герменеўтычнай школы літаратуразнаўства Г. Гадамерам, В. Ізэрам, Х. Явусам, С. Фішам, сацыёлагамі культуры Л. Вейсам,

Х. Блюмерам, школай рэцэпцыйнай эстэтыкі і інш. Аб’ектам іх даследавання паўстала праблема ўспрымання зместу тэксту паведамлення і яго інтэрпрэтацыі, а таксама наступнага ўздзеяння рэцыпіента на сам тэкст і яго аўтара. У адрозненне ад класічнага структуралізму асноўная ўвага тут надаецца не ўласна тэксту паведамлення, а менавіта характару яго ўспрымання аўдыторыяй. Аднак для аналізу палітычнага дыскурсу такія напрацоўкі амаль не ўжываліся.

Найбольш блізка да вывучэння палітычнай улады праз прызму маўлення камунікантаў падышлі постструктуралісты (М. Фуко) і прадстаўнікі сацыялогіі ведаў (В. Дыльтэй, П. Бергер, Н. Луман і інш.). Але яны аналізавалі ролю мовы ў больш шырокім плане, у якасці прылады сацыяльнай, а не палітычнай арганізацыі грамадства.

На наш погляд, семіятычная метадалогія дазваляе прадставіць палітычную ўладу як камунікацыйны працэс, пры якім дзяржава і яго інстытуты ажыццяўляюць сталае рэгуляцыйнае ўздзеянне з дапамогай пэўных знакаў і сімвалаў, здольных выклікаць адпаведную зваротную рэакцыю адрасата – электарата, яго асобных груп і грамадзян. Гэта суб’ектна-аб’ектнае ўзаемадзеянне, якое здзяйсняецца пры дапамозе адпаведных знакавых сістэм, сукупнасцей знакаў і сэнсаў. Улада і падуладныя павінны ў роўнай меры разумець адзін аднаго, размаўляць на адной і той жа мове, знакі і сімвалы якой раўназначныя для ўсіх какмунікантаў.

Мова палітычнага паведамлення – у яе семіятычным, а не лінгвістычным сэнсе – выступае як спецыфічны код, які змяшчае вызначаныя сэнсы, што даволі адэкватна і адназначна ўспрымаюцца як суб’ектамі палітычнай улады, так і ўсімі аб’ектамі яе ўздзеяння. Таму сэнс, які ўкладаецца ў тэкст любых залежных ад суб’екта ўлады законаў, указаў, распараджэнняў, лозунгаў, ідэалагем, павінен адэкватна і выразна ўспрымацца грамадствам.

Узаемадзеянне суб’екта і аб’екта палітыкі заўсёды прадугледжвае існаванне тэзаўруса, які ўключае групу паняццяў і канцэптаў, аднолькава зразумелых усім удзельнікам палітычных зносін. Аб’ём і склад такога тэзаўруса залежаць ад мноства фактараў глабальнага і нацыянальнага ўзроўню – ступені дэмакратычнасці палітычнай сістэмы, узроўню палітычнай культуры грамадства, інтэнсіўнасці палітычных працэсаў, шчыльнасці ўзаемасувязі з міжнароднай супольнасцю і г. д.

Адпаведнае разуменне тых ці іншых знакаў першапачаткова ўзнікае на асобасным узроўні, але знак толькі пасля актыўнай і мэтанакіраванай дзейнасці індывідаў і іх груп пачынае ўспрымацца як агульнапрыняты ўжо і на сацыяльным узроўні. Напрыклад, нарматыўна-прававы акт, які з’яўляецца дзяржаўным волевыяўленнем, першапачаткова ўзнікае як канструкт суб’екта палітыкі – пэўных індывіда або групы, якія належаць да ўлады або знаходзяцца ў апазіцыі да яе, і толькі падчас праватворчасці адбываецца інстытуцыяналізацыя яго дзяржавай. Лозунг, ідэя, думка, якія належаць асобным суб’ектам палітыкі, паступова ператвараюцца ў агульнапрызнаны і агульнапрыняты знак. Зрабіўшыся сацыяльным канструктам, знак падтрымліваецца дзяржавай і даводзіцца да грамадства ўжо як дзяржаўная воля. Пасля, у залежнасці ад мноства

2) агульны знешні выгляд: *<u>‘голы’</u>:* **як бізун** (Пташ.: Алімпіяда, 405); *<u>‘худы’</u>*: **як хрушч** (В.А.: ДРВ, 98), **як плотка** (В.А.: ПНБ, 400), **як чапля** (В.А.: ГК, 171), **як трэска** (В.А.: ІС, 242); *<u>‘сухі’</u>*: **як жэрдка** (Пташ.: Алімпіяда, 213); *<u>‘тонкі’</u>*: **як дубчык** (Пташ.: Алімпіяда, 71), **як саломінка** (Пташ.: Сцяпан, 453), **як пчала** (В.А.: ЧБ, 148), **як чараціна** (В.А.: КД, 34), **як снітка** (В.А.: ГК, 231), **як тычынка** (В.А.: ІС, 132), **як былінка** (В.А.: ГН, 73), **як жэрдачка** (В.А.: ГН, 60); *<u>‘дробны’</u>*: **як малады певень** (В.А.: ГК, 30); *<u>‘тоўсты’</u>*: **як мех** (Пташ.: Алімпіяда, 29), **як лантух** (Пташ.: Тартак, 40), **як мянёк** (В.А.: ЧБ, 274)4 *<u>‘сыты’</u>*: **як ялавіца** (В.А.: ЧБ, 10); *<u>‘круглы’</u>*: **як бонда** (В.А.: ЧБ, 39); *<u>‘высокі’</u>*: **як жэрдка** (В.А.: ІС, 34), **як быліна** (В.А.: ГН, 87), **як вераценца** (В.А.: КД, 41); *<u>‘доўгі’</u>*: **як жэрдка** (Пташ.: Алімпіяда, 214); *<u>‘роўны</u>* (у зн.: *высокі, стройны)’*: **што сасна ў бары** (Пташ.: Лонва, 79); *<u>‘маленькі’</u>*: **як мыш** (В.А.: КД, 49); *<u>‘шырокі</u>* (у зн.: *тоўсты)’*: **як капа** (Пташ.: Алімпіяда, 307);

3) агульны фізічны стан: *<u>‘рухавы’</u>, ‘з быстрымі, жывымі вачыма’*: **як кузурка** (В.А.: ГН, 118), **як вадзяныя казюркі** (В.А.: ЧБ, 240), **як жучкі** (В.А.: ІС, 150); *<u>‘вёрткі’</u>*: **як уюн** (Пташ.: Алімпіяда, 451); *<u>‘лоўкі’</u>*: **што цвічок** (В.К.: Выратуй, 15); *<u>‘вялы’</u>, ‘сонны’*: **як селядзец** (В.А.: ІС, 14), **як стары масляк** (В.А.: ЧБ, 316), **як мухі пад восень** (В.А.: ІС, 78); *<u>‘нерухомы’</u>*: **як помнік** (В.К.: Час, 19); *<u>‘здаровы’</u>*: **як конь** (У.К.: ЧЗА, 93);

4) псіхічныя асаблівасці: *<u>‘хітры’</u>*: **як лісіца** (В.А.: ІС, 258), **як выжла** (В.А.: ГК, 39); *<u>‘пануры’</u>*: **як сыч** (В.А.: ГН, 389), **як крумкач на палявым камені** (В.А.: ГН, 161), **падобны да крумкача** (В.А.: КД, 45); *<u>‘куслівы’</u>*: **як падкалодная змяя** (В.А.: ІС, 258), **як пад восень муха** (В.А.: ГК, 179); *<u>‘памаўзлівы, брыдотны’</u>*: **як кот** (В.А.: ГК, 205); *<u>‘рахманы, лянівы’</u>*: **як вол** (В.А.: ІС, 312); *<u>‘злосны’</u>*: **нібы сабака** (Пташ.: Алімпіяда, 256); *<u>‘паслухмяны’</u>*: **што цялё** (В.К.: Неруш, 225); *<u>‘слізкі’</u>*: **як смоўж** (В.А.: ІС, 49); *<u>‘ліпкі’</u>*: **як смала** (В.А.: ГН, 253); *<u>‘гідка-слізкі’</u>*: **як бадзяга** (В.А.: ІС, 275).

Вышэйпералічаныя параўнанні адлюстроўваюць спецыфіку мастацкага мыслення не толькі пэўнага аўтара, але і народа ў цэлым. Наяўнасць такіх параўнанняў з'яўляецца адной з умоў фарміравання нацыянальнай карціны свету беларусаў.

**Умоўныя абазначэнні**

**В.А.: ГК** – Вячаслаў Адамчык. Голас крыві брата твайго // Адамчык В. Голас крыві брата твайго: Раман; апавяданне. – Мінск: Маст. літ., 1991. – 287 с.; **В.А.: ГН** – Вячаслаў Адамчык. Год нулявы // Адамчык В. Выбраныя творы: у 2 т. – Мінск: Маст. літ., 1983. Т. 2. Год нулявы: Раман; апавяданні. – 431 с.; **В.А.: ДГ** – Вячаслаў Адамчык. Дзікі голуб // Адамчык В. Раяль з адламаным вечкам: Апавяданні. – Мінск: Юнацтва, 1990. – 247 с.; **В.А.: ДЗ** – Вячаслаў Адамчык. Два злоты // Тамсама.; **В.А.: ДРВ** – Вячаслаў Адамчык. Дзень ранняе восені // Тамсама.; **В.А.: ТНХ** – Вячаслаў Адамчык. Там, на хутары // Тамсама.; **В.А.: КН** – Вячаслаў Адамчык. Кароль Нябожа // Тамсама.; **В.А.: МШ** – Вячаслаў Адамчык. Млечны шлях // Тамсама.; **В.А.: ІС** – Вячаслаў Адамчык. І скажа той, хто народзіцца // Адамчык В. І скажа той, хто народзіцца: Раман. – Мінск: Маст. літ., 1987. – 319 с.; **В.А.: КД** – Вячаслаў Адамчык. Кілавы д'ябал // Адамчык В. Кілавы д'ябал // Полымя. – 1995. – № 8; **В.А.: ПНБ** – Вячаслаў Адамчык. Падарожжа на Буцафале // Адамчык В. Выбраныя творы: у 3 т. – Мінск: Маст. літ., 1995. Т. 1. Чужая бацькаўшчына: Раман; Падарожжа на Буцафале: Аповесць; Апавяданні. – 479 с.; **В.А.: ЧБ** – Вячаслаў Адамчык. Чужая бацькаўшчына // Адамчык В. Выбраныя творы: у 3 т. – Мінск: Маст. літ., 1995. Т. 1. Чужая бацькаўшчына: Раман; Падарожжа на Буцафале: Аповесць; Апавяданні. – 479 с.; **В.К.: Выратуй** – Віктар Казько. Выратуй і памілуй нас, чорны бусел // Казько В. Выратуй і памілуй нас, чорны бусел: Аповесці, апавяданні, эсэ. – Мінск: Маст. літ., 1993. – 319 с.; **В.К.: Неруш** – Віктар Казько. Неруш // Казько В. Неруш: Раман. – Мінск: Маст. літ., 1983.; **В.К.: Час** – Віктар Казько. Час збіраць косці: Евангелле пад Луку //

Казько В. Час збіраць косці: Евангелле пад Луку // Дзеяслоў. – 2005. – № 1 (14).; **Пташ.: Алімпіяда** – Іван Пташнікаў. Алімпіяда // Пташнікаў І. Збор твораў: у 4 т. – Мінск: Маст. літ., 1992. Т. 4. Раман. – 575 с.; **Пташ.: Лонва** – Іван Пташнікаў. Лонва // Пташнікаў І. Збор твораў: у 4 т. – Мінск: Маст. літ., 1992. Т. 3. Аповесць; Раман. – 512 с.; **Пташ.: Львы** – Іван Пташнікаў. Львы // Пташнікаў І. Збор твораў: у 4 т. – Мінск: Маст. літ., 1990. Т. 1. Раман; Апавяданні. – 478 с.; **Пташ.: Мсціжы** – Іван Пташнікаў. Мсціжы // Пташнікаў І. Збор твораў: у 4 т. – Мінск: Маст. літ., 1992. Т. 3. Аповесць; Раман. – 512 с.; **Пташ.: Найдорф** – Іван Пташнікаў. Найдорф // Пташнікаў І. Збор твораў: у 4 т. – Мінск: Маст. літ., 1990. Т. 2. Аповесці; апавяданне. – 480 с.; **Пташ.: Сцяпан** – Іван Пташнікаў. Сцяпан Жыхар са Сцешыц // Тамсама.; **Пташ.: Тартак** – Іван Пташнікаў. Тартак // Тамсама.; **У.К.: К-сы 1 / К-сы 2** – Уладзімір Караткевіч. Каласы пад сярпом тваім // Караткевіч У. Каласы пад сярпом тваім. Кн. 1. – Мінск: Маст. літ., 1968; Кн. 2. – Мінск: Маст. літ., 1981.; **У.К.: ЦК** – Уладзімір Караткевіч. Цыганскі кароль // Караткевіч У. З вякоў мінулых. – Мінск: Маст. літ., 1978.; **У.К.: ЧЗА** – Уладзімір Караткевіч. Чорны замак Альшанскі // Караткевіч У. Чорны замак Альшанскі. – Мінск: Маст. літ., 1983.

***Літаратура***

1. Маслова, В.А. Лингвокультурология / В.А. Маслова. – 3-е изд., испр. – М.: Академия, 2007. – 208 с.
2. Бартминьский, Е. Языковой образ мира: очерки по этнолингвистике: [перевод с польского] / Е. Бартминьский. – М.: Индрик, 2005. – 528 с.
3. Потебня, А.А. Эстетика и поэтика / А.А. Потебня. – М.: Искусство, 1976. – 220 с.

***В.К. Шчэрбін*** (Мінск, Беларусь)

## АБ СПОСАБАХ КЛАСІФІКАЦЫІ ТЛУМАЧАЛЬНЫХ СЛОЎНІКАЎ УСХОДНЕСЛАВЯНСКІХ МОЎ

Паспяховае вырашэнне пытання аб класіфікацыі тлумачальных слоўнікаў усходнеславянскіх моў мае не толькі тэарэтычнае, але і практычнае значэнне, паколькі ў залежнасці ад таго, што ўключаецца ў межы ўсходнеславянскай тлумачальнай лексікаграфіі, залежыць агульная колькасць слоўнікавых прац, прапануемых чытачам у якасці тлумачальных. Так, калі гэтыя межы разумеюцца вельмі шырока, то яны ўключаюць усе даведачныя выданні, як філалагічнага, так і спецыяльнага характару, у якіх змест рэестравых адзінак раскрываецца пры дапамозе дэфініцый, удала падабраных сінонімаў, шматлікіх тыповых выразаў і «апраўдальных» цытат з твораў мастацкай, навуковай, навукова-папулярнай і публіцыстычнай літаратуры і перыёдыкі. Пры такім шырокім разуменні ўсходнеславянская тлумачальная лексікаграфія ахоплівае некалькі соцень слоўнікаў, а яе структура складаецца з наступных груп даведачных выданняў:

1) **слоўнікі-даведнікі тлумачальнага тыпу**, у якіх азначаецца нелітаратурная лексіка. У прыватнасці, да ліку такіх слоўнікаў-даведнікаў адносяцца *тлумачальныя слоўнікі адметнай лексікі мовы пісьменнікаў* (напрыклад, «Тлумачальны слоўнік адметнай лексікі ў творах Якуба Коласа», складзены Г.У. Арашонкавай і Н.А. Чабатар, апублікаваны ў 2003 г.); *дыялектныя тлумачальныя слоўнікі* (напрыклад, пяцітомны «Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе паграніччa», апублікаваны ў 1979–1986 гг.); *тэрміналагічныя тлумачальныя слоўнікі* (напрыклад, «Тлумачний термінологічний словник з органічноі та фізико-органічноі хіміі (Українсько-російсько-англійський)», які быў надрукаваны ў 1997 г.); *тлумачальныя слоўнікі сацыялектаў* (напрыклад, «Толковый словарь лагерно-воровского языка» (с. 214–251), які з'яўляецца

слоўнікавым дадаткам да кнігі С. Снегава «Язык, который ненавидит», апублікаванай у 1991 г.) і інш.;

2) **нарматыўныя тлумачальныя слоўнікі**, у якіх даюцца азначэнні толькі словам літаратурнай мовы. Да ліку такіх нарматыўных слоўнікаў адносяцца *акадэмічныя тлумачальныя слоўнікі* (напрыклад, шматтомны «Большой академический словарь русского языка», які апублікаваны пакуль што толькі напалову: першыя трынаццаць тамоў гэтага слоўніка выйшлі з друку ў 2004–2011 гг.); *школьныя тлумачальныя слоўнікі* (напрыклад, аднатомны «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы: Для сярэдняй школы» А.Я. Баханькова, І.М. Гайдукевіча і П.П. Шубы, пяць выданняў якога пабачылі свет адпаведна ў 1966-м, 1972-м, 1979-м, 1990-м і 1996-м гг.); *тлумачальныя слоўнікі агульнанавуковай лексікі* (напрыклад, тэрміналагічны даведнік тлумачальнага тыпу «Язык науки» А. Азімава, выдадзены на рускай мове ў 1985 г.) і інш.;

3) **тлумачальныя слоўнікі агульнага тыпу**, у якіх тлумачыцца як літаратурная, так і нелітаратурная лексіка. Да ліку такіх агульных слоўнікаў звычайна адносяцца *максімальна поўныя слоўнікі жывой мовы* (тыповым прыкладам слоўнікавай працы гэтага тыпу з'яўляецца чатырохтомны «Толковый словарь живого великорусского языка», складзены і ўпершыню выдадзены У.І. Далем у 1863–1866 гг.); *поўныя тлумачальныя слоўнікі мовы пісьменнікаў* (у якасці прыкладу слоўнікавай працы гэтага тыпу можна назваць васьмітомны «Слоўнік мовы Янкі Купалы» пад рэдакцыяй У.В. Анічэнкі, першыя шэсць тамоў якога былі апублікаваны ў 1997–2003 гг.) і інш.

Калі ж разглядаць усходнеславянскую тлумачальную лексікаграфію ў больш вузкім сэнсе, то яна аб'ядноўвае комплексныя ці ўніверсальныя філалагічныя слоўнікі, якія семантызуюць агульнаўжывальную лексіку літаратурнай мовы шляхам выкарыстання некалькіх дзясяткаў лексікаграфічных макра- і мікрапараметраў пры дамінавальнай ролі дэфініцыйнага макрапараметра. Такія комплексныя філалагічныя слоўнікі тлумачальнага тыпу звычайна супрацьпастаўляюцца вузкааспектным філалагічным слоўнікам, да ліку якіх адносяцца гістарычныя, перакладныя, анамастычныя, этымалагічныя, ідэаграфічныя, арталагічныя, семанімічныя, словаўтваральныя, граматычныя, частотныя слоўнікі, слоўнікі неалагізмаў, эпітэтаў, метафар, жарганізмаў, дыялектызмаў, іншамоўных слоў і інш. І хаця разглядаемая больш вузка ўсходнеславянская тлумачальная лексікаграфія яднае ў сваім складзе крыху больш за сотню слоўнікавых прац, яе структура з'яўляецца больш разгалінаванай у параўнанні з прыведзенай вышэй класіфікацыяй тлумачальных слоўнікаў усходнеславянскіх моў.

У прыватнасці, указаную структуру складаюць наступныя групы даведачных выданняў:

1) **уласна тлумачальныя слоўнікі**, да ліку якіх адносяцца як шматтомныя, акадэмічныя слоўнікі (напрыклад, адзінаццацітомны «Словник української мови», апублікаваны ў 1970–1980 гг.; пяцітомны, у шасці кнігах «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы», што выйшаў з друку ў 1977–1984 гг.), так і больш папулярныя, аднатомныя слоўнікі (напрыклад, «Словарь русского языка», складзены і ўпершыню

выдадзены С.І. Ожагавым у 1949 г.; «Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы» пад рэдакцыяй М.Р. Судніка, М.Н. Крыўко, чатыры выданні якога пабачылі свет адпаведна ў 1996-м, 1999-м, 2002-м і 2005-м гг., і інш.);

2) **тлумачальна-камбінаторныя слоўнікі,** да ліку якіх адносіцца, напрыклад, «Толково-комбинаторный словарь русского языка (Опыты семантико-синтаксического описания русской лексики)» І.А. Мельчука і А.К. Жалкоўскага, упершыню выдадзены ў 1984 г.;

3) **сістэмныя слоўнікі**, найбольш удалым прыкладам якога з'яўляецца чатырохтомны «Русский семантический словарь. Толковый словарь, систематизированный по классам слов и значений» пад агульнай рэдакцыяй Н.Ю. Шведавай, апублікаваны ў 1998–2007 гг.;

4) **інтэгральныя слоўнікі**, тып якіх яшчэ толькі распрацоўваецца ў металексікаграфічнай літаратуры Украіны [1];

5) **тлумачальна-гістарычныя слоўнікі**, у якіх атрымлівае сваю семантызацыю агульнаўжывальная лексіка дакладна вызначанага перыяду развіцця ўсходнеславянскіх моў. У прыватнасці, да ліку тлумачальна-гістарычных слоўнікаў можна аднесці наступныя даведачныя працы: аднатомны «Словарь белорусскаго наречія» І.І. Насовіча, упершыню выдадзены ў 1870 г.; шасцітомны «Словник української мови» Б.Д. Грынчанкі, упершыню апублікаваны ў 1907–1909 гг.; пяцітомны «Слоўнік мовы «Нашай Нівы» (1906–1915)», з якога пакуль што надрукаваны ў 2003–2007 гг. толькі першыя два тамы;

6) **тлумачальна-граматычныя слоўнікі**, у якіх раскрываецца лексічная і граматычная семантыка слоў службовых часцін мовы (яскравым прыкладам даведачных прац гэтага тыпу можа служыць аднатомны «Тлумачальны слоўнік беларускіх прыназоўнікаў» П.П. Шубы, апублікаваны ў 1993 г.);

7) **тлумачальныя слоўнікі актыўнага тыпу** не толькі семантызуюць агульнаўжывальную лексіку літаратурнай мовы, але і змяшчаюць неабходныя лексічныя, граматычныя і стылёвыя звесткі аб рэестравых словах, неабходныя чытачу для актыўнага выкарыстання гэтых слоў у маўленні. Да ліку тлумачальных слоўнікаў гэтага тыпу можна аднесці наступныя даведачныя працы: аднатомны «Толковый словарь русского языка: Ок. 7000 словарных статей: Свыше 35000 значений: Более 70000 иллюстративных примеров» пад рэдакцыяй Д.В. Дзмітрыева, які выйшаў з друку ў 2003 г.; аднатомны «Проспект активного словаря русского языка» пад рэдакцыяй Ю.Д. Апрэсяна, надрукаваны ў 2010 г., і іншыя даведачныя працы гэтага тыпу.

Такім чынам, выкарыстанне розных спосабаў класіфікацыі тлумачальных слоўнікаў усходнеславянскіх моў (у межах больш шырокага і больш вузкага разумення тлумачальнай лексікаграфіі) дае магчымасць усебакова ахарактыразаваць увесь тыпалагічны спектр разнастайных тлумачальных слоўнікаў, створаных лексікографамі краін Усходняй Славіі.

***Літаратура***

1. Широков, В.А. Лінгвістичні та технологічні основи інтегральної слов'янської лексикографії / В.А. Широков // Мовознавство. – 2008. – № 2–3. – С. 124–135.

***В.Ю. Шыманская*** (Мінск, Беларусь)

**КАНТРАСТЫЎНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА МЕТАФАРЫЧНАЙ МАДЭЛІ «ПАЛІТЫКА І ВАЙНА → УНУТРАНЫ СВЕТ ЧАЛАВЕКА» Ў БЕЛАРУСКАЙ І АНГЛІЙСКАЙ МОВАХ**

Метафары, якія рэпрэзентуюць унутраны свет чалавека, з'яўляюцца кагнітыўнай і семантычнай універсаліяй і існуюць ва ўсіх мовах. Любая метафара мае дачыненне да чалавека, і не толькі таму, што ён – творца метафары, але і таму, што адпраўной кропкай любога супастаўлення з'яўляецца менавіта чалавек, яго індывідуальны і сацыяльна-культурны вопыт.

У аснове метафарычных мадэляў ляжыць залежнасць паміж пэўнымі класамі зыходных і выніковых значэнняў. Першасныя лексіка-семантычныя варыянты полісемантаў розных семантычных сфер становяцца крыніцай матывацыі, а разнастайныя з'явы ўнутранага свету чалавека – яе мэтай. Кожная група і падгрупа ў межах той ці іншай сферы можа разглядацца як асобны тып і падтып метафарычнага пераносу.

Метафарычная мадэль, як правіла, азначаецца як «схема сувязі паміж паняційнымі сферамі, якая існуе ці складваецца ў свядомасці носьбітаў мовы і якую магчыма выразіць формулай X гэта Y» [5, с. 64]. Метафарычнай мадэллю таксама можа называцца адзіная паняційная сфера крыніцы матывацыі, асабліва калі сфера абазначаемага акрэсліваецца ў ходзе аналізу. Так, гаворачы пра метафарычныя мадэлі палітычнай рэальнасці, А. Баранаў вылучае метафарычную мадэль «Вайна», дзе сферай абазначэння выступае палітыка [1].

Антрапаморфны характар метафар унутранага свету чалавека з'яўляецца прычынай рэгулярнасці метафарычных пераносаў мадэлі «Чалавек». У семантычную сферу «Чалавек» уключаюцца лексіка-семантычныя групы «сінестэзія», «фізіялагічныя працэсы і станы», «духоўная сфера» і «палітыка і вайна».

Разгледзім асноўныя метафарычныя пераносы ў межах мадэлі «палітыка і вайна → унутраны свет чалавека» на аснове ўзуальна зафіксаваных значэнняў полісемантаў у беларускай і англійскай мовах (на матэрыяле тлумачальных слоўнікаў [3–4; 6]).

Полісеманты «ваенна-палітычнай» сферы *тыранія, tyranny* метафарычна пераасэнсоўваюцца для намінацыі дэспатызму, жорсткасці: ***тыранія*** *ў сямейным жыцці, the teacher's* ***tyranny*** *'тыранія настаўніка'*. Полісеманты *палон, рабства* актуалізуюць метафарычнае значэнне 'стан залежнасці, падпарадкаванасці каму-, чаму-н.; знаходжанне ў гэтым стане', эквівалентныя полісеманты *slavery, servitude 'рабства'* ўжываюцца са значэннем 'празмерная залежнасць або захапленне чым-н.': *душа мая зноў у* ***палоне*** *дасціпнай гаворкі яго, духоўнае* ***рабства***, ***slavery*** *to tradition 'рабства перад традыцыямі',* ***servitude*** *to drink 'алкагольнае рабства'*. Эквівалентныя метафары *прыгнечанасць, oppression* характарызуюць цяжкі, змрочны стан, занепакоенасць: *яго* ***прыгнечанасць*** *патроху мінալася, a sense of* ***oppression*** *'пачуццё прыгнечанасці'*.

Полісеманты «ваеннай» мадэлі часцей за ўсё называюць і характарызуюць асобныя інтэракцыі паміж людзьмі, дынаміку зносін, спрэчак, паводзін, вынік псіхалагічнага

ўздзеяння на чалавека. Ідэі, погляды могуць метафарычна ўяўляцца самастойнымі сутнасцямі, персаніфікавацца як суб'екты метафарычнага дзеяння: ***барацьба*** *поглядаў, my thoughts went into* ***battle*** *with each other 'мае думкі ўступілі ў змаганне'*. Метафары *барацьба, battle 'бітва', war 'вайна', wrestle 'барацьба'* абазначаюць стан варожасці, барацьбы з кім- ці чым-небудзь наогул, сутычку супрацьлеглых пачуццяў, унутраных імкненняў: *у глыбіні пачуццяў ішла нейкая нявызначаная* ***барацьба****, she was at* ***war*** *with her parents 'паміж ёй і бацькамі была вайна', the* ***war*** *against one's own affections 'вайна супраць уласных захапленняў', the* ***wrestle*** *with new temptations 'барацьба супраць новых спакус'*.

Полісеманты з першасным значэннем 'напад' у беларускай мове абазначаюць актыўныя, часам агрэсіўныя дзеянні, накіраваныя на дасягненне мэт: *спытацца, пераходзячы ў* ***наступ****, псіхічная* ***атака****.* Другой семай у структуры такіх метафар у беларускай мове, а таксама адзіным значэннем эквівалентных метафар у англійскай мове з'яўляецца 'абвінавачванне', 'крытыка', 'абраза': *ідэалагічны* ***напад****, a stringing* ***attack*** *on the Prime Minister 'паслядоўныя атакі на прэм'ер-міністра',* ***assaults*** *of opposition 'напады апазіцыі'*. Метафары *падкоп* і *undermining 'падкоп'* абазначаюць інтрыгі з мэтай пашкодзіць каму-небудзь: ***падкоп*** *пад старшыню, we can't bear the plotting and* ***undermining*** *'нас абураюць інтрыгі і падкопы'.* Метафары *манеўр, тактыка, прыцэл, tactics 'тактыка'* характарызуюць намеры і паводзіны чалавека, часам хітрыкі, накіраваныя на дасягненне мэт: *зразумець нескладаны* ***манеўр*** *юнака, жонка адразу змяніла* ***тактыку****, хлопцы маюць пэўны* ***прыцэл,*** *to employ questionable* ***tactics*** *'ужываць сумніўную тактыку'*.

Семантыка метафары *sally 'вылазка, напад'* не супадае з семантыкай адпаведнай паводле першаснага значэння беларускай метафарай. У англійскай мове гэты полісемант мае больш шырокае значэнне і ўжываецца як для абазначэння крытычнай заўвагі, пікіравання ў спрэчцы, так і ў значэнні 'раптоўнае бурнае праяўленне пачуццяў': *a witty* ***sally*** *'дасцін', he exploded a* ***sally*** *of emotions 'ён успыхнуў феерверкам эмоцый'*. Нечаканае бурнае праяўленне энтузіязму ці агрэсіі характарызуе і метафара *salvo 'залп'*: *a* ***salvo*** *of accusations 'залп абвінавачванняў'*.

Метафары з першасным значэннем 'стрэл', 'перастрэлка' маюць падобнае «семантычнае жыццё» [2, с. 28] у беларускай і англійскай мовах: яны, як правіла, ужываюцца для характарыстыкі адносін і выказванняў у спрэчцы, канфлікце. Так, метафары *перапалка, skirmish, sniping 'перастрэлка'* абазначаюць спрэчку, звычайна непрацяглую і эмацыянальную: *сямейная* ***перапалка,*** *some* ***sniping*** *about inept leadership 'невялікая перапалка наконт лідэрства', a* ***skirmish*** *between two party leaders 'перапалка паміж двума партыйнымі лідарамі'*.

Слоўная перапалка, пікіраванне ў спрэчцы можа абазначацца метафарамі *fencing 'фехтаванне'*: *a piece of diplomatic* ***fencing*** *'дыпламатычная тактыка'*. У англійскай мове існуе некалькі метафар, якія абазначаюць паток абвінавачванняў, пытанняў, слоў і пад.: *a* ***barrage*** *of questions 'агнявы вал пытанняў', to explode* ***barrages*** *of witticisms*

*‘выбухнуць залпам досціпаў’, a fine* ***volley*** *of words ‘залп слоў’.* метафара *potshot ‘стрэл па блізкай ці нерухомай мішэні’* абазначае беспадстаўную крытыку, прыдзіркі: *to take* ***potshots*** *at someone’s ideas ‘прыдзірацца да чыіх-н. меркаванняў’*.

Такім чынам, аб’яднаныя аднолькавай зыходнай сферай матывацыі (па семантычных і тэматычных прыметах), а таксама падабенствам у выніках метафарызацыі, метафары ўнутранага свету чалавека ўтвараюць складаную ўпарадкаваную сістэму, якая дае падставы для выяўлення заканамернасцей і асаблівасцей другаснай намінацыі феноменаў псіхалагічнай сферы.

Супастаўленне метафарычнай мадэлі «палітыка і вайна → унутраны свет чалавека» ў беларускай і англійскай мовах дазваляе выявіць такія ўніверсальныя пераносы, як: «палітыка, ваенныя дзеянні → міжасабовыя зносіны», «атакуючыя дзеянні → актыўная пазіцыя ў канфлікце», «асобнае ваеннае дзеянне → выказванне, учынак». Пры агульным падабенстве ў характары пераносаў неабходна ў той жа час улічваць спецыфіку мовы і семантычны аб’ём метафар, што дазволіць павысіць як якасць перакладу ў прыватнасці, так і міжкультурнай камунікацыі ўвогуле.

***Літаратура***


1. Баранов, А.Н. Русская политическая метафора. Материалы к словарю / А.Н. Баранов, Ю.Н. Караулов. – М.: Институт русского языка АН СССР, 1991. – 193 с.

2. Старычонак, В.Д. Метафара ў беларускай мове: на матэрыяле субстантываў / В.Д. Старычонак. – Мінск: БДПУ, 2007. – 190 с.

3. Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы / пад рэд. М.Р. Судніка, М.Н. Крыўко. – 3-е выд. – Мінск: БелЭн, 2002. – 784 с.

4. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы: у 5 т. / АН БССР, Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа; пад агул. рэд. К.К. Атраховіча. – Мінск: БелСЭ, 1977–1984. – 5 т.

5. Чудинов, А.П. Регулярная многозначность в глагольной лексике: пособие к спецкурсу / А.П Чудинов. – Свердловск, 1986. – 80 с.

6. Oxford Dictionary of English / edited by Soanes C., Stevenson A. – 2nd edition. – Oxford: Oxford University Press, 2003. – 2088 p.



***Г.В. Юдзянкова*** (Мазыр, Беларусь)


## ПРЭЦЭДЭНТНЫ АНТРАПОНІМ ЯК АГЕНТ ПАРАЎНАННЯ

Прэцэдэнтныя антрапонімы (ПА) з’яўляюцца адным са сродкаў інтэртэкстуальнасці ў мастацкім творы. Такія адзінкі валодаюць багатым лексічным фонам і праз пазатэкставыя магчымасці адлюстроўваюць вядомыя носьбітам мовы экстралінгвістычныя характарыстыкі, актывізуючы перыферыйны кампанент семантыкі.

Адным з выпадкаў канатацыйнага функцыянавання ПА ў мастацкім тэксце з’яўляецца выкарыстанне такіх адзінак у складзе індывідуальна-аўтарскіх параўнанняў. У структуры гэтага тропа даследчыкі вылучаюць 3 кампаненты: 1) рэферэнт (тое, што параўноўваецца); 2) агент (тое, з чым параўноўваецца); модуль (падстава для параўнання) [1, с. 188]. З улікам замацаваных у межах пэўнай лінгвакультуры асацыяцый, ПА даволі часта займаюць пазіцыю агента параўнання і выступаюць у якасці своеасаблівага эталону, ацэначнага стэрэатыпу.

Паводле нашых назіранняў, у беларускіх мастацкіх тэкстах XIX стагоддзя найбольш прадуктыўнымі з'яўляюцца ПА са сферамі-крыніцамі «Міфалогія» і» Літаратура», «Гісторыя», «Біблія», якія ўваходзяць у склад параўнання са злучнікамі-маркёрамі *як, нібы, кшталтам.* Намі вылучаны наступныя інтэгральныя прыметы рэферэнта і агента (у нашым выпадку ПА) параўнання:

1) падабенства сітуацый: *Але, як прывід адступіць, бывала, / Роспаччу сэрца тады развярушу, / Моцна пакутую, **кшталтам Тантала**, / І ненавідзець свет мушу* [2, с. 100] – пакуты *Тантала* Ф. Багушэвіч параўноўвае з асабістымі пакутамі ў сувязі з супярэчлівым станам сваёй Радзімы, свайго народа ў 2-й палове XIX стагоддзя; *А не, дык, дадушы, ў газеце / Я вас аблаю на ўвесь свет, / **Як Гогаля у прошлым леце**, – / Я ж сам рэдактар ўсіх газет!* [3, с. 16–17] – праз такую рэпрэзентацыю антрапоніма *Гогаль* актуалізуецца прэцэдэнтная сітуацыя, у цэнтры якой знаходзіцца крытычная дзейнасць Ф. Булгарына ў адносінах да творчасці М. Гогаля і своеасаблівае папярэджанне для іншых творцаў; *І, **як Плутон на троне**, больш за іншых варты, / З паважнай мінаю шліфуе Фелікс карты. / Ён пан тут самаўладны на зялёным полі…* [4, с. 100] – асновай для параўнання з'явілася падабенства сітуацыі ўладарства *Плутона* (у царстве памерлых) і *Фелікса* (у гульнёвым доме); *Глядзяць жа ўсе на статую Венеры, / Аднак назваў бы я няйнакш, як шалам, / Каб, **як Пігмаліён**, палаць пачуццем стальым / Да статуі* [5, с. 233] – рэпрэзентацыя міфонімаў *Венера* і *Пігмаліён* адрасуе чытача да вядомага старажытнагрэчаскага міфа; *Я дзёрся праз кусты, разносіліся ўдары, / Яшчэ нябожчыка ўсё Грышка кіем жарыў, / Чыніў з ахвяры здзек, аж анямеў быў лес, / **Як з трупа Гектара калісьці Ахілес*** [6, с. 61] – падставай для параўнання з'явілася падабенства сітуацый, у якіх апынуліся *Ахілес* з «Іліяды» Гамера і ляснік *Грышка* з паэмы Янкі Лучыны «Паляўнічыя акварэлькі з Палесся» – трыумф над пераможаным ворагам; *А што ж то ураднік за велькі індык? / Як ён каго трэсне, дык гэта нічога, / Яго ж не даткні, так **як Юр'я святога*** [2, с. 66] – такое параўнанне мае на мэце стварыць яскравы вобраз недатыкальнага ўрадніка праз супастаўленне яго са *святым Юрыем*. Прычым у дадзеным выпадку ПА носіць абагульняльны характар, паколькі на першы план выходзіць такі яго атрыбут, як недатыкальнасць;

2) прэцэдэнтнае выказванне: *Ён* [Сабковіч – Г.Ю.] *так, **як цэзар Ціт**, лічыў дарма пражытым, / Той дзень, што не ўпрыгожан кушам знакамітым* [5, с. 391] (параўн.: аднойчы за абедам, калі рымскі імператар *Ціт Флавій Веспасіян* успомніў, што за дзень нікому не зрабіў нічога добрага, і сказаў: «Сябры мае! Я загубіў дзень!»);

3) якасці: [Эдмунд]: *О, любая, калі ты маеш з неба / Дар паэтычнага прамоўцы, / І калі ты ў сваёй галоўцы, / **Як промні ззяючага Феба,** / Намеры, думкі творчыя займела, / Няхай рука твая іх піша смела* [5, с. 226] – падставай для параўнання з'явіліся паэтычныя здольнасці, уласцівыя старажытнарымскаму богу сонца, святла, мастацтва, мудрасці *Фебу* і маладой творцы *Аліне Паэтніцкай.*

4) атрыбут у спалучэнні з падабенствам сітуацый: *З лучынай яснаю на чоўне калыўным, / **Нібы Нептун з трызубам, з восценем даўгім** / Плыве адважны сын*

*Палесся* [6, с. 70]; ***Нібыта Нептун**, які воднай дарогай / Пусціўся, спрытна між хваляў / Трызубцам ахвяру сваю падцінае, / Гайдае марскія прасторы, / Так наш Верашчака у чоўне шнырае / Па Свіцязі светлай без зморы* [6, с. 105] – прыклады ілюструюць актуалізацыю неад’емнага атрыбута бога мораў *Нептуна* (трызубца) у спалучэнні з падабенствам сітуацый (як і Нептун, Грышка і Верашчака адчуваюць сябе гаспадарамі вадзяной стыхіі ў начной імгле).

У аспекце вывучэння лінгвістычнай прыроды прэцэдэнтнага антрапоніма мы ўлічваем тое, што кантэкст не толькі дазваляе выбраць адно з інварыянтных значэнняў такога імені, але і выявіць наяўнасць семантычных прырашчэнняў да яго. Прааналізаваныя параўнальныя канструкцыі, дзе ПА выступае ў якасці агента параўнання, з’яўляюцца адным са сродкаў рэалізацыі яго багатага трапеічнага патэнцыялу.

***Літаратура***


1. Шумчык, В.Ф. Лінгвістычная сутнасць параўнання як сродку мастацкай выразнасці / В.Ф. Шумчык // Нацыянальная мова і нацыянальная культура: аспекты ўзаемадзеяння: зб. навук. арт. / Беларус. дзярж. пед. ун-т; рэдкал.: Д.В. Дзятко (адк. рэд.) [і інш.]. – Мінск, 2009. – С. 187–190.
2. Багушэвіч, Ф. Творы: вершы, паэмы, апавяданні, артыкулы, лісты / Ф. Багушэвіч. – Мінск: Маст. літ., 1991. – 309 с.
3. Тарас на Парнасе // Беларуская літаратура XIX стагоддзя. Хрэстаматыя / склад. А.А. Лойка [і інш.]. – Мінск: Вышэйш. шк., 1988. – 487 с.
4. Дунін-Марцінкевіч, В. Збор твораў: у 2 т. / В. Дунін-Марцінкевіч. – Мінск: Маст. літ., 2008. – Т. 2. Вершаваныя аповесці і апавяданні, вершы, публіцыстыка, лісты і пасланні, пераклады, Dubia. – 598 с.
5. Дунін-Марцінкевіч, В. Збор твораў: у 2 т. / В. Дунін-Марцінкевіч. – Мінск: Маст. літ., 2007. – Т. 1. Драматычныя творы, вершаваныя аповесці і апавяданні. – 494 с.
6. Лучына, Янка. Творы: Вершы, нарысы, пераклады, лісты / Янка Лучына. – Мінск: Маст. літ., 1988. – 214 с.

# ЗМЕСТ

Навуковае выданне

# НАЦЫЯНАЛЬНАЯ МОВА І НАЦЫЯНАЛЬНАЯ КУЛЬТУРА: аспекты ўзаемадзеяння

*Зборнік навуковых артыкулаў*

*Адказны за выпуск* В.Я. Навагродскі
*Карэктары* В.П. Андрыевіч, Н.І. Смоліч
*Тэхнічнае рэдагаванне і камп'ютарная вёрстка* І.І. Драздовай
*Дызайн вокладкі* І.І. Зірукіна

Падпісана ў друк 10.11.11. Фармат 60x84 1/16. Папера афсетная. Гарнітура *Арыял*.
Друк Riso. Ум. друк. арк. 20,0. Ул.-выд. арк. 29,5. Тыраж 120 экз. Заказ

*Выдавец і паліграфічнае выкананне:*
*Установа адукацыі* «Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка».
ЛИ № 02330/0494368 ад 16.03.09.
ЛП № 02330/0494171 ад 03.04.09.
220050, Мінск, Савецкая, 18.
http://izdat.bspu.unibel.by/